бібліятэка Свабоды

XXI стагодзьдзе

Уладзімер Арлоў

# Імёны свабоды

Тадэвуш Рэйтан • Якуб Ясінскі • Тамаш Ваўжэцкі • Тадэвуш Касьцюшка • Эмілія Плятэр • Міхал Валовіч • Міхал Клеафас Агінскі • Сымон Канарскі • Міхал Рукевіч • Валенці Ваньковіч • Францішак Савіч • Стафан Грабоўскі • Казімер Чарноўскі • Аляксандар Незабытоўскі • Ян Баршчэўскі • Тамаш Зан • Адам Міцкевіч • Рамуальд Падбярэскі • Уладзіслаў Сыракомля • Людвік Нарбут • Генрык Дмахоўскі • Міхал Цюндзявіцкі • Баляслаў Калышка • Зыгмунт Серакоўскі • Адам Пуслоўскі • Людвік Зьвяждоўскі • Кастусь Каліноўскі • Рамуальд Траўгут • Ахіла Банольдзі • Яўстах Тышкевіч • Ігнат Грынявіцкі • Напалеон Орда • Арцём Вярыга-Дарэўскі • Аляксандар Рыпінскі • Міхал Андрыёлі • Янка Лучына • Альгерд Абуховіч • Каміла Марцінкевіч • Францішак Багушэвіч • Флярыян Даноўскі • Цэлястын Цэханоўскі • Іван Пуліхаў • Марыя Ямант • Сяргей Палуян • Цётка • Максім Багдановіч • Ігнат Буйніцкі • Апалёнія Серакоўская • Іван Луцкевіч • Фабіян Шантыр • Ігнат Канчэўскі • Зыгмунт Мінейка • Пётра Крачэўскі • Эдвард Вайніловіч • Мікалай Судзілоўскі • Усевалад Ігнатоўскі • Мэльхісэдэк • Кіпрыян Кандратовіч • Уладзімер Жылка • Мікалай Шамяціла • Мітрафан Доўнар-Запольскі • Юдаль Пэн • Язэп Адамовіч • Аляксандар Чарвякоў • Аляксандар Ляўданскі • Язэп Мамонька • Аляксандар Адамовіч • Уладзіслаў Галубок • Лукаш Калюга • Алесь Дудар • Міхась Зарэцкі • Мойшэ Кульбак • Валеры Маракоў • Тодар Кляшторны • Антон Баліцкі • Вацлаў Ластоўскі • Тамаш Грыб • Максім Гарэцкі • Юрка Лістапад • Аркадзь Смоліч • Уладзімер Пракулевіч • Сымон Рак-Міхайлоўскі • Палута Бадунова • Паўлюк Шукайла • Раман Скірмунт • Макар Краўцоў • Зьміцер Прышчэпаў • Язэп Лёсік • Станіслаў Булак-Балаховіч • Лявон Вітан-Дубейкаўскі • Аляксандар Уласаў • Антон Луцкевіч • Сяргей Ракіта • Янка Купала • Вінцэнт Гадлеўскі • Антоні Ляшчэвіч • Васіль Захарка • Іван Сакалоўскі • Нічыпар Мяцельскі • Вацлаў Іваноўскі • Францішак Аляхновіч • Зьмітрок Астапенка • Магдалена Радзівіл • Кастусь Езавітаў • Леся Беларуска • Алена Кіш • Адам Станкевіч • Ніна Асіненка • Расьціслаў Лапіцкі • Андрэй Цікота • Язэп Варонка • Янка Філістовіч • Мікола Равенскі • Язэп Драздовіч • Васіль Русак • Леанід Карась • Якуб Колас • Клаўдзі Дуж-Душэўскі • Павел Растаргуеў • Аляксандар Орса • Даніла Васілеўскі • Янка Журба • Пётра Сыч • Сяргей Пясецкі • Казімер Смулька • Аляксандар Ружанцоў • Ёсіф Стаброўскі • Якуб Харэўскі • Францішак Кушаль • Ванда Лявіцкая • Яўхім Кіпель • Юліяна Вітан-Дубейкаўская • Уладзімер Дудзіцкі • Мікола Дэмух • Тодар Лебяда • Анатоль Сербантовіч • Мікола Абрамчык • Лявон Баразна • Хася Прусьліна • Янка Шутовіч • Лявон Савёнак • Юрка Віцьбіч • Уладзімер Дубоўка • Янка Станкевіч • Вячаслаў Селях-Качанскі • Мікалай Лапіцкі • Леаніла Чарняўская • Цімафей Хведашчэня • Леў Гарошка • Рыгор Шырма • Янка Геніюш • Рыгор Крушына • Браніслаў Ржэўскі • Леў Акіншэвіч • Станіслаў Станкевіч • Генадзь Кулажанка • Часлаў Сіповіч • Андрэй Грабаў • Міхал Забэйда-Суміцкі • Апалёнія Савёнак • Яўген Шабан • Мікола Прашковіч • Антон Сокал-Кутылоўскі • Ларыса Геніюш • Уладзімер Караткевіч • Пётра Сергіевіч • Юрка Геніюш • Канстанцыя Буйла • Мікола Ўлашчык • Барыс Кавэрда • Аўген Калубовіч • Міхась Стральцоў • Натальля Вішнеўская • Міхал Дубянецкі • Тамара Цулукідзэ • Лідзія Вакулоўская • Зоська Верас • Пятро Бітэль • Вацлаў Пянткоўскі • Міхась Ракевіч • Вольга Церашчатава • Вячаслаў Зайцаў • Валеры Сьлюнчанка • Аляксей Карпюк • Валянцін Ждановіч • Міхась Ткачоў • Марыя Кіпель • Міхал Ляпеха • Генадзь Каханоўскі • Алесь Адамовіч • Ізраіль Басаў • Іван Ласкоў • Пятро Конюх • Уладзіслаў Рубанаў • Сяргей Новік-Пяюн • Андрэй Пяткевіч • Барыс Сачанка • Аляксей Мельнікаў • Лявон Случанін • Яўгенія Пфляўмбаўм • Барыс Родзіч • Мікола Селяшчук • Віктар Тураў • Уладзімер Салавей • Мікалай Пятрэнка • Аляксандра Саковіч • Валеры Шаблюк • Янка Сурвіла • Юры Карачун • Натальля Арсеньнева • Лявон Луцкевіч • Вячаслаў Шыдлоўскі • Міхась Раманюк • Вітаўт Тумаш • Антон Адамовіч • Аляксей Філіпчанка • Мікола Трухан • Генадзь Карпенка • Апалёнія Пяткун • Ангеліна Бароўка • Яўген Глебаў • Мікола Ермаловіч • Рыгор Клімовіч • Галіна Русак • Стэфанія Станюта • Вера Церлюкевіч • Алесь Каралёў • Дзяніс Хвастоўскі • Вячаслаў Адамчык • Валеры Масьлюк • Уладзіслаў Чарняўскі • Яўген Кулік • Ігар Германчук • Уладзімер Кармілкін • Артур Вольскі • Анатоль Канапелька • Марыя Мацюкевіч • Уладзімер Мулявін • Георгі Таразевіч • Алег Табола • Зора Кіпель • Уладзімер Емяльянчык • Васіль Быкаў • Сяргей Кавалёў • Янка Юхнавец • Алесь Усюкевіч • Аляксей Логвін • Язэп Юхо • Мікола Купрэеў • Ганна Ўланава • Алесь Асташонак • Васіль Мельяновіч • Вераніка Чаркасава • Сяргей Войчанка • Васіль Мядзелец • Кастусь Рамановіч • Карлас Шэрман • Барыс Рагуля • Анатоль Сыс • Пятро Драчоў • Яніна Каханоўская • Ібрагім Канапацкі • Алесь Лабанок • Алесь Емяльянаў • Васіль Гроднікаў • Франціш Бартуль • Павал Жук • Кастусь Мысьлівец • Юры Завадзкі • Вера Бартуль • Міхал Вітушка • Уладзімер Плешчанка • Янка Брыль • Яўген Лугін • Мікола Канаш • Мікалай Ільніцкі • Алесь Юршэвіч • Уладзімер Каткоўскі • Яўген Будзінас • Цімох Вострыкаў • Кастусь Акула • Генадзь Кісялёў • Ніна Мацяш • Валянцін Тарас • Уладзімер Шатон • Кастусь Тарасаў • Людміла Русава • Вячаслаў Дубінка • Тацяна Сапач • Тацяна Зіненка • Уладзімер Конан • Васіль Храмцоў • Віталь Сіліцкі • Казімір Сьвёнтак • Віталь Скалабан • Галіна Сямдзянава • Валер Раеўскі • Яўген Шатохін • Арына Вячорка • Віталь Гарановіч • Алесь Наўроцкі • Уладзіслаў Пятрайціс • Сяржук Вітушка • Алесь Петрашкевіч • Уладзімер Пузыня • Сяржук Цімохаў • Юры Гумянюк • Міхась Чарняўскі • Міхал Шарамет • Юрась Бушлякоў • Арлен Кашкурэвіч • Віктар Маркавец • Віктар Івашкевіч • Уладзімер Кулажанка • Міхал Жызьнеўскі • Генадзь Грушавы • Гаўрыла Вашчанка • Рыгор Барадулін • Уладзімер Дамашэвіч • Зьміцер Сідаровіч • Генадзь Бураўкін • Пётар Марцаў • Анатоль Грыцкевіч • Аляксандар Надсан • Марыя Лукашук • Васіль Лазоўскі • Алесь Чаркашын • Аляксей Кароль • Віктар Сырыца • Сяргей Ханжанкоў • Ніл Гілевіч • Зьміцер Саўка • Вітаўт Мартыненка • Аляксандар Талерчык • Алег Аблажэй • Юры Хадыка • Алесь Белакоз • Леанід Маракоў • Антон Шукелойць • Валер Панамароў • Міхась Паўлаў • Віктар Купрэйчык • Алеся Фурс • Юлія Андрусішына • Дзьмітры Бугаёў • Міхал Анемпадыстаў • Валер Шыла • Барыс Кіт • Георгі Штыхаў • Арсень Ліс • Кірыла Насаеў • Алесь Ліпай • Хведар Нюнька • Уладзіслаў Ахроменка • Юры Туронак • Васіль Сёмуха • Міхаіл Касьцюк • Яўгенія Чаплінская • Наталя Санько • Уладзімер Русак • Юры Бліноў • Пятро Васючэнка • Эрнст Бабенка • Алесь Шут • Надзея Дземідовіч • Віктар Дашкевіч • Анджэй Струміла • Юры Зісер • Уладзімер Басалыга • Юры Нагорны • Валеры Шукін • Валеры Шкаруба • Леанід Заіка • Фэлікс Шкірманкоў • Анатоль Цітоў • Яўген Анішчанка • Фёдар Крыванос • Алена Васілевіч • Алесь Разанаў • Уладзімер Ляхоўскі • Кастусь Севярынец • Чэслаў Сенюх • Антось Фурс • Юры Станкевіч • Аляксандар Коктыш • Сяргей Філімонаў • Раман Якаўлеўскі • Генадзь Кесьнер • Васіль Шаранговіч • Адам Мальдзіс • Эрнст Сабіла • Валянціна Лебедзева • Павал Жук • Альбіна Сямёнава • Аляксандар Тамковіч • Яўген Бяласін • Мікола Гіль • Уладзімер Крукоўскі • Серафім Андраюк • Лявон Шыманец • Анатоль Вярцінскі • Станіслаў Шушкевіч • Янка Запруднік • Лукаш Сьцепанюк • Серж Мінскевіч • Аляўціна Вячорка • Алена Міхалюк • Міхась Тычына • Вітаўт Кіпель • Аўгіньня Дзянісава •

Радыё Свабода

Рэцэнзэнты:

*Уладзімер Ляхоўскі,*
*кандыдат гістарычных навук*

*Захар Шыбека,*
*доктар гістарычных навук, прафэсар*

**Уладзімер Арлоў. ІМЁНЫ СВАБОДЫ.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — 5-е выд., дап. — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2023. — 906 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Вольга Навумовіч*
Карэктар *Валянціна Бяляева*


FOL
ISBN 978-1-948784-01-6

## Зьмест

**II**

**Дзеля Беларусі**
**1918–1991**

## Энцыкляпэдыя любові

Гэта не дапаможнік у перайменаваньні беларускіх вуліцаў, плошчаў і гарадоў, хоць, безумоўна, гэтыя імёны заменяць на шыльдах прозьвішчы камуністычных вампіраў і імпэрскіх пярэваратняў.

Гэта не храналягічны даведнік, хоць на «Свабодзе» ўпершыню разам паўсталі сотні постацяў з аўтарскага пантэону XVIII—XXI стагодзьдзяў (далёка ня ўсіх удалося зьмясьціць пад адной вокладкай).

Гэта не манаграфія, хоць тут уводзіцца новая пэрыядызацыя нацыянальна-вызвольнага руху, распрацаваныя крытэры, зробленая клясыфікацыя.

Гэта не дакумэнтальна-архіўнае дасьледаваньне, хоць даты, месцы і падзеі выверaныя, а многія факты знойдзеныя й апублікаваныя ўпершыню.

Гэта не мастацкая проза і не гістарычная эсэістыка, хоць кожны разьдзел чытаецца як маланка і ўражвае як раман.

Гэта ня кніга мёртвых, хоць яе складаюць лёсы людзей, якіх ужо няма сярод жывых.

Гэта аўтарская энцыкляпэдыя любові да радзімы, волі й незалежнасьці.

Гэта вянок нашай свабоды.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

У лёсавызначальныя для дзяржавы моманты заўсёды знаходзяцца асобы, якія не скараюцца й у самых безнадзейных абставінах. Няхай іх змаганьне ня мае шанцаў на посьпех. Але яно заўсёды мае шанец стаць прыкладам — дзеля працягу.

Галоўныя рысы характару Тадэвуша — гарачы патрыятызм і надзвычай высокае пачуцьцё ліцьвінскага гонару — напоўніцу выявіліся яшчэ ў раньнім юнацтве ў Віленскім калегіюме езуітаў. Калі шкаляры, падзяліўшыся на «ліцьвінаў» ды «маскалёў», гулялі ў вайну і Рэйтану выпадала быць «ліцьвінам», ён заўсёды апынаўся ў ліку пераможцаў.

## Тадэвуш Рэйтан



Праз колькі гадоў ён убачыць у доме сваёй нарачонай партрэт расейскага імпэратара Пятра І і адразу абвесьціць пра намер адмовіцца ад шлюбу.

Тым часам дзяржаўны лёс Радзімы нашых продкаў аказаўся пад пагрозаю. Патрыятычныя сілы стварылі ў 1768-м узброенае аб’яднаньне, вядомае як Барская канфэдэрацыя. Цягам чатырох гадоў Рэйтан ваяваў у шэрагах тых, хто імкнуўся пазбавіць Вялікае Княства Літоўскае ад ганебнага расейскага пратэктарату.

1772 год стаўся для дзяржавы чорным. Расея, Аўстрыя і Прусія ўчынілі першы падзел Рэчы Паспалітай. Усходнія беларускія землі апынуліся ў кіпцюрах дзьвюхгаловага арла. Пад ціскам Расеі вялікі

князь і кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі даў згоду сабраць Сойм, каб узаконіць падзел.

Дэпутат (пасол) ад Наваградзкага павету Рэйтан атрымаў інструкцыю: патрабаваць безумоўнай эвакуацыі расейскіх войскаў з абшару Вялікага Княства. На Сойме, які распачаўся ўвесну 1773-га, Тадэвуша падтрымліваюць адзінкі. За згоду пакінуць залю яму прапаноўваюць дзьве тысячы дукатаў. У адказ Тадэвуш выхоплівае шаблю. Асабліва драматычны характар падзеі набываюць у часе патрыятычнай прамовы другога наваградзкага пасла Самуэля Корсака. Калі дэпутаты-здраднікі пачалі выходзіць з залі, Рэйтан лёг крыжам перад дзьвярыма і закрычаў: «Забіце мяне, але не забівайце Айчыны!»

Расейскі пасланьнік выставіў Панятоўскаму ўльтыматум: падпарадкаваньне ці ўвядзеньне ў Варшаву 50-тысячнага войска. Пасьля здрады караля залю пакінулі апошнія абаронцы незалежнасьці, апрача Рэйтана, Корсака і менскага дэпутата Станіслава Багушэвіча. (Сярод польскіх дэпутатаў ніводнага адважнага не адшукалася.) Тадэвуш адмовіўся ад ежы, або, сучаснай моваю, абвясьціў галадоўку.

Неверагоднае напружаньне не мінулася бясьсьледна. Рэйтан апынуўся ва ўладзе цяжкай хваробы. Рэшту жыцьця ён мусіў бавіць у роднай Грушаўцы.

Сучасьнікі лічылі Рэйтана нацыянальным героем.

Вяртаньне яго постаці ў нашую гістарычную сьвядомасьць адбылося толькі ў 1990-я. Шмат робіць для гэтага сёньня Арт-суполка імя Рэйтана і яе кіраўнік, мастак Зьміцер Юркевіч. Штогод у Грушаўцы ладзіцца фэст памяці героя. Людзей з палаты прадстаўнікоў ці з савету рэспублікі там ніколі не заўважалі.

**Тадэвуш Рэйтан**
28(?).10.1740, маёнтак Грушаўка, цяпер в. Грушаўка, Ляхавіцкі раён — 8.8.1780, в. Грушаўка.
Магіла ня знойдзеная.

## Якуб Ясінскі

Ягонае імя застаецца ў ценю Касьцюшкі, між тым менавіта Якуб Ясінскі кіраваў вызвольным паўстаньнем 1794 году на абшарах дзяржавы нашых прадзедаў — Вялікага Княства Літоўскага.

У ноч на 23 красавіка патрыёты авалодалі Вільняй, дзе ўладу ўзяў у свае рукі Часовы ўрад — Найвышэйшая Літоўская Рада. Яна прызначыла Ясінскага камэндантам арміі Вялікага Княства Літоўскага, іначай кажучы, паставіла яго на чале збройных сілаў паўстанцаў.

Трыццацітрохгадовы афіцэр належаў да гэтак званых «віленскіх якабінцаў» — прыхільнікаў ідэяў Француское рэвалюцыі, што выступалі з патрабаваньнямі рэспублікі, роўнасьці станаў і адмены прыгону. Маючы паэтычныя здольнасьці, ён быў аўтарам патрыятычных твораў, у тым ліку напісаных па-беларуску вершаваных праклямацыяў. У ягоных аддзелах сьпявалі «Песьню беларускіх жаўнераў»:

*Нашто землю нам забралі?*
*Пашто ў путы закавалі?*
*Дакуль будзем так маўчаці?*
*Годзе нам сядзець у хаце!*
*Возьмем косы ды янчаркі,*
*Пойдзем гордыя гнуць каркі!*
*Пойдзем жыва да Касьцюшкі,*
*Рубаць будзем маскалюшкі!*
*Няхай маскаль уступае,*
*Няхай беларусаў знае!*

Інсургенты, якіх у Вялікім Княстве налічвалася сорак тысяч, узялі Берасьце, Горадню, Наваградак, Слонім, Пінск, Ліду, Браслаў... У траўні 1794-га Ясінскі з дывізіяй, у якой большую частку складалі сяляне, разграміў расейцаў каля Палянаў, паблізу Ашмян. За гэтую перамогу ён атрымаў ранг генэрал-лейтэнанта.




Але ў паўстанцкім кіраўніцтве не было адзінства. Напалоханы радыкалізмам Ясінскага, Касьцюшка адхіліў яго ад камандаваньня. Літоўская Рада была абвінавачаная ў сэпаратызьме й распушчаная. Між тым у Беларусі зьявіліся карныя войскі на чале з Суворавым...

Паўстаньне згасала. 4 лістапада Сувораў штурмам захапіў варшаўскае прадмесьце Прагу (правабярэжжа Віслы), дзе яго салдаты зь нечалавечай лютасьцю зьнішчылі ўсіх абаронцаў і жыхароў — блізу дваццаці пяці тысяч.

Расейцы не шкадавалі нікога. У мацярок адбіралі ад грудзей немаўлятаў, каб ня вырасьлі й не адпомсьцілі. Манашак, што засталіся ў кляштарах, згвалцілі й зарэзалі... Побач зь людзкімі целамі на вуліцах і пляцах грувасьціліся трупы коней, сабак і катоў, бо разьюшаныя крывёю расейскія салдаты не выпускалі жывымі нават жывёлаў.

Таго дня сустрэў сьмерць у баі й Якуб Ясінскі.

Ці чулі вы што-небудзь пра ўшанаваньне ў Беларусі ягонай памяці? Ці ёсьць дзе-небудзь вуліца ягонага імя? Затое вуліц Суворава — дзясяткі.

**Якуб Ясінскі**
24.7.1761, фальварак Вэнглеў, цяпер Вжэсіньскі павет, Вялікапольскае ваяводзтва, Польшча —
4.11.1794, Варшава, Польшча.
Пахаваны на варшаўскіх Камёнкаўскіх могілках.
Сымбалічная магіла.

Ня ведаю, ці падлічаная колькасьць выступаў у Вярхоўным Савеце Беларусі дэпутата Зянона Пазьняка, але дакладна вядома, што за два стагодзьдзі да яго пасол ад шляхты Браслаўскага павету Вялікага Княства Літоўскага Тамаш Ваўжэцкі браў слова на гістарычным для Рэчы Паспалітай Чатырохгадовым сойме 1788—1792 гадоў роўна 169 разоў.

Параўнаньне не выглядае некарэктным, бо і тады, і на пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагодзьдзя вырашаўся лёс Бацькаўшчыны.

Палымяныя прамовы Ваўжэцкага прысьвячаліся рэформам, што павінны былі пазбавіць дзяржаву залежнасьці ад Расеі. Дэпутатаў, каго прыемна, а каго — наадварот, уразіла тое, што, ставячы на абмеркаваньне прапанову палепшыць стан сялянаў, браслаўскі пасол у сваім маёнтку ўжо некалькі гадоў таму скасаваў паншчыну і даў прыгонным волю.

## Тамаш Ваўжэцкі



Бліскучы прамоўца і тонкі знаўца права, Тамаш Ваўжэцкі спрычыніўся да прыняцьця Канстытуцыі 3 траўня 1791 году — другой у сьвеце (пасьля Канстытуцыі ЗША) і першай у Эўропе.

Канстытуцыя выводзіла дзяржаву нашых продкаў на шлях прагрэсіўнага разьвіцьця. Абвяшчаліся свабода друку і сумленьня, галоснасьць і незалежнасьць суду, рэлігійная талеранцыя й стварэньне ўраду, які павінен служыць не аднаму стану, а ўсяму грамадзтву.

Але час быў страчаны.

Далейшы лёс дзяржавы ўжо трымалі ў сваіх ру-

ках замежныя манархі-суседзі. У Расеі канстытуцыяй і ня пахла. Імпэратрыца Кацярына II лічыла, што «конституция обошлась бы стране еще дороже самодержавия».

У 1792-м статысячная расейская армія перайшла мяжу Рэчы Паспалітай. Вынікам інтэрвэнцыі стаўся новы, другі падзел дзяржавы.

Продкі адказалі паўстаньнем, якое ўзначаліў ліцьвін Тадэвуш Касьцюшка.

Пасьля перамогі патрыётаў у Вільні Ваўжэцкі стаў сябрам паўстанцкага ўраду — Найвышэйшай Літоўскай Рады.

Атрымаўшы званьне генэрал-лейтэнанта, ён кіраваў аддзеламі інсургентаў у Жамойці і Курляндыі, дзе вызначыўся ў штурме Лібавы, а затым пад ціскам шматкроць большых царскіх войскаў вывеў падначаленых у ваколіцы Горадні. Выдатна праявіў сябе генэрал і ў баталіі пад Берасьцем.

Калі Касьцюшка трапіў у палон, Ваўжэцкага абралі «найвышэйшым начальнікам» — правадыром паўстаньня ўва ўсёй Рэчы Паспалітай.

Па капітуляцыі Варшавы Тамаш ператварыўся ў вязьня Петрапаўлаўскай фартэцы й аўтара ўспамінаў. Паводле запавету яго пахавалі на радзіме. У 1990-я гады аднымі зь першых знайшлі сьцежку да апошняга прыстанку Ваўжэцкага сябры полацкага гістарычнага клюбу «Вытокі».

Будзеце ў Відзах, наведайце магілу героя, што бараніў незалежнасьць Айчыны як з парлямэнцкай трыбуны, так і з зброяю ў руках.

**Тамаш Ваўжэцкі**
7.3.1753, маёнтак Мэйшты, цяпер Ігналінскі раён, Літва —
5.8.1816, Варшава, Польшча.
Пахаваны ў мяст. Відзы, Браслаўскі раён.

Мы звыклі ўспрымаць яго забранзавелым і кананізаваным. А мне Касьцюшка падабаецца як рамантычны каханак і авантурнік. Каб ня гэтыя якасьці, хто ведае, ці стаў бы ён нацыянальным героем Беларусі, Польшчы й ЗША, а таксама ганаровым грамадзянінам Францыі.

Яе звалі Людвіка Сасноўская. Ейны бацька ня даў згоды на шлюб зь сьціплым хатнім настаўнікам, і маладыя закаханыя рыхтаваліся да ўцёкаў. Чамусьці такія пляны заўсёды раскрываюцца занадта рана... Так Тадэвуш з 80 дукатамі ў кішэні апынуўся на шляху зь Беларусі ў Францыю, а затым у Новы Сьвет.

# Тадэвуш Касьцюшка

У 1777 годзе змагары за незалежнасьць паўночнаамэрыканскіх калёніяў атрымалі над ангельцамі бліскучую перамогу пад Саратогай, у выніку чаго было дасягнутае афіцыйнае прызнаньне Злучаных Штатаў Амэрыкі.

Ваенныя гісторыкі ЗША сьцьвярджаюць, што зарукаю гэтага трыюмфу сталіся якраз непрыступныя фартыфікацыі, збудаваныя інжынэрам-палкоўнікам Касьцюшкам...

Яго заслугі ў барацьбе за свабоду Злучаных Штатаў былі ацэненыя надзвычай высока: званьне генэрала, найвышэйшая баявая ўзнагарода краіны — Ордэн Цынцыната, амэрыканскае грамадзянства, пажыцьцёвая пэнсія й зямельны надзел. (Пазьней, у тэстамэнце, ён перадасьць усю маёмасьць свайму добраму сябру, аўтару Дэклярацыі незалежнасьці ЗША Томасу Джэфэрсану, даручыўшы выкарыстаць грошы на выкуп рабоў-мурынаў і адукацыю цемнаскурых дзяцей.)

Уразіўшы нядаўніх баявых таварышаў, поплеч зь якімі ваяваў сем гадоў, Касьцюшка адмаўляецца ад кар’еры ў маладой амэрыканскай дзяржаве і сядае на карабель, каб вярнуцца на радзіму, у Літву-Беларусь.

На календары — 1784-ты. Праз дзесяць гадоў рэспубліканскія ідэалы запаляць сэрца генэрала — і ён



стане на чале антыцарскага вызвольнага паўстаньня...

У нашых беларускіх шыротах час рухаецца сваім, пакручастым шляхам. У 1970-я, гады майго студэнцтва, мы мусілі ведаць, што Касьцюшка — паляк і герой зусім ня нашай гісторыі. (Дарэчы, сам ён у жыцьцяпісе адназначна засьведчыў: «Нарадзіўся я ліцьвінам».) «Нашым» быў Сувораў, войскі якога патапілі паўстаньне 1794 году ў крыві.

Доўгі час адзіным помнікам паўстанцкаму правадыру ў Беларусі быў створаны Алесем Шатэрнікам бюст, які месьціцца на тэрыторыі амбасады ЗША.

Цяпер у Марачоўшчыне — адноўленай сядзібе Касьцюшкаў каля Косава — адчынены музэй, а ў 2018-м герой вярнуўся на радзіму ў бронзе. Аўтарам велічнага помніку, на які зьбіралі грошы ўсёй беларускай грамадой, стаў скульптар Гэнік Лойка. На год раней паводле ягонага ж праекту помнік Тадэвушу Касьцюшку ўсталявала ў Залятурне Беларускае аб'яднаньне ў Швайцарыі на чале з Алесем Сапегам.

Магчыма, мы дажывем да таго дня, калі ў гонар Касьцюшкі будзе пераназваная менская суворaўская вучэльня.

**Андрэй Тадэвуш Банавэнтура Касьцюшка**
4.2.1746, фальварак Марачоўшчына, цяпер Івацэвіцкі раён — 15.10.1817, Залятурн, Швайцарыя. Перапахаваны ў катэдральным саборы Сьвятых Станіслава і Вацлава, Кракаў, Польшча.

## Эмілія Плятэр

Калі вы бывалі ў Варшаве, то, відаць, памятаеце, што адна з цэнтральных яе вуліц названая імем графіні Эміліі Плятэр. Вам могуць з гонарам распавесьці, што гэта польская Жанна д'Арк, якая здабыла сабе вечную славу ў гераічны час вызвольнага паўстаньня 1830—1831 гадоў.

На жаль, ня кожны грамадзянін нашае краіны гатовы ў такі момант удакладніць, што Эмілія — ня полька, а беларуска-ліцьвінка. Яна ваявала з царскімі захопнікамі далёка ад Польшчы, у Беларусі, і была ня проста арыстакраткаю, але беларускай паэткай і фальклярысткаю, якая, да прыкладу, таленавіта выконвала народныя танцы (асабліва непараўнальнай была ў «Лепятусе») і віртуозна валодала жанрам галашэньняў.

Характарам, тэмпэрамэнтам, ахвярнасьцю яна вельмі нагадвала сваю сястру па духу з пачатку XX стагодзьдзя — Алаізу Пашкевіч (Цётку).

Блізкія сябры не зьдзівіліся, што, калі ў 1831-м Беларусь усьлед за Польшчай паўстала супраць расейскага панаваньня, Эмілія Плятэр пакінула ўсё — багаты дом, балі, навуковыя й літаратурныя штудыі — і далучылася да інсургентаў.

У тыя дні ёй вельмі прыдаліся яшчэ дзіцячыя захапленьні верхавой яздой і паляваньнем. Юная графіня, што некалі прайшла сымбалічны абрад пасьвячэньня ў рыцары, сваім коштам сфармавала паўстанцкі аддзел зь некалькіх сотняў добра ўзброеных ваяроў і, убраўшыся ў мужчынскую вопратку, ачоліла яго.

Аддзел вёў жорсткія баі з карнікамі ў Інфлянтах і на Віленшчыне, вызваліў ад расейцаў Езяросы (цяпер Зарасай у Літве), а пазьней вызначыўся ў бітве пад Коўняй.

Здарылася нечуваная рэч — дваццаціпяцігадовай жанчыне надалі званьне капітана. Яе прызначылі ка-



мандаваць бывалымі жаўнерамі, сярод якіх былі тыя, хто ў маладосьці ваяваў пад штандарамі Тадэвуша Касьцюшкі.

Побач з Эміліяй заўсёды была ад’ютантка Марыя Прушынская. У аддзеле ваявала і настаўніца-шляхцянка Марыя Рашановіч, а дзесяцігадовая Валерыя Ражазінская стала выведніцай.

Сьмерць выбірае лепшых. Зьнясіленая ў баях і паходах, нялёгкіх і для загартаваных мужчын, Эмілія цяжка захварэла. Яе сыход у сьнежні 1831-га сымбалізаваў скон усяго паўстаньня.

Вестка пра гераізм ліцьвінкі, што змагалася з расейскай тыраніяй, шырока разьляцелася па сьвеце. Свае творы прысьвяцілі ёй дзясяткі паэтаў у Францыі, Брытаніі, Італіі, Нямеччыне, Польшчы... Адам Міцкевіч адгукнуўся вершам «Сьмерць палкоўніка», дзе павысіў гераіню ў вайсковым рангу.

Ці ёсьць у гарадах Беларусі сярод мноства вуліцаў Кляры Цэткін, Розы Люксэмбург і Надзеі Крупскай хоць адна, названая ў гонар нашай Жанны д’Арк?

**Эмілія Плятэр**
13.11.1806, Вільня — 23.12.1831, маёнтак Юсьціянаў, цяпер в. Вайняжэрыс, Лазьдзейскі раён, Літва.
Пахаваная ў мяст. Капцёва, цяпер Капчамесьціс, Лазьдзейскі раён, Літва.

Заняты радыёпраграмаю «Імёны Свабоды», я мусіў на нейкі час адкласьці пачатую аповесьць пра МіхалаВаловіча, у вобраз якога ўжыўся ажно да таго, што сьніў сябе інсургентам зь ягонага паўстанцкага аддзелу.

У жніўні 1833 году ў Санкт-Пецярбург прыйшла дэпэша з паведамленьнем, што ў Горадні «со всей возможной торжественностью и при большом стечении народа» пакараны сьмерцю на шыбеніцы асабліва небясьпечны злачынца.

Цела павешанага ўначы таемна перавезьлі ў закінуты вапнавы кар'ер і закапалі, каб магіла паўстанца ня сталася месцам патрыятычных маніфэстацыяў. Небясьпечным злачынцам быў ён, Валовіч.

## Міхал Валовіч

Выхаванец Віленскага ўнівэрсытэту, блізкі сябра філяматаў і філярэтаў, у 1831-м Міхал разам зь лепшымі людзьмі краю ўзяў у рукі зброю. Расейскі ўрад кінуў супраць паўстанцаў 150 тысячаў рэгулярнага войска...

Шмат каму з былых інсургентаў даў прыстанак Парыж. Там Валовіч стаў сябрам патрыятычнага Таварыства Літоўскіх і Рускіх земляў. Яго ўдзельнікі лічылі, што паўстаньне скончылася паразай, бо ня мела «чалавекалюбнай мэты».

Міхал зь сябрамі ўступіў у шэрагі таемнага Інтэрнацыяналу карбанарыяў, які рыхтаваўся ў 1833-м распачаць усеагульны выступ супраць эўрапейскіх манархаў.

Лёзунгамі будучага паўстаньня на беларускіх землях былі: канстытуцыя, надзяленьне сялянаў зямлёй, роўнасьць палітычных правоў.

Валовіча, які належаў да прыхільнікаў абвяшчэньня Літвы-Беларусі дэмакратычнай рэспублікай, зацьвердзілі паўстанцкім начальнікам Слонімска-Навагрудзкай акругі.

Пакінуўшы спакойнае жыцьцё ў Парыжы, ён


Міхал Валовіч (зьлева) зь сябрам і паплечнікам Артурам Завішам, таксама павешаным царскімі ўладамі

праз два тыдні нелегальна дабраўся да роднай Слонімшчыны. Базаю створанага ім партызанскага аддзелу зрабілася закінутая смалакурня ў адным з бацькавых фальваркаў.

У Слонімскі павет улады сьцягнулі супраць дзясятка «бунтаўнікоў» болей за тысячу карнікаў...

Дакумэнты сьведчаць, што пры затрыманьні Міхал Валовіч параніў кінжалам двух чалавек, а затым спрабаваў забіць сябе. На допытах нікога з паплечнікаў не назваў.

Сучасныя дасьледнікі (асабліва шмат для ўшанаваньня памяці Валовіча зрабіў гарадзенскі краязнаўца Аляксандар Талерчык) здолелі дакладна вызначыць месца, дзе Валовіч апошні раз бачыў неба. Гэты куток знаходзіцца ў Горадні паміж вуліцамі Лідзкай і Белуша, Парахавым завулкам і праспэктам Касманаўтаў.

Калі-небудзь там абавязкова зьявіцца помнік.

А ў Парэччы памяць паўстанца штогод ушаноўваюць каля мэмарыяльнага крыжа недалёка ад месца, дзе калісьці Валовічы збудавалі вуніяцкую царкву.

**Міхал Валовіч**
18.6.1806, маёнтак Парэчча, цяпер в. Парэчча, Слонімскі раён — 2.8.1833, Горадня.
Месца пахаваньня невядомае. Сымбалічная магіла на могілках в. Парэчча.

## Міхал Клеафас Агінскі

Цяжка ўявіць жыхара Беларусі, які б ня ведаў незабыўнай, узьнёслай і напоўненай сьветлай тугою мэлёдыі палянэзу Міхала Клеафаса Агінскага «Разьвітаньне з Айчынай». Не выпадкова на пачатку 1990-х гучалі прапановы зрабіць яго дзяржаўным гімнам незалежнае Беларусі.

Хтосьці паспрабуе запярэчыць: маўляў, аўтар палянэзу нарадзіўся пад Варшавай, быў палякам. Але ў мэмуарах ён недвухсэнсоўна пісаў: «Паходжу зь ліцьвінскага роду. Незалежна ад намаганьняў рознага кшталту дзяржаўных дзеячаў нас, ліцьвінаў, немагчыма схіліць адмовіцца ад нашых правоў». Шчодра надзелены разнастайнымі талентамі, граф Міхал Клеафас стаў самым знакамітым прадстаўніком свабодалюбнага роду.

У дваццаць гадоў — дэпутат Сойму Рэчы Паспалітай, у дваццаць пяць — пасол у Галяндыі, а затым у Вялікабрытаніі, у дваццаць восем — падскарбі, або, сучаснай моваю, міністар фінансаў Вялікага Княства Літоўскага. Але, калі выбухнула паўстаньне Касьцюшкі, малады міністар адмовіўся ад пасады і на ўласныя грошы стварыў і ўзброіў батальён зь пяці сотняў стрэльбаў ды шабляў. Родавы герб на сваёй пячатцы ён замяніў на дэвіз «Воля, вернасьць, незалежнасьць».

Паўстанцы Агінскага разграмілі вялікі аддзел царскіх казакоў пад Валожынам, адважна дзейнічалі на Браслаўшчыне і пад Дынабургам (Дзьвінскам). Міхала Клеафаса штораз бачылі ў самай гушчыні бою, некалькі разоў ён адно дзівам застаўся жывы. Напісаны Агінскім «Марш паўстанцаў 1794 году» сьпявалі нашы ваяры на ўсім абшары Княства.

Калі карнікі генэрала Аляксандра Суворава разьбілі паўстанцаў, граф мусіў весьці жыцьцё выгнанца ў розных эўрапейскіх краінах, але ўрэшце вярнуў-



ся ў паняволеную Айчыну. Надзеі на адраджэньне незалежнасьці Вялікага Княства Агінскі спачатку зьвязвае з Напалеонам, у гонар якога стварыў опэру «Банапарт у Каіры». Ён сустракаецца з францускім імпэратарам, піша яму поўны спадзяваньняў ліст і — не атрымлівае адказу. Застаецца нязьдзейсьненым і праект аднаўленьня Княства, пададзены Аляксандру I.

На шчасьце, ні крах палітычных праектаў, ні два нешчасьлівыя шлюбы ня здолелі прымусіць замаўчаць музу Агінскага. Ягоны маёнтак Залесьсе пад Смаргоньню ператвараецца ў адну з культурных сталіц краю і неафіцыйна завецца Паўночнымі Афінамі. Творы Міхала Клеафаса выходзяць у Вене, Парыжы, Лёндане. Асабіста апладыруюць яму Гайдн і Моцарт.

Але над Залесьсем гусьцеюць хмары. Каляніяльныя ўлады пачынаюць арыштоўваць блізкіх знаёмых графа — сяброў таемных таварystваў. Пакідаючы Айчыну, Агінскі і стварае палянэз, які стаў рэквіемам па дарагой ягонаму сэрцу цывілізацыі.

Апошні зямны прыстанак ён знайшоў у пантэоне флярэнтыйскай базылікі Санта Крочэ побач з Галілеем, Мікелянджэлё, Расіні і Мак’явэлі.

**Міхал Клеафас Агінскі**
25.9.1765, маёнтак Гузаў, цяпер Жырардаўскі павет,
Мазавецкае ваяводзтва, Польшча —
15.10.1833, Флярэнцыя, Італія.
Пахаваны ў флярэнтыйскай царкве Санта Крочэ.

Юзаф Пілсудзкі любіў пажартаваць у тым духу, што Польшча — як абаранак: у сярэдзіне дзірка, а ўсё лепшае па краях.

Пад «краямі» меліся на ўвазе гэтак званыя «крэсы», а ў дадзеным выпадку — беларускія землі, адкуль паходзілі й сам «начальнік» адроджанай Польскай дзяржавы, і Тадэвуш Касьцюшка, і Адам Міцкевіч, і шмат іншых выбітных асобаў — нашых суайчыньнікаў, якіх палякі да сёньня імкнуцца адназначна прылічыць да сваёй гісторыі.

З гэтага шэрагу і народжаны на Беласточчыне герой вызвольнага руху першай паловы XIX стагодзьдзя Сымон (Шыман) Канарскі.

# Сымон Канарскі



Дваццацітрохгадовым ён, сын ня надта заможнага шляхціча, стаў пад сьцягі інсургентаў 1831-га.

У складзе корпусу генэрала Хлапоўскага Сымон браў удзел у баях з расейскімі войскамі пад Гайнаўкай, Лідай і Вільняй.

Апынуўшыся пасьля разгрому паўстаньня на эміграцыі ў Францыі, Канарскі далучыўся да арганізацыі «Помста люду», што рыхтавала экспэдыцыю на радзіму з мэтаю ўзнавіць барацьбу.

Сымон узяўся стварыць партызанскі аддзел у сваім Аўгустоўскім павеце. З фальшывым пашпартам ён перайшоў мяжу, аднак у Кракаве быў схоплены аўстрыйскімі жандарамі.

Улетку 1835-га ён усё ж таемна прыехаў у Расейскую імпэрыю. Знаходзячыся пад уплывам гісторыка і палітыка Яўхіма Лялевеля, аўтара крылатага закліку «За нашу і вашу свабоду!», Канарскі ня толькі ствараў для будучага змаганьня нелегальныя



Прымусовае перасяленьне жыхароў Літвы-Беларусі ўглыб Расейскай імпэрыі. Тагачасны малюнак

ячэйкі патрыётаў. Таварыскі, адукаваны і надзелены непахіснай верае ў сваю праўду, ён здолеў наладзіць сувязі з афіцэрамі віленскага, берасьцейскага і бабруйскага гарнізонаў. Ужо абмяркоўвалася дата супольнага выступу, але і III аддзяленьне імпэратарскай канцылярыі не драмала...

У чэрвені 1838-га група расейскіх афіцэраў спрабавала наладзіць Сымону ўцёкі з астрогу, аднак небясьпечнага вязьня ахоўвалі надзвычай пільна.

У наступным годзе дзяржаўнага злачынцу вялі па Вільні на расстрэл.

Праз чвэрць стагодзьдзя тое самае сакавіцкае віленскае неба апошні раз убачыў Каліноўскі.

**Сымон Канарскі**

17.3.1808, в. Дабкішкі, цяпер Аўгустаўскі павет, Падляскае ваяводзтва, Польшча — 11.3.1839, Вільня. Быў пахаваны на былых віленскіх Кальвінскіх могілках. Магіла не захавалася.

Ёсьць людзі, жыцьцёвы шлях якіх яўляе сабой зайздросны ўзор пасьлядоўнасьці й вернасьці юначым ідэалам. Праўда, словы пра зайздрасьць тут, можа, ня самыя дакладныя, бо такія жыцьці маюць уласьцівасьць зусім не заўсёды складвацца шчасьліва.

Бязвусым юнаком Міхал Рукевіч, спадзеючыся на аднаўленьне незалежнасьці Вялікага Княства Літоўскага, ваяваў пад штандарамі з Пагоняй у «літоўскіх» войсках Напалеона, дзе служыла 25 тысяч нашых продкаў-ліцьвінаў. Празь дзесяць гадоў у адным з сваіх вершаў ён пісаў:

# Міхал Рукевіч

*Дык калі паклічуць трубы*
*Нас у сонечны прасьцяг,*
*Дружна ўздымем вальналюбы*
*Мы з Пагоняй нашай сьцяг!**



Зрэшты, дзесяцігодзьдзе было прысьвечанае ня толькі складаньню вершаў. Вярнуўшыся з палону, куды Міхал трапіў у Францыі, ён вучыўся ў Віленскім унівэрсытэце, удзельнічаў у таемным патрыятычным таварыстве філяматаў, ствараў з аднадумцамі ягоныя філіі — таварыствы прамяністых і філярэтаў, а потым — падпольную арганізацыю «Згодных братоў» («Заранаў»), сябры якой, навучэнцы Беластоцкай і Сьвіслацкай гімназіяў, марылі пра вызваленьне Айчыны ад расейскага панаваньня.

У 1825-м частка «Заранаў» увайшла ў склад узь-

* Пераклад з польскай Кастуся Цьвіркі.

ніклага з ініцыятывы Рукевіча (ён жыў пад Беластокам у вёсцы Завыкі) рэвалюцыйнага таварыства «Вайсковыя сябры». Ужо сам назоў красамоўна сьведчыў, што тут месца ранейшых летуценьняў занялі канкрэтныя й небясьпечныя для ўладаў справы.

Арганізацыя складалася зь мясцовых чыноўнікаў, гімназістаў, шляхцічаў, а найперш з афіцэраў і жаўнераў дысьлякаванага на Гарадзеншчыне і Беласточчыне Літоўскага асобнага корпусу царскай арміі. У ліку кіраўнікоў «Вайсковых сяброў» быў капітан Канстанцін Ігельстром, які трымаў сувязь з расейскім дзекабрыстам Вільгельмам Кюхельбэкерам.

У лістах да паплечнікаў Рукевіч пісаў пра знаёмцаў, што любяць танцы пад добрую музыку. У перакладзе з канспірацыйнай мовы гэта былі ўдзельнікі таварыства. Такіх «танцораў» набралася нямала — блізу пяцідзесяці. Яны вялі антыўрадавую прапаганду ў войсках, а сваімі мэтамі абвяшчалі змаганьне за «вольнасьць» і «ўсеагульны дабрабыт».

Празь дзесяць дзён пасьля паўстаньня дзекабрыстаў «Вайсковыя сябры» сарвалі прысягу Мікалаю I у сапэрным батальёне, дзе адной з ротаў камандаваў Ігельстром. На большае сілаў не хапіла.

Рэвалюцыянэраў арыштавалі й аддалі пад суд. Рукевіча й Ігельстрома прысудзілі да пакараньня сьмерцю, якое замянілі дзесяцігадовай катаргай з далейшым пасяленьнем у Сібіры. Міхал адбываў пакараньне разам зь дзекабрыстамі. Роднай Літвы-Беларусі ён больш ня ўбачыў.

**Міхал Рукевіч**
12.11.1796, фальварак Гожна, цяпер Бельскі павет,
Падляскае ваяводзтва, Польшча —
11.9.1841, в. Коркіна (не захавалася), цяпер Жыгалаўскі
раён, Іркуцкая вобл., Расея.
Месца пахаваньня невядомае.

## Валенці Ваньковіч

Мару пра час, калі Полацкі ўнівэрсытэт канчаткова ўладкуецца ў старадаўніх мурах колішніх езуіцкіх калегіюму й Акадэміі, а ў ягоных дворыках студэнты й прафэсура будуць сустракацца з сваімі знакамітымі бронзавымі папярэднікамі: паэтам і філёзафам Мацеем Казімерам Сарбеўскім, энцыкляпэдыстам Габрыелем Грубэрам, гісторыкам Канстанцінам Тышкевічам, пісьменьнікам Янам Баршчэўскім... Сярод іх неадменна будзе й помнік жывапісцу-рамантыку Валенцію Ваньковічу.

Ён скончыў факультэт вольных навук Полацкай alma mater у 1817-м, за тры гады да таго, як расейскія ўлады зачынілі яе як гняздо вальнадумства й апазыцыі. Бацькі выправілі сына працягваць навучаньне ў віленскіх мэтраў.

Як найбольш здольнаму вучню, прафэсар Ян Рустэм дазволіў Ваньковічу працаваць у сваёй майстэрні. Там ён стварае партрэты духоўна блізкіх яму людзей: Адама Міцкевіча, ягоных сяброў і знаёмых — удзельнікаў таемных таварыстваў філяматаў і філярэтаў.

Пазьней стасункі з антырасейскімі патрыятычнымі арганізацыямі не дазволяць мастаку атрымаць стыпэндыю на падарожжа ў Італію.

Зьявіўшыся ў Пецярбурскай акадэміі мастацтваў, ён небывала хутка атрымлівае ў расейскай сталіцы прызнаньне як найлепшы майстар партрэту.

У 1828-м нараджаецца ці ня самае значнае палатно Ваньковіча — «Адам Міцкевіч на скале Аю-Даг». Адзін з сучасьнікаў пісаў: «Бачыў надзвычайны партрэт Міцкевіча... Зь яго б'е дзівоснае падабенства».

Такіх думак трымаўся, відаць, і герой партрэту, бо замовіў зь яго тры копіі.

Пасьля вяртаньня зь Пецярбургу быў дзесяцігадовы менскі пэрыяд, калі маёнтак і майстэрня Ваньковіча ў Малой Сьляпянцы зрабіліся галоўным мастац-



кім асяродкам гораду. Аднак Ваньковіч трапіў у недольную духоўную залежнасьць ад харызматычнага філёзафа-містыка Андрэя Тавянскага, які лічыў Хрыста першым мэсіем, за якім ідуць наступныя, у тым ліку й ён сам.

Пад уплывам гэтага вучэньня Ваньковіч стварае славуты цыкль, прысьвечаны Напалеону, яшчэ аднаму «мэсію». Дарэчы, Тавянскі прадказаў адданаму вучню хуткую сьмерць у дзень нараджэньня.

Апошнія месяцы Валенці жыве ў Парыжы ў доме Адама Міцкевіча й памірае пры ім сапраўды ў дзень свайго зьяўленьня на сьвет.

Створаныя Ваньковічам выдатныя партрэты захоўваюцца ў Вялікабрытаніі, Францыі, Італіі, Польшчы, Расеі... Ягоныя творы пачынаюць вяртацца і ў Беларусь. Першым такім палатном стаўся партрэт Тамаша Зана, набыты ў сваю калекцыю «Белгазпрамбанкам».

**Валенці Вільгельм Ваньковіч**
12.5.1800*, маёнтак Калюжыца, цяпер в. Калюжыца, Бярэзінскі раён —
12.5.1842, Парыж, Францыя.
Пахаваны на парыскіх могілках Манмартр дэ Сэн-Дэні.

* Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі падае недакладную дату нараджэньня Валенція Ваньковіча.

## Францішак Савіч

Мне патэлефанаваў юнак з «Маладога фронту». Яго — каб выпусьціць значок, паштоўку або саколку — цікавіў партрэт Францішка Савіча. Увага нашай моладзі да гэтай легендарнай асобы (дарэчы, сына вуніяцкага сьвятара) цалкам зразумелая.

Ягонае кароткае, вірлівае й авантурна-ахвярнае трыццацігадовае жыцьцё прайшло пад знакам змаганьня з царскай тыраніяй і расейскімі калянізатарамі. У сваіх раньніх успамінах ён напіша, што найзапаветнейшай яго мараю з малых гадоў была свабода Айчыны. Дзеля яе студэнтам Віленскай мэдычна-хірургічнай акадэміі ён стварыў зь сябрамі Дэмакратычнае таварыства, якое абвясьціла сябе спадкаемцам справы філяматаў. Францішак напісаў для таварыства статут пад назовам «Прынцыпы дэмакратызму» і адозву-праклямацыю «Заўвагі пра маральную вайну народу з дэспатызмам». Своеасаблівай праклямацыяй быў і яго верш «Там, блізка Пінска, на шырокім полі»:

*Ліцьвін, валынец, падайце ж мне рукі,*
*Так — прысягаем на Госпада Бога,*
*Царам на згубу, панам — для навукі,*
*Што на той зямлі не паўстане і нога —*
*Ані гэта паганска, ані гэта тыранска...*

У 1837-м Савіч кансьпірацыйна сустрэўся з Сымонам Канарскім, адным з кіраўнікоў вызвольнага паўстаньня 1831 году, што прыбыў з-за мяжы дзеля разгортваньня вызвольнага руху на беларускіх і ўкраінскіх землях. Праз год Канарскага высачылі й арыштавалі ў Вільні. Неўзабаве за кратамі апынуўся і Францішак Савіч.

Канарскага расстралялі, а Савіча выслалі на Каўказ у салдаты.

Лічачы ўдзел у захопніцкай вайне супраць валь-



Сучасны партрэт Францішка Савіча. Мастачка Алена Гаеўская

налюбных горцаў несумяшчальным з сваімі перакананьнямі, Францішак некалькі разоў наважваўся на ўцёкі. Аднойчы ён, пакінуўшы на беразе Цераку разьвітальную цыдулку, пасьпяхова інсцэнаваў самагубства, аднак пазьней быў схоплены памежнай вартай і зноў здадзены ў салдаты.

Падчас другіх уцёкаў ён пашкодзіў нагу і надоўга затрымаўся ў житомірскім мястэчку Янушпаль, дзе адкрыў мэдычную практыку ды праславіўся як таленавіты лекар.

Калі Савіч, заслужыўшы поўны давер мясцовых уладаў, ужо атрымаў замежны пашпарт і рыхтаваўся пакінуць Расейскую імпэрыю, у мястэчка прыйшла халера. Ратуючы іншых, ён невылечна захварэў сам...

Каля царквы ў Вяляцічах, роднай вёсцы Францішка Савіча, «там, блізка Пінска», усталяваны кранальны драўляны помнік земляку.

**Францішак Савіч**
Каля 1815, в. Вяляцічы, цяпер Пінскі раён — каля 1845, мяст. Янушпаль, цяпер Іванопаль, Чуднаўскі раён, Жытомірская вобл., Украіна.
Пахаваны ў в. Астрожак, Баранаўскі раён, Жытомірская вобл., Украіна.
Магіла не захавалася.

Пасьля прэзэнтацыі маёй дзіцячай кніжкі гістарычных апавяданьняў «Адкуль наш род» падышла па аўтограф маладая жанчына з сынам. Хлопчыка звалі Стафан. Натхніўшыся гэтым ня вельмі частым імем, я пажадаў малому ніколі не забываць, адкуль ягоны беларускі род, іначай дзядзька Арлоў надае па срацы.

Прачытаўшы пагрозьлівы надпіс, мама засьмяялася, а потым сур'ёзна сказала: «А ён свой род не забудзе». «Таму што я Стафан Грабоўскі», — картавячы, але трэба было бачыць, зь якім гонарам, адказаў малы, а яго маці папрасіла ў будучых выданьнях кніжкі абавязкова зьмясьціць апавяданьне і пра іх знакамітага продка.

## Стафан Грабоўскі



Дадзенае на прэзэнтацыі абяцаньне спраўджанае.

У аповедзе я пішу, як Стафан Грабоўскі, які жыў за два стагодзьдзі да свайго сучаснага юнага аднайменьніка, выхоўваўся ў Варшаўскай рыцарскай школе, а потым служыў у арміі Вялікага Княства Літоўскага, усходняя частка якога ўжо была ў 1772 годзе, пасьля першага падзелу Рэчы Паспалітай, адарваная й далучаная да азіяцкай царскай імпэрыі.

Стафан належаў да славутага ліцьвінскага пратэстанцкага роду. У XVIII стагодзьдзі адзіную магчымасьць кар'еры для абмежаваных у правах пратэстантаў адкрывала вай-

сковая служба, і ён упэўнена падымаўся па яе прыступках.

Калі ў 1793-м Расея пасьля другога падзелу Рэчы Паспалітай захапіла і цэнтральныя беларускія землі, падпалкоўнік Грабоўскі далучыўся да падрыхтоўкі патрыятычнага паўстаньня.

Пры вызваленьні нашай колішняй сталіцы ад расейцаў у красавіку 1794-га галоўную ролю адыграў якраз ягоны аддзел.

У паўстанцкім войску Вялікага Княства, якім камандаваў паплечнік Касьцюшкі Якуб Ясінскі, падначаленыя Грабоўскага былі адной з найбольш баявых частак.

Менавіта Стафан на чале дзьвюхтысячнага корпусу зьдзейсьніў пасьпяховы рэйд на Меншчыну й Магілеўшчыну па маршруце Араны — Койданава — Пухавічы — Бабруйск — Любань.

Я напісаў і пра тое, як у 1812-м Грабоўскі разам з тысячамі нашых суайчыньнікаў вітаў Вялікую армію Напалеона, спадзеючыся аднавіць зь яго дапамогаю страчаную дзяржаву.

У званьні генэрал-маёра Стафан Грабоўскі кіраваў Вайсковым камітэтам у Вільні.

Аднак францускі імпэратар, пад сьцягамі якога ваявалі ня менш за 25 тысяч ліцьвінаў-беларусаў, вёў сваю гульню...

Пакуль кніжка «Адкуль наш род» дапісвалася, у некалькі разоў вырастала іператваралася ў кнігу «Айчына: маляўнічая гісторыя. Ад Рагнеды да Касьцюшкі», вырас і сам Стафан. Буду чакаць яго з сынам на новых прэзэнтацыях.

**Стафан Грабоўскі**
24.6.1767, маёнтак Асташын, цяпер в. Асташына, Навагрmunдзкі раён — 4.6.1847, Варшава, Польшча.
Месца пахаваньня невядомае.

У Нацыянальным гістарычным музэі я маю два ўлюбёныя адмысловыя экспанаты.

Першы — гармата, якая стаіць каля ўваходу, бо якраз на яе выходзіць вакно майго гэтак званага кабінэту. Другі — мадэль субмарыны з музэйных фондаў, бо за ёю — адзін з самых незвычайных лёсаў, зь якімі я сустракаўся.

Менскі шляхціч Казімер Чарноўскі, студэнт Пецярбурскай мэдычна-хірургічнай акадэміі, быў арыштаваны за прыналежнасьць да Нацыянальнага патрыятычнага таварыства і мусіў памяняць акадэмічныя аўдыторыі на адзіночку Петрапаўлаўскай фартэцы.

## Казімер Чарноўскі

Яго дапытваў сам шэф жандараў генэрал Бэнкендорф, які ветліва прапанаваў Казімеру запісацца ў платныя агенты. З Чарноўскім у генэрала (трэба сказаць, вялікага майстра такіх угавораў) атрымалася асечка.

У 1829-м на стол імпэратару Мікалаю I легла папера за подпісам ужо забытага небясьпечнага нелегала. Цар ня даў веры вачам: гэта была ня просьба пра памілаваньне, а фантастычная ідэя — пабудаваць для расейскага флёту падводны карабель.

Але факт застаецца фактам: беларус Чарноўскі ўпершыню ў усясьветнай практыцы прапанаваў будаваць субмарыны цалкам з мэталу. Ён жа на чвэрць стагодзьдзя раней за галяндца Ван Эльвіна распрацаваў канструкцыю пэрыскопа і стаў аўтарам шэрагу іншых унікальных вынаходніцтваў.

Дзяржаўны злачынца, якога можна назваць і дзяржаўным вынаходнікам, чакаў калі не вызваленьня, дык хаця б паляпшэньня турэмных умоваў. Замест гэтага прыйшоў загад аб ягоным пераводзе ў Шлісэльбурскую цытадэль, дзе рэжым быў яшчэ страшнейшы.

У 1834-м рэгістрацыйная кніга цытадэлі папоўнілася запісам пра этапаваньне злачынцы на высыл-



Кацярынінскі бастыён Петрапаўлаўскай фартэцы ў Санкт-Пецярбургу, дзе быў зьняволены Казімер Чарноўскі

ку ў Архангельск. Здавалася б, пасьля пяці гадоў адзіночнай камэры можна і супакоіцца. Але Казімер запрашае да сябе на кватэру двух высланых за ўдзел у вызвольным паўстаньні 1831 году суайчыньнікаў, разьлівае па шклянках грог і прапаноўвае захапіць порт і ўзяць на караблях курс на Гішпанію, каб дапамагчы пірэнэйскім рэвалюцыянэрам.

Адзін з удзельнікаў змовы старанна закусвае, а вярнуўшыся дадому, піша данос...

Ня выключана, што сярод наведнікаў нашага Нацыянальнага гістарычнага музэю раз-пораз трапляецца айчыннае турэмнае начальства. Магчыма, яму каля мадэлі субмарыны Чарноўскага таксама прыходзіць у галаву няўтульная думка пра ўдзельную вагу карысных для дзяржавы грамадзянаў сярод сёньняшніх вязьняў менскіх Валадаркі й «амэрыканкі».

**Казімер Чарноўскі**

1791, маёнтак Карытніца, цяпер в. Карытніца, Бялыніцкі раён — 8.11.1847, Сарапул, Рэспубліка Ўдмурція, Расея. Месца пахаваньня невядомае.

# Аляксандар Незабытоўскі

Ён стаў героем аднаго з маіх першых гістарычных апавяданьняў — «Пакуль ня згасла сьвечка». Яно нарадзілася ў бяссонную ноч у цягніку, які вёз мяне на радзіму Незабытоўскага ў нясьвіскую вёску Смалічы, адкуль родам і мая жонка Валянціна. Гэта аповед аб тым, што нельга закратаваць вакно памяці, немагчыма зьняволіць вольную душу.

Кароткай ліпеньскай ноччу 1847 году на мяжы Аўстрыі й Расеі каля мястэчка Радзівілава мясцовы прыстаў перахапіў фурманку з трыма мяхамі кантрабанды. Выпадак можна было б запісаць у разрад банальных, каб, апрача звычайных тавараў, царскія служакі не знайшлі кнігаў і рукапісаў, дзе раз-пораз сустракалася прозьвішча абшарніка Аляксандра Незабытоўскага, які напярэдадні перасёк мяжу, вяртаючыся з падарожжа па Эўропе ў свой маёнтак пад Нясьвіжам.

Справаю ўладальніка незвычайнае кантрабанды неадкладна заняўся сам начальнік дзейнай арміі генэрал-фэльдмаршал Паскевіч. Зь ягонай канцылярыі выйшаў адрасаваны віленскаму генэрал-губэрнатару ліст аб тым, што затрыманыя паперы выкрываюць Незабытоўскага ў «лютой ненависти» да ўраду і намеры ўзбунтаваць «западные провинции», каб адарваць іх ад імпэрыі.

Аляксандар апынуўся ў адзіночнай камэры № 13 колішняга віленскага дамініканскага кляштару. Наглядчыкам забаранілі размаўляць зь вязьнем, што, паводле чутак, напісаў нейкія крамольныя кнігі. Гэта была праўда: пяру Незабытоўскага, які ў творах пасьлядоўна называў сябе ліцьвінам, належала сем ананімна выдадзеных у Вільні й Парыжы кнігаў, у тым ліку ўспаміны пра вызвольнае паўстаньне 1831 году і раман-утопія «Мары пра каханьне, славу й свабоду».

Мяноўна за два апошнія творы малады пісьменьнік, філёзаф і гісторык атрымаў ад царскага правасудзь-

дзя пазбаўленьне шляхецкіх правоў і дваццаць гадоў катаргі. Так судзілі самых небясьпечных дзяржаўных злачынцаў.

Аднак адмераны тэрмін не палохаў безнадзейна хворага на сухоты вальнадумцу. 25 сакавіка 1849 году Аляксандра Незабытоўскага таемна пахавалі на турэмных шпітальных могілках.

На матэрыялах судовай справы зьявіўся грыф: «Захоўваць вечна».



Вуліца Вастрабрамская ў Вільні. Літаграфія сярэдзіны XIX ст.

Дзекабрыст Міхаіл Лунін афарыстычна заўважыў, што ў Расеі два праваднікі: язык — да Кіева, а пяро — да Шлісэльбургу. Расейскі пісьменьнік і філёзаф Аляксандар Герцэн удакладніў: «Ворагі нашы ніколі не разьдзялялі слова й справу і за слова катавалі часта яшчэ больш жорстка, чым за справу».

На абшарах былой Расейскай імпэрыі гэтае назіраньне, як выглядае, не састарэла і сёньня.

**Аляксандар Крыштоф Ян Незабытоўскі**
2.10.1819, маёнтак Смалічы, цяпер в. Смалічы, Нясьвіскі раён — 21.3.1849, Вільня.
Месца пахаваньня невядомае.

Калі вы яшчэ не чыталі кнігу «Шляхціч Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданьнях», вас чакае сапраўднае адкрыцьцё цэлага дзівоснага сьвету легендаў, паданьняў, таямнічых гісторыяў. Калі ж кніга вамі ўжо прачытаная, вы пераканаліся, што сучасьнікі зусім не беспадстаўна параўноўвалі яе з усясьветна вядомым казачным цыклем «Тысячы й адной ночы».

«Шляхціча Завальню», які зрабіў бы гонар прыгожаму пісьменству любога народу, стварыў адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры Ян Баршчэўскі. Дзікае, запаведнае й неверагодна таямнічае возера Нешчарда на самай поўначы Беларусі, дзе прамінула дзяцінства Янкі, было для будучага паэта тым, чым для ягонага сучасьніка і добрага знаёмага Адама Міцкевіча — Сьвіцязь.

# Ян Баршчэўскі



Ян, сын сьвятара-уніята, яшчэ пасьпеў атрымаць дыплём Полацкай езуіцкай акадэміі, якая мела статус унівэрсытэту і была ня толькі вельмі значным цэнтрам асьветы і культуры, але і моцным асяродкам духоўнай апазыцыі царызму.

У той час расейскія каланізатары пераходзілі да жорсткай і пасьлядоўнай палітыкі выключэньня Літвы-Беларусі з эўрапейскага цывілізацыйнага кантэксту.

Зачыненая ў 1820 годзе Акадэмія сталася адной зь першых ахвяраў.

Баршчэўскі глыбока перажываў барбарскую дзяльбу і вываз у Расею велізарнай бібліятэкі й архіву, дзе мог быць бясцэнны Полацкі летапіс, унікальных

калекцыяў акадэмічнага музэю й карціннай галерэі з палотнамі Рубэнса ды іншых славутых эўрапейскіх майстроў.

Непаўторныя вобразы Яна Баршчэўскага, надзеленага адметным полацкім мэнталітэтам, несьлі магутны зарад нацыянальнай ідэі.

Не выпадкова яго галоўная кніга прыйшла да беларускага чытача толькі ў 1990 годзе, прычым — сьведчу як рэдактар таго выданьня — першы 40-тысячны наклад быў распрададзены цягам двух месяцаў.

«Шляхціч Завальня» ў перакладзе Міколы Хаўстовіча вытрымаў некалькі перавыданьняў, паводле яго зьняты фільм, зь вялікім посьпехам пастаўлены на Купалаўскай сцэне спэктакль, аднак дагэтуль няма ні вуліцы Баршчэўскага ў Полацку, ні помніку знакамітаму пісьменьніку, ні нават мэмарыяльнае дошкі ў ягоны гонар на сьценах Полацкага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, некалькі факультэтаў якога пераехалі ўжо ў карпусы былой Полацкай акадэміі.

У цяперашніх «генэралаў ад культуры» фантазія Яна Баршчэўскага, несумнеўна, выклікае падазрэньні. Ну што там за нейкая загадкавая Плачка блукае па Прыдзьвіньні? Што яна аплаквае? Зьнішчаныя касьцёлы і цэрквы? Зьніклы Крыж Сьвятой Эўфрасіньні? Выцесьненую на задворкі мову?.. Але «генэралаў» сьпішуць у глухую адстаўку, а «Шляхцічам Завальнем» будуць зачытвацца і ўнукі нашых унукаў.

**Ян Баршчэўскі**
1797*, в. Няведра, цяпер Пустошынскі раён, Пскоўская вобл., Расея — 12.3.1851, Чуднаў, цяпер Жытомірская вобл., Украіна.
Пахаваны ў Чуднаве. Магіла не захавалася.

* Год і месца нараджэньня ўдакладненыя паводле апошніх знаходак архівістаў.

Упершыню пазнаёміўшыся з гісторыяй таемных патрыятычных таварystваў філяматаў і філярэтаў, я быў зьдзіўлены адноснай мяккасьцю пакараньняў, атрыманых іх удзельнікамі пасьля таго, як у 1823-м яны трапілі ў рукі паліцыі. Тых, хто выступаў ня толькі за паляпшэньне асьветы, але і за зьнішчэньне прыгону ды нацыянальную незалежнасьць народаў, у Расейскай імпэрыі павінны былі чакаць, прынамсі, турэмныя тэрміны.

Як выявілася, ратуючы сяброў, усю віну ўзяў на сябе выпускнік фізычна-матэматычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту, прэзыдэнт таварыства філярэтаў Тамаш Зан.

## Тамаш Зан



Ён быў на год зьняволены ў цытадэлі, затым стаў палітвысланцам. Астатніх арыштаваных, у ліку якіх былі Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Ігнат Дамейка, выслалі ўглыб Расеі.

Адбываючы кару ў Арэнбургу, Тамаш, што меў відавочныя схільнасьці як да дакладных навук, так і да паэзіі, не зламаўся й не замкнуўся ў сабе.

На высылцы Зан дасьледаваў прыроду Ўралу, стварыў мінэралягічны музэй (што пазьней паспрыяла атрыманьню пасады бібліятэкара ў пецярбурскім Горным інстытуце). На ягоны лёс паўплывала сустрэча з славутым нямецкім вучоным Аляксандрам Гумбальтам. Той праводзіў на Ўрале навуковыя росшукі і быў вельмі ўражаны ведамі Зана.

Тамаш вёў дзёньнік, дзе выказваў намер пісаць у будучыні на мове свайго дзяцінства — беларускай.

Трэба меркаваць, што гэтыя памкненьні не засталіся адно словамі, асабліва калі выгнанец вярнуўся ў 1841-м на радзіму і грунтоўна заняўся вывучэньнем беларускага фальклёру, якім проста прасякнутыя шмат якія ягоныя творы.

Літаратурная спадчына Зана, што дайшла да нашых дзён, — польскамоўная. Аднак у камэдыі «Грэцкія піражкі» дзеяньне адбываецца ў Менску, самі за сябе кажуць назовы баляды «Сьвіцязь-возера», вершаў «Мянчук», «Песьня з турмы ў Вільні»...

Тую турму, а дакладней, сяброў-арыштантаў, унеўміручыў у сваіх «Дзядах» Адам Міцкевіч. Адрозна ад многіх іншых, Зан названы там уласным імем.

У вусны сябру Міцкевіч, падкрэсьліваючы Тамашову ахвярнасьць, уклаў наступныя словы:

*Я вамі кіраваў, каб збыць няволі путы,*
*І абавязак мой — за вас прыняць пакуты.*

Цяпер у колішніх віленскіх Базылянскіх мурах аднаўленая адна з камэраў, дзе пакутавалі філяматы і філярэты: тапчагі з саломай замест матрацу, грубая тонкая посьцілка, сьвечка і збан з вадой.

Зь вялікім зьдзіўленьнем я не знайшоў артыкулу пра Тамаша Зана ў шасьцітомавым энцыкляпэдычным біябібліяграфічным даведніку «Беларускія пісьменьнікі», які часам апавядае пра тых, хто не напісаў па-беларуску аніводнага радка й ніколі ня меў такіх намераў, ніколі не пакутаваў за нашую зямлю, затое — жывучы тут, ня мог ці не хацеў зьвязаць на яе мове й пары словаў.

**Тамаш Зан (Зань)**
21.12.1796, в. Мясата, цяпер Маладэчанскі раён —
19.7.1855, маёнтак Кахачын, цяпер в. Какоўчына,
Сеньненскі раён.
Пахаваны ў мяст. Смаляны, Аршанскі раён.

Адам нарадзіўся ў беларускай шляхецкай сям'і роду Рымвідаў-Міцкевічаў каляднай ноччу 1798 году. Павітуха моцна верыла ў прыкметы і перарэзала немаўляці пупавіну на кнізе.

...Разгаварыўшыся ў віленскай кавярні водбліз помніка Міцкевічу зь літоўскім архітэктарам, які таксама замовіў у той марозны вечар «Сукцініс», я ўжо празь некалькі хвілінаў слухаў узьнёслую лекцыю пра геніяльнага літоўскага паэта Адомаса Міцкявічуса, пра яго захапленьне літоўскай гісторыяй і літоўскай мовай, на якой ён ня проста размаўляў, але і напісаў шмат твораў, зьнішчаных пазьней польскімі нацыяналістамі. Я быў уражаны: меркаваў, што падобныя лекцыі засталіся, прынамсі, у мінулым стагодзьдзі, а таму вырашыў проста прыняць пачутае да ведама. Аднак суразмоўнік быў настроены ваяўніча, і я рызыкнуў пацікавіцца, а дзе ж Адомас зьявіўся на сьвет. «У ваколіцах Наўгардукасу, — не змаргнуўшы вокам, адказаў мой візаві. — Там, дзе каранаваўся вялікі князь Міндаўгас».

## Адам Міцкевіч

Тады я рызыкнуў удакладніць, дзе знаходзіцца гэты самы Наўгардукас, а заадно і згадаць сёе-тое зь лекцыяў былога філямата, апальнага паэта-выгнанца ў Калеж дэ Франс у Парыжы. Магчыма, вы здагадаліся, якія словы Міцкевіча я цытаваў. Так, пра тое, што «на беларускай мове размаўляе блізу дзесяці мільёнаў чалавек», што «гэтая гаворка найбагацейшая і найчысьцейшая... вельмі гарманічная і найменш з усіх славянскіх моваў зьмененая», а ў пару незалежнасьці Літвы вялікія князі карысталіся гэтай мовай у дыпляматычным ліставаньні, і на ёй быў напісаны і выдадзены Статут Вялікага Княства Літоўскага. Не пасьпеў я зазначыць, што на тыя лекцыі хадзілі Жорж Санд, Фрыдэрык Шапэн і Іван Тургенеў, як пачуў, што ўсё гэта — вартыя жалю



выдумкі і фальсыфікацыі цяпер ужо беларускіх нацыяналістаў.

Вось яна, сіла літоўскага патрыятычнага выхаваньня, падумаў я з складанаю гамаю пачуцьцяў.

Безь непарыўна ўкаранёных у нашую гісторыю і культуру «Дзядоў», «Пана Тадэвуша», дзясяткаў паэмаў, балядаў, вершаў Адама Міцкевіча беларуская літаратура была б іншай. Гэта маглі б засьведчыць Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і Францішак Багушэвіч, Янка Купала і Якуб Колас. Ну а Ўладзімер Караткевіч у прысьвечаным Міцкевічу эсэ, наўпрост зьвяртаючыся да выбітнага папярэдніка, сказаў: «Мяне ты зрабіў паэтам...»

Гэтым словам папярэднічае народжаная Караткевічавай фантазіяй гісторыя, як у дзень свайго сыходу ў Вечнасьць (ён стаўся для аўтара «Маёй Іліяды» і «Каласоў пад сярпом тваім» днём нараджэньня) Адам Міцкевіч абыходзіць немаўлятаў, якія кагадзе падалі голас, і вызначае іх лёс.

**Адам Бэрнард Міцкевіч**
24.12.1798, фальварак Завосьсе, цяпер Баранавіцкі раён (паводле іншых зьвестак Наваградак) — 26.11.1855, Канстантынопаль (Стамбул), Турцыя.
Перапахаваны ў касьцёле Сьвятых Станіслава і Вацлава, Кракаў, Польшча.

## Рамуальд Падбярэскі

У 1858 годзе ў Вільні на свой першы сход сабраліся беларускія пісьменьнікі Ўладзіслаў Сыракомля, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Вінцэсь Каратынскі, Арцём Вярыга-Дарэўскі ды іхнія маладзейшыя калегі. Літаратары вялі гаворку пра вялікую сілу прыгожага пісьменства, здольнага аб'яднаць народ і дапамагчы яму ў самыя нялёгкія часы. Адзін з прамоўцаў зьвярнуўся да гісторыі старажытнага сьвету і згадаў войны Рыму з Картагенам. Маўляў, рымляне перамаглі яшчэ і таму, што мелі, адрозна ад картагенцаў, багатую мастацкую літаратуру. На сходзе абмяркоўвалі плян выданьня кніг для беларускага народу, які павінен быў вырвацца з прыгоннага ярма і здабыць волю ад расейскага прыгнёту. Ня раз гаварылася, што тут вельмі не хапае Рамуальда Падбярэскага — выдаўца, літаратуразнаўца, таленавітага публіцыста і фальклярыста.

Скончыўшы гімназію, віляничук Рамуальд рыхтаваўся паступаць у віленскую alma mater, але апошнюю на той час вышэйшую школу краю зачынілі за падтрымку студэнтамі і выкладчыкамі вызвольнага паўстаньня 1831 году. Вучыцца давялося ў Маскоўскім унівэрсытэце.

У сталіцы імпэрыі Падбярэскі далучаецца да беларускага гуртка і распачынае выдавецкую дзейнасьць. Рэдагаваны ім польскамоўны літаратурна-навуковы альманах «Rocznik Literacki» робіцца, па сутнасьці, беларускацэнтрычным: друкуе нарысы пра Эўфрасіньню Полацкую, з вайсковай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, вершы былых філяматаў і філярэтаў Тамаша Зана і Антона Адынца, паэзію і прозу Яна Баршчэўскага. Тая ж лінія працягваецца і ўзмацняецца пасьля вяртаньня Падбярэскага ў Вільню, дзе ён выдае «Pamiętnik Naukowo-Literacki».

У ўласных публікацыях — фальклёрна-этна-



графічным нарысе «Беларускае вясельле», надрукаваных у пецярбурскай пэрыёдыцы «Лістах зь Беларусі», літаратурна-крытычных артыкулах — Рамуальд Падбярэскі адкрыта заяўляе пра самастойную «беларускую нацыянальнасьць», піша пра «беларускіх паэтаў і беларускіх музыкаў». Ён плянуе заснаваць беларускі часопіс і стаць яго рэдактарам.

Актыўна чытаецца і перачытваецца ў краі прадмова Падбярэскага да знакавага твору нашай новай літаратуры — «Шляхціча Завальні» Яна Баршчэўскага. Нагадаю самы пачатак: «На Беларусі, якую дагэтуль лічылі глухім краем, зь некаторага часу выразна назіраецца незвычайны інтэлектуальны рух».

Гэты рух заўважаюць і расейскія каляніяльныя ўлады. У 1850-м Рамуальда разам з трыма ягонымі супрацоўнікамі арыштоўваюць за антыўрадавую дзейнасьць.

На высылцы ў Архангельскай губэрні, у псыхіятрычнай лякарні, і згасае жыцьцё гэтай выдатнай асобы, якую гісторык, літаратар і журналіст Сяргей Абламейка ў сваіх дасьледаваньнях назваў «першым героем новай Беларусі».

**Рамуальд Падбярэскі**
19.12.1812, Вільня — 22.10.1856, Пінега (?),
Архангельская губэрня, Расея.
Месца пахаваньня невядомае.

# Уладзіслаў Сыракомля

Уладзіслаў Сыракомля — літаратурны псэўданім Людвіка Кандратовіча, за аснову якога ўзятая назва родавага гербу.

Пасьля навучаньня ў школах манахаў-дамініканцаў у Наваградку і Нясьвіжы ён служыў у канцылярыі радзівілаўскіх маёнткаў. Юнака часта бачылі ў казачна багатай бібліятэцы ўладальнікаў Нясьвіскага замку. Кандратовіч быў сваім чалавекам у княскім архіве, дзе зьберагаліся шматлікія дзяржаўныя дакумэнты Вялікага Княства Літоўскага. Усё гэта, а ў дадатак сустрэчы з выпускнікамі Віленскага ўнівэрсытэту, што часта наведваліся ў Нясьвіж, выхоўвалі ў душы патрыятызм і нараджалі імкненьне да творчасьці.

Адметны талент заіскрыўся ў першай жа публікацыі — вершаванай гутарцы «Паштар». У перакладзе яна стала расейскай народнай песьняй «Когда я на почте служил ямщиком». Творы Сыракомлі найчасьцей насялялі шляхцічы і сяляне «дарагой яго сэрцу старонкі». Сябе паэт параўноўваў зь вясковым лірнікам, што грае для ўсяго народу. Ён натхнёна пісаў пра падзеі мінулых стагодзьдзяў, апрацоўваў беларускія казкі і паданьні.

Шырокую вядомасьць набыў беларускі верш Уладзіслава Сыракомлі «Добрыя весьці», напісаны ў 1848-м, калі ў Эўропе адбываліся рэвалюцыі:

*Заходзіць сонца пагодняга лета,*
*Вее вецер з заходніх нябёс.*
*Здароў будзь, вецер з далёкага сьвету:*
*Добрыя ж весьці да нас ты прынёс!..*

*Эй, згіне вораг, як Бог нам паможа*
*За нашу крыўду, за горкі наш жаль.*
*Запяём песьню: «Хваліць цябе, Божа!»*
*Лягчэй будзе сэрцу, як згіне маскаль.*

Сыракомля асабліва цяжка перажываў раз-



гром рэвалюцыйнага руху ў Вугоршчыне і ў залежных ад Асманскай імпэрыі Дунайскіх княствах — Малдавіі ды Валахіі, дзе паўстанцаў душыла расейская армія. У гэтых княствах насельніцтва было хрысьціянскім, і войскі «жандара Эўропы» бязьлітасна дзейнічалі там супольна з туркамі-мусульманамі.

Жыцьцё ня песьціла «вясковага лірніка». У 1852-м цягам аднаго тыдня ў яго памерлі тры малалетнія дачкі. Драматычным сталася ўзаемнае, рэзка асуджанае грамадзтвам каханьне да акторкі Гелены Маеўскай. Дзеля Ўладзіслава яна пакінула мужа — гісторыка, літаратара і выдаўца Адама Кіркора і зьехала за мяжу.

Сыракомля шмат вандраваў па Беларусі. У Аўстрыі ды Прусіі сустракаўся з патрыётамі, каб супольна змагацца за аднаўленьне Рэчы Паспалітай.

Паліцыя ўвяла за паэтам і краязнаўцам сакрэтны нагляд, а затым яго зьняволілі ў віленскай турме. Прыхільнікі здолелі вызваліць хворага на сухоты вязьня, аднак няволя падарвала сілы, і Сыракомля памёр у часе сьледзтва незадоўга да паўстаньня Каліноўскага, у якім, бясспрэчна, узяў бы ўдзел. У працэсіі за труной ішлі болей за 10 тысячаў віленчукоў.

**Уладзіслаў Сыракомля**
**(ад нараджэньня Людвік Кандратовіч)**
29.9.1823, фальварак Смольгаў, цяпер в. Смольгава, Любаньскі раён — 15.9.1862, Вільня.
Пахаваны на віленскіх могілках Росы.

# Людвік Нарбут

Людвік Нарбут з тых асобаў, чыё жыцьцё я, спрабуючы адказаць на розныя няпростыя пытаньні, прымяраю да сябе.

Ягоным бацькам быў славуты гісторык Тэадор Нарбут. Напэўна, менавіта гісторыя, якую бацька ўсьлед за Цыцэронам называў настаўніцаю жыцьця, і выхавала ў Людвіка патрыятызм і ахвярнасьць.

Ужо ў васямнаццаць гадоў ён, вучань апошняга клясу Віленскай гімназіі, быў арыштаваны за спробу стварыць таемную антырасейскую арганізацыю з мэтаю падрыхтоўкі вызвольнага паўстаньня. Справа зацікавіла самога Мікалая I. Рэзалюцыя цара, нездарма празванага Палкіным, была надзвычай жорсткая: пакараць розгамі й аддаць у салдаты.

Юнака чакала нясьцерпна цяжкая васьмігадовая служба салдата-штрафніка. У лістах з Каўказу, дзе ваяваў ягоны полк, Людвік прасіў прыслаць валошку ці каласок з родных палёў.

Даслужыўшыся да званьня прапаршчыка, ён неадкладна скарыстаўся правам афіцэра на адстаўку і накіраваўся ў Беларусь.

Лёс падараваў яму шчасьце з маладой жонкаю Амэліяй. Але сямейная ідылія была нядоўгай: у краі рыхтавалася паўстаньне.

Блізка знаёмы з Каліноўскім, Людвік стаў на чале інсургентаў у Лідзкім павеце. Аддзел Нарбута, аснову якога складалі сяляне, быў, бадай, самым баяздольным ува ўсім краі.

Пасьля некалькіх перамогаў над расейскімі карнікамі паўстанцкія ўлады надалі Людвіку званьне палкоўніка, а генэрал-губэрнатар краю Назімаў прызначыў за ягоную галаву буйную грашовую ўзнагароду і кінуў супраць трох сотняў змагароў, узброеных толькі косамі й паляўнічымі стрэльбамі, дзьве тысячы салдат і казакоў.



Сьмерць Людвіка Нарбута каля Дубічаў.
Літаграфія Міхала Эльвіра Андрыёлі. 1864—1865 гг.

На пачатку траўня 1863-га ў Дубіцкім лесе над ракой Котраю Людвік, якога адзін з сучасьнікаў назваў «выразьнікам духу і гераізму эпохі», уступіў у свой апошні бой. Каб канчаткова адолець нарбутоўцаў, расейскім карнікам спатрэбілася восем атак.

Праз год пасьля паўстаньня знакаміты беларускі мастак, італіец з паходжаньня, Міхал Андрыёлі, які ваяваў пад камандаваньнем Людвіка, створыць вядомы графічны твор, прысьвечаны сьмерці героя. Існуе думка, што сярод паўстанцаў на карціне паказаны і малады Францішак Багушэвіч, які змагаўся ў тым самым аддзеле.

**Людвік Нарбут**
7.9.1832, маёнтак Шаўры, цяпер Воранаўскі раён —
4.5.1863, ваколіцы в. Дубічы, цяпер Дубічай,
Варэнскі раён, Літва.
Быў пахаваны ў братняй магіле ў Дубічах.
Магіла не захавалася.

На сустрэчы з чытачамі прыйшло нечаканае пытаньне: «У якога гістарычнага героя вы хацелі б пераўвасобіцца, каб пражыць ягонае жыцьцё?» Я паспрабаваў адказаць жартам, ды аўтар настойваў, і зь сьвядомасьці выплыла імя — Генрык Дмахоўскі.

Упершыню я ўведаў яго, як гэта ні дзіўна, у 1990-я гады ў Кангрэсе ЗША, куды, дарэчы, мог безь вялікіх праблемаў трапіць тады любы турыст. Спадарожнік, амэрыканскі беларус Васіль Мельяновіч, зьвярнуў маю ўвагу на тое, што бюсты Касьцюшкі, як і прэзыдэнтаў Джорджа Вашынгтона, Томаса Джэфэрсана, а таксама аднаго зь лідэраў вайны за незалежнасьць Злучаных Штатаў Бэнджаміна Франкліна, стварыў для Кангрэсу беларус Дмахоўскі.

## Генрык Дмахоўскі



У юнацтве Генрык вывучаў у Віленскім унівэрсытэце юрыспрудэнцыю й адначасова браў урокі маляваньня і скульптуры. Жывучы пасьля паўстаньня 1831 году ў Парыжы, ён не зьбіраўся супакойвацца: зьвязаўся з карбанарыямі, падтрымаў ідэю свайго колішняга паўстанцкага камандзіра Юзафа Заліўскага вярнуцца ў Беларусь і зноў распаліць агонь змаганьня.

На шляху да мэты Генрык мусіў зрабіць сямігадовы прыпынак у турме-фартэцы Куфштайн у Тыролі. У камэры ляпіў з хлебу розныя фігуркі. Потым Генрык адшліхтуе свой талент у мастацкай вучэльні ў Парыжы, будзе ўдзельнічаць там у стварэньні саркафагу Напалеона. (Пасьля Плошчы-2006 мой сын Багдан, узгадаўшы



Бой паўстанцаў з карнікамі. Тагачасны малюнак

аднаго з бацькавых герояў, зьлепіць у менскай турме з хлебнага мякішу зграбныя шахматы.)

Праз колькі гадоў такая асоба, як Дмахоўскі, у Эўропе зьнікае. Затое ў ЗША зьяўляецца скульптар Гэнры Сандэрз, геній якога нараджае бюсты прэзыдэнтаў, скульптурную групу «Гарыбальдзі з ваярамі», бюст Лаяша Кошута. Чалавек з такімі сымпатыямі ня мог не вярнуцца на радзіму, адкуль даходзілі зьвесткі пра падрыхтоўку новага паўстаньня.

У 1861-м ён зноў ступіў на віленскі брук, адчыніў насупраць катэдры скульптурнае атэлье, а ў 1863-м быў прызначаны камісарам Дзісенскага павету.

У траўні на ягоны аддзел зьнячэўку напалі карнікі. «Дмахоўскі васьмю кулямі прашыты — упаў на рукі моладзі», — пісаў у сваім лісьце адзін з паўстанцаў.

**Генрык Дмахоўскі**
26.10.1810, маёнтак Забалоцьце, цяпер в. Забалоцьце,
Мёрскі раён —
26.5.1863, в. Парэчча, цяпер Маладэчанскі раён.
З двума невядомымі паўстанцамі пахаваны ў лесе
паблізу в. Бірулі, Докшыцкі раён.

У чэрвені 1863-га Менск абляцела вусьцішная вестка пра расстрэл расейскімі карнікамі маладога афіцэра Міхала Цюндзявіцкага, сына маршалка Барысаўскага павету пана Мэльхіёра.

Такой была цана беларускага слова і беларускай думкі, напіша пазьней адзін зь біёграфаў патрыёта.

Галоўнай віною дваццацісямігадовага «асабліва небясьпечнага злачынцы» сталася пашырэньне першай нелегальнай беларускай газэты «Мужыцкая праўда», выдаванай Кастусём Каліноўскім.

Сьледзтва высьветліла, што Цюндзявіцкі ў карчме барысаўскай вёскі Камень прачытаў адозву паўстанцкага правадыра тамтэйшым сялянам.

# Міхал Цюндзявіцкі



Гэта быў самы першы сьмяротны вырак, выкананы ў тым змагарным годзе ў нашай цяперашняй сталіцы. Усе тры месяцы, пакуль разглядалася справа, менчукі спадзяваліся на вызваленьне арыштанта — дарэчы, выхаванца Пецярбурскага кадэцкага корпусу. Аднак начальнік «Северо-Западного края» Мураўёў рабіў стаўку на максымальную жорсткасьць. Расстрэл, які адбыўся ў раёне вуліцы Серпухаўскай (цяпер Валадарскага), на месцы сёньняшняга сталічнага паштамту, меў паказальны характар і павінен быў запалохаць гарадзкое жыхарства.

Але каты жорстка памыліліся. Каля сьвежай

магілы адразу ж пачаліся штовечаровыя маніфэстацыі. Як пісаў адзін з сучасьнікаў, «туды ішоў незьлічоны натоўп усіх станаў, веравызнаньняў і нацыянальнасьцяў». Менчукі атулялі месца пахаваньня з трох бакоў, і толькі з чацьвертага нэрвова пераступалі з нагі на нагу расейскія вартавыя. Надыходзіў момант, калі людзі ўкленчвалі. Малітвы зьмяняліся песьнямі, а затым чыё-небудзь дзіця зьбірала букеты прынесеных кветак і аздабляла імі магілу.

Відэакамэраў у жандарскіх агентаў тады не было, таму прысутных яны проста перапісвалі. Удзел у мірных пратэстах служыў падставаю для арышту, ды маніфэстацыі не спыняліся, і ўлады мусілі таемна перапахаваць цела расстралянага інсургента.

Празь некалькі дзесяцігодзьдзяў, у 1906-м, іншы прадстаўнік роду Цюндзявіцкіх — Віктар — выдаў па-беларуску кніжку «Аб чым сёньня гамоняць у нас на Беларусі», увесь наклад якой быў сканфіскаваны.

Яшчэ праз сто гадоў вялікі знаўца тых падзеяў прафэсар Адам Мальдзіс прапанаваў усталяваць на месцы пакараньня сьмерцю Міхала Цюндзявіцкага мэмарыяльны знак. Якой была рэакцыя цяперашніх уладаў, здагадацца няцяжка. Затое непадалёк менчукі аднойчы ўбачылі помнік царскаму гарадавому грэнадэрскага росту. Адкрываў яго тагачасны міністар унутраных справаў, які па сьвятах любіў апранаць форму НКВД.

Будзеце на менскім паштамце — згадайце сьветлай думкаю таго, хто ў 1863-м адным зь першых прыняў сьмерць за вызваленьне нашай зямлі ад расейскіх каланізатараў.

**Міхал Цюндзявіцкі**
16.6.1836, маёнтак Вільянова, цяпер в. Вільянова,
Барысаўскі раён — 2.6.1863, Менск.
Месца пахаваньня невядомае.

# Баляслаў Калышка



Вам не даводзілася ставіць сябе на месца нашых суайчыньнікаў, што жылі паўтара стагодзьдзя таму? Задумвацца аб тым, дзе вы былі б у 1863-м?

Кім вы лічыце іх, паўстанцаў? Героямі? Безразважнымі авантурнікамі? Вар’ятамі?

Яны адказвалі на гэтыя пытаньні сваімі лёсамі.

Уявіце сябе ў натоўпе, што аднае чэрвеньскае раніцы запоўніў перад збудаваным эшафотам віленскі Лукіскі пляц.

Аўдытар пачаў чытаць прысуд, і асуджанаму — маладому й пагляднаму шыракаплечаму інсургенту — загадалі зьняць шапку. «Абыдзецца! — крыкнуў ён расейскім афіцэрам. — Ня бачу тут нікога больш годнага за сябе!»

Калі кат нацягнуў пятлю, паўстанец сам адштурхнуў нагамі лаву, але вяроўка абарвалася, што здавён лічылася знакам невінаватасьці. Сагнаны на Лукіскі пляц людзкі натоўп загудзеў, як растрывожаны вулей, але, вядома ж, прагучала каманда паўтарыць экзэкуцыю.

Студэнт юрыдычнага факультэту Маскоўскага ўнівэрсытэту Баляслаў Калышка ў першых шэрагах браў удзел у сутычках моладзі з паліцыяй падчас хваляваньняў у 1861 годзе.

Пасьля гэтага ён на паўгоду прыехаў дадому, у Лідзкі павет, дзе вёў рэвалюцыйную агітацыю ня толькі сярод сялянаў ды мяшчанства, але і сьмела заходзіў у павятовай сталіцы ў цукроўню ды раздаваў там царскім афіцэрам праклямацыі й памфлеты Аляксандра Герцэна.



Паўстанцы 1863 году

У лютым 1863-га ён апошні раз зьявіўся ў Лідзе і ваколіцах, каб разьвітацца з сваякамі. Баляслаў атрымаў ад паўстанцкага кіраўніцтва прызначэньне ў Жамойць.

Хутка ягоны аддзел налічваў ужо некалькі сотняў стрэльбаў і косаў.

Калі ён прывёў сваіх людзей да Зыгмунта Сераkоўскага, што меў званьне літоўскага ваяводы, той уражана ўсклікнуў: «Каб ня бачыў вас перад сабою, ня даў бы веры, што вы жывы, бо з стольkіх небясьпекаў хіба па небе можна вырвацца!»

Аднак у змаганьні з рэгулярнай арміяй імпэрыі паўстанцы маглі дасягнуць адно часовых посьпехаў.

У красавіцкіх баях пад Біржамі жамойцкія інсургенты, на чале якіх, як і ў выпадку з Калышкам, часта стаялі ліцьвіны-беларусы, прадэманстравалі сапраўдны гераізм. Ды сілы былі няроўныя. Асабліва цяжкай для змагароў стратаю быў захоп у палон камандзіраў — Калышкі й самога ваяводы Серакоўскага...

Баляслаў, як і Каліноўскі, назаўсёды застаўся дваццацішасьцігадовым.

**Баляслаў Калышка**

7.8.1837, фальварак Карманішкі, цяпер Шальчынінкайскі раён, Літва — 9.6.1863, Вільня.

Пахаваны 22.11.2019 на віленскіх могілках Росы.

Будучы герой вызвольнага паўстаньня Каліноўскага вучыўся ў Пецярбурскім унівэрсытэце. За ўдзел у нелегальных суполках і спробу ў час «вясны народаў» 1848 году накіравацца ў Аўстрыю ён трапіў на вока жандарам. Юнака выслалі салдатам-шарагоўцам у далёкі Арэнбурскі край. Там Зыгмунт пасябраваў з Тарасам Шаўчэнкам, што зноў жа апрануў салдацкі шынель не па сваёй волі.

Праз восем гадоў Зыгмунту Серакоўскаму ўдалося вярнуцца ў Пецярбург. Ён бліскуча адвучыўся ў Акадэміі генэральнага штабу і служыў у вайсковым міністэрстве. Зыгмунт, лічыла начальства, раскаяўся ў памылках юнацтва. Яно і не падазравала, што афіцэр, якому давалі важныя даручэньні, пасылаючы ў замежныя выправы, вядзе падрыхтоўку да збройнага змаганьня за свабоду. У час паездак у эўрапейскія краіны ён сустракаўся з расейскімі рэвалюцыянэрамі-эмігрантамі Аляксандрам Герцэнам і Мікалаем Агаровым, з Джузэпэ Гарыбальдзі. У нелегальную арганізацыю, створаную і ўзначаленую Серакоўскім у Пецярбурзе, уваходзілі браты Віктар і Канстанцін Каліноўскія.

## Зыгмунт Серакоўскі



Калі на радзіме разгарэлася барацьба з калянізатарамі, безь пяці хвілінаў палкоўнік Серакоўскі пакінуў службу і выехаў у Вільню.

Ён камандаваў збройнымі сіламі на Ковеншчыне. Пад свае сьцягі Зыгмунт хутка сабраў пяць тысяч ваяроў, у тым ліку шмат простых вяскоўцаў. Апра-

ча касінераў пад рукой Серакоўскага быў аддзел зь пяцісот цапавікоў — сялянаў, узброеных цапамі.

Каля мястэчка Біржы інсургенты пацярпелі цяжкую паразу. Паранены ў грудзі навылёт, Серакоўскі трапіў у палон.

Віленская моладзь склала плян нападу на турэмны шпіталь і вызваленьня героя. Калі Зыгмунту перадалі ліст пра гэта, ён адразу ж не пагадзіўся, бо ведаў: генэрал-губэрнатар Мураўёў-Вешальнік, каб адпомсьціць, учыніць у Вільні крывавую расправу, якая забярэ дзясяткі жыцьцяў.

На допытах Зыгмунт, не зважаючы на пакуты ад ранаў і тры апэрацыі, адмовіўся даваць паказаньні на паплечнікаў. Мураўёў загадаў правесьці ваенна-палявы суд проста вакол ложка нямоглага целам, але магутнага духам паўстанцкага камандзіра. Судзьдзі пастанавілі: «асабліва небясьпечнага мяцежніка» — расстраляць!

Мураўёў паводле сваёй зьвярынай завядзёнкі замяніў расстрэл на павешаньне.

У адным з апошніх лістоў на волю Серакоўскі пісаў: «І стоячы пад шыбеніцай, буду пратэставаць супроць барбарскага бяспраўя, што прынесла маскоўская ўлада маёй дарагой Айчыне».

На віленскім Лукіскім пляцы, дзе пазьней расейская пятля абарвала жыцьцё і Каліноўскага, нашыя героі ўшанаваныя мэмарыяльнымі плітой і крыжам. Калі б ні прыйшоў туды, заўсёды ўбачыш кветкі і бел-чырвона-белыя сьцяжкі ды стужкі.

**Зыгмунт Серакоўскі**
30.5.1826, мяст. Лісавое, цяпер Маневіцкі раён,
Валынская вобл., Украіна —
27.6.1863, Вільня.
Пахаваны 22.11.2019 на віленскіх могілках Росы.

Ягонага імя вы пакуль ня знойдзеце ў беларускіх энцыкляпэдыях. Расейская куля спыніла жыцьцё Адама Пуслоўскага на дваццаць першым годзе. У гісторыі паўстаньня 1863-га гэты сьмяротны прысуд быў найбольш жорсткім, бо Адам удзельнічаў у збройным змаганьні ўсяго адзін дзень.

Даходы сям'і давалі яму магчымасьць атрымліваць адукацыю ў кракаўскім Ягелёнскім унівэрсытэце і бязьбедна жыць у старажытнай польскай сталіцы. Аднак пасьля пачатку паўстаньня Пуслоўскі неадкладна вярнуўся на родную Наваградчыну. На жаль, першыя дзеяньні інсургентаў у тых мясьцінах былі пазначаныя пячаткаю няўдачы.

# Адам Пуслоўскі



У красавіку аддзел з ста пяцідзесяці паўстанцаў быў атакаваны значна большымі сіламі карнікаў у раёне Налібакаў. У выніку дзьвюхгадзіннага бою змагары мусілі адысьці. Жандарскі палкоўнік Рэйхарт зухавата рапартаваў пра шэсьцьдзесят забітых і трыццаць палонных, дадаючы наконт уласных стратаў, што параненыя ўсяго адзін казак і адзін конь. Паўстанцы не ўпершыню трымалі ў руках зброю і за дзьве гадзіны пацэлілі, безумоўна, ня толькі ў каня, аднак не выклікае сумневу, што яны пацярпелі цяжкую паразу.

Сярод палонных увагу карнікаў прыцягнуў малады шляхціч Пуслоўскі. Сьледзтва атрымала зьве-



Помнік над фамільным склепам Пуслоўскіх, дзе пахаваныя Адам і яго маці

сткі, што ён вёў аддзел, конна едучы наперадзе, а таксама ўласнаручна раздаваў зброю й сам прывёз у лес паўстанцкі сьцяг.

Суд вызначыў максымальнае пакараньне — расстрэл, аднак абодва бакі не лічылі яго канчатковым: удзел Адама ў паўстаньні вымяраўся гадзінамі — увечары ён пакінуў дом, а назаўтра адбыўся бой.

Але здарылася фатальная неспадзяванасьць. У той самы дзень, калі судовую пастанову накіравалі ў Вільню, туды прыбыў новы начальнік «Северо-Западного края» Мураўёў. У сатрапа, які ўсё жыцьцё замольваў свае юначыя дзекабрысцкія грахі, быў галоўны прынцып: адразу запалохаць. Пуслоўскі стаўся адной зь першых ахвяраў.

Ксяндзу не дазволілі спавядаць паўстанца, загадалі адно багаславіць. Адам прасіў не завязваць яму вачэй, але расейскі афіцэр ня выканаў апошняга жаданьня асуджанага на сьмерць і даў салдатам загад падысьці так блізка, што тыя амаль датыкаліся да Адамавых грудзей штыхамі...

Калі патрапіце ў ваколіцы Любчы, завітайце ў вёску Сенна й прынясіце кветкі да помніку Адаму Пуслоўскаму й ягонай маці Эвэліне.

**Адам Пуслоўскі**
1842(?), маёнтак Сенна, Наваградзкі раён —
8.7.1863, Наваградак.
Пахаваны ў в. Сенна.

Віленскі генэрал-губэрнатар Назімаў любіў ставіць капітана расейскага Генэральнага штабу Людвіка Зьвяждоўскага ў прыклад іншым падначаленым. Царскі вяльможа і ў страшным сьне ня мог прысьніць, што ягоны ад'ютант, гэты бліскучы рэспэктабэльны афіцэр з шырокімі знаёмствамі, які ўдзень бездакорна працаваў у кіраўніцтве Віленскай вайсковай акругі, вечарамі на канспірацыйных кватэрах займаўся падрыхтоўкаю збройнай барацьбы супроць імпэрскай улады.

## Людвік Зьвяждоўскі



Да лета 1862-га Людвік ачольваў Літоўскі камітэт падрыхтоўкі паўстаньня. Калі на стол генэрал-губэрнатару паклалі данясеньне пра падазроныя сувязі ад'ютанта, той ня даў веры і з шкадаваньнем перавёў улюбёнца ў Маскву. Між тым у шэрагу «сумнеўных» сувязяў Зьвяждоўскага ў жандарскіх паперах згадваўся нейкі Вікенцій Канстанцін Каліноўскі. Далей сьлед героя губляўся, хоць якраз да яго перайшло кіраўніцтва Літоўскім камітэтам.

Дакумэнты сьведчаць ня толькі пра частыя спрэчкі двух патрыётаў, але і пра іх ідэйную блізкасьць. Абодва былі прыхільнікамі не аднаўленьня Рэчы Паспалітай, а самавызначэньня яе народаў.

Увесну 1863-га Зьвяждоўскі таемна прыбыў у Беларусь і стаў на чале паўстаньня ў Магілеўскім ваяводзтве. У шынялі афіцэра царскага Генштабу Зьвяждоўскі наперадзе падначаленых на кані заяжджаў у кожную сустрэтую па дарозе вёску і склікаў жыхароў на агульны сход. Вяскоўцам абя-

цалася ўся зямля бяз выкупаў і павіннасьцяў, скасаваньне рэкруцкіх набораў і свабода веры (шмат хто па-ранейшаму таемна заставаўся прыхільнікам здрадаванай каланізатарамі Вуніі).

Пад кансьпірацыйным імем Тапор ён асабіста кіраваў адной з найбольш удалых акцыяў інсургентаў 1863-га — захопам павятовага гораду Горы-Горкі. Людвіка натхняла ідэя зрабіць паўстаньне народным і перанесьці яго на тэрыторыю Расеі. Аднак узяцьце Горак было першым і апошнім посьпехам аддзелу Зьвяждоўскага.

З суседняй Смаленшчыны яшчэ ляцелі ў Пецярбург панічныя тэлеграмы аб прысылцы дадатковых войскаў, але кінутыя супроць паўстанцаў чатыры рэгулярныя роты і казакі з артылерыяй усё шчыльней сьціскалі кальцо акружэньня.

Каб ўратаваць людзей і даць ім шанец прарвацца на захад, Тапор праз тыдзень мусіў распусьціць аддзел, застаўшыся з ад'ютантам, двума вернымі паплечнікамі і палонным расейскім афіцэрам, чый лёс трэба было неадкладна вырашыць. Гэтыя падзеі ўзноўленыя ў апавяданьні «Пяць мужчын у лесьнічоўцы».

Шостым з мужчынаў быў я.

Ад таго навальнічнага красавіцкага дня лёс адмераў Зьвяждоўскаму яшчэ год жыцьця. Ён будзе камандаваць Кракаўскай паўстанцкай дывізіяй, трапіць у рукі карнікаў і, успамінаючы вочы і вусны адной зь віленскіх прыгажуняў, скончыць свой трыццаціпяцігадовы зямны шлях на эшафоце ў польскім горадзе Апатаў.

**Людвік Зьвяждоўскі**
11.12.1829, Вільня — 23.2.1864, Апатаў,
цяпер Сьвентакшыскае ваяводзтва, Польшча.
Сымбалічная магіла ў Апатаве.

Ягоны апошні дзень нараджэньня.

Віленскія Сьвятаянскія муры, дзе ён, хаваючыся ад жандараў, жыве пад імем Ігната Вітажэнца. За марознымі вокнамі крывава барвянее зара-вечарніца. Там, на захадзе, дагарае паўстаньне. Там ляснымі дарогамі адыходзяць у Польшчу апошнія змагары.

Магчыма, ён думае, што свабода стане бліжэйшай усяго на вышыню паўстанцкіх магілаў. Магчыма, чакае Марыську чарнаброву, сваю галубку — нарачоную Марыю Ямант. Магчыма, ён скажа ёй, што дасягнуць мэты можна, толькі ахвяруючы ўсяго сябе.

## Кастусь Каліноўскі

Магчыма, у той самы час былы паўстанцкі камісар Магілеўскай губэрні Вітаўт Парфіяновіч называе на допыце адрас у Сьвятаянскіх мурах і выдае пароль: «Каго любіш? — Люблю Беларусь! — То ўзаемна!»

Да арышту застаецца некалькі дзён, да эшафоту на Лукіскім пляцы і неўміручасьці — некалькі тыдняў.

Апошнім часам у беларускай прэсе зьяўляюцца артыкулы, дзе Каліноўскага, кіраўніка паўстаньня 1863 году ў Літве-Беларусі й прыхільніка самавыз-



Сьвіслацкая гімназія, у якой вучыўся Кастусь Каліноўскі. З гравюры XIX ст.



начэньня народаў былой Рэчы Паспалітай, спрабуюць абвясьціць «палякам» (самі палякі з паўстанцкага Варшаўскага жонду, дарэчы, называлі яго «сэпаратыстам»), які дзеля палітычных мэтаў проста вёў гульню зь мясцовымі «мужыкамі» (ажно да таго, што выдаваў на іх мове нелегальную газэту).

Найлепшы адказ такім «гісторыкам» — ягоныя перадсьмяротныя «Лісты з-пад шыбеніцы». Яны зьвернутыя да беларусаў. Яны напісаныя па-беларуску. Яны прысьвечаныя будучыні Беларусі. Яны ня страцілі сваёй актуальнасьці і ў XXI стагодзьдзі.

Містэрыя пахаваньня парэшткаў нашага першага нацыянальнага палітыка-незалежніка (чытайце выдадзенае ў Бібліятэцы Свабоды бліскучае эсэ Сяргея Абламейкі «Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі»), а таксама ягоных паплечнікаў, якое пры ўдзеле тысяч беларусаў з морам бел-чырвона-белых сьцягоў адбылося ў Вільні 22 лістапада 2019 году, сталася гістарычным днём, што ўвойдзе ў падручнікі і энцыкляпэдыі.

**Кастусь (Вікенці Канстанцін) Каліноўскі**
2.2.1838, в. Мастаўляны, цяпер Беластоцкі павет, Падляскае ваяводзтва, Польшча — 22.3.1864, Вільня. Пахаваны 22.11.2019 на віленскіх могілках Росы.

Тых, хто памёр, сьмерць не палохае. Думаю, яна не палохала Рамуальда Траўгута і пры жыцьці. Іначай ён выбудоўваў бы гэтае жыцьцё зусім іначай. Але, гледзячы на партрэты кіраўнікоў паўстаньня 1863 году, я міжволі лаўлю сябе на думцы, што дагератып Рамуальда Траўгута трапіў у гэтую галерэю выпадкова.

Траўгут зь ягонай акуратнай шчотачкай вусоў і элеганцкім пэнснэ больш за ўсё нагадвае мне маладога прафэсара.

Між тым у яго, выпускніка Сьвіслацкай гімназіі (той самай, дзе пазьней вучыўся Каліноўскі), былі іншыя ўнівэрсытэты.

## Рамуальд Траўгут



Траўгут ужо ў дзевятнаццаць гадоў паступіў на вайсковую службу. Браў удзел у Крымскай кампаніі, а ў трыццаць шэсьць адстаўным падпалкоўнікам пасяліўся ў спадчынным маёнтку Востраў.

Да паўстаньня ў Польшчы й Літве-Беларусі заставаліся лічаныя месяцы. Былы баявы афіцэр выдатна разумеў, што перамагчы велізарную вайсковую машыну царскай імпэрыі немагчыма, але, калі прыйшла пара, бяз роздуму зрабіў выбар.

Ачолены Траўгутам у красавіку 1863-га кобрынскі аддзел інсургентаў правёў некалькі пасьпяховых нападаў на расейскіх карнікаў, узяў удзел у бясстрашным баявым рэйдзе на Піншчыну й паўночную Валынь. (На месцы колішняга маёнтку Божы Дар на Кобрыншчыне, дзе Траўгут прысягнуў на вернасьць паўстаньню, цяпер нагадва-

юць пра тыя падзеі два мэмарыяльныя камяні.)

Пасьля жорсткіх баёў у антопальскіх лясах у Пецярбург пайшла ўзрадаваная рэляцыя, што адзін з самых небясьпечных паўстанцкіх камандзіраў забіты.



Эліза Ажэшка. 1866 г.

Але Траўгут застаўся жывы. Яго ўратавала ў сваім маёнтку маладая сувязная паўстанцаў Эліза Ажэшка, будучая знакамітая пісьменьніца.

У яе карэце пад выглядам сваяка Траўгут здолеў дабрацца да Варшавы. Неўзабаве ён ачоліў патрыятычны Нацыянальны ўрад і ўсе збройныя паўстанцкія сілы.

Ён адмовіўся выехаць за мяжу і мужна ішоў насустрач непазьбежнасьці.

Увесну 1864-га генэрала Траўгута схапілі, а ў жніўні ён, пагардліва зірнуўшы на ката, узышоў у Варшаўскай цытадэлі на эшафот.

У горадзе Сьвіслачы, на захадзе Беларусі, апрача помніка Леніну, ёсьць і помнік Рамуальду Траўгуту. Побач, у тым самым сквэры, — бюст Каліноўскага.

Відаць, такая вялікая канцэнтрацыя паўстанцкіх правадыроў камусьці падалася надзвычай небясьпечнай, і пры канцы XX стагодзьдзя па суседстве з Траўгутам і Каліноўскім уладкаваўся адноўлены бюст Ёсіфа Сталіна.

**Рамуальд Траўгут**
16.1.1826, маёнтак Шастакова, цяпер в. Шастакова, Камянецкі раён — 5.8.1864, Варшава, Польшча.
Месца пахаваньня невядомае.

Ня ведаю, як у вас, а ў мяне бясконцыя пералікі тых, каго Беларусь з розных прычынаў аддала іншым народам і культурам, ужо даўно выклікаюць ня самыя ўзьнёслыя эмоцыі.

Здаровае нацыянальнае пачуцьцё хоча ўведаць іншае: каго сьвет даў нам? Каго Літва-Беларусь уцягнула ў магічнае кола сваёй гісторыі й культуры? Гэтыя, не такія ўжо й малалікія прыклады, натхняюць мяне нязьмерна больш.

Гуляючы па Пляса дэ Каталуньня ў Барсэлёне, я думаў пра тое, што там нарадзіўся Джузэпэ Ахіла Эльміра Банольдзі — сьпявак і танцор, талентам якога некалі захапляўся ўвесь край, паплечнік Каліноўскага, паўстанец 1863 году.

## Ахіла Банольдзі

Італійская тэатральная сям'я Банольдзі шмат вандравала з опэрнымі трупамі па Эўропе. Выхаванец Лязанскага ўнівэрсытэту, Ахіла ў 1840-я гады апынуўся ў Вільні.

Сяброўства з кампазытарам Станіславам Манюшкам, зь лінгвістам і фальклярыстам Янам Карловічам, сама атмасфэра нашай старажытнай сталіцы зрабілі італійца ліцьвінскім патрыётам.

У 1862-м Банольдзі разам з Канстанцінам Каліноўскім, Людвікам Зьвяждоўскім ды іншымі лідэрамі вызвольнага руху ўвайшоў у цэнтар падрыхтоўкі паўстаньня — Літоўскі камітэт, а з пачаткам збройнай барацьбы – і ў першы ўрад Літвы-Беларусі.

На перамовах з Варшавай ён адстойваў самастойнасьць земляў былога Вялікага Княства Літоўскага і права яго народаў на незалежнасьць. У заснаванай ім фотамайстэрні выраблялася патрэбныя патрыётам дакумэнты і рыхтаваліся нелегальныя выданьні. Там, дарэчы, і створаны вядомы партрэт Кастуся Каліноўскага на поўны рост, які ў 2019-м неацэнна дапамог ідэнтыфікаваць парэшткі нашага нацыянальнага героя.



У лютым 1863-га Банольдзі арыштавалі й кінулі ў сутарэньні Троцкага замку. Ад шыбеніцы ўратавалі наладжаныя сябрамі дзёрзкія ўцёкі. Часовы паўстанцкі ўрад прызначыў яго сваім прадстаўніком за мяжой, даручыўшы закупы зброі...

Пасьля паразы паўстаньня ён трымаў у Парыжы моднае фотаатэлье, што дазваляла ня думаць пра хлеб надзённы. Меў вялікі посьпех у жанчын.

Але погляды Банольдзі зноў і зноў прымушалі шукаць сустрэчаў з такімі ж эмігрантамі-выгнанцамі.

Падчас Парыскай камуны ў людзей ягонага кшталту быў адзіны шлях — на барыкады, што ўвасаблялі ў іхніх вачах змаганьне зь любой — і сацыяльнай, і нацыянальнай — несправядлівасьцю. Банольдзі камандаваў швадронам у арміі, якой кіраваў іншы наш суайчыньнік — генэрал Валер Урублеўскі.

У перапынках паміж баямі парыскія вуліцы й пляцы чулі цудоўны Ахілаў голас. Ён сьпяваў для сваіх жаўнераў на дзесяці мовах, але з асаблівым пачуцьцём — беларускія песьні на вершы Яна Чачота.

Ягоная песьня абарвалася на пяцідзясятым годзе жыцьця.

Паміраючы ад ранаў, ён мроіў Вільню.

**Джузэпэ Ахіла Эльміра Банольдзі**
1821, Барсэлёна, Каталуньня —
1871, Парыж, Францыя.
Месца пахаваньня невядомае.

Ці кожны з нас бяз роздуму адкажа, які дзень свайго жыцьця лічыць найшчасьлівейшым? Граф Яўстах Тышкевіч ведаў адказ на гэтае пытаньне. Для яго такі дзень быў пазначаны адкрыцьцём створанага ім разам з братам Канстанцінам ды іхнімі аднадумцамі Віленскага музэю старажытнасьцяў, дзе налічвалася болей за 12 тысяч экспанатаў. Тады, у 1856-м, на знак прызнаньня заслугаў у гісторыі й археалёгіі Пецярбурская акадэмія навук абрала ліцьвінскага арыстакрата сваім ганаровым сябрам.

У той дзень граф згадваў фамільны палац у Лагойску, і, вядома, бацьку — Пія Тышкевіча, вялікага аматара старасьвеччыны, што, перадаўшы сваё захапленьне сынам, пражыве 102 гады і ў стогадовым веку будзе абраны ганаровым сябрам Віленскай археалягічнай камісіі.

# Яўстах Тышкевіч



Успамінаў Яўстах і першыя самастойныя раскопкі, для якіх, апрача сродкаў, трэба была і не абы-якая мужнасьць, бо тамтэйшыя загадкавыя «капцы-курганы» мясцовыя жыхары традыцыйна лічылі недатыкальнымі.

Ён ня ведаў, што зусім хутка справа ягонага жыцьця будзе перакрэсьленая адным узмахам пяра расейскага генэрал-губэрнатара Міхаіла Мураўёва.

Над даляглядам айчыннай гісторыі ўздымаліся навальнічныя хмары 1863-га. Ідэі паўстанцаў былі блізкія большасьці

супрацоўнікаў музэю й створанай пры ім Віленскай археалягічнай камісіі.

Ці трэба зьдзіўляцца, што ўлады на чале з царскім сатрапам Мураўёвым, якога празвалі Вешальнікам, убачылі ў музэі старажытнасьцяў «гнездо антироссийской интриги».

Экспазыцыю было загадана прыстасаваць «для демонстрации живых свидетельств искони присущей здешнему краю русской жизни».

Відаць, дзеля таго, каб адшукаць гэтыя сьведчаньні, найбольш каштоўныя экспанаты адправілі ў Маскву. (І цяпер у Дзяржаўным гістарычным музэі Расеі выстаўленая, да прыкладу, унікальная аршанская кальчуга з славянскімі пісьмёнамі з багатай калекцыі Тышкевічаў.)

Апрача ўсяго, на Яўстаха і ягонага брата-паплечніка абрынуліся нападкі зь іншага боку: палякі абвінавачвалі іх у «ліцьвінскім патрыятызьме» й «сэпаратызьме»...

На схіле дзён Яўстах Тышкевіч — сябра Лёнданскага археалягічнага інстытуту і Стакгольмскай каралеўскай акадэміі — пачуваўся забытым і адарваным ад улюбёнай справы.

Засталіся ў рукапісах «Матэрыялы да нашай гісторыі», аб’ёмны том гістарычных дакумэнтаў...

Рыцара навукі пахавалі ў Вільні побач з паэтам Уладзіславам Сыракомлем.

Апынуўшыся ў Лагойску, паспрабуйце высьветліць у мясцовых жыхароў, што ім вядома пра графа Яўстаха Тышкевіча.

Магчыма, вам пашанцуе больш, чым мне.

**Яўстах Тышкевіч**
18.4.1814, Лагойск — 8.9.1873, Вільня.
Пахаваны на віленскіх могілках Росы.

Я напісаў пра яго навукова-папулярную кніжку і таму ўяўляю, як з добрых ласкавых дзетак вырастаюць тэрарысты.

У дзяцінстве Ігнась вылучаўся дабрынёю й набожнасьцю. Картавіў літару «л», не любіў гульняў у вайну і за ласкавы характар заслужыў мянушку Коцік. Найлепшы выпускнік Беластоцкай рэальнай гімназіі, ён паступіў на мэханічны факультэт прэстыжнага Тэхналягічнага інстытуту ў Пецярбургу.

Там пад уплывам сацыялістычных ідэяў Ігнат хутка зрабіўся атэістам і, перайшоўшы на нелегальнае становішча, уступіў у групу рэвалюцыянэраў-народавольцаў, якая дзень пры дні сачыла за царскімі выездамі.

# Ігнат Грынявіцкі



На пачатку вясны 1881 году ў сталіцы імпэрыі прагрымеў выбух, рэха якога абляцела цэлы сьвет. На набярэжнай Кацярынінскага каналу беларус Ігнат Грынявіцкі выканаў сьмяротны прысуд, абвешчаны «Народнай воляй» імпэратару Аляксандру II. Той дзень стаў апошнім і для самога царазабойцы.

Грынявіцкі выстаўляў Аляксандру II і свой рахунак: задушэньне паўстаньня 1863 году, забарона беларускага друкаванага слова, закрыцьцё апошняй у краі вышэйшай навучальнай установы — Горы-Горацкага земляробчага інстытуту. Невыпадкова група студэнтаў-народавольцаў зь Беларусі, якая ў 1884-м пачала выдаваць у Пецярбургу падпольны гектаграфічны

часопіс «Гомон», назвала Ігната Грынявіцкага «адным з гарачых заснавальнікаў беларускай фракцыі».

Захапленьне асабістай мужнасьцю Грынявіцкага адразу цьмянее, калі даведваесься, што на Кацярынінскім канале бомбы тэрарыстаў забралі жыцьці бязьвінных ахвяраў: казака з царскай аховы, хлопчыка і жанчыны-салдаткі. Шэсьць чалавек атрымалі цяжкія раны, адзінаццаць — лёгкія. Некаторыя выпадковыя мінакі страцілі зрок, слых, засталіся калекамі. Нявеста Грынявіцкага маскоўская настаўніца Соф'я Мюлер раскаялася ў сваёй сувязі з царазабойцам і скончыла жыцьцё самагубствам, прыняўшы атруту.

У сваім запавеце Грынявіцкі марыў, каб «пачаты рух скончыўся перамогаю, а не татальным вынішчэньнем найлепшых людзей краіны».

Празь некалькі дзесяцігодзьдзяў распачалося якраз вынішчэньне.

З пачуцьцём, далікатна кажучы, пэўнай няёмкасьці чытаем мы сёньня такія вось радкі вядомага паэта:

*Карэта цара выяжджае*
*(Гэткі на колах гадзючнік!)*
*У канале Кацьчыным воды*
*Да блізкага мора бягуць.*
*Вось бомба. Хай з падлы сьмярдзючай,*
*Хай зь яго, ката народаў,*
*Ката маёй Беларусі*
*Зараз шматкі палятуць...*

Грынявіцкі й яго паплечнікі былі ахвярамі аблуднага вучэньня, але яны вартыя нашай памяці.

Памяці, якая перасьцерагае.

**Ігнат Грынявіцкі**
Жнівень 1855, маёнтак Басін, цяпер в. Калінаўка, Клічаўскі раён — 13.3.1881, Пецярбург, Расея.
Месца пахаваньня невядомае.

Яго назвалі ў гонар імпэратара французаў, зь якім на землях былога Вялікага Княства Літоўскага тады зьвязваліся надзеі на аднаўленьне незалежнасьці. Аднак Напалеон Банапарт, што разам з сваёй Вялікай арміяй перайшоў Нёман празь пяць гадоў пасьля нараджэньня Напалеона Орды, меў іншыя мэты, якія неўзабаве перакрэсьлілі спадзяваньні патрыётаў.

Спадзяваньні, але ня прагу свабоды.

У 1827-м Орду, студэнта фізычна-матэматычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту, выключаюць за прыналежнасьць да таемнага таварыства «Заране». Калі праз чатыры гады ўспыхвае вызвольнае паўстаньне, ён робіцца стралком 4-га палка коннай гвардыі Літоўскага асобнага корпусу і, вызначыўшыся ў баях, атрымлівае чын капітана паўстанцкай арміі й найвышэйшую ўзнагароду — ордэн Virtuti Militari.

## Напалеон Орда



На эміграцыі, у Парыжы, ён сябруе з Адамам Міцкевічам, дасканаліць музычны талент у Шапэна й здабывае мастацкую адукацыю ў студыі майстра архітэктурнага пэйзажу П'ера Жэрара. У сярэдзіне 1840-х Орда — дырэктар парыскай Італьянскай опэры. Ён стварае віртуозныя вальсы, мазуркі й палянэзы. (Станіслаў Манюшка назаве яго сваім настаўнікам.)

На пяцідзясятым годзе жыцьця Напалеон Орда пасьля амністыі вяртаецца на радзіму і распачынае свае вандроўкі, што прынясуць яму славу і памяць нашчадкаў. У лісьце да Ігната Дамейкі ён пісаў: «Я павінен занатаваць рэшткі нашай былой цывілізацыі».



Напалеон Орда. Бяроза Картуская

Ягоныя больш за дзьвесьце малюнкаў гістарычных помнікаў, гарадоў і мястэчак Літвы-Беларусі ствараць яе непаўторны і неўміручы вобраз. Мірскі й Крэўскі замкі, Сафійскі сабор і Спаса-Эўфрасіньнеўская царква, сядзібы Касьцюшкаў і Міцкевічаў...

Незвычайная старонка біяграфіі Орды — яго паездкі па ахопленым паўстаньні краі ў 1863-м. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі захоўваецца адшуканая дасьледніцай Вольгай Бабковай справа аб пазбаўленьні Орды шляхецкіх правоў «за участие в мятеже». З дакументаў вынікае, што мастак «занимается черчением планов городов». Гэтыя «планы» жандары выносілі з дому Ордаў скрынямі.

Краявіды Орды маюць дзівосную ўласьцівасьць: часам мне хочацца ўвайсьці ў іх і застацца ў створанай мастаком рэальнасьці. Калі-небудзь гэта станецца.

**Напалеон Орда**
11.2.1807, маёнтак Варацэвічы, цяпер в. Варацэвічы, Іванаўскі раён — 26.4.1883, Варшава, Польшча.
Быў пахаваны ў родавым склепе ў Янаве, цяпер Іванава.
Магіла не захавалася.

Завёўшы альбом, дзе будзеце зьбіраць запісы людзей вядомых і проста сваіх прыяцеляў, вы зробіце абсалютна правільна.

Калі-небудзь ваш альбом станецца гістарычнай крыніцаю, а магчыма, і каштоўным літаратурным помнікам.

Найлепш пацьвердзіць мае словы мог бы пісьменьнік і паўстанец Арцём Вярыга-Дарэўскі.

У 1850-я гады ягонае імя ведалі ў адукаваных колах значна далей за роднае Прыдзьвіньне, дзе пісьменьнік меў паблізу Віцебску фальварак Стайкі.

Арцём быў карэспандэнтам віленскіх, варшаўскіх і пецярбурскіх газэтаў і часопісаў.

## Арцём Вярыга-Дарэўскі



Ягоныя паэмы, гутаркі й драматургічныя творы, ня здолеўшы прарвацца праз цэнзурныя рагаткі, шырока разыходзіліся па краі ў рукапісах.

Зьместам жыцьця Вярыгі-Дарэўскага стала праца дзеля Беларусі. «Зь Беларушчынай не разбратаўся. Гэта мой ідэал», — пісаў ён у адным зь лістоў, кратаючы сваю слынную мэфістофэлеўскую бародку.

Шырокае водгульле атрымала яго вандроўка ў 1858-м у Вільню, дзе на зьезьдзе беларускіх літаратараў падчас сустрэчаў з калегамі й аднадумцамі Ўладзіславам Сыракомлем, Адамам Кіркорам, Вінцэсем Каратынскім і зьявіліся першыя запісы ў знакамітым Арцёмавым «Альбоме».

Фрагмэнты свайго перакладу «Пана Тадэвуша»

пакінуў там у дні наведваньня Вярыгам губэрнскага Менску адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.

Як толькі на пачатку 1860-х у Віцебску пачаліся патрыятычныя маніфэстацыі, уладальнік Стайкаў таксама зьняў зь сьцяны канфэдэратку.

Жандарскае назіраньне не спыніла Арцёма і ў 1863-м, калі ён стаў адным з натхняльнікаў і кіраўнікоў вызвольнага змаганьня на Віцебшчыне.

Пасьля арышту, цягам бясконцага і пакутлівага двухгадовага сьледзтва ён трымаўся мужна і ўмела, захаваўшы шмат якія зьвесткі пра паўстаньне ў таямніцы. Вайсковы суд адмераў яму восем гадоў катаргі.

У Сібіры (дзе разам зь ім была дачка Габрыеля) і на катаржных работах на саляварным заводзе ва Ўсольлі, і на пасяленьні ў Іркуцку, — ён не адкладаў убок пяро, заслужыўшы ў палітвысланцаў імя Вайдэлёт Беларусі.

Нейкі час Вярыга-Дарэўскі лічыўся адным зь верагодных аўтараў паэмы «Тарас на Парнасе». Гэтая вэрсія ня вытрымала праверкі часам, але і без таго мой герой пакінуў багатую спадчыну: вершы, драмы, падарожныя нататкі, першы пераклад Міцкевічавага «Конрада Валенрода», паэму «Ахульго», прысьвечаную змаганьню горцаў на чале з Шамілем супроць расейскіх захопнікаў.

Большая частка ягоных рукапісаў ня знойдзеная і, хочацца верыць, яшчэ чакае дасьледнікаў у архіўных сховішчах.

А вось «Альбом» шчасьліва дайшоў да нашых дзён.

**Арцём Вярыга-Дарэўскі**
16.11.1816, мяст. Кублічы, цяпер Вушацкі раён —
1884, Іркуцк, Расея.
Месца пахаваньня невядомае.

Працуючы ў Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане, я пачуў ад знакамітага беларусіста Гая Пікарды гісторыю пра тое, як ён сядзеў зь менскім калегам Адамам Мальдзісам у адным зь мясцовых пабаў.

За вокнамі ішоў абложны дождж, таму цёмнаскураму бармэну даводзілася наліваць наведнікам зноў і зноў, што той рабіў чамусьці безь вялікага стараньня.

Пры чарговым паходзе да стойкі прафэсар Мальдзіс уголас зазначыў, што некалі ў гэтым доме жыў і друкаваў свае кніжкі беларускі паэт Аляксандар Рыпінскі і, калі б зьмясьціць на будынку мэмарыяльную табліцу, кожны беларус, трапіўшы ў Лёндан, ушаноўваў бы славутага земляка прыстойнай колькасьцю кухляў «Гінэсу» ці келіхаў і кілішкаў чаго мацнейшага.

## Аляксандар Рыпінскі



Бармэн прыкметна пажвавеў і прывёў гаспадара пабу. Першым пытаньнем было: колькі на сьвеце беларусаў?

У брытанскай сталіцы Рыпінскі апынуўся пасьля ўдзелу ў вызвольным паўстаньні 1831-га і трынаццаці гадоў эміграцыі ў Парыжы. Лёндан прынёс яму вядомасьць як мастаку і фатографу (у Тотэнгемскім музэі дагэтуль захоўваюцца гравюры зь ягоных карцінаў).

Заснаваўшы ўласную вольную друкарню, былы інсургент разам з польскімі вершамі надрукаваў у ёй сваю беларускамоўную рамантычную баляду

«Нячысьцік» — пра селяніна Мікіту, што «меў жонку, як зьмяю», а ў прыдачу парсючка, якога гаспадару собіла забіць на каўбасы акурат у Вялікі пост, пасьля чаго, натуральна, і зьявіўся ўсьцешаны нячысьцік.

Дзякуючы гэтаму твору з суровай маральлю (ня еж у пост скаромніны!) Аляксандра Рыпінскага лічаць адным з стваральнікаў жанру беларускай баляды.

Якраз Рыпінскі ўвёў у нашу мову літару «Ў», якая ў ягонай лацінцы выглядала як «Ŭ».

Дарэчы, у друкарні Рыпінскага ўпершыню апублікаваны хрэстаматыйны верш Паўлюка Багрыма «Зайграй, зайграй, хлопча малы...».

Вярнуўшыся па амністыі на радзіму і жывучы пад строгім наглядам паліцыі, колішні паўстанец канчаткова ўсьвядоміў сябе за беларускага культурнага дзеяча і працаваў над гісторыяй айчыннай літаратуры.

На жаль, мэмарыяльнай табліцы там, дзе некалі весела хаваліся ад дажджу Мальдзіс і Пікарда, дагэтуль няма. Не захаваўся і паб.

У гэтым будынку цяпер клініка кітайскага дантыста, тая самая, што дала назоў выдадзенай у Бібліятэцы Свабоды кнізе падарожжаў Зьмітра Бартосіка. Нядаўна пабачыла сьвет і кніга Людмілы Хмяльніцкай «Лёс інсургента. Дакумэнтальная аповесьць аб Аляксандру Рыпінскім і ягоным часе».

Але дайце веры: побач з клінікаю лёнданскага кітайца ёсьць іншы паб.

**Аляксандар Рыпінскі**
10.9.1809*, маёнтак Кукавячына, цяпер в. Кукавячына, Віцебскі раён —
8.11.1886, маёнтак Страганы, цяпер Лёзьненскі раён.
Пахаваны на Саланецкіх могілках, ваколіцы цяперашняй в. Пяскі, Руднянскі раён, Смаленская вобл., Расея.
Магіла ня знойдзеная.

* Энцыкляпэдычныя даведнікі і Вікіпэдыя няправільна падаюць даты жыцьця А. Рыпінскага.

Міхала безь перабольшаньня агаломшыў ягоны прыезд у 1860-м на радзіму бацькі, каб працягваць мастацкую адукацыю ў славутай Акадэміі Сьвятога Лукі ў Рыме. Паўднёвае сонца, насычаныя колеры, помнікі былых стагодзьдзяў... Але думка пра тое, што гэтая зямля можа стаць новай Айчынай, як ён прыгадваў потым у размовах зь сябрамі, толькі мільганула і растала лёгкай аблачынкаю.

Домам была Літва-Беларусь, а родным горадам — любая Вільня, у лябірынце вулачак якой можна, здаецца, сустрэць самога сябе.

Вільня ўсё больш уладна клікала назад. Пагатоў сябры ўжо вызначалі там дату пачатку паўстаньня.

# Міхал Андрыёлі



Андрыёлі падзяляў погляды таго крыла патрыётаў, якіх называлі «чырвонымі» — Кастуся Каліноўскага, Валера Ўрублеўскага, яшчэ аднаго італійца па крыві й ліцьвіна па духу Ахіла Банольдзі, якія марылі пра дэмакратычныя зьмены, у выніку якіх народы былой Рэчы Паспалітай здолеюць самі вырашаць свой лёс.

Ён далучаецца да аддзелу аднаго з кіраўнікоў паўстаньня Людвіка Нарбута. Падзеі тых змагарных месяцаў абумовілі й патас, і рамантычную танальнасьць творчасьці Андрыёлі.

Здолеўшы пасьля паўстаньня ўцячы з турмы, мастак жыве ў Лёндане й Парыжы. Тым часам датуецца

ягоная выдатная графічная праца «Сьмерць Людвіка Нарбута каля Дубічаў».

Невялікі аддзел інсургентаў вядзе жорсткі бой з расейскімі карнікамі. Поплеч з шляхцічамі б'юцца сяляне ў кажушках. Параненага камандзіра паўстанцы на руках нясуць у лес. Яго пакідаюць сілы, але іх яшчэ стае на тое, каб рука ня выпусьціла пісталета.

Твор з разраду тых, куды ў маленстве хочацца трапіць, каб дапамагчы «нашым».

Душа мастака бунтуе супраць спакойнага жыцьця. Ён кідае выклік лёсу, вяртаецца на радзіму і — трапляе ў рукі жандараў. Пяцігадовая высылка ў Вятку здаецца цэлай вечнасьцю. Суцеху дае маляваньне ды заняткі з таленавітымі мясцовымі маладзёнамі. Іх завуць Віктарам і Апалінарыем. Прозьвішча сёньня вядомае — Васьняцовы.

У «залатым запасе» спадчыны Міхала Андрыёлі — дрэварыты да паэмаў Міцкевіча «Конрад Валенрод» і «Пан Тадэвуш», буйны гістарычны цыкль («Сьмерць князя Кейстута», «Бітва ліцьвінаў з крыжакамі», «Гусьляр», «Хрышчэньне ліцьвінаў»), які абуджаў нацыянальную сьвядомасьць жыхароў краю.

Да мастака прыйшла эўрапейская слава, і яго запрасілі ў Парыж ілюстраваць кнігі францускіх клясыкаў. Замоваў было столькі, што Андрыёлі мусіў адмовіцца ад афармленьня «Трох мушкетэраў». Прэса называла яго «новым Дарэ».

Героямі ягоных твораў найчасьцей былі асобы, надзеленыя шляхетным рыцарскім духам. Па-рыцарску пражыў жыцьцё й сам Андрыёлі. Італіец, якога Беларусь зрабіла сваім мастаком.

**Міхал Эльвіра Андрыёлі**
14.11.1836, Вільня — 23.8.1893, Наленчаў, цяпер Люблінскае ваяводзтва, Польшча.
Пахаваны ў Наленчаве.

Што можа змусіць беларуса адчуць сябе сынам менавіта гэтай зямлі, спадкаемцам яе гісторыі й мовы, адказным за яе прышласьць?

У кожнага з нас быў свой шлях да Беларусі й беларушчыны.

Калі казаць пра маіх калегаў-літаратараў, дык у аднаго ўсё пачалося з бабуліных замоваў на амаль незразумелай гарадзкому хлопчыку мове. У другога — з падараванага яму, васьміклясьніку, раману Ўладзімера Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім», які доўга ляжаў непрачытаны, таму што быў анэкдатычна прыняты за кнігу пра камбайнэраў. Знаёмая паэтка пачала пісаць файныя вершы, скрозь сьлёзы ўбачыўшы, як у 1995-м з Дому ўраду здымалі Пагоню.

## Янка Лучына

Аднойчы патомны мянчук Ян Неслухоўскі, шляхціч, выпускнік Пецярбурскага тэхналягічнага інстытуту, інжынэр і крыху паэт, аўтар некалькіх, як ён казаў, «вершаплётных пачынаньняў» на расейскай і польскай мовах, купіў квіток у гарадзкі тэатар.

На яго сцэне тады гастралявала вандроўная трупа карыфэя ўкраінскай драматургіі, рэжысэра й актора Міхайлы Старыцкага.

Разышлася заслона — і з тэатральных падмосткаў замест аскомістай расейшчыны палілася жывая ўкраінская мова. Той вечар зрабіў на Неслухоўскага калясальнае ўражаньне, ператварыўшы яго ў беларускага паэта Янку Лучыну.

Літаратуразнаўцы адзначалі, што, з аднаго боку, ягоная душа гарнулася да музы Байрана й Гайнэ, а з другога, прымярала сялянскую сьвітку і грала на вясковай леры, каб на Парнасе яго прынялі за свайго Ян Баршчэўскі і Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.

«Па сваіх матывах, — зацеміў філёзаф Уладзімер Конан, — вершы Лучыны ёсьць своеасаблівай увэртурай да паэзіі Купалы й Коласа».



Ён пісаў на трох мовах, але найкаштоўнейшая беларуская частка спадчыны — яшчэ й таму, што тут Лучына ішоў насуперак часу й абставінам. «Бяз мэты, гэта значыць, без надзеі на друкаваньне, мая й без таго кульгавая муза маўчыць, зубы сьцяўшы», — пісаў ён у хвіліны паняверкі.

Слова «кульгавая» — не выпадковы эпітэт: яшчэ зусім маладым паэт быў спаралізаваны і пасьля лекаваньня мог рухацца адно з дапамогаю мыліцаў. Але ён ня толькі хадзіў на службу і ў тэатар.

Сілы волі ў Яна ставала нават на тое, каб захоплена займацца рыбалкай і паляваньнем (што, дарэчы, нарадзіла ўпартыя чуткі, нібыта хвароба — ня больш чым геніяльная містыфікацыя).

Ён марыў быць пачутым.

Гэта зьдзейсьнілася пасьля сьмерці, калі ў 1903-м у Пецярбургу беларускім адраджэнцам удалося абвесьці вакол пальца царскага цэнзара і выдаць Лучынаў зборнік «Вязанка» пад выглядам кніжкі на баўгарскай мове.

**Янка Лучына (ад нараджэньня Ян Неслухоўскі)**
6.7.1851, Менск — 16.7.1897, Менск.
Пахаваны на менскіх Кальварыйскіх могілках.

# Альгерд Абуховіч

Калі я, акідваючы позіркам нашую літаратуру XIX стагодзьдзя, шукаў у ёй асобу найбольш калярытную й экстравагантную, выбар спыніўся на Альгерду Абуховічу.

Ён быў нашчадкам старажытнага ліцьвінскага роду. Ягоныя продкі Міхал, Пілiп і Тодар Абуховічы займалі высокія дзяржаўныя й вайсковыя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім і праславіліся ў войнах супраць расейцаў, туркаў ды швэдаў, а таксама пакінулі цікавыя дыярыюшы й успаміны. Дзед пісьменьніка Язэп Абуховіч ваяваў у Касьцюшкі. Абуховічы былі ў сваяцтве зь вядомым італійскім графскім родам Бандынэлі, які даў славутага скульптара Бача Бандынэлі й папу рымскага Аляксандра III.



У будучых мэмуарах Альгерд адзначыць: «Пазываючыся ў подпісы на дзядоў сваіх, грудзі мае парушае пачуцьцё нечага вялікага, сільнага...»

Альгерд вучыўся ў Слуцку, Жэнэве й Парыжы. Ягоным бацькам належалі вялікія маёнткі з тысячай сялянскіх душаў, што дазваляла маладому Ольдзю з камфортам падарожнічаць і жыць у Эўропе. Але ў 1863-м ён вярнуўся на радзіму, каб стаць у шэрагі паўстанцаў, а затым апынуцца ў сібірскай высылцы.

Ён бліскуча валодаў італійскай, францускай, ангельскай і нямецкай мовамі, аднак для ўласных твораў, якія падпісваў псэўданімам Граф Бандынэлі, абраў беларускую. Пры жыцьці ён ня ўбачыў ніводнага свайго тэксту надрукаваным, але ўвайшоў у гісторыю



Паўстанцы на этапе ў Сібір. Малюнак 1864 г.

нацыянальнага прыгожага пісьменства як адзін з заснавальнікаў жанраў байкі, мастацкай прозы й мэмуарыстыкі.

Калі Альгерд вырашыў перадаць усю ўласную зямлю сялянам, суседзі-абшарнікі прыгразілі абвясьціць яго вар'ятам. Тады ён пакінуў родны дом, захапіўшы з сабою толькі ўлюбёныя кнігі, і ператварыўся ў беднага слуцкага кватаранта.

У цесным пакойчыку зь вялізнай кніжнай шафаю, адзіным неацэнным багацьцем, Граф Бандынэлі пісаў мэмуары — нязмушаны роздум вольнай душы пра эпоху, літаратуру й вечныя праблемы чалавечай экзыстэнцыі. Першымі іх чытачамі сталі ягоныя маладыя сябры і вучні з створанага Абуховічам гуртка слуцкіх гімназістаў, у які ўваходзілі Язэп Дыла і Пятро Карповіч — будучыя дзеячы беларускага нацыянальнага руху.

**Альгерд Абуховіч (псэўданім Граф Бандынэлі)**
6.8.1840, маёнтак Калацічы, цяпер в. Калацічы,
Глускі раён — 22.8.1898, Слуцак.
Пахаваны на слуцкіх гарадзкіх могілках.

Няхай даруюць мне знаёмыя вязьні турмы на менскай вуліцы Валадарскага, але, калі я сёньня праходжу паўзь яе муры, найперш згадваю ня іх, сяброў і знаёмых, а зьняволеную там паўтара стагодзьдзя таму Камілу Марцінкевіч.

Увесну 1863 году ўвагу сьледчых судовага аддзяленьня Віленскай ваеннай акругі прыцягнуў група вы здымак, знойдзены прыператрусе кватэры-атэлье менскага фатографа Антона Прушынскага, падазраванага ў сувязях з паўстанцамі. Рэч у тым, што чатыры чалавекі на фота былі ў чамарках — адзеньні, якое насілі інсургенты. Як неўзабаве выявіла сьледзтва, адзіная жанчына на здымку — дачка «сочинителя» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, піяністка і сьпявачка Каміла. (Сам пісьменьнік пазьней за падтрымку паўстаньня быў зьняволены ў Пішчалаўскім замку, вядомым сёньня як Валадарка.)

## Каміла Марцінкевіч

Паказаўшы бліскучыя здольнасьці ўжо ў раньнім дзяцінстве, яна з васьмі гадоў канцэртавала ў Менску, Вільні, Кіеве, Варшаве... У праграмах гучала музыка яе ўлюбёных Шапэна й Ліста і ўласныя творы. Не бяз посьпеху яна выходзіла на сцэну й як акторка — у тым ліку падчас паказу ў Менску славутай опэры «Сялянка» («Ідылія»), музыку да якой напісаў Станіслаў Манюшка, а лібрэта — бацька Камілы.

Але гэтая артыстычная натура мела й іншае жыцьцё. У 1861-м яе салён стаў месцам сходаў менскай арганізацыі патрыятычнага Літоўскага камітэту, які рыхтаваў вызвольнае паўстаньне. Неўзабаве Каміла, што таксама належала да нелегалаў, была арыштаваная за ўдзел у антырасейскіх маніфэстацыях і зьмешчаная ў вар'ятню. Пратэсты менчукоў, якія дзень пры дні прыносілі да сьценаў лякарні букеты кветак, змусілі ўлады вызваліць патрыётку. Аднак у лютым 1863-га яе зноў узялі пад варту. Падставай быў данос



Каміла Марцінкевіч з бацькам (сядзіць трэці зьлева) і групай менчукоў-патрыётаў. Фота 1863 г.

расейскага салдата. Каміла зьвярнулася з просьбай да яго прадаць зброю.

Яе трымалі ў Пішчалаўскім замку, потым у кляштары бэрнардынаў. Там яна атрымлівала лісты з прызнаньнямі ў каханьні ад іншага вязьня — аднаго з кіраўнікоў менскай паўстанцкай арганізацыі Караля Станкевіча.

Далейшы лёс Камілы вырашыў учынак, які сьведчыць пра яе непахісны дух. У жніўні 1863-га з вакна камэры яна кінула кветкі пад ногі паўстанцу Яну Жмачынскаму, якога вялі на сьмяротнае пакараньне. Адказам уладаў стала высылка дваццаціпяцігадовай Камілы Марцінкевіч пад паліцэйскі нагляд у Салікамск. Яна змагла вярнуцца праз дваццаць гадоў — каб убачыць зямлю юнацтва і знайсьці ў ёй вечны супакой.

Ці шкадавала яна пра момант, калі яе рука кідала праз краты букет асуджанаму на расстрэл інсургенту?

**Каміла Марцінкевіч (у замужжы Асіповіч)**
4.12.1834, Менск — 1900, Вільня.
Пахаваная на віленскіх Бэрнардынскіх могілках.

Ведаю: шмат каму больш падабаюцца выданьні без прадмоваў. Але ёсьць у нашай літаратуры кніга, якой нельга ўявіць без уступу. Вы ўжо здагадаліся, гаворка пра Багушэвічаву «Дудку беларускую». Бо гэта — прадмова-маніфэст. Яе аўтар з тых геніяў, што ня проста выказваюць душу свайго народу, але і здольныя некалькімі радкамі вызначыць і запраграмаваць яго далейшы шлях. Пэўна ж, памятаеце: «Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек прад скананьнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!»

## Францішак Багушэвіч



У Віленскай гімназіі Францішак сябруе з Зыгмунтам Мінейкам, братамі Цітусам і Канстанцінам Далеўскімі. У 1863 годзе яны стануць паўстанцкімі важакамі. Багушэвіч разам з братам Валяр'янам таксама будзе сярод тых, хто возьмецца за зброю, каб паказаць сьвету: Літва-Беларусь ня стала перад Расеяй на калені. Змагарам дапамагала ўся сям'я Багушэвічаў. Сястра Ганна трапіла ў турму, арыштоўвалі бацькоў.

Ён ваяваў у аддзеле славутага Людвіка Нарбута. Бальшыня паплечнікаў змагалася яшчэ за Рэч Паспалітую, Багушэвіч жа, як і Каліноўскі, — ужо за Беларусь.

Пасьля раненьня ў сутычцы з царскімі карнікамі Францішку пашчасьціла ўратавацца ад астрожнай камэры й кайданоў, але за гэта давялося заплаціць дву-

ма дзесяцігодзьдзямі расстаньня з Айчынай. Ён, выдатны кансьпіратар, скончыў ва ўкраінскім Нежыне юрыдычны ліцэй, раскрыў шмат злачынстваў на пасадзе сьледчага і атрымаў за гэтыя дасягненьні ордэны Сьвятога Станіслава і Сьвятой Ганны.

У 1884 годзе ў Віленскім акруговым судзе зьявіўся новы адвакат, што, адрозна ад калегаў, з кліентамі-беларусамі (гэта былі пераважна сяляне) гаварыў на іхняй мове. Жыхары Вільні ды навакольных вёсак зь любоўю ахрысьцілі Багушэвіча «мужыцкім адвакатам». Пакуль амаль ніхто ня ведаў: Францішак ня толькі бароніць беларусаў у судах. Ён складаў на іх роднай — забароненай у навучаньні і друку, у цэрквах і касьцёлах — мове вершы.

«Дудка беларуская» выйшла ў 1891-м у Кракаве. Прадмову да яе зноў і зноў цытуюць і ў XXI стагодзьдзі. Багушэвіч ня толькі назваў «мужыцкую» мову беларускай. Ён даў назву будучай краіне і акрэсьліў яе этнічныя межы: «ад Вільні да Мазыра, ад Вітэбску за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Міньск, Магілёў, Вільня...»

Аўтар «Дудкі» выявіў сябе і знаўцам гісторыі: «Літва пяцьсот дваццаць гадоў таму назад ужо была ад Балтыцкага мора ўдоўжкі аж да Чорнага, ад Дняпра і Днястра-ракі да Нёмну; ад Каменьцу места аж да Вязьмы — у сярэдзіне Вялікаросіі; ад Дынабургу і за Крамяньчук, а ў сярэдзіне Літвы, як тое зярно ў гарэху, была наша зямліца — Беларусь!»

Сёньня можна пачуць, што «нацыянальны праект мужыцкага адваката» аказаўся ня самым плённым з магчымых. Але гісторыя ня мае ўмоўнага ладу.

**Францішак Багушэвіч**
21.3.1840, фальварак Сьвіраны, цяпер в. Сьвіраны, Віленскі раён, Літва — 28.4.1900, маёнтак Кушляны, цяпер в. Кушляны, Смаргонскі раён.
Пахаваны ў в. Жупраны, Ашмянскі раён.

# Флярыян Даноўскі

Вас калі-небудзь арыштоўвалі за вашыя погляды? У сёньняшняй Беларусі шмат хто на гэтае пытаньне адкажа станоўча і зразумее пачуцьці тых студэнтаў, гімназістаў, маладых службоўцаў — сяброў таемнага Братняга саюзу літоўскай моладзі, якіх у 1849-м паліцыя забірала ў Вільні, Менску, Горадні, Слоніме...

Ці ня самым юным з двухсот прыцягнутых да сьледзтва патрыётаў быў віленскі навучэнец Флярыян Даноўскі. Праз васямнаццаць бясконцых турэмных месяцаў гэты яшчэ амаль хлопчык з адухоўленым, летуценным абліччам і такой самай душою выслухаў вырак ваеннага трыбуналу: пятнаццаць гадоў катаргі.

Перш чым закаваць шаснаццацігадовага Флярыяна ў кайданы й адправіць на этап, яго прагналі праз шыхт салдатаў зь бязьлітаснымі шпіцрутэнамі.

Напачатку ён, прыкуты да тачкі, працаваў у вусьцішных Нерчынскіх капальнях. Але ў кагосьці з турэмнага начальства здрыганулася сэрца: юнака



Сутычка касінераў з царскай пяхотай. Малюнак 1863 г.



Альфрэд Ромэр.
Верагодны партрэт
Флярыяна Даноўскага

раскавалі й перавялі на пасяленьне ў Табольск.

Пры канцы 1850-х гадоў сябры Братняга саюзу літоўскай моладзі па амністыі вярталіся ў родныя мясьціны. Аднак, думаючы, што дух нядаўніх катаржанаў зламаны, каляніяльныя расейскія ўлады пралічыліся.

У красавіку векапомнага 1863-га Даноўскага зноў схапілі за прыналежнасьць да паўстанцкай арганізацыі. Усе спробы царскіх катаў вырваць прызнаньне былі марныя. Тады Флярыяна падвялі да шыбеніцы. «Табе 29 гадоў, усё жыцьцё наперадзе, — сказаў расейскі капітан. — Усяго некалькі імёнаў і адрасоў...» — «Ня ведаю», — адказаў Даноўскі. На шыю накінулі пятлю й душылі да страты прытомнасьці.

У траўні 1864-га — новы арышт. Пасьля двух гадоў астрогу — высылка ў Сібір.

Вярнуўшыся празь дзесяць гадоў на радзіму, ён знайшоў прытулак у Прынарачанскім краі ў маёнтку Каралінова мастака Альфрэда Ромэра, які ўвекавечыў Даноўскага на адным з сваіх партрэтаў.

Магілаю гэтага чалавека-легенды апякуецца сёньняшні калега Ромэра жывапісец Алесь Цыркуноў.

**Флярыян Даноўскі**
1834, Панявеж, цяпер Панявежыс, Літва —
6.3.1902, маёнтак Каралінова, цяпер Пастаўскі раён.
Пахаваны на Канябіцкіх могілках паблізу в. Каралінова,
Пастаўскі раён.

Яны былі розныя — векам, прафэсіяй, характарам. Іх зьбліжала адно — непрыняцьце расейскай улады, якая вырвала радзіму з эўрапейскай цывілізацыі. У 1863-м яны, ведаючы, на што ідуць, абнялі мацярок, сясьцёр і каханых і ступілі насустрач лёсу.

Тое паўстаньне застанецца адным зь нешматлікіх у гісторыі XIX стагодзьдзя прыкладаў, калі, па сутнасьці, купка ўзброеных людзей, бароняча сваю чалавечую й нацыянальную годнасьць, кінула выклік велізарнай імпэрыі.

Тры эўрапейскія народы — беларусы, палякі й літоўцы — коштам жыцьцяў найлепшых сыноў выказалі пратэст расейскаму абсалютызму і дэспатызму, засьведчыўшы прыхільнасьць да канстытуцыйнасьці й дэмакратыі.

# Цэлястын Цеханоўскі



Выпускнік Маскоўскага ўнівэрсытэту Цэлястын Цеханоўскі працаваў лекарам у Горадні, меў добрую рэпутацыю й шырокую практыку, сачыў за навінамі ў эўрапейскай мэдычнай навуцы.

Але ў ягоных доктарскіх саквах часта ляжалі не адны лекі ды інструмэнты. Цэлястын уваходзіў у гарадзенскую арганізацыю, створаную Кастусём Каліноўскім і Валерам Урублеўскім дзеля падрыхтоўкі паўстаньня.

Калі яно пачалося, Цеханоўскага прызначылі паўстанцкім грамадзянскім начальнікам Горадні. У яго кампэтэнцыі была вэрбоўка людзей у аддзелы інсургентаў, забесьпячэньне іх зброяй і рыштункам.

У ліпені 1863-га Цэлястына схапіла паліцыя. Заслугі доктара перад паўстаньнем царскі суд ацаніў



Паўстанцкі лязарэт. Малюнак 1863 г.

сьмяротным пакараньнем, якое ў выніку подкупу ўрадоўцаў (хабарамі ня грэбаваў і генэрал-губэрнатар Мураўёў-Вешальнік) замянілі 20 гадамі катаргі.

Ён будаваў Кругабайкальскі тракт, быў лекарам Аляксандраўскага астрогу, маючы практыку яшчэ багацейшую, чым у Горадні, — сотні зьняволеных і навакольных жыхароў. Уражаная ахвярнасьцю вязьня, што рабіў мэдычныя агляды ў кайданах, турэмная адміністрацыя намерылася раскаваць Цеханоўскага, але ён пяць гадоў адмаўляўся — каб дзяліць з таварышамі ўсе пакуты.

У Іркуцку дагэтуль стаіць дом (вул. Марата, 33), дзе пасьля вызваленьня жыў славуты на цэлую Сібір доктар-беларус, да якога ехалі нават з Чукоткі.

**Цэлястын Цеханоўскі**
1835, маёнтак Горлава, цяпер в. Горлава,
Дрыбінскі раён — 10.1.1906, Іркуцк, Расея.
Быў пахаваны на іркуцкіх Ерусалімскіх могілках
(не захаваліся).

# Іван Пуліхаў



У студэнцкія гады ў мяне быў сябар, які лічыў сваім ідэалам эсэра Івана Пуліхава. Ад яго, сябра, а потым яшчэ з нарысу «Бясстрашны юнак», знойдзенага ў старым нумары «Маладосці», я збольшага і даведаўся пра чалавека, чыім імем названая ціхая вуліца ў прэстыжным раёне беларускай сталіцы.

Іван зацікавіўся рэвалюцыйнай літаратурай у Менскай рэальнай вучэльні. У Пецярбурскім каморніцкім інстытуце яго захапленьне ідэяй пераўтварыць сьвет на справядлівых пачатках было ацэненае: Пуліхаў мусіў вярнуцца пад паліцэйскі нагляд у родны Менск.

30 кастрычніка 1905 году ў губэрнскую сталіцу прыйшлі зьвесткі пра царскі маніфэст, які абвяшчаў дэмакратычныя свабоды. Натхнёныя вызваленьнем палітвязьняў, мітынгоўцы здолелі сабраць на прывакзальным пляцы дваццаць тысяч менчукоў. Губэрнатар Курлоў даў дазвол страляць. На зямлі засталося болей за сто забітых.

Партыя эсэраў вынесла Курлову сьмяротны прысуд. Яго выканаўцу вызначала лёсаваньне, але той, каму выпаў гэты кон, спалохана адмовіўся. Тады за справу добраахвотна ўзяўся Іван Пуліхаў, дапамагчы якому пагадзілася эсэрка Аляксандра Ізмайловіч.

Замах быў няўдалы: бомба, кінутая Іванам у губэрнатара, ня выбухнула. (Ёсьць сьведчаньні, што напярэдадні запал бомбы быў абясшкоджаны «ахранкай» з дапамогаю агента-правакатара.) Івану й Аляксандры, якая тады ж бес-



Віленскі вакзал у Менску, каля якога ў кастрычніку 1905 г. адбыўся Курлоўскі расстрэл

пасьпяхова страляла ў паліцмайстра Норава, часовы вайсковы суд прызначыў найвышэйшую кару. Для Ізмайловіч, дачкі царскага генэрала, сьмерць замянілі бестэрміновымі катаржнымі работамі. Пуліхаў у сакавіку 1906-га быў павешаны. Дзеля запалохваньня менчукоў ягонае цела чатыры дні вісела на браме Пішчалаўскага замку, цяперашняй Валадаркі. (Левую эсэрку Аляксандру Ізмайловіч на сёмым дзясятку гадоў расстралялі ўжо бальшавікі.)

Неяк на вуліцы ягонага імя, якую яшчэ й цяпер, паводле савецкай традыцыі (за шапкі некалі высокапастаўленых жыхароў), зрэдку называюць «андатравай», я правёў невялікае апытаньне. Зь пяці тамтэйшых мінакоў паважнага веку трое назвалі Пуліхава «старым бальшавіком», а адзін дадаў штосьці пра «саратніка Ільліча».

**Іван Пуліхаў**

5.9.1879, Менск — 11.3.1906, Менск.

Пахаваны на менскіх Вайсковых могілках.

## Марыя Ямант

Яна была роднай сястрою аднадумца Кастуся Каліноўскага — Язэпа Ямантa. Юнакі пасябравалі ў Пецярбурскім унівэрсытэце. Калі Каліноўскі выправіўся на радзіму рыхтаваць паўстаньне, Язэп паехаў сьледам. Кастусь часта бываў па сваіх нелегальных справах у Вільні, і сям'я Ямантаў прапанавала яму спыняцца ў іхняй кватэры на вуліцы Вялікай у самым цэнтры былой сталіцы Княства. Там і адбылося знаёмства Кастуся і Марыі. Сябры сьцьвярджалі: гэта было каханьне зь першага позірку.

Пачыналася вясна 1861-га. Каліноўскі меў дваццаць тры гады, Марыя — на тры меней. Яна была адукаваная дзяўчына: ведала замежныя мовы, глыбока цікавілася гісторыяй і літаратурай. Хутка Кастуся сустракалі ў Ямантаў ужо як самага жаданага госьця. Праз год Марыя зрабілася яго нарачонаю. Яна прыняла ад каханага заручальны пярсьцёнак і проста сьвяцілася шчасьцем, хоць і прадчувала, што наперадзе іх чакаюць нялёгкія выпрабаваньні.

Надзею на хуткае вясельле перакрэсьліў пачатак паўстаньня. Кватэра Ямантаў ператварылася ў яго сапраўдны штаб зь нелегальнай друкарняй. Якраз там Каліноўскі сустракаўся з камісарам Нацыянальнага ўраду ў Варшаве і адстойваў будучую самастойнасьць народаў Вялікага Княства Літоўскага і перадачу зямлі сялянам.

Марыя стварыла падпольны жаночы камітэт салідарнасьці. Ён захоўваў і пашыраў нелегальную літаратуру, браў пад апеку паўстанцкія сем'і і самых вязьняў. Яго ўдзельніцы зьбіралі ахвяраваньні, разносілі пошту, усялякімі шляхамі перадавалі ў турэмныя камэры лісты, прадукты, сьвежую бялізну.

Побач з Марыяй заўсёды была сястра Людвіка. Менавіта дзякуючы яе ўспамінам мы найперш і ведаем пра пачуцьці Марыі і Кастуся і пра тое, што Марыя бы-



Сям'я Ямантаў у сібірскай высылцы. Паміж бацькамі стаяць: Марыя (зьлева) і яе сястра Алена

ла яго нарачонаю. Людвіка пахаваная на віленскіх могілках Росы, там, дзе праз 155 гадоў пасьля тых падзеяў знайшлі апошні зямны прыстанак Каліноўскі зь Серакоўскім ды іхнія баявыя пабрацімы. Яшчэ адна родная сястра Марыі — Алена — была нявестай Цітуса Далеўскага, найбліжэйшага паплечніка Каліноўскага.

Той самай студзеньскай ноччу, калі схапілі Кастуся, паліцыя арыштавала і сям'ю Ямантаў. Кіраўніка паўстаньня зьняволілі ў былым дамініканскім кляштары, Марыю — у манастырскіх мурах насупраць. Яе цётка Ядзьвіга Макрыцкая падкупіла ахову і здолела наладзіць нарачоным ліставаньне. У цыдулцы да любай Каліноўскі пісаў: «Зайздрошчу свабодзе вароны, якую бачу з вакна на сьнезе...» Дарэчы, якраз праз цётку Ядзьвісю ўдалося перадаць на волю «Лісты з-пад шыбеніцы». Да нас, як вядома, дайшоў і вершаваны ліст да каханай, напісаны Кастусём незадоўга да сьмерці:

*Марыська чарнаброва, галубка мая,*
*Дзе ж падзелася шчасьце і ясна доля твая?..*

Разам з бацькамі і сястрой Марыю выслалі на дзесяць гадоў у сібірскі Табольск. Увесь гэты час яна насіла жалобу па каханым.

**Марыя Ямант**
1842, Вільня — 3.9.1908, Варшава, Польшча.
Пахаваная на варшаўскіх Паванзкоўскіх могілках.

Некалі ў маладосьці я склаў сьпіс дзесяці асобаў, зь якімі хацеў бы сустрэцца на гэтым, а калі спазьнюся, дык хаця б на тым сьвеце. У пераліку з маімі расстралянымі ў 1930-я дзядамі Максімам і Ціханам Дзянісавымі. суседзіў пісьменьнік Сяргей Палуян, сьветлая легенда нашай літаратуры.

«Ты быў, як месяц, адзінокі: самотна жыў, самотна ўмёр», — пісаў пра Палуяна ягоны сябар Максім Багдановіч, на адзіным прыжыцьцёвым зборніку якога, вечна жывым «Вянку», пазначана: «Вянок на магілу С. А. Палуяна»...

Мне наіўна здавалася, што калі б я апынуўся зь Сяргеем у адным часе, дык здолеў бы ўратаваць яго ад самагубства ў дзевятнаццаць з паловаю гадоў.

## Сяргей Палуян

У гісторыі Беларускага Адраджэньня пачатку XX стагодзьдзя ён застаўся, відаць, самым трагічным героем.

Літаратурнай дзейнасьцю гэты рамантычны юнак з надзіва сталым аналітычным розумам займаўся ўсяго адзін год.

Пераехаўшы пасьля глыбокага ідэйнага канфлікту з бацькам у Кіеў, Палуян жыў на сьціплыя ганарары за свае рэцэнзіі й артыкулы ва ўкраінскім друку, а яшчэ за выпадковыя заробкі рэпэтытара і карэктара.

Зацікаўленасьць нацыянальным Адраджэньнем прывяла Сяргея да супрацоўніцтва з «Нашай Нівай» і сталае працы ў Вільні.

Большасьць ягоных твораў зьнікла ў ліхалецьцях часу, але тое, што ацалела, сьведчыць: Палуян ствараў на мяжы геніяльнасьці.

Перачытайце ягоны маленькі шэдэўр «Хрыстос уваскрос!».

Якраз Сяргей Палуян знайшоў у архіве «Нашае Нівы» сшыткі зь вершамі Максіма Багдановіча, расцэненымі рэдакцыяй як «дэкадэнцкія», і першы



пачаў няпростую барацьбу за іх прызнаньне й шырокую публікацыю.

Ён быў таленавітым публіцыстам і ідэолягам беларускага руху.

Але — «ня стала сіл змагацца з блудным векам...» (Янка Купала).

У васьмідзясятыя гады мінулага стагодзьдзя імя Сяргея Палуяна вярнулася зь нябыту дзякуючы кнізе яго твораў «Лісты ў будучыню».

Назва зборніка — не выпадковая. Пакінутыя Палуянам запаветы праз стагодзьдзе набылі яшчэ большую надзённасьць:

«Калі мы паставілі сабе мэту адрадзіць наш народ... то нам у першую чараду трэба адрадзіць сваю мову. Толькі тады ў нас будзе якоесь асобнае нацыянальнае жыцьцё, бо асобная мова — гэта й ёсьць форма нацыянальнай асобнасьці.

Толькі адрадзіўшы мову, мы зможам паставіць на цьвёрды грунт наш рух...

А пакуль што трэба раскідваць усё новае і новае насеньне. Мо і кепская доля спаткае яго, мо й зьніштожыцца яно нягодай ды сьцюдзёным сіверам, — але не сяўцам думаць аб гэтым!

У іх адна мэта — болей зёрнаў кінуць у сагрэтую сонцам ральлю...»

**Сяргей Палуян**

19.10.1890, Брагін — 21.4.1910, Кіеў, Украіна.

Пахаваны на кіеўскіх Байкаўскіх могілках.

# Цётка

У беларускай літаратуры няма Дзядзькі, а вось Цётка — ёсьць.

Гэта яшчэ раз па-свойму падкрэсьлівае выбітную ролю нашых жанчын у лёсе Бацькаўшчыны ад часоў Полацкага княства.

Алаіза Пашкевіч, якая ўзяла сабе такі цёплы псэўданім, безумоўна, застанецца ў гісторыі самай знакамітай і яркай дзяячкаю нацыянальнага Адраджэньня пачатку XX стагодзьдзя.

Яна пачала пісаць пад уплывам Францішка Багушэвіча і пазьней, у прадмове да сваёй «Скрыпкі...», згадвала аўтара «Дудкі беларускай» зь незвычайнай цеплынёю: «Дзякуй табе, Мацей Бурачок! Чэсьць і слава тваему слову! А ты, «дудка», грай і мне голас дай...»

У пражытыя ёю сорак гадоў зьмясьцілася б, здаецца, некалькі доўгіх жыцьцяў.

Яна стварала з аднадумцамі Беларускую Сацыялістычную Грамаду.

Бліскуча выступала на мітынгах і сходах, а сваю віленскую кватэру зрабіла месцам сустрэчаў беларускіх інтэлектуалаў.

Фэльчарка й сястра міласэрнасьці, Алаіза трымала ў сутарэньнях лякарні шапіраграф, на якім у 1905-м быў памножаны ейны верш «Вера беларуса»:

*Веру, братцы, ў нашу сілу,*
*Веру ў волі нашай гарт:*
*Чую агонь у нас — ня брыну,*
*Бачу, братцы, мы ня з карт,*
*Мы ня з гіпсу, мы — з каменьня,*
*Мы — з жалеза, мы — са сталі,*
*Нас кавалі у пламеньні,*
*Каб мацнейшыя мы сталі...*

Шэсьць гадоў палітычнай эміграцыі яна скарыстала на вывучэньне філязофіі, гісторыі й філялёгіі

ў Львоўскім і Кракаўскім унівэрсытэтах.

Тамсама, у Аўстра-Вугоршчыне, у Жоўкве пад Львовам, выдала два зборнікі — «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская», якія сталі клясыкай.

Яна вандравала па Італіі, Нямеччыне, Фінляндыі й Швэцыі.

Была аўтаркаю «Нашай Долі» і «Нашай Нівы» й акторкаю ў беларускай трупе Буйніцкага.

Засноўвала падпольныя беларускія школкі і першы беларускі часопіс для дзяцей і падлеткаў «Лучынка».

Яе душа бясконца прагнула вышыні й свабоды.



Цётка зь дзяўчынкай у беларускім строі. Фота з былога Беларускага музэю імя Івана Луцкевіча ў Вільні

*Арлы-брацьці, дайце скрыдлы,*
*Бо унізе жыць мне збрыдла,*
*Кіньце кожны адно пёрка,*
*Бо жыць ўнізе стала горка...*

Арлы ці анёлы скінулі ёй пёркі ў 1916-м, калі Цётка, лекуючы землякоў ад тыфу, не ўратавалася сама.

**Цётка (ад нараджэньня Алаіза Пашкевіч)**
15.7.1876, фальварак Пешчын, цяпер Шчучынскі раён — 17.2.1916, в. Стары Двор, Шчучынскі раён.
Пахаваная ў в. Стары Двор.

Кажуць, паэзія ня здольная зьмяніць сьвет. Напэўна, так, але я не сумняюся, што ў яе сілах павярнуць у іншым кірунку лёс асобнага чалавека.

Жывое сьведчаньне — мой сябар Вінцэсь Мудроў, які ў школьным юнацтве (тады яшчэ Віця) аднойчы выцягнуў з кучы сабранай піянэрамі макулятуры хрэстаматыю беларускай літаратуры. Нескладана ўявіць, зь якімі пачуцьцямі перагортваў гэтую зацухмоленую, прапахлую цьвільлю кнігу вызвалены ад вывучэньня беларускай мовы сын афіцэра-расейца. Але здарылася дзіва, пра якое сам Вінцэсь апавядае ў сваёй кнізе «Ператвораныя ў попел»:

# Максім Багдановіч



«*Па-над белым пухам вішняў, быццам сіні аганёк...*» Я прачытаў верш паўшэптам і адразу ж запомніў. Тут жа, у хрэстаматыі, былі «Вечар на захадзе ў попеле тушыць...», «Прывет табе, жыцьцё на волі!..» і нарэшце «Зорка Вэнэра». Максімавы вершы папросту ашаламілі...

Мяне апанавала Беларусь. Не, ня тая Беларусь, дзе я нарадзіўся і жыў... а той край, дзе жылі Максім і Вэраніка, дзе тнулі ў неба вежы касьцёлу Сьвятой Ганны і над зямлёю, працінаючы сэрцы закаханых вострымі дзідамі промняў, узыходзіла зорка Вэнэра.

Кругагляд маёй душы, у якім не хапала аднаго сэгмэнту, набыў завершаную форму».

Дадамо, што Мудроў неўзабаве зрабіўся рэдактарам самвыдавецкага літаратурнага альманаху «Блакітны ліхтар», а па часе — адным з найцікавейшых сучасных беларускіх пісьменьнікаў.

У Максіма Багдановіча шчасьлівае й лёсавызначальнае адкрыцьцё Беларусі адбылося яшчэ раней. Маючы дзесяць зь нечым гадоў, ён ужо спрабаваў пісаць па-беларуску.

Прытым адзначым: бацька паэта не ўхваляў сынавага захапленьня, мяркуючы, што беларусіка «больш замінала ягоным посьпехам, чым спрыяла».

Падзеяй велізарнае значнасьці ў паэтавым жыцьці сталася паездка ў Беларусь улетку 1911 году. Яго запрасілі супрацоўнікі «Нашае Нівы» Іван і Антон Луцкевічы, якія ўжо бачылі агульнанацыянальны маштаб таленту беларускага юнака зь Яраслаўлю.

У 1915-м нарадзіўся шэдэўр ягонай паэзіі — верш «Пагоня», які стаў адным зь неафіцыйных беларускіх гімнаў:

*Усё лятуць і лятуць тыя коні,*
*Срэбнай збруяй далёка грымяць...*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разьбіць, не спыніць, не стрымаць...*

У 1917-м сябры выправілі яго на лекаваньне ў Ялту... Вядома, што ў свае апошнія дні, «у краіне сьветлай», дзе ён паміраў, паэт займаўся ўкладаньнем беларускага лемантара.

Лемантарамі для тысяч і тысяч беларусаў сталіся ягоныя кнігі.

**Максім Багдановіч**
9.12.1891, Менск — 25.5.1917, Ялта, цяпер Украіна.
Пахаваны на Старых гарадзкіх могілках у Ялце.

Яго яшчэ пры жыцьці называлі бацькам беларускага тэатру. У той самы час суседзі-шляхцічы мелі яго за дзівака, а жонка лічыла вар'ятам.

Скончыўшы Рыскую каморніцкую вучэльню, Ігнат працаваў у розных кутках Беларусі. Каморнікам ён быў нетыповым: калі іншыя сядзелі пры картах і пляшцы, Буйніцкі ішоў на вячоркі, адкуль вяртаўся з запісамі песьняў, замалёўкамі народных строяў і арнамэнтаў. Зь юнацтва ім валодала мара зусім не пра спакойнае заможнае жыцьцё — тая мара, якая прывяла ў прыватную драматычную студыю ў Вільні, а потым дапамагла згуртаваць вакол сябе групу артыстаў-аматараў.

# Ігнат Буйніцкі

Хутка ў родных Палевачах і ў блізкіх Празароках Буйніцкаму зрабілася цесна. У 1910-м ён з сваімі танцорамі зь вялікім розгаласам выступае на першай віленскай беларускай вечарынцы, а неўзабаве,



Ігнат Буйніцкі (у цэнтры) з сваімі акторамі

укладаючы ў справу ледзь ня ўсе ўласныя сродкі, стварае прафэсійную трупу — сынтэтычны сцэнічны калектыў, дзе акторы служылі адразу некалькім музам. Узорам такога майстра быў сам дзядзька Ігнат: упэўнена выходзіў на сцэну ў драматургічных творах, артыстычна дэклямаваў вершы, выдатна танцаваў, сьпяваў сола і ў хоры.

У 1910—1911 гадах трупа Буйніцкага зьдзейсьніла трыюмфальныя гастролі па Беларусі, выступіўшы з паказамі ў Дзісьне, Сьвянцянах, Паставах, Полацку, Нясьвіжы, Слуцку... У Менску, дзе тэатар ставіў «Моднага шляхцюка» К. Каганца і «Па рэвізіі» М. Крапіўніцкага, артыстаў засыпалі ружамі. Пасьля спэктакляў Буйніцкага ў Пецярбургу й Варшаве газэты пісалі пра «калясальны посьпех» тэатру, што «будзіць у беларусаў пачуцьцё нацыянальнай годнасьці».

Улады зрабілі свае высновы: рэжысэра і яго артыстаў узялі пад паліцэйскі нагляд, паказы пачалі забараняць. Уціск і матэрыяльныя праблемы змусілі зачыніць тэатар, але не разлучылі з мастацтвам. Паводле згадкі аднаго з удзельнікаў трупы, дзядзька Ігнат памёр на сцэне падчас рэпэтыцыі.

«Некалі, — пісала ў тыя часы «Наша Ніва», — калі прабудзіцца сьвядомасьць ува ўсяго беларускага народу, памяць Буйніцкага будзе сьвятой для ўсіх».

У 1970-я гады на ягонай радзіме зьявіўся помнік. Праўда, да абуджэньня сьвядомасьці ўсяго народу яшчэ далекавата. Запытаўшыся нядаўна ў Празароках у сустрэчнага дзядзькі, дзе помнік Буйніцкаму, я пачуў пытаньне ў адказ: «Што такое помнік?»

**Ігнат Буйніцкі**
22.8.1861, фальварак Палевачы, цяпер в. Палевачы, Глыбоцкі раён — 22.9.1917, паблізу в. Палачаны, цяпер Маладэчанскі раён.
Перапахаваны ў мяст. Празарокі, Глыбоцкі раён.

Яе надзвычай часта называлі «першай прыгажуняю на Літве».

Апалёнія паходзіла з роду Далеўскіх, які даў паўстаньню 1863-га трох кіраўнікоў. Улетку папярэдняга году яна выйшла ў Кейданах замуж за капітана расейскага Генштабу Зыгмунта Сракоўскага. Шчасьце было нядоўгім: праз колькі месяцаў Зыгмунт, блізкі паплечнік Каліноўскага, ачоліў збройнае змаганьне на Ковеншчыне і, цяжка паранены, трапіў у палон да расейскіх карнікаў.

22-гадовую Апалёнію прывялі да Зыгмунта ўначы перад сьмяротным пакараньнем. Юная жанчына ўжо

## Апалёнія Серакоўская



чакала дзіця. 15-хвіліннае спатканьне праходзіла пад аховаю пятнаццаці(!) салдат і афіцэраў. Апалёнія размаўляла з мужам, укленчыўшы перад яго ложкам. Праз некалькі гадзін вайсковы доктар перадаў ёй Зыгмунтаву цыдулку: «Анэлі мая! Жыць і быць вольным магу, толькі выдаўшы сяброў. Ніколі ня здолеў бы пайсьці на гэта, таму падпісаў сабе сьмяротны прысуд. Памру чысты і незаплямлены. Буду кахаць цябе, буду лунаць над табой і нашым немаўлём».

Пасьля мужавай сьмерці на аўдыенцыі ў генэрал-губэрнатара Мураўёва-Вешальніка Апалёнія прасіла не асуджаць яе на выгнаньне. Яна спасылалася на кволае здароўе і цяжарнасьць. На словы ўдавы Серакоўскага, што ў глыбіні Расеі яна ня знойдзе для сябе і дзіцяці добрых дактароў, Мураўёў задаволена

адказаў: «Тым лепей!» Народжаную ў высылцы дачушку Апалёнія назвала ў гонар мужа Зыгмунтай. Малая пражыла ўсяго адзін год.

Серакоўская напісала ўспаміны пра той незабыўны час. Яны поўныя горычы і смутку, але і найцікавейшых дэталяў, што дазваляюць аднавіць шматлікія падзеі паўстаньня, удакладніць партрэты яго герояў. Нельга без хваляваньня чытаць, як паўстанцы прыслалі да Апалёніі сувязнога. Ён папрасіў перадаць яму кашулю Зыгмунта, у якой той быў паранены і паланёны. Тканіну падзялілі на часткі і разаслалі па змагарскіх аддзелах. Сучасьнікі сьцьвярджалі, што ядвабныя, шэрыя ў чорную кратку кавалачкі кашулі натхнялі ваяроў ня горш за баявыя сьцягі.

Апалёнія пераканаўча даводзіць: паўстаньне ў Літве-Беларусі не было польскім. Яна апісвае, напрыклад, сход, дзе адзін з камандзіраў палымяна выступіў супроць варшаўскай апекі: «Польскі камісар мае ўсяго дарадчы голас! Варшава не разумее нашых патрэбаў! Павінны самі радзіць сабе пра дабро сваёй зямлі!» Гэта быў паўстанцкі начальнік Вільні Уладзіслаў Малахоўскі (у эміграцыі ён стаў пад імем Леон Варнэрке вынаходнікам з усясьветнай славай, стварыў правобраз сучаснай фотакамэры).

Успаміны Апалёніі Серакоўскай з роду Далеўскіх перакладзеныя на беларускую мову Станіславам Суднікам. Яны друкаваліся ў газэце «Наша слова», а цяпер чакаюць выданьня кнігаю.

Якраз праз заручальны пярсьцёнак з імёнамі Апалёнія й Зыгмунт і датай іх шлюбу ідэнтыфікавалі знойдзеныя на Замкавай гары ў Вільні ў 2017-м парэшткі Серакоўскага.

**Апалёнія Серакоўская (ад нараджэньня Далеўская)**
19.1.1838, фальварак Кункулка (не існуе), цяпер Лідзкі (?) раён — 2.1.1919, Варшава, Польшча.
Пахаваная на варшаўскіх Паванзкоўскіх могілках.

## Іван Луцкевіч

Я нічагуткі ня чуў пра яго ні ў школе, ні ва ўнівэрсытэце — і, як вы разумееце, зусім не таму, што быў дрэнным вучнем і нядбалым студэнтам.

На ўроках і лекцыях мы Івана Луцкевіча не «праходзілі», а ў Беларускай савецкай энцыкляпэдыі гаварылася нешта пагрозьлівае пра ідэалізацыю Луцкевічам Вялікага Княства Літоўскага і нацыяналістычнае супрацьпастаўленьне адвеку братніх і неразлучных беларускага і расейскага народаў.

Цяпер усё больш беларусаў ведае, што Іван Луцкевіч быў адным з бацькоў Беларускага Адраджэньня, хоць у іншай дзяржаве кожны памятаў бы пра гэта ад першага клясу, як два на два — чатыры.

У юначыя гады на яго, пляменьніка каліноўца, паўплывалі творы Францішка Багушэвіча і бацькавага знаёмага Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча — таксама ўдзельнікаў нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863-га.

Яшчэ падчас навучаньня ў Менскай клясычнай гімназіі Іван разам з малодшым братам Антонам заснаваў гурток, сябры якога былі захопленыя ідэяй дасягненьня для беларусаў нацыянальнай ды сацыяльнай справядлівасьці.

Пасьля ўстаноўчага зьезду нашай першай палітычнай партыі — Беларускай Сацыялістычнай Грамады, — што адбыўся ў 1903 годзе, Іван стаў яе сапраўдным лідэрам, а Антон — галоўным ідэолягам і публіцыстам. Беларускія сацыялісты чынна ўдзельнічалі ў рэвалюцыйных падзеях таго часу.

Гэта Іван Луцкевіч пад выглядам замоўцы зьявіўся пасьля вядомага Курлоўскага расстрэлу ў Менску на фабрыку Якабсона, гудок якой даў сыгнал да ўсеагульнай стачкі пратэсту.

Ён быў разам з братам Антонам заснавальнікам газэты «Наша Ніва», што адыграла выключную ролю ў нацыянальным Адраджэньні, і Беларускага выдавец-

кага таварыства. З ініцыятывы Івана Луцкевіча адчынілася Віленская беларуская гімназія.

Велізарны плён дала ягоная навуковая дзейнасьць. Агледзеўшы сабраныя Іванам скарбы, якія сталіся асноваю Віленскага беларускага музэю, Максім Багдановіч захоплена пісаў: «Гэта ёсьць фундамэнт Адраджэньня. Гэта і за тысячу гадоў будзе сьведчыць пра нас».



Іван Луцкевіч (зьлева) і рэдактар-выдавец газэты «Наша Ніва» Аляксандар Уласаў. 1910 г.

Іван Луцкевіч адным зь першых зразумеў неабходнасьць дзяржаўнай самастойнасьці Бацькаўшчыны і разам з братам Антонам стаў у 1918-м ініцыятарам абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў яе этнаграфічных межах.

Цяжка хворы на сухоты, Іван працягваў аддана працаваць, і, калі сябры ў 1919-м завезьлі яго на курорт у польскае Закапанэ, было ўжо позна.

На пачатку 1990-х жменю зямлі з закапанскіх могілак прывёз у Вільню гісторык Алег Латышонак.

Іван вярнуўся ў любае ягонаму сэрцу «места Віленскае».

**Іван Луцкевіч**
9.6.1881, Шаўлі, цяпер Шаўляй, Літва —
20.8.1919, Закапанэ, Польшча.
Магіла ў Закапанэ не захавалася. Сымбалічна (з братам Антонам) перапахаваны на віленскіх могілках Росы.

Аб чым думае чалавек у трыццаць тры гады перад расстрэлам? На гэтае пытаньне мог бы адказаць ён, Фабіян.

Пераехаўшы з Смаленску, дзе толькі што была абвешчаная БССР, у Менск, яе ўрад заняў на пляцы Волі колішнюю рэзыдэнцыю расейскага губэрнатара і першым чынам распаўсюдзіў у горадзе свой маніфэст. У ім паведамлялася, што ўсе загады Рады БНР лічацца несапраўднымі, а сама Рада зь яе «міністрамі» (гэтае слова было ўзятае ў двукосьсе) абʼяўляецца безабароннай перад законамі. Далейшыя падзеі паказалі, што ў становішчы безабаронных аказаліся самі аўтары маніфэсту. Яскравым пацьверджаньнем стаў лёс Фабіяна Шантыра.

## Фабіян Шантыр



Будучы палітык і пісьменьнік нарадзіўся ў вальналюбным Слуцку. У сваім кароткім жыцьці ён пасьпеў пабыць хатнім настаўнікам, адвакатам, вайсковым пісарам, бухгальтарам... Шантыр друкаваў у «Нашай Ніве» імпрэсіі, наведваў менскую «Беларускую хатку». Там ён спаткаўся з маладой пісьменьніцай Зоськай Верас, якая стала яго жонкай.

На Першым Усебеларускім зьезьдзе Фабіян, кіруючы левай фракцыяй, шукаў хаўрусу з бальшавікамі. Яны не забылі гэтага і ў першым урадзе БССР аддалі яму партфэль наркама нацыянальных справаў. Аднак — усяго на некалькі тыдняў. Ужо ў лютым таго самага 1919 году Шантыра кінулі ў турму. Праз год ён быў зноў арыштаваны, абвінавачаны ў «нацыянальнай контрарэвалюцыі» і расстраляны.

Фабіян Шантыр стаўся першай ахвяраю бальшавіцкага тэрору як у беларускай палітыцы, так і ў беларускай літаратуры.



Гатэль «Эўропа», дзе жылі сябры першага ўраду БССР. 1920-я гг.

Трагічна скלаліся і лёсы іншых сяброў першага ўраду БССР — нацыянал-камуністаў, якім інкрымінавалася імкненьне «организовать независимую белорусскую компартию, что подрывало советскую власть». Камісар працы Язэп Дыла (апрача ўсяго іншага, адзін з пачынальнікаў нашай гістарычнай прозы) пасьля некалькіх арыштаў і высылак мусіў да скону жыць у Расеі. Наркама замежных справаў Усевалада Фальскага ў 1921-м бальшавікі прысудзілі да расстрэлу, які замянілі пяцьцю гадамі катаржнай турмы. Потым былы міністар (яшчэ й таленавіты актор і адзін з стваральнікаў беларускага прафэсійнага тэатру) працаваў рахункаводам. Вяртацца на радзіму было забаронена. «Я нават ня ведаю, на колькі часу я пазбаўлены гэтага права», — у роспачы пісаў ён. Замест даты і месца завяршэньня жыцьцёвага шляху Фальскага ў энцыкляпэдыях стаяць пытальнікі.

**Фабіян Шантыр**
4.2.1887, Слуцак —
29.5.1920, Навазыбкаў, Бранская вобл., Расея.
Месца пахаваньня невядомае.

Чытачы аповесьці Максіма Гарэцкага «Дзьве душы», безумоўна, памятаюць яе галоўнага героя — Ігната Абдзіраловіча. Гэтае імя ўзяў для псэўданіму зусім малады філёзаф, паэт і публіцыст Ігнат Канчэўскі.

Не выпадкова і тое, што і аповесьць Гарэцкага, і праграмнае маральна-філязофскае эсэ Канчэўскага-Абдзіраловіча «Адвечным шляхам: Дасьледзіны беларускага сьветагляду» на доўгія дзесяцігодзьдзі былі схаваныя ад абкрадзенай ледзь не дарэшты беларускай душы ў спэцфондах.

Сучасны філёзаф Уладзімер Конан параўноўваў адсутнасьць згаданых твораў у нашым нацыянальным кантэксьце з сытуацыяй, калі б, да прыкладу, расейскага чытача пазбавілі кнігаў Льва Талстога або філязофскіх твораў Уладзімера Салаўёва.

## Ігнат Канчэўскі



У Першую ўсясьветную Канчэўскі мусіў зьмяніць аўдыторыі Маскоўскага ўнівэрсытэту на казармы школы прапаршчыкаў і франтавыя акопы. Пазьней, у халодным і галодным Менску, дзе бясконца мянялася ўлада, ён нажыў сухоты, што абмяжуюць яго зямную дарогу ўсяго чвэрткай стагодзьдзя. Вярнуўшыся ў Вільню, ён, апрача шматжанравага супрацоўніцтва з пэрыёдыкай, займаўся заходняй філязофіяй і ўсходнімі філязофскімі практыкамі (нават заснаваў у Віленскай беларускай гімназіі ці ня першы ў краі гурток ёгі).

Як і Гарэцкі, Ігнат Канчэўскі — толькі іншымі сродкамі — дасьледаваў мэтафізыку, драматызм

і містычнасьць быцьця нацыі, зьвязаныя зь яе гістарычным лёсам. Паводле ягонае канцэпцыі, беларускі сьветапогляд узьнік у выніку спрадвечнай барацьбы двух тыпаў культуры — заходняга й усходняга. Цягам сваёй тысячагадовай гісторыі беларусы так і ня здолелі канчаткова далучыцца ні да аднаго, ні да другога. У гэтай раздвоенасьці Канчэўскі бачыў трагедыю нашага народу.

Ён лічыў непрымальнымі для беларусаў і «заходняе» мэсіянства, і мэсіянства «ўсходняе», пад якім разумеў расейскае імкненьне да суцэльнае ўніфікацыі: то «ўся ўлада цару», то «ўся ўлада саветам», што няўхільна вядзе да таталітарызму і тыраніі.

Надрукаванае ў 1921-м у Вільні эсэ «Адвечным шляхам», якое сталася ягонай лебядзінай песьняй, варта перачытаць і нам, беларусам сёньняшнім.

Канчэўскі лічыў, што, насуперак антынацыянальным сілам, Беларусь будзе выратаваная культурным адраджэньнем, духоўнай, гаспадарчай і сацыяльна-палітычнай творчасьцю, але — каб гэта адбылося — трэба стварыць уласныя беларускія формы жыцьця. Філёзаф быў упэўнены: нельга страціць беларушчыны, бо разам зь ёю мы можам пазбавіцца і «лепшай часткі сваёй чалавечнасьці».

На думку Канчэўскага, паўстаньне супраць існых формаў палітычнага быцьця — ня самы плённы шлях, бо ён вядзе да разбурэньня творчых сілаў нацыі. Аднак у ўмовах, калі народ пазбаўляюць свабоды творчасьці, адбіраюць магчымасьць разьвіваць нацыянальную культуру, застаецца альтэрнатыва: альбо рэвалюцыйны выбух, альбо духоўная дэградацыя і нацыянальны нябыт.

**Ігнат Канчэўскі (псэўданім Ігнат Абдзіраловіч)**
Травень 1896, Вільня — 23.4.1923, Вільня.
Пахаваны на віленскіх Антокальскіх (вайсковых) могілках. Магіла ня знойдзеная.

Зь біяграфіі гэтага чалавека мог бы нарадзіцца добры тузін гістарычных раманаў. Адзін зь іх я пачаў бы з таго, як вучань чацьвертага кля-су Віленскай гімназіі Зыгмунт Мінейка пасьля цырымоніі прысягі імпэратару Аляксандру II пад сакрэтам паведаміў сябрам, што паставіў на падпісным аркушы прыдуманае прозьвішча і, такім чынам, лічыць сябе не зьвязаным ніякімі абавязкамі.

Юнак стаў студэнтам адной з самых прэстыжных навучальных установаў імпэрыі — Акадэміі генэральнага штабу і павінен быў атрымаць дыплём вайсковага інжынэра, але хутка далучыўся да вызвольнага руху.

## Зыгмунт Мінейка



У жніўні 1861-га агент III аддзяленьня даносіў начальству, што «кадет Сигизмунд Минейко ходит переодет крестьянином и разносит сочиненную неким Марцинкевичем на народном языке «Гутарку старога дзеда», где в стихах представлены судьбы Литвы и все притеснения приписаны российскому правительству». У выніку пільнасьці жандарскага шпега юнак мусіў тэрмінова сесьці ў паштовую карэту, каб урэшце апынуцца ў Генуі. Там Джузэпэ Гарыбальдзі адчыніў вайсковую школу для моладзі з былой Рэчы Паспалітай.

У 1863-м Мінейка — паўстанцкі начальнік Ашмянскага павету — трапляе ў рукі расейскіх карнікаў і выслухоўвае сьмяротны прысуд. Але прага Мураўёва-Вешальніка да грошай такая бязьмежная, што Зыгмунтавай маці шанцуе выкупіць сынава жыцьцё за 9 тысяч рублёў.

Наперадзе — дванаццаць гадоў катаргі ў Нерчынскіх капальнях. Аднак пакутны шлях нядаўняга камандзіра інсургентаў у Сібір дае віртуальнаму раманісту новы паварот сюжэту. На этапе Зыгмунт бярэ імя падобнага да яго памерлага таварыша, што засуджаны адно на пасяленьне. Паведаміўшы канвою пра ўласную «гібель», ён застаецца ў Томску і адчыняе там прыбытковую шапачную майстэрню. Праз нейкі час пад выглядам сібірскага купца Зыгмунт ужо запісваецца на прыём да самога пецярбурскага генэрал-губэрнатара і атрымлівае зь яго рук замежны пашпарт.

У Парыжы ён заканчвае Акадэмію генштабу. Але Мінейкам не задаволеныя: былы паўстанец лічыць, што ня мае маральнага права служыць у Замежным легіёне, які ваюе ў Альжыры.

Другой радзімаю становіцца для яго Грэцыя.

Славу прыносяць Мінейку ня толькі шматлікія праекты дарог і мастоў, але і археалягічныя экспэдыцыі. Адна зь іх завяршаецца сэнсацыйным адкрыцьцём згаданага Сакратам храму Зэўса ў Дадоне. Зыгмунт рэстаўраваў легендарны Мармуровы стадыён у Афінах — сымбаль адроджаных Алімпійскіх гульняў. Грэцкі парлямэнт надаў нашаму суайчыньніку званьне ганаровага грамадзяніна гэтай краіны. Мінейка вітаў распад Расейскай імпэрыі ды імкненьне сваіх землякоў да незалежнасьці.

Ягоны ўнук Андрэас Папандрэў двойчы быў прэм'ер-міністрам Грэцыі.

Згадайце гэта, калі будзеце ўздымацца на афінскі Акропаль.

**Зыгмунт Мінейка**

1840, в. Балванішкі, цяпер Зялёны Бор, Ашмянскі раён — 27.12.1925, Афіны, Грэцыя.

Пахаваны ў Афінах.

Трапіўшы ў Прагу, дасьведчаны беларускі падарожнік абавязкова наведае адзін зь яе найбуйнейшых нэкропаляў — Альшанскія могілкі.

Паміж шыхтоў надмагільных помнікаў шматлікім «белым» генэралам і казацкім палкоўнікам, паўзь месца апошняга прыстанку маці Ўладзімера Набокава ўтравелая сьцежка прывядзе да плітаў з надпісамі па-беларуску.

Тут пахаваныя Старшыня Рады БНР Васіль Захарка з жонкаю і геніяльны опэрны тэнар Міхал Забэйда-Суміцкі.

Непадалёку, праваруч ад праваслаўнае царквы пад помнікам з Пагоняю, спачывае прах яшчэ аднаго Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі — Пётры Крачэўскага.

## Пётра Крачэўскі



У 1917-м ён, выпускнік Віленскай духоўнай сэмінарыі, потым настаўнік, банкаўскі службовец і вайсковец, бярэ ўдзел у Першым Усебеларускім зьезьдзе й абіраецца сябрам яго выканкаму.

Праз два гады Крачэўскі ўзначаліў Раду БНР, што ў тых палітычных умовах прывяло да непазьбежнай эміграцыі — спачатку ў Літву, а затым у Чэхаславаччыну.

Пётра знаходзіўся ў ліку палітыкаў, якія выступілі супраць пастановаў Бэрлінскай Усебеларускай канфэрэнцыі, дзе Менск быў прызнаны адзіным цэнтрам нацыянальна-



Першы Ўсебеларускі зьезд, дэлегатам якога быў Пётра Крачэўскі, распачаў свае паседжаньні ў будынку Менскага гарадзкога тэатру (цяпер Нацыянальны тэатар імя Янкі Купалы)

дзяржаўнага Адраджэньня Беларусі і дзе прагучаў заклік вяртацца ў савецкую Беларусь.

Пяру Пётры Крачэўскага належаць паэтычныя й драматургічныя творы, але найперш ягоны талент удумлівага гісторыка і літаратара выявіўся ў эсэ й артыкулах, прысьвечаных асобам і падзеям беларускай мінуўшчыны.

У адным зь іх — эсэ «Скарына і незалежнасьць» — Старшыня Рады БНР напісаў словы, сэнс якіх непадуладны часу: «Бяз мовы няма нацыі, без культуры — няма народу і ня можа быць Незалежнасьці, сваёй уласнай дзяржавы».

**Пётра Крачэўскі (Крэчэўскі)**
7.8.1879, в. Дубна, цяпер Мастоўскі раён —
8.3.1928, Прага, Чэхаславаччына.
Пахаваны на праскіх Альшанскіх могілках.

Ён з тых, хто сваім жыцьцём абвяргае накінутую беларусам учэпістую думку, нібыта яны былі пазбаўленыя сваёй арыстакратыі.

Дзякуючы яму нашая сталіца ўжо другое стагодзьдзе мае адну з сваіх непаўторных адметнасьцяў — ратаваны Богам ад сучасных герастратаў Чырвоны касьцёл, або, дакладней, касьцёл Сьвятых Сымона й Алены. (Ёсьць сьведчаньні некалькіх сучасьнікаў, што Машэраў распарадзіўся зьнесьці храм, які «портил лицо социалистического города», аднак ажыцьцяўленьню злачыннага намеру партыйнага кіраўніка рэспублікі перашкодзіла яго сьмерць.)

## Эдвард Вайніловіч



Вайніловіч належаў да найбагацейшых абшарнікаў краю, але, скончыўшы Пецярбурскі тэхналягічны інстытут і выправіўшыся ў Эўропу на стажыроўку, вырашыў пачаць яе простым работнікам на бэрлінскім паравозабудаўнічым заводзе.

Вярнуўшыся ў Беларусь і заняўшыся сельскай гаспадаркай, Вайніловіч хутка ператварыўся ці ня ў самага пасьпяховага прадпрымальніка ў сваёй галіне, аднак ніколі не абмяжоўваўся эканамічнымі інтарэсамі. Ён адчыняў дзіцячыя прытулкі і школы, бараніў справы Літвы-Беларусі як дэпутат расейскай Дзяржаўнай думы. Зусім небеспадстаўна Вайніловіча называюць першым беларускім экумэ-

ністам: ён фундаваў будаўніцтва касьцёлаў і праваслаўных цэркваў, заснаваў у Клецку камітэт абароны правоў габрэяў і татараў-мусульманаў.

Свой род ён — выпускнік славутай Слуцкай гімназіі — заўсёды называў «мясцовым, беларускім», а ў мэмуарах пісаў пра «сталы кантакт з усімі праявамі беларускага руху».

Вайніловіч і беларушчына — тэма для добрай дысэртацыі. Фундатар нашага першага легальнага выдавецкага таварыства «Загляне сонца і ў наша ваконца», шчодры ахвярадаўца «Нашае Нівы»...

Сапраўдны стацкі саветнік Эдвард Вайніловіч меў пяць царскіх ордэнаў, сябраваў з старшынём расейскага савету міністраў Пятром Сталыпіным, які прапаноўваў беларускаму арыстакрату пасаду міністра сельскай гаспадаркі. Аднак той марыў пра аднаўленьне Вялікага Княства Літоўскага, у 1918-м браў удзел у паседжаньнях Ураду БНР і выступаў супраць падзелу краіны Масквой і Варшавай. Менавіта ў слуцкім доме Вайніловіча зьезд Случчыны абвясьціў падрыхтоўку да антыбальшавіцкага паўстаньня.

Эдвард Вайніловіч быў узорным мужам і бацькам, але Бог забраў у яго дзяцей, Сымона (1885—1897) і Алену (1884—1903), у гонар якіх у 1910 годзе і быў узьведзены Чырвоны касьцёл.

З ініцыятывы ксяндза-магістра Ўладзіслава Завальнюка ў 2006-м парэшткі Эдварда Вайніловіча былі ўрачыста перапахаваныя ў фундаваным ім храме.

Праз дзесяць гадоў быў распачаты працэс яго бэатыфікацыі.

**Эдвард Вайніловіч**
13.10.1847, маёнтак Сьляпянка, цяпер у межах Менску — 16.6.1928, Быдгашч, Польшча.
Перапахаваны ў менскім касьцёле Сьвятых Сымона й Алены.

Незалежна ад таго, вядома гэта цяперашняму кіраўніку Беларусі альбо не, у нашай ня вельмі далёкай мінуўшчыне ўжо быў яшчэ адзін законна абраны прэзыдэнт-беларус.

Нават пачатак жыцьцёвага шляху выдаваў у Судзілоўскім асобу неардынарную й свабодалюбную. Вывучаючы мэдыцыну ў Кіеве, ён зьвязваецца з народнікамі й наведвае Швайцарыю, каб пазнаёміцца з ідэолягам народніцтва Пятром Лаўровым і тэарэтыкам анархізму Міхаілам Бакуніным.

Неўзабаве разам зь іншымі рэвалюцыянэрамі Судзілоўскі зьдзяйсьняе сваё «хаджэньне ў народ» у Херсонскай й Самарскай губэрнях. Але тамтэйшы народ глядзеў на агітатара зь недаверам і дзяліўся ўласнымі сумневамі з паліцыяй, у выніку чаго нядаўні студэнт апынаецца на эміграцыі.

## Мікалай Судзілоўскі



У Бухарэсьце ён піша дысэртацыю ў галіне хірургіі, адначасова займаючыся пастаўкамі зброі баўгарскім паўстанцам Хрыста Боцева.

Пасьля падрыхтоўкі ў адной з рэстарацыяў румынскай сталіцы банкету ў гонар 10-годзьдзя Парыскай камуны, няўрымсьлівы беларус, ратуючыся ад паліцыі, трапіў у Амэрыку, дзе выславіўся тым, што вылечыў сотні безнадзейна хворых і падаў у суд на прадстаўніка расейскага «Священного синода» Алеуцкага й

Аляскінскага япіскапа Ўладзіміра, абвінаваціўшы таго ў карупцыі й амаральнасьці.

Апынуўшыся на Гаваях, Судзілоўскі салідарызуецца з прыхільнікамі іх незалежнасьці ад ЗША і здабывае як лекар і палітык такі аўтарытэт, што беларуса выбіраюць сэнатарам, а затым і прэзыдэнтам Гавайскіх выспаў (які, аднак, усё ж не патрапіў справіцца з анэксіянісцкімі памкненьнямі магутнага суседа).

Расейска-японская вайна прывяла экс-прэзыдэнта Гавайскай Рэспублікі ў Краіну ранішняга сонца, дзе ён спрабуе стварыць з палонных расейскіх салдатаў рэвалюцыйную армію і рушыць зь ёю на Пецярбург...

Мудра адмовіўшыся пазьней ад настойлівых прапановаў новых бальшавіцкіх уладаў вярнуцца на радзіму, былы рэвалюцыянэр, які стаў вядомым у сьвеце вучоным, сябрам Амэрыканскай асацыяцыі генэтыкаў і Нацыянальнага геаграфічнага таварыства, завяршыў сваё доўгае жыцьцё ў Кітаі, пакінуўшы ўласнаручна складзеную эпітафію: «Hic jacet Lumpatius Vagabundus» — што ў перакладзе з лаціны значыць: «Тут ляжыць вандроўны жабрак».

Нягледзячы на такую сьціплую самаацэнку, Судзілоўскаму прысьвечанае мноства нарысаў, артыкулаў і кніг у розных краінах, у тым ліку і двухтомавая манаграфія ў Японіі. Блізу дзясятку празаічных і паэтычных твораў пра першага й апошняга прэзыдэнта Гаваяў налічвае айчынная літаратура.

Пасьля таго, як у супроцьвагу так і не прыручанаму ўладай Саюзу беларускіх пісьменьнікаў у краіне быў створаны новы, «чэсны» й правільны саюз, ня меншая колькасьць твораў нібыта мусіла нарадзіцца і ў гонар першага прэзыдэнта Беларусі. Але нават «чэсныя» майстры прыгожага пісьменства чамусьці забуксавалі.

**Мікалай Судзілоўскі**
15.12.1850, Магілеў — 3.4.1930, Чунчын, Кітай.
Пахаваны ў сямейным склепе «Ахара», Амакуса, Японія.

## Усевалад Ігнатоўскі

Ягонае імя я ўпершыню пачуў у свае студэнцкія 1970-я. На лекцыі з гісторыі БССР тагачасны загадчык катэдры гэтае дысцыпліны, аўтар убогага й наскрозь фальсыфікатарскага школьнага падручніка прафэсар Лаўрэнці Абэцэдарскі палымяна выкрываў палітыку беларусізацыі й аднаго зь яе кіраўнікоў — Ігнатоўскага. Той, маўляў, разам з хаўрусьнікамі прымушаў беларусаў казаць і пісаць «секунцы», а не «катлеты», і «макраступы» заміж спрадвечных беларускіх «галёшаў», а потым канчаткова здрадзіў генэральнай лініі партыі і ці то пад страхам заслужанага пакараньня, ці то ў хвіліну раскаяньня застрэліўся.

Вось і ўсё, што трэба было ведаць будучым гісторыкам пра знакамітага вучонага, які займаўся распрацоўкай канцэпцыі нацыянальнай гісторыі паводле прынцыпу дзяржаўнасьці і нацыянальнай самастойнасьці беларусаў.

Пра аўтара першага ў айчыннай гістарыяграфіі грунтоўнага дасьледаваньня вызвольнага паўстаньня 1863—1864 гадоў.

Пра наркама асьветы, за якім быў адчынены Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт.

Пра першага прэзыдэнта Беларускай Акадэміі навук, стварэньне якой можна лічыць вяршыняю беларусізацыі.

Перасьлед і цкаваньне Ўсевалада Ігнатоўскага пачаліся ў 1929-м. Яму прыгадалі і паходжаньне зь сям’і сьвятара — «клясава варожага пралетарыяту асяродзьдзя», і эсэраўскае мінулае, і прыкрыцьцё «нацдэмаў», што зьвілі сваё «асінае кубло» ў самой Акадэміі навук.

Выклікі ў ОГПУ рабіліся ўсё часьцейшымі. У «навуковых» дыскусіях, якія вяліся з Ігнатоўскім у тым доме, выкарыстоўваліся спэцаргумэнты з традыцыйнага арсэналу «майстроў заплечных справаў».



Вярнуўшыся пасьля аднаго з допытаў дадому, Ігнатоўскі дастаў з шуфляды пісталет...

Прэзыдэнта Акадэміі навук пахавалі похапкам, раніцой, употай ад сяброў і калегаў.

Ягоная магіла захавалася на Вайсковых кладах нейкім дзівам.

Улада працягвала помсьціць Ігнатоўскаму і пасьля сьмерці.

У жудасным 1937-м была «як член сям'і здрадніка» засуджаная на восем гадоў лягераў жонка, расстраляныя сыны Юры і Валянцін.

Дагэтуль на сьценах акадэмічнага Інстытуту гісторыі няма мэмарыяльнай таблiцы Ўсеваладу Ігнатоўскаму. Затое вісяць дошкі Горыну і Шчарбакову — бальшавіцкім фальсыфікатарам беларускай мінуўшчыны.

Ці згадаюць пра яго ў цяперашнім Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь? Наўрад. Бо замест дэвізу наркама асьветы Ігнатоўскага — «Вучыць беларуса на беларускай мове!» — міністэрскія сьцены аздобленыя партрэтамі чалавека, які публічна сьцьвярджаў, што на гэтай мове анічога значнага ні стварыць, ні выказаць немагчыма.

**Усевалад Ігнатоўскі**
19.4.1881, в. Такары, цяпер Камянецкі раён —
4.2.1931, Менск.
Пахаваны на менскіх Вайсковых могілках.

Мне выпала быць крыху знаёмым зь некалькімі полацкімі япіскапамі. Адзін пры сустрэчы заўсёды сварыўся на дэмакратаў: «Какую страну развалили!» Другі, выступаючы ў бібліятэках, не рэкамэндаваў чытаць Рыгора Барадуліна («униат») і Васіля Быкава («занял неправильную позицию»). Трэці часта хадзіў у вайсковым галіфэ і прынцыпова ніколі не сказаў і трох беларускіх словаў.

Я рытарычна пытаюся ў сябе: ці было б такое магчыма ў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве, прыхільнікам стварэньня якой быў мітрапаліт Мэльхісэдэк? (Яго старазапаветнае, атрыманае пры пострыгу ў манахі, імя азначае «цар праўды».)

## Мэльхісэдэк

У дваццаць восем гадоў яму ўручылі жазло ігумена Магілеўскага брацкага манастыра. У 1919-м ён заняў пасаду япіскапа Менскага і Тураўскага. Баронячы правы праваслаўных, у занятым палякамі Менску ўладыка Мэльхісэдэк дамогся сустрэчы з кіраўніком адноўленай Польскай дзяржавы Юзафам Пілсудзкім, у размове зь якім, дарэчы, адхіліў прапанову ўзначаліць Польскую аўтакефальную праваслаўную царкву.

Абраны ў 1922 годзе мітрапалітам Менскім і Беларускім, ён зьвярнуўся да сьвятароў і вернікаў з пасланьнем, дзе ўтварэньне БССР назваў падставаю для аўтаноміі Беларускай праваслаўнай царквы, што ў пэрспэктыве павінна было прывесьці да яе аўтакефаліі. Апрача таго, беларускі ярарх адкрыта заявіў пра падтрымку нацыянальнага Адраджэньня і неабходнасьць увесьці ў набажэнствы беларускую мову*.

Ці трэба зьдзіўляцца, што неўзабаве ён апынуўся пад хатнім арыштам? Мэльхісэдэк адмовіўся ад

* Варта адзначыць, што падчас навучаньня ў духоўнай сэмінарыі будучы мітрапаліт быў аднакашнікам будучага гісторыка і палітыка, першага прэзыдэнта Беларускай Акадэміі навук Усевалада Ігнатоўскага.



усялякіх кантактаў з створанай пад патранатам бальшавікоў гэтак званай «абнаўленцкай царквой». Улады адказалі антыцаркоўным судовым працэсам, які, зрэшты, набыў непажаданы для ініцыятараў характар. Справу спусьцілі на тармазах, і мітрапаліту прысудзілі тры гады пазбаўленьня волі ўмоўна.

Радасьць ягоных прыхільнікаў была нядоўгая. Мэльхісэдэка выклікалі ў Маскву і кінулі ў сумназнакамітую Бутырку, адкуль адправілі на пасяленьне ў Марыінск. У сібірскія маразы хворы на сухоты ўладыка мусіў карміць сьвіней і выкідаць з хлявоў гной. Пасьля вызваленьня ён імкнуўся вярнуцца ў Беларусь, але ў выніку зноў і зноў трапляў за краты. Неўзабаве яго напаткала загадкавая сьмерць падчас набажэнства ў адным з маскоўскіх сабораў.

Ужо даўно гучаць прапановы пра далучэньне Мэльхісэдэка да беларускіх сьвятых. Адпаведны зварот да Сыноду Беларускай праваслаўнай царквы прагучаў і ў прысьвечанай уладыку кнізе Тацяны Працькі «Пакутнік за веру і Бацькаўшчыну».

Кніга выйшла ў 1996-м. Сынод дагэтуль думае.

**Мэльхісэдэк (ад нараджэньня Міхаіл Паеўскі)**
15.11.1878, в. Вітуліна, цяпер в. Вітулін, Бельскі павет, Люблінскае ваяводзтва, Польшча —
17.5.1931, Масква, Расея.
Пахаваны на маскоўскіх Праабражэнскіх могілках.

У архіўным рамане Сяргея Шупы «Падарожжа ў БНР», дзе ўзнаўляецца, у прыватнасьці, атмасфэра Першага Ўсебеларускага зьезду ў сьнежні 1917 году, ёсьць незабыўны эпізод. Адзін з бальшавіцкіх прадстаўнікоў падняўся на сцэну, паказаў на белчырвона-белы сьцяг над трыбунай і заклікаў скінуць «национальную тряпку», узьняўшы «красное знамя Интернационала». Адказ на бальшавіцкую вылазку даў дэлегат зьезду генэрал Канстанцін Аляксееўскі: выйшаў да трыбуны і пацалаваў сьцяг.

Тое самае, каб прысутнічаў на зьезьдзе, мог бы, бясспрэчна, зрабіць і іншы генэрал, які далучыўся да беларускага руху, — Кіпрыян Кандратовіч, што тады ўжо намагаўся стварыць нацыянальныя збройныя сілы.

## Кіпрыян Кандратовіч



Яго, выпускніка акадэміі Генштабу, неаднаразова параненага ў баях і ўзнагароджанага францускім Ордэнам Ганаровага легіёну, ордэнам Італійскай кароны і дзесяцьцю расейскімі ардэнамі, называлі «львом у мундзіры». У расейскай арміі Кандратовіч стаў, дарэчы, самым маладым генэралам ад інфантэрыі (вышэй стаяў адно фэльдмаршал).

У 1917-м «леў у мундзіры» рашуча далучыўся да беларускага руху, якому спачуваў, верагодна, яшчэ з пачатку Першай усясьветнай вайны. Аўтар гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» Макар Краўцоў напіша пра генэрала: «Яго вяло да нас шчырае беларускае сэрца».

На зьезьдзе беларусаў Заходняга фронту Кандратовіча абралі ў Цэнтральную Беларускую вайско-

вую раду. Ён кіраваў бюро ў справах арганізацыі беларускага войска і ў расейскай Стаўцы, на перамовах з галоўнакамандуючым Духоніным, дабіўся дазволу на фармаваньне сваіх нацыянальных аддзелаў. Меркавалася, што ў Менску будзе створаны беларускі полк, а затым — беларускі корпус на Заходнім фронце. Кастрычніцкі бальшавіцкі пераварот перакрэсьліў гэтыя пляны.

Кандратовіч быў прызначаны міністрам абароны ва ўрадзе БНР на чале з Раманам Скірмунтам. Разам з палкоўнікам Кастусём Езавітавым займаўся стварэньнем 1-га беларускага палка ў Горадні. Як сябра Рады БНР ён прапанаваў праект 200-тысячнага беларускага войска, сьцьвярджаючы, што яго падтрымаюць віленскія банкіры. (Нямецкія акупацыйныя ўлады не далі на гэта згоды і адмовіліся ад паставак зброі.) Як удзельнік беларускай дэлегацыі ў 1919-м Кандратовіч імкнуўся бараніць інтарэсы Айчыны на Парыскай мірнай канфэрэнцыі...

Перажыўшы крах сваіх спадзяваньняў, немалады, неўзабаве прыкуты да інваліднага вазка генэрал жыў у маёнтку Гародна на Лідчыне. Ён выпісваў беларускую прэсу, друкаваў там успаміны пра афіцыйныя і закулісныя падзеі Парыскай канфэрэнцыі. Пахавалі былога міністра БНР у вайсковым мундзіры, што некалі быў на ім падчас раненьня.

Тэлеканал «Белсат» зьняў пра Кандратовіча фільм, а пісьменьнік і краязнаўца Леанід Лаўрэш напісаў кнігу «Генэрал, які дайшоў да Беларусі».

**Кіпрыян (Цыпрыян) Кандратовіч**
28.4.1859, маёнтак Зіновічы, цяпер в. Зіновічы, Лідзкі раён — 31.10.1932, маёнтак Гародна, цяпер в. Пагародна, Воранаўскі раён.
Перапахаваны ў Воранаве.

На васямнаццатым годзе жыцьця Жылка прысутнічаў на Першым Усебеларускім зьезьдзе, стаўшы адным з самых маладых яго ўдзельнікаў. Незалежніцкія ідэі натхнялі яго музу, што вывела паэта на першую сустрэчу з чытачом у векапомным 1918-м і ў хуткім часе зрабіла яго прызнаным паэтам «чыстай красы».

У гістарычна-філязафічным этудзе «Беларусь-Крыўя» Жылка пісаў: тэму Бацькаўшчыны можна вырашыць «толькі ў плоскасьці сэрца і волі». Беларусь для паэта была нечым матэрыяльным, а Крыўя — «творчасьцю і формай, чыёю сутнасьцю ёсьць нацыя».

## Уладзімер Жылка



Зьмест Крыўі ён разглядаў як кожнае дасягненьне: новы верш, новы навуковы твор...

Пасьля Менску і Вільні, пасьля ўдзелу ў заходнебеларускім вызвольным руху ў ягоным жыцьці была Прага, заняткі ў Карлавым унівэрсытэце, гасьцінным для беларусаў яшчэ ад Сярэднявечча, супрацоўніцтва з эміграцыйнымі часопісамі «Перавясла» і «Прамень». Тым часам у «любай Вільні», якую Жылка, прысьвяціўшы ёй пранікнёныя вершы, назваў «крывіцкаю Мэкай», выходзілі яго паэтычныя кнігі — яскравы беларускі працяг традыцыяў эўрапейскага рамантызму. Дасланыя віленскімі сябрамі аўтарскія асобнікі рабіліся Ўладзімеру найлепшымі лекамі ў санаторыях для сухотнікаў, дзе паэт мусіў бавіць усё болей часу.

У 1926-м Жылка адгукнуўся на запрашэньне аргкамітэту міжнароднай Акадэмічнай канфэрэнцыі па беларускім правапісе і — у ўмовах тагачаснай палітыкі беларусізацыі — вырашыў прыняць савецкае грамадзянства ды застацца ў Менску.

Ілюзіі растали ранішнім туманам над Сьвіслаччу. За тое, што «не набліжаецца да пралетарскай літаратуры», Жылку выключылі з аб'яднаньня «Маладняк». Паэт зь неймаверна высокім майстэрствам радка, які абсалютна вольна пачуваўся ўва ўсіх клясычных формах — ад пэнтамэтру да вэрлібру, інтэлектуал, перакладчык Адама Міцкевіча, Шарля Бадлера і Гэнрыка Ібсэна, ён мусіў зарабляць на хлеб, рэдагуючы траскучыя вершыкі-аднадзёнкі ў рэдакцыі газэты «Зьвязда», але й там зрабіўся непажаданым «элемэнтам».

Арышт у 1930-м у справе Саюзу вызваленьня Беларусі,* высылка ў расейскі Ўржум і абвастрэньне сухотаў зрабілі запаветную думку, выказаную ў апошніх радках ягонай знакамітай паэмы «Тастамэнт», нязбытнаю марай:

*На могілках зацішных Росы*
*Хачу спачыць ад каламут.*
*Сачыцьмуць мой спакой найпільней*
*Муры старой, каханай Вільні.*

Ці здолеюць нашчадкі выканаць запавет?

**Уладзімер Жылка**
27.5.1900, в. Макашы, цяпер Нясьвіскі раён —
1.3.1933, Уржум, Кіраўская вобл. Расея.
Пахаваны на ўржумскіх гарадзкіх могілках.

* Саюз вызваленьня Беларусі, у справе якога ў 1930 г. арыштавалі больш за сто вядомых прадстаўнікоў інтэлігенцыі й буйных дзяржаўных дзеячаў, традыцыйна лічыцца прыдумкаю ОГПУ. Гэтае меркаваньне выглядае спрэчным, бо моцныя незалежніцкія настроі ў беларускім кіраўніцтве і ў інтэлігенцкіх колах былі рэальнасьцю.

Нейкі час я жыў у Менску на вуліцы Купрыянава, дзе ёсьць ціхі сквэр з старасьвецкімі клёнамі. Пад імі я любіў гуляць восеньскімі вечарамі, пакуль не знайшоў перакуленае надмагільле.

Як выявілася, гэта быў зусім ня сквэр, а колішнія зруйнаваныя паводле савецкай завядзёнкі Лютэранскія могілкі, на якіх у трыццатыя гады мінулага стагодзьдзя быў таемна пахаваны беларускі патрыёт япіскап Мікалай Шамяціла. Зрабіў гэта менскі вернік-чыгуначнік, міжвольны сьведка расстрэлу ўладыкі.

У студзені 1920-га рэвідэнт Часовага Беларускага нацыянальнага камітэту па Слуцкім павеце Андрэй Бараноўскі ня безь зьдзіўленьня пісаў у сваю менскую ўправу: «Знайшоў у Слуцку прыхільніка беларускага, папа, які з амбону гаварыў сялянам а Беларусі і а патрэбе яе незалежнасьці. Дакляраваў і далей настаўляць сялян у гэтым кірунку. Прасіў прысылаць газэту й літаратуру».

# Мікалай Шамяціла



Праваслаўным сьвятаром, які прыемна ўразіў сталічнага рэвідэнта сваімі поглядамі, аказаўся Мікалай Шамяціла.

Выпускнік Менскай сэмінарыі й Маскоўскай духоўнай акадэміі, ён у 1914-м быў прызначаны настаяцелем Слуцкага катэдральнага сабору.

Хоць дакумэнтаў пра сувязі айца Мікалая з кіраўнікамі Слуцкага збройнага чыну не захавалася, можна з пэўнасьцю сказаць, што яго патрыятычныя беларускамоўныя казаньні прывялі ў шэрагі паўстанцаў не аднаго случака.

Кандыдат багаслоўя гісторык Фёдар Крыванос піша, што Шамяціла з амбону абвяшчаў: «Цяпер, калі ўсе народы адраджаюцца, павінна і Беларусь адрадзіцца да свайго дзяржаўнага жыцьця».




Менскі клюб чыгуначнікаў, адчынены ў будынку былой Казанскай царквы. 1933 г.

За савецкім часам мітрапаліт Менскі і Беларускі Мэльхісэдэк хіратанізаваў Шамяцілу ў сан Слуцкага япіскапа.

Як і мітрапаліт, айцец Мікалай быў перакананым прыхільнікам стварэньня Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, што лічылася надзвычай небясьпечным і царкоўнымі ўладамі ў Маскве, і бальшавіцкім кіраўніцтвам.

Мэльхісэдэка ў 1925-м судзілі за мітычныя «раскраданьне царкоўнай маёмасьці» і «контрарэвалюцыйную прапаганду».

Па слуцкага ўладыку прыйшлі ў 1926-м.

Празь сем гадоў ОГПУ зноў арыштавала яго ў справе «контрарэвалюцыйнай праваслаўнай паўстанцкай арганізацыі».

Абвяшчэньне сьмяротнага прысуду ён перажыў усяго на два тыдні.

**Мікалай Шамяціла**
1877, в. Аброва, цяпер Івацэвіцкі раён —
23.6.1933, Менск.
Быў пахаваны на былых менскіх Лютэранскіх могілках.
Магіла не захавалася.

Спыняючыся ў Рэчыцы каля помніка Мітрафану Доўнар-Запольскаму, я адразу згадваю ягоныя сказаныя на пачатку XX стагодзьдзя афарыстычна-прарочыя словы: «Народ, які меў сваю дзяржаву, мусіць мець яе зноў»...

Асаблівую ролю ў лёсе Доўнар-Запольскага адыграў Кіеў.

Якраз там яго адлічылі з восьмага клясу гімназіі за чытаньне кнігаў «злачыннага зьместу», а менавіта — Тараса Шаўчэнкі і лістоў да Аляксандра Герцэна. Аднак Мітрафан здолеў здаць гімназічныя іспыты экстэрнам і паступіць у Кіеўскі ўнівэрсытэт.

## Мітрафан Доўнар-Запольскі

Усяго ў дваццаць адзін год, у 1888-м, Доўнар-Запольскі надрукаваў нарыс «Беларускае мінулае», дзе стварыў канцэпцыю гістарычнага разьвіцьця беларускага народу.

У 1905-м калегі віншавалі яго з абаронаю доктарскай дысэртацыі.

Пра шырыню разгляданай вучоным праблематыкі кажуць назовы ягоных дасьледаваньняў: «Да гісторыі Люблінскай вуніі», «Нарыс гісторыі Крывіцкіх і Дрыгавіцкіх земляў да канца XII ст.», «Адносіны беларуса да зямлі».

Ён апублікаваў тэкст Баркулабаўскай хронікі — выдатнага помніка нашага летапісаньня пачатку XVII стагодзьдзя.

Акт 25 сакавіка Доўнар-Запольскі, як сьведчаць сучасьнікі, сустрэў «зь вялікай радасьцю й надзеяй, без ваганьняў і засьцярогаў». Кіеўская місія БНР, у якой ён працаваў, была адной з найбольш дзейных.

На даручэньне нашага незалежніцкага Ўраду вучоны напісаў нарыс «Асновы дзяржаўнасьці Беларусі», які разам з мапаю краіны выйшаў у 1919-м на беларускай, француcкай, нямецкай, польскай і расейскай мовах і стаўся выдатным інфармацыйным дапаможнікам



для ўсіх дыпляматычных прадстаўніцтваў БНР.

У брашуры адзначалася, што «абшару Беларусь мае каля 258 000 кв. км, на якім жыве 12 млн беларусаў і больш як 3 млн іншых нацыянальнасьцяў». Цікава суаднесьці гэтыя лічбы зь іх сёньняшнімі афіцыйнымі адпаведнікамі.

У той час Мітрафан Доўнар-Запольскі разглядаўся як найверагоднейшы кандыдат на пасаду рэктара будучага Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Аднак палітычная сытуацыя надзвычай імкліва мянялася.

У 1925-м ён займаў пасаду прафэсара катэдры гісторыі пэдфаку БДУ, быў старшынём гістарычна-археалягічнай камісіі Інстытуту беларускай культуры, але ўсяго праз год мусіў пераехаць у Маскву.

Неўзабаве, як «ідэйна заганны», асудзілі рукапіс яго кнігі «Гісторыя Беларусі». Гісторык з эўрапейскім імем зарабляў на жыцьцё ў Інстытуце футравай гаспадаркі.

Ягоная «Гісторыя» выйшла ўжо ў незалежнай Беларусі ў 1994-м.

**Мітрафан Доўнар-Запольскі**
14.6.1867, Рэчыца — 30.9.1934, Масква, Расея.
Пахаваны на маскоўскіх Данскіх могілках.

Ягоны самы знакаміты вучань Марк Шагал згадваў першае ўражаньне ад майстэрні настаўніка: карціны паўсюль, апроч столі, — на сьценах, каля сьценаў, на падлозе пад нагамі.

Яшчэ адзін вучань, Заір Азгур, замілавана апавядаў, як Юдаль Моўшавіч адзначаў першыя посьпехі «бедных габрэйскіх хлопчыкаў» цукеркамі, а самога будучага скульптара за ўдала намаляваную маску біблійнага Давіда звадзіў у цырк.

Гэткім жа бедным хлопчыкам некалі быў і сам маэстра. У дзяцінстве мастака часта білі: артадаксальныя юдэі — за тое, што маляваў людзей, а мясцовыя расейскія стараверы — за тое, што «жыд пархаты», а пнецца ў мастакі. Але ахвоты ствараць свой сьвет (потым мастацтвазнаўцы назавуць яго наіўна-прыземленым і разам з тым неверагодна энэргетычным і гіпнатычным) ні тыя, ні другія не адбілі.

## Юдаль Пэн

Юдаль скончыў пецярбурскую Акадэмію мастацтваў, а з 1898 году абраў для жыцьця і творчасьці Віцебск і адкрыў там прыватную Школу маляваньня і жывапісу — першую ў Расейскай імпэрыі габрэйскую мастацкую вучэльню, чыя гісторыя налічвае два дзесяцігодзьдзі.

Выхаванцамі Пэна былі Восіп Цадкін, Лазар Лісіцкі, Яфім Мінін, Леў Лейтман, Аскар Мешчанінаў, Давід Якерсон, Саламон Юдовін...

Якраз на аснове той школы была з ініцыятывы губэрнскага ўпаўнаважанага ў справах мастацтваў Марка Шагала ўтвораная славутая Віцебская народная мастацкая вучэльня, выкладаць у якой удзячны вучань запрасіў «шаноўнага майстра Пэна».

Шагал захоўваў удзячнасьць настаўніку праз усё жыцьцё і ў лістах з Парыжу ніколі не забываўся запытацца: «Я очень интересуюсь знать, как Ваше драгоценное здоровье». Ён прасіў Пэна напісаць



кнігу-аўтабіяграфію, якую абяцаў выдаць у Эўропе.

Тым часам Юдаль атрымаў у савецкай Беларусі званьне заслужанага габрэйскага мастака. Гэта нібыта сьведчыла аб прызнаньні, але яму так і не далі новай майстэрні, пакінуўшы пакутаваць у трох старых, змрочных пакоях, дзе ад марозу нямелі рукі. Пэн, як заўсёды далёкі ад патрабаваньняў сацрэалізму, па-ранейшаму маляваў сваіх краўцоў, пекараў, гадзіншчыкаў, а часам і талмудыстаў. І — у восемдзесят гадоў — юных аголеных прыгажуняў, што проста дыхалі эратычнай пачуцьцёвасьцю. З адной зь іх яшчэ поўны сілаў мастак цалкам паважна зьбіраўся ўзяць шлюб.

Сваякі сьцьвярджалі: дзядзька Юдаль мог бы дажыць да ста гадоў. Аднак у першую вясновую ноч 1937-га да дзьвярэй мастака падышоў чалавек зь сякерай.

Паводле адной з вэрсіяў, прычынай жахлівага забойства маглі быць сувязі з Шагалам і намер Пэна зьехаць за мяжу. Менскага сьледчага, які нібыта пачаў дакопвацца да праўды, неўзабаве знайшлі забітым з уласнага пісталета.

**Юдаль (Іегуда) Пэн**

5.6.1854, Новааляксандраўск, цяпер Зарасай, Літва — 1.3.1937, Віцебск.

Пахаваны на віцебскіх Старасямёнаўскіх могілках.

# Язэп Адамовіч

Людзі з прозьвішчам Адамовіч ужо ня першае стагодзьдзе адыгрываюць адметную ролю ў нашай гісторыі. Адным зь першых у гэтым шэрагу стаіць чалавек, які яшчэ ў студэнцкія гады прывабіў мяне спрадвечна беларускім імем — Язэп.

Узяўшы ў рукі вінтоўку ў сямнаццаць гадоў, Язэп удзельнічаў у Першай усясьветнай вайне. Тры Георгіеўскія крыжы зрабілі унтэр-афіцэра Адамовіча на фронце амаль легендай.

Пасьля кастрычніцкага перавароту 1917 году Язэп камандаваў вайсковымі аддзеламі, што стрымлівалі нямецкіх інтэрвэнтаў пад Барысавам, Магілевам і Смаленскам. У дваццаць адзін год ён — ваенны камісар Смаленскай губэрні, якую лічыў беларускім этнічным абшарам.

Нацыянал-камуніст Адамовіч займаў у БССР пасаду старшыні Савету народных камісараў. У 1924 годзе пад ягоным кіраўніцтвам адбылося вяртаньне ў склад нашай рэспублікі беларускіх Віцебшчыны й Магілеўшчыны, адрэзаных Масквой амаль адразу




Віцебск (як і Магілеў з Гомелем) быў вернуты ў склад Беларусі пры чынным удзеле Язэпа Адамовіча



пасьля абвяшчэньня БССР. У 1926-м удалося дабіцца перадачы з РСФСР у склад Беларусі Гомелю з Рэчыцай і яшчэ сямі паветаў. У выніку тэрыторыя рэспублікі павялічылася з 52 да 126 тысяч квадратных кілямэтраў, або амаль у два з паловаю разы, а насельніцтва — з 1,5 да 5 мільёнаў чалавек. Вярнуць беларускую Смаленшчыну разам зь іншымі нашымі землямі, захопленымі Расеяй, ужо не пасьпелі.

Высокага аўтарытэту беларускага і пасьлядоўна беларускамоўнага кіраўніка не маглі не заўважыць у Маскве. У кар’еры Адамовіча адбываюцца рэзкія зьмены. У 1927-м яго ставяць кіраваць Цукартрэстам, а затым і наагул адпраўляюць начальнікам акцыянэрнага таварыства на Камчатку.

Ідзе 1937-мы. Былы старшыня СНК Беларусі ведае, што ў дзьверы могуць пастукаць у любую ноч. Едучы ў цягніку з Далёкага Ўсходу ў Маскву, ён вырашае сысьці з жыцьця сам...

Калі ў Барысаве будзеце ісьці вуліцай Адамовіча, ведайце: яна названая імем таго, хто разам з аднадумцамі вярнуў нам Віцебск, Магілеў і Гомель.

**Язэп Адамовіч**
7.1.1897, Барысаў — 22.4.1937, цягнік «Уладзівасток — Масква», Расея.
Месца пахаваньня невядомае.

Варта задумацца, як склаўся б лёс Беларусі, каб не беларусізацыя. Суседзі з краінаў Балтыі мелі тады два дзесяцігодзьдзі незалежнасьці, мы — усяго некалькі гадоў уздыму нацыянальных сілаў і ахвярнай працы людзей, абсалютная большасьць якіх неўзабаве была зьнішчаная.

Аляксандар Чарвякоў быў адным зь пяці сябраў Часовага рабоча-сялянскага ўраду Беларусі, якія 1 студзеня 1919 году ў Смаленску паставілі подпісы пад Маніфэстам пра абвяшчэньне БССР. У тым, першым, урадзе яму — былому настаўніку, а ў вайну — прапаршчыку — дастаўся партфэль наркама асьветы.

# Аляксандар Чарвякоў

Нягледзячы на ліхалецьце, камісарыят адчыняе школы й курсы ліквідацыі непісьменнасьці. Малады наркам рупіцца пра стварэньне Нацыянальнага ўнівэрсытэту, выдае загады пра збор культурных каштоўнасьцяў і ахову гістарычных помнікаў.

У 1920-м Чарвякова абіраюць старшынём Саўнаркаму рэспублікі й адначасова старшынём ЦВК, або, як тады казалі, «усебеларускім старастам». Апошнюю пасаду ён захавае да 1937 году.

Нацыянал-камуністы не памыліліся ў сваім выбары. Адным зь першых крокаў Аляксандра Чарвякова стаў заклік да суайчыньнікаў — найперш работнікаў адукацыі і культуры — вярнуцца на пакінутую ў гады вайны Бацькаўшчыну.

«Ваша вызваленая Радзіма, — гаварылася ў звароце ЦВК, — прызывае вас прыкласьці руку да яе Адраджэньня...»

Гэтыя намаганьні далі вынік: да канца 1921-га ў родныя мясьціны для культурнай працы прыехалі больш за трыста ўраджэнцаў Беларусі. (Праўда, аднаму дзеячу культуры — драматургу Францішку Аляхновічу — Чарвякоў у тым самым годзе прадбачліва выдаў адмысловую паперу, што дапамагла та-



му трапіць у Заходнюю Беларусь і пазьбегнуць магчымага арышту.)

У 1924-м сэсія ЦВК БССР прымае пастанову «Аб практычных мерапрыемствах па правядзеньні нацыянальнай палітыкі». «Рухавіком» гэтай палітыкі, якая ўвайшла ў гісторыю пад назовам «беларусізацыя», стаў Чарвякоў.

Яму не даравалі. Ад пачатку трыццатых гадоў мінулага стагодзьдзя «ўсебеларускага старасту», апошняга кіраўніка БССР, які гаварыў з народам на ягонай мове, усё часьцей абвінавачваюць у адыходзе ад лініі партыі й нацыяналістычных хістаньнях.

Пад пагрозаю непазьбежнага арышту і расправы ён падчас XVI зьезду КП(б)Б сыходзіць з жыцьця сам. (Існуе вэрсія, паводле якой «усебеларускі староста» быў забіты супрацоўнікамі НКВД.)

У 1990-я ў беларускім друку выказвалася прапанова пра заснаваньне Дзяржаўнай прэміі імя А. Чарвякова за найлепшыя працы ў галіне адукацыі. Але хіба можа сёньняшняя ўлада надаць сваёй прэміі імя чалавека, які жыў беларусізацыяй, калі яна, гэтая ўлада, займаецца абсалютна процілеглым — татальнай русіфікацыяй?

Мэмарыяльная дошка на менскім доме, дзе жыў кіраўнік беларусізацыі, — бяздумна ці, наадварот, падкрэсьлена — на расейскай мове.

**Аляксандар Чарвякоў**
8.3.1892, в. Дукоркі, цяпер у складзе мяст. Дукора, Пухавіцкі раён — 16.6.1937, Менск.
Пахаваны на менскіх Вайсковых могілках.

Мая сьветлай памяці мама Марыя ў 1944 годзе паступіла на гістарычны факультэт Магілеўскага пэдынстытуту. Падчас ейнага студэнцтва арыштавалі чатырох выкладчыкаў гісторыі розных краін і эпохаў. У аднаго зь іх, прызнавалася мама, яна была таемна закаханая.

Лекцыі нярэдка пачыналіся з закрэсьліваньня ў падручніках і канспэктах імёнаў новых «ворагаў народу». Часам студэнты на загад лектара мусілі рваць на дробныя шматкі (каб нельга было потым скласьці й прачытаць крамолу) цэлыя старонкі.

# Аляксандар Ляўданскі

Ад таго часу мама, сама ўсё жыцьцё выкладаючы ў школе менавіта гісторыю, захоўвала ў душы глыбокае перакананьне, што навука гэтая — надзвычай рызыкоўная і небясьпечная, і ўсялякімі спосабамі,



Аляксандар Ляўданскі (другі зьлева) з калегамі. 1930-я гады

хоць і марна, спрабавала ўгаварыць мяне не паступаць на гістарычны факультэт.

Аляксандар Ляўданскі студыяваў гісторыю на дваццаць гадоў раней за маму і сьпярша, відаць, зусім ня думаў, наколькі рызыкоўна служыць музе Кліё ў краіне саветаў. Пагатоў на пачатку яго шляху ўсё складалася даволі пасьпяхова: сябар гістарычна-археалягічнай камісіі Інбелкульту, загадчык аддзелу археалёгіі Беларускага дзяржаўнага музэю, потым загадчык археалягічнай сэкцыі акадэмічнага Інстытуту гісторыі й адначасова дацэнт БДУ.

Ляўданскі стаў арганізатарам першых у БССР археалягічных экспэдыцыяў. Ён дасьледаваў Віцебск, Воршу, Заслаўе, даў першую тапаграфію Полацку, дзе вывучаў Сафію і зруйнаваныя потым бальшавікамі Бельчыцкія храмы.

Аднак паралельна зь сьпісам навуковых публікацыяў больш пульхным рабілася й дасье на вучонага. Апрача яго агульнай незалежніцкай пазыцыі ў «органах» зьвярнулі ўвагу на лісты зласьліўцаў, якія выступілі супраць высновы Ляўданскага, што гарадзішчы культуры штрыхаванай керамікі ў Цэнтральнай Беларусі належалі балцкім плямёнам. Відаць, значна лепей было б, каб тут спрадвеку жылі савецкія калгасьнікі.

У 1937-м па яго прыехаў «чорны воран». У тым самым годзе вучоны стаўся мішэньню для ката з чырвонай зорачкай на форменнай фуражцы.

...Я так і не паразмаўляў з мамай пра тое, што цікавасьць да гісторыі — гэта, як дакладна зазначыў Мірча Эліядэ, частка нашага спосабу быць.

**Аляксандар Ляўданскі**
10.9.1893, в. Юр’ева, цяпер Смалявіцкі раён —
27.8.1937, Менск.
Месца пахаваньня невядомае.

Вы памятаеце, як у Купалавых «Тутэйшых» Мікіта Зносак, дэманструючы сваё знаёмства зь беларускай літаратураю, цытуе:

*Беларусь, мая старонка,*
*Куток цемнаты.*
*Жыве Шыла, Грыб, Мамонька —*
*Будзеш жыць і ты...*

На жаль, абсалютнай большасьці гледачоў сёньняшняга Купалаўскага тэатру (як, відаць, і большасьці чытачоў п'есы) іранічна пералічаныя ў вершыку імёны анічога ня кажуць. Між тым, яны ўвайшлі ў энцыкляпэдыі, бо за гэтымі імёнамі стаяць асобы — кіраўнікі Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў — якія ў змаганьні за незалежнасьць Бацькаўшчыны адыгралі ролю далёка не маргінальную.

# Язэп Мамонька

Вайсковы тэлеграфіст у гады Першай усясьветнай вайны Язэп Мамонька за сваю рэвалюцыйную дзейнасьць пасьпеў адседзець тры гады яшчэ ў царскіх турмах. Неўзабаве яго, аднаго з арганізатараў і дэлегатаў Першага Ўсебеларускага зьезду, што ўзяў курс на самастойнасьць краіны, арыштуюць ужо бальшавікі. Мамонька ўцячэ з-пад варты, стане сябрам Прэзыдыюму Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і будзе арыштаваны ўжо палякамі.

Лёс падараваў гэтаму неўтаймоўнаму случаку талент дзівосным чынам вырывацца з-за кратаў. У 1921-м на даручэньне кіраўніцтва БНР Мамонька едзе ў Менск для каардынацыі вызвольнага змаганьня ў Заходняй Беларусі.

Новы арышт бальшавікамі і высылка ў Казань. Але ворагі й апанэнты рана радаваліся: у верасьні таго самага году палітуцякач, пераадолеўшы некалькі эўрапейскіх межаў, зь лёгкай усьмешкай на сваім адкрытым сялянскім твары ўвойдзе ў залю паседжань-




няў першай Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі ў Празе.

На другой, Бэрлінскай, канфэрэнцыі 1925 году ён рэзка выступіць супраць роспуску Ўраду БНР і на знак пратэсту ляпне дзьвярыма. Тым ня менш усьлед за шмат якімі паплечнікамі Язэп Мамонька празь некалькі гадоў прыме фатальнае рашэньне вярнуцца ў Беларусь і атрымае савецкую візу.

Роднае неба ён будзе бачыць бяз кратаў усяго некалькі хвілінаў. На памежнай з Латвіяй беларускай станцыі Бігосава да Мамонькі адразу падыдуць супрацоўнікі ОГПУ.

Гэтым разам уцячы з-пад арышту ня ўдасца. У 1937-м, калі дзесяцігадовы лягерны тэрмін наблізіцца да заканчэньня, «тройка» НКВД асудзіць Язэпа Мамоньку ў карэльскіх лясах да сьмяротнага пакараньня.

Праз год у менскай турме загіне ягоная паплечніца, яшчэ адна нязломная эсэрка Палута Бадунова.

**Язэп Мамонька**
28.1.1889, в. Залесьсе, цяпер Слуцкі раён — 10.9.1937, урочышча Сандармох паблізу станцыі Мядзьведжая Гара, цяпер г. Мядзьведжагорск, Рэспубліка Карэлія, Расея.
У Сандармоху агульная мэмарыяльная магіла расстраляных вязьняў.

# Аляксандар Адамовіч

У сярэдзіне 1920-х, калі ў БССР праводзілася палітыка беларусізацыі, другой яе сталіцай пасьля Менску называлі Клімавічы, цэнтар Калінінскай акругі.

Захаваліся сьведчаньні, што, прыяжджаючы адтуль у выправы, усе савецкія і партыйныя работнікі ў менскіх кабінэтах гаварылі па-беларуску, а ў адказ чулі: «Ці вы не з Калініншчыны?»

Шмат дзе беларусізацыя буксавала, і ў Менск ішлі просьбы запаволіць яе тэмпы. З Клімавічаў жа, наадварот, бясконца прасілі лектараў, выкладчыкаў, кнігі. (Ці былі ў нас такія Клімавічы і такія мясцовыя кіраўнікі ў першай палове 1990-х?)

За ўсім гэтым стаяў дваццаціпяцігадовы сакратар Калінінскага акруговага камітэту партыі Алесь Адамовіч. Штомесяц ён дасылаў у наркамат асьветы лісты з патрабаваньнем новых спэцыялістаў для курсаў беларускай мовы, літаратуры, гісторыі й геаграфіі.

Зь лекцыямі й дакладамі ў акрузе выступалі Максім Гарэцкі, Янка Купала, Якуб Колас. Пад кіраўніцтвам Адамовіча працавалі Ўладзімер Дубоўка, Алесь Дудар, які назваў Калініншчыну «зямлёй абяцанаю для беларускіх нацдэмаў».

Аднак Адамовіч мысьліў катэгорыямі не акругі, а нацыі. Ягоны праўнук Аляксей на падставе архіўных дакумэнтаў паведамляе, што ў размове з Аркадзем Смолічам, дырэктарам Інбелкульту, Алесь Адамовіч казаў пра неабходнасьць «стварэньня бар’еру супраць РСФСР», што ўрэшце спыніла б русіфікацыю і «магло прывесьці да ўтварэньня БНР».

У 1925-м ім пільна зацікавілася ОГПУ. Адамовіча пераводзяць у Полацак, потым ён займае высокія пасады ў Менску: кіруе сэктарам друку ЦК КПБ(б), працуе намесьнікам наркама земляробства. Здавалася б, хвалі ўгамаваліся. Але «матэрыялаў» на




Адамовіча зьбіраецца ўсё больш. У 1930-м ён трапляе за краты ў справе Саюзу вызваленьня Беларусі. Віна аднаго з ідэйных важакоў беларусізацыі і яе бліскучага практыка ацэньваецца на дзесяць гадоў зьняволеньня.

Спачатку гэта былі Салаўкі, потым — Беламорска-Балтыйскі канал. У 1937-м суд пераглядае справу і пастанаўляе: расстраляць. Такія прысуды выконваліся неадкладна.

Яму было толькі трыццаць сем гадоў.

У Клімавічах, як і нідзе, няма ні помніку, ні вуліцы ягонага імя. Але існуе літаратурны помнік — прысьвечаная Адамовічу паэма «Калінішчына»:

*Мой любы браце, блізкі і далёкі,*
*няма сталёвасьці і арфазвоннасьці.*
*Такая сьцюжа на душы, навокал,*
*як дзень з дажджамі — быццам сёньняшні.*

*Ці ж я ня ведаю, ці ж я ня знаю,*
*ці я ня сын сваёй сучаснасьці —*
*жыцьцё крынічыць, і музыкі граюць,*
*на лад папасьці ўсё ня шчасьціцца...*

Зь першых жа радкоў пазнаецца аўтар — Уладзімер Дубоўка.

**Аляксандар (Алесь) Адамовіч**
6.1.1900, в. Васюлькі, у складзе мяст. Княгінін, Мядзельскі раён — 15.9.1937, станцыя Сегежа, Сегескі раён, Рэспубліка Карэлія, Расея.
Месца пахаваньня невядомае.

Быў час, калі я працаваў ня толькі за пісьмовым сталом, але яшчэ й хадзіў на службу. Тады, калі даймала начальства, калі душа ўзбунтоўвалася й прагла волі, мяне наведвала адно й тое ж нязбытнае жаданьне. О, як мне хацелася кінуць гэтую працу і стаць акторам у тэатры! Але не ў якім-небудзь, а — у вандроўным.

У юнацтве я недзе прачытаў, што ў 1920-я Беларусь мела якраз такі тэатар: ён езьдзіў з гораду ў горад, зь мястэчка ў мястэчка , зь вёскі ў вёску і нават афіцыйна называўся Вандроўным. Памятаю, як мая беларуская, зьмяшаная з цыганскаю кроў захвалявалася і ў твар дыхнуў сьвежы і салодкі вецер бясконцай дарогі. Пагатоў, тым тэатрам кіраваў чалавек з вольным, нябесным прозьвішчам — Галубок, што быў і драматургам, які напісаў сорак п’есаў, і рэжысэрам, і мастаком, і паэтам, і акторам, першым народным артыстам Беларусі.

## Уладзіслаў Галубок

Потым я даведаўся, што ўсё выглядала, вядома,




У 1932 г. Вандроўны тэатар пад кіраўніцтвам Галубка быў пераўтвораны ў Беларускі Трэці дзяржаўны тэатар і пачаў стала працаваць у Гомелі



зусім ня так ідылічна. Уладзе не спадабаліся гэтыя вандраваньні, якія цяжка трымаць пад пільным вокам, асабліва ўва ўмовах абвастрэньня клясавай барацьбы. Тым больш, перад кожным спэктаклем Галубок выступаў з выдатнай лекцыяй пра беларускую гісторыю й культуру.

Тэатар зрабілі аселым і загадалі ўвесьці ў рэпэртуар п’есы пра клясавае змаганьне. Самога ж Галубка ўрэшце забралі, каб прысудзіць да расстрэлу. Пры арышце загінуў і вялікі куфар з рукапісамі.

Жонка народнага артыста, якая спрабавала пасьля мужавага арышту скончыць жыцьцё самагубствам, здаецца, дачакалася ягонай рэабілітацыі, але ўжо не дажыла да адкрыцьця ў 1982-м у менскім Траецкім прадмесьці грамадзкай гасьцёўні імя Ўладзіслава Галубка.

Цяпер я добра абазнаны ў лёсе Галубка, але запаветная мара — хоць на месяц зрабіцца акторам ці проста рабочым сцэны вандроўнага тэатру — у маёй душы па-ранейшаму жывая.

**Уладзіслаў Галубок (ад нараджэньня Голуб)**
15.5.1882, станцыя Лясная, цяпер Баранавіцкі раён —
28.9.1937, Менск.
Месца пахаваньня невядомае.

«Богам дадзены талент», — сказаў пра яго ў свой час Кузьма Чорны. Высокіх ацэнак заслужыў ён і ў такога бясспрэчнага аўтарытэта, як Максім Гарэцкі. Як быццам пакепліваючы з клясыкаў, біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменьнікі» зьмясьціў пра аднаго з найталенавіцейшых нашых празаікаў даваеннага часу Лукаша Калюгу ці не найменшы трыццацірадковы артыкульчык — прынамсі, меншы за прысьвечаныя пачаткоўцам.

Надзвычай чуйны да мовы, ён яшчэ ў школе запісваў пачутыя ў родных мясьцінах словы й выразы і пасылаў іх у Інбелкульт. Першае апавяданьне Лукаш надрукаваў у васямнаццаць.

## Лукаш Калюга



Жыцьці пісьменьнікаў тады былі неверагодна імклівыя й насычаныя — нібыта прадчуваючы блізкія трыццатыя, нехта спрэсоўваў пяць гадоў у адзін. Цягам 1928-га часопіс «Узвышша» друкаваў першую аповесьць дзевятнаццацігадовага Калюгі «Ні госьць, ні гаспадар» — пра чалавека, што перастаў адчуваць сябе сваім на сваёй жа зямлі. У наступным годзе ён ужо сябра літаратурнага аб'яднаньня «Ўзвышша» — поплеч з самімі Кузьмой Чорным, Уладзімерам Дубоўкам, Зьмітраком Бядулем, Адамам Бабарэкам...

У 1931-м — публікацыя аповесьці «Нядоля Заблоцкіх», адметнай прыёмам гэтак званага міталягічнага рэалізму, і — адлічэньне з пэдтэхнікуму як «узвышанскага лазутчыка й пачынаючага нацдэма».

Праз два гады яго — больш як двухмэтровага во-



Скрыжаваньне менскіх вуліцаў Энгельса і Савецкай. Другая палова 1930-х гадоў

лата зь зьбітым на горкі яблык тварам — ужо вялі на першы допыт.

Апынуўся Калюга ў той самай менскай турме, дзе некалі адбываў зьняволеньне малады Якуб Колас. Такая вось пераемнасьць пакаленьняў беларускіх пісьменьнікаў ды іхніх царскіх, а затым савецкіх турэмнікаў.

У пяцігадовай высылцы ва ўральскім Ірбіце Лукаш працягваў пісаць аповесьці — «Зоры вам вядомага гораду», «Дзе косьці мелюць», «Утрапеньне» — і ўзяўся за раман «Пустадомкі», ня ведаючы, але, магчыма, здагадваючыся, што яны пабачаць сьвет ажно праз доўгія дзесяцігодзьдзі.

У 1935-м яго, на высылцы, зноў арыштавалі.

Праз два гады бальшавіцкая куля падстрэліла яскравы малады талент на самым узьлёце.

**Лукаш Калюга (ад нараджэньня Канстанцін Вашына)**
27.9.1909, в. Скварцы, цяпер Дзяржынскі раён —
5.10.1937, Ірбіт, Сьвярдлоўская вобл., Расея.
Месца пахаваньня невядомае.

У 1928 годзе па студэнцкіх аўдыторыях і менскіх інтэлігенцкіх кватэрах хадзіў і перапісваўся ў сотнях асобнікаў верш, які ня мог пакінуць абыякавым ніводную беларускую душу:

*Пасеклі край наш папалам,*
*Каб панскай вытаргаваць ласкі.*
*Вось гэта — вам, а гэта — нам,*
*Няма сумленьня ў душах рабскіх...*

Шмат для каго імя аўтара не было таямніцаю: паэт, адзін зь лідэраў «Маладняку» Алесь Дудар, ён жа — літаратурны крытык Тодар Глыбоцкі. Таямніцу

## Алесь Дудар



станавіла іншае: як у адной асобе суіснавалі творца арыгінальных вострых вершаў і аўтар да апошняе кропкі правільных артыкульчыкаў, дзе ўжо ад назваў цягнула на ваніты: «На ідэалягічным фронце», «Дэпэшы бяз адрасу» (рэцэнзія на кнігу Ўладзімера Дубоўкі «Наля»), «Літаратурныя сэктанты»...

Калі другая іпастась служыла прыкрыцьцём для першай, гэта не дапамагло: у тым самым 1929-м паэта Дудара (а разам зь ім і крытыка Глыбоцкага, хоць апошняга ўлады былі б, відаць, ня супраць пакінуць на волі) арыштавалі й на тры гады выслалі ў Смаленск, які нацыянал-камуністы ўжо не пасьпелі далучыць да БССР у выніку плянаванага трэцяга ўзбуйненьня рэспублікі. Дудару прыпомнілі й удзел у тэатральнай трупе Ўладзіслава Галубка,

і дэманстрацыйны сыход з БДУ на знак пратэсту супраць наскокаў там на беларускіх пісьменьнікаў. Не забыліся й на ягоны ўдзел у «тэатральнай дыскусіі», дзе ён пратэставаў супраць «чысткі» рэпэртуараў, адкуль выкрэсьліваліся беларускія п’есы.

У 1930-м яго зноў арыштавалі й прывезьлі ў Менск на допыты ў справе Саюзу вызваленьня Беларусі. Невядома, чаго ад паэта дамагаліся, але ён пад канвоем паехаў назад у высылку. Пераканаўча, шматфарбна і запамінальна ўзноўленая атмасфэра тых гадоў у рамане Ганны Севярынец «Гасьцініца Бэльгія».

Трэці арышт у 1936-м — Дудар якраз пераклаў на беларускую мову і здаў у выдавецтва пушкінскі раман у вершах «Яўгені Анегін» — стаўся апошнім. Пасьля году допытаў і катаваньняў яго расстралялі. Гэта здарылася ў тую кастрычніцкую ноч 1937-га, калі ў Менску абарваліся жыцьці дваццаці двух пісьменьнікаў.

Ягоны верш «Пасеклі край наш папалам» гучыць надзіва сучасна і сёньня:

*О, ганьба, ганьба! Ў нашы дні*
*Такі разлом, туга такая!*
*І баюць байкі баюны*
*Северо-Западного края...*

*Плююць на сонца і на дзень.*
*О, дух наш вольны, дзе ты, дзе ты?*
*Ім мураўёўскі б гальштук ўзьдзець,*
*Нашчадкам мураўёўскім гэтым...*

Літаратуразнаўцы мяркуюць, што найлепшыя творы Дудара згарэлі ў вогнішчы з кніг і рукапісаў, раскладзеным 1 жніўня 1937-га ў двары НКВД.

**Алесь Дудар (ад нараджэньня Дайлідовіч)**
24.12.1904, в. Навасёлкі, цяпер Петрыкаўскі раён —
29.10.1937, Менск.
Месца пахаваньня невядомае.

## Міхась Зарэцкі

Няма на сьвеце іншай культуры, што панесла б у XX стагодзьдзі такія, ледзь не фатальныя страты, як наша. У трыццатыя гады мінулага стагодзьдзя нацыянальная інтэлігенцыя была амаль цалкам фізычна зьнішчаная або духоўна зламаная.

У календарах — толькі дні, але ў нашым, беларускім, ёсьць і ноч. Ноч расстраляных паэтаў, калі ня стала дваццаці двух літаратараў. Сярод самых таленавітых быў трыццаціпяцігадовы Міхась Зарэцкі.

Ён зь ліку тых, хто, здаецца, шчыра паверыў у абяцанае бальшавікамі пераўтварэньне сьвету на справядлівых пачатках. Сябар літаратурна-мастацкага аб’яднаньня «Маладняк», а потым — «Полымя», Зарэцкі зрабіўся адным з найбольш яскравых прадстаўнікоў рамантычнага кірунку ў беларускай прозе тых гадоў, якога ці не найбольш цікавіў стан душы чалавека на пераломе эпохаў.

У 1927-м Зарэцкі зьдзейсьніў колькімесяцавае падарожжа за мяжу — у Латвію, Чэхаславаччыну, Нямеччыну й Францыю, што не магло не паўплываць на сьветапогляд пісьменьніка.

Відаць, зусім не выпадкова неўзабаве па вяртаньні ён робіцца адным з ініцыятараў дыскусіі ў друку аб шляхах разьвіцьця беларускага тэатру, выступаючы супраць камэрцыялізацыі мастацтва й абыякавасьці да нацыянальнага рэпэртуару.

Тадысама зьявіўся ягоны нарыс «Падарожжа на новую зямлю», дзе Зарэцкі выступіў як апалягет змаганьня з нацыянальным нігілізмам. У адказ пісьменьніка «вычысьцілі» з партыі «за праяўленьне нацыянал-дэмакратызму».

Напісаньне ў 1929-м гістарычнай драмы «Рагнеда» і зьмешчаны ў «Полымі» пачатак раману «Крывічы» (публікацыя ня мела працягу) наўрад ці сьведчылі пра тое, што аўтар стаў на шлях выпраўленьня.



У 1932-м друкуецца раман «Вязьмо», які на рэспубліканскім літаратурным конкурсе атрымаў прэмію як адзін з найлепшых твораў на тэму калектывізацыі.

Аднак гэты факт найперш кажа не пра зьмену поглядаў Зарэцкага, а пра настроі сябраў журы, якія адзначылі твор, дзе разбурэньне традыцыйнага ладу жыцьця праз калгасы паказвалася як трагедыя беларускае вёскі.

Як ён і дваццаць адзін ягоны калега трымаліся ў сваю апошнюю ноч, у астатнія хвіліны? Як яны разьвіталіся паміж сабой, якія словы выгуквалі ці шапталі, разьвітваючыся з жыцьцём і Беларусьсю?

Спрабую ўявіць, і на памяць прыходзяць імёны нашых бясьсьледна зьніклых сучасьнікаў: палітыка Віктара Ганчара, бізнэсоўца Анатоля Красоўскага, генэрала Юрыя Захаранкі, журналіста Зьмітра Завадзкага.

Усьлед за Міхасём зьніклі або загінулі й рукапісы многіх яго твораў. Прынамсі, дагэтуль ня знойдзеныя ні драма «Рагнеда», ні раман «Крывічы». Ёсьць зьвесткі, што ў вайну поўны варыянт раману аднавяскоўцы пісьменьніка пусьцілі на самакруткі.

**Міхась Зарэцкі (ад нараджэньня Касянкоў)**
20.11.1901, в. Высокі Гарадзец, цяпер Талачынскі раён — 29.10.1937, Менск.
Месца пахаваньня невядомае.

Беларусь, чыё габрэйскае насельніцтва на пачатку XX стагодзьдзя складала больш за мільён чалавек, або да 15 адсоткаў агульнай колькасьці жыхароў, дало культуры гэтага народу і культуры сусьветнай цэлае сузор'е выбітных асобаў. Віцебск і мястэчка Сьмілавічы пад Менскам — месцы нараджэньня мастакоў Марка Шагала і Хаіма Суціна. У Капылі прыйшоў на сьвет клясык габрэйскай літаратуры Мэндэле Мойхер-Сфорым. Беларускім клясыкам стаў Зьмітрок Бядуля (Самуіл Плаўнік). Сьпіс можна доўжыць і доўжыць.

## Мойшэ Кульбак



У савецкай Беларусі габрэйская мова (ідыш) у 1924 годзе — разам зь беларускай, польскай і расейскай — стала адной з чатырох дзяржаўных. У рэспубліцы дзейнічалі габрэйскія школы, тэатар, на ідышы выходзілі газэты і часопісы. Выглядае, што якраз такая культурная сытуацыя сталася галоўнай прычынаю пераезду Кульбака ў 1928-м зь Вільні ў Менск.

На той момант ён ужо быў ня проста папулярны пісьменьнік, які пісаў на ідышы (першы ж надрукаваны верш Мойшэ «Штэрндл» («Зорачка») зрабіўся народнай песьняй), але і старшынём Усясьветнага габрэйскага ПЭН-клюбу. Творы Кульбака вылучаліся пошукам новых формаў, выразным уплывам заходнеэўрапейскай літаратуры і філязофіі, а ўадначас іх афарбоўвалі габрэйскі містыцызм і непаўторны фальклёр. (Перачытайце ягоную выдадзеную да 120-годзьдзя кнігу вершаў «Eybik» («Вечна»).)

Кульбак працаваў у габрэйскім сэктары Акадэміі навук, у часопісе «Штэрн» шмат перакладаў зь беларускай. Блізкае знаёмства зьвязвала яго зь Янкам Купалам, Якубам Коласам і Кузьмой Чорным. Іх часта бачылі разам на канапе ў Доме пісьменьніка. Мойшэ быў дасьціпным апавядальнікам зь нязводнай «сьмяшынкай-залацінкай». З Чорным ён размаўляў на ідышы, які той ведаў ад жонкі.

У Менску Мойшэ стварыў адзін з найлепшых сваіх твораў — раман «Зэльманцы», сапраўдную Атлянтыду габрэйскага жыцьця, паказанага праз гісторыю старасьвецкага менскага двара на Ляхаўцы, дзесьці каля цяперашняй фабрыкі «Камунарка». (Там было б добрае месца для помніка Кульбаку.) У наш час пераклад «Зэльманцаў», зроблены Віталём Вольскім, перавыдадзены ў сэрыі «Мая беларуская кніга». Па-беларуску дзякуючы Сяргею Шупу прагучаў і знакаміты, напісаны яшчэ ў Вільні раман «Панядзелак» — «мэлянхалічны, вар'яцкі, тонкі, іранічны» (Альгерд Бахарэвіч), а затым і раман-містэрыя «Мэсія з роду Эфраіма».

А ў нетрах НКВД чакала свайго часу складзеная ў 1934-м даведка: «Прибыл нелегально из Польши, где состоял заместителем председателя национал-фашистской еврейской организации»...

У 1937-м імя Кульбака занесьлі ў расстрэльны сьпіс, які сталінскія каты «полностью закрыли, приведя приговор в исполнение», у страшную ноч 29 кастрычніка. У сьпісе быў і паэт Ізі Харык, што таксама пісаў на ідышы. Можа, на адвітаньне з гэтым сьветам Мойшэ й Ізі засьпявалі разам «Зорачку»?

**Мойшэ Кульбак**
20.3.1896, Смаргонь – 29.10.1937, Менск.
Месца пахаваньня невядомае.

# Валеры Маракоў



«Валеры Маракоў быў адным з самых таленавітых паэтаў 1920—1930-х гадоў. Моладзь любіла ягоную паэзію. Дзіўна, але яе чамусьці вабілі той пэсымізм, разгубленасьць. Мабыць, настрой паэзіі Маракова адпавядаў настроям чытачоў? Гэта была паэзія каханьня, надзей і расчараваньняў, адыходу ў сьвет хараства і чалавечнасьці». Цытаваная характарыстыка належыць пяру сучаснага літаратуразнаўцы зь Нью-Ёрку Лявона Юрэвіча.

Ня менш высока творчасьць Маракова ацэньвалі ягоныя прыяцелі й калегі.

Паэт Станіслаў Шушкевіч апавядаў, як цешыўся першымі паэтычнымі крокамі Маракова Янка Купала. Сяргей Грахоўскі прыгадваў, што дэбютны зборнік Валерыя «Пялёсткі» перапісваўся ў патаемныя дзявочыя сшыткі. Пасьля аднаго з паэтычных выступаў ён ня змог падняць усіх падораных прыхільніцамі кветак.

Але ў друку ўсё часьцей гучалі іншыя водгукі й ацэнкі — «безнадзейны пэсымізм», «блуканьне ў нетрах упадніцтва», «стаяньне ўбаку ад сацыялістычнага будаўніцтва». Заставаўся адзін крок да палітычных абвінавачаньняў. Ад іх паэт спрабаваў схавацца ў асяродзьдзі тагачаснай менскай літаратурнай багемы, якая стварыла славуты ТАВІЗ, або «Таварыства аматараў выпіць і закусіць». Валеры намагаўся рыфмаваць нешта па-

трэбнае ўладзе пра камісараў, Асінбуд і запалкавую фабрыку, але празь дзяжурныя радкі прабівалася прадчуваньне блізкай трагедыі — і агульнанацыянальнай, і асабістай: *«Шчасьлівы я, што тут жыву. / Й за гэты край вясной вялікай, / Быць можа, зьнімуць галаву, / Праколюць цела вострай пікай...»*

У 1935-м Маракова за верш «Песьня перамог» выключаюць з Саюзу пісьменьнікаў. Тадысама адбываецца першы арышт — за ўдзел у «контрарэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі». НКВД прыяжджае й па ягонага бацьку Дзьмітрыя, царкоўнага старасту. Самога паэта зноў арыштоўваюць.

Пасьля году катаваньняў яго разам зь яшчэ дваццаць адным літаратарам расстралялі ў менскай турме НКВД. Разгляд кожнай справы займаў роўна пятнаццаць хвілінаў. У прыгарадным лесе, які пазьней стаў паркам Чалюскінцаў, у Лошыцы ці ў Курапатах, зьявілася новая безыменная братняя магіла. Маці да 1939-га насіла ў турму перадачы, і іх — прымалі! Частаваліся тымі налісьнікамі.

Бацьку паэта пасьля вяртаньня з ГУЛАГу гэбісты бясконца — нават у восемдзесят гадоў — цягалі на допыты. Трагічны лёс выпаў і малодшым братам Валерыя — Леаніду й Уладзімеру, якія гэтаксама сьвядома служылі Беларусі. Першага ў вайну застрэлілі баевікі Арміі Краёвай, другі ў 1950-я вярнуўся з савецкага канцлягеру псыхічна хворы.

У Беларусі добра ведаюць пляменьніка паэта — пісьменьніка Леаніда Маракова, які зьдзейсьніў сапраўдны подзьвіг, выдаўшы шматтомавы энцыкляпэдычны даведнік, прысьвечаны рэпрэсіям у Беларусі за два апошнія стагодзьдзі.

**Валеры Маракоў**
27.3.1909, в. Акалонія, цяпер у межах Менску — 29.10.1937, Менск.
Месца пахаваньня невядомае.

Ці ведаеце вы краіну, дзе быць пісьменьнікам ужо азначала б у вачах улады — быць небясьпечным злачынцам, вартым самага жорсткага пакараньня? Гэтая краіна, магчыма, адзіная ў сьвеце — Беларусь. Ня трэба казаць, што я згушчаю фарбы: маўляў, хоць Саюз беларускіх пісьменьнікаў і хацелі ліквідаваць, самім жа літаратарам, адрозна ад палітыкаў, гэта не пагражала. Ну хіба што пасадзілі б на год-два ці змусілі зьехаць за мяжу.

Але сёньня мы гаворым пра часы прамінулыя, якія, што праўда, маюць у нас уласьцівасьць паўтарацца ня толькі ў выглядзе камэдыі.

## Тодар Кляшторны



У кастрычніку 1937-га ў гонар дня беларускага камсамолу энкавэдысты расстралялі ў Менску больш за дваццаць літаратараў. У наступную ноч сьпіс ахвяраў папоўніўся новымі імёнамі, сярод якіх апынуўся паэт Тодар Кляшторны.

Ён ня быў антысаветчыкам, але меў схільнасьць да імпрэсіянізму, што й уратавала ягоную паэзію ад сумнавядомай «пралеткультаўшчыны». Апрача таго, на творчым рахунку Тодара была паэма «Калі асядае муць», на якую жорстка нападалі цэрбэры вульгарна-сацыялягічнай крытыкі.

Пасьля сьмерці паэта яго жонку з чатырохмесяцавай малодшай дачкой Маяй адправілі ў Акмолінскі канцлягер, а старэйшых дзяцей — у дзіцячы дом.

Кляшторнага рэабілітавалі ў 1957-м, але і праз дваццаць гадоў рэдактары й цэнзары працягвалі



Скрыжаваньне менскіх вуліцаў Валадарскага й Савецкай. Другая палова 1930-х гадоў

рупліва шукаць у яго вершах крамольныя падкопы. У выніку жыцьцярадасныя, з гарэзіяй радкі:

*Варушыць певень цёртую салому*
*І топча па чарзе прысадзістых курэй...*

ператвараліся ў сваю процілегласьць:

*Варушыць певень цёртую салому*
*І корміць зернямі прысадзістых курэй.*

Ягоныя творы вярнуліся ў зборнікі і хрэстаматыі.

Яго дачка Мая Тодараўна — адна з кіраўнікоў «Мартыралёгу Беларусі», абаронца Курапацкага мэмарыялу, сьветлая, надзіва мяккая й адначасова непахісная жанчына, якую ведае ўся краіна.

**Тодар Кляшторны**
11.3.1903, в. Парэчча, цяпер Лепельскі раён —
30.10.1937, Менск.
Месца пахаваньня невядомае.

Згадваючы палітыку беларусізацыі, што на дзяржаўным узроўні праводзілася ў 1920-я гады, мы часам забываем, што ў яе былі свае «бацькі», якія генэравалі ідэі, пісалі праграмы, распрацоўвалі сыстэмы й ажыцьцяўлялі іх выкананьне.

Адзін з гэтых людзей — Антон Ба́ліцкі.

Ён вучыўся ў Сьвіслацкай настаўніцкай сэмінарыі, што была спадкаеміцаю гімназіі, дзе некалі спасьцігаў навуку юны Кастусь Каліноўскі. Водгульле славы паўстанцкага правадыра натхняла маладыя душы зусім не на служэньне інтарэсам імпэрыі.

# Антон Баліцкі



Мабілізаваны ў 1915-м у войска, Антон стаў удзельнікам Лютаўскай рэвалюцыі. Ён гуртаваў вайскоўцаў-суайчыньнікаў на Румынскім фронце, адчыняў для дзяцей уцекачоў беларускія школы ў Адэсе, камандаваў партызанскім аддзелам у Прыднястроўі.

Вярнуўшыся ўжо ў савецкую Беларусь, ён заняў пасаду намесьніка народнага камісара, а затым і наркама асьветы.

Гэта быў яго зорны час.

Баліцкі ставарае сыстэму сярэдняй і вышэйшай адукацыі, куды пасьлядоўна ўводзіцца беларуская мова. Другі найважнейшы клопат наркама — беларусізацыя культурна-асьветніцкіх установаў.

У выніку мэтанакіраванай палітыкі наркамату па-беларуску загаварылі дзясяткі тысяч выкладчыкаў, бібліятэкараў, клюбных работнікаў.

Відавочныя посьпехі беларусізацыі выклікалі вялікую трывогу ў Маскве.

У ліку арыштаваных у 1930-м у справе Саюзу вы-



Першая ўсясьветная вайна. Рэвалюцыйная агітацыя сярод вайскоўцаў Заходняга фронту

зваленьня Беларусі непазьбежна апынуўся й Антон Баліцкі.

Ён атрымаў адзін з самых жорсткіх на той час прысудаў — дзесяць гадоў канцлягераў. У 1937-м адбыўся паўторны разгляд справы. Назаўтра аднаго з бацькоў беларусізацыі павялі на расстрэл.

Калі вы раптам трапіце ў наш, як цяпер часам скарачаюць, МінАд, запытайцеся ў чыноўнікаў, ці чулі яны пра аднаго зь першых міністраў асьветы Баліцкага. Незалежна ад адказу ўпэўнены: многім з тых «адукоўцаў» беларусізацыя сьніцца хіба што ў страшных снах.

**Антон Баліцкі**
16.9.1891, в. Балічы, цяпер Гарадзенскі раён —
31.10.1937, Менск.
Месца пахаваньня невядомае.

Яго называюць неадменным сакратаром Адраджэньня. Маецца на ўвазе беларускае нацыянальнае Адраджэньне пачатку XX стагодзьдзя. Але глыбіня й шматстайнасьць талентаў, якімі быў шчодра адораны Ластоўскі, міжволі прыводзяць на памяць і волатаў эпохі Рэнэсансу.

Палітык, што браў непасрэдны ўдзел у абвяшчэньні незалежнасьці БНР і ўзначальваў яе кабінэт міністраў, а пазьней, баронячы нацыянальныя правы беларусаў, наведаў Францыю, Бэльгію, Чэхаславаччыну, Нямеччыну, Італію, Ватыкан.

# Вацлаў Ластоўскі




Гісторык, пяру якога належаць славутыя «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» і «Кароткая гісторыя Беларусі», што ўпершыню зьявілася на старонках «Нашае Нівы», дзе ён, дарэчы, пяць гадоў быў рэдакцыйным сакратаром.

Філёляг, укладальнік і выдавец ня менш славутага «Расійска-крыўскага (беларускага) слоўніку», што мы зь сябрамі ў васьмідзясятыя гады мінулага стагодзьдзя прывезьлі ад Ларысы Геніюш і выпусьцілі ў самвыдаце ў колькасьці дваццаці пяці асобнікаў. У 1990-м ён быў перавыдадзены «Навукай і тэхнікай» 10-тысячным накладам.

Дырэктар Беларускага дзяржаўнага музэю, які ў 1928-м асабіста ачольваў адмысловую экспэдыцыю ў Полацак і прывёз ад-

туль нашу старажытную нацыянальную сьвятыню — Крыж Эўфрасіньні.

Неадменны сакратар маладой Беларускай Акадэміі навук.

Гэта ўсё ён, Вацлаў Ластоўскі.

А вось для мяне, прызнаюся, ён — найперш выдатны пісьменьнік.

Аўтар «Лябірынтаў» — можа, самай містычнай і самай патаемнай аповесьці беларускай літаратуры.

Аўтар непаўторных, надзеленых магутнай энэргетыкай вершаў.

*...я горад збудаваў...*

*І от нахлынуў вораг многі.*

*Ударыў я у звон трывожны.*
*Дзынеў патужна цяжкі сьпіж...*

*Аднак на клік мой зоўны*
*ніхто ка мне не пасьпяшыў:*

*у горадзе маім —*
*такім мацоўным —*
*адзін я быў!..*

Мо якраз гэтыя роспачныя радкі гучалі ў яго сьвядомасьці, калі нелюдзь у форме НКВД падымаў расстрэльны пісталет?..

Цяпер у цэнтры Глыбокага на алеі славутых землякоў зьявіўся бюст Вацлава Ластоўскага, першы помнік неадменнаму сакратару Адраджэньня.

У горадзе «такім мацоўным» ён быў усё ж не адзін.

**Вацлаў Ластоўскі**
8.11.1883, засьценак Калесьнікаў (не існуе), цяпер
ваколіцы в. Задарожжа, Глыбоцкі раён —
23.1.1938, Саратаў, Расея.
Месца пахаваньня невядомае.

Адзін зь ягоных біёграфаў назваў Тамаша Грыба рыцарам беларускай свабоды. І сапраўды, Тамаш ня проста шчасьліва адчуў яе жыцьцядайны подых, але быў сярод тых, хто закладаў шлях Беларусі ў будучыню.

Дэлегат Першага Ўсебеларускага зьезду, на які прыяжджае з фронту. Народны сакратар земляробства ў першым урадзе БНР. Выдавец віленскай газэты «Грамадзянін», на старонках якой змагаўся супраць манапалізацыі сацыялістычнай ідэі адной партыяй. Стваральнік Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. Вязень польскіх турмаў.

# Тамаш Грыб

На пачатку 1920-х ён зьявіўся на вуліцах Златай Прагі — прыехаў вучыцца, яшчэ не здагадваючыся, што тут яму наканавана застацца да канца дзён.

У Карлавым унівэрсытэце, дзе беларусы здабывалі адукацыю яшчэ з часоў Сярэднявечча, Грыб абараніў доктарскую дысэртацыю на тэму «Пытаньне народу і нацыі» і стаў у нашай эміграцыі адным зь лідэраў.

Адрозна ад шмат каго з нацыянальных дзеячаў, ён пасьлядоўна выступаў супраць выезду ў БССР, дзе ўсе вяртанцы чамусьці хутка зьнікалі.

«Пакіньце займацца дурніцай», — ляпідарна адказаў ён на запрашэнь-



АБВЕСТКА
НАРОДНАГО СЭКРЭТАРЫЯТУ
БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ
№ 6.

Народны Сэкрэтарыят Беларускай Народнай Рэспублікі часова складаецца з гэткіх асобаў:

1. Народны Сакратар Заграмічных Справаў. Язэп Варонка.
2. " " Унутраных Справаў. Кость Езавітов
3. " " Прасьветы . Аркадзь Смоліч
4. " " Справядлівасьці . Ефім Бялевіч
5. " " Народнай Гаспадаркі. Янка Серада
6. " " Грашовых Справаў . Петрук Крэчэўскі
7. " " Земляробства . Тамаш Грыб
8. " " Апекі . Палута Бадунова
9. " " Почты і Талеграфу . Алесь Карач
10. Загадчык Справаў Народнаго Сакратарыяту Лявон Заяц

Гэтаму складу Часовага Беларускага Ураду, згодна з пастановаю Рады Усебеларускага Зьезду, даручаецца споўняць працу усіх недавыбраных Народных Сакратароў да таго часу, калі гэткі склад зьменіць Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

Часовы Старшыня Народнаго Сакратарыяту і
Народны Сакратар Заграмічных Справаў Язэп Варонка

Загадчык Справаў Л. Заяц

Бабруйск (Меншчына),
6 красавіка 1918 года.

Абвестка Народнага Сакратарыяту БНР №6 за 6.04.1918 (дак. №0193)

Абвестка пра склад Народнага Сакратарыяту БНР



не ўзяць у 1926 годзе ўдзел у ладжанай Інбелкультам менскай Акадэмічнай правапіснай канфэрэнцыі, адкуль, да прыкладу, ужо ня здолеў купіць білет дадому ў Вільню Францішак Аляхновіч.

У апошнія гады свайго кароткага жыцьця Тамаш зблізіўся зь лідэрам расейскіх эсэраў Віктарам Чарновым.

Легендарны рэвалюцыянэр прызнаваўся, што мяноўна беларус Грыб дапамог яму асэнсаваць ці не найістотнейшую памылку ўсяго расейскага эсэраўскага руху — няздольнасьць убачыць іншыя народы імпэрыі.

Там, у Празе, Тамаш Грыб пісаў: «Я або прыеду ў Менск як вольны грамадзянін, або назаўсёды застануся эмігрантам. Можа быць, хто-небудзь найдзе мае каштоўныя рукапісы... Працую для будучых пакаленьняў».

Аднаго з братоў маёй мамы звалі Тамаш. Магчыма, некалі так назавуць майго ўнука — прадстаўніка тых самых будучых пакаленьняў, пра якія ў дваццатыя гады мінулага стагодзьдзя марыў Тамаш Грыб.

**Тамаш Грыб**
19.3.1895, в. Паляны, цяпер Смаргонскі раён —
25.1.1938, Прага, Чэхаславаччына.
Пахаваны на праскіх Альшанскіх могілках.
Магіла ня знойдзеная.

Разгарнуўшы калісьці даўно трэці том збору твораў Максіма Гарэцкага, я злавіў сябе на непрыемным адкрыцьці. Ягоныя «Запіскі салдата 2-й батарэі N-скай артылерыйскай брыгады Лявона Задумы «На імпэрыялістычнай вайне» і зьместам, і стылістыкай, і патасам успрымаліся як нешта рэмінісцэнтна-другаснае.

Напружыўшы чытацкую памяць, я хутка знайшоў адказ: Эрых Марыя Рэмарк, «На Заходнім фронце бязь зьменаў». Але варта было зазірнуць у энцыкляпэдыю, як маё адкрыцьцё зь непамыснага імгненна ператварылася ва ўсьцешлівае: славуты раман Рэмарка зьявіўся ў 1929-м, а «Запіскі» Гарэцкага — на цэлыя тры гады раней, у 1926-м (дарэчы, адначасова з «Фэстам» Гэмінгўэя).

## Максім Гарэцкі



Дзякуючы свайму маладому клясыку (дарэчы, Зоська Верас успамінала, што бачыла Максіма на Першым Усебеларускім зьезьдзе) наша літаратура яшчэ раз неабвержна засьведчыла права быць паўнавартаснай часткаю літаратуры эўрапейскай.

Але Рэмарк у 1932-м атрымаў магчымасьць эміграваць зь Нямеччыны ў Швайцарыю. Гарэцкі ж тады адбываў высылку ў Вятцы, а праз пяць гадоў, так і не вярнуўшыся ў Беларусь, быў расстраляны паводле пастановы «тройкі» НКВД. Аўтару аповесьці «Дзьве душы», «Камароўскай хронікі», геніяльных апавяданьняў, клясычнай «Гісторыі беларускае літаратуры» ня споўнілася й сарака пяці.

У акце аб выкананьні сьмяротнага прысуду, які захоўваецца ў сямейным архіве Максімавага



Бацькі пісьменьніка Іван Кузьміч і Эўфрасіньня Міхайлаўна

пляменьніка Радзіма Гарэцкага, значыцца: «Перечисленные осужденные всего в числе 40 человек из места содержания под стражей были взяты в 14 час. 45 мин. 10 февраля 1938 г., а решение Заседания Тройки приведено в исполнение путем расстрела в 15 час. того же дня. Трупы зарыты на установленную глубину».

Ён ставіў перад сабою, перад нацыянальным прыгожым пісьменствам і ўсімі адраджэнскімі сіламі звышзадачу — «падняць беларуса да ідэальнага чалавека», «аднавіць арганізм Беларусі і зрабіць яго дужэйшым».

На тое й геніі, каб пазначаць мэты на стагодзьдзі.

**Максім Гарэцкі**
18.2.1893, в. Малая Багацькаўка,
цяпер Амсьціслаўскі раён —
10.2.1938, Вязьма, Смаленская вобл., Расея.
Мэмарыяльная стэла на верагодным месцы пахаваньня.

У 1920-я ён быў кумірам тысяч юнакоў. А неяк на маёй сустрэчы з маладафронтаўцамі дзяўчына з жывымі агатавымі вачыма, пачуўшы гісторыю Лістапада, абвясьціла, што за ім пайшла б куды заўгодна: «За адно прозьвішча!»

Сябра Беларускай Рады Случчыны й удзельнік незалежніцкага збройнага чыну, Лістапад нелегальна вярнуўся з Польшчы на Радзіму і заснаваў падпольную антысавецкую арганізацыю. Яе складалі Юркавы выхаванцы — навучэнцы Слуцкіх агульнаадукацыйных курсаў. Арганізацыя мела на мэце, стварыўшы шырокую сетку збройных аддзелаў, узьняць паўстаньне і вызваліць Беларусь з-пад улады Масквы.

## Юрка Лістапад



У 1925-м Юрку і пяцёх яго паплечнікаў схапіла ОГПУ. «Працэс Лістапада» прагрымеў на ўсю Беларусь. У яго з мэтаю «перавыхаваньня» ўцягнулі Якуба Коласа, якога абвінавачвалі ў падтрымцы лістападаўцаў. Перад прэсай была пастаўленая задача як найшырэй выкрыць антысаветчыкаў. Але кампанія прывяла да неадназначных вынікаў: адных запалохала, а многіх — натхніла на супраціў.

Паводле прысуду Лістапад атрымаў пяцігадовае зьняволеньне, аднак ужо праз два гады выйшаў на волю. Некаторыя дасьледнікі тлумачаць палёгку Юркавай згодай стаць сакрэтным агентам «органаў». Праўда, гэта дрэнна стасуецца з тым фактам, што пасьля турмы Лістапад ня мог знайсьці сабе сталай працы і быў, як пісаў у анкетах, «вольным перакладчыкам на беларускую мову».




Першыя Беларускія пэдагагічныя курсы, на якіх вучыўся Юрка Лістапад. У другім радзе сядзяць: чацьверты зьлева Язэп Лёсік, далей — Мікола Байкоў, Вацлаў Іваноўскі, Сымон Рак-Міхайлоўскі

У 1930-м яго арыштавалі ў справе Саюзу вызваленьня Беларусі, праз тры гады адбыўся трэці арышт паводле справы гэтак званага «Беларускага нацыянальнага цэнтру». Васьмігадовы тэрмін Лістапад адбываў на будаўніцтве Байкала-Амурскай магістралі. Як сьведчаць дакумэнты, ён паводзіўся непакорліва і стаў фігурантам крымінальнага расьсьледаваньня.

Увесну 1938-га Юрка Лістапад пачуў свой сьмяротны прысуд. Астатнія лістападаўцы былі расстраляныя ў вайну савецкімі партызанамі або загінулі ці зьніклі пазьней пры нявысьветленых абставінах.

**Юрка Лістапад**
7.4.1897, в. Варкавічы, цяпер Слуцкі раён —
5.6.1938, Бамляг, Сібір, Расея.
Месца пахаваньня невядомае.

Бываюць пісьменьнікі, кнігі якіх нагадваюць сумныя падручнікі, але бываюць і навукоўцы, чые падручнікі чытаюцца зь ня меншай цікавасьцю, чым добры мастацкі твор. Менавіта так я чытаў перавыдадзеную на пачатку 1990-х «Геаграфію Беларусі» Аркадзя Смоліча, што ўпершыню пабачыла сьвет у 1919-м у Вільні, адкрываючыся актуальным і сёньня эпіграфам: «Каб Беларусь перастала быць краем, невядомым для саміх беларусаў».

Тысячы й тысячы чытачоў «Геаграфіі» гэтая кніга ў дваццатыя гады мінулага стагодзьдзя ня проста захапляла зьместам і зачароўвала моваю. Яна вяртала ім Радзіму. На ёй узгадоўвалася пакаленьне нацыянальна сьвядомай моладзі. «Геаграфія» Смоліча й цяпер застаецца неперасягнутым узорам навукова-папулярнага апісаньня нашае зямлі. Варта разгарнуць гэты том наўздагад, і ўжо ня хочацца адрывацца:

## Аркадзь Смоліч



«...Перанясемся цяпер думкаю з нашага Чарнігаўскага лесастэпу на другі канец Беларусі, у Віцебшчыну... Едзеш па дарозе, дык усё або пад гару, або з гары. Каменьня тут усюдых як бы насеяў хто: ляжыць яно і паасобку, і цэлымі грудамі-крушнямі. І лагодныя ўзгоркі, і зялёныя лясы робяць краявіды гэтае старонкі дужа прыгожымі. Але найлепш прыхарошуюць іх сьветлыя вазёры, што ляжаць між узгоркаў і якіх тут ёсьць бязь ліку».

Але Смоліч быў ня толькі таленавітым навукоўцам.



БЕЛАРУСКАЯ
НАРОДНАЯ
РЭСПУБЛІКА.
...АРОДНЫ СЭКРЭТАРЫЯТ.
8 лістапада 1918 г.
№ 1927
Места Менск.

ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ

Рада Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі гэтым сьведчыць, што уласьнік гэтаго, член Рады Рэспублікі, пан Аркадзій СМОЛІЧ, есьць Народны Міністр Земляробства і маентнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Старшыня Рады Народных Міністраў Ант. Луцкевіч

За Дзяржаўнаго пісара

Пасьведчаньне сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, выдадзенае Аркадзю Смолічу ў лістападзе 1918 г.

Ён застаўся ў гісторыі як ідэоляг і тэарэтык Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, адзін з «бацькоў» БНР, міністар асьветы ў яе першым Урадзе.

Найперш палітычная дзейнасьць вучонага і прадвызначыла ягоны лёс.

Пасьля пяцігадовай высылкі па справе Саюзу вызваленьня Беларусі яго ў 1937-м зноў арыштавалі.

Перад расстрэлам у Омскай турме НКВД Смоліч, напэўна, бачыў апісаныя ім з такой любасьцю й веданьнем беларускія краявіды, да якіх, разлучыўшыся зь целам, памкнулася ягоная душа.

**Аркадзь Смоліч**
29.9.1891, в. Бацэвічы, цяпер Клічаўскі раён —
17.6.1938, Омск, Расея.
Месца пахаваньня невядомае.

Ягоны жыцьцяпіс у першай сваёй частцы для беларускага нацыянальнага дзеяча — ня самы тыповы. Юрыдычны факультэт Маскоўскага ўнівэрсытэту. У студэнцкія гады — сакратарства ў марксісцкім часопісе «Возрождение» і загадваньне аддзелам хронікі ў папулярнай газэце «Копейка». Потым — спакойная грашавітая праца ў Менскай казённай палаце і Менскім акруговым судзе.

Карэнны паварот жыцьцёвага шляху адбыўся ў 1917 годзе, калі Пракулевіч далучыўся да прыхільнікаў беларускае незалежнасьці. 1920-ы засьпеў яго на пасадзе судзьдзі ў Слуцку. 14 лістапада

# Уладзімер Пракулевіч

пачаў свае паседжаньні гістарычны Беларускі зьезд Случчыны, што абраў прыхільніка Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў Пра-



Беларуская грамада ў Празе на вечарыне ў гонар Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Крайні справа ў першым радзе — Уладзімер Пракулевіч, трэці справа — Пётра Крачэўскі



кулевіча старшынём Рады. Праз тыдзень Рада Случчыны выдала незалежніцкую дэкларацыю. Яшчэ праз тыдзень 1-я Слуцкая брыгада войскаў БНР атакавала бальшавіцкія аддзелы...

Пасьля Слуцкага паўстаньня Пракулевіч выехаў у Вільню, адкуль неўзабаве быў высланы польскімі ўладамі. На Бэрлінскай Усебеларускай канфэрэнцыі ён быў сярод тых, хто, паверыўшы ў Беларускі дом пад уладаю саветаў, падпісаў рэзалюцыю аб ліквідацыі незалежніцкага Ўраду.

Лёс былога кіраўніка слуцкіх паўстанцаў пасьля прыезду ў БССР быў перадвызначаны. Невысокая пасада ў Дзяржаўнай бібліятэцы, арышт у 1930-м па справе Саюзу вызваленьня Беларусі і высылка на пяць гадоў у Расею, паўторны арышт. Людзі кшталту Пракулевіча ня мелі шанцаў выжыць.

Зь яго фатаграфіі ў судовай справе пазірае барадаты шыракатвары беларус з глыбокімі разумнымі вачыма. Ён вельмі падобны да майго дзеда Максіма, таксама расстралянага ў тыя скрываўленыя трыццатыя.

**Уладзімер Пракулевіч**
2.12.1887, в. Красналукі, цяпер Чашніцкі раён —
20.8.1938, Сьвярдлоўск, цяпер Екацярынбург, Расея.
Месца пахаваньня невядомае.
Мэмарыял расстраляным у Сьвярдлоўску ў 1930-х —
1950-х гадах (больш за 21 тыс. чалавек) на 12-м
кілямэтры аўтадарогі Перм — Екацярынбург.

Некалі ў дзяцінстве, гартаючы кнігі й часопісы маёй мамы, выкладчыцы гісторыі, я сустрэў сьмешнае прозьвішча — Рак-Міхайлоўскі. Больш ад таго першага знаёмства нічога не запамяталася.

Другое адбылося ўжо ў мае студэнцкія сямідзясятыя гады мінулага стагодзьдзя. Робячыся беларусам ня толькі паводле пашпарту, я з апантанасьцю нэафіта пачаў скупляць беларускія кнігі і, вярнуўшыся з будатраду не з пустым гаманцом, набыў дзевяць выдадзеных на той час вішнёвых тамоў Беларускай савецкай энцыкляпэдыі.

## Сымон Рак-Міхайлоўскі

З аднаго зь іх і ўведаў, што ў 1918-м Сымон Рак-Міхайлоўскі, аказваецца, быў «членам контрарэвалюцыйнай Рады БНР і яе вайсковай камісіі».

Пра далейшыя вехі жыцьця гэтай падазронай асобы гаварылася спасьцярожліва і без ацэнак: настаўнік Віленскай беларускай гімназіі, стваральнік і дырэктар Барунскай настаўніцкай сэмінарыі, адзін з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы.

Што гэта былі за вучэльні й што за таварыства, я ня меў аніякага ўяўленьня, бо ў нас на гістфаку БДУ такія рэчы не вывучаліся, а ў лепшым разе мімаходзь згадваліся.

Потым энцыкляпэдычны артыкул рабіўся больш прыхільным да свайго героя — яўна з тае прычыны, што Сымон пасьля памылак і хістаньняў маладосьці стаў на правільныя рэйкі й уступіў у кампартыю Заходняй Беларусі, за што, як трэба было меркаваць, і атрымаў ад польскіх уладаў дванаццаць гадоў турмы.

Аднак, як вынікала зь вішнёвага тому, усё выглядала ня так трагічна, бо ў 1931-м змагар з эксплюататарамі пераехаў па абмене палітвязьнямі ў БССР, дзе працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музэю і нават быў членам ЦВК рэспублікі. Праўда, на гэтым



(пасьля хуценькага паведамленьня, што Сымон Рак-Міхайлоўскі складаў вершы, пісаў падручнікі і лічыцца аўтарам музыкі да Багдановічавай «Зоркі Вэнэры») артыкул неяк раптоўна абрываўся.

Я паглядзеў на дату сьмерці: 1937-мы (дарэчы, і той недакладны).

Разгарнуўшы выдадзены праз тры дзесяцігодзьдзі адпаведны том сучаснай Беларускай энцыклялпэдыі, я пераканаўся, што за гэты час мы прайшлі велізарны шлях.

Тут ужо згадваюцца старанна замоўчаны энцыклялпэдыяй-папярэдніцай Першы Ўсебеларускі зьезд, дэлегатам якога быў Рак-Міхайлоўскі, арышт і асуджэньне на дзесяць гадоў лягераў паводле сфабрыкаванай ОГПУ справы «Беларускага нацыянальнага цэнтру», а таксама дакладная дата расстрэлу.

Здаецца, можна было б цешыцца, што гістарычная праўда вяртаецца. Можна было б, каб не адна акалічнасьць: многае з таго, за што змагаўся Рак-Міхайлоўскі на пачатку мінулага стагодзьдзя, ня менш актуальнае і ў сёньняшняй Беларусі.

Возьмем, да прыкладу, нацыянальную адукацыю і Таварыства беларускай школы.

**Сымон Рак-Міхайлоўскі**
14.4.1885, в. Максімаўка, цяпер Маладэчанскі раён —
27.11.1938, Менск.
Месца пахаваньня невядомае.

Ужо ня першы год мастакі з гісторыкамі ня могуць прыйсьці да адзінай думкі: хто ж насамрэч адлюстраваны на адным з партрэтаў Аляксея Марачкіна, асноваю для якога паслужыла зьмешчанае ніжэй фота, — паэтка Ларыса Геніюш або палітычная дзяячка Палута Бадунова? Але на карысьць каго б ні скончылася дыскусія, можна сьцьвярджаць, што гэтыя выдатныя беларускі з аднаго шэрагу.

Выпускніца петраградзкіх Вышэйшых гістарычна-літаратурных курсаў, сябра ЦК Беларускай Сацыялістычнай Грамады, а пазьней — сакратар ЦК Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў, Палута не губляла ўпэўненасьці ў любой кампаніі палітыкаў-мужчынаў. Яна была ў ліку арганізатараў Першага Ўсебеларускага зьезду, а на пачатку 1918-га ўвайшла ў склад Народнага Сакратарыяту — першага Ўраду БНР. Подпісы Бадуновай стаяць пад Другой і Трэцяй Устаўнымі Граматамі, дзе абвяшчалася пра ўтварэньне й незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі.

# Палута Бадунова



У Сакратарыяце Палута была адзінай жанчынаю. Яе пасада народнага сакратара апекі адпавядала партфэлю міністра сацыяльнай абароны. Адначасова яна ўзначаліла жаночае дабрачыннае таварыства «Цётка», названае ў гонар знакамітай паэткі. Палута і сама была адораная яскравым літаратурным

талентам, што засьведчыла выдадзеная, на жаль, адно ў 2019-м яе кніга прозы «Творы». Належачы да партыі беларускіх эсэраў, Бадунова пасьлядоўна выступала за поўную незалежнасьць Беларусі. За свае непахісныя погляды ёй давялося адседзець спачатку ў польскай турме ў Менску, а потым у бальшавіцкай — у Маскве. Гэта была славутая Бутырка, дзе Палута за паўгоду зьняволеньня трымала некалькі галадовак, штораз даводзячы сябе да крытычнага стану.

Вярнуўшыся з праскай эміграцыі, яна працавала настаўніцай у Гомелі. Прымірыцца з савецкай уладай Палута не магла дый не хацела. Такіх, як яна, хто не баяўся выказвацца пра існы лад, тады былі адзінкі. Тое, што па яе прыйшлі толькі ў 1937-м, выглядае анамаліяй. «Антысавецкая агітацыя» была ацэненая на дзесяць гадоў лягераў, але прысуд для эсэркі-незалежніцы прызналі занадта мяккім. Бадунову перавялі ў менскую «амэрыканку». Неўзабаве ёй прачыталі пастанову пра расстрэл.

Гісторык Валянціна Лебедзева, якая да 100-годзьдзя БНР выпусьціла кнігу «Пакліканая свабодай: нарыс жыцьця і дзейнасьці Палуты Бадуновай», піша, што яе гераіню расстралялі ажно праз паўгоду пасьля прысуду. Гэта пацьвярджае існаваньне таемных калёніяў, або «асобных карпусоў» зьняволеных сьмяротнікаў, дзе ўтрымліваліся найбольш каштоўныя для НКВД вязьні. Юрыдычна гэтых людзей ужо не існавала, і да іх магчыма было ўжываць «неабмежаваныя мэтады сьледзтва». У Менску такі «корпус» быў на другім паверсе Валадаркі. Вядома, што ўвосень 1938-га ў гэтым пекле бясконца катавалі болей за чатырыста ахвяраў.

**Палута Бадунова**
7.9.1885, мяст. Навабеліца, цяпер у межах Гомелю —
29.11.1938, Менск.
Месца пахаваньня невядомае.

# Паўлюк Шукайла

Каб пазбыцца думкі, нібыта айчынны літаратурны працэс у 1920-я трымаўся на ціхмяных сарамяжлівых хлопцах у кашулях-вышыванках, дастаткова пазнаёміцца з асобаю паэта Паўлюка Шукайлы. Ужо адно ягонае аблічча — «баярская» бабровая шапка, паліто з кенгуровым каўняром і цяжкі сукаваты кій у руках — патыхала небясьпекаю і скандалам.

Маючы схільнасьць да лідэрства й эпатажу, ён за сваё кароткае жыцьцё пасьпеў памяняць мноства пасадаў: рэдактар слуцкай акруговай газэты, сакратар Расонскага райкаму партыі, старшыня камісіі (былі й такія!) праверкі хады беларусізацыі ў Расонскім раёне, загадчык катэдры ў Маскоўскім інстытуце кінэматаграфіі, віцэ-прэзыдэнт Дзяржаўнай акадэміі мастацтваў у Ленінградзе.

У ягоным расонскім кабінэце побач з партрэтам Маркса замест Леніна вісеў партрэт самога Шукайлы. Магчыма, згаданы факт таксама паўплываў на тое, што «за ўчынкі, ня вартыя члена партыі», Паўлюка на два гады пазбавілі права займаць начальніцкія крэслы. Гэта паспрыяла ажыўленьню літпрацэсу, бо, зьявіўшыся ў Менску, Шукайла ў 1927-м стварыў Беларускую літаратурна-мастацкую камуну, суполку, альтэрнатыўную «Маладняку» ды «Ўзвышшу» й арыентаваную на гэтак званых камуністаў-футурыстаў — расейскі ЛЕФ і ўкраінскую «Нову генерацію».

*«Што мне да поля / зь яго васількамі, / пагубнай кветкай палёў?»* — пісаў Паўлюк.

У сваіх публічных выступах ён бязьлітасна граміў усіх літаратурных аўтарытэтаў.

Помсьцячыся, адна з ахвяраў запусьціла ў масы прыпісаны Шукайлу вершык: *«Выйду я на сенажаць / ды з нагану ў жабу — бац»*, — што ўрэшце адно паспрыяла славе паэта-скандаліста.

Чытаючы некаторыя ягоныя опусы, я згадваў сло-



вы польскага паэта Юліяна Тувіма пра тое, што вершы маюць права быць бяз рыфмы, бяз рытму, часам нават бяз сэнсу, але нельга, каб усё гэта разам было ў адным вершы.

З другога боку, Шукайлавы радкі *«На Беларусі / вада з крыві, / палеткі з курганоў і крыжоў»* Міхась Зарэцкі хацеў узяць эпіграфам да свайго раману «Крывічы».

Пасьля заканчэньня Камуністычнай акадэміі ў Маскве пачалася імклівая, але нядоўгая кар'ера Шукайлы ў сьвеце кіно і тэатральнага мастацтва. (Толькі не кажыце мне, што прозьвішча не адбіваецца на лёсе асобы.)

У 1930-м адбыўся першы арышт, але Паўлюк здолеў праз месяц выйсьці на волю і неўзабаве нават атрымаў званьне прафэсара кінамастацтва.

Падчас другога арышту ў 1935-м яго зноў жа хутка выпусьцілі, але — інвалідам з зламаным хрыбетнікам. Трэцяя сустрэча Паўлюка з «органамі» (на той час былы прафэсар ужо ператварыўся ў бамжа) сталася фатальнай.

Як «удзельнік контрарэвалюцыйнай арганізацыі», ён быў засуджаны на расстрэл. Прысуд выканалі ў наступную ж ноч.

**Паўлюк Шукайла**
31.12.1904, в. Малая Лапеніца, цяпер Ваўкавыскі раён — 14.4.1939, Расстрэльны палігон «Камунарка», Масква, Расея.
Пахаваны на маскоўскіх мэмарыяльных могілках «Камунарка».

Ён мог стаць нашым першым прэзыдэнтам. Гаворка ідзе, як вы зразумелі, не пра выбары 1994 году, а пра час абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі.

Прыехаўшы пасьля навучаньня ў Заходняй Эўропе ў родны маёнтак, Раман хутка зарэкамэндаваў сябе чалавекам, каго цікавіць ня столькі ўласная гаспадарка, як лёс краю.

З трыбуны расейскай Дзяржаўнай думы ён, дэпутат ад Менскай губэрні, выступаў за пашырэньне сялянскага землеўладаньня, але рашуча бараніў прыватную ўласнасьць на зямлю.

## Раман Скірмунт



Нацыянальнае Адраджэньне ён успрыняў як сваю крэўную справу. Скірмунт фінансуе беларускія выданьні. У 1917-м кіруе Беларускім нацыянальным камітэтам і вядзе з Часовым расейскім урадам перамовы пра самастойнасьць Беларусі.

У 1918-м ён падтрымаў абвяшчэньне БНР, на пэўны час стаў яе прэм’ер-міністрам з імкненьнем далучыць да незалежніцкай дзейнасьці айчынную арыстакратыю. У лістападзе таго ж году ў складзе надзвычайнай дэлегацыі дамагаўся прызнаньня незалежнасьці Беларусі ў Нямеччыне й Швайцарыі.

Бальшавікі мелі яго за ворага, беларускія сацыялісты называлі «кансэрватарам».

Пасьля Рыскай дамовы паміж Польшчай і савецкай Расеяй ён вярнуўся ў сваё заходнебеларускае Парэчча і скіраваў энэргію на эканамічныя рэформы. За-

робку мужчыны, які працаваў у Скірмунта, хапала на ўсю сям'ю, і жонка магла прысьвяціць сябе дзецям.

У верасьні 1939-га нейкі абібок прыбег у Парэчча зь весткаю, што набліжаецца цягнік з савецкімі салдатамі. Пахапаўшы чырвоныя сьцягі, дзясяткі два галаштанцаў кінуліся сустракаць «вызваліцеляў». Але на цягніку ехалі палякі. Афіцэр загадаў расстраляць «здрайцаў». Нехта пасьпеў паклікаць пана Скірмунта. Каб ўратаваць сялянаў, той укленчыў перад афіцэрам. Можна ўявіць, чаго гэта каштавала 70-гадоваму арыстакрату.

У краіне саветаў, дзе праз колькі дзён апынулася Парэчча, гонар і годнасьць патомнага шляхціча-незалежніка мелі свой кошт.

Для вырашэньня лёсу Рамана Скірмунта новая ўлада склікала вясковы сход. Насуперак волі камісара Холадава сяляне выказаліся за тое, каб пакінуць пана жывым і на волі. Тады камісар — пад выглядам адправы Скірмунта на допыт у раён — даручыў некалькім «надзейным таварышам» зь мясцовых жыхароў завесьці «ворага народу» ў лес і ліквідаваць.

Скірмунта расстралялі. Ён не сканаў адразу, і забойцы — тыя, каго пан Раман у неўраджайныя гады ратаваў ад сьмерці дармавымі харчамі, — дабівалі ахвяру камянямі.

Дакумэнты сьведчаць, што ў 1939—1940 гадах загінулі пры розных абставінах усе мужчыны з роду Скірмунтаў, якія апынуліся на савецкай тэрыторыі.

Выдадзенае ў 2018-м важкім томам дасьледаваньне доктара гістарычных навук Алеся Смаленчука «Раман Скірмунт: жыцьцяпіс грамадзяніна Краю» на новым узроўні засьведчыў маштаб гэтае асобы.

**Раман Мар'ян Скірмунт**

7.5.1868, маёнтак Парэчча, цяпер в. Парэчча, Пінскі раён — 7.10.1939, ваколіцы в. Парэчча. Перапахаваны ў Парэччы.

Паводле свайго сьветабачаньня, сьветаразуменьня й сьветаўяўленьня ён быў беларусам, а гэта ў вачах савецкай улады заўсёды (за выняткам хіба некалькіх гадоў беларусізацыі ў сярэдзіне 1920-х) азначала асобу сумнеўную, нядобранадзейную, гатовую ў любы момант ператварыцца ў «ворага народу».

Ён узяў сабе псэўданім, што стаў данінаю памяці прадзедам, якія жылі з кравецтва, шыючы найлепшыя ў акрузе кажухі.

Макара больш вабілі кніжкі. Самым адметным пэдагогам у царкоўнапрыходзкай школцы быў выкладчык сьпеваў і музыкі, які, караючы вучняў, біў іх па

## Макар Краўцоў



вушах смычком ад скрыпкі. Касьцевіч такую пачостку зарабляў нячаста, бо авалодаў скрыпкаю вельмі добра. А мо і наадварот — таму й авалодаў, што часта атрымліваў па вушах.

У лёсавызначальныя для краю гады ён як салдацкі дэлегат бярэ ўдзел у Першым Усебеларускім зьезьдзе, робіцца сябрам Беларускай партыі эсэраў, уваходзіць у склад Беларускай вайсковай камісіі, што ў часе савецка-польскай вайны намагаецца стварыць нацыянальныя ўзброеныя сілы.

Краўцоў заяўляе пра сябе як пра здольнага літаратара. Цёплым словам яго заахвочвае ў друку малады Максім Гарэцкі.

У 1919-м менская газэта «Беларусь» пад назовам «Ваяцкі гімн» публікуе Макараў верш «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Кампазытар Уладзімер Тэраўскі піша да яго музыку, і песьня фэнамэнальна хутка на-

бывае велізарную папулярнасьць, робячыся гімнам Беларускай Народнай Рэспублікі.

Яго сьпявалі, ідучы ў бой на бальшавікоў, слуцкія паўстанцы.

Ад 1921 году Краўцоў жыве ў Вільні: друкуецца, настаўнічае, удзельнічае ў нацыянальным руху, трапляе ў польскую турму. Сьмяротная небясьпека ўзьнікае для яго ў 1939-м, пасьля гэтак званага вызвольнага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь. Макара забралі разам з Антонам Луцкевічам, Янкам Пазьняком ды іншымі выбітнымі беларускімі дзеячамі.

Аднаго разу ў родную вёску Краўцова прыйшоў чалавек, які разам зь ім сядзеў у савецкай турме ў Беластоку. Ён распавёў сваякам, што Макара закатавалі на допытах. Дзе паэт знайшоў свой вечны прыстанак, дагэтуль невядома.

Ён пакінуў багатую літаратурную спадчыну, але яго галоўным творам назаўсёды застануцца нібыта адчаканеныя радкі:

*Мы выйдзем шчыльнымі радамі*
*На вольны родны наш прастор.*
*Хай воля вечна будзе з намі,*
*А гвалту мы дамо адпор!*
*Хай аджыве закамянелы*
*Наш беларускі вольны дух;*
*Штандар наш бел-чырвона-белы*
*Пакрыў сабой народны рух!..*

«Ваяцкі гімн» яшчэ ня страціў шанцаў стаць гімнам дзяржаўным.

**Макар Краўцоў (ад нараджэньня Касьцевіч)**
18.8.1891, в. Баброўня, цяпер Гарадзенскі раён — сьнежань 1939, Беласток, цяпер Польшча.
Месца пахаваньня невядомае.

## Зьміцер Прышчэпаў



Калі ў дзяцінстве мы прыяжджалі да сваякоў у вёску і мой тата Аляксей бачыў занядбаную хаціну або нейкую калгасную развалюху, ён зазвычай скрушліва казаў: «Прышчэпава на іх няма». Бацька працаваў пракурорам, і, магчыма, таму я думаў, што Прышчэпаў — нейкі самы галоўны пракурор. Аднак, калі пытаўся, што гэта за Прышчэпаў, у адказ гучала ўніклівае: «Вырасьцеш — даведаесься».

Аднаго разу, яшчэ не пасьпеўшы падрасьці, я пачуў пра загадкавага Прышчэпава і нешта новае: як высьветлілася, каб ня ён, дык і наш Полацак, і ўся Віцебшчына знаходзіліся б не ў Беларусі, а ў Расеі. Я быў перакананы, што тут заўсёды была Беларусь, але бацька паказаў мне пашпарт, дзе было напісана, што ён нарадзіўся ў Віцебскай вобласьці РСФСР.

Праз шмат гадоў, калі таты ўжо даўно не было на сьвеце, я пераканаўся, што Зьміцер Прышчэпаў ня толькі ад імя губвыканкаму падпісаў у 1924-м акт пра вяртаньне Віцебскай губэрні (адарванай бальшавікамі ад Беларусі ў студзені 1919-га) у склад БССР, але і меў іншыя заслугі перад Бацькаўшчынай.

У 1920-я ён быў наркамам земляробства рэспублікі, захапляўся прыкладам сельскагаспадарчых посьпехаў Даніі, якую наведаў дзеля пераймання досьведу. Прышчэпаў не сьпяшаўся выконваць маскоўскія дырэктывы, а вёў сваю незалежную палітыку, дзе стаўка рабілася на разьвіцьцё традыцыйнай хутарской сыстэмы й абаро-



Менск. Канец 1930-х гадоў

ну моцных сялянскіх гаспадарак пры абмежаваньні калгаснага ладу.

Справа Саюзу вызваленьня Беларусі, якая распачала ў рэспубліцы масавыя рэпрэсіі супраць «нацдэмаў», прывяла і да арышту былога наркама, які працаваў пад лёзунгам «Беларусь — чырвоная Данія!». Пасьля жудасных катаваньняў ён спрабаваў скончыць жыцьцё самагубствам, але паўжывога яго выцягнулі зь пятлі, каб засудзіць на дзесяць гадоў лягераў.

У чэрвені 1937-га Прышчэпава выпусьцілі на волю — відаць, бяз права вярнуцца на Радзіму, бо ў дакумэнтах новага арышту, які адбыўся ўсяго праз два месяцы, ён фігураваў як жыхар Магадану.

У Беларусь ён усё ж прыедзе — этапам і, не дажыўшы да выкананьня сьмяротнага прысуду, памрэ ў турэмным шпіталі.

**Зьміцер Прышчэпаў**
21.11.1896, в. Калодніца, цяпер Крупскі раён —
31.1.1940, Менск.
Месца пахаваньня невядомае.

Даводзілася чуць аповед, як аднойчы ў 1920-я на ягонай лекцыі ў БДУ, прысьвечанай асаблівасьцям беларускай мовы, нейкая камсамолка прыслала Язэпу Лёсіку пытаньне, чаму ён так мала ўвагі надае падабенству паміж беларускай і расейскай мовамі.

Спадар Язэп зьняў акуляры і, бліснуўшы вачыма, зь зьнішчальнай іроніяй адказаў: «Мы вывучаем не падабенствы, а саму нашу мову. Жывем жа мы ў Беларусі, а не на нейкім Марсе».

Сучасьнікі згадваюць, што нават напярэдадні 1930-х гадоў ніхто, зьвяртаючыся да яго, не наважваўся казаць «таварыш Лёсік». Для ўсіх ён быў «дзядзькам Лёсікам», чалавекам, які прайшоў найцяжэйшую школу змаганьня за нацыянальную справу.

## Язэп Лёсік



Зямляк і блізкі сваяк Якуба Коласа, ён бярэ ўлетку 1906 году ўдзел у нелегальным настаўніцкім зьезьдзе ў Вільні й, ужо знаходзячыся пад перасьледам паліцыі, робіцца ініцыятарам другога, больш вядомага зьезду, што неўзабаве адбыўся ў іхняй з Коласам роднай Мікалаеўшчыне.

Трапіўшы на высылку ў Сібір, Лёсік пасябраваў там зь іншым «палітычным» — паэтам Алесем Гаруном.

Пасьля Лютаўскае рэвалюцыі ў Расеі Язэп становіцца ўдзельнікам Першага Ўсебеларускага зьез-

ду, адным з стваральнікаў БНР ды ў 1918—1919 гадах кіруе яе Радай.

Выдадзеную ім у 1922-м «Практычную граматыку беларускае мовы» бальшавіцкая прэса характарызуе як «контрарэвалюцыйную прапаганду».

З-пад арышту яго вызваляе тагачасны наркам асьветы Ўсевалад Ігнатоўскі.

У пэрыяд беларусізацыі Язэп Лёсік быў у рэспубліцы самым знаным мовазнаўцам: выступаў з асноўнымі дакладамі на міжнароднай Акадэмічнай правапіснай канфэрэнцыі 1926 году, кіраваў Тэрміналягічнай камісіяй.

Калі ў 1930-м разам з «шырокім сацыялістычным наступам на ўсім фронце» пачалася расправа зь беларускім нацыянальным рухам, акадэміка Лёсіка ўзялі адным зь першых.

Паўторны арышт у 1938-м прывёў ужо не да высылкі, а да пяцігадовага лягернага тэрміну.

Ягоную жонку Ванду Лявіцкую аднаго дня выклікалі ў НКВД і перадалі мужаву вопратку, паведамілі, што той памёр ад сухотаў.

Празь пяцьдзясят гадоў студэнты Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту таксама, як і згаданая камсамолка, спрачаліся з выкладчыкамі. Праўда, мы ўжо спрабавалі бараніць Беларусь і пачыналі, рызыкуючы зьнізіць сабе адзнакі, адказваць па-беларуску на заліках і экзамэнах.

Імя Лёсіка было яшчэ забароненае і не вядомае нам, але ідэю, якой ён служыў, не ўдалося зьнішчыць.

**Язэп Лёсік**
18.11.1883, в. Мікалаеўшчына, цяпер Стаўпецкі раён —
1.4.1940, Саратаў, Расея.
Месца пахаваньня невядомае.

Калісьці я напісаў эсэ на вельмі актуальную тэму — «Як беларусы з кітайцамі сябруюць». Сярод згаданых там напалову легендарных і зусім фантастычных падзеяў уплішчылася й адна цалкам рэальная. Аднойчы ў 1920-м бальшавікі захапілі ў палон невялікі аддзел кітайцаў, што ваявалі пад бел-чырвона-белым сьцягам. На чэкісцкім допыце сыны братняга народу на пытаньне пра нацыянальнасьць з гонарам адказвалі: «Пішы — беларуса!» Гэта былі байцы беларускага генэрала Станіслава Булак-Балаховіча.

## Станіслаў Булак-Балаховіч

Чамусьці ніхто з гісторыкаў дагэтуль, здаецца, не зьвярнуў увагі на тое, што Балаховіч зьявіўся на сьвет у тым самым маёнтку Мэйшты на беларуска-літоўскім памежжы, дзе на сто трыццаць гадоў раней нарадзіўся герой 1794 году і спадкаемец Касьцюшкі ў кіраўніцтве паўстаньнем Тамаш Ваўжэцкі. А вось сам Станіслаў пра гэта, безумоўна, ведаў і натхняўся славаю выбітнага папярэдніка.

Дзейнасьць Булак-Балаховіча ў гады Першай усясьветнай вайны й пасьля кастрычніцкага бальшавіцкага перавароту чакае ўвасабленьня ў авантурным рамане, на старонках якога адлюстраваліся б дывэрсійныя рэйды па нямецкіх тылах, нядоўгая служба ў Чырвонай Арміі й пераход разам з сваім палком на бок белых, захоп Пскова, абарона Эстоніі ад бальшавікоў.

У студзені 1920-га з аддзелам на паўтары тысячы шабляў генэрал быў прыняты ў склад войска БНР. Ягоныя кавалерысты зьдзейсьнілі пераход з Латвіі на Палесьсе, ушчэнт разьбілі адзін з палкоў хвалёнай 1-й коннай арміі чырвоных, узялі Пінск... У лістападзе таго самага году ўжо 20-тысячная армія Булак-Балаховіча распачала імклівы наступ усьцяж



Станіслаў Булак-Балаховіч (зьлева). 1920 г.

Прыпяці. Ад бальшавікоў былі вызваленыя Петрыкаў, Калінкавічы, Мазыр, дзе Балаховіч абвясьціў сябе начальнікам незалежнай Беларускай дзяржавы...

Жывучы ў міжваеннай Польшчы, Булак-Балаховіч быў перакананым антыфашыстам, але яшчэ больш непахісным антыкамуністам, што прывяло яго разам з сынам у армію гішпанскага генэрала Франка. У верасьні 1939-га ён абараняў Варшаву, а затым змагаўся ў шэрагах польскага Супраціву і быў застрэлены гестапаўцамі пры спробе арышту.

Партрэт супярэчлівай, але, безумоўна, выбітнай асобы Балаховіча будзе няпоўным, калі не згадаць, што генэрал усё жыцьцё не забываў беларускай мовы, і нават пісаў на ёй вершы.

**Станіслаў Булак-Балаховіч**
22.2.1883, маёнтак Мэйшты, цяпер Ігналінскі раён, Літва — 10.5.1940, Варшава, Польшча.
Сымбалічная магіла на варшаўскіх Камунальных (былых Вайсковых) могілках.

Калі вы апынецеся ў мястэчку Дрысьвяты, што на Браслаўшчыне, не абмініце галоўную тамтэйшую славутасьць — драўляны Петрапаўлаўскі касьцёл, збудаваны ў дваццатыя гады мінулага стагодзьдзя з рысамі стылю мадэрн.

Таленавіта ўштукаваны ў прывазёрнае навакольле, гэты храм зь яго пяціяруснай вежай-званіцаю стварае непаўторны краявід, што натхняў і натхняе мастакоў і проста падарожнікаў, якім удалося патрапіць у гэтыя найпрыгажэйшыя азёрныя мясьціны — цяпер беларуска-літоўскае памежжа.

Стваральнік драўлянага дрысьвяцкага дзіва — Лявон Вітан-Дубейкаўскі, асоба калярытная й таленавітая ў шмат якіх сфэрах.

## Лявон Вітан-Дубейкаўскі

Выпускнік Парыскай акадэміі архітэктуры, ён будаваў цэрквы на Смаленшчыне, аднаўляў касьцёлы ў Амсьціславе, Вор-



Петрапаўлаўскі касьцёл у Дрысьвятах, збудаваны паводле праекту Лявона Вітан-Дубейкаўскага



шы, Крычаве й Смалянах, спраектаваў царкву ў Відзах і мноства іншых пабудоваў на Віленшчыне і ў Вільні, дзе назаўсёды атабарыўся на пачатку 1920-х гадоў.

Калегі і вучні ведалі яго як зацятага беларускага незалежніка, што калісьці, жывучы ў Менску, рэгулярна завітваў у «Беларускую хатку», а пазьней выконваў абавязкі прадстаўніка Беларускай Народнай Рэспублікі ў Варшаве. Свае прыхільнікі былі і ў Лявона-літаратара, аўтара вострых і дасьціпных паэтычных твораў, сярод якіх вылучаецца байка «Цягне воўк — пацягнуць воўка».

Яшчэ адзін штрых да партрэту Лявона Вітан-Дубейкаўскага: празь некалькі гадоў пасьля сьмерці свайго нарачонага Івана Луцкевіча Лявонавай жонкаю стала Юліяна Мэнке, віленская немка, якая ўдзельнічала ў беларускім руху і, перажыўшы Лявона, прысьвяціла яму напісаную па-беларуску кнігу ўспамінаў, што выйшла ў сьвет у 1950-я гады ў Нью-Ёрку. Тамсама, дарэчы, зьберагаюцца й многія рукапісы Дубейкаўскага.

**Лявон Вітан-Дубейкаўскі**
19.7.1869, в. Дубейкава, цяпер Амсьціслаўскі раён — 6.11.1940, Вільня.
Пахаваны на віленскіх могілках Росы.

## Аляксандар Уласаў

Існуе гэтак званая формула гістарычнага аптымізму: «Усё будзе добра, толькі мы да гэтага не дажывём». Аляксандар Уласаў адрэдагаваў яе, зрабіўшы яшчэ больш арыгінальнай і жыцьцесьцьвярджальнай. «Усё будзе добра, толькі нічога ня трэба рабіць», — любіў паўтараць ён. Праўда, абвінаваціць самога Ўласава, што ён датрымоўваўся такога прынцыпу, ня надта выпадае.

Мяркуйце самі.

Адзін з заснавальнікаў нашай першай палітычнай партыі — Беларускай Сацыялістычнай Грамады — і сябар яе цэнтральнага камітэту.

Ад сьнежня 1906-га (зь пятага нумару) да траўня 1914-га — рэдактар-выдавец «Нашай Нівы», да супрацоўніцтва зь якой далучыў найталенавіцейшых літаратараў, у тым ліку й Янку Купалу, што стаў новым рэдактарам газэты.

Публіцыст, якога царскія ўлады ня раз прыцягвалі да адказнасьці за вострыя публікацыі, а ў 1909-м асудзілі на чатыры месяцы зьняволеньня.

Удзельнік Першага Ўсебеларускага зьезду.

Сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Рыскі трактат 1921 году, які па жывым разрэзаў Беларусь на Заходнюю і Ўсходнюю, засьпеў Уласава ў Радашкавічах. Ён стварае там беларускую гімназію імя Францішка Скарыны, бароніць нацыянальныя інтарэсы як сэнатар Польскага сойму, выконвае абавязкі старшыні галоўнай управы Таварыства беларускай школы.

Высокі, атлетычнага складу, з зухавата падкручанымі вусамі й утульным густым басам, Аляксандар Уласаў прэтэндуе на ролю самай каларытнай ды імпазантнай постаці нашага нацыянальнага руху. У ягоным фальварку Мігаўка стаялі разнастайныя спартовыя прыстасоны, на якіх гаспадар, сказалі б цяпер, «качаўся» і выпрабоўваў дужасьць і спрыт візытантаў.




Ці ня першы ў навакольлі ён рызыкнуў надзець шорты, спарадзіўшы панічную чутку, што сэнатар ходзіць у майтках. Госьці ціха войкалі, калі бачылі ў камінnай залі «невялічкую», паводле слоў уладальніка Мігаўкі, пяцімэтровую канапу, паседжваючы на якой, дзядзька Аляксандар мэлянхалічна выпіваў пяцілітровы імбрычак моцнай гарбаты.

Але шмат у чым гэты арыгінал і волат заставаўся па-дзіцячаму наіўным.

У верасьні 1939-га ён з кошыкам яблыкаў сустракаў чырвонаармейцаў.

Неўзабаве — «каб працаваць дзеля дабра Беларусі» — Уласаў выправіўся ў Маладэчанскі аддзел асьветы. Адтуль яго накіравалі ў НКВД, дзе ветлівы супрацоўнік прапанаваў быломy сэнатару пісьмова распавесьці пра ранейшую дзейнасьць.

Дзядзька Аляксандар напісаў сямнаццаць старонак і пачуў задаволенае: «На обвинительный акт достаточно». Дадому, асуджаны за «шпионско-провокаторскую деятельность» на пяць гадоў канцлягераў, ён ужо не вярнуўся.

**Аляксандар Уласаў**
28.8.1874, Вялейка — 11.3.1941, станцыя Марыінск,
цяпер Кемераўская вобл., Расея.
Месца пахаваньня невядомае.

Разам з братам Іванам ён вярнуў беларусам статус народу дзяржаўнага.

Галоўны ідэоляг нашай першай палітычнай партыі — Грамады. Адзін з ініцыятараў першай легальнай беларускай газэты «Наша Доля». Заснавальнік (супольна з братам-аднадумцам) легенды нацыянальнага друку — «Нашай Нівы». Аўтар канцэпцыі Злучаных Штатаў ад Балтыкі да Чорнага мора.

Напярэдадні паседжаньня Рады БНР, што адбылося ў ноч з 24 на 25 сакавіка 1918 году, якраз Антон Луцкевіч стаў ініцыятарам абвяшчэньня незалежнасьці БНР, а неўзабаве ўзначаліў яе ўрад. Ён жа быў аўтарам гістарычнай Трэцяй Устаўнай Граматы.

## Антон Луцкевіч



Выключныя заслугі належаць Луцкевічу й у ягоных іпастасях гісторыка і літаратара, найталенавіцейшага публіцыста Заходняй Беларусі, які паводле назову радавога шляхецкага гербу ўзяў сабе псэўданім Антон Навіна. Ён як рыба ў вадзе пачуваўся ў тэкстах Скарыны і працягваў ягоную справу, перакладаючы біблійныя кнігі ўжо на сучасную беларускую мову.

Луцкевіч працаваў у Віленскай беларускай гімназіі, але яго, аўтара бліскучых дасьледаваньняў, польскія цэрбэры ад адукацыі пазбавілі права выкладаць родную літаратуру «як недастаткова кваліфікаванага».

У верасьні 1939-га ў Беларускай гімназіі адбыва-




Віленская інтэлігенцыя каля рэдакцыі «Нашай Нівы»

лася ўрачыстасьць з нагоды далучэньня Вільні да Беларусі «на векі вякоў». Луцкевіч спрабаваў шукаць кампрамісу з бальшавікамі. Яго выступ пра новыя беларускія далягляды паблажліва слухаў кіраўнік савецкай адміністрацыі Іван Клімаў. Ён ня ведаў, што Масква перадасьць Вільню Літве, але бачыў сьпіс на арышты віленскіх беларускіх дзеячаў.

У сувэрэннай Беларусі, якой без Антона Луцкевіча й паплечнікаў магло б ня быць, ягонае імя амаль ніяк не ўшанаванае. Адно, што дазволіла ўлада, — усталяваць да 100-годзьдзя БНР мэмарыяльны камень на месцы колішняга менскага дому Луцкевічаў.

**Антон Луцкевіч**
29.1.1884, Шаўлі, цяпер Шаўляй, Літва —
23.3.1942, перасыльны пункт Аткарск,
Саратаўская вобл., Расея.
Сымбалічна пахаваны (з братам Іванам) на віленскіх могілках Росы.

Хто сярод беларусаў ня чуў імя паэта Сяргея Законьнікава? Дасьледнікі ж гісторыі прыгожага пісьменства ведаюць, што ў нашай літаратуры быў яшчэ адзін паэт з дакладна такім самым імем і прозьвішчам, які, праўда, узяў сабе псэўданім — Сяргей Ракіта.

Старэйшы сын у сялянскай сям'і з Дубровеншчыны, ён быў для роднае вёскі своеасаблівым вакном у вялікі сьвет: прывозіў з Гомелю, дзе працаваў у «Палескай праўдзе», а потым зь Менску, дзе вучыўся ў Інстытуце журналістыкі, беларускія кнігі й часопісы, а разам зь імі — навіны пра будаўніцтва новага, справядлівага жыцьця. Малады паэт, як і большасьць яго тагачасных калегаў, верыў у ідэю стварэньня «новага мастацтва», супрацьпастаўляў «ганебнае ўчора» «шчасьліваму сёньня». Яшчэ больш прывабнай выглядала прышласьць:

## Сяргей Ракіта



*Энтузіязм ня зьмераць*
*Баромэтрам плякатаў,*
*праграм.*
*У будучнасьць шчасная*
*вера*
*Дадзена нам...*

Між тым будучнасьць была ўжо зусім блізка. У 1936-м Сяргея Ракіту арыштавалі. Адным з пунктаў абвінавачаньня стаўся яго выступ у абарону Янкі Купалы на пісьменьніцкім сходзе. Другім — скептычныя выказваньні наконт калгасаў. Гэтыя «злачынствы» пацягнулі на дзесяць



Сьвяточная дэманстрацыя каля Дому ўраду. 1935 г.

гадоў савецкіх канцлягераў. Дарэчы, Ракіта быў тады адным зь вельмі нямногіх, хто, нягледзячы на катаваньні, не прызнаў свае віны й адмовіўся сьведчыць супраць сяброў.

Паводле афіцыйнае вэрсіі, ён загінуў на лесапавале, але захавалася сямейная легенда, быццам Ракіта быў расстраляны за тое, што стаў на чале бунту палітзьняволеных, якія прасілі адправіць іх на фронт.

Легенду гэтую расказаў мне родны пляменьнік Сяргея Ракіты Сяргей Законьнікаў, які прызнаецца, што стаў паэтам ня без уплыву гісторыяў пра дзядзьку.

**Сяргей Ракіта (ад нараджэньня Законьнікаў)**
15.10.1909, в. Ліцьвінава, цяпер Дубровенскі раён — 23.3.1942, станцыя Сухабязводнае, Горкаўская вобл., Расея.
Месца пахаваньня невядомае.

## Янка Купала

Школьная праграма вывучэньня Янкі Купалы была ўкладзеная нейкімі адмыслоўцамі такім чынам, што ў мяне й сяброў узьнікла ўстойлівая нялюбасьць да ягонае творчасьці. Нас зусім не натхнялі радкі пра дурнога мужыка, зь якога «сьмяюцца, пагарджаюць». Чамусьці не выклікала прыліву патрыятызму й «агромністая грамада» зь бязьмежнаю крыўдай, худымі плячыма і нагамі ў лапцях. Мы завучвалі верш, але не маглі пагадзіцца з тым, што нашыя продкі былі век сьляпымі й глухімі.

Канчаткова не расчараваўся ў песьняру мне дапамагалі вясёлыя аповеды мамы, што вучылася да вайны ў Копыскай школе і шмат разоў сустракала Купалу на тамтэйшым рынку, дзе паэт, прыехаўшы з сваіх блізкіх Ляўкоў, зацята таргаваўся з старымі габрэйкамі і таленавіта заляцаўся да маладых.

Адкрыцьцё Купалы прыйшло значна пазьней.

Гэта быў Купала зусім іншы, з Маладой Беларусьсю, «сакалінай сям'ёй», якая чуйна ўслухоўваецца ў «вольны вецер вольных песень» і ўсёй душой верыць, што «не загіне край забраны». Тут адгукаліся размовы маладога Янкі з суседам Зыгмунтам Чаховічам, адным з кіраўнікоў паўстаньня 1863 году, чальцом першага ўраду Літвы-Беларусі, які адбываў катаргу на Нерчынскіх капальнях, а вярнуўшыся, на схіле жыцьця, пачаў распрадаваць маёмасьць і вяртаць паўстанцкія даўгі. Чаховіч, прыхільнік жорсткай незалежніцкай палітыкі Кастуся Каліноўскага, даваў будучаму песьняру забароненыя кнігі з сваёй багатай бібліятэкі.

Гэта быў Купала — філёзаф і гісторык, чыю паэму «На Куцьцю» я вывучыў на памяць без усялякіх праграмаў. Гэта быў аўтар забароненай п'есы «Тутэйшыя». Гэта быў змагар, які ў 1926-м, праз год пасьля наданьня яму званьня народнага паэта, пісаў:



*«Былых ня выклічаш вякоў, / І ты, Масквы каронная гразь, / Парваных не скуеш акоў, / Зь якой брахнёю ні вылазь!»*

Масква не даравала. Пасьля спробы самагубства ў 1930-м паэта духоўна зламалі, але нават такі ён заставаўся небясьпечным.

1 ліпеня 1942 году адбывалася пахаваньне Купалавай маці Бянігны. (Кажуць, яна праз усё жыцьцё шкадавала, што сын перайшоў у вершах з польскай мовы на беларускую.) Асьвяціўшы сьвежы грудок на менскіх Вайсковых могілках, ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі прарочa прамовіў: «Дзе сын твой, гаротная беларуская маці?» Ніхто ў акупаваным Менску яшчэ ня ведаў, што і сын ужо там, у нябеснай Беларусі: у той самы дзень у Маскве хавалі забітага Купалу.

**Янка Купала (ад нараджэньня Іван Луцэвіч)**
7.7.1882, фальварак Вязынка, цяпер Маладэчанскі раён — 28.6.1942, Масква, Расея.
Перапахаваны на менскіх Вайсковых могілках.

Побач з трыма тамамі факсымільнага ўзнаўленьня Бібліі Францішка Скарыны ў маёй бібліятэцы стаіць адна з найдаражэйшых для мяне кніг — шчодра падараваныя старым віленчуком «Čatyry Ewanhelii i Apostalskija Dzieji» — пераклад Сьвятога Пісаньня на беларускую мову, зроблены ксяндзом Вінцэнтам Гадлеўскім і выдадзены лацінкаю ў 1939-м у Вільні.

Яшчэ ў раньнім юнацтве абраўшы служэньне Богу, асноўны яго сэнс айцец Вінцэнт бачыў для сябе ў тым, каб дапамагчы беларусам зьдзейсьніцца як народу, а Беларусі — як дзяржаве.

## Вінцэнт Гадлеўскі



Ён браў удзел у паседжаньнях Першага Ўсебеларускага зьезду й уваходзіў у склад Рады БНР. Стаў адным з заснавальнікаў Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, адзначыўся ў доўгіх сьпісах вязьняў сумнавядомых віленскіх Лукішкаў.

У верасьні 1941-га ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі зьявіўся ў Менску й узяўся за ажыцьцяўленьне сваёй галоўнай тагачаснай ідэі — арганізацыю незалежніцкага антынацысцкага Супраціву, маючы на мэце стварэньне пасьля вайны самастойнай Беларускай дзяржавы.

Вінцэнт Гадлеўскі на пачатку 1942 году быў у ліку самых актыўных заснавальнікаў Беларускай незалежніцкай партыі,

якая плянавала выступіць адначасова супраць нацыстаў і бальшавікоў.

Пра вагу асобы ксяндза Гадлеўскага ў тагачаснай ваенна-палітычнай сытуацыі сьведчыць тое, што прадстаўнікі дзяржаўнага Камітэту абароны СССР праз выведнікаў ініцыявалі зь ім перамовы аб магчымасьці ўдзелу беларускіх нацыяналістаў у антыфашыстоўскім змаганьні. Гаворка вялася пра вызваленьне з савецкіх лягераў вязьняў-беларусаў і фармаваньне зь іх нацыянальнага войска кшталту польскай арміі генэрала Андэрса, што адкрывала б незалежнікам пэўныя пэрспэктывы. (Існуе меркаваньне, што, атрымаўшы ад айца Вінцэнта неабходныя зьвесткі, савецкія агенты адразу здалі яго немцам.)

23 сьнежня 1942 году менская «Беларуская газэта» зьмясьціла вялікі артыкул — мэмуар Гадлеўскага пра Першы Ўсебеларускі кангрэс.

У тэкст быў зашыхтаваны мужны, прасякнуты незалежніцкім настроем (і заўважаны ў гестапа) верш Натальлі Арсеньневай «Годзе!»:

*Што далі нам калі чужыя?*
*Ці калі хто — наш плач усьцішыў?*
*Досьць!*
*Напружым пастронкі жылаў,*
*самі злыбеды нашы скрышым!..*

Назаўтра Гадлеўскага арыштавала СД.

У той самы дзень яго вывезьлі зь Менску і расстралялі.

**Вінцэнт Гадлеўскі**
16.11.1888, в. Шурычы, цяпер Сьвіслацкі раён — 24.12.1942, урочышча Благоўшчына паблізу в. Малы Трасьцянец, цяпер у складзе Менску.
Быў пахаваны на месцы расстрэлу.
Магіла ня знойдзеная.

# Антоні Ляшчэвіч

Кажуць, што ў апошнія моманты жыцьця перад вачыма чалавека маланкава праносіцца ўвесь ягоны шлях. Калі гэта так, у той лютаўскі дзень 1943-га Антоні Ляшчэвіч убачыў бацькоў Яна й Караліну, родную вёску сярод падвіленскіх узвышшаў, сяброў з Санкт-Пецярбурскай духоўнай сэмінарыі, сваё высьвячэньне на Велікодныя сьвяты ў 1914-м, Харбін, дзе два дзесяцігодзьдзі быў місіянэрам, уступленьне ў Ордэн марыянаў.

Ад 1939 году айцец Антоні Ляшчэвіч вёў душпастырскую дзейнасьць на Бацькаўшчыне — спачатку ў Друі, а потым у Росіцы на Дрысеншчыне.



У другую ваенную зіму ў навакольлі зьявіліся нацысцкія карнікі. Мясцовых жыхароў, пераважна старых, жанчын і дзяцей, быццам жывёлу, сагналі на сартаваньне ў касьцёл. Адных чакалі канцлягеры, другіх — сьмерць у агні. Антоні Ляшчэвіч і ягоны паплечнік, таксама брат-марыянін, Юры Кашыра адпраўлялі ў храме Сьвятую імшу, прычашчалі, спавядалі, хрысьцілі дзяцей, багаслаўлялі і суцяшалі тых, хто быў у роспачы.

Дамовіўшыся зь нямецкім афіцэрам, айцец Антоні ўратаваў ад сьмерці дзевяць беларускіх сясьцёр-эўхарыстак, якія займаліся ў Росіцы катэхізацыяй.

Тым часам людзей пачалі групамі выводзіць з касьцёлу і паліць у будын-



Росіцкі касьцёл Сьвятой Тройцы

ках. Тых, хто спрабабаваў уцячы, расстрэльвалі. Дзяцей наколвалі на штыхі.

Камандаваньне карнікаў прапанавала сьвятарам жыцьцё. Але яны ўжо зрабілі свой выбар, пастанавіўшы да канца заставацца з прыхаджанамі.

Відавочцы сьведчаць, што айцец Антоні Ляшчэвіч да астатніх хвілінаў выяўляў неверагодны спакой: зьмяніў мокрыя шкарпэткі на сухія, запытаўся ў вернікаў, ці трэба перад сконам пад'есьці, ці ўсё ж лепей быць галодным, ахінуў вакол шыі шалік.

Празь некалькі хвілінаў ён увайшоў разам зь людзьмі ў агонь...

Назаўтра такое ж вусьцішнае скананьне прыняў айцец Юры Кашыра.

Пры канцы 1990-х гадоў папа рымскі Ян Павал II бэатыфікаваў росіцкіх пакутнікаў. Усё больш масавымі робяцца штогадовыя пілігрымкі ў Росіцу да касьцёлу Сьвятой Тройцы.

Айцы-марыяне Антоні Ляшчэвіч і Юры Кашыра сталіся героямі раману пісьменьніцы Ірыны Жарнасек «Будзь воля Твая», выдадзенага ўжо ў XXI стагодзьдзі менскім выдавецтвам «Pro Christo». Прэзэнтацыі кнігі зьбіралі поўныя залі ў розных гарадах краіны.

**Антоні Ляшчэвіч**

30.9.1890, в. Абрамаўшчына, цяпер Смаргонскі раён — 18.2.1943, в. Росіца, цяпер Верхнядзьвінскі раён.

Пахаваны ў брацкай магіле ахвяраў росіцкай трагедыі.

У кастрычніку 1925 году ў Бэрліне адбывалася Другая Ўсебеларуская палітычная канфэрэнцыя. На парадку дня стаяла пытаньне аб прызнаньні савецкай Беларусі сувэрэннай дзяржавай, што непазьбежна прывяло б да ліквідацыі эміграцыйнага Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі.

Супраць прызнаньня БССР рэзка выказаўся міністар фінансаў Васіль Захарка. Ён заявіў, што працягвае стаяць на грунце Акту 25 сакавіка 1918 году (адным з аўтараў якога, дарэчы, быў). Дзякуючы цьвёрдасьці Захаркі БНР не спыніла існаваньня.

## Васіль Захарка

Два свае апошнія дзесяцігодзьдзі Васіль Захарка пражыў у Празе — горадзе, які ад часоў Францішка Скарыны адыгрываў у нашай гісторыі выключную й — адрозна ад любой іншай



Паседжаньне Першай Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі ў Празе (верасень 1921 г.). Васіль Захарка быў абраны віцэ-старшынём канфэрэнцыі



эўрапейскай сталіцы — нязьменна станоўчую ролю.

Захарка кіраваў праскім таварыствам «Беларуская Рада», зьбіраў архіў БНР, выкарыстоўваў любую нагоду для зваротаў у Лігу Нацыяў і дыпляматычныя прадстаўніцтвы, каб паведаміць чалавецтву пра зьдзекі і злачынствы, што чыніла ў Беларусі бальшавіцкая ўлада.

У 1928 годзе, пасьля скону Пётры Крачэўскага, Захарка заняў пасаду Старшыні Рады БНР ды заставаўся ім да сакавіка 1943-га. Тады, ужо на Божай пасьцелі, ён паводле тэстамэнту здаў паўнамоцтвы Міколу Абрамчыку.

Гестапа забараніла выступаць над магілай Захаркі з прамовамі. Калі, нягледзячы на гэта, Абрамчык сказаў разьвітальнае слова, прадстаўнік акупацыйнай адміністрацыі загадаў засыпаць дамавіну. Самлелую ў той момант Ларысу Геніюш выносілі з кладоў на руках сьпявак Міхал Забэйда-Суміцкі і былы слуцкі паўстанец Васіль Русак.

Магілу другога прэзыдэнта БНР Васіля Захаркі вы знойдзеце на праскіх Альшанскіх могілках паблізу апошняга зямнога прыстанку першага прэзыдэнта — Пётры Крачэўскага.

**Васіль Захарка**
1.4.1877, в. Дабрасельцы, цяпер Зэльвенскі раён —
14.3.1943, Прага, Чэхія.
Пахаваны на праскіх Альшанскіх могілках.

Савецкія каты ў кіцелях НКВД білі амаль 75-гадовага сьвятара ботамі па твары, павольна, па валаску вырывалі вусы і бараду, ламалі косьці і абяцалі выкалаць вочы. «Ну что, святой отец, — прысёрбваючы гарбату, напэўна, тысячны раз пытаўся сьледчы, — отрекаешься? Скажи: Бога нет! И завтра пойдешь на волю». «Ратуй, Божа!» — ледзь чутна шаптаў айцец Іаан. «Околеешь, как твоя попадья», — абяцаў сьледчы і загадваў зноў пасадзіць вязьня на «водяной пост».

Калі Полацак занялі немцы, іншыя зьняволеныя вынесьлі айца Іаана — паўжывога, зь пераламанымі скабамі, выбітымі зубамі — на руках, бо сам ён ісьці ня мог. Але ўжо праз некалькі дзён сьвятар пачаў адпраўляць набажэнствы ў Спасаўскай царкве, збудаванай князёўнай-ігуменьняй Эўфрасіньняй. На пытаньне, як ён здолеў так хутка стаць на ногі, айцец Іаан адказваў словамі сьвятога апостала Паўла пра тое, што ў немачы чалавечай зьдзяйсьняецца сіла Божая.

## Іван Сакалоўскі

Наведаўшы ў ваеннае ліхалецьце Полацак, пісьменьнік Юрка Віцьбіч пакінуў зьвесткі пра тое, як Сакалоўскі, вельмі паважаны ў навакольлі фэльчар (яму давяралі больш, чым некаторым дактарам) зьмяніў белы халат на чорную рызу акурат тады, калі на веру і яе пастыраў распачаліся жорсткія ганеньні.

Арыштаваны і асуджаны на 6 гадоў турмы і 5 гадоў пазбаўленьня выбарчых правоў ён быў яшчэ ў 1936-м — за тое, што «занимался регистрацией новорожденных и умерших, а также обрабатывал в контрреволюционном духе граждан, приходивших к нему для совершения религиозных обрядов». Жонку айца Іаана, матушку Марыю, закатавалі ў полацкай царкве Іаана Багаслова, ператворанай энкавэдыстамі ў турму.

Дасьледнік рэпрэсіяў супроць духавенства Фёдар Крыванос піша: вярнуўшыся ў 1941-м да служэньня,



Полацкі Спаса-Эўфрасіньнеўскі манастыр

айцец Іаан усклаў на сябе і клопат пра душы савецкіх ваеннапалонных з разьмешчанага побач з манастыром лягеру. Пад касымі позіркамі ахоўнікаў ён спавядаў і прычашчаў вязьняў, прымудраючыся перадаць ім кавалак хлеба. На споведзь да яго прыходзілі нават партызаны-вернікі.

Вялікім клопатам сьвятара Сакалоўскага стаў рамонт занядбанага бальшавікамі манастырскага Крыжаўзьвіжанскага храму.

Лічаныя дні айцец Іаан не дажыў да вяртаньня ў манастыр мошчаў сьвятой Эўфрасіньні, вывезеных у 1920-я гады ў Віцебскі краязнаўчы музэй.

Я пытаўся пра Іаана Сакалоўскага ў сёньняшніх полацкіх праваслаўных сьвятароў. Адказам былі пацісканьні плячыма, а адзін бацюшка насьцярожана пачаў высьвятляць, чаму я гавару па-беларуску.

**Іван (Іаан) Сакалоўскі**
1867, в. Вайханы, цяпер Гарадоцкі раён —
красавік, 1943, Полацак.
Пахаваны ў полацкім Спаса-Эўфрасіньнеўскім манастыры.

Прыйдзе пара, і гісторыкі напішуць пра партызанства ў Беларусі за часам апошняй вайны ўсю трагічную праўду. Пакуль мы толькі на далёкіх подступах да яе. Пра гэта, як і пра тое, што савецкія «народныя мсьціўцы» змагаліся на акупаванай тэрыторыі не з аднымі гітлераўцамі, сьведчыць і лёс беларускага патрыёта Нічыпара Мяцельскага.

Улетку 1943-га начальнік Цэнтральнага штабу партызанскага руху і першы сакратар ЦК кампартыі Беларусі П. Панамарэнка чытаў у сваім маскоўскім кабінэце спэцпаведамленьне пра «разработку» асобым аддзелам 2-й Менскай брыгады

## Нічыпар Мяцельскі



(камандзір С. Іваноў) «контрарэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі лістападаўцаў», вынікам чаго сталі арышт і ліквідацыя «нацдэма» Мяцельскага, «беларуса, беспартыйнага, жанатага».

У 1920-х ён зь сябрамі браў удзел у дзейнасьці антыбальшавіцкай арганізацыі Юркі Лістапада, а пасьля зьняволеньня настаўнічаў у вёсцы Цітва пад Рудзенскам, дзе застаўся і пры нямецкіх акупантах. Аднойчы менская «Беларуская газэта» надрукавала артыкул Рыгора Крушыны «Зь мінулых дзён. Судовы працэс над Лістападам». Аўтар, на жаль, не прадбачыў, хто можа апынуцца сярод яго чытачоў.

Як цяпер з паведамленьнямі незалежных сродкаў інфармацыі ўважліва знаёмяцца  куратары з розных ведамстваў, так у той час акупацыйную беларускую прэсу пільна перачытвалі партызанскія асабісты. Зь «Беларускай газэты» яны даведаліся, што



Менск. 1944 г.

Мяцельскі — блізкі сябар Лістапада, і што ён лічыць неабходным арганізаваць беларускія вайсковыя аддзелы й урэшце стварыць нацыянальны ўрад.

На допыце Мяцельскага абвінавацілі ў аднаўленьні контрарэвалюцыйнай дзейнасьці й у сувязях з былымі лістападаўцамі. Нічыпар, які, дарэчы, мог належаць да мясцовай суполкі Беларускай незалежніцкай партыі, адмовіўся называць якія-небудзь імёны. «Лепш я загіну адзін», — сказаў ён. «Загинешь, загинешь, не волнуйся, — супакоіў асабіст. — Тебя, гниду белорусскую, никто и не вспомнит».

Нічыпара схапілі, дапыталі й расстралялі за адзін вясновы красавіцкі дзень.

Але лёс ягоны ня зьнік у рацэ забыцьця.

**Нічыпар Мяцельскі**
1905, в. Ануфравічы, цяпер Слуцкі раён —
6.4.1943, ваколіцы Рудзенску, Пухавіцкі раён.
Месца пахаваньня невядомае.

## Вацлаў Іваноўскі

Сьціхотна робіцца, калі задумваесься, колькі талентаў і інтэлектуальных сілаў мы аддалі суседзям, часта атрымліваючы ад іх на падзяку нежаданьне нават прызнаваць, што ёсьць на сьвеце такі народ — беларусы. Своеасаблівым сымбалем гэтых стратаў ёсьць шляхецкая сям'я Іваноўскіх. З чатырох братоў два, Станіслаў і Юры, сталі перакананымі палякамі, яшчэ адзін, Тадэвуш, — літоўцам. На шчасьце, Беларусь не аддала чацьвертага брата — Вацлава.

Выпускнік Пецярбурскага тэхналягічнага інстытуту, у дваццаць дзевяць гадоў доктар навук, ён замест яснай і гладкай кар'еры абраў непрадказальны шлях беларускага дзеяча.

Ён быў сярод заснавальнікаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Стварыў першае беларускае выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца» і быў яго кіраўнікам. Пісаў у «Нашу Ніву» (псэўданім Вацюк Тройца). Дарэчы, гэта Іваноўскі стаў ініцыятарам увядзеньня ў беларускую лацінку літараў Č, Š, Ž, якія адрозьнівалі б яе ад польскай.

У жыцьці Вацлава Іваноўскага здараліся пэрыяды, калі ён адыходзіў ад грамадзка-палітычнай дзейнасьці й заглыбляўся ў сваю ўлюбёную навуку — хімію. Але беларушчына не адпускала.

Ён быў дэлегатам Першага Ўсебеларускага зьезду, займаў пасаду міністра асьветы ва Ўрадзе БНР на чале з Антонам Луцкевічам і ўдзельнічаў у перамовах з палякамі, імкнучыся прадухіліць падзел Беларусі паміж Польшчай і савецкай Расеяй. Тым часам ягоны брат Станіслаў, баронячы польскія інтарэсы, меў заданьне схіліць Урад БНР да калябарацыі, а Тадэвуш — ужо Тадас Іванаўскас — быў эмісарам літоўскага ўраду ў Шчучыне. (Юры стане называцца Ежы і зробіцца міністрам у польскім урадзе.)

У гады Другой усясьветнай вайны Іваноўскі зноў вярнуўся да палітычнай дзейнасьці: узначальваў



Беларускі нацыянальны камітэт у Вільні, уваходзіў у Цэнтральную Раду Беларускай народнай самапомачы, быў намесьнікам старшыні Беларускага навуковага таварыства.

Прызначаны акупацыйнымі нямецкімі ўладамі на пасаду бургамістра Менску, Іваноўскі тым ня менш падтрымліваў сувязі як зь незалежніцкімі беларускімі коламі, так і з Арміяй Краёвай. З улікам гэтых акалічнасьцяў вэрсія пра забойства Іваноўскага савецкімі партызанамі не выглядае цалкам пераканаўчай. У сьмерці надзвычай аўтарытэтнага беларуса былі ня меней зацікаўленыя і самі нацысты.

За савецкім часам ягоная магіла на менскай Кальварыі была занядбаная. Сапраўдны надмагільны помнік Вацлаву Іваноўскаму зьявіўся толькі ў 2006-м. Улады тут, вядома, ні пры чым: грошы на ўшанаваньне памяці выдатнага беларускага дзеяча сабрала разам з аднадумцамі жыхарка Менску Людміла Ліцьвінава.

**Вацлаў Іваноўскі**
7.6.1880, фальварак Лябёдка, цяпер в. Галавічполе, Шчучынскі раён — 7.12.1943, Менск.
Пахаваны на менскіх Кальварыйскіх могілках.

Ягонае імя вядомае значна менш, чым імя расейскага пісьменьніка Аляксандра Салжаніцына. Між тым, менавіта ён, Францішак Аляхновіч, упершыню, за некалькі дзесяцігодзьдзяў да «Архіпэлягу ГУЛАГу», здолеў сказаць сьвету вусьцішную праўду пра імпэрыю савецкіх канцлягераў.

Ён нарадзіўся ў сям'і віленскага тэатральнага скрыпача. Калі Францішку споўнілася пяць гадоў, бацька пачаў браць яго на спэктаклі. Малога палохалі тэатральныя стрэлы, але захапленьне тым, што адбывалася на сцэне, было мацнейшае за страх. Ад таго часу Францішкава душа назаўсёды пасялілася ў тэатры.

## Францішак Аляхновіч



У 1916-м ён стварыў у Вільні гурток, зь якім паставіў сваю першую п'есу «На Антокалі», напісаную, дарэчы, у Лукіскай турме, дзе аўтар адбываў гадавое зьняволеньне «за зьнявагу сілаў нябесных і намер скінуць існую ўладу».

Да Аляхновіча хутка прыходзіць слава нацыянальнага драматурга. Максім Гарэцкі прысьвячае яму цэлы разьдзел у сваёй «Гісторыі беларускае літаратуры». Натхнёны прызнаньнем і веданьнем законаў тэатру, Францішак адважваецца на незвычайны экспэрымэнт: дапісвае й ахвяруе Янку Купалу трэці акт «Паўлінкі». Амбітны аўтар арыгіналу не выказвае незадавальненьня.

У 1925-м Францішак завяршае сямнаццатую п'есу.

Наступную яму наканавана напісаць амаль праз два дзесяцігодзьдзі. Аляхновіча, якога ў БССР афіцыйна называюць «бацькам беларускай драматургіі», у 1926 годзе запрашаюць на Акадэмічную канфэрэнцыю па рэформе правапісу. Ён ведае, што жыцьцё — тэатар, дзе не бывае рэпэтыцыяў, адны прэм'еры, але пагаджаецца прыехаць у Менск. Назад яго ўжо не выпускаюць. Ён становіцца ці ня першым у Беларусі засуджаным паводле артыкулу 98 («организация, действующая в направлении помощи международной буржуазии»).

За давер да бальшавіцкай улады Францішак мусіў разьлічвацца цэлым дзесяцігодзьдзем на Салаўках. І раптам, «усяго» праз сем гадоў зьняволеньня, нечаканае шчасьце — абмен у 1933-м на палітыка і мовазнаўцу, вязьня польскіх турмаў Браніслава Тарашкевіча. Апошні неўзабаве таксама апынуўся ў савецкіх засьценках. Аляхновічу пашанцавала болей. Ён атрымаў яшчэ дзесяць гадоў вольнага жыцьця.

Ягоная кніга «Ў капцюрох ГПУ», пачынаючы з 1935 году, выйшла на сямі мовах у Эўропе й Амэрыцы.

У сакавіку 1944-га ў яго кватэру ў акупаванай немцамі Вільні зайшлі двое. Суседзі пачулі стрэл. Як высьветлілася ў 1980-я, забойцам быў Ё. Сіманавічус (Пятрайціс) — партызан, які пасьля вайны закончыў партшколу, працаваў на высокіх пасадах і «адзначыўся» ўва ўсіх літоўскіх савецкіх энцыкляпэдыях.

У 1990-я глыбокія, мэтафізычныя творы Францішка Аляхновіча вярнуў на беларускую сцэну Мікола Трухан. Ёсьць штосьці трансцэндэнтнае ў тым, што гэты таленавіты рэжысэр заўчасна скончыў свой зямны шлях неўзабаве пасьля пастаноўкі апошняй Аляхновічавай п'есы-гратэску «Круці не круці — трэба памярці».

**Францішак Аляхновіч**

9.3.1883, Вільня — 3.3.1944, Вільня.

Сымбалічна перапахаваны на віленскіх могілках Росы.

Думаючы пра трыццатыя гады мінулага стагодзьдзя, я пачасту пытаюся ў сябе, як бы сам жыў і паводзіўся ў тым часе. Адказы неадназначныя, хоць арышт і зьняволеньне выглядаюць непазьбежнымі. Якраз у такім чаканьні, відаць, і жылі тады нашыя папярэднікі — беларускія літаратары, зь якіх празь некалькі гадоў на волі засталіся адзінкі.

У 1930-м, быццам у адказ на распачатыя ў Менску арышты, Зьмітраку Астапенку прысьнілася лунаньне над Домам ураду бел-чырвона-белага сьцягу. Паэту заставалася яшчэ чатыры гады волі.

## Зьмітрок Астапенка



Ён быў неардынарнай асобаю, якая прываблівала і сяброў, і, вядома, супрацоўнікаў «органаў»: вывучаў замежныя мовы, чытаў у арыгінале Гайнэ й Міцкевіча, чамусьці цікавіўся фізыкай, тлумачачы гэта працаю над фантастычным раманам які — «Вызваленьне сіл» — сапраўды быў напісаны і стаўся адным зь першых у нашай літаратуры навукова-фантастычных твораў. Ён называў сябе пралетарскім пісьменьнікам, але адначасна казаў калегам пра намер уцячы ў Заходнюю Беларусь, каб «пісаць, што яму хочацца, а не выконваць сацыяльны заказ партыі». Апрача таго, у ОГПУ прыходзілі сыгналы, што Зьмітрок з прыяцелямі слухае ў сваёй кватэры варожыя радыёгаласы.

У 1933-м ён быў засуджаны на тры гады высылкі. Пісьменьнік Ян Скрыган, які адбываў разам з Астапенкам пакараньне ў Сіблягу, пісаў пра ягоныя дзіў-

ныя паводзіны, у прыватнасьці, пра пытаньні, ці ня хоча ён, Скрыган, пабываць у Нямеччыне. Усё гэта мела пад сабою нейкія падставы, бо Астапенку вызвалілі датэрмінова, дазволіўшы працаваць у Маскве. Але замест Нямеччыны ў сярэдзіне трыццатых ён зноў апынуўся за кратамі.

Пасьля шасьці месяцаў бясконцых допытаў-канвэераў і катаваньняў Зьмітрок «згадаў», што ў сваёй контрарэвалюцыйнай арганізацыі яны абмяркоўвалі жыцьцё ў вольнай капіталістычнай Беларусі, а ён прыдумаў штрафаваць там за карыстаньне расейскай мовай. Такая вынаходка заважыла на восем гадоў пазбаўленьня волі.

У часе вайны паэта, нягледзячы на ягоныя ўцёкі зь лягеру (праўда, тайга й маразы змусілі туды вярнуцца) зноў вызваляюць з дазволам жыць у Маскве.

У 1943-м Астапенка пісаў:

*Паклянёмся любіць наш край!*
*Паклянёмся, што ў нашыя сэрцы*
*Не ўкрадзецца ні страх, ні адчай,*
*Ні спалох немінучае сьмерці...*

Праз год у складзе групы выведнікаў ён быў перакінуты ў Славаччыну і, паводле афіцыйнае вэрсіі, там загінуў. Але былы аднакурсьнік і сябра Аркадзь Куляшоў сьцьвярджаў, што бачыў яго пасьля вайны ў маскоўскім натоўпе...

Калі так, то паэт меў рэальны шанец дажыць да таго часу, калі ягоны сон пра наш сьцяг над Домам ураду стаўся яваю.

**Зьмітрок Астапенка**
23.11.1910, в. Сяргееўка, цяпер Шумяцкі раён, Смаленская вобл., Расея — кастрычнік 1944 (?), Славаччына (?).
Месца пахаваньня невядомае.

Ёсьць асобы, згадваючы якіх, асабліва востра шкадуеш, што лёс разьвёў вас у часе.

Яна лічыла сябе грамадзянкай Вялікага Княства Літоўскага.

На яе грошы быў выдадзены славуты «Вянок» Максіма Багдановіча.

Яна пражыла доўгае й складанае жыцьцё, нарадзіўшыся яшчэ да паўстаньня Каліноўскага і завяршыўшы зямны шлях у год заканчэньня Другой усясьветнай вайны.

Магдаленін бацька, вядомы археоляг Ян Завіша, валодаў вялікімі землямі на Меншчыне. Іхняй

## Магдалена Радзівіл



«сталіцаю» быў маёнтак Кухцічы паблізу Ўзды. Там прамінула самая лепшая частка яе дзяцінства. Там адукаваная юная арыстакратка ўсьвядоміла сябе беларускаю.

У 1906-м Магдалена, удава польскага графа Людвіка Красінскага, павянчалася ў Лёндане з князем Мікалаем Радзівілам.

Найвышэйшыя польскія колы выказалі непрыхаванае незадавальненьне шлюбам князя з багатай удавой, якая паводле гадоў магла быць ягонаю маці, хоць галоўнай прычынаю такога стаўленьня была, відаць, дабрачынная дзейнасьць Магдалены на карысьць беларускага руху.

Княгіня шчодра фундавала «Нашу Ніву» й беларускія выдавецкія суполкі. У сваіх уладаньнях у Кухцічах, Узьдзе і Каменцы яна адчыніла беларускія школы.

Хаваць мужа, які загінуў на фронце ў 1914 годзе, Магдалена Радзівіл запрасіла ксяндза Аляксандра Астрамовіча (вядомага як паэт Андрэй Зязюля), аўтара вершу «Божа, што калісь народы на асобкі падзяліў», на пачатку XX стагодзьдзя пэўны час уважаўся за беларускі нацыянальны гімн.

У тыя гады княгіня жыла пераважна ў Беларусі: то ў сваім маёнтку, дзе ўсе службоўцы мусілі карыстацца беларускай мовай, то ў Менску, дзе яе дом на Захараўскай вуліцы быў адкрыты для дзеячаў нацыянальнага Адраджэньня.

Яна вітала абвяшчэньне незалежнасьці БНР.

Балюча перажываючы канфэсійную разьяднанасьць беларусаў, яна марыла пра аднаўленьне зьнішчанай каляніяльнымі расейскімі ўладамі нашай Вуніяцкай царквы. На заснаваньне беларускай грэка-каталіцкай сэмінарыі ў Рыме княгіня ахвяравала фантастычна дарагое дыямэнтавае кальле.

У Нямеччыне, дзе яна жыла пасьля рэвалюцыйных забурэньняў, да ўлады рваліся нацысты. Рашучае непрыняцьце антысэмітызму змусіла нашу арыстакратку эміграваць у Швайцарыю.

Адыходзячы ў лепшы сьвет у пераможным для антыгітлераўскага альянсу 1945 годзе, княгіня марыла пра Беларусь, вызваленую і ад нацысцкай, і ад бальшавіцкай акупацыі.

Мроя Марыі Магдалены быць пахаванай на радзіме спраўдзілася ў 2017-м дзякуючы Алесю Сапегу і ачоленаму ім Беларускаму аб’яднаньню ў Швайцарыі.

**Марыя Магдалена Радзівіл (ад нараджэньня Завіша)**
8.7.1861, Варшава, Польшча —
6.1.1945, Фрыбур, Швайцарыя.
Перапахаваная ў менскім касьцёле Сьвятой Тройцы (Сьвятога Роха).

# Кастусь Езавітаў



Афіцыйная савецкая прапаганда не шкадавала для яго самых страшных ярлыкоў: «отъявленный реакционер», «белогвардеец», «военный преступник», «изменник родины». У іншых ён заслужыў азначэньні з процілеглым сэнсам: настаўнік, паэт і публіцыст, вучоны, палітык. Сучасныя дасьледнікі называюць яго найлегендарнейшай для свайго часу асобай беларускай гісторыі. Але тут гаворка пра тыя вехі жыцьцяпісу Езавітава, якія не падлягаюць сумневу.

Удзельнік Першага Ўсебеларускага зьезду й абвяшчэньня незалежнасьці БНР. Ваенны міністар у яе першым урадзе. Шэф Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР у Латвіі й Эстоніі, дзякуючы якому балтыйскія дзяржавы, у тым ліку і Фінляндыя, першымі прызналі беларускую незалежнасьць. (Гэтыя заслугі Кастуся Езавітава былі адзначаныя прысваеньнем яму званьня генэрал-маёра.)

Больш за дваццаць гадоў ён вёў культурна-асьветную дзейнасьць сярод беларусаў Латвіі: кіраваў Люцынскай беларускай гімназіяй, разбудзіў дзясяткі талентаў і тысячы беларускіх душаў. Сярод іх быў і будучы літаратар Эдвард Вайвадзіш з-пад Індры, якога мы яшчэ пасьпелі — у сто гадоў! — прыняць у Саюз беларускіх пісьменьнікаў.

У ўмовах нямецкай акупацыі Езавітаў стварыў і ачоліў у Рызе Беларускі камітэт. Ён адчыняў беларускія школы, займаўся ўпарадкаваньнем архіву БНР і навуковымі штудыямі (каштоўнымі




У сакавіку 1919 г. Кастусь Езавітаў (у цывільным, у цэнтры) быў прызначаны вайсковым камэндантам Горадні

дасьледаваньнямі ёсьць ягоныя кнігі «Беларусы ў Літве», «Беларусы ў Латвіі», «Беларусы і палякі»). Усё жыцьцё ён пісаў вершы:

*У куце больш ня маю бажніц —*
*Мапа там. А на ёй — Беларусь.*

У 1945-м яго, кіраўніка Галоўнага ўпраўленьня вайсковых справаў Беларускай Цэнтральнай Рады, арыштавала контравыведка «Смерш». Паводле афіцыйнай вэрсіі, Езавітаў памёр у турэмным шпіталі «ад тубэркулёзу лёгкіх».

**Кастусь Езавітаў**
17.11.1893, Дзьвінск, цяпер Даўгаўпілс, Латвія —
23.5.1946, Менск.
Месца пахаваньня невядомае.

## Леся Беларуска

Мой украінскі сябар-літаратар запытаўся: «А ў вашай культуры была свая Леся Ўкраінка?» Я назваў некалькі годных імёнаў, але пытаньне ўсё ж засталося. Мне падумалася, што, напэўна, яшчэ не нарадзілася ці ня вырасла тая, якую талент і сам Бог надзеляць адвагаю ўзяць псэўданім — Беларуска. Тады я ня ведаў, што ў нашай літаратуры ўжо сапраўды была паэтка, якая стварала пад імем — Леся Беларуска, відавочна падкрэсьліваючы духоўную лучнасьць з той, украінскай Лесяю, а магчыма, і кідаючы ёй творчы выклік.

Зьвесткі пра яе жыцьцё адрывістыя й фрагмэнтарныя. У 1938-м выйшла замуж за афіцэра НКВД, які праз колькі месяцаў быў расстраляны.

Неўзабаве за калючым дротам апынулася і сама паэтка. Пакараньне яна адбывала ў лягеры Эльген (у перакладзе зь якуцкай — Мёртвы) разам з расейскай пісьменьніцай Яўгеніяй Гінзбург.

*...А над тайгою высьпявае гнеў*
*і пагражае катам ён трывожна.*
*Цьвік забівае хтосьці ў ногі мне*
*і ў галаву... і выцягнуць няможна.*

Вершы Лесі, якую аднойчы знайшлі ў сьнезе замерзлай, сьпяваліся ў лягерах як песьні. Частку створанага ёю захаваў украінскі паэт Васіль Малагуша, таксама былы палітвязень. Толькі пры канцы мінулага стагодзьдзя вершы трапілі ў часопіс «Полымя». Дзякуючы паэтцы Валянціне Коўтун адбылася першая публікацыя.

*Я ўсё стрываю і, як ты, змагу*
*Прайсьці жыцьцё — упэўнена і прама.*
*Ты мураваныя апекавала храмы,*
*Я ж душы тут, як храмы, берагу...*



Так, зьвяртаючыся да сьвятой Эўфрасіньні, пісала Леся Беларуска ў сваім эльгенскім 1945-м.

У 2006 годзе ў адным з паэтычных зборнікаў Валянціны Коўтун зьявіўся разьдзел «Малітва да Калымы», які склалі, паводле вызначэньня аўтаркі кнігі, «перастварэньні» вершаў Лесі Беларускі.

Але ў хуткім часе «суаўтарка» лягернай паэткі абвясьціла, што Леся – плён містыфікацыі, задуманай і зьдзейсьненай Малагушам, а творы Беларускі належаць пяру самой Коўтун.

Васіль Малагуша пацьвердзіць або абвергнуць гэтай заявы ўжо ня мог, бо ягоная зямная дарога завяршылася. Аднак людзі, якія добра яго ведалі, найперш паэтка Ала Канапелька і журналіст Леанід Екель, пераконвалі мяне, што Леся Беларуска — рэальная жанчына, і маюць важкія доказы. Ня першы год няма на сьвеце і самой Валянціны Коўтун.

Канчаткова паставіць у гэтай загадкава-заблытанай гісторыі кропкі над «і» абяцае маладэчанская краязнаўца Ларыса Сысун, якая дасьледуе жыцьцё і творчасьць зямлячкі й рыхтуе да друку прысьвечаную Лесі Беларусцы кнігу.

**Леся Беларуска (ад нараджэньня Ларыса Марозава)**
1920 (?), Маладэчна (?) —
1948, лягер Эльген, Якутыя, Расея.
Месца пахаваньня невядомае.

Наш масьціты графік Уладзімер Басалыга згадваў, што ў дзяцінстве, дый потым, яму часта сьніліся львы. Чаму львы, а не мядзьведзі ці, напрыклад, ваўкі або лісіцы? Бо асірацелага ў вайну малога адвозілі на лета да бабулі ў вёску, дзе ў хаце над ложкам вісеў дыван з гэтым дзівосным нетутэйшым і чамусьці ня страшным зьверам. Яшчэ адзін леў глядзеў зь сьцяны ў бабуліных сенцах, і цэлая іхняя чарада асталявалася па хатах у цётак. Хлопчык даведаўся: ільвоў, антылёпаў ды іншых дзівосных істотаў малюе дзіўнаватая жанчына, якая ходзіць па вёсках і бярэ за працу мех бульбы, капусты ці буракоў.

# Алена Кіш



Ужо ў мастацкай вучэльні і тэатральна-мастацкім інстытуце Ўладзімер Басалыга зразумеў: тыя вясковыя дываны — творы мастацтва, прычым народжаныя асобаю магутнага таленту. Пачаўся пошук мастачкі (спачатку невядомае было нават імя) і яе спадчыны, раскіданай па слуцкіх вёсках і мястэчках.

Вандроўніцу Алену называлі па-рознаму: гультайкай, нахлебніцай, гаротніцай, «беднай каўрыхай», нешчасьлівіцай, некаторыя, нават сваякі, лічылі ціхай вар'яткаю, што потым кінулася ў раку. Але шчасьце магло наведваць гэтую вольную душу нязьмерна часьцей, чым шмат каго з прыгнобленых калгаснай няволяй і паваеннай нішчымніцаю землякоў. Магчыма — кожны раз, калі ў хаце ці на панадворку яна расьцягвала пашытае з трох саматканых палосаў палатно і даставала



хімічны аловак і фарбы. На адзін дыван ішло два-тры дні, а потым гэтыя «райскія куткі» доўгімі гадамі дарылі гаспадарам надзею на лепшае жыцьцё, заставаліся адзінымі, няхай і неўсьвядомленымі дотыкамі да мастацтва.

Надышоў час, калі працы Алены Кіш — цяпер ужо славутыя «Рай», «Русалкі», «У райскім садзе», «Ліст да каханага», «Дзева на водах» — выклікалі фурор на выставах, трапілі ў «Усясьветную энцыкляпэдыю наіўнага мастацтва», дзе імя беларускі стаіць у адным шэрагу зь Ніко Пірасмані і Анры Русо.

Я даслаў альбом з дыванамі Алены Кіш знаёмай грузінскай паэтцы, і ў адказ прыйшоў захоплены ліст: «Гэта ваш Ніко! Толькі трошкі цяплей, бо — жанчына».

Мастачка з Случчыны сталася правобразам гераіні раману пісьменьніцы Зараславы Камінскай «Русалкі клічуць».

Дарогамі і сьцежкамі Алены Кіш прайшоў і праехаў у адным з сваіх «Падарожжаў Свабоды» Зьміцер Бартосік, які назваў беларускамоўнае надмагільле мастачкі «самым незвычайным на Грозаўскіх могілках».

Львы Алены Кіш лашчацца ў снах і аб мае ногі.

**Алена Кіш**
1889 (?), мяст. Раманава, цяпер в. Леніна, Слуцкі раён — 1949, мяст. Грозава, Слуцкі раён.
Пахаваная ў Грозаве.

# Адам Станкевіч



Паводле даробку ў культуру і наагул у нацыянальнае жыцьцё беларусаў Адам Станкевіч выглядае сваім сярод Скарыны, Каліноўскага, Багушэвіча — тых, чыім стваральным духам ён натхняўся.

Паміж яго прыходам на сьвет на Віленшчыне і зьяўленьнем яшчэ адной безыменнай лягернай магілы пад сібірскім Тайшэтам зьмясьцілася столькі, што хапіла б і на дзесяцёх.

На Новы 1915 год малады ксёндз Адам адправіў першую імшу ў парафіяльным касьцёле гістарычнавекапомнага Крэва. Праз тры гады выпускнік Пецярбурскай духоўнай акадэміі Станкевіч прыяжджае ў Вільню ўжо вядомым публіцыстам і дзеячам Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. Адным зь першых ён пачынае карыстацца беларускай мовай ў набажэнствах і публічных выступах. Выкладае рэлігію ў Віленскай беларускай гімназіі. Праходзіць на выбарах у Польскі сойм.

У 1920—1930-я гады без асобы Станкевіча немагчыма ўявіць нацыянальнага жыцьця ўсёй Заходняй Беларусі. Кіраўнік Таварыства беларускай школы, заснавальнік Віленскай друкарні імя Скарыны, рэдактар і выдавец часопісу «Хрысьціянская думка».

У час нацысцкай акупацыі ён працягвае служыць беларускай справе: адчыняе школы, аднаўляе газэту «Крыніца». Старыя беларусы-віленчукі дагэтуль згадваюць Станкевічавы казаньні ў касьцёле Сьвятога Мікалая, якія давалі магутную духоўную падтрымку ў ваеннае ліхалецьце.

Пасьля вайны па яго прыходзяць людзі зь ведамства Берыі. Яны нават не імкнуцца абвінаваціць айца Адама ў супрацоўніцтве зь немцамі, ад якіх той трымаўся на дыстанцыі. Галоўнае злачынства — вера ў незалежную Беларусь. Такая віна ацэньваецца на 25 гадоў няволі.

У яго быў шанец застацца на волі. Афіцэр спэцслужбаў, якога Станкевіч называе ў сваіх дзёньніках Мэфістофэлем, неаднаразова прапаноўваў ксяндзу ўзначаліць Каталіцкую царкву на тэрыторыі БССР пры ўмове непрызнаньня Ватыкану й папы. Адмовіўшыся, айцец Адам ахвяраваў жыцьцём, але адвёў ад Беларускага касьцёлу пагрозу расколу і дыскрэдытацыі.

Адзін з сулягернікаў Станкевіча вынес на волю сьведчаньні пра вусьцішную нават для тых нечалавечых умоваў сьмерць беларускага сьвятара. Айца Адама задушылі, а твар разьбілі кувалдай, каб ніхто не пазнаў яго ў часе таемнага пахаваньня.

Віленскія беларусы зьбяруць грошы і паставяць на могілках паблізу Крэва помнік свайму сьвятару й яго маці. Інтэлектуальнымі помнікамі Адаму Станкевічу застануцца ягоныя кнігі «Беларускі хрысьціянскі рух» і «Хрысьціянства і беларускі народ».

Перад арыштам айцец Адам працаваў над кнігаю «Гісторыя Беларусі», дзе называў шматвяковы шлях нашага народу «рухам да гарманічнай нацыянальнай цэласьці».

Нязьдзейсьненае продкамі нам наканавана ўрэчаісьніць у XXI стагодзьдзі.

**Адам Станкевіч**
6.1.1892, в. Арляняты, цяпер Смаргонскі раён — 29.11.1949, Азёрляг, Тайшэцкі раён, Іркуцкая вобл., Расея.
Пахаваны на могілках Азёрлягу каля в. Шаўчэнкі, Тайшэцкі раён.

Уявіце, што да вас у кляс ці аўдыторыю зайшоў дырэктар і абвясьціў, што ад сёньня ўсё выкладаньне пераводзіцца на расейскую мову, а за адказы па-беларуску будуць аўтаматычна зьніжацца адзнакі.

Якраз такія словы пачулі ўвосень 1945 году будучыя настаўнікі з Пастаўскай пэдвучэльні ад новага дырэктара таварыша Фішкіна.

Пратэстуючы супраць русіфікацыі, група студэнтаў стварыла нелегальную арганізацыю «За Беларусь!». Яна мела на мэце «бараніць родную мову, беларускую культуру, нацыянальныя традыцыі й самабытнасьць».

## Ніна Асіненка

Сярод заснавальнікаў была Ніна Асіненка, якая ўзяла сабе канспірацыйную мянушку Незабудка. У яе на кватэры ў сакавіку 1946-га і адбылася моладзевая вечарына, на якой урачыста абвясьцілі пра існаваньне арганізацыі. Зрабіў гэта нарачоны Незабудкі Мікола Асіненка. (Сяброўкі зайздросьцілі Ніне: нават прозьвішча мяняць ня трэба.)

Праз два тыдні ў роднай Міколавай хаце ў вёсцы Рамелькі Пастаўскага раёну перад бел-чырвона-белым сьцягам і выяваю Пагоні маладыя нелегалы прынялі прысягу. Неўзабаве яны аб’ядналіся з глыбоцкімі студэнтамі-аднадумцамі ў Саюз беларускіх патрыётаў.

Ім заставаўся ўсяго адзін год волі.

На судовым працэсе ў Менску Мікола Асіненка (мянушка Крывіч), каб выратаваць каханую, адмаўляў яе ўдзел у СБП, ды Незабудка заявіла, што была ў арганізацыі й хоча разьдзяліць зь сябрамі іхні лёс.

Найсправядлівейшы ў сьвеце суд адмераў ёй дзесяць гадоў зьняволеньня. Ды самае страшнае было ня гэта. Сустрэча зь любым Міколам адтэрміноўвалася на цэлую вечнасьць: нарачонага прысудзілі да расстрэлу, які замянілі 25 гадамі няволі.

Сьмерць Сталіна скараціла расстаньне дзьвюх родных душаў. Аднак бальшавіцкія канцлягеры,



Ніна Асіненка з мамай

якія ў сваёй жорсткасьці не саступалі нацысцкім, падарвалі Нініна здароўе.

Яе жыцьцё заўчасна дагарэла. Ня маючы змогі забыць сваю Незабудку, Мікола падаўся на будаўніцтва БАМу і назаўсёды зьнік з поля зроку сяброў.

Сэрца заходзіцца, калі думаеш пра тое, колькі іх, сьветлых, чыстых, адданых Айчыне, не пасьпелі зрабіць на пачатку 1990-х глытку свабоды.

Русіфікатарская палітыка цяперашняй улады — у тым ліку, і найперш, у сфэры адукацыі — стварае падставы для ўзьнікненьня арганізацыяў кшталту той, што паўстала ў паваенныя 1940-я ў Паставах. Вось толькі назовы ў іх будуць іншыя.

Заклік «За Беларусь!» цынічна прысабечаны рэжымам. Іхняя Беларусь — гэта Беларусь безь беларускае мовы й культуры, а значыць, урэшце, і безь беларусаў. Але, як казаў адзін расейскі клясык, пабачым, што скажуць самі беларусы.

**Ніна Асіненка**

1928 (?), Пастаўшчына.

Дата і месцы сьмерці й пахаваньня невядомыя.

Яшчэ й сёньня ў родных мясьцінах пра яго ходзяць паданьні. Мне вядомыя прыклады, калі, атрымаўшы на ўроку вольную тэму пра героя, на якога яны хацелі б стаць падобнымі, вучні пісалі пра Расьціслава Лапіцкага.

У паваенныя 1940-я ў Мядзельскай дзесяцігодцы не было вучня, таленавіцейшага за Расьціслава.

Ён сьпяваў і граў на тузіне інструмэнтаў, майстраваў ровары і радыёпрыймачы, зрабіў электрамашыну, якой спрабаваў лекаваць людзей ад розных хваробаў, маляваў плякаты для ўрокаў батанікі й заалёгіі.

# Расьціслаў Лапіцкі



Аднак большасьць настаўнікаў не ганарылася Расьціславам, а трымалася зь ім насьцярожана. І не адно таму, што ён быў сынам сьвятара.

У школе ведалі, што яшчэ раней, у сямігодцы, Лапіцкага арыштоўвалі за сувязь з падпольнай арганізацыяй навучэнцаў Віленскай беларускай гімназіі й Віленскай сэмінарыі. Шаснаццацігадовы Расьціслаў быў асуджаны на тры гады, выйшаў на волю ў 1945-м паводле амністыі, але антысавецкіх поглядаў не зьмяніў, прычым адстойваў іх нават на занятках.

Калі Лапіцкія пераехалі ў Смаргонь, дзе Расьціслаў пайшоў у дзясяты кляс, занепакоілася ўжо кіраўніцтва тамтэйшай школы.

Пагатоў, новы вучань на ўроку адмовіўся пісаць твор пра «моладагвардзейцаў», абвясьціўшы, што ў яго і сяброў ёсьць свая «Гвардыя», якая змагаецца за Беларусь.

У словах Расьціслава не было перабольшаньня: ён сапраўды стварыў арганізацыю зь пятнаццаці чалавек.

Юнакі не бяз посьпеху вялі агітацыю на школьных вечарынках і ў клюбе, дзе іхні кіраўнік граў на піяніна. А неўзабаве ў Смаргоні зьявіліся сотні антыкамуністычных улётак.

Расьціслаў мусіў перайсьці на нелегальнае становішча. Партызаны Арміі Краёвай абяцалі пераправіць яго за мяжу, ды перашкодзіла цяжкая хвароба.

Яго арыштавалі ў Кабыльніку на Нарачы. На допытах у Вялейскай турме Расьціслава так зьбівалі, што знаёмы арыштант не пазнаў яго, прыняўшы за старога дзеда.

Выступ на судзе Лапіцкі выкарыстаў не на апраўданьні, а дзеля абвінавачаньня камуністычнага рэжыму ў антынароднай палітыцы — непамерных падатках, калгасным прымусе, закрыцьці храмаў. Трыбунал Беларускай вайсковай акругі прысудзіў яго да расстрэлу. Расьціслаў адмовіўся прасіць памілаваньня.

Біёграфам Лапіцкага стаў гісторык Міхась Чарняўскі, што паходзіць з тых самых мясьцінаў. «Як пошуг маланкі» — назваў ён сваю кнігу, якая выйшла ў сэрыі «Нашы славутыя землякі». Аднайменны фільм зьняў на тэлеканале «Белсат» рэжысэр Валеры Мазынскі.

На месцы расстрэлу героя ў 2008-м усталявалі памятны знак і крыж, якія неўзабаве былі зьнішчаны ідэйнымі спадкаемцамі сталінскіх катаў, але зноў і зноў аднаўляліся наступнікамі Лапіцкага.

**Расьціслаў Лапіцкі**
1.9.1928, в. Касута, цяпер Вялейскі раён —
28.10.1950, урочышча Красны Беражок, ваколіцы Вялейкі.
Сымбалічная магіла ў Гіжыцку, Вармінска-Мазурскае ваяводзтва, Польшча.
Месца пахаваньня невядомае.

Той ня верыць, хто не жыве паводле веры сваёй. Айцец Андрэй Цікота прайшоў свой крыжовы шлях у згодзе волі і сумленьня, пад знакам веры ў Бога і ў Беларусь.

Ужо ў Віленскай сэмінарыі, а затым у Пецярбурскай духоўнай каталіцкай акадэміі ён належаў да беларускіх культурна-асьветных гурткоў. У 1917-м удзельнічаў у Першым зьезьдзе беларускага каталіцкага духавенства. Цікота ня проста вітаў нараджэньне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, а быў абраны ў яе Раду.

## Андрэй Цікота



На пачатку 1920-х ён уступіў у Ордэн марыянаў і ўзначаліў Друйскі кляштар, які віленскі біскуп Юры Матулевіч марыў зрабіць беларускім рэлігійным цэнтрам. Але сталася іначай. Андрэй Цікота ня змог процістаяць ціску польскіх шавіністаў.

Ён браў удзел у Пятым вуніяністычным кангрэсе ў чэскім Вэлеградзе. У 1933-м яго абралі генэралам Ордэну марыянаў, а затым Ватыкан прызначыў айца Андрэя апостальскім адміністратарам для каталікоў усходняга абраду ў Манчжурыі.

Пасьля заканчэньня Другой усясьветнай вайны Цікоту разам зь іншымі сьвятарамі Харбінскай місіі напаткаў трагічны лёс. Кітайскія камуністычныя ўлады перадалі місіянэраў органам савецкай дзяржбясьпекі. Айца Андрэя аб-

вінавацілі ў шпіянажы адначасова на карысьць Ватыкану й Японіі. За такія «злачынствы» сталінскі суд даваў 25 гадоў канцлягераў.

Яго лісты з-за калючага дроту да кіраўніцы супольнасьці беларускіх сясьцёр-эўхарыстак маці Апалёніі Пяткун сьведчаць, што Цікота, трываючы пакуты, думкамі быў у Беларусі. «Можна жыць на чорных сухарах і вадзе, а нам яшчэ даюць вызначаную страву. Сяджу зь цяжкасьцю, але калі ляжу, то болю амаль ня чую. Штодня малюся за вас, за ўсіх парафіянаў і за Беларусь...» — пісаў ён у 1951-м.



Касьцёл Сьвятой Тройцы ў Друі

Арыштаваны разам зь Цікотам сьвятар-француз Поль Шалей пакінуў сьведчаньні, што беларускі субрат «падчас сьледзтва і ў турме паводзіўся гераічна і заручыўся з Богам як сапраўдны пакутнік». Цяпер адбываецца працэс бэатыфікацыі айца Андрэя.

**Андрэй Цікота**
17.12.1891, хутар Плавушка каля фальварку Тупальшчына, цяпер Смаргонскі раён —
21.2.1952, пас. Навачунка, цяпер Чунскі раён, Іркуцкая вобл., Расея.
На былых лягерных могілках у Навачунцы імянны памятны крыж. Мэмарыяльны крыж на могілках у мяст. Жодзішкі, Смаргонскі раён.

Паглядзіце на цяпер ужо добра вядомае фота Народнага Сакратарыяту — першага Ўраду БНР. Трэці зьлева — самавіты цывільны мужчына з упэўненым і крыху ганарлівым позіркам. Гэта наш першы прэм’ер і міністар замежных справаў Язэп Варонка.

Ён, нядаўні пецярбурскі журналіст і паэт, заўсёднік сталічных літаратурных вечарын і салёнаў, пасьля Лютаўскай рэвалюцыі ўступіў у Беларускую Сацыялістычную Грамаду, улетку 1917-га быў абраны ў яе Цэнтральны камітэт, праз колькі месяцаў ужо займаўся падрыхтоўкаю Першага Ўсебеларускага зьезду, а неўзабаве стаў адным з ініцыятараў абвяшчэньня БНР. Ва ўтварэньні БССР ён разгледзеў манэўр бальшавікоў з мэтаю «авалодаць розумамі нацыянальна абуджаных элемэнтаў». Зразумела, што палітыку з такім мінулым і такімі поглядамі заставацца ў савецкай Беларусі было сьмяротна небясьпечна. Ня надта цёплая сустрэча чакала б прыхільніка канцэпцыі двух ворагаў Беларускага Адраджэньня — Польшчы і Расеі — і ў адноўленай польскай дзяржаве.

## Язэп Варонка

У 1923-м Язэп Варонка ўзяў квіток на параход у Амэрыку. За акіянам ён прычыніўся да заснаваньня беларускага палітычнага руху ў ЗША: кіраваў Беларуска-Амэрыканскай нацыянальнай асацыяцыяй, выдаваў газэту «Белорусская трибуна». Досьвед і талент журналіста дазволілі Язэпу заваяваць сваё месца ў беларускім і расейскім эміграцыйным друку, магчымасьці якога ён скарыстоўваў найперш для кансалідацыі паўмільённай масы беларусаў, расьцярушаных у Паўночнай Амэрыцы паводле канфэсійнай прыкметы паміж расейцамі й палякамі.

У 1928 годзе ў Чыкага ён заснаваў першую ў Новым Сьвеце беларускамоўную радыёпраграму. Старыя чыкагаўскія суайчыньнікі яшчэ памятаюць Язэпаў голас на хвалях Беларускай радыёгадзіны.



Першы Ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі. Трэці зьлева ў першым радзе — старшыня Язэп Варонка

«Спадар Варонка прыехаў у ЗША з адзінаю мэтаю — адукоўваць беларусаў, — пісаў пра яго калега. — Будучы палымяным беларусам, ён спрабаваў абудзіць у іх нацыянальны гонар і самапавагу, вызваліць ад чараў сну, у якім ён іх знайшоў».

На гэтым шляху яму не заўсёды спадарожнічаў посьпех, але ў тым, што беларуская прысутнасьць у Амэрыцы трывае й у XXI стагодзьдзі, несумненна, ёсьць унёсак першага прэм'ера БНР.

**Язэп Варонка**
16.4.1891, мяст. Кузьніца (?), цяпер Сакольскі павет, Падляскае ваяводзтва, Польшча —
4.6.1952, Чыкага, ЗША.
Пахаваны на могілках Элмвуд у прыгарадзе Чыкага Рывэр Гроўв, штат Ілінойс.

## Янка Філістовіч

Мне хочацца напісаць апавяданьне пра закаханую ў Янку Філістовіча кучаравую зеленавокую францужанку Сюзану — ягоную аднакурсьніцу з гістарычнага факультэту Сарбоны.

Пра тое, як дзякуючы высокаму цёмна-русаму хлопцу, якога сябры зь любасьцю, а магчыма, і зь лёгкай зайздрасьцю называлі Напалеонам, дзяўчына даведалася пра невядомую ёй краіну паміж Польшчай і Расеяй і нават вывучыла на роднай Янкавай мове два словы, якія памятае дагэтуль, — «Жыве Беларусь!».

Янка выдаваў часопіс зь няпростым для французскага вуха назовам «Моладзь», быў адным зь лідэраў згуртаваньня сваіх маладых суайчыньнікаў.

Потым ён паехаў вучыцца ў Лювэнскі ўнівэрсытэт у Бэльгіі, і дзяўчына зрэдку атрымлівала пра Янку зьвесткі ад агульнага знаёмага — мастака Міхася Навумовіча.

Яна ганарылася, калі пачула, што ў дваццаць пяць гадоў Філістовіч стаў сябрам Рады БНР — ураду сваёй краіны ў выгнаньні.

А тады Янка зьнік.

Толькі празь пяцьдзясят гадоў гераіня майго апоседу зноў сустрэне мэсье Навумовіча і даведаецца, што ў 1951 годзе Філістовіч на парашуце дэсантаваўся на родную зямлю і стварыў партызанскую групу, мэтаю змаганьня якой была вольная эўрапейская Беларусь.

Праз год, калі Янка будзе выходзіць з акружэньня, школьны сябар падсыпле яму ў гарбату снатворнага...

У 1953-м Філістовіча прысудзяць да расстрэлу.

Гэта быў год майго нараджэньня.

Калі я вазьмуся за апавяданьне, мне дапаможа дакумэнтальная кніга Аляксандра Лукашука «Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста», дзякуючы якой у 1990-я гады Янкава імя вярнулася ў гістарычную памяць беларусаў.



Ён загінуў ва ўзросьце Каліноўскага, зь якім Янку часта параўноўвалі.

Сьледчы Рыгор Трапш, які вёў справу Філістовіча, праз сорак гадоў засьведчыў, што Янка не ўчыняў тэрарыстычных актаў і не дазволіў людзям з сваёй групы ніводнага рабунку і забойства. Паводле Трапша, на ягоным падсьледным не было крыві і за часамі вайны.

Калі краіна здабыла незалежнасьць, у друку гучалі прапановы ўлучыць імя Філістовіча ў сьпіс ста найвыдатнейшых асобаў Беларусі за ўсе дзесяць вякоў яе гісторыі. Але артыкул пра яго ня ўключаны ў гістарычную энцыкляпэдыю.

Малодшая сястра Філістовіча Галіна захоўвае ягонае прысланае з Захаду ў 1950-м фота.

На адвароце Янкавай рукою напісаныя радкі Максіма Багдановіча:

*Усё праходзіць, мінае, як дым,*
*Сьветлы ж сьлед будзе вечна жывым!*

**Янка Філістовіч**
14.1.1926, в. Паняцічы, цяпер Вялейскі раён —
22.11.1953 (?), Менск.
Месца пахаваньня невядомае.

Таму, для каго Беларусь — ня проста геаграфічны назоў, а — Радзіма, ня трэба тлумачыць, што такое гімн «Магутны Божа».

Верш-малітву Натальлі Арсеньневай паклаў на музыку Мікола Равенскі.

Зьявіўшыся ў 1919-м у Менску, ён паверыў у ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі і пачаў шукаць сваё месца ў нацыянальным Адраджэньні.

Калі б можна было перанесьціся ў тыя гады, я, нягледзячы на свае больш чым сьціплыя вакальныя дадзеныя, хацеў бы запісацца ў ягоны хор пры Беларускім рабочым клюбе. Равенскі зьбірае народныя песьні на Случчыне, піша музыку да твораў беларускіх паэтаў — у прыватнасьці, да хрэстаматыйных вершаў «Люблю наш край» Канстанцыі Буйло і «О Беларусь, мая шыпшына» Ўладзімера Дубоўкі.

## Мікола Равенскі



Пасьля Маскоўскае кансэрваторыі ён зноў прыяжджае ў Менск — у той час, апынуцца ў якім мне ўжо не хацелася б. Арыштаваныя дзясяткі сяброў і знаёмых, сярод якіх брат Антон.

У 1938-м шанаванага калегамі й студэнтамі выкладчыка Беларускай кансэрваторыі Равенскага выключаюць з Саюзу кампазытараў.

Краязнаўцы гораду Чэрвеню з сымпатыяй згадваюць яго як рэгента мясцовага царкоўнага хору за часамі вайны. Ніхто не асуджае й ягонага адʼезду

на Захад, бо чэрвенцы ведаюць, як пасьля прыходу савецкіх войскаў нейкі партызан без суда і сьледзтва застрэліў пасярод вуліцы ціхага бяскрыўднага чалавека — усяго за тое, што ён быў царкоўным старастам.

У Заходняй Нямеччыне Равенскі выкладаў сьпевы ў беларускіх гімназіях у Рэгенбургу й Остэргофэне, быў рэгентам хору ў праваслаўнай парафіі Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай.

Колішні рэгенсбурскі гімназіст, а цяпер дырэктар Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку Вітаўт Кіпель зь вялікай цеплынёю апавядаў мне пра заняткі спадара Міколы зь беларускімі скаўтамі, для якіх ён напісаў «Гімн ваўчанятаў» і «Скаўцкую малітву».

Зноў сустрэўся з Равенскім Кіпель ужо ў бэльгійскім Лювэне.

Кампазытар пагадзіўся кіраваць там беларускім студэнцкім хорам, што потым даваў канцэрты ў многіх краінах Эўропы й атрымаў прэмію на міжнародным фэстывалі ў Брусэлі. Вялікі посьпех мелі запісаныя харыстамі кружэлкі, якія рэпрэзэнтавалі ў вольным сьвеце беларускую музыку.

На надмагільлі Равенскага ў Лювэне — ноты яго-нага самага вядомага твору.

У Менску дагэтуль няма ні вуліцы яго імя, ні мэмарыяльнай дошкі на будынку Акадэміі музыкі. Але «Магутны Божа» будзе гучаць на нашай зямлі, пакуль будзе на сьвеце Беларусь.

**Мікола Равенскі**
17.12.1886, маёнтак Капланцы, цяпер в. Капланцы, Бярэзінскі раён — 9.3.1953*, Лювэн, Бэльгія.
Пахаваны на лювэнскіх гарадзкіх могілках.

* У Беларускай энцыкляпэдыі й Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі падаецца памылковая дата сьмерці Міколы Равенскага.

Калі я думаю пра яго, уваччу заўсёды паўстае адно й тое ж відовішча: па вечаровай палявой дарозе ўсьлед за нізкім, чырвоным, як ягадзіна шыпшыны, сонцам ідзе высокі барадаты чалавек з падарожнай кайстраю і мальбэртам. У той самы момант у памяці ажываюць і нягучна поўняць гэтую народжаную ўяўленьнем прастору радкі Ўладзімера Караткевіча:

*Дарогі... Корчмы... Ліра за сьпіною...*
*Ў гадах Хрыстовых — бедным шкаляром...*
*Засьпее ноч, засьпее дзень слатою —*
*Паўсюль мне стол, любоў, цяпло і дом...*

## Язэп Драздовіч



Язэп Драздовіч прыйшоў на сьвет у адным дзесяцігодзьдзі з братамі Луцкевічамі, Ластоўскім, Купалам і Коласам і сам быў з гэтага шэрагу будзіцеляў нацыі. Яны не належалі да нейкіх школаў, плыняў або партыяў. Яны былі іх стваральнікамі.

Драздовіч стаў адным з заснавальнікаў нацыянальнага гістарычнага жывапісу і плённа прычыніўся да вытокаў мастацкай Скарыніяны. Працягваючы творчы подзьвіг свайго папярэдніка Напалеона Орды, ён стварыў вялікія графічныя сэрыі — «Мір», «Крэва», «Наваградак і наваградцы», «Меднікі», «Трокі», «Гальшаны»... Быў шанцоўным археолягам: адкрыў некалькі стаянак каменнага і бронзавага вякоў. Стаў

пачынальнікам касьмічнай тэмы ў нашым выяўленчым мастацтве. Ягоны цыкль «Жыцьцё на Марсе» і сёньня хвалюе мяне, колішняга фаната Рэя Брэдбэры. (Дарэчы, свае самнамбулічныя падарожжы па іншых плянэтах і галяктыках Драздовіч апісаў у літаратурных дзёньніках, дасьледаваных у віленскіх архівах літаратуразнавіцай Ліяй Кісялёвай.)

Па вайне шанец не памерці з голаду дало яму маляваньне на саматканым палатне дываноў, рупліва зьбіраных потым мастаком Аляксеем Марачкіным. Чыноўнікі ад культуры ў лепшым разе лічылі такое мастацтва другарадным, а ў горшым — шкодніцкім. У мястэчку Лужкі дагэтуль памятаюць размалёўку дзядзькі Язэпа ў мясцовай сталоўцы. Асартымэнт страваў быў, далікатна кажучы, небагаты, але туды хацелася зайсьці, каб трапіць у сьвет фантастычных зьвяроў і птушак. Урэшце месца грамадзкага харчаваньня наведаў абласны чыноўнік, пасьля чаго размалёўку зьнішчылі, а на яе месцы павесілі копію карціны расейскага мастака Шышкіна.

Хочацца верыць, што нехта з тых, хто лічыў Драздовіча ўбогім бажаволкам, дажыў да адкрыцьця ў Менску помніка дзядзьку Язэпу, да выхаду альбому-манаграфіі, да зьяўленьня вуліцаў імя Драздовіча ў Менску, Воршы, Маладэчне, Глыбокім, Шаркоўшчыне, Радашкавічах, Германавічах, да стварэньня Культурна-асьветніцкага цэнтру імя Язэпа Драздовіча, узначаленага закаханай у творчасьць земляка Адай Райчонак, пад кіраўніцтвам якой шмат гадоў ладзяцца мастацкія пленэры — у тых мясьцінах, над якімі лунае душа гэтага вечнага вандроўніка.

**Язэп Драздовіч**
13.10.1888, засьценак Пунькі (не захаваўся), паблізу в. Ліпляны, цяпер Глыбоцкі раён — 15.8.1954, мяст. Падсьвільле, Глыбоцкі раён.
Пахаваны ў в. Ліпляны, Глыбоцкі раён.

Увесну й улетку 1920-га ад адной да другой слуцкай вёскі езьдзілі колькі вазоў зь нейкімі нязвычнымі седакамі ды яшчэ больш дзіўным майном, якое тыя вясёлыя седакі называлі «дэкарацыямі». Гэта была драматычная дружына Слуцкага культурна-асьветнага таварыства «Папараць-кветка». У спэктаклях, што ладзіліся часам проста пад зорным вечаровым небам, на імправізаваную сцэну выходзіў артыст Базыль Карусь, які да ўсяго яшчэ і вёў рэй у беларускім хоры таварыства.

## Васіль Русак

Пад псэўданімам хаваўся адзін з кіраўнікоў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў, удзельнік антыпольскага й антысавецкага нелегальнага руху Васіль Русак. Празь некалькі месяцаў ён, колішні дэлегат Першага Ўсебеларускага зьезду, будзе абраны старшынём Беларускага зьезду Случчыны і неўзабаве стане камісарам 2-га Грозаўскага палка паўстанцаў.

Пасьля Слуцкага збройнага чыну Васіль ствараў партызанскія аддзелы на захопленай палякамі Віленшчыне, а затым з рэкамэндацыі прадстаўніцтва БНР у Коўне прыехаў вучыцца ў Праскую вышэйшую тэхнічную школу.

Там, у чэскай сталіцы, ён атрымаў адукацыю, узяў шлюб з чэшкаю, напоўніцу выявіў свае шматстайныя здольнасьці. Стаўшы пасьпяховым прадпрымальнікам, Русак кіраваў Праскім Беларускім нацыянальным камітэтам, зафундаваў часопіс «Іскры Скарыны» і, працягваючы традыцыю знакамітага палачаніна, наладзіў выданьне беларускіх кнігаў.

Сваім коштам ён рыхтаваў і высылаў у Лігу Нацыяў мэмарандумы ў абарону нацыянальных і сацыяльных правоў беларусаў.

У ўмовах нацысцкай акупацыі Русак працягваў жыць з думкаю пра Беларусь. Вядомыя выдадзеныя ім у той час паводле асабістага праекту паштоўкі з Па-



Беларускія студэнты ў Празе. Зьлева направа: Франук Грышкевіч, Васіль Русак, Вячаслаў Лаўскі, Адольф Клімовіч, Тамаш Грыб

гоняю, а таксама нямецкамоўная брашура пра Беларусь з дададзенай этнаграфічнай мапаю.

Ён кожны дзень рызыкаваў жыцьцём, хаваючы ў сябе ў Празе дзьве габрэйскія сям'і. Яшчэ некалькі сем'яў ён ўратаваў, выдаўшы ім дакумэнты Беларускага нацыянальнага камітэту ў Празе аб тым, што гэтыя людзі — беларусы. Адзін зь іх, на прозьвішча Вальфсон, пазьней выдаў свайго ратавальніка агентам савецкай контравыведкі «Смерш». Кваліфікаваўшы тое, чым усё жыцьцё займаўся Васіль Русак, як «антысавецкую дзейнасьць», ваенны трыбунал вынес прысуд: дзесяць гадоў лягераў.

Там, у жудасным, задушлівым сухотным бараку, і згасла гэтае адметнае й ахвярнае жыцьцё.

**Васіль Русак**
4.4.1896, в. Ячава, цяпер Слуцкі раён —
23.8.1954, ГУЛАГ, Расея.
Месца пахаваньня невядомае.

## Леанід Карась

Ён меў мянушку Рыба, якая, між тым, ані не адпавядала ягонай натуры. Леанід Карась любіў кампанію і заўсёды гатовы быў бараніць яе агульны ці свой асабісты гонар. Часамі, як згадваюць сябры, на яго находзіла «ахвота з кім-небудзь пабіцца».

Леанід належаў да славутай «Дванаццаткі» — суполкі з дванаццаці нашых юнакоў, якія трапілі па вайне на Захад і вырашылі «быць прыкладам самаахвярнасьці й адданасьці нацыянальнай справе, быць першымі ўсюды, дзе патрабуюць гэтага інтарэсы Народу». Яны небеспадстаўна лічылі сябе авангардам беларускай моладзі на эміграцыі і праз паўстагодзьдзя сталі героямі дакумэнтальнай аповесьці аднаго зь іх, Янкі Запрудніка, што менавіта так і назваў кнігу — «Дванаццатка».

Гартаючы важкую Запруднікаву таміну, я думаю пра сотні й сотні маладых беларусаў, якія пасьля гарачай вясны 2006-га і халоднай зімы 2010-га трапілі за мяжу, і мне мрояцца створаныя імі сучасныя «дванаццаткі» з тымі самымі мэтамі й памкненьнямі.

Ім лягчэй. Яны ня мусяць перад унівэрсытэтам працаваць, як Лявон зь сябрамі, на шахтах. Большасьць зь іх, цяперашніх, можа пераведваць Беларусь і, хочацца спадзявацца, некалі вернецца сюды.

Лявон Карась пра такое мог толькі марыць.

Навучаючыся ў бэльгійскім Лювэне на інжынэра, ён даведаўся пра стварэньне Беларускай сэкцыі Радыё Вызваленьне (Свабода) і выехаў у Мюнхэн, адкуль павінна было распачацца вяшчаньне. Апрача журналісцкіх задаткаў, ён ужо валодаў ангельскай моваю і меў — што для супрацоўніка радыё надзвычай важна, — прыемны зычны голас.

У траўні 1954-га беларускія перадачы пайшлі ў этэр. Галоўным «сьпікерам» стаў Леанід Карась.

Прафэсія журналіста заўсёды была небясьпечная. Нязьмерна больш за іншых рызыкавалі ў той



Леанід Карась (чацьверты зьлева) зь сябрамі-эмігрантамі з славутай «Дванаццаткі». 1948 г.

час супрацоўнікі радыё, што несла праўду за жалезную заслону, туды, дзе перадачы глушыліся, а спэцслужбы рыхтавалі супраць вызваленцаў свае брутальныя акцыі.

Аднойчы ў верасьні таго самага 1954 году Леанід Карась не зьявіўся ў студыю. Праз тыдзень ягонае цела знайшлі на беразе мюнхэнскай ракі Ізар. Злачынства засталося нераскрытае, але сябры й калегі не сумняваліся, што гэта — справа камуністычных агентаў. Яшчэ праз два месяцы ў сваёй кватэры быў закатаваны шэф азэрбайджанскай рэдакцыі Аба Фаталібэй.

Радыё Свабода ішоў першы год, Леаніду Карасю — трыццаць першы.

**Леанід Карась**
20.11.1923, в. Дзямідзенкі, цяпер Глыбоцкі раён —
7.9.1954, Мюнхэн, Нямеччына.
Пахаваны на мюнхэнскіх могілках Ам Пэрляхер Форст.

Я налічыў дзесяць знаёмых, якія ведаюць на памяць ягоную «Новую зямлю». Коштам мяне гэты сьпіс не папоўніцца, бо я ў свой час вывучыў ня менш геніяльнага, але бліжэйшага маёй гарадзкой душы «Сымона-музыку»:

*Ад роднае зямлі, ад гоману бароў,*
*Ад казак вечароў,*
*Ад песень дудароў,*
*Ад сьветлых воблікаў закінутых дзяцей,*
*Ад шолаху начэй,*
*Ад тысячы ніцей...*

## Якуб Колас

Пад гоман бароў, у сям'і лесьніка Міхала Міцкевіча, што служыў у князёў Радзівілаў, ён і зьявіўся на сьвет. Зьдзейсьніўшы яшчэ ў студэнцкія гады паломніцтва ў тыя наднёманскія мясьціны, я знайшоў у кнігарні томік з «Сымонам» і ўжо праз тыдзень мог дэклямаваць паэму зь любой страфы.

Даводзілася сустракацца з думкаю, што, параўнаўча з бунтоўным Купалам, Колас быў па-мужыцку абачлівейшы і «спакайнейшы». Факты пярэчаць: за ўдзел у нелегальным настаўніцкім зьезьдзе й антыўрадавую дзейнасьць Якуб Колас быў у 1908-м на тры гады ўвязьнены ў менскім астрозе. Якраз тады выйшаў яго першы паэтычны зборнік «Песьні жальбы».

У сьвятле дакумэнтальных сьведчаньняў руйнуецца й міт пра заўсёдную ляяльнасьць Коласа да савецкай улады. На Рыскую дамову 1921 году паміж Польшчай і савецкай Расеяй, якія разарвалі Беларусь, ён адгукнуўся забароненым на дзесяцігодзьдзі вершам «Беларускаму люду»: *«Нас падзялілі — хто? Чужаніцы, / Цёмных дарог махляры...»*

Дзядзька Якуб сябраваў з «нацдэмам» Юркам Лістападам, працэс якога прагрымеў у сярэдзіне 1920-х.



Колас праходзіў у справе сьведкам і мусіў перажыць ператрус з рэвальвэрам, прыстаўленым яму да скроні. У 1938 годзе ён некалькі гадзінаў — пакуль у доме доўжыўся новы татальны ператрус — стаяў з паднятымі рукамі тварам да сьцяны.

У апошні дзень жыцьця народны паэт пайшоў у ЦК КПБ зь лістом у абарону беларускай мовы. Партыйны сакратар Цімафей Гарбуноў не прыняў Коласа. Той ліст цяпер зрабіўся ці не актуальнейшым: «Установы сталіцы вывелі з абыходку беларускую мову: на ёй не вядзецца перапіска, не гавораць з наведнікамі... Акадэмія навук не карыстаецца беларускай моваю... Студыя «Беларусьфільм» здымае фільмы на рускай мове. Такім шляхам нацыянальную кінэматаграфію ня створыш...» Апрача таго Колас напісаў ліст пра жудасны стан беларускіх могілак.

Ёсьць зьвесткі, што з ЦК паэт папрасіў шофэра завезьці яго ў Курапаты, дзе доўга аб нечым маўчаў.

Беларусь разьвіталася з Коласам тры дні: праз Палац прафсаюзаў плыла несканчоная людзкая рака.

**Якуб Колас (ад нараджэньня Канстанцін Міцкевіч)**
3.11.1882, в. Акінчыцы, цяпер у межах Стоўпцаў — 13.8.1956, Менск.
Пахаваны на менскіх Вайсковых могілках.

Усё, як вядома, пазнаецца ў параўнаньні. Калі маю нацыянальна арыентаваную душу наведваюць скруха і паняверка, я змагаюся зь імі, думаючы, да прыкладу, аб тым, што сёньня няма такога беларуса, які б ня ведаў колераў нашага нацыянальнага сьцягу (няхай не для кожнага ён пасьпеў стаць сьвятыняю). А вось у 1970-я пра бел-чырвона-белы сьцяг анічога ня чула абсалютная большасьць студэнтаў нават майго роднага гістарычнага факультэту БДУ. У тым ліку і наш аднакурсьнік Саша Душэўскі, блізкі сваяк чалавека, які на пачатку XX стагодзьдзя падараваў, ці, дакладней, вярнуў беларусам Сьцяг.

## Клаўдзі Дуж-Душэўскі

У сваім багатым на падзеі жыцьці, прысьвечаным беларускай справе, выхаванец Пецярбурскага горнага інстытуту Клаўдзі Дуж-Душэўскі сумленна й плённа працаваў на розных афіцыйных і неафі-



Мы,
Урад Беларускай Народнай Рэспублікі,
іменем Беларускага Народу,
просімо ўсе ваенныя і цывільныя установы чужаземных Дзяржаў і загадываемо ўсім прыслухаючым нам ваенным і цывільным ўласьцям, каму гэты пашпарт будзе паказаны, дазволіць свабодны праезд Дзяржаўнаму сакратару Беларускай Народнай Рэсп. Кляўдзішу Дуж-Душэўскаму.
і даваць яму у патрэбе усялякую дапамогу.
Выданы у м. Рызе
25-га кастр. 1920 г.
Старшыня Рады Народных Міністраў:
25.X. 1921 г.

Уласнаручны подпіс:
Signatura antographe:
Eigenhändige Unterschrift:

Старонка дыпляматычнага пашпарту БНР, выдадзенага Клаўдзію Дуж-Душэўскаму ў 1921 г.



цыйных пасадах: ад выкладчыка Віленскай беларускай гімназіі да дзяржаўнага сакратара ва Ўрадзе БНР на чале з Вацлавам Ластоўскім. Але ў прышласьці, калі бел-чырвона-белы сьцяг зноў стане дзяржаўным, мы будзем шанаваць Душэўскага найперш за тое, што менавіта ён на падставе гістарычных сьведчаньняў і колераў народных строяў і арнамэнтаў стварыў эскіз Беларускага сьцягу.

Дакладная дата яго зацьверджаньня ня выяўленая, аднак ужо ўвесну 1917-га, за год да абвяшчэньня БНР, бел-чырвона-белы сьцяг успрымаўся па ўсёй Беларусі сваім. 12 сакавіка, калі ў Менску праходзіў Дзень беларускага значка, на вуліцах былі вывешаныя дзясяткі сьцягоў. Улетку наш сьцяг узьнялі на віленскім Катэдральным пляцы. Першы Ўсебеларускі зьезд у сьнежні 1917-га ўжо прызнаваў Сьцяг нацыянальным сымбалем краіны.

Пасьля далучэньня Літвы да СССР старшыня Беларускага нацыянальнага цэнтру ў Коўні архітэктар Дуж-Душэўскі трапіў у савецкую турму. Падчас нямецкай акупацыі яго за дапамогу габрэям кінулі ў нацысцкі канцлягер. У лютым 1952-га Душэўскі як «актыўны беларускі нацыяналіст» быў асуджаны да 25 гадоў зьняволеньня ў канцлягерах савецкіх.

Праз тры дзесяцігодзьдзі пасьля яго сьмерці бел-чырвона-белы сьцяг залунаў над менскім Домам ураду.

**Клаўдзі Дуж-Душэўскі**
27.3.1891, Глыбокае — 25.2.1959, Коўня, Літва.
Пахаваны на ковеньскіх Петрашунскіх могілках.

У сваёй славутай «Геаграфіі Беларусі» Аркадзь Смоліч пісаў пра родны для Паўла Растаргуева Старадуб як пра адназначна беларускі горад. Прафэсар і правадзейны сябра Інбелкульту Растаргуеў і не падумаў бы спрачацца.

Якраз тады беларускія нацыянал-камуністы дамагліся ад Масквы двух узбуйненьняў рэспублікі. У 1924-м з РСФСР вярнулі адарваныя пасьля абвяшчэньня БССР Віцебшчыну і Магілеўшчыну. Вяртаньне было няпоўным: частку беларускіх паветаў Масква прысабечыла. Тое самае адбылося і з другім узбуйненьнем у сьнежні 1926-га: ад вернутай Гомельшчыны адрэзалі Старадуб, Навазыбкаў і Клінцы.

# Павел Растаргуеў



Менск вырашыў пазмагацца, і газэта «Зьвязда» надрукавала мапу, дзе гэтая тэрыторыя гістарычнай Севершчыны падавалася прынамсі як спрэчная.

Сваё слова павінны былі сказаць вучоныя, і яно прагучала. 1927 годам датаваная выдадзеная ў Ленінградзе манаграфія Растаргуева «Северско-белорусский говор». Аўтар зрабіў абгрунтаваную і падтрыманую акадэмікам Яўхімам Карскім выснову: жыхары паўночных раёнаў Браншчыны і Чарнігаўшчыны гавораць па-беларуску. Расейскае геаграфічнае таварыства адзначыла манаграфію залатым мэдалём.

Павел Растаргуеў на той час быў вядомы яшчэ і тым, што на Акадэмічнай канфэрэнцыі 1926 году ў

справе рэформы беларускага правапісу прапаноўваў увесьці ў наш альфабэт дзьве новыя, запазычаныя ў сэрбаў літары для перадачы гукаў [дж] і [дз], а літару *й* перадаваць на пісьме як *j*.

На погляды вядомага філёляга, супрацоўніка Навукова-даследнага інстытуту мовазнаўства ў Маскве не маглі не зьвярнуць увагі і мовазнаўцы з ОГПУ. У 1934-м Паўла Андрэевіча Растаргуева этапавалі на пяць гадоў у ГУЛАГ. Калі б вучонага арыштавалі на тры гады пазьней, ён бы ўжо, найверагодней, не вярнуўся з Карлягу да ўлюбёнай справы. Аднак яму пашчасьціла выйсьці на волю (бяз права жыць у Маскве і сталіцах рэспублік).

У Беларусі прафэсара Растаргуева не забылі. Пасьля Другой усясьветнай вайны яму пасылае асабістае запрашэньне на працу ў Інстытуце мовазнаўства сам віцэ-прэзыдэнт Акадэміі навук Якуб Колас.

Унучка Растаргуева хімік-навуковец Зоя Іванюціна ўспамінае іхні вялікі, перапоўнены кнігамі дом у Навазыбкаве, дзе на схіле жыцьця пасяліўся дзед. Дзяўчынка дзівілася, як на поўным сур'ёзе можна запісваць ад вясковых бабулек забытыя слоўцы і байкі пра нейкія «сурокі». (Галоўная праца вучонага — «Словарь народных говоров Западной Брянщины», выйшла толькі праз 14 гадоў пасьля яго сьмерці.)

Цяпер унучка прафэсара, што не хацеў аддаць родныя мясьціны Расеі, жыве ў Менску і, паказваючы выданьні зь дзедавай бібліятэкі, урачыста прамаўляе: «Кнігі прафэсара Растаргуева!» І — піша цікавыя апавяданьні.

Магутная рэч — гены!

**Павел Растаргеў**
30.6.1881, Страрадуб, цяпер Бранская вобл., Расея —
21.3.1959, Навазыбкаў, Бранская вобл.
Пахаваны ў Навазыбкаве.

# Аляксандар Орса



Аляксандар Орса — з тых нашых суайчыньнікаў, якія ўвасабляюць пасіянарнасьць старажытнай беларускай Наваградчыны — ядра Вялікага Княства Літоўскага.

Вярнуўшыся зь Першай усясьветнай вайны ў ранзе капітана, ён адразу ўлучаецца ў нацыянальны рух: настаўнічае ў беларускай школцы, зьяўляецца прадстаўніком сваёй воласьці пры разьмеркаваньні харчовай дапамогі ЗША пацярпелым ад вайны, актыўнічае ў выбарчай кампаніі 1922 году, калі беларусы ў Наваградзкай акрузе атрымліваюць цэлыя тры пасольскія месцы ў Сойме й адно — сэнатарскае.

З Прагі, дзе Аляксандар вучыўся на прыродазнаўчым факультэце Карлавага ўнівэрсытэту, ён прыяжджае з ступеньню доктара навук і з жонкаю Натальляй, колішняй суседкай, якая таксама здабывала навуку ў гасьціннай чэскай сталіцы.

Орсы працуюць у Наваградзкай беларускай гімназіі. Польская дзяржава плаціць заробкі ўсяго чатыром з двух дзясяткаў настаўнікаў. Гэтыя чацьвёра, у ліку якіх і Орса, дзеляць уласныя грошы на ўсіх калегаў.

І за саветамі пасьля верасьня 1939-га, і за немцамі, і ў ЗША ягонае жыцьцё было зьвязанае з школьніцтвам. Але найяскравейшае выяўленьне пэдагагічныя здольнасьці Орсы знайшлі, калі ён займаў пасаду дырэктара славутай Беларускай

гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу — вучэльні, якая выхавала эліту нашай паваеннай эміграцыі.

Сярод гімназістак была малодшая дачка Орсаў Ала, у будучым — прафэсар хіміі Нью-Ёрскага гарадзкога ўнівэрсытэту і знаная навукоўка, а ў беларускім сьвеце — шматгадовая мастацкая кіраўніца ў свой час надзвычай папулярнага танцавальнага ансамблю «Васілёк», удзельніца практычна ўсіх ініцыятываў беларускай дыяспары, стваральніца Культурна-адукацыйнай Фундацыі Орса-Рамана, якую ў Беларусі з удзячнасьцю згадваюць вучоныя і настаўнікі, мастакі, музыкі і пісьменьнікі.

Успадчыўшы ад бацькі талент пэдагога, яна, адрозна ад шмат якіх іншых эмігрантаў, навучыла гаварыць па-беларуску сыноў і мужа-амэрыканца італійскага паходжаньня.

Спадарыня Ала вельмі добра памятае, як у доме ейных бацькоў, ужо за акіянам, у 1950 годзе, адбылося ці ня першае ў Нью-Ёрку сьвяткаваньне Дня Волі 25 сакавіка.

«Тата заўсёды пасылаў мяне кудысьці вучыцца, — расказвала яна мне. — А калі недзе сьпявалі беларускія песьні, ён адразу плакаў, а я, як была меншая, саромелася за яго».

На надмагільным помніку Аляксандру Орсу на беларускіх кладах парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансўіку напісана: «Змагару за волю Беларусі, Настаўніку». А мне там згадаліся словы кагосьці з антычных мысьляроў: добра вучыць той, хто добра робіць.

**Аляксандар Орса**
24.7.1896, Нягневічы, цяпер Наваградзкі раён —
2.11.1959, Нью-Ёрк, ЗША.
Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку,
штат Нью-Джэрзі.

Шмат гадоў працуючы над кнігамі па полацкай гісторыі, я прыйшоў да высновы, што жыхары нашага Прыдзьвіньня маюць у характары рысы, якія вылучаюць іх сярод іншых беларусаў.

Напрыклад, — большую схільнасьць да гумару, іроніі й самаіроніі, якія дзіўным чынам спалучаюцца ў іх з балцкай стрыманасьцю (каб пераканацца ў гэтым, перачытайце тэксты палачанаў Вінцэся Мудрова і Пятра Васючэнкі).

Насельнікаў Полаччыны вылучае й пракаветная глыбокая вера ў дзівосы, што выдатна засьведчыў сваім «Шляхцічам Завальнем» Ян Баршчэўскі. (А пазьней, дарэчы, і расейскі пісьменьнік Аляксандар Грын, насамрэч Грынеўскі — сын удзельніка паўстаньня 1863 году дзісенскага шляхціча Стафана Грынеўскага.)

# Даніла Васілеўскі

Такія назіраньні далі мне падставу ўвесьці паняцьце «полацкі мэнталітэт», што вельмі спадабалася Рыгору Барадуліну, які адгукнуўся аднайменным вершам:

*Ёсьць полацкі мэнталітэт —*
*Ад Эўфрасіньні, ад Скарыны,*
*Ад той абрынутай адрыны,*
*Дзе сон шукаў*
*Свой сонны сьлед...*

Носьбітам гэтага мэнталітэту быў і выпускнік Полацкай настаўніцкай сэмінарыі, краязнаўца і пэдагог Даніла Васілеўскі.

У сэмінарскія гады ён — сябра напалову легальнага гуртка «Вястун ведаў» (што знаходзіўся пад уплывам ідэяў народніцтва) і натхнёны зьбіральнік прыдзьвінскага фальклёру. Пазьней Даніла стаў аўтарам краязнаўчых допісаў у «Нашу Ніву». Будзеце гартаць старыя падшыўкі ці факсымільныя выданьнні — ня раз сустрэнеце ягоныя псэўданімы



Шчыры і Віцень Д. За савецкім часам Васілеўскі зрабіў краязнаўства сваёй прафэсіяй: захоплена працаваў у Полацкім таварыстве вывучэньня мясцовага краю, заснаваў Віцебскае губэрнскае бюро краязнаўства. Ганарыўся ўдзелам у раскопках верхнепалеалітычнай чалавечай стаянкі Бердыж.

Адна зь ягоных найцікавейшых працаў — дасьледаваньне «Лячэбніку» Ганны Шаранды — помніку «чарадзейнай літаратуры» канца XVII — пачатку XVIII стагодзьдзя, які быў настольнай кнігаю полацкіх знахараў і знахарак.

У 1930-я лёс людзей з такімі зацікаўленьнямі, як у Васілеўскага, звычайна складваўся трагічна. Публікацыі пад назовамі кшталту «Краязнаўства ў школах як сродак камуністычнага выхаваньня» былі прызнаныя толькі камуфляжам шкодніцкай дзейнасьці, і ў 1936-м дэкан геаграфічнага факультэту Магілеўскага пэдынстытуту стаў вязьнем ГУЛАГу, «перакваліфікаваўшыся» ў варкуцінскага буравіка.

Сьледчыя ОГПУ ня здолелі выбіць з Данілы Васілеўскага іроніі.

Захаваліся зьвесткі, што ён, у прыватнасьці, прызнаўся ў намеры далучыць Беларусь да Індыі.

Магчыма, якраз гэтае «чыстасардэчнае» прызнаньне й уратавала яму жыцьцё.

**Даніла Васілеўскі**
17.12.1889, в. Новае Сяло, цяпер Шумілінскі раён —
28.12.1963, Феадосія, Украіна.
Пахаваны ў Феадосіі.

У восьмым клясе ў школьнай бібліятэцы я зьняў з стэнду «Пісьменьнікі-землякі» сьціплы зборнічак вершаў зусім не вядомага мне Янкі Журбы. Пагартаўшы старонкі, узбагаціў сябе чатырохрадкоўем, што было сугучнае майму тагачаснаму стану безнадзейнай, яшчэ дзіцячай закаханасьці:

*Я помню сад у срэбраным уборы...*
*Паміж красуючых духмяных дрэў*
*Стаяла ты — ўся ў белым. Сад шумеў.*
*У цьмяным небе замігцелі зоры...*

А яшчэ з кніжачкі я даведаўся, што аўтар гэтых

## Янка Журба



радкоў жыве ў маім родным Полацку. Прамінула некалькі дзён, і завочнае знаёмства атрымала нечаканы працяг. Блукаючы па недалёкіх ад бацькоўскага дому могілках, я раптам убачыў прымітыўнастандартны помнік, з надпісу на якім вынікала, што аўтар упадабанага мною санэту пра каханьне перасяліўся сюды ўжо некалькі гадоў таму.

Мне падумалася, што паэты заслугоўваюць лепшых надмагільляў, але найбольш уразіла нават ня ўбогасьць помніка з мармуровай крошкі, а надпіс на ім — чамусьці па-расейску, ды яшчэ й з прыкрай памылкаю: «Белорусский поэт Янко Журба».

Праз колькі гадоў, закончыўшы ўнівэрсытэт і, як кажа адзін мой сябар, кан-

чаткова стаўшы на нацыянальныя рэйкі, я вярнуўся ў родныя мясьціны й распачаў змаганьне за новы помнік паэту ці, прынамсі, за беларускі тэкст на ім.

У розныя інстанцыі быў напісаны дзясятак лістоў пра тое, што выпускнік Полацкай настаўніцкай сэмінарыі Янка Журба быў «нашаніўцам» (і, дарэчы, нейкім дзівам пазьбег за сталінскім часам рэпрэсіяў), што гэта ён некалі пераканаў пісаць па-беларуску будучага аўтара «Міколкі-паравоза» Міхася Лынькова, што на схіле дзён ён страціў зрок і жыў у невядомасьці ў доме для састарэлых...


Cena asobnaho numeru 5 kap.

Hod VI. Wilnia, Studnia 20 (Janvara) 1911 h. № 3.

NAŠA NIWA

PIERŠAJA BIEŁARUSKAJA HAZETA Z RYSUNKAMI.

Wychodzić što tydzień ruskimi i łacinskimi literami.

Adres redakcii i administracii: Wilnia, Wilenskaja wulica № 20.

Cena z pieresyłkaj i dastastaŭkaj da chaty: na 1 hod—2 r. 50 k., na 6 mies.—1 r. 25 k., na 3 m.—65 k., na 1 mies.—25 k. Za hranicaj: na 1 h.—4 r., na 6 m.—2 r., na 3 m.—1 r. Pieramiena adresu—20 k.

Č—czytać jak polskaje CZ;
Š—czytać jak polskaje SZ.

Emihracija u Ameryku.

Parachody i žaleznyje darohi razwoziać tawary úsiudy, dzie ich mohuć kupić. Tak sama rabočaja siła z razwiccjem kapitalizmu zrabiłasia tawaram, katory prybywaje tudy, dzie bolš płaciać za jaho. Ad nas wyježdžaje šmat rabočaj ludzkoj siły u Złučenyje Štaty Paŭnočnaj Ameryki, dzie zarabotak u 5—10 razoŭ bolšy ad našaho; tam našy bielarusy, nie prywykšyje da raskošnaho žyccia, za 2—3 hady dŭžo składajuć kapitał i waročajucca da swaich rodnych wiosak z «Amerykanskimi hrašmi». Možna skazać, što najmienš try čwierci našych mužyckich kapitałoŭ—heta z Ameryki.

Kolki amerykanskich hrošy u Bielarusi, paličyć akuratnie ciažka. U zbierehacielnych kasach na počtach u Bielarusi razam s Kowienskaj hub. u 1909 h. ležało 57 mil. rub. dy ješče u bankach 32 m. r.,—razam 90 m. r. U adnej Wilenskaj hubernii—38 mil. r.; z hetych hrošej 5 mil. r. naležyć ziemlerobam, a z ich nia mienš 3—4 mil. rub. «amerykanskich». Usiaho takich hrošy ad pradažy swajej pracy ŭ Amerycy na našu damoŭ u Bielarusi budzie kala 30 mil. rub.

Да 1912 году газэта «Наша Ніва», на старонках якой дэбютаваў Янка Журба, выходзіла лацінкаю й кірыліцай

У адказ прыходзілі зьдзекліва-ветлівыя адпіскі. Новы помнік зьявіўся ўжо ў сувэрэнныя 1990-я.

Некалі я назаўсёды вярнуся ў Полацак. Пытаньня пра мову надпісу на маім помніку, я ўпэўнены, не паўстане. Хацелася б, каб ня ўзьнікла і праблемы правапісу.

**Янка Журба (ад нараджэньня Іван Івашын)**
30.4.1881, в. Купніна, цяпер у межах Чашнікаў —
7.1.1964, Полацак.
Пахаваны на полацкіх Ксавэр'еўскіх могілках.

Ягоны ўпэўнены дэбют у дваццаць гадоў абяцаў надзвычай цікавы працяг. Аднак неўзабаве Пётра атрымаў першыя ўражаньні з тых, што пазьней стануць асноваю аўтабіяграфічнага апавяданьня «Каляды на чужыне».

Каляды 1939-га малады літаратар сустракаў у вялейскай турме НКВД, Каляды 1940-га — у лягернай лякарні пад Варкутой, а Каляды 1942-га — у іракцкай пустэльні. На той час Пётра Сыч служыў у польскай арміі генэрала Андэрса, у складзе якой браў удзел у баях з гітлераўцамі на Апэнінах, у тым ліку і ў цяжкой бітве пад Монтэ-Касына, дзе палеглі сотні беларусаў.

## Пётра Сыч

Пасьля вайны Пётра працаваў на Радыё Свабода. У адным з сваіх нарысаў ён з пранікнёнай шчырасьцю казаў слухачам на далёкай радзіме: «Мы — як нашыя птушкі ў выраі: гнёздаў ня ўём — павароту чакаем. Ярдань ці Ніл, Тыбар ці Тэмза, Амазонка ці Гудзон шумяць нам разьліўным Нёманам, сьветлай Дзьвіной...»

Аповесьць «Сьмерць і салаўі. Успаміны афіцэра-



Беларускія магілы на вайсковым нэкропалі Монтэ-Касына



беларуса з-пад Монтэ-Касына», што з працягам друкавалася ў мюнхэнскай эміграцыйнай газэце «Бацькаўшчына», сталася самым значным ягоным творам. Над апошнімі старонкамі Пётру напаткаў заўчасны і, на маю думку, загадкавы скон — ён хварэў і раптоўна памёр ад зробленага мэдсястрой уколу.

Гэтыя таямнічыя сьмерці або зьнікненьні нашых эмігрантаў выцягваюцца ў вусьцішны ланцужок: паэт Хведар Ільяшэвіч (аўтамабільная катастрофа), супрацоўнік Радыё Свабода Леанід Карась (відавочнае забойства), літаратары Ўладзімер Дудзіцкі, таксама свабодавец, і Мікола Цэлеш (бясьсьледныя зьнікненьні)...

Заключныя абзацы аповесьці «Сьмерць і салаўі» дапісаў сябар і аднапалчанін аўтара Вінцэнт Жук-Грышкевіч, у 1970—1982 гадах — старшыня Рады БНР.

Ужо ў нашыя дні аповесьць была перавыдадзеная Згуртаваньнем беларусаў сьвету «Бацькаўшчына».

«Маё першае ўражаньне з-пад Монтэ-Касына, — піша Пётра Сыч, — было лірычнае: разбушаваная італійская вясна, пунсовыя макі й звар’яцелыя салаўі...»

**Пётра Сыч**
18.1.1912, в. Батурына, цяпер Вялейскі раён —
20.6.1964, Мюнхэн, Нямеччына.
Пахаваны на мюнхэнскіх могілках Ам Пэрляхер Форст.

## Сяргей Пясецкі

Нашае знакамітае мястэчка Ракаў адгукаецца ў маёй сьвядомасьці ня толькі імёнамі прафэсара-філёляга Вячаслава Рагойшы й адораных шматлікімі талентамі братоў Янушкевічаў, але й імем аднаго з найвыбітнейшых беларускіх авантурнікаў прамінулага стагодзьдзя Сяргея Пясецкага.

Пазашлюбны сын шляхціча зь вядомага ліцьвінскага роду, Сяргей ужо ў сямнаццаць гадоў браў удзел у змаганьні з бальшавікамі ў складзе аддзелу вядомага атамана Дзергача (Вячкі Адамовіча). Дзяргач, які займаўся і літаратурнай творчасьцю, ня ведаў, што пад ягонай рукой ваюе адзін з будучых выдатных польскіх пісьменьнікаў. Не падазраваў гэтага і сам Пясецкі, які на той час ведаў па-польску ўсяго якую сотню слоў.

У Заходняй Беларусі ён стаў агентам польскай вайсковай выведкі, знаходзячы час і на маштабную кантрабандысцкую дзейнасьць у ваколіцах памежнага Ракава. (Тагачасныя прыгоды лягуць пазьней у аснову яго першага раману «Каханак Вялікай Мядзьведзіцы».)

Праз свой авантурны характар Пясецкі мусіў неўзабаве разьвітацца з турботнай працаю выведніка, але лягчэйшым ягонае жыцьцё не зрабілася. Пад узьдзеяньнем какаіну ён учыніў цяжкое злачынства і ў 1926-м быў засуджаны на расстрэл, які, улічыўшы заслугі перад сакрэтным ведамствам, замянілі на пятнаццаць гадоў зьняволеньня.

Арганізаваныя Пясецкім тры бунты зьняволеных скончыліся ягоным пераводам у самую жорсткую ў тагачаснай Польшчы Сьвентакшыцкую турму, дзе былы дывэрсант і кантрабандыст нарэшце вывучыў польскую мову і пачаў пісаць на ёй мастацкую прозу.

Публікацыя першага ж раману выклікала пасьпяховую кампанію дзеля датэрміновага вызваленьня хворага на сухоты пісьменьніка. Ён выйшаў на во-



лю ў 1937-м і ўжо ў наступным годзе разглядаўся як кандыдат-набэліст.

У гады вайны Пясецкі геpaічна ваяваў на Віленшчыне ў аддзелах Арміі Краёвай і выславіўся тым, што сярод белага дня наладзіў у Вільні ўцёкі з гестапа Юзафа Мацкевіча, пазьней знакамітага пісьменьніка польскай эміграцыі (яшчэ аднаго беларуса з паходжаньня).

Сярод больш чым дзясятку раманаў Пясецкага, таксама паваеннага эмігранта, самы вядомы, напэўна, — «Запіскі афіцэра Чырвонай Арміі», што ў камуністычнай Польшчы заставаўся пад забаронаю, а па-беларуску выйшаў у 2005 годзе.

Чытаючы «Запіскі афіцэра...», я напачатку быў трохі ўкВелены празьмерным, як мне здалося, гратэскам, але, згадаўшы ўласны армейскі досьвед, цалкам пагадзіўся зь перакладчыкам, які ў прадмове адзначае, што гэтая кніга ёсьць «адным з найбольш пасьлядоўных, зьнішчальных, бескампрамісных і пасапраўднаму сьмешных прыкладаў сатырычнага адлюстраваньня сутнасьці савецкае сыстэмы».

Па-беларуску загаварылі і «Каханак Вялікай Мядзьведзіцы» (гэтае сузор’е высечанае на надмагільлі Пясецкага), і «Пяты этап», і «Жыцьцё раззброенага чалавека», і «Яблычак», і тое, што найбольш кранула глыбінёю псыхалягізму, — «Багам ночы роўныя».

**Сяргей Пясецкі**

1.4.1901, Ляхавічы — 12.9.1964, Пэнлі, Вялікабрытанія.

Пахаваны ў Гастынгсе, Вялікабрытанія.

Хачу прызнацца, што, пашанотліва ставячыся да дзейнасьці ўсіх беларускіх айцоў-марыянаў, якія пакінулі глыбокі сьлед у гісторыі нашага нацыянальнага й рэлігійнага руху, з адным зь іх я адчуваю асаблівую мэтафізычную сувязь.

Казімер Смулька зьявіўся на сьвет на цэлае жыцьцё раней за мяне, быў трынаццатым сынам у сялянскай сям'і, вучыўся ў Віленскай каталіцкай сэмінарыі й стаў манахам, але ў нашых лёсах было і нешта агульнае.

Смулька, як і я, заўсёды шкадаваў, што нідзе й ніколі ня меў магчымасьці вучыцца па-беларуску, адно што ў ягоных школах усё было па-польску, а ў маіх — па-расейску.

## Казімер Смулька

Смулька, як і я, насуперак забароне бацькоў любіў у дзяцінстве чытаць па начах. Праўда, у мяне быў ліхтарык, а часам, дзеля рамантыкі, слоічак зь сьвятлякамі, а ў яго — сьвечка.

Ён, як і я, ніколі не гарнуўся да вайсковай службы й у Першую ўсясьветную вырашыў — з рэлігійных перакананьняў — пазьбегнуць прызыву на фронт.

Хаваючыся ў сваякоў, Казімер мусіў весьці начны лад жыцьця, што разам з інтэнсіўным чытаньнем прывяло да раптоўнай страты зроку. Ад таго часу ён крыху бачыў адно ўдзень.

У 1920-м бальшавікі арыштавалі Смульку як польскага агента. У 1938-м палякі вывозілі айца Казімера з славутага Друйскага кляштару ўжо як небясьпечнага беларуса.

Рэшту жыцьця ён правёў у марыянскім кляштары ў польскім Скурцы. Ня толькі за кляштарнымі сьценамі, але і ў цэлым ордэне Смулька меў славу выдатнага спавядальніка.

Цалкам страціўшы зрок, ён адпраўляў набажэнствы для сьляпых, уражваючы ўсіх тым, як беспамылкова чытае з памяці Эвангельле.



Айцец Казімер Смулька сярод беларускіх айцоў-марыянаў (сядзіць трэці справа). Друя, 1937 г.

Паводле аповедаў старых скурацкіх марыянаў, у кельлі ў айца Казімера заўсёды прыцішана працаваў стары, але надзейны радыёпрыймач, і ўдзень і ўначы настроены толькі на хвалі Беларускай службы Радыё Свабода.

На іранічныя часам пытаньні братоў, чаму ён ніколі не вымыкае радыё, айцец Казімер заўсёды сур'ёзна адказваў: «Баюся прапусьціць навіну, што Беларусь стала незалежная».

**Казімер Смулька**
12.1.1894, в. Пруднікі, цяпер Мёрскі раён —
15.9.1965, мяст. Скурац (Скужэц), цяпер Сядлецкі павет, Мазавецкае ваяводзтва, Польшча.
Пахаваны ў мяст. Скурац.

## Аляксандар Ружанцоў

Ад часоў Васіля Цяпінскага і Філона Кміты-Чарнабыльскага нашы літаратары ўмелі трымаць у руках і пяро, і зброю, а ваяры не бяз посьпеху займаліся літаратурнымі штудыямі. На пачатку мінулага стагодзьдзя адзін з прыкладаў гэтага даў Алесь Ружанцоў-Смаленец.

І ягонае месца нараджэньня, і псэўданім яшчэ раз сьведчаць, як далёка на ўсход ад сучасных дзяржаўных межаў Беларусі праходзіла мяжа этнічная.

Выхаванец гістарычна-філялягічнага факультэту Маскоўскага ўнівэрсытэту й Аляксееўскай вайсковай школы, Алесь Ружанцоў у юнацтве гераічна ваяваў на франтах Першай усясьветнай. Паслужыўшы пасьля 1917 году і ў белых, і ў чырвоных, ён урэшце зрабіў свой выбар на карысьць змаганьня за незалежную Беларусь.

Камандуючы беларускім батальёнам у Літоўскім войску, Ружанцоў-Смаленец здабыў вядомасьць як аўтар нечаканых сваімі тэмамі й вобразамі экспрэсіўных вершаў, якія нараджаліся з жорсткіх рэаліяў ваеннага часу. Адметнасьць ягоных твораў падкрэсьлівалі ўжо назовы: «На форце», «Перад атакай», «Зраньня ў акопах»...

*Раптам згасьлі ліхтарні...*
*Задыміў папяросай,*
*Моцна лаяўся нехта з матросаў...*

*На сьнягу чырванела крывавая пляма,*
*Зачынілась жыцьцёвая брама.*

Гэта радкі зь вершу «Расстрэл», прысьвечанага Максіму Гарэцкаму, які, дарэчы, называў вершы Смаленца «моцнымі думкаю й арыгінальнымі формаю».

У 1920-я былы баявы камандзір быў консулам БНР у Коўні, дзе друкаваў у часопісе «Крывіч» артыкулы з гісторыі беларускага войска. У 1944—1945 гадах ён



працаваў пад кіраўніцтвам Кастуся Езавітава, беручы ўдзел у спробе стварыць нацыянальныя збройныя сілы. Па вайне Аляксандар Ружанцоў жыў у ЗША, дзе напісаў цікавыя мэмуары, якія яшчэ чакаюць руплівага выдаўца.

Калі б я стаў укладальнікам зборніку патрыятычных тэкстаў для сучасных беларускіх жаўнераў, абавязкова ўключыў бы туды верш Алеся Смаленца «Перад атакай»:

*Ўжо празьвінела трубкі рытурнэль.*
*Вушмі кpанyўшы, задрыжэлі коні.*
*На штандару чырвоны знак Пагоні*
*Яскрава сьвеціць... Трэснула шрапнэль.*

*Праменьні сонца залiваюць блоні.*
*Перад вачмі — як быццам акварэль.*
*Мацней сьціскаеш шаблю у далоні*
*І чуеш, як ляціць яшчэ шрапнэль.*

**Аляксандар Ружанцоў (псэўданім Алесь Смаленец)**
12.8.1893, Вязьма, Смаленская губ., Расея —
23.7.1966*, Дэнвіл, штат Ілінойс, ЗША.
Пахаваны ў Дэнвіле.

* У Беларускай энцыкляпэдыі, Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі і біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменьнікі» падаецца недакладная дата сьмерці Аляксандра Ружанцова.

## Ёсіф Стаброўскі

Ёсіф Стаброўскі, чыё імя сёньня мае Слонімскі краязнаўчы музэй, — адзін з маіх улюбёных герояў «Таямніцаў полацкай гісторыі».

Пачатак ягонага жыцьцёвага шляху прадвызначыла зьяўленьне на сьвет у шляхецкай сям'і афіцэра. Юзіка аддалі на выхаваньне ў кадэцкі корпус, адчынены ў мурах ліквідаванай царскімі ўладамі Полацкай акадэміі.

Улады хацелі бачыць кадэтаў вернымі слугамі імпэратарскага трону. Але шмат хто з гадаванцаў Полацкага корпусу меў сваё ўяўленьне пра абавязак перад Бацькаўшчынай. Стаброўскі ніколі не забываў, што ён — унук паўстанца 1863 году, прыкутага да тачкі на расейскай сібірскай катарзе.

Захоплены ў Полацку гісторыяй, Ёсіф пазьней закончыў Маскоўскі археалягічны інстытут. У чыне палкоўніка ён завяршыў Першую ўсясьветную вайну, крыху паслужыў у Чырвонай Арміі і, не пранікшыся бальшавіцкімі ідэямі, вярнуўся ў родны Слонім.

Там, у Заходняй Беларусі, нашай інтэлігенцыі таксама даводзілася нялёгка, але, адрозна ад СССР, яе фізычна не зьнішчалі, і магчымасьцяў для працы на будучыню Беларусі, асабліва ў жудасныя 1930-я гады, было болей.

Сабраныя гэтым апантаным слугою Кліё ўнікальныя калекцыі леглі ў аснову Слонімскага гарадзкога гістарычна-краязнаўчага музэю. У яго адкрыцьці ў 1929-м браў удзел прэзыдэнт Польшчы Ігнацы Масьціцкі.

Калі ў чэрвені 1941-га ў горадзе зьявіліся немцы, Стаброўскі запакоўваў і хаваў экспанаты. Гітлераўскі афіцэр зайшоў у музэй акурат тады, як сівы сямідзесяцігадовы дырэктар здымаў зь сьцяны карціну Верашчагіна.

«Верашчагіну месца ў Дрэздэнскай галерэі», —


Ёсіф Стаброўскі з жонкай

пракамэнтаваў сытуацыю адукаваны візытант. У адказ колішні полацкі кадэт закруціў «мастацтвазнаўцу» ў форме сакавітую дулю і дзівам пазьбегнуў сьмерці.

У 1948-м Стаброўскага, які ўратаваў музэйныя калекцыі ад вывазу ў Нямеччыну, звольнілі з пасады дырэктара «как не отвечающего требованиям по своему неправильному поведению и идеологическому мировоззрению».

Наступныя дваццаць гадоў ён пражыў у беднасьці, што часам межавала з жабрацтвам.

Зямны шлях Ёсіфа Стаброўскага завяршыўся ў 1968-м, на дзевяноста дзявятым годзе жыцьця.

За чатыры гады да гэтага Полацкі гарвыканкам прыняў пастанову: да чарговай гадавіны «Великого Октября» ўзнагародзіць ганаровымі граматамі і каштоўнымі падарункамі актыўных удзельнікаў руйнаваньня сабору Сьвятога Стэфана і некалькіх іншых будынкаў былых Акадэміі й кадэцкага корпусу, што далі Беларусі цэлае сузор’е славутых імёнаў.

**Ёсіф Стаброўскі**
2.11.1869, Слонім — 15.1.1968, в. Орлавічы, Слонімскі раён.
Пахаваны ў в. Орлавічы.

Галоўным сэнсам ягонага жыцьця ад маладых гадоў было змаганьне за вызваленьне Бацькаўшчыны. Ворагі мяняліся — бальшавікі, палякі, немцы, зноў бальшавікі, але не мянялася мэта — вольная незалежная Беларусь.

Маючы ўсяго дваццаць гадоў, Якуб далучыўся да беларускай антыпольскай партызанкі й неўзабаве ўзначаліў аддзел у Ружанскай пушчы, які ўваходзіў у склад партызанскіх войскаў БНР. Магчыма, якраз тады Якуб Новік і ўзяў сабе канспірацыйнае імя, сугучнае з назвай роднага мястэчка.

## Якуб Харэўскі



Побач з Харэўскім дзейнічалі беларускія аддзелы Сяргея Хмары й атамана Рудога, а таксама група вядомага савецкага чэкіста Кірылы Арлоўскага, які імкнуўся стварыць з суседзямі «агульны штаб». Перамовы завяршыліся не на карысьць чэкіста, якому загадалі не пераходзіць лінію Віленска-Берасьцейскай чыгункі.

У 1925-м, калі палякі ўзялі ягоны аддзел у атачэньне, Харэўскаму ўдалося захаваць людзей, распусьціўшы іх па хатах, а самому ўцячы ў БССР. Потым, ратуючыся ад арышту, ён мусіў перайсьці мяжу ў адваротным кірунку.

На пачатку 1939-га ў Баранавічах адбылася падпольная канфэрэнцыя былых сяброў Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Багаты партызанскі досьвед атамана Харэўскага аказаўся зноў запатрабаваным. Ён атрымаў заданьне рыхтаваць на Палесьсі на выпадак нямецка-поль-

скай вайны антыпольскае паўстаньне. У жніўні сілы Харэўскага ўжо складалі пяць тысяч чалавек, але заплянаваны на 18 верасьня штурм Пінску атаман мусіць адмяніць, бо пачаўся «вызвольны» паход Чырвонай Арміі.

У 1942-м ён робіцца адным з кіраўнікоў беларускай народнай партызанкі й вядзе рэй у яе «Лаве атаманаў».

Падчас адыходу немцаў ягоны аддзел імя Нябабы захоплівае ў Любяшове, на беларуска-ўкраінскім памежжы, цэлы нямецкі арсэнал. Ваюючы да канца саракавых з бальшавікамі на Берасьцейшчыне і Піншчыне, «нябабаўцы» Харэўскага даходзілі да Косава, Століна і Каменю-Кашырскага.

Пазьней беларускаму атаману ўдаецца пераправіць сваіх людзей у Польшчу, адтуль у Заходнюю Нямеччыну і, нарэшце, у Бразылію. Там Харэўскі кіруе Беларускай вэтэранскай арганізацыяй і працуе над дакумэнтальнай кнігаю пра злачынствы бальшавікоў і палякаў супроць нашага народу.

У 1967-м газэта «Беларускі Голас», якую выдаваў у Таронта былы паплечнік Сяргей Хмара, зьмяшчае артыкул, дзе Харэўскі-Новік згадваецца як герой, палеглы ў баях за Беларусь. «Нябожчык» не вытрымлівае й друкуе ў адказ ліст, што чуткі пра ягоную сьмерць крыху перабольшаныя.

Ён яшчэ ня ведае: газэта памылілася ўсяго на некалькі месяцаў. Увесну 1968-га Харэўскі з ад’ютантам гінуць у аўтакатастрофе. Такі мэтад расправы шырока выкарыстоўвалі савецкія спэцслужбы. Ёсьць падставы лічыць, што ў гэтым выпадку зь імі супрацоўнічалі «польскія таварышы».

**Якуб Харэўскі (ад нараджэньня Новік)**
1900, мяст. Хорава, цяпер Пружанскі раён —
2.4.1968, Порту-Алегры, штат Рыю-Грандзі-ду-Сул,
Бразылія.
Месца пахаваньня невядомае.

Павароты яго лёсу дагэтуль змушаюць гісторыкаў распачынаць зацятыя спрэчкі. Паколькі «спрачаецца той, хто ня ведае» (Лао-цзы), засяродзімся на несумнеўных фактах.

Франук усьвядоміў сябе беларусам вельмі рана. Ужо ў школе ён пашыраў сярод сяброў «Нашу Ніву», а потым стварыў у Івянцы нацыянальную моладзевую суполку.

У лістападзе 1917-га, маючы два баявыя раненьні і званьне штабс-капітана, Кушаль пакінуў расейскую армію і аб'явіўся ў родных мясьцінах пад Валожынам. Дачуўшыся, што ў Менску адчынілася беларуская кнігарня, ён пешкі вырушыў у няблізкую дарогу. Першым, каго сустрэў у запаветнай кнігарні, быў паэт Алесь Гарун, які наладаваў падарожніку цэлы мех літаратуры.

## Францішак Кушаль



Трэба меркаваць, што падабраная яна была як сьлед, бо неўзабаве нядаўні баявы афіцэр завёў знаёмства з Антонам Луцкевічам, Янкам Станкевічам, Браніславам Тарашкевічам, Аркадзем Смолічам ды іншымі дзеячамі беларускага руху.

Францішак Кушаль усё жыцьцё імкнуўся стварыць нацыянальнае войска як галоўную гарантыю незалежнасьці краіны. Гэтая мара прывяляла яго ў 1919-м у Беларускую вайсковую камісію.

Яму здавалася, што запаветная задума мае шанцы ўрэчаісьніцца ва ўмовах нацысцкай акупацыі.

У сакавіку 1944-га ён становіцца на чале Беларускай Краёвай Абароны. (Загад аб яе стварэньні быў,



Ганаровая варта Беларускай вайсковай камэндатуры ў Горадні. Сакавік 1919 г.

дарэчы, падпісаны 23 лютага, у той дзень, калі вялікая частка нашых суграмадзянаў з савецкага часу адзначае іншае сьвята.) Праз год дывізія «Беларусь» пад камандаваньнем палкоўніка Кушаля прарывае нямецкі фронт і пераходзіць да амэрыканцаў.

На эміграцыі ён робіцца адным з заснавальнікаў газэты «Бацькаўшчына», што выдавалася ў Нямеччыне, а апынуўшыся за акіянам, кіруе Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем.

Амаль паўстагодзьдзя Францішак Кушаль быў мужам і сябрам нашай выдатнай паэткі Натальлі Арсеньневай.

**Францішак Кушаль**
16.2.1895, в. Пяршаі, цяпер Валожынскі раён —
25.5.1968, Рочэстэр, штат Нью-Ёрк, ЗША.
Пахаваны на могілках Маўнт Гоўп у Рочэстэры.

Хранічная беларуская хвароба, уласьцівая, на жаль, і многім нібыта нацыянальна арыентаваным сучасьнікам, — выхаваная за два стагодзьдзі русіфікацыі расейскацэнтрычнасьць.

Нашых мастакоў або пісьменьнікаў крытыкі абавязкова параўноўваюць з расейскімі. Вынаходніка субмарыны Казімера Чарноўскага называюць «беларускім Кулібіным».

А жонкі нашых палітвысланцаў пачатку 1930-х (пазьней ужо давалі канцлягер або расстрэльвалі), што паехалі ўсьлед за мужамі ў далёкія дзікія краі, ведама ж, бралі прыклад з жонак дзекабрыстаў.

## Ванда Лявіцкая

Зусім ня маючы на мэце паставіць пад сумнеў гераізм верных спадарожніц першых расейскіх рэвалюцыянэраў, заўважу, што іхні прыклад тут абсалютна ні пры чым. Нашым жанчынам з пракаветных часоў (пагатоў цягам стагодзьдзяў яны мелі нязьмерна болей правоў, чым расейкі) самім ставала мужнасьці, адвагі й рашучасьці, якім магла б пазайздросьціць і нібыта мацнейшая палова нацыі.

Ванда Лявіцкая была адзінай дачкою пісьменьніка Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага). Пасьля Вышэйшай пачатковай вучэльні ў Радашкавічах яна рыхтавалася да экзамэнаў на вясковую настаўніцу, але гэтаму намеру ўрэшце перашкодзілі каталіцкае веравызнаньне і пачатак Першай усясьветнай вайны.

Далейшы шлях прыгажуні Ванды прадвызначыла сямейнае выхаваньне. Асталяваўшыся з 1914 году ў Менску, яна працавала ў Беларускай кнігарні й гарадзкой бібліятэцы імя Пушкіна, куды яе рэкамэндавала сама Цётка.

Потым была выхавацелькай і выкладчыцай у беларускіх дзіцячых прытулках і ў Першай менскай беларускай школе.

Яна ліставалася з Максімам Багдановічам. Магчы-



ма, найперш якраз да Ванды ехаў паэт зь Яраслаўлю ў 1916-м.

Пазьней Лявіцкая стала жонкаю палітыка, навукоўца і пісьменьніка, аднаго з стваральнікаў БНР Язэпа Лёсіка.

Іх зблізіла ня толькі каханьне, але і тое, што Ванда таксама займалася літаратурнай творчасьцю: друкавала вершы й апавяданьні ў «Нашай Ніве», газэтах «Беларусь» і «Вольная Беларусь».

Калі Язэпа Лёсіка арыштавалі ў справе Саюзу вызваленьня Беларусі, Ванда, каб дзеці не загінулі ад голаду, бралася за любую працу — пасудамыі, разносчыцы тэлеграмаў, а як гэта сталася магчымым, паехала да высланага мужа, каб дзяліць зь ім усе нягоды да паўторнага, ужо фатальнага арышту каханага Язэпа ў 1938-м.

Дзеці Лёсікаў — Люцыя, Алеся й Юры — у Беларусь не вярнуліся, на што, безумоўна, паўплываў трагічны лёс бацькі. Ванда па чарзе жыла ў іх у Расеі. Яна перажыла мужа на тры дзесяцігодзьдзі, а свой апошні спачын знайшла ў стаўрапольскім пасёлку, куды некалі выправілася да Язэпа ў высылку.

**Ванда Лявіцкая (у замужжы Лёсік)**
25.9.1895, мяст. Радашкавічы, цяпер Маладэчанскі раён — 8.12.1968, пас. Татарка, Шпакоўскі раён, Стаўрапольскі край, Расея.
Пахаваная ў пас. Татарка.

Як і многія з тых, хто, на думку савецкай улады, занадта любіў Беларусь, Кіпель большую частку жыцьця мусіў правесьці далёка ад Дзьвіны й Нёману.

Сыну глускіх сялянаў лёс наканаваў трапіць у самы вір таго пераломнага часу. Фронты Першай усясьветнай вайны. Паседжаньні Ўсебеларускага зьезду Саветаў у Смаленску, дзе была абвешчаная БССР... Савецка-польская вайна...

Пасьля заканчэньня БДУ Яўхім працаваў у Інстытуце беларускай культуры й вучыўся ў асьпірантуры, адкуль быў выключаны «за неадпаведнасьць сваёй навуковай дзейнасьці марксысцкай ідэалёгіі».

## Яўхім Кіпель



У чэрвені 1930-га ОГПУ за адну ноч арыштавала ў Менску паводле справы Саюзу вызваленьня Беларусі дзясяткі вядомых асобаў, у ліку якіх апынуўся, безумоўна, і Кіпель.

На допытах яму прыгадалі і арганізацыю Клюбу беларускай моладзі, і ўдзел у падрыхтоўцы зьезду краязнаўцаў, і тое, што ў напісаных Кіпелем падручніках «Расьліны» й «Жывёлы» не знайшлося месца для такога батанічна-заалягічнага паняцьця, як «дыктатура пралетарыяту»

Вяртаючыся зь пяцігадовай высылкі ў Вяцкую вобласьць, ён вёз на свабоду схаваны паміж склейкамі валізы рукапіс слыннага «Тэстамэнту» рэпрэсаванага паэта Ўладзімера Жылкі.

Спатканьне з воляй доўжылася ўсяго хуткія чатыры месяцы.

Пасьля новага арышту сьледчы прапаноўвае маладому навукоўцу магчымасьць жыць у Менску і займацца ўлюбёнай біялёгіяй. Трэба адно «немножко помочь органам». Адмова каштавала пяці гадоў Байкала-Амурскіх лягераў.

Падчас нямецкае акупацыі Кіпель займаецца падрыхтоўкай і выданьнем беларускіх падручнікаў і навучальных праграмаў, рэдагуе газэту «Голас вёскі». Сваім старшынём выбіраюць яго дэлегаты Другога Ўсебеларускага кангрэсу, які ў неверагодна складаных умовах пацьвердзіў імкненьне нацыянальных сілаў да незалежнасьці.

Жывучы на Захадзе, Кіпель не пакідаў грамадзкай і навуковай дзейнасьці. Ён стварыў Аб'яднаньне беларускіх вязьняў савецкіх канцлягераў і Беларускую народную партыю, падрыхтаваў кнігу «Зь іхняга раю» пра жыцьцё ў ГУЛАГу.

Калі Беларусь ужо была незалежная, у Нью-Ёрку выйшла пасьмяротная кніга ягоных успамінаў «Эпізоды». Многія яе старонкі чытаюцца з большай цікавасьцю, чым які дэтэктыўны раман.

Сёньня ў Беларусі й сьвеце шырока вядомае імя Яўхімавага сына — прызнанага вучонага, дырэктара Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку Вітаўта Кіпеля.

**Яўхім Кіпель**
14.10.1898*, в. Байлюкі, цяпер Глускі раён —
27.7.1969, Рутэрфорд, штат Нью-Джэрзі, ЗША.
Пахаваны на беларускіх могілках у Саўт-Рывэры,
штат Нью-Джэрзі.

* Дата падаецца паводле ўспамінаў блізкага сябра Яўхіма Кіпеля пісьменьніка Юркі Віцьбіча.

Калі нацыянальная культура прыцягвае й робіць сваімі прадстаўнікоў іншых народаў, значыць, у яе ёсьць будучыня.

Юліяна Мэнке, праўда, паходзіла зь сям'і віленскіх немцаў, што, як яна пісала, «прынялі звычаі й мэнтальнасьць гэтага мілага краю», але згаданая акалічнасьць толькі пацьвярджае сказанае раней.

Яна вучылася ў прыватнай гімназіі, дзе ў той час было забаронена размаўляць на ўсіх іншых мовах, апрача расейскай. Каб пазлаваць клясную даму, дзяўчаткі часта гаварылі па-польску. Але знайшлася ў гімназіі й беларуска. Яе звалі Алаіза Пашкевіч.

## Юліяна Вітан-Дубейкаўская



У 1915-м, прыехаўшы зь Пецярбургу ў адпачынак, Юліяна, ужо дыпляміраваная мастацтвазнаўца, сустрэлася з Іванам Луцкевічам. Захапленьне ягонымі калекцыямі старасьвеччыны хутка перарасло ў сяброўства, а тое — у ўзьнёслае каханьне.

Такое кола знаёмстваў абумовіла яе працу ў Беларускім нацыянальным камітэце. «Мала нас тады было, — пазьней будзе прыгадваць Юліяна, — палякі зласловілі, што ўсіх віленскіх беларускіх дзеячаў можна пасадзіць на адной канапе. Аднак праца не спынялася...»

Вельмі карыснай была яе дапамога пры перамовах зь нямецкай акупацыйнай адміністрацыяй, якая дазволіла адчыніць першыя беларускія школы, чаго нельга было ўявіць у Расейскай імпэрыі, дзе беларусаў на афіцыйным роўні ніколі не прызнавалі за асобны

народ. Адкрыцьцё самай першай школкі ў Камітэце адзначылі гарбатаю зь пірагом, які сьпякла Юліяна.

Яна брала ўдзел у арганізацыі беларускіх настаўніцкіх курсаў і Віленскай беларускай гімназіі, дзе потым выкладала нямецкую мову й пэдагогіку.

Паўсюль — або насамрэч, або ў думках — побач быў ён, Іван. Каханы і ўжо нарачоны.

Аднак агульную будучыню перакрэсьліў абвешчаны доктарам у 1917-м прысуд: «Ад правага лёгкага яшчэ астаткі ёсьць, а левага амаль няма... Больш за два-тры гады не пражыве...»

Праз два гады ў санаторыі ў польскім Закапанэ, седзячы пры Іванавым ложку, нарачоная пачула яго апошнія словы: «Ты добрая...»

Пазьней яна стане жонкаю вядомага беларускага дзеяча Лявона Вітан-Дубейкаўскага*. Пахаваўшы яго, Юліяна ў 1941-м пераселіцца на радзіму продкаў, у Нямеччыну.

Там і будзе напісаная прысьвечаная Івану Луцкевічу мужная, сьветлая й журботная кніга «Мае ўспаміны», якая выйдзе праз пяцьдзясят гадоў у любай сэрцу аўтаркі Вільні з прадмоваю Лявона Луцкевіча.

Успаміны неўзабаве сталіся асноваю для гэткага ж сьветла-сумотнага спэктаклю «Віленскія мроі», пастаўленага Галінай Дзягілевай у менскім тэатры аднаго актора «Зьніч».

---

* У 1954 годзе ў Нью-Ёрку была апублікаваная кніга «Лявон Вітан-Дубейкаўскі», якую Юліяна выдала пад псэўданімам Кветка Вітан.

**Юліяна Вітан-Дубейкаўская (ад нараджэньня Мэнке)**
12.12.1886, Вільня —
1970, Нюрнбэрг, Нямеччына.
Пахаваная ў Нюрнбэрзе.

Сёньня ягоная родная вёска вядомая ў Беларусі ды й за яе межамі сваім Музэем матэрыяльнай культуры. Калі-небудзь там зьявіцца й экспазыцыя, прысьвечаная Ўладзімеру Дудзіцкаму.

У 1927-м Дудзіцкі, велізарны ўплыў на якога мела маці — вядомая на ўсё навакольле сьпявачка, паступіў у Менскі беларускі пэдтэхнікум, дзе вучыліся ледзьве ня ўсе тагачасныя маладыя паэты й празаікі. З гэтае прычыны тэхнікум меў неафіцыйны назоў — Беларускі ліцэй. Там сапраўды панаваў дух нацыянальнага Адраджэньня.

Там часта выступалі Янка Купала й Якуб Колас, перад якімі Ўладзімер чытаў свае першыя вершы.

## Уладзімер Дудзіцкі



У адну зь лютаўскіх начэй 1933-га Дудзіцкага арыштавалі як «нацдэма». Ён атрымаў тры гады канцлягеру.

Тадысама быў зьнішчаны ягоны першы паэтычны зборнік «Песьні і думы».

У гады вайны Ўладзімер Дудзіцкі шмат сілаў і часу аддаў асьветніцкай працы ў аддзеле культуры Менскай гарадзкой управы і ў Беларускім культурным згуртаваньні.

Эмігранцкія дарогі беларускага паэта прайшлі праз Нямеччыну і Аўстрыю, праз Гішпанію, Паўночную й Паўднёвую Амэрыку.

Ён узначальваў управу Аб’яднаньня беларусаў Вэнэсуэлы, натхнёна працаваў у Беларускай службе Радыё Свабода, выславіўся як геданіст і лявэляс.

У 1956-м, у перадачы, прысьвечанай вугорскаму антыкамуністычнаму паўстаньню, ягоны голас,

прабіваючыся праз глушылкі, казаў: «Праўда — неператоможная й неўміручая! Яна выходзіць сёньня з-пад жалобных сьцягоў разьбітай Вугоршчыны й напаўняе вялікім гневам сэрцы і вольных, і паняволеных камунізмам народаў і абяцае сьвету свабоду».

Друкаваўся Дудзіцкі нячаста, але ўсё, што выходзіла з-пад ягонага пяра — паэзія, проза, успаміны, — пазначанае пячаткаю таленту. Яго сэрца было з тых, што найбольш востра й трагічна перажываюць расстаньне з Радзімай.

*Ня першы раз і не апошні, мусіць,*
*баліць душа, і рады не дасі.*
*Сьніцёся мне вы, рэкі Беларусі,*
*і ты, журботная азёраў сінь...*

Урэшце душа ня вытрымала. На пачатку сямідзясятых гадоў мінулага стагодзьдзя Дудзіцкі вырашыў вярнуцца ў Беларусь. І — бясьсьледна згінуў. Зрэшты, існуе іншая вэрсія гэтага зьнікненьня: паэта і журналіста выкралі і вывезьлі ў СССР савецкія спэцслужбы.

Найверагодней, таямніца ягонага зьнікненьня будзе раскрытая будучымі дасьледнікамі архіваў КГБ.

У друку раз-пораз зьяўляліся зьвесткі, што чалавека з прозьвішчам Дудзіцкі сустракалі ў мардоўскіх лягерах.

У сярэдзіне 1990-х Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку выдаў важкі том твораў Дудзіцкага «Напярэймы жаданьням». У прадмове літаратуразнаўца Лявон Юрэвіч піша: «Да беларускага чытача вярнуўся выдатны пісьменьнік», і з гэтым не паспрачаесься.

**Уладзімер Дудзіцкі (ад нараджэньня Гуцька)**
8.1.1911, в. Дудзічы, цяпер Пухавіцкі раён.
Дата, а таксама месцы сьмерці й пахаваньня невядомыя.

Калі вам выпадзе быць на Нясьвіжчыне, запытайцеся пра Дэмуха, і вы пачуеце сапраўдныя паданьні, герой якіх прывядзе на памяць легендарнага Робіна Гуда.

Вам распавядуць пра тое, як удзень савецкі фінагент забіраў з двара апошнюю кароўку-карміцельку, а ўначы кароўка — цэлая й усьцешаная — вярталася дадому з наколатай на рогі цыдулкай: «Ад Дэмуха». Вам пакажуць дуброву, дзе Дэмух адзін выйграў бой з цэлым узводам гэбістаў, або колішні млын, дзе ён таемна сустракаўся з каханай.

## Мікола Дэмух



Мікола ваяваў з гітлераўцамі, але, прыйшоўшы з фронту, быў уражаны й абураны несправядлівасьцямі, якія новая ўлада чыніла ў былых заходнебеларускіх вёсках: бязьлітаснымі падаткамі, арыштамі за неасьцярожнае слова, высылкамі тысяч сем'яў у казахстанскія стэпы.

Ён пайшоў у лес. Як сьведчаць апэратыўныя зводкі МГБ, у сваіх акцыях Дэмух вызначаўся незвычайнай адвагай.

Будучы на нелегальным становішчы, ён дзейнічаў то асобна, то ўваходзіў у склад партызанскага аддзелу Івана Раманчука, аднаго з стваральнікаў Саюзу змаганьня за незалежнасьць Беларусі*.

* Саюз змаганьня за незалежнасьць Беларусі — падпольная арганізацыя, якая ў 1946—1949 гадах дзейнічала на заходнебеларускіх землях. Яе праграма прадугледжвала роспуск калгасаў і перадачу зямлі сялянам, а найперш — падрыхтоўку патрыятычных сілаў, якія павінны былі ў спрыяльных умовах выступіць за вызваленьне Бацькаўшчыны ад камуністычнага панаваньня.



На паваенных нясьвіскіх вуліцах гэбісты ня чуліся ў бясьпецы

Устаноўчы сход гэтай арганізацыі ў 1946 годзе адбыўся на хутары Саска-Ліпка пад Нясьвіжам.

Аўтарытэт «нясьвіскага Робіна Гуда» быў такім, што людзей Раманчука і мясцовыя жыхары, і гэбісты больш ведалі як аддзел Дэмуха.

Увесну 1949-га паранены ў няроўным баі Мікола трапіў у палон. На судзе ён атрымаў 25 гадоў канцлягераў. (Сьмяротнае пакараньне ў СССР тады часова скасавалі.)

Вярнуўшыся пасьля зьняволеньня ў Беларусь, Дэмух хутка памёр у часе даволі простай апэрацыі ў шпіталі. Сьмерць можна было б растлумачыць падарваным савецкімі лягерамі здароўем, каб не адна вельмі істотная акалічнасьць: прыкладна тады ж, вярнуўшыся на волю, раптоўна сканаў і Іван Раманчук. Здарылася гэта, як і ў выпадку з Дэмухам, падчас нескладанай апэрацыі,

**Мікола Дэмух**
1920, в. Квачы, цяпер Нясьвіскі раён —
27.11.1973, Бабруйск (?).
Пахаваны ў в. Квачы.

## Тодар Лебяда

Бываючы ў нейкім горадзе, блукаючы па ягоных вуліцах, седзячы ў кавярні з кубкам капучына ці келіхам чаго мацнейшага, я маю завядзёнку згадваць зьвязаныя з гэтымі мясьцінамі імёны. У Віцебску сярод імёнаў больш гучных і знакамітых заўсёды выплывае й гэтае — Тодар Лебяда.

У дзяцінстве суседзі ведалі яго як вечна галоднага сына праваднiцы Насты, што вельмі рана пахавала мужа. Выбіцца з галечы было галоўнай мараю хлопчыка. У Менскім пэдагагічным інстытуце зьявілася іншая — стаць пісьменьнікам. Тодаравы вершы й нарысы пачалі зьяўляцца спачатку ў «Піонэры Беларусі», потым — усё часьцей — у «ЛіМе». Але, каб сапраўды ўвайсьці ў літаратуру, яму быў наканаваны доўгі крыжовы шлях.

Разам з адзінаццацьцю іншымі студэнтамі — цэлая інстытуцкая група! — Тодара ў 1936-м арыштавалі за «буржуазны нацыяналізм». Вярхоўны Суд БССР адмераў яму «ўсяго» пяць гадоў Сібіры. Жонкі зьняволеных (калі ім, жонкам, самім пашчасьціла застацца на волі) дамагаліся тады перагляду справаў сужэнцаў. Тодаравай гэта ўдалося. Паэта прывезьлі ў Беларусь, дзе яго й засьпела вайна.

Вярнуўшыся ў родны Віцебск, ён рэдагаваў газэту «Беларускае слова».

Тадысама Тодар Лебяда напісаў п’есу «Загубленае жыцьцё». Некаторыя літаратуразнаўцы небеспадстаўна называюць яе першым антыбальшавіцкім творам беларускай драматургіі. (У 1943-м п’еса была пастаўленая Вячаславам Селяхам-Качанскім у Менскім гарадзкім тэатры, а ў пяцідзясятыя гады мінулага стагодзьдзя выйшла асобным выданьнем у Канадзе.)

У той час віленская газэта «Biełaruski hołas», якую рэдагаваў іншы драматург і вязень савецкіх канцлягераў Францішак Аляхновіч, надрукавала



сібірскія ўспаміны Лебяды-Шырокава. Асабліва кранаюць у іх згадкі аб прымусовых перасяленцах з «вызваленай» Заходняй Беларусі, якіх незьлічоныя эшалёны развозілі ў вагонах для скаціны па ўсёй Сібіры, кідаючы на вырак лёсу проста ў тайзе — нярэдка з адной пілой і сякерай на некалькі шматдзетных сем’яў:

«Часта паміраючая з голаду сям’я прыходзіла да нашага, асочанага плотам табарнага пункту й клалася на зямлю. «Вазьміце нас да зьняволеных, — прасілі яны ў варты, — там, бадай, паўтара літра вады з мукою даюць у дзень, а мы й тога ня бачым. Дзеці паміраюць, на літасьць Бога вазьміце». Варта кольбамі стрэльбаў разганяла іх».

У 1944-м у Менску зьявіўся ягоны першы (і адзіны) паэтычны зборнік «Песьні выгнаньня», куды ўвайшлі лягерныя вершы. Гэты факт біяграфіі быў улічаны на судзе ў 1947-м, калі ваенны трыбунал даў пісьменьніку чвэрць стагодзьдзя лягераў.

*Мне лёсам вызначаны*
*Гэтакі прымус.*
*Аб шчасьці сёньня*
*Можна сьніць і марыць.*
*За тое,*
*Што я толькі — беларус,*
*Мне гэтакая кара!..*

**Тодар Лебяда (ад нараджэньня Пётар Шырокаў)**

6.1.1914, Віцебск — 1970, пас. Воршава, Пуцяцінскі раён, Разанская вобл., Расея.

Пахаваны ў пас. Воршава.

*Няма ні тут, ні там, за дымкай,*
*Няма ў дзьвярах, няма ў акне,*
*Няма мяне ў тваіх абдымках,*
*Няма мяне, няма мяне...*

*І толькі там, пазьней, з палёгкай*
*У сьне, што прыйдзе незнарок,*
*Убачыш, як душа далёка*
*Да зор ляціць, як матылёк...*

Пачуўшы гэтыя радкі, чытачы філёзафа й літаратуразнаўцы Валянціна Акудовіча непазьбежна згадаюць ягонае славутае эсэ «Мяне няма» і, відаць, падумаюць: ці ня вырашыў шаноўны аўтар сьцьвердзіць сваё credo яшчэ і з дапамогаю рыфмаў.

## Анатоль Сербантовіч

Аднак насамрэч верш належыць іншаму творцу й іншаму часу.

Я цытую яго так, як пачуў у студэнцкія гады ад сябра, які, здаецца, ведаючы цэлую кніжку гэтага паэта на памяць, працягваў тады захоплена дэклямаваць:

*Расту і пачынаю я сталець,*
*І, забываючы мадэрныя напевы,*
*Я ў музыку ўваходжу, нібы ў лес,*
*І гукі расступаюцца, як дрэвы...*

Вершы сапраўды былі вартыя: пранізьлівыя, чыстыя, азонавыя. «Хто гэта?» — пацікавіўся я. «Анатоль Сербантовіч, — адказаў сябар. — Наш Яўтух. У сэнсе — Еўтушэнка». Мы ня ведалі, што якраз у той год, калі нам выдалі студэнцкія залікоўкі, жыцьцё «нашага Еўтуха» трагічна завяршылася.

Ён быў упарты і вальналюбны. Ён жыў у прадчуваньні цуду. Ён меў выключнае пачуцьцё мовы і талент, прызнаны ды падтрыманы мэтрамі.

Школьнікам, перамагаючы ў вэлягонцы, ён трапіў у завал, параніўся, але, закінуўшы ровар на плечы, усё ж першы дабег да фінішу.



За яшчэ падлеткавыя вершыкі ён атрымаў мянушку Броўка, а праз колькі гадоў публічна спаліў кнігу старэйшага «цёзкі», за якую Пятрусь Усьцінавіч быў адзначаны Дзяржпрэміяй.

У дваццаць сем Анатоль выдаў ужо другую кнігу — не па гадах сьпелую й бязьлітасную да сябе. Яна называлася трывожна — «Міннае поле». У кнізе былі й такія — ня лепшыя, але шчырыя — радкі: *«Сяджу і думаю цьвяроза: / Як быць далей і як мне жыць. / Вось я прап'ю апошні розум, / А што тады яшчэ прапіць?»*

Аднаго вечару ён, атрымаўшы неблагі ганарар і «замачыўшы» гэтую падзею, ішоў па менскай вуліцы. На просьбу сустрэчнай кампаніі даць закурыць выцягнуў з кішэні пачак грошай: «Вось вам на цыгарэты!»

Яго завалілі на ходнік і доўга білі нагамі. Білі ня столькі за «багацьце», як за беларускую мову. Потым шпіталь, жорсткія прыступы галаўнога болю, інсульт і адыход туды, дзе паэту, магчыма, удалося зьдзейсьніць выказаную ў адным зь вершаў мару і разгадаць *«Тайну музыкі, / Тайну крыкаў, / Тайну гукаў і нематы...»*

**Анатоль Сербантовіч**
13.5.1941, в. Ордаць, Шклоўскі раён — 21.3.1970, Менск.
Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

Міколаў прадзед Базыль Абрамчык меў трынаццаць сыноў, і ўсе яны ўзялі ўдзел у паўстаньні 1863 году. Адзін быў за гэта пакараны сьмерцю на царскай шыбеніцы, іншыя высланыя, а Міколавага дзеда Янку выгналі з духоўнай сэмінарыі й пазбавілі грамадзянскіх правоў.

Успадчыўшы незалежніцкія настроі, відаць, на генэтычным роўні, Мікола ўжо ў дзевятнаццаць гадоў, яшчэ займаючыся ў Радашкавіцкай беларускай гімназіі, атрымаў мандат упаўнаважанага БНР у Вялейскім павеце. У тым часе нашы нацыянальныя сілы рыхтавалі вызвольнае паўстаньне ў Заходняй Беларусі. Дзеля каардынацыі намаганьняў зь менскімі незалежнікамі Абрамчыка пасылаюць у савецкую Беларусь.

## Мікола Абрамчык



За два гады ён блізу трыццаці разоў нелегальна пераходзіць мяжу БССР і ў умовах канспірацыі сустракаецца з прафэсарам Усеваладам Ігнатоўскім, тагачасным наркамам асьветы. Менавіта Ігнатоўскі, якога Абрамчык усё жыцьцё будзе называць сваім «духовым бацькам», і ўвёў яго ў менскі антыбальшавіцкі асяродак.

Апынуўшыся ў 1920-я ў Празе, ён атрымлівае адначасова дзьве адукацыі: інжынэра-эканаміста ды гісторыка й сацыёляга. У гады студэнцтва Мікола зблізіўся з старшынём Рады БНР Пётрам Крачэўскім і ягоным спадкаемцам на гэтай пасадзе Васілём Захаркам.

Пасьля разьвітаньня з чэскай сталіцаю Абрамчык больш за год вандруе па Эўропе, дзе вывучае эканоміку сельскай гаспадаркі. Аднак на пачатку 1930-х, калі ён знаходзіцца ў Ліёне, адбываюцца падзеі, што кардынальна мяняюць жыцьцё й пляны выпускніка Карлавага ўнівэрсытэту. Па-першае, зь Менску прылятае вестка пра самагубства Ігнатоўскага. Па-другое, падарожнік знаходзіць у Францыі вялікую беларускую працоўную эміграцыю.

Ад гэтага часу жыцьцё Абрамчыка непарыўна зьвязанае з эміграцыйным рухам. Ён стварае Хаўрус беларусаў у Францыі, з посьпехам выступае як публіцыст, выконвае даручэньні Старшыні Рады БНР Васіля Захаркі, а з пачаткам Другой усясьветнай вайны робіць захады, каб беларусы-эмігранты далучаліся да антынацысцкага супраціву.

Шматгадовы сябар і паплечнік Абрамчыка Лявон Рыдлеўскі ў сваіх успамінах піша, што Мікола мусіў пакінуць Францыю, трапіўшы на вока гестапаўцам. Жывучы нейкі час у Бэрліне, ён быў кіраўніком Беларускага камітэту самапомачы й уступіў у кантакты зь Беларускай незалежніцкай партыяй, але быў прымусова вывезены назад у Парыж і жыў пад наглядам. Тым ня менш не пакідаў беларускай справы — у прыватнасьці, чакаючы вызваленьня ад нацыстаў, падрыхтаваў шэраг зьвернутых да саюзьнікаў мэмарандумаў пра трагічную сытуацыю беларусаў у СССР.

Па вайне зь імем Міколы Абрамчыка зьвязанае аднаўленьне дзейнасьці Рады БНР, якую ён узначальваў з 1947 да 1970 году. Пэўны час у гэты пэрыяд Абрамчык кіраваў Лігай за вызваленьне народаў Савецкага Саюзу.

**Мікола Абрамчык**
16.8.1903, в. Сычавічы, цяпер Маладэчанскі раён —
29.5.1970, Парыж, Францыя.
Пахаваны на парыскіх могілках Пэр-Ляшэз.

# Лявон Баразна

Лявон Баразна — чалавек, зь якім я не пасьпеў пазнаёміцца, але які стаў сапраўдным героем майго юнацтва.

Па прафэсіі Лявон быў мастак і мастацтвазнаўца. Ён стварыў шэраг альбомаў, прысьвечаных народнаму адзеньню і беларускім арнамэнтам. Ён, па сутнасьці, заснаваў школу нацыянальнага сцэнічнага касьцюму й «апрануў» дзясяткі фальклёрных ансамбляў. Ягоная кніга «Гравюры Францыска Скарыны» сталася важкім даробкам у Скарыніяну.

Ягоныя талент і майстэрства гарантавалі спакойнае й заможнае жыцьцё. Аднак паводле духу Баразна быў змагар. Ён ня мог зьмірыцца з русіфікацыяй, скіраванай ня толькі супраць мовы, але і супраць народнага мастацтва й гістарычнай спадчыны. У сваім асяродзьдзі ён, не баючыся сексотаў, казаў пра неабходнасьць выхаду Беларусі з СССР. Сябры згадваюць, што з гэтай ідэяй ён падымаўся і клаўся спаць.



Якраз ён, Лявон Баразна, разам зь Зянонам Пазьняком распачаў змаганьне з заплянаваным уладамі зьнішчэньнем старажытнай менскай вуліцы Нямігі. Артыкул у яе абарону сябрам удалося надрукаваць у маскоўскай газэце «Праўда», што ў вачах тутэйшага чынавенства рабіла іх асобамі небясьпечнымі.

У жніўні 1972-га Баразна рыхтаваў першую грамадзкую акцыю пратэсту супраць дзейнасьці менскіх герастратаў. Адным з тых вечароў ён кінуўся на

вуліцы ратаваць жанчыну, на якую напалі бандыты. «Пацярпелая» імгненна зьнікла, а Лявон атрымаў нанесены спрактыкаванай рукой сьмяротны ўдар. Блізкія Баразны ўпэўненыя: дзейнічала рука спэцслужбаў. Забойцаў асудзілі на мізэрныя тэрміны і неўзабаве амніставалі.



Старадаўняя менская Няміга. 1967 г.

У 1975-м, калі я вучыўся на пятым курсе БДУ, Лявонавы сябры наладзілі ў Менску ягоную пэрсанальную выставу. Яна мела велізарны рэзананс. Да кнігі водгукаў нязьменна цягнулася чарга. Там людзі пісалі й чыталі пра тое самае, чым жыў Баразна.

Гэта быў выбух зьняважаных пачуцьцяў нацыянальнай і чалавечай годнасьці.

Памятаю, адна старонка проста крычала вялікімі літарамі: «Спыніць русіфікацыю! Тут — Беларусь!»

Я хадзіў на выставу кожны дзень. Кніга водгукаў штодня была новая (учорашнюю, як хадзілі чуткі, забіралі ў КГБ), але яна ўмацоўвала веру: нас — шмат, і тут — сапраўды Беларусь.

**Лявон Баразна**
4.12.1928, в. Новае Сяло, Талачынскі раён —
15.8.1972, Менск.
Пахаваны ў Талачыне.

## Хася Прусьліна

Я вырас на зацішнай полацкай вуліцы, дзе вечарамі, седзячы на лавачках, жыхары гаварылі пераважна на ідышы. З гэтае прычыны і мы, хлапчукі зь беларускай «нацменшасьці», таксама ведалі пару сотняў габрэйскіх словаў і не сароменліся сваімі ведамі карыстацца.

Такія мясьціны былі і ў даваенным Менску, дзе жыла пэдагог Хася Прусьліна.

Калі Нямеччына напала на Савецкі Саюз, яна праводзіла мужа ў войска і засталася з двума дзецьмі. Неўзабаве ўсе трое апынуліся ў гета. Маленькага сына фашысты забілі падчас адной з сваіх «акцыяў». Дачку ўдалося запісаць беларускай і выратаваць, адправіўшы ў дзіцячы прытулак.

Хася ўзначаліла ў гета адну з падпольных групаў-«дзясятак», у задачу якой уваходзіла сувязь з астатнім горадам.

Атрымаўшы фальшывы пашпарт на імя Пелагеі Фядзюк, яна ўладкавалася прыбіральніцай па-за ганебным мурам і здолела зьвязаць нелегальныя габрэйскія групы зь Менскім падпольлем.

Аднак далейшае знаходжаньне ў горадзе зрабілася сьмяротна небясьпечным: на вуліцах зьявіліся сотні нямецкіх улётак зь яе фатаздымкам.

У партызанскім аддзеле яна адразу трапіла на падазрэньне «асабістам», якія абвясьцілі Прусьліну засланкаю акупантаў. На шчасьце, адзін з байцоў аказаўся яе колішнім студэнтам і выратаваў Хасю ад расстрэлу.

«Хася Мэндэлеўна, — сказалі ёй па вайне ў адным чыноўніцкім кабінэце, — чаму б вам не пакінуць сабе падпольнае імя і не зьмяніць нацыянальнасьць?» Хася адказала, што хоча застацца габрэйкай. «Жыдоўкой», — удакладніў гаспадар кабінэту.

Доўгія гады над усімі жывымі ўдзельнікамі Менскага падпольля, якое не кантралявалася савецкай



уладай, вісела страшнае абвінавачаньне ў здрадзе радзіме. Падазрэньні здымаліся з адных закатаваных у гестапа.

Падпольны рух у гета ня быў выняткам, хутчэй, наадварот, бо ўлады не прызнавалі адмысловага характару палітыкі гітлераўцаў у дачыненьні габрэяў, які сёньня вядомы як Галакост.

З мэтаю рэабілітацыі менскага, у тым ліку і габрэйскага супраціву нацыстам, Хася Пруськіна, рызыкуючы страціць працу, распачала рэгулярнае чытаньне сваіх неартадаксальных лекцыяў.

У 1957-м, не ўважаючы на папярэджаньні «кампэтэнтных органаў», яна арганізавала кампанію зваротаў да Мікіты Хрушчова, у ЦК КПСС і цэнтральныя выданьні.

Былі напісаныя дзясяткі лістоў з сотнямі подпісаў былых падпольшчыкаў.

Праз тры гады намаганьні Прусьлінай далі плён: часопіс «Коммунист» надрукаваў першы артыкул, дзе Менскае падпольле прызнавалася, так бы мовіць, «легітымным».

Цяпер пра ягоных герояў напісаныя кнігі й зьнятыя фільмы.

**Хася Прусьліна**
23.1.1901, в. Гарбачова, цяпер Расонскі раён —
25.11.1972, Менск.
Пахаваная на менскіх Усходніх могілках.

# Янка Шутовіч

Калі ў шасьцідзясятыя — сямідзясятыя гады мінулага стагодзьдзя вам даводзілася бываць у Віленскай карціннай галерэі, якая месьцілася тады ў Катэдры на пляцы Гедыміна, вы і не падазравалі, што, магчыма, найлепшую экскурсію тут мог бы правесьці не супрацоўнік музэю, а — ягоны вартаўнік.

Вартаўніка звалі Янка Шутовіч.

Асьвету ён здабываў у Віленскай беларускай гімназіі, а пасьля на юрыдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту.

У тагачаснай Вільні, неафіцыйнай сталіцы Заходняй Беларусі, Шутовіч рэдагаваў пэрыёдыкі «Студэнцкая думка» і «Шлях моладзі», выдаваў часопіс «Калосьсе», дзе друкаваліся Натальля Арсеньнева і Максім Танк, Адам і Янка Станкевічы... (Фатакопіямі гэтых выданьняў мы зь сябрамі зачытваліся ў сваім адраджэнска-самвыдавецкім юнацтве.)

Адданасьць Янкі беларускай справе не засталася незаўважанай, і з польскага канцлягеру ў Бярозе-Картускай ён выйшаў толькі ў верасьні 1939-га. Але быў з тых, для каго новая ўлада неўзабаве таксама пачала рыхтаваць надзейнае месца за калючым дротам.

1941-шы засьпеў Шутовіча на пасадзе дырэктара Віленскага Беларускага музэю.

Калі над найкаштоўнейшымі экспанатамі навісла пагроза вывазу ў Нямеччыну, дырэктару ўдалося перахаваць іх у сутарэньнях касьцёлу Сьвятога Міхала пад апекай ксяндза Адама Станкевіча.

Зь лягераў ён вярнуўся ў Вільню ў 1956-м. Беларускага музэю ўжо даўно не існавала, але некаторыя экспанаты трапілі ў Карцінную галерэю. Мо якраз гэтая акалічнасьць паспрыяла таму, што зь небагатых магчымасьцяў працаўладкаваньня спадар Янка і выбраў пасаду начнога вартаўніка.

Лягерныя гады ня здолелі забіць у ім дасьледніка



Янка Шутовіч з жонкай, літоўскай пісьменьніцай Онай Міцютэ. 1960-я гады

і літаратара. Гэта Шутовіч знайшоў у віленскіх архівах неацэнны рукапіс раману Максіма Гарэцкага «Віленскія камунары».

Сярод неапублікаванай Янкавай спадчыны застаўся вялікі нарыс пра сябра — праслаўленага беларускага сьпевака Міхала Забэйду-Суміцкага.

Дзякуючы спадару Янку захаваліся апублікаваныя ўжо ў нашыя дні дзёньнікі лідэра беларускага каталіцкага руху Адама Станкевіча.

**Янка Шутовіч**
24.1.1904, в. Шутавічы, цяпер Смаргонскі раён — 9.12.1973, Вільня.
Пахаваны на віленскіх могілках у Павільнісе.

## Лявон Савёнак

У вёсцы Вялец на Глыбоччыне яшчэ зусім нядаўна — сьведчу гэта асабіста — стаяла 125-гадовая хата, дзе мой герой прыйшоў на сьвет. У Маладэчанскай настаўніцкай сэмінарыі, пасьведчаньне якой ён атрымаў у 1917-м, Лявон Савёнак вучыўся разам з будучымі дзеячамі нацыянальнага руху Сымонам Рак-Міхайлоўскім, Пятром Мятлой, з паэтам Міхасём Чаротам.

На пачатку 1920-х Лявон пазнаёміўся ў Менску з настаўніцай Апалёніяй Радкевіч. Празь нейкі час у маладой сям'і зьявілася дачка, якой далі рэдкае імя — Зора. Ёй было наканавана зрабіцца вядомай усяму беларускаму сьвету навукоўкаю Зорай Кіпель.

У гады беларусізацыі Савёнак працаваў карэспандэнтам у газэце «Савецкая Беларусь». Паводле ўспамінаў супрацоўнікаў, атмасфэра ў рэдакцыі была мала падобнай да савецкай. Невыпадкова пазьней газэту, на старонках якой Лявон друкаваў свае вострыя рэпартажы й дасьціпныя фэльетоны, у даносах назавуць «утульным прыстанішчам беларускіх нацыяналістаў».

Ад лютага 1929-га малады нацдэм мусіў зарабляць на хлеб ужо не ў газэце, а на будоўлі. У тым самым годзе выйшла ягоная кніжка фэльетонаў «Чароўная іголка», падпісаная псэўданімам Леанід Свэн. Бібліятэкары каталягізавалі яе як выданьне швэдзкага аўтара, але сталінскія літаратуразнаўцы з вайсковымі званьнямі хутка разабраліся, і ўвесь трохтысячны наклад пайшоў пад нож. Дзіва што: карыстаючыся творчым мэтадам, які сучасны дасьледнік Лявон Юрэвіч называе фантастычным рэалізмам, гэты Свэн пісаў, да прыкладу, пра судовы працэс над канём, які завёз сьледчага ня ў тую вёску, дзе сьледчы, апрача ўсяго, напіўся ды згубіў «вельмі важныя справы».

У 1933-м Лявон апынуўся сярод мноства арыштаваных паводле справы «Беларускага нацыяналь-



нага цэнтру». Ён быў адным зь няпоўнага дзясятку вязьняў, якія так і не прызналі віны. Мо таму й «заробіў» усяго пяцігадовую высылку.

Па вайне Савёнак разам з паплечнікамі здолеў стварыць моцны беларускі цэнтар у лягеры для перамешчаных асобаў Остэргофэн у Нямеччыне. Менавіта там у 1947-м пачала выдавацца газэта «Бацькаўшчына» (Лявон быў першым яе карэктарам), якой належыць выключная роля ў гісторыі нашай дыяспары.

Пераехаўшы ў ЗША, ён супрацоўнічаў з газэтай «Беларус», друкаваўся пад псэўданімам Лявон Крывічанін, уваходзіў у камісію па перакладзе на беларускую мову Бібліі.

Адным зь ягоных найбліжэйшых сяброў быў аўтар музыкі да гімну «Магутны Божа» кампазытар Мікола Равенскі, зь якім яны ў свой час захоплена рыбалілі на Дунаі.

У 1990-я гады Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку выдаў кнігу Лявона Савёнка-Крывічаніна «Беларусізацыя пад №...».

Яго сатырычныя творы, прысьвечаныя змаганьню за беларушчыну, часам чытаюцца, нібыта напісаныя ўчора.

**Лявон Савёнак**
26.6.1897, в. Вялец, цяпер Глыбоцкі раён —
21.2.1974, Памона, штат Нью-Джэрзі, ЗША.
Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку,
штат Нью-Джэрзі.

## Юрка Віцьбіч

Колькі б ні трапляла да маіх рук фатаздымкаў гэтага чалавека, кожны нараджае ў душы водгук. У вачах Віцьбіча жывуць шляхецкая годнасьць нашчадка прыдзьвінскіх крывічоў, горкая мудрасьць гісторыка, нязломная трываласьць шматгадовага эмігранта.

Магчыма, трохі самаўпэўнена, я думаю, што, каб лёс дазволіў спаткацца, нам не было б сумна, бо і ў уяўленьні, і на яве мы ў розных стагодзьдзях хадзілі аднымі сьцежкамі: да Барысавых камянёў, на паганскую Валовую азярыну ў Полацку, па беларускіх адрасах бунінскага Арсеньнева. Я распытаў бы спадара Юрку пра яго родны Вяліж, які разам з сотнямі іншых спрадвечна нашых гарадоў, мястэчак і вёсак бальшавікі адрэзалі ад беларускай зямлі. Мне было б цікава даведацца, ці памятае ён той дзень, калі разгарнуў часопіс «Узвышша» з сваім першым апавяданьнем.

Відаць, мы ўспомнілі б і яго выдадзеныя да вайны ў БССР кнігі «Сьмерць Ірмы Лаймінг» і «Формула супраціўленьня касьцей», ужо самі назовы якіх засьведчылі «небясьпечны» рух да інтэлектуалізацыі і пошуку новых мастацкіх формаў. Я, вядома, запытаўся б у спадара Віцьбіча пра ягоны чынны ўдзел у славутай эпатажнай літсуполцы ТАВІЗ (Таварыства аматараў выпіць і закусіць). Гаворка зайшла б і пра тое, як ужо ў эміграцыі ён ствараў літаратурнае згуртаваньне «Шыпшына» і часопіс «Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі»...

Але зямны шлях Юркі Віцьбіча завяршыўся ў 70-я гады мінулага стагодзьдзя, і на маю долю засталася сустрэча зь ягонай удавой, спадарыняй Ганнай, якая ў мілай кватэрцы ў амэрыканскім Саўт-Рывэры апавядала мне пра тое, як працавала ў Віцебску тэлефаністкай; як, пачуўшы машыну, на іхняй вуліцы ніхто ня спаў, бо ўначы па горадзе езьдзілі адно



варанкі; як муж у гады нацысцкай акупацыі ўдзельнічаў у вяртаньні ў Полацак мошчаў Сьвятой Эўфрасіньні, якія савецкія ваяўнічыя бязбожнікі раней паказвалі ў музэі.

З той вандроўкі ў Амэрыку я прывёз вялікі пакунак ксэракопіяў «Матар'ялаў Віцебскае навуковае экспэдыцыі 1939 году». Дзясяткі здымкаў зьнішчаных помнікаў. Гістарычныя сьведчаньні з дамешкам мясцовых паданьняў. Цьвёрды почырк кіраўніка экспэдыцыі Юркі Віцьбіча. Гэтаксама — з націскам і надзвычай чытэльна напісаны ім лірычны маніфэст нашай эміграцыі — «Мы дойдзем!».

У 1996-м у Нью-Ёрку выйшла кніга Віцьбіча «Антыбальшавіцкія паўстаньні й партызанская барацьба на Беларусі». На год раней «Мастацкая літаратура» факсымільна перавыдала ягонае эсэ «Плыве з-пад сьвятое гары Нёман» — унікальны аповед пра пяцьсот беларускіх геаграфічных назоваў.

Кніга пра антыбальшавіцкія паўстаньні пабачыла сьвет у 2011 годзе і ў Менску.

Узяўшы яе ў рукі, аўтар мог бы паўтарыць: «Мы дойдзем!»

**Юрка Віцьбіч**
**(ад нараджэньня Серафім (Георгі) Шчарбакоў)**
15.6.1905, Вяліж, цяпер Смаленская вобл., Расея — 6.1.1975, Саўт-Рывэр, штат Нью-Джэрзі, ЗША.
Пахаваны на беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

*Масква сусьвету вушы прашумела*
*Пра самавызначэньне аж да зор.*
*Смаленск дзе? Невель? Гомель дзе падзела?*
*Стварыла Гомельскі ганебны калідор.*

*Мы цацкай нейкай для чужынцаў сталі,*
*Пасьмешышчам для сьвету усяго.*
*Як быццам мала ў нашай волі сталі,*
*Як быццам ў сэрцах нашых згас агонь...*

Пад гэтым амаль набатным вершам, напісаным у сярэдзіне 1920-х (калі Гомель яшчэ ня быў у выніку

## Уладзімер Дубоўка



намаганьняў нашых нацыянал-камуністаў вернуты ў склад БССР), стаяў подпіс: Янка Крывічанін. Чэкісты не адразу высьветлілі сапраўднае імя аўтара, але ўрэшце супадзеньне шрыфту на тэксьце і друкавальнай машынцы ў Прадстаўніцтве Беларускай ССР у Маскве не пакінула сумневаў: верш напісаны супрацоўнікам гэтай установы Ўладзімерам Дубоўкам.

У 1930-м яго, выпускніка маскоўскага Вышэйшага літаратурна-мастацкага інстытуту, аднаго з найталенавіцейшых сяброў зорнага згуртаваньня «Ўзвышша», бліскучага перакладчыка Шэксьпіра й Байрана, на трыццаць гадоў адлучылі ад літаратуры. Ягоныя рукапісы прысвоіў стукач і літпагром-

шчык Лукаш Бэндэ, які праз дзесяцігодзьдзі ласкава прадасьць гэтыя самыя рукапісы аўтару.

У валагодзкай перасыльнай турме Дубоўка напісаў «Песьні беларускіх выгнанцаў», якія сталіся гімнам нашых палітзьняволеных:

*Ніколі й нідзе Беларусь не загіне,*
*Ніколі й нідзе Беларусь не памрэ.*
*Ні ў турмах, ні ў концах, ні ў клятых краінах,*
*Ні ў дзікім прыгоне, ў маскальскім ярме!..*

Але сталінскія часы ўсё ж пасялілі ў душы паэта ўчэпісты страх. Вярнуўшыся ў 1958-м з высылкі, ён застаўся ў Маскве. Старэйшыя калегі, якія пераведвалі Дубоўку, апавядалі: ён і на схіле дзён мог прапанаваць тост за таварыша Брэжнева і захоўваў валізку зь сібірскім сталярскім інструмэнтам, маўляў, можа зноў спатрэбіцца. (Церневаму шляху Дубоўкі прысьвяціў раман «Круг» пісьменьнік Алесь Пашкевіч.)

Сваю першую, выдадзеную на пачатку 1986 году кнігу я пад уплывам Дубоўкі па-юначы рамантычна назваў «Добры дзень, мая Шыпшына». Не забыліся?

*О Беларусь, мая шыпшына,*
*зялёны ліст, чырвоны цьвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*чарнобылем не зарасьцеш...*

Праз месяц пасьля зьяўленьня кніжкі выбухнуў Чарнобыль, і напісаныя на шэсьцьдзясят гадоў раней радкі раптоўна набылі новыя сэнсы...

**Уладзімер Дубоўка**
15.7.1901*, в. Агароднікі, цяпер Пастаўскі раён —
20.3.1976, Масква, Расея.
Пахаваны на маскоўскіх Мікола-Архангельскіх могілках.

* Гэта сапраўдны, удакладнены нядаўна літаратуразнаўцамі, год нараджэньня паэта.

Ня думаю, што кіраўніцтва Віленскай духоўнай сэмінарыі зьмяніла б сваю пастанову аб выключэньні навучэнца Янкі Станкевіча «за агрэсіўную беларускасьць», каб даведалася, што якраз гэты юнак некалі стане аўтарам першага ў гісторыі поўнага беларускага перакладу Бібліі (Нью-Ёрк, 1973).

Паміж разьвітаньнем з сэмінарыяй і пахавальнай працэсіяй у амэрыканскім Іст-Брансўіку былі знаёмства з Іванам і Антонам Луцкевічамі, Вацлавам Ластоўскім і Максімам Гарэцкім, супрацоўніцтва з «Нашай Нівай», удзел у вырашальнай сэсіі Рады БНР 24—25 сакавіка 1918 году, абароненая ў Карлавым

## Янка Станкевіч



унівэрсытэце ў Празе (адкуль ён прывёз у Вільню жонку, чэшку Марыю) доктарская дысэртацыя — дасьледаваньне Аль-Кітабаў, абраньне паслом у Польскі сойм (і, вядома, славутая віленская турма на Лукішках), стварэньне ў гады нямецкае акупацыі падпольнай Партыі беларускіх нацыяналістаў, выкладаньне гісторыі ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне, заснаваньне ў ЗША Вялікалітоўскай (Беларускай) Фундацыі імя Льва Сапегі, якой Станкевіч адпісаў усе свае грошы і маёмасьць, каб дапамагаць выдавецкай дзейнасьці й разьвіцьцю беларусазнаўства праз фундаваньне стыпэндыяў для студэнтаў і навукоўцаў.

У восемдзесят два гады ён нарэшце ўбачыў свой выдрукаваны, гістарычна першы поўны пераклад Сьвятога Пісаньня.

Увесь час спадар Янка працаваў над капітальным «Беларуска-расійскім (Вялікалітоўска-расійскім) слоўнікам», які апублікаваў — 1306 старонак вялікага фармату — ужо ягоны сын Юрка.

«Аторва — сорванец, ашавурак — замухрышка, бройка — шалунья, похват — рикошет...»

Гэты том з густымі чародкамі алоўкавых птушачак на кожнай старонцы ляжыць у мяне на пісьмовым стале, нагадваючы пра тыя колькі тыдняў, калі ён быў самым цікавым чытвом.



Доктарскую дысэртацыю Янка Станкевіч абараніў у Празе

Зь ня меншым натхненьнем чыталася і кніга «Ян Станкевіч. Гістарычныя творы» (Менск, 2003). «Повесьці й апавяданьні крывіцкіх летапісаў», «Крыўя-Беларусь у мінуласьці», «Кароткі начырк гісторыі Крывіі-Беларусі» — назвы многіх разьдзелаў для мяне, палачаніна й крывічаніна, гучаць як музыка.

**Янка Станкевіч**
26.11.1891, в. Арляняты, цяпер Смаргонскі раён — 16.7.1976, Гаўтгорн, штат Нью-Джэрзі, ЗША.
Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку, штат Нью-Джэрзі.

## Вячаслаў Селях-Качанскі

На беларускіх могілках у амэрыканскім Саўт-Рывэры можна вывучаць цэлыя разьдзелы нашай гісторыі.

Тут знайшлі свой апошні спачын слуцкі паўстанец Іван Навумчык, палітык і пэдагог Радаслаў Астроўскі, пісьменьнік і гісторык Юрка Віцьбіч... Дзякуючы наведваньню гэтага нэкропалю я ўпершыню сустрэў імя Вячаслава Селяха-Качанскага.

Пры паступленьні ў Маладэчанскую настаўніцкую сэмінарыю ён уразіў экзамэнатараў, засьпяваўшы магутным барытонам «Спасі, Госпадзі, людзі Твая». Праз некалькі гадоў Селях, апантаны жаданьнем зрабіцца прафэсійным опэрным сьпеваком, едзе ў Пецярбург.

З адзнакай закончыўшы кансэрваторыю, ён перамагае больш за трыста канкурэнтаў і трыюмфальна трапляе ў славуты Марыінскі тэатар.

Нядаўні лагойскі хлапчук апынаецца на музычным Алімпе. Як прэм'ер-барытон ён сьпявае разам з Шаляпіным ды іншымі зоркамі. Найбольш удалымі з дваццаці пяці ягоных роляў крытыка называе Барыса Гадунова, князя Ігара і Рыгалета. Здавалася, далей будуць адны ружы й авацыі. Але ў сярэдзіне 1920-х гадоў, зьдзівіўшы калегаў, Селях прымае прапанову старшыні Інстытуту беларускай культуры Ўсевалада Ігнатоўскага і пераяжджае ў Менск.

У 1927-м на сцэне Першага Беларускага дзяржаўнага тэатру (БДТ-1) адбылася прэм'ера «Русалкі» А. Даргамыскага — першай опэры на беларускай мове. Селях прычыніўся да прэм'еры ў дзьвюх іпастасях — як рэжысэр і як выканаўца ролі Млынара. У тым самым годзе ён узначальвае БДТ-1 (сучасны Купалаўскі тэатар) і выводзіць яго ў шэраг найлепшых тэатральных калектываў краіны.



Аднак гэтыя посьпехі не былі паратункам ад пагрозы з боку ўсёмагутнага ведамства, у якім дасье, здаецца, мелі на кожнага. Пагатоў, за Селяхам вадзіліся не абыякія «грахі». Ён упарта адмаўляўся ўступаць у камуністычную партыю. Насуперак загаду наркамасьветы ня зьняў з рэпэртуару «падазроныя» спэктаклі «Кастусь Каліноўскі» і «Каваль-ваявода».

Каб уратавацца ад арышту ОГПУ, ён у 1933-м пакідае Беларусь і вяртаецца ў Менск ужо ў часе нямецкай акупацыі.

Блукаючы па сьвеце, Селях-Качанскі не пакідаў галоўнай справы жыцьця. У Нямеччыне ён стварыў Беларускі драматычны тэатар імя Галубка, у ЗША заснаваў тэатральную студыю, дзе ставіў п’есы Аляхновіча і Дуніна-Марцінкевіча. Вялікае значэньне ў жыцьці эміграцыі меў арганізаваны ім Беларускі нацыянальны хор.

Калі спадару Вячаславу ішоў ужо дзясяты дзясятак, ён адрэдагаваў «Сьпеўнік беларускага жаўнера». Няхай ён спатрэбіцца некалі ў нашым войску.

**Вячаслаў Селях-Качанскі**
25.12.1885, Лагойск —
8.8.1976, Саўт-Рывэр, штат Нью-Джэрзі, ЗША.
Пахаваны на беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

## Мікалай Лапіцкі

«Кожны народ павінен мець сваю Царкву, інакш ён ніколі ня будзе суб'ектам міжнародных дачыненьняў ды астанецца аб'ектам міжнароднага гандлю». Так завострана й дакладна гэтую думку мог сфармуляваць толькі беларускі сьвятар, што валодаў такімі грунтоўнымі гістарычнымі ведамі, як айцец Мікалай Лапіцкі.

У ліпені 1934-га, атрымаўшы дыплём багаслоўскага факультэту Варшаўскага ўнівэрсытэту, ён быў рукапакладзены ў сан і прызначаны на першы прыход у Ашмяны. Неўзабаве айцец Мікалай бліскуча абараніў магістарскую працу на тэму «Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы». Беларуская мова і патрыятычныя казаньні маладога адукаванага сьвятара вельмі хутка заўважылі царкоўныя й сьвецкія польскія ўлады. Лапіцкі мусіў ехаць да новага месца службы — у глухую вёску Сьцяфанпольле на Дзісеншчыне.

У гады вайны ён займаецца пошукам і вызваленьнем з канцлягераў ваеннапалонных беларусаў, сам трапляе ў рукі СД, а вярнуўшыся на волю, далучаецца да адбудовы Беларускай праваслаўнай царквы. Пасьля аўтакефальнага царкоўнага сабору 1942 году Лапіцкага прызначылі настаяцелем менскай Чыгуначнай царквы, якую старыя менчукі й цяпер згадваюць добрым словам — як і сьвятара, што ў нялюдзкі час знаходзіў для кожнага слова спагады й падтрымкі.

Па вайне айцец Мікалай разам зь Беларускім царкоўным камітэтам склікаў у Рэгенсбургу зьезд духавенства і вернікаў з заходніх акупацыйных зонаў Нямеччыны. Зьезд катэгарычна выступіў супраць уваходу беларускіх япіскапаў у склад Расейскай замежнай царквы. Лапіцкі, дарэчы, заўсёды падкрэсьліваў, што хрысьціянства прыйшло на нашыя землі ня з Кіева і, пагатоў, не з Масквы, а з Кан-



стантынопалю, а таму Беларуская аўтакефалія мусіць знаходзіцца ва ўлоньні Ўсяленскага Канстантынопальскага патрыярха.

Жывучы ў ЗША, айцец Мікалай працягваў сваё сьвятарскае служэньне: узначальваў прыход Сьвятой Эўфрасіньні ў адным з цэнтраў нашай эміграцыі ў Новым Сьвеце — горадзе Саўт-Рывэры, выдаваў часопіс «Царкоўны Сьветач». Цягам некалькіх гадоў у дзень абвяшчэньня незалежнасьці БНР Лапіцкі чытаў у Кангрэсе ЗША прысьвечаную гэтай падзеі малітву.

Найлепшым помнікам ахвярнаму сьвятару сталася выдадзеная ў 2006-м Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку ды Інстытутам славістыкі Польскай Акадэміі навук кніга «Мікалай Лапіцкі. У служэньні Богу й Беларусі».

Гэты фаліянт выйшаў пры чынным удзеле дачкі айца Мікалая Лёлі й сына Жоржа, якія больш чым праз шэсьць дзесяцігодзьдзяў пасьля расстаньня зь зямлёю бацькоў наведалі Радзіму і ўразілі мяне выдатнай беларускай мовай і вераю ў будучую эўрапейскую дэмакратычную Беларусь.

**Мікалай Лапіцкі**
13.12.1907, в. Грэлікі, цяпер Вялейскі раён —
8.8.1976, Беларускі адпачынкавы цэнтар «Бэлэр-Менск»,
каля г. Глэн-Спэй, штат Нью-Ёрк, ЗША.
Пахаваны на беларускіх могілках у Саўт-Рывэры,
штат Нью-Джэрзі.

# Леаніла Чарняўская

Магчыма, хтосьці не пагодзіцца, але я лічу, што, каб быць жонкаю пісьменьніка, таксама трэба мець адмысловы талент. Леаніла Чарняўская, безумоўна, валодала ім. Як, дарэчы, і талентам літаратурным, а яшчэ — пэдагагічным.

Скончыўшы Марыінскую вышэйшую вучэльню ў Вільні, яна колькі гадоў настаўнічала ў Дзісенскім павеце, а затым пераехала ў горад свайго студэнцкага юнацтва. Там у 1919-м Леаніла стала спадарожніцаю жыцьця будучага клясыка нашай літаратуры Максіма Гарэцкага. Праз тры гады яна, тады выкладчыца Беларускай гімназіі, упершыню даведалася, што значыць быць жонкаю палітвязьня. Пасьля двух арыштаў Максіма польскімі ўладамі Гарэцкія перабраліся ў БССР.

Посьпехі беларусізацыі натхнялі й жывілі надзеі на пабудову незалежнага Беларускага дому. Гарэцкі выкладаў мову і літаратуру ў БДУ і Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, шмат пісаў і друкаваўся. Леаніла выхоўвала дзяцей і ў вольную часіну таксама сядала да пісьмовага стала.



Віленская турма Лукішкі, празь якую прайшлі сотні беларускіх патрыётаў



Асабліва добра атрымліваліся ў яе дзіцячыя апавяданьні. Дзякуючы ёй загучалі па-беларуску творы Рэд'ярда Кіплінга, Эрнэста Сэтан-Томпсана, «Тыль Уленшпігель» Шарля дэ Кастэра.

У 1930-м прагрымела справа Саюзу вызваленьня Беларусі, і Гарэцкі атрымаў пяць гадоў высылкі. Леаніла дзяліла ягоны лёс у Вятцы й у пасёлку Пясочня на Смаленшчыне. Для дзіцячага садка, дзе яна працавала выхавацелькай, гэта было шчасьцем, бо Леаніла Ўсьцінаўна цудоўна сьпявала, вышывала, вучыла малых маляваць.

Ёй яшчэ трэба было перажыць другі арышт і расстрэл мужа, гібель на фронце сына Лёні, шматгадовае становішча жонкі «ворага народу».

Многія з раскіданых па краіне, «дзе так вольна дыхаў чалавек», сямейнікаў рэпрэсаваных «нацдэмаў» не вярнуліся, дакладней, ня здолелі вярнуцца на радзіму. Гэта таксама было ўдарам па беларушчыне, аслабляла і без таго страшэнна падарваныя нацыянальныя сілы.

Свой апошні прыстанак Леаніла знайшла ў Ленінградзе. Дзякуючы ёй і яе з Максімам дачцэ Галіне захаваныя многія рукапісы з архіву Гарэцкага — скарбы, што цяпер захоўваюцца ў бібліятэцы Нацыянальнай Акадэміі навук і Дзяржаўным архіве-музэі літаратуры і мастацтва.

**Леаніла Чарняўская (у замужжы Гарэцкая)**
16.11.1893, в. Таргуны, цяпер Докшыцкі раён — 26.9.1976, Ленінград, цяпер Санкт-Пецярбург, Расея.
Пахаваная на пецярбурскіх Паўднёвых могілках.

Цімох з тых дзясяткаў тысяч беларусаў, якія сто гадоў таму паверылі ў сваю незалежную дзяржаву і былі гатовыя змагацца за яе з зброяй у руках.

Выхаванец знакамітай Слуцкай гімназіі, выпускнік афіцэрскіх курсаў у часе Першай усясьветнай вайны, у сьнежні 1917-га ён ужо стаў паручнікам 1-га беларускага пяхотнага палка ў Менску. Яго неўзабаве расфармаваў камандуючы Заходняга фронту бальшавік-беларусафоб Мясьнікоў. Калі чырвонаармейцы пакінулі горад, Хведашчэня быў сярод беларускіх вайскоўцаў, што ўзялі ўладу ў Менску ў свае рукі. Але на зьмену адным акупантам прыйшлі новыя — немцы. Яны таксама не дазволілі стварыць нацыянальнага войска.

## Цімафей Хведашчэня



У 1920-м ён вярбуе на Случчыне добраахвотнікаў у войска генэрала Булак-Балаховіча. Створаны капітанам Хведашчэнем партызанскі аддзел налічваў 700 ваяроў, меў уласны сьцяг і аркестар і вылучаўся, сьведчаць дакумэнты, у лепшы бок у сэнсе маралі. Гэтая баяздольная дысцыплінаваная частка ўзяла ўдзел у славутым паходзе балахоўцаў супраць бальшавікоў увосень 1920 году, ваявала пад Мазыром, Калінкавічамі і Петрыкавам.

Калі армію Булах-Балаховіча інтэрнавалі палякі, Цімафей і ягоныя людзі, прабраўшыся ў родныя мясьціны, далучыліся да 1-й брыгады слуцкіх паўстанцаў, што баранілі ідэалы БНР.

Паўстаньне было задушанае пераважнымі сіламі бальшавікоў, аднак і гэтым разам Хведашчэня

аказаўся ў ліку тых тых, хто пастанавіў працягваць змаганьне. Пад кансьпірацыйным імем Вішнеўскі ён стаў адным з партызанскіх атаманаў Беларускай сялянскай партыі «Зялёны Дуб», якая вяла баявыя дзеяньні на занятым саветамі памежным абшары.

Палякі, з свайго боку, бачылі ў беларускай збройнай сіле небясьпеку і вырашылі распусьціць нашы аддзелы. У той час Цімафей Хведашчэня прайшоў праз арышт і зьняволеньне.

Апынуўшыся ўрэшце на волі, ён — асоба, чый характар заўсёды вымагаў дзеяньня, — адолеў двухбаковыя памежныя кардоны і ўзяўся арганізоўваць антысавецкае падпольле і партызанку ў Слуцкім ды Бабруйскім паветах.

Неўзабаве пад яго рукой ужо была тысяча змагароў, падзеленых на чатыры аддзелы. Імі камандавалі беларускія афіцэры-патрыёты. У вёсках дзейнічалі нелегальныя «пяцёркі». Яны раскідвалі ўлёткі і антыбальшавіцкую літаратуру, вялі выведку і прапаганду сярод чырвонаармейцаў, якія пачалі далучацца да партызанаў...

У выдадзеных да 100-годзьдзя Беларускай Народнай Рэспублікі сувэнірных гульневых картах Цімоху адведзеная роля звонкавага валета. Няўважлівым нагадаю: на тальлі напісана, што гуляць у дурня забараняецца.

**Цімафей Хведашчэня**
1897, в. Лазавічы, цяпер Клецкі раён —
2.3.1977, Варшава, Польшча.
Пахаваны на варшаўскіх Камунальных могілках.

---

* На надмагільным помніку Ц. Хведашчэні год нараджэньня пазначаны недакладна. Вікіпэдыя ды іншыя крыніцы падаюць з памылкамі і месца ягонага нараджэньня.

Той, каму давялося хоць колькі дзён пражыць пад гасьцінным дахам Беларускай каталіцкай місіі ў Лёндане, пагодзіцца, што прысутнасьць колішняга яе рэктара архімандрыта Льва Гарошкі адчувалася там на кожным кроку.

І ў беларускай грэка-каталіцкай царкве Сьвятых Пятра й Паўла на Holden Road. І ў залях Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны (яе асноваю, дарэчы, сталі кніжныя й рукапісныя зборы айца Льва). І на лугавіне пры тамтэйшым Доме марыянаў, дзе архімандрыт любіў у вольную пару, успамінаючы юнацтва, шырока памахаць касой.

## Леў Гарошка



Ён вучыўся ў Навагрудзкай беларускай гімназіі й Львоўскай духоўнай акадэміі, студыяваў тэалёгію ў Інсбруку, выдаваў беларускі малітоўнік у Рыме, кіраваў лёнданскай Беларускай школай імя Сьвятога Кірылы Тураўскага і Беларускай сэкцыяй Радыё Ватыкан.

Толькі чалавек зласьлівы ці абыякавыназаве ягоны шлях пакручастым. Гэта было плаваньне карабля, які ведае, у якую гавань кіруецца, а таму спадарожныя вятры начуюць у ягоных ветразях.

Асноўнай тэмаю сваіх навуковых дасьледаваньняў Леў Гарошка зрабіў ролю царквы — найперш грэка-каталіцкай — у кансалідацыі й нацыянальным адраджэньні беларусаў, якіх сьвецкія



Значная частка жыцьця айца Льва Гарошкі прайшла ў Парыжы

і духоўныя ўлады Расеі й Польшчы разглядалі як галоўны аб’ект іх асымілятарскай палітыкі.

Бліскучая адукацыя і валоданьне дзесяцьцю мовамі ўводзілі айца Льва ў асяродзьдзе эўрапейскай духоўнай эліты, дзе ён ніколі не пакутаваў ні на якія застарэлыя беларускія комплексы.

Найлепшым сьведчаньнем гэтаму ёсьць выдаваны ў Парыжы, а затым у Лёндане часопіс «Божым Шляхам», шматгадовым рэдактарам якога быў Гарошка.

Яго зямная сьцежка абарвалася падчас апэрацыі ў парыскім шпіталі. «Жыў, як леў, а памёр, як ягнё», — пісаў у разьвітальным слове наш біскуп Часлаў Сіповіч.

Дасьціпны востры розум Льва Гарошкі доўжыць сваё жыцьцё ў ягоных кнігах: «Сьвятая Эўфрасіньня-Прадслава Полацкая, патронка Беларусі» (Парыж, 1950; Менск, 1996), «Навука і рэлігія» (Рым, 1977), «Пад знакам «рускае» і «польскае» веры» (1954, 1990).

Працуючы над «Імёнамі Свабоды», я зноў і зноў сумоўнічаў з айцом Львом, і гэта штораз рабілася маленькім сьвятам.

**Леў Гарошка**
11.3.1911, в. Трошчычы, цяпер Карэліцкі раён — 28.7.1977, Парыж, Францыя.
Пахаваны на лёнданскіх могілках Сьвятога Панкрата.

## Рыгор Шырма

Рызыкну сказаць, што імя гэтага героя кнігі ў Беларусі ведае амаль кожны — нават той, хто ніколі ў жыцьці ня быў ні ў філярмоніі, ні наагул на канцэрце.

Рыгор Шырма з кагорты тых нацыянальных дзеячаў, аўтарытэт якіх бездакорны і для майго знаёмага старога настаўніка з-пад Маладэчна, і для сустрэтага на праспэкце Незалежнасьці невядомага маладзёна бамжаватага выгляду.

Настаўнік ведае, што Шырма ствараў хоры, выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі, адчыняў у Заходняй Беларусі нашы нацыянальныя школы, дапамагаў выдавацца маладому Максіму Танку і двойчы сядзеў у польскай турме. А маладзён, пачуўшы несуладныя сьпевы падвяселенай вулічнай кампаніі, іранічна кінуў: «Тожа мне Шырмы!»

У 1940-м Шырма стварыў і трыццаць гадоў нязьменна кіраваў Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэляй Беларусі.

Сабраныя й выдадзеныя ім чатыры тамы беларускіх народных песьняў (болей за дзьве тысячы) зрабілі б гонар любой эўрапейскай нацыі.

Дзеля бліжэйшага азнаямленьня з савецкай уладаю Рыгор Раманавіч мусіў пасядзець у 1941-м на Лубянцы, адкуль пашчасьціла выйсьці пасьля хадайніцтва Якуба Коласа перад першым сакратаром ЦК КПБ П. Панамарэнкам.

Пазьней Шырма не цярпеў яўнага перасьледу. Наадварот, улада імкнулася ўсяляк аблашчыць маэстра. Ён кіраваў Саюзам кампазытараў рэспублікі, атрымаў званьні народнага артыста СССР і Героя сацыялістычнай працы.

Але блізкія да Рыгора Раманавіча людзі сьведчаць, што і на схіле дзён ён заставаўся верны ідэалам маладосьці.



Удзельнікі акруговага зьезду Таварыства беларускай школы ў Горадні. Другі зьлева ў першым радзе паэт Міхась Васілёк, у цэнтры другога раду Аляксандар Уласаў, справа ад яго Рыгор Шырма. 1928 г.

Былы шматгадовы сакратар управы Таварыства беларускай школы балюча перажываў русіфікацыю сыстэмы адукацыі й усяго жыцьця ў БССР.

Ягоныя словы «Песьня — душа народу» сталіся сапраўды крылатымі. Так Шырма назваў кнігу сваіх артыкулаў, якая выйшла ў сярэдзіне 1970-х. Расказваюць, што, узяўшы ў рукі сыгнальны экзэмпляр і прачытаўшы назоў, Рыгор Раманавіч прамовіў: «А душу гэтую абкрадаюць».

Такія, як Шырма, не дазволілі абкрасьці душу народу дарэшты.

**Рыгор Шырма**
20.1.1892, в. Шакуны, цяпер Пружанскі раён — 23.3.1978, Менск.
Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

## Янка Геніюш

Упершыню прыехаўшы да Ларысы Геніюш у Зэльву, яе мужа Янку я ўжо не засьпеў.

Паэтка расказвала мне, што пасьля Янкавай сьмерці штодня хадзіла на яго магілу паразмаўляць ці проста пабыць зь ім сам-насам, а аднойчы адчула, што анічога там ужо няма, адна халодная зямля, і потым пераведвала клады адно ў дні, вызначаныя народнай традыцыяй.

Але згадвала яна мужа падчас кожных маіх пагасьцінаў, і таму задоўга да выхаду яе «Споведзі» я ведаў пра Янку шмат: і пра яго навучаньне на мэдычным факультэце Карлавага ўнівэрсытэту ў Празе (рэкамэндацыю на атрыманьне стыпэндыі даваў сам Браніслаў Тарашкевіч), і пра іхні шлюб у 1935-м у Беларусі, і пра шчасьлівыя, а потым трывожныя гады, пражытыя ў чэскай сталіцы... З гэтых аповедаў паўставала асоба неадназначная, супярэчлівая, але, безумоўна, вартая памяці ня толькі сваякоў.

Дзядзька Янка быў ня проста мужам Ларысы Геніюш, як некаму ўяўляецца. Гэта ён першы даў ёй беларускія кнігі, чытаў нарачонай вершы Купалы, адкрываў ёй вочы на нашую гісторыю.

Прайсьці па жыцьці побач з такой жанчынаю таксама было своеасаблівым подзьвігам, на які здатны ня кожны.

Ларыса Антонаўна па-хрысьціянску даравала мужу тое, што пры канцы вайны ён вырашыў застацца ў Празе, мяркуючы, што Чэхаславаччына і надалей будзе незалежнай дзяржавай і ня выдасьць іхнюю сям'ю саветам.

Гэтая аблуда каштавала Ларысе й Янку прысудаў на 25 гадоў канцлягераў кожнаму, каштавала разлукі з малым сынам, нечалавечых зьдзекаў, асабліва пакутлівых для іх, людзей ужо звыклых да эўрапейскіх жыцьцёвых стандартаў і свабодаў.

Ён быў добрым лекарам, што маглі б засьведчыць і ягоныя чэскія пацыенты, і хворыя Зэльвенскай раённай бальніцы, начальства якой прыніжала былога гулагаўскага вязьня, доўга не жадаючы прызнаваць замежнага Янкавага дыплёму нейкага там Карлавага ўнівэрсытэту і нязьменна дзівячыся на партрэт Францішка Скарыны, што немаведама чаму аздабляў кабінэт падазронага доктара.



Ларыса і Янка Геніюшы пасьля вызваленьня зь лягераў. 1956 г.

Калі Іван Пятровіч цяжка захварэў, «дабрадзеі» пусьцілі чутку, нібыта ён ужо сканаў, і ў дом Геніюшаў пачалі прыходзіць людзі з жалобнымі вянкамі.

Ён прыняў сьмерць на жончыных руках. Ларыса Антонаўна сама яго мыла й апранала ў апошні шлях.

«Пахавалі зь сьлязьмі, ціха, без усякіх палкіх прамоваў. Ня ўсё было паміж намі добра, аднак нельга аб гэтым... Прынесьлі мне па ім 33 рублі 75 капеек пэнсіі», — скрушліва занатавала ў успамінах спадарыня Ларыса.

**Янка Геніюш**
24.2.1902, мяст. Крынкі, цяпер Сакольскі павет,
Падляскае ваяводзтва, Польшча —
19.2.1979, Зэльва.
Пахаваны ў Зэльве.

## Рыгор Крушына

Ён стаў першым беларускім пісьменнікам, прынятым у Міжнародны ПЭН-клюб (1966 г.).

Дзеля гэтага Рыгор Крушына мусіў пакінуць Радзіму, апынуцца на Захадзе, трапіць у лягер для перамешчаных асобаў, вытрымаць безьліч выпрабаваньняў эміgranцкага жыцьця. Вядома, усё тое ён прайшоў зусім ня з мэтаю здабыць пасьведчаньне сябра ПЭНу.

У лістападзе 1920-га трынаццацігадовы Рыгорка зь яшчэ меншым братам Колем раскідваў па вёсках і мястэчках улёткі з заклікамі Рады Случчыны да антыбальшавіцкага паўстаньня. Праз пяць гадоў ОГПУ вырашыць бліжэй прыгледзецца да братоў у сувязі з справаю падпольнай арганізацыі Юрыя Лістапада.

Аднак студэнт Белпэдтэхнікуму Казак хутка выйдзе на волю і вернецца да ўлюбёнага занятку — літаратурных практыкаваньняў, якія прывядуць яго ў «Маладняк» і зробяць аўтарам двух зборнікаў вершаў на дазволеныя тэмы і з адпаведным патасам — «Разгон» і «Паэзія чырвонаармейца». «*Браў разгон я — не было разгону, / Не гучэла слова навіной*», — напіша ён пра тыя свае опусы ўжо за акіянам. Кніга «Лебедзь чорная», зь якой сапраўды пачаўся паэт Крушына, выйшла ў 1947-м у лягеры ў Заходняй Нямеччыне.

Слухачы Радыё Свабода зь вялікім стажам, магчыма, памятаюць голас Кастуся Рамановіча. Пад гэтым псэўданімам у пяцідзясятыя — шасьцідзясятыя гады мінулага стагодзьдзя выходзіў у этэр Казак-Крушына.

З кожным годам набіраўся ўпэўненасьці й адметнасьці і ягоны паэтычны голас, багата аздоблены мэтафарамі, алітэрацыямі, вытанчанымі рыфмамі й арыгінальнымі рытмамі. Натхнёна экспэрымэнтуючы з формаю, ён пісаў бліскучыя рандо, тэрцыны, канцоны, вілянэлі, туюгі і паліндромы — вершы, якія аднолькава чытаюцца як зьлева направа,



так і наадварот. Кшталту вось гэтага, які ў духу часу хочацца ўмоўна назваць «тэрарысцкім»:

*Я — сіла. Маліся!*
*Міла палім*
*Тонкі кнот...*

Ён ніколі не хаваўся ў свой паэтычны сьвет, як у вежу з слановай косьці: быў адным з заснавальнікаў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку, рэдагаваў літаратурна-мастацкі часопіс «Конадні».

У ягоную магілу сын Ігар паклаў, відаць, найдаражэйшую для бацькі кнігу — «Сны і мары» (1975). На ягоным помніку ў Іст-Брансўіку разам з Пагоняю выбітыя ажно чатыры вершы.

Яго творы пачалі зьяўляцца ў нашай пэрыёдыцы з канца 1980-х, але сапраўднае вяртаньне Рыгора Крушыны на Бацькаўшчыну адбылося нарэшце ў нашым стагодзьдзі, калі ў сэрыі «Беларускі кнігазбор» выйшаў ёмісты том выбраных твораў.

*Я прывітаю дзень чаканы,*
*Калі спаткаю позірк твой*
*З усьмешкай цёплай,*
*Край каханы.*
*Я п’ю рамонкавы настой...*

**Рыгор Крушына (ад нараджэньня Казак)**
3.12.1907, в. Бязьверхавічы, цяпер Слуцкі раён — 27.3.1979, Вашынгтон, ЗША.
Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку, штат Нью-Джэрзі.

# Браніслаў Ржэўскі



Ён нарадзіўся 25 сакавіка. Гэта здарылася яшчэ да таго часу, калі ў нашым календары зьявіўся Дзень Волі, але ідэалы нацыянальнага вызваленьня натхнялі Браніслава ўсё жыцьцё.

У гады Другой усясьветнай яго прызначылі рэдактарам партызанскай газэты. Другую такую газэту ў Налібоцкай пушчы рэдагаваў Янка Брыль. Рэдактары пазнаёміліся і пасябравалі. Пазьней народны пісьменьнік згадваў: «Адтуль, з пушчы, гучыць у маёй памяці яго захоплены голас, калі ён дэклямуе Купалавы радкі».

Па вайне Браніслаў абараніў кандыдацкую дысэртацыю па творчасьці Максіма Танка і выкладаў у Гарадзенскім пэдынстытуце. Ён быў зь ліку тых, хто паверыў, што сьмерць Сталіна прывядзе да кардынальных зьменаў у грамадзтве. Гэтая вера вылілася ў шматлікія звароты, якія Ржэўскі пасылаў у газэты і ўстановы, пратэстуючы супраць парушэньняў у нацыянальнай палітыцы. Але ў Беларусі хрушчоўская адліга мела супярэчлівы характар: вяртаньне на волю дзясяткаў тысяч вязьняў ГУЛАГу суправаджалася кіраванай з Масквы русыфікацыяй, зьнішчэньнем выдатных архітэктурных помнікаў: віцебскай царквы Зьвеставаньня і полацкага сабору Сьвятога Стэфана...

Заявы пра наступ на нацыянальную адукацыю пісалі й студэнты Ржэўскага, сярод якіх — будучы слынны пэдагог і краязнаўца-патрыёт Алесь Белакоз. Любоў моладзі да выкладчыка гэбісты ўлічылі падчас

расправы. Каб напалохаць студэнтаў, варанок узімку 1957-га прыехаў па Ржэўскага проста падчас лекцыі. (Празь пятнаццаць гадоў гэтак сама, толькі ўжо на чорнай «Волзе», гэбісты звозілі аўтараў наваполацкага самвыдавецкага альманаху «Блакітны ліхтар».)

Прыператрусах у Ржэўскага знайшлі заходнебеларускія антыкамуністычныя выданьні Францішка Аляхновіча й Адама Станкевіча, уласныя вершы арыштаванага, дзе ён называў Сталіна крывавым забойцам, Нэронам і Чынгісханам, заклікаючы суайчыньнікаў змагацца за вызваленьне з-пад чужынскай улады.

Прысуд — сем гадоў лягераў — Ржэўскі выслухаў якраз на дзень нараджэньня, 25 сакавіка. З-за калючага дроту Дуброўлягу ў Мардовіі ён працягваў кампанію пэтыцыяў: у ЦК КПСС і асабіста міністру культуры Фурцавай пісаў пра «абсурднасьць» палітыкі ў нацыянальнай сфэры, патрабаваў перагледзець свой прысуд і несправядлівыя выракі таварышам у зьняволеньні.

Пасьля вяртаньня Ржэўскага на волю КГБ не пакінуў яго ў спакоі: за домам вёўся нагляд, шлях да выкладаньня ў вышэйшай школе быў закрыты, друкаваць артыкулы й рэцэнзіі забаранілі. Ён памёр у глухую брэжнеўскую пару, так і не дачакаўшыся слова праўды.

Пры канцы 1980-х часопіс «Крыніца» ўпершыню апублікаваў успаміны пра Ржэўскага, чыё (і не адзінае!) жыцьцё абвяргае міт, нібыта ў Беларусі ў паваенны час не існавала ні палітвязьняў, ні барацьбы за нацыянальныя правы.

**Браніслаў Ржэўскі**
25.3.1905, в. Добрыцкае (цяпер Барысаўскі раён) –
10.2.1980, Горадня.
Пахаваны на гарадзенскіх могілках Сакрэт.

Ці магчыма быць беларускім буржуазным нацыяналістам і адначасова гэткім самым буржуазным, але ўжо нацыяналістам украінскім? ОГПУ ведала адказ. Гісторыку Льву Акіншэвічу ў 1933-м было выстаўленае акурат такое абвінавачаньне.

Ён нарадзіўся ў сям'і пецярбурскага юрыста-беларуса. Першая ўсясьветная вайна засьпела Льва студэнтам Кіеўскага ўнівэрсытэту.

Вярнуўшыся ў 1918-м дадому з Румынскага фронту, ён захапляецца беларускім рухам. Як напіша потым Акіншэвіч у мэмуарах, яго завабіла «справядлівасьць гэтае справы». У тым самым годзе ён прымае грамадзянства БНР.

# Леў Акіншэвіч

У 1920-я дасье на супрацоўніка Ўкраінскай Акадэміі навук Льва Акіншэвіча няўхільна расло. Шмат старонак у ім прысьвячалася частым паездкам у Менск, публікацыям у «Полымі» й таварышаваньню зь Янкам Купалам і Вацлавам Ластоўскім.

Урэшце карысным для апальнага гісторыка быў



Свае асноўныя гістарычныя дасьледаваньні Леў Акіншэвіч выдаў у ЗША



прызнаны клімат ужо адарванага бальшавікамі ад Беларусі Смаленску.

Пасьля вайны Акіншэвіч апынуўся ў ЗША, дзе працаваў у Цэнтры вывучэньня СССР, ня страчваючы сувязяў зь беларускімі эміграцыйнымі інстытуцыямі.

Дасьледуючы гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, ён пісаў пра веліч дзяржавы нашых продкаў, аднак і пакутліва шукаў прычыны яе скону, за што заслужыў ад некаторых суайчыньнікаў закіды ў «недастатковым патрыятызьме».

У сваіх поглядах ён быў блізкі да выдатнага ангельскага гісторыка і мысьляра XX стагодзьдзя Арнольда Тойнбі, пра якога нам, савецкім студэнтам-гісторыкам, ведаць было забаронена.

Усё доўгае жыцьцё Акіншэвіча займалі і канкрэтныя праблемы мінуўшчыны, і філязофія гісторыі, аб чым яскрава сьведчыць ягоная праца «Пра цывілізацыйныя асновы беларускага гістарычнага працэсу».

Яе аўтар спадзяваўся, што, здабыўшы магчымасьць вольнага разьвіцьця, Беларусь дасягне «здаровага арганічнага сынтэзу сваіх цывілізацыйных асноваў» і ў выніку пабудуе дэмакратычнае грамадзтва эўрапейскага кшталту. У XXI стагодзьдзі мы мусім пераканацца ў слушнасьці гэтых словаў.

**Леў Акіншэвіч**
6.2.1898, Пецярбург, Расея — 7.11.1980, Вашынгтон, ЗША.
Пахаваны на ўкраінскіх могілках у Баўнд-Бруку,
штат Нью-Джэрзі.

Калі сярод нашых гарадоў найбольшую колькасьць выбітных асобаў даў краіне Полацак, дык сярод вёсак такое першынство належыць, відаць, смаргонскай вёсцы з крылатай назваю Арляняты.

Там пачаліся зямныя дарогі змагара й пакутніка за веру й нацыю ксяндза Адама Станкевіча, палітыка і вучонага-філёляга Янкі Станкевіча, выдаўца і паэта Станкевіча Станіслава Лявонавіча, а таксама яшчэ аднаго ўладальніка гэтага змагарскага прозьвішча, вядомага дзеяча нашай эміграцыі, гадаванца Віленскай беларускай гімназіі й Віленскага ўнівэрсытэту Станкевіча Станіслава Язэпавіча.

## Станіслаў Станкевіч

За часам Другой усясьветнай вайны Станіслаў быў сярод тых, хто імкнуўся скарыстаць новыя гістарычныя абставіны ў інтарэсах беларускай справы, што й абумовіла разьвітаньне з роднай зямлёю — назаўсёды.

Але ён казаў, што нельга пазбавіць Беларусі таго, у каго яна ў душы.

Выхаванцы Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне яшчэ памятаюць чытаныя спадаром Станкевічам таленавітыя лекцыі з нацыянальнай літаратуры, а даўнія слухачы Радыё Свабода — ягоныя перадачы зь Мюнхэну.

Там Станкевіч доўгі час рэдагаваў найбуйнейшую тагачасную газэту беларускіх эмігрантаў «Бацькаўшчына», засьведчыўшы на яе бачынах свае публіцыстычныя здольнасьці й талент літаратуразнаўцы. Пры газэце было аднайменнае выдавецтва, дзе разам зь дзясяткамі іншых кнігаў выйшлі забароненыя ў БССР Купалавы «Тутэйшыя», якіх мы зь сябрамі праўдамі й няпраўдамі здабылі на пачатку яшчэ васьмідзясятых і, «межджу прочым», развучылі амаль па ролях.

Станкевіч меў смак да рэдактарскай працы. Ён рэдагаваў «Запісы» нью-ёрскага Беларускага



Станіслаў Станкевіч з жонкай Зінаідай і дачкой Раісай. 1940-я гады

Інстытуту Навукі й Мастацтва, амаль дваццаць гадоў нязьменна ўзначальваў газэту нашай эміграцыі — «Беларус».

Галоўнае месца ў велізарнай бібліяграфіі артыкулаў і дасьледаваньняў Станіслава Станкевіча належыць ягоным выдадзеным на эміграцыі грунтоўным манаграфіям «Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 1960-х гадоў» і «Янка Купала. На 100-я ўгодкі ад нараджэньня».

Якія новыя таленты народзяцца ў Арлянятах?

**Станіслаў Станкевіч**
23.2.1907, в. Арляняты, цяпер Смаргонскі раён — 6.11.1980, Нью-Ёрк, ЗША.
Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку, штат Нью-Джэрзі.

Ён быў першым у маім жыцьці гарадзкім хлопцам, які гаварыў па-беларуску. Не з тэлеэкрану, ня з сцэны, не для публікі, а проста ў жыцьці.

Ягоную мову я пачуў на перапынку паміж першымі лекцыямі на гістфаку БДУ, куды мы паступілі ў 1970-м, каб неўзабаве зрабіцца найлепшымі сябрамі, каб разам бадзяцца па Беларусі, езьдзіць у будатрады, зачытвацца Караткевічам (гэта Генадзь даў мне «Каласы пад сярпом тваім», адкрыўшы не вядомага раней пісьменьніка і — цэлы сьвет) і марыць пра тое, чаго, здавалася, мелі шанец дачакацца толькі будучыя дзеці і ўнукі, — пра Незалежнасьць.

## Генадзь Кулажанка

Нашыя погляды не былі таямніцаю для факультэцкага начальства — асабліва пасьля таго, як мы стварылі Клюб аматараў піва ды яшчэ з Генадзевай ініцыятывы пачалі выдаваць літаратурны альманах «Мілавіца», што стаўся пераемнікам сканфіскаванага гэбістамі наваполацкага «Блакітнага ліхтара».

На дзяржэкзамэне па навуковым камунізьме прафэсар Круцько вынес нам, маючы на ўвазе сваю самую перадавую «навуку», аднолькавы вэрдыкт: «Вы ўва ўсё гэта ня верыце». Я атрымаў у дыплёме адзіны «траяк», а Генадзь зноў і зноў хадзіў на пераздачу.

Кулажанка быў начыста пазбаўлены генаў сэрвільнасьці й лёкайства, а вось генамі авантурнасьці быў надзелены занадта шчодра. Ён лічыў, што на вышэйшай пасадзе чалавек здольны больш пасьпяхова ажыцьцяўляць свае ідэі. Дзеля кар'ернага росту пайшоў працаваць у камсамол, а потым папрасіўся ў Аўганістан — дарадцам у справах моладзі. Неўзабаве я атрымаў ліст з прызнаньнем зробленага ўчынку памылкай. Карыстаючыся недасьведчанасьцю армейскага цэнзара, Генадзь пытаўся ў мяне, што рабілі б продкі, каб у час Грунвальду хтосьці прыехаў да іх на танках будаваць сацыялізм.



Аднаго разу ён, парушыўшы інструкцыю, сеў у аўганскую таксоўку...

Празь некалькі дзён да Генадзевага бацькі, вядомага эканаміста Ўладзімера Кулажанкі, прыехала цэлая дэлегацыя: спачатку мэдсястра зрабіла прафэсару, каб не зайшоўся ад стрэсу, укол, а потым яму паведамілі, што сын гераічна загінуў.

Але чаму тады не прывезьлі родным дамавіны з парэшткамі? Чаму пад выглядам маскоўскага карэспандэнта да мяне прыяжджаў гэбіст, які задаваў пытаньні, што аніяк не маглі спатрэбіцца для газэтнага нарысу? З-за мяжы на адрас Генадзевага дзеда, якога ўжо не было на сьвеце, прыйшла загадкавая бандэроля зь Бібліяй. А потым у прэсу пратачыліся зьвесткі пра расстралянае артылерыяй паўстаньне савецкіх ваеннапалонных у турме каля аўганска-пакістанскае мяжы, сярод удзельнікаў і кіраўнікоў якога мог быць Генадзь.

Сёстры Вольга і Людміла, жонка Ліда й сын Уладзя дагэтуль ня страчваюць надзеі. Калі чалавек прапаў бязь вестак, калі яго ніхто ня бачыў мёртвым, ён застаецца жывым. Мне сьніцца сустрэча з Генадзем — чалавекам, зь якім я ўпершыню загаварыў па-беларуску, маім да сёньня найдаражэйшым сябрам.

**Генадзь Кулажанка**
26.7.1952, Менск —
у чэрвені 1981 зьнік бязь вестак у Аўганістане.

## Часлаў Сіповіч

Карыстаючыся намаляванай лёнданскім сябрам схемай, я знайшоў на могілках Сьвятога Панкрата ў брытанскай сталіцы невялікі беларускі нэкропаль. Побач з агульным помнікам айцам Льву Гарошку й Язэпу Германовічу, вядомаму як паэт Вінцук Адважны, там спачывае прах уладыкі Часлава Сіповіча, першага беларускага грэка-каталіцкага біскупа XX стагодзьдзя. На надмагільлі надпіс лацінкаю: «Kab usie byli adno».

Пакліканьне да царкоўнага жыцьця Чэсь адчуў зь дзяцінства, што і прывяло яго ў гімназію пры Друйскім кляштары беларускіх айцоў марыянаў. Як самыя багаславёныя гады прыгадваў Сіповіч час, калі слухаў у Віленскай alma mater курсы філязофіі й тэалёгіі ды жыў у Доме марыянаў, якім кіраваў айцец Язэп Германовіч. Атрымаўшы магчымасьць працягваць навучаньне ў Рыме, Часлаў прыняў бізантыйскі абрад. Папскі Грыгарыянскі ўнівэрсытэт ён скончыў ужо сьвятаром.

Пасьля вайны Сіповіч стаў заснавальнікам і першым рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ў Лёндане, дзе браў чынны ўдзел у дзейнасьці Згуртаваньня беларусаў Вялікай Брытаніі й Ангельска-беларускага таварыства, шмат гадоў супрацоўнічаў з часопісам «Божым Шляхам». Гэта айцец Часлаў навярнуў да беларушчыны выпускніка Сарбоны і Оксфарду Гая дэ Пікарду.

Як апостальскі візытатар беларусаў-каталікоў абодвух абрадаў у эміграцыі Часлаў Сіповіч зьдзейсьніў два падарожжы вакол сьвету, прывозячы адусюль бібліяграфічныя рэдкасьці для фондаў будучай Лёнданскай бібліятэкі імя Скарыны.

Адкрыцьцё Скарынаўкі ў 1971-м падаравала яму адзін з самых сьветлых момантаў жыцьця. Ёсьць нешта сымбалічнае ў тым, што якраз у дзень адзначэньня дзесяцігодзьдзя бібліятэкі, што зрабілася най-



багацейшым беларускім кнігазборам па-за межамі Беларусі, уладыка адышоў у лепшы сьвет. Сіповіч толькі-толькі пасьпеў адслужыць сьвяточную літургію ў лёнданскай Беларускай царкве Сьвятых апосталаў Пятра і Паўла.

У памяці многіх уладыка застаўся асобаю, далёкай ад аскезы. Літаратуразнаўца-беларусіст Арнольд Макмілін згадвае, як біскуп любіў уладкавацца ў садзе пад яблыняй з томам Дастаеўскага і бутэлькаю шаблі.

На пачатку гэтага стагодзьдзя выйшла кніга выдатнага рэлігійнага дзеяча нашай эміграцыі, гісторыка Беларускай царквы айца Аляксандра Надсана «Біскуп Чэслаў Сіповіч. Сьвятар і беларус», якая адразу трапіла ў разрад рарытэтаў.

У друйскім касьцёле Сьвятой Тройцы да 100-годзьдзя Сіповіча ўсталяваная мэмарыяльная пліта — «Выгнанаму сыну гэтай зямлі ўдзячныя суродзічы».

**Часлаў Сіповіч**
8.12.1914, в. Дзедзінка, цяпер в. Асада Дзедзіна, Мёрскі раён — 4.10.1981, Лёндан, Вялікабрытанія.
Пахаваны на лёнданскіх могілках Сьвятога Панкрата.

Хто ведае, можа, ён стаў бы другім Максімам Багдановічам?..

Народжаны на Ўрале хлопчык, аднаклясьнік маёй сястры, які ў пятнаццаць гадоў пісаў:

*Рушу па Беларусі... У небе маланка палае.*
*Пад прыгнётам усходнім стогне наша зямля.*
*Песьні жальбы лунаюць ад краю да краю...*

## Андрэй Грабаў

Андрэй Грабаў быў самым юным і невераемна таленавітым аўтарам самвыдавецкага літаратурнага альманаху «Блакітны ліхтар», які ў 1971—1974 гадах выпускаў у Наваполацку Вінцэсь Мудроў зь сябрамі-аднадумцамі.

Усе пятнаццаць яго нумароў былі сканфіскаваныя гэбістамі ды так і не вярнуліся з архіваў «канторы» нават у першыя гады незалежнасьці.

Адной канфіскацыяй, вядома, не абышлося. Былі й гэтак званыя «прафіляктычныя гутаркі», пагрозы і запалохваньні.

Жыцьцё аўтараў «Блакітнага ліхтара» склалася па-рознаму, а ў Андрэя — зусім рана завяршылася трагедыяй.

Ён быў таленавітым у многім — у сяброўстве, у спорце, дзе займаўся воднымі лыжамі, у любові да старэйшай сястры Наташы, якой зь першай стыпэндыі на ўсе грошы купіў у падарунак яшчэ вельмі рэдкую ў той час рэч — фэн.

Ён ледзь пасьпеў скончыць Наваполацкі політэхнічны інстытут і адразу быў забраны на службу ў савецкае войска.

Там Грабавым, як беларускім нацыяналістам, разпораз цікавіліся «асабісты», якія настойліва раілі яму, «истинно русскому парню», трымацца ад колішніх старэйшых таварышаў з «Блакітнага ліхтара» як мага далей.



У лістападзе 1981-га, за два дні да ягонага дваццаціпяцігодзьдзя, Андрэя Грабава, што суправаджаў вайсковы груз з Мурманску ў Кіеў, знайшлі ў эшалёне, расстралянага разам зь некалькімі суслужбоўцамі з аўтамата.

У такіх выпадках цяжка казаць пра творчую спадчыну.

Калі-небудзь юначыя вершы Грабава вырвуцца з спэцсховішчаў КГБ.

Магчыма, сваякі пагодзяцца надрукаваць лірыку з Андрэевага нататніку, цалкам прысьвечанага дзяўчыне Раісе — ягонаму адзінаму і непадзеленаму каханьню.

«Ён быў прыкольны хлопец», — сказала ў дзень 50-годзьдзя ўлюбёнага брата сястра Наташа, якая дагэтуль лічыць Андрэйку найраднейшым для яе чалавекам на сьвеце.

А я ў той дзень яшчэ раз згадаў ягоныя напісаныя на пачатку далёкіх і зусім не аптымістычных 1970-х жыцьцесьцьвярджальныя радкі:

*Але хутка — ходзяць чуткі —*
*Паўстане моладзі атрад!*

**Андрэй Грабаў**
5.11.1956, Чусавой, цяпер Пермскі край, Расея — 3.11.1981, чыгуначны перагон Мурманск — Кіеў.
Пахаваны на наваполацкіх могілках Ропна.

Я быў занадта малы, каб трапіць на яго кароткія й адзіныя беларускія гастролі. Потым фігураваў у сьпісах невыязных, а таму мусіў задавальняцца выдадзенай у Польшчы кружэлкаю ягоных запісаў, якія адразу стваралі атмасфэру несавецкасьці.

Забэйду-Суміцкага праводзілі авацыямі Пазнанская й Праская опэры. Яго стоячы вітала патрабавальная публіка славутага мілянскага тэатру «Ля Скаля». Але сцэна, пра якую да апошняга дня ён марыў — менская опэрная, — так і засталася недасяжная.

На пачатку дваццатых гадоў мінулага стагодзьдзя Міхал Забэйда-Суміцкі паступіў у Харбінскі расейскі ўнівэрсытэт і адначасна пачаў браць урокі сьпеваў і тэорыі музыкі. Назаўтра пасьля дэбютнага выкананьня ў тамтэйшай опэры арыі Ленскага ў «Яўгену Анегіну» ён прачнуўся знакамітым.

# Міхал Забэйда-Суміцкі



...Італійская прэса называла яго адным з бліскучых прадстаўнікоў эўрапейскай вакальнай школы.

Замежныя імпрэсарыё раз-пораз высочвалі Забэйду ў кавярнях за келіхам к’янці.

Сябрам і калегам у хвіліны шчырасьці Забэйда-Суміцкі прызнаваўся, што найперш хацеў бы сьпяваць на Радзіме і, каб пераканаць суразмоўцу, што загадкавая Беларусь — гэта ня фата-маргана, мог зацягнуць сваё ўлюбёнае — «Малады дубочак» або «Чаму ж мне ня пець».

Прайсьці па родных заходнебеларускіх сьцежках ён здолеў у сярэдзіне 1930-х, калі пачаў выконваць галоўныя тэнаровыя партыі ў Пазнанскай опэры, а потым стаў салістам Варшаўскага радыё.

У тыя гады Міхалу ня раз спрабавалі ставіць умову, каб не прызнаваўся, што ён — беларус. На такія прапановы сьпявак заўсёды, нават калі гэта пагражала стратаю кантракту, адказваў: «Беларусам нарадзіўся, беларусам і памру».

Ад траўня 1940 году і да канца жыцьця родным горадам для яго воляю лёсу стала Прага, дзе Забэйда быў салістам Нацыянальнага тэатру. Ён сьпяваў на шаснаццаці мовах, прычым ніколі не дазваляў сабе зазіраць у тэкст.

Дадому вядомаму ўва ўсім сьвеце сьпеваку лёсіла прыехаць усяго раз — у 1963-м, на схіле хрушчоўскай адлігі. Ён выступаў у Менску і Горадні, але апекуны паклапаціліся, каб у касах практычна не было квіткоў.

Гісторык Міхась Чарняўскі згадвае, як коштам велізарных намаганьняў трапіў у канцэртную залю філярмоніі й убачыў, што палова месцаў пустыя, а на астатнія афіцэры паўзводна рассаджваюць салдатаў тэрміновай службы.

Свой багаты архіў разам зь бібліятэкаю маэстра пакінуў, паводле запавету, роднай Беларусі.

Ёсьць свая сымбалічнасьць у тым, што Забэйда спачывае на праскіх Альшанскіх могілках побач з прэзыдэнтамі БНР Пётрам Крачэўскім і Васілём Захаркам.

**Міхал Забэйда-Суміцкі**
14.6.1900, в. Шэйпічы, цяпер Пружанскі раён — 21.12.1981, Прага, Чэхаславаччына.
Пахаваны на праскіх Альшанскіх могілках.

Калі ў мяне пытаюцца, у чым сэнс чалавечага жыцьця, я зазвычай адказваю: у тым, каб зразумець сваю ролю на гэтым сьвеце й як мага хутчэй зьліцца зь ёю.

Апалёнія ўпершыню павіталася з вучнямі ў сямнаццаць гадоў і з таго часу заўсёды заставалася настаўніцай, не пакідаючы ўлюбёнае працы і падчас навучаньня ў БДУ — спачатку на пэдагагічным, а потым на факультэце мовы й літаратуры.

Унучка паўстанца 1863 году, яна ведала, што слова выкладчыка ў змаганьні за Беларусь — зброя нярэдка больш надзейная за карабін інсургента.

# Апалёнія Савёнак

На пачатку 1920-х Апалёнія выйшла замуж за журналіста й літаратара Лявона Савёнка.

Тыя часы ў яе жыцьці былі надзвычай плённыя на пэдагагічныя распрацоўкі й публікацыі. Гэтаму спрыяла палітыка беларусізацыі, якая ў многіх сэрцах пасяліла веру, што раней ці пазьней Беларусь пачне жыць сваім, незалежным ад Масквы жыцьцём.

Аднак ужо пры канцы дваццатых гадоў ілюзіі расталі. Лявону пашчасьціла быць на волі даўжэй за некаторых сяброў, але ў 1933-м прыйшлі й па яго. Апалёнію, на руках у якой была шасьцігадовая Зора,



З мужам Лявонам

звольнілі й паведамілі, што ў Менску працы для яе цяпер ня будзе.

У роспачы, каб мець кавалак хлеба, яна хацела зьехаць куды-небудзь у калгас, але добрыя людзі параілі выпраўляцца ў Крычаў. Гэты горад гасьцінна прытуліў Апалёнію з Зорай на пяць гадоў.

Маці, прыносячы дадому за раз сто вучнёўскіх сшыткаў, выкладала родную мову і літаратуру, а дачка пайшла ў школу й знайшла сябровак, якіх амаль празь сем дзесяцігодзьдзяў, стаўшы знанай у сьвеце вучонай-беларусазнавіцай, ужо марна спрабавала адшукаць, калі мы зь ёю і спадаром Вітаўтам Кіпелем, ейным мужам, аднаго разу якраз на Янаў дзень прыехалі ў сонны пасьля купальскае ночы Крычаў, дзе доўга не маглі знайсьці ніводнай шыльды на роднай для візытантаў мове.

Па вайне спадарыня Апалёнія выкладала ў пачатковай беларускай школцы ў нямецкім Рэгенсбургу, а потым у тамтэйшай Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. У 1946-м яна напісала і выдала першы на эміграцыі беларускі лемантар, а ўсьлед за ім яшчэ некалькі падручнікаў для дзяцей.

Калі Савёнкі пераехалі ў ЗША, Апалёнія стала адной з заснавальнікаў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку і, ня здраджваючы юначаму пакліканьню, праводзіла ўрокі ў нядзельнай беларускай школе, пакінула цікавыя ўспаміны пра Беларусь 1920-х — 1930-х гадоў.

Яе жыцьцё мне хочацца параўнаць з створаным рукою майстра спакойным завершаным краявідам.

**Апалёнія Савёнак (ад нараджэньня Радкевіч)**
8.10.1901, засьценак Аўгустова, цяпер Лагойскі раён —
10.4.1982, Памона, штат Нью-Джэрзі, ЗША.
Пахаваная на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку,
штат Нью-Джэрзі.

## Яўген Шабан

Мне згадваецца даўні сэмінар маладых літаратараў у Віцебску.

Адзін з старэйшых калегаў, запрошаных у якасьці настаўнікаў, цэлы перапынак нэрвова і расхвалявана курыў цыгарэту за цыгарэтай, а потым з малой сцэны Коласаўскага тэатру раптам запытаўся, ці вядома нам, як даказаць, што вушы ў павукоў растуць не дзенебудзь, а — на нагах.

Мы былі заінтрыгаваныя, а прысутны прадстаўнік аддзелу прапаганды й агітацыі абкаму партыі імгненна насьцярожыўся.

«Павука садзяць на стол і кажуць: «Бяжы!» — працягваў наш акулярысты настаўнік. — Ён слухаецца. Тады яму адрываюць ногі і зноў загадваюць бегчы. Ён ня можа. Адсюль адразу ж робіцца выснова, што вушы ў небаракі знаходзяцца якраз на нагах...»

«Гэта вы да чаго?» — у запалым маўчаньні запытаўся нехта з сэмінарыстаў.

«А да таго, што ў народу можна забраць гісторыю, прымусіць забыць мінулае, а потым запытацца, а што ў вас, даражэнькія, апроч балотаў, было, а дзе вашыя гісторыкі. Той самы прынцып доказу... А возьмем сытуацыю з мовай...»

Пра сытуацыю з мовай партыйны «прапагандыст і агітатар» вырашыў ужо ня слухаць і на ўсялякі выпадак пакінуў залю.

Акулярыстага звалі Яўген Шабан.

На той час ён быў ужо вядомым паэтам і яшчэ больш знаным драматургам, адна з п’есаў якога — «Шрамы», пастаўленая ў 1977-м купалаўцамі, ішла ў трыццаці тэатрах СССР.

Дэманструючы бездакорны літаратурны густ, ён рабіў для тэлебачаньня п’есы паводле твораў Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Міхася Стральцова, Івана Пташнікава.



Ягоныя ўласныя найлепшыя рэчы былі вострыя й багатыя на падтэксты ды алюзіі, невыпадкова іх (да прыкладу, «Чахарду») выключалі з рэпэртуарных зборнікаў або бязьлітасна рэдагавалі.

У «Шрамах», дзе ішла гаворка аб сацыяльных вытоках падлеткавай злачыннасьці, ідэолягі з ЦК КПБ угледзелі антыпартыйныя настроі й паклёп на савецкую рэчаіснасьць.

Выпускнік акторскага факультэту Беларускага тэатральна-мастацкага інстытуту, Яўген сыграў шмат роляў у сваіх і чужых п'есах.

Гэты досьвед дапамог яму потым у працы памочнікам галоўнага рэжысэра па літчастцы ў Купалаўскім і Коласаўскім тэатрах, а таксама ў перакладах на беларускую мову драматургіі В. Шукшына, А. Арбузава, Н. Думбадзэ...

Яўгенава сэрца, не далічыўшы і сарака шасьці гадоў, спынілася ў дзень прэм'еры спэктаклю паводле ягонай п'есы «Востраў Алены» ў Беларускім дзяржаўным тэатры імя Якуба Коласа. Мне згадаўся тады пранізьлівы радок з аднаго «партызанскага» вершу: «Мама, прывезьлі Жэню...»

Шабан таксама быў партызанам — у мастацтве.

**Яўген Шабан**
29.12.1936, в. Калодзіна, цяпер Мядзельскі раён —
30.7.1982, Віцебск.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

Ад агульных знаёмых я чуў пра яго шмат — і ўзьнёслага, і, далікатна кажучы, прыземлена-жаласьлівага.

Ён сябраваў з Уладзімерам Караткевічам і Адамам Мальдзісам. Ён часта браў квіток да Зэльвы, дзе жыла грамадзянка БНР Ларыса Геніюш, якая ў сярэдзіне шасьцідзясятых амаль штотыдзень пісала яму вялікія цёплыя лісты, называючы «дарагім Міколам».

Ён абараніў дысэртацыю па творчасьці Сімяона Полацкага. Ён пісаў пра Францішка Скарыну й Афанасія Філіповіча, пра традыцыі нашай дзяржаўнасьці і ролю царкоўнай Вуніі ў захаваньні беларускай ідэнтычнасьці.

## Мікола Прашковіч



Ён не баяўся казаць пра каляніяльнае становішча Беларусі ў складзе СССР і вынішчэньне ўсяго нацыянальнага.

На пачатку 1970-х Мікола пашыраў самвыдавецкую працу вядомага ўкраінскага дысыдэнта Івана Дзюбы «Інтэрнацыяналізм або русіфікацыя?» і зьбіраў грошы пацярпелым ад рэпрэсіяў калегам ува Ўкраіне.

Пасьля адной з надрукаваных у «Полымі» рэцэнзіяў газэта «Советская Белоруссия» абвінавáціла Міколу Прашковіча ў беларускім нацыяналізьме.

Пад той публікацыяй, дарэчы, стаяў подпіс асьпіранта Я. Трашчанка, будучага выкладчыка першага прэзыдэнта й аўтара нашумелага калісьці на-

вучальнага дапаможніка па гісторыі, таго самага, дзе беларуская дзяржаўнасьць пачынаецца ад 1917 году, а сталінскія рэпрэсіі падаюцца амаль як народнае шчасьце.

Можна ўявіць радасьць гэбістаў, якім даручылі «курыраваць» Прашковіча — чалавека надзіва, амаль па-дзіцячаму даверлівага, шчырага, эмацыйнага, які гатовы быў любога, хто загаворыць па-беларуску, адразу запрасіць у сваю аднапакаёвую кватэрку на вуліцы Куйбышава.

У 1973 годзе КГБ шчыльна заняўся так званым «акадэмічным асяродкам» — групай навукоўцаў дэмакратычных перакананьняў, да якой належаў і Прашковіч. Разам зь Зянонам Пазьняком, Міхасём Чарняўскім ды іншымі асабліва небясьпечнымі нацыяналістамі (якія, апрача ўсіх астатніх грахоў, яшчэ нібыта меліся адабраць у Расеі Смаленшчыну й Браншчыну) Міколу звольнілі з працы. Віжы не адставалі ад падапечных ні на крок — нават станавіліся сьледам у чаргу ў гастраноме.

Праз свой характар асабліва цяжка з паплечнікаў-«акадэмікаў» перажываў такі стан Прашковіч: доўга быў беспрацоўным, потым працаваў грузчыкам і нарэшце здолеў уладкавацца карэктарам. Здаралася, каб пад'есьці, ён прыходзіў да Караткевіча.

Жыцьцёвы фінал Прашковіча стаўся трагічна вусьцішным.

Душэўны надлом прывёў да паралюшу ног, і Мікола згарэў у бацькоўскай хаце, ня здолеўшы выбрацца з агню падчас пажару.

**Мікола Прашковіч**
4.5.1932, в. Гарадзішча, Бярэзінскі раён —
2.2.1983, в. Гарадзішча.
Пахаваны ў в. Асмолаўка, Бярэзінскі раён.

## Антон Сокал-Кутылоўскі



Сябры ягонага бацькі-шляхціча жартавалі, што, калі Антон упершыню падаў голас, у вокны яўна зазіраў Марс.

Праўда, напачатку малодшы Сокал-Кутылоўскі выбраў сабе прафэсію зусім мірную — атрымаў дыплём геаграфічнага факультэту Пецярбурскага ўнівэрсытэту. Але грымнула Першая ўсясьветная вайна...

Казанская вайсковая вучэльня. Баі ў Галіцыі й Літве. Салдацкі Георгіеўскі крыж. Пасьля кастрычніцкага перавароту 1917 году капітан Сокал-Кутылоўскі ваяваў супраць чырвоных у арміях Дзянікіна й Юдзеніча. Але ў душы гэтага суворага вайскоўца жыла мара не пра адзіную і непадзельную Расею, а пра незалежную Беларусь.

Улетку 1920-га ён вярнуўся на Бацькаўшчыну і неўзабаве апынуўся на Случчыне — там, дзе тады найбольш патрэбныя былі ягоныя здольнасьці. Падчас антыбальшавіцкага паўстаньня Сокал-Кутылоўскі ачольваў збройныя сілы змагароў — 1-ю Слуцкую брыгаду БНР.

У лістападзе — сьнежні брыгада вяла цяжкія баі супраць Чырвонай арміі на фронце працягласьцю 60 кілямэтраў. Асабліва пасьпяхова случакі змагаліся на лініі Капыль — Цімкавічы — Вызна, дзе вёскі і мястэчкі некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі.

Пасьля Слуцкага зброй-




Сьцяг 1-га Слуцкага палка БНР. Зьлева — Лявон Вітан-Дубейкаўскі, справа — штабс-капітан Антон Борык. 1921 г.

нага чыну Антон быў высьвячаны на праваслаўнага сьвятара. У гады вайны ён уступіў у Беларускую незалежніцкую партыю, браў удзел у Другім Усебеларускім кангрэсе. Камандаваў батальёнам Беларускай Краёвай Абароны, які перайшоў да амэрыканцаў.

Агенты савецкага «Смершу» затрымалі Антона ў лягеры для рэпатрыянтаў. Ён быў асуджаны на 25 гадоў і выйшаў на волю па амністыі ў 1957-м.

Да канца дзён камандзір слуцкіх паўстанцаў адмаўляўся верыць, што ў «Смершы» служыў ягоны сын.

**Антон Сокал-Кутылоўскі**
7.2.1892, хутар Перавалока-Дарагішча (пазьней Чырвоная Горка), паблізу в. Чудзін, цяпер Ганцавіцкі раён — 7.3.1983, Шчэцін, Польшча.
Пахаваны на шчэцінскіх Цэнтральных могілках.

## Ларыса Геніюш

Яна — сярод тых нямногіх людзей, безь якіх я ня стаў бы самім сабою. Скажу нават болей: я — вядома, з разуменьнем усёй пралеглай паміж намі бездані гадоў — быў закаханы ў яе.

Яшчэ й цяпер калі-небудзь у зімовую раніцу, на хісткай мяжы явы і сну, магу ўсьцешана падумаць: перад Калядамі паеду да Бабулі. Так мы называлі яе ў тэлефонных размовах і лістах з аглядкаю на «тавариша майора». Зрэшты, мяркую, што нашыя куратары з «органаў» цудоўна ведалі: Бабуля — гэта Ларыса Антонаўна Геніюш.

Тады, у задушлівыя 1970-я, кожная паездка з майго Полацку ў яе Зэльву, дзе нязломная грамадзянка БНР жыла пасьля лягераў у сваёй абторканай мікрафонамі хаце, была прыступкаю ўзыходжаньня — да сябе, да Беларусі, да Свабоды.

Гаворкі далёка за поўнач, у якіх адкрываўся яе пакутніцкі змагарскі шлях.

Вершы, якія сьціскалі сэрца й будзілі розум:

*Воля — ня тое, што рукі разьвяжуць,*
*зьменяць на большую клетку малую.*
*Воля — ня тое, што*
*вольны ты, скажуць.*
*Воля — то воля, якую адчую.*

Яе першы, выдадзены ў 1942-м, паэтычны зборнік «Ад родных ніў», пасьля якога аўтарка трапіла на допыт у гестапа, бо не напісала ні радка пра «вялікага фюрэра».

Кніжку надрукавалі ў Празе, дзе Геніюшы — Ларыса й Янка, яе муж-мэдык — жылі ад другой паловы трыццатых гадоў. Яна брала ўдзел у працы беларускага Ўраду на эміграцыі, а ў 1943-м стала Генэральным сакратаром БНР, захаваўшы й пераправіўшы ў бясьпечнае месца найкаштоўнейшую частку яе архіву.



Забароненыя імёны: Васіль Захарка, Кастусь Езавітаў, Натальля Арсеньнева... Крамольныя кнігі, якія мы прывозілі й таемна памнажалі на дапатопнай капіявальнай машыне. Старонкі ўспамінаў, якія выйдуць у 1993-м пад назваю «Споведзь» і апякуць усе беларускія душы.

У краіне незалежнай і дэмакратычнай разьвітаньне з адной з найталенавіцейшых яе паэтак сталася б днямі народнага смутку. У Беларусі гэтая падзея ў красавіку 1983-га прамінула амаль непрыкметна. На пару дзясяткаў літаратараў, навукоўцаў і былых сулягернікаў Ларысы Антонаўны прыпадала разы ў два болей людзей на чорных «волгах» з нумарамі ці ня ўсіх абласьцей рэспублікі. Але як бы ні называлася ў іх гэтая апэрацыя, выканаць яе не ўдалося. Спробы змусіць людзей везьці труну й вялікі драўляны крыж на машыне былі марныя. Увесь няблізкі шлях да кладоў спадарыню Ларысу несьлі на руках. Сьледам ішла ўся Зэльва.

Над сьвежай магілай я чытаў напісаны на сьмерць паэткі верш Сержука Сокалава:

*Пасьля нягод, чужыны,ператрусак,*
*Пасьля таго, пра што маўчаць гады,*
*Вы здолелі між іншых беларусак*
*Застацца Беларускай назаўжды.*

**Ларыса Геніюш**
9.8.1910, хутар Жлобаўцы, цяпер Ваўкавыскі раён — 7.4.1983, Зэльва.
Пахаваная ў Зэльве.

Ліст ад яго з водгукам на адно зь першых маіх апавяданьняў — самая дарагая «адзінка захоўваньня» ў хатнім архіве. Дзякуючы таму, поўнаму авансаў лісту, мая першая кніжка была без ваганьняў названая па адрэцэнзаваным мэтрам юначым опусе пра юначае каханьне. На жаль, я ўжо не пасьпеў падпісаць адрасанту аўтарскі асобнік.

Пахаваньне запомнілася вострым да фізычнага болю адчуваньнем велізарнай страты — ня толькі выдатнага пісьменьніка, але і асабіста блізкага чалавека. У разьвітальным слове Генадзь Бураўкін назваў Караткевіча апосталам нацыі, і ў гэтым не пачулася перабольшаньня.

## Уладзімер Караткевіч



Памятаю, калі ў продажы зьявіўся новы зборнік ягонае прозы, у нас на гістфаку БДУ сарвалася лекцыя: амаль увесь курс, не згаворваючыся, рушыў у кнігарню.

Творы Караткевіча ня проста вярталі нам эўрапейскае мінулае нашае зямлі. Караткевіч вяртаў Радзіму, падводзіў да «моманту ісьціны».

Мы пачыналі разумець, што з народам, пазбаўленым памяці, можна рабіць самыя злачынныя сацыяльныя і палітычныя экспэрымэнты.

А потым здарылася шчасьлівая сустрэча зь ягонай паэзіяй. Томік «Маёй Іліяды», каб ён заўсёды быў са мною, я вывучыў на памяць. Гэтая кніга і сёньня гучыць ува мне: «О Радзіма, мой сьветач цудоўны, адзіны, / Явар мой, мой агністы сьнягір на сасьне, / Ледзь цябе не забыў

я з чужою жанчынай...» («Сьнягір»), «За што галаву ты згубіла, / Якую праўду сказала?» («Безгаловая Вэнэра»), «Дзяўчына ад шчасьця сьпявала... / Стронцый быў у дажджы...» (прарочая «Дзяўчына пад дажджом»).

На сьвяткаваньні 75-годзьдзя Караткевіча ў Воршы, у музэі пісьменьніка (створаным, дарэчы, у колішняй радзільні, дзе той абʼявіўся сьвету) да мяне падышоў чалавек зь някідкім абліччам. «Вы — Орлов», — сказаў ён, і я мусіў пагадзіцца. «Я уже два дня наблюдаю за вами, и вы постоянно чем-то недовольны». Я сапраўды быў незадаволены: да прыкладу, тым, што шмат каго з жывых сяброў і добрых знаёмых Караткевіча на ягоны юбілей не паклікалі, а калі й запрасілі, дык не давалі слова. «Я — Арлоў. А хто вы такі?» — у сваю чаргу пацікавіўся я. «Участник юбилейных торжеств», — не змаргнуўшы вокам, адказаў мой суразмоўца.

Думаю, што яны, гэтыя «участники торжеств», як і я сам, ані не сумняваліся, з кім, зь якой Беларусьсю, быў бы Ўладзімер Караткевіч, каб дажыў да сёньняшніх дзён.

Адзін з замежных гасьцей-навукоўцаў выказаў тады, у Воршы, думку, што, каб Бог не паслаў беларусам Караткевіча, цяпер магло б быць на адну краіну меней. Тут можна падыскутаваць, але не падлягае сумневу, што безь яго мы былі б іншыя.

З «аўгусьцейшых» вуснаў зноў і зноў гучаць зьвернутыя да пісьменьнікаў патрабаваньні стварыць беларускую «Вайну і мір».

Але мы даўно маем яе — Караткевічавы «Каласы пад сярпом тваім».

**Уладзімер Караткевіч**
26.11.1930, Ворша — 25.7.1984, Менск.
Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

Шмат хто з нас ад школьных гадоў уяўляе Каліноўскага менавіта такім, як на хрэстаматыйных палотнах Пётры Сергіевіча, дзе Кастусь гутарыць з паўстанцамі або разам з Валерам Урублеўскім робіць агляд іх шэрагаў.

Равесьнік стагодзьдзя, Пётра вучыўся ў Фэрдынанда Рушчыца ў Вільні, дасканаліў майстэрства ў Кракаве ды Італіі. Талент адкрываў яму шырокія магчымасьці для жыцьця і творчасьці. Сергіевіч абраў найлепшую — Вільню, што тады была неафіцыйнай сталіцаю Заходняй Беларусі.

# Пётра Сергіевіч



Само віленскае паветра зрабіла адной зь ягоных галоўных тэмаў гісторыю: «Усяслаў Полацкі», «Скарына ў друкарні», «Арышт Паўлюка Багрыма»... У 1920—1930-я Сергіевіч стварае манумэнтальныя размалёўкі ў касьцёлах Горадні, Смаргоні, Поразава, Жодзішкаў, Салечнікаў, Солаў, дзе захавалася фрэска «Цуд над Віслай», прысьвечаная разгрому Чырвонай арміі ў 1920 годзе.

Дзёньнік мастака сьведчыць пра незвычайную творчую й маральную патрабавальнасьць да сябе:

«Вечна я з сваіх прац не задаволены, так мучаюся, ад зары да зары малюю, не хапае мне часу паесьці. Нявольнік я вечнага хараства, не спачну да сьмерці. Пастанавіў не маляваць на замову... Ідзі за голасам душы сваёй. Гэта ёсьць твой закон. Што лепшага можа



Жыцьцё Пётры Сергіевіча было непарыўна зьвязанае зь Вільняй

быць для душы чалавека, як вольнасьць?..» Прасякнуты болем запіс пра зьнішчэньне літоўскімі ўладамі віленскага Беларускага музэю Івана Луцкевіча.

Некалькі паваенных дзесяцігодзьдзяў віленская майстэрня Сергіевіча была месцам паломніцтва беларускіх мастакоў. Там натхняліся беларускім духам Аляксей Марачкін, Яўген Кулік, Віктар Маркавец, Мікола Купава... Менскае ж начальства ад мастацтва, пачуўшы імя Сергіевіча, пачынала нэрвавацца: «малюе ня тое».

Жывому клясыку дазволілі ў беларускай сталіцы ўсяго дзьве пэрсанальныя выставы. На адну зь іх, прысьвечаную 75-годзьдзю мастака, мне пашчасьціла трапіць. Пад напятымі позіркамі чыноўнікаў маэстра гаварыў на вэрнісажы пра сваю запаветную мару — «каб народ беларускі жыў вольным жыцьцём».

**Пётра Сергіевіч**
10.7.1900, в. Стаўрова, цяпер Браслаўскі раён —
1.11.1984, Вільня.
Пахаваны на віленскіх Антокальскіх могілках.

Акалічнасьці нашай адзінай сустрэчы афарбаваныя ў трагічныя колеры. Гэта здарылася на пахаваньні Ларысы Геніюш, куды я зь сябрам прыехаў з свайго Полацку, а ён, сын нашай выдатнай паэткі й сам таленавіты паэт, — зь Беластоку. Увечары перад хаўтурамі мы стаялі ў красавіцкім прыцемку на ганку асамотненага зэльвенскага дому Геніюшаў, і Юрка па памяці чытаў мне й Вінцэсю Мудрову свой верш у прозе «Афрыка».

*Чаму я чорны, чаму я чорны, мамо,*
*хоць белы маю твар?*

# Юрка Геніюш

*Доўгае вуха ўсюды —*
*і тут, і там, новым*
*адкуль не падзьме, кожны*
*подых пачуе, і дакладна*
*прасочыць, якім крокам*
*хто крочыць. Усё ловіць,*
*хапае, усё на нітку*
*матае, павуціну наснавала ўкруг...*
*Ільвы і сланы, глянь, на волі — бяз крат...*
*І нават арлу — і таму неўздагад, што тут —*
*рэзэрват...*
*І толькі гіены гагочуць. І шакалы съмяюцца...*

Пакуль Юрка прыцішана, але расхвалявана й нэрвова прамаўляў свае балючыя радкі, зь цемры выйшлі й, прыслухоўваючыся, амаль усутыч наблізіліся да нас людзі ў цывільным, тыя самыя, з «доўгім вухам», якіх у Зэльву папрыяжджала тады ня менш за сяброў і сулягернікаў спадарыні Ларысы. «Намекает...» — шматзначна і так, каб мы пачулі, прамовіў адзін з гэбістаў.

Калі ў 1948-м Ларысу з мужам Янкам арыштавалі ў Чэхаславацчыне, малога Юрку пераправілі да сваякоў у Польшчу.

Ён вучыўся ў Мэдычнай акадэміі ў Беластоку, здабыў вядомасьць як літаратар, але пры жыцьці апублікаваў у перакладзе на польскую ўсяго адну



Юрка Геніюш з маці і сынам Міхасём

кнігу паэтычнае прозы «На пачатку было толькі слова».

Як і бацькі, ён увесь час адчуваў пільную ўвагу спэцслужбаў і загінуў пры нявысьветленых абставінах неўзабаве пасьля матчынае сьмерці. У 1990-я ў Беластоку выйшаў ягоны паэтычны зборнік «З маёй званіцы», якому, як і ўсёй Юркавай творчасьці, уласьцівае — што пры такім лёсе цалкам зразумела — абвострана драматычнае сьветаўспрыманьне.

*Зацьвіла калінай родная зямля.*
*Белай, белай, белай — сувой палатна.*
*Каб пад восень, нечакана,*
*Дасьпяваць крывавай ранай.*
*Зьвісаць чырваньню караляў.*
*Згусткамі сплываць з гальля.*

**Юрка Геніюш**
21.10.1935, Зэльва — 21.11.1985, Беласток.
Пахаваны на Праваслаўных могілках у Беластоку.

*Люблю наш край — старонку гэту,*
*Дзе я радзілася, расла,*
*Дзе першы раз пазнала шчасьце,*
*Сьлязу нядолі праліла...*

Хто ў Беларусі ня чуў гэтых словаў, якія, пакладзеныя на музыку кампазытарам Міколам Равенскім, даўно сталі народнай песьняй, а яе мэлёдыя — пазыўнымі Радыё Свабода?

Суаўтарка Равенскага — паэтка і дзяячка нацыянальнага руху нашаніўскае пары Канстанцыя Буйло.

Спадарыня Канстанцыя ня раз згадвала, што

# Канстанцыя Буйло



якраз дзякуючы гэтай газэце, якую атрымліваў бацька, яна й захапілася літаратурнай творчасьцю.

Надрукаваўшы першы верш у шаснаццаць гадоў, вільнянка Буйло зрабілася сталай і высока цэненай аўтаркаю «Нашае Нівы».

Янка Купала прасіў яе: «Пішыце яшчэ й яшчэ», — і прысьвяціў зусім юнай паэтцы верш «Мая думка». Ён жа стаў рэдактарам яе першае кнігі «Курганная кветка», якую аформіў Язэп Драздовіч.

У тым самым, шчасьлівым для Канстанцыі 1914-м яна з рэкамэндацыі Цёткі ўзначаліла беларускую кнігарню ў Полацку.

Круты пералом у жыцьці надышоў пасьля замужжа й пераезду ў Маскву, дзе ёй было наканавана пражыць болей за шэсьць дзесяцігодзьдзяў.

Удалечы ад Беларусі, ад той старонкі, дзе яна ўпершыню пазнала шчасьце ствараць і мець захо-

пленых прыхільнікаў, муза спадарыні Канстанцыі амаль замоўкла.

У 1930-я назаўсёды зьнік у крывавай віхуры рэпрэсіяў муж. Цяжкім ударам сталася вестка пра тое, што ў Горадні памерла ад сухотаў родная сястра Станіслава, удзельніца змаганьня за правы беларусаў у міжваеннай Польшчы.

Калі пасьля вайны паэтка зноў падала голас, сацрэалістычныя крытыкі адказалі абвінавачаньнямі ў тым, што яна апявае не «вялікую краіну Саветаў», а — Беларусь.

Крамольна-нацыяналістычнымі былі абвешчаныя, да прыкладу, радкі:

*Зямля мая далёкая,*
*Зямля мая цудоўная,*
*Радзіма сінявокая,*
*Каму красой ты роўная...*

Прамінулі гады, і эпітэт «сінявокая» ў дачыненьні Беларусі стаўся хрэстаматыйным.

У 1968-м Канстанцыя рашуча адмовілася сьвяткаваць свой юбілей. «Што адзначаць? — пыталася яна. — Што з плеяды нашых пісьменьнікаў адна засталася, як сасна на галявінцы, хістацца над магілаю сьсечаных дрэваў?..»

Калі яе душа адляцела ў вырай, прах Канстанцыі вярнуўся ў родную Беларусь, пад тое неба, што, як яна пісала, «па-асабліваму блакітнае, паркалёвае, трошкі ружаватае...».

**Канстанцыя Буйло (у замужжы Калечыц)**
14.1.1893, Вільня — 4.6.1986, Масква, Расея.
Пахаваная ў мяст. Вішнева, Валожынскі раён.

# Мікола Ўлашчык

«Беларускі Герадот» — так называе яго гісторык і грамадзкі дзеяч Алег Трусаў, і ў мяне не ўзьнікае жаданьня пярэчыць.

Міколу Ўлашчыку (як, зрэшты, і амаль кожнаму беларускаму дзеячу таго часу і такога маштабу) было наканавана прайсьці праз мноства выпрабаваньняў. На ягоным шляху былі беспадстаўныя абвінавачаньні, чатыры арышты, лягеры і высылкі.

Аднаго разу паміж маладым вучоным-гісторыкам, нядаўнім выпускніком БДУ, і сьледчым НКВД адбылася наступная размова. На допыце Ўлашчык папрасіў перадаць у камэру ягоныя работы. «Міл-чалавек, — шчыра зарагатаў сьледчы, — ды твае работы ўжо ніколі нікому не спатрэбяцца!»

Але сама Гісторыя, якой служыў Улашчык, распарадзілася іначай.

Вызваліўшыся з ГУЛАГу і працуючы ў Інстытуце гісторыі АН СССР, ён неаднаразова рабіў спробы вярнуцца ў Беларусь. Супраць нязьменна паўставаў шматгадовы загадчык катэдры гісторыі БССР Белдзяржунівэрсытэту Лаўрэнці Абэцэдарскі, які ў патрэбны момант дастаў з сэйфу дасье на калегу й апанэнта, што, адрозна ад Абэцэдарскага, ніколі не лічыў мінулае Беларусі часткаю гісторыі Расеі.

Аднак і жывучы ў Маскве, Улашчык здолеў зрабіцца вядучым беларускім археографам, укласьці і адрэдагаваць два тамы беларускіх летапісаў, напісаць навуковыя манаграфіі й унікальную кнігу «Была такая вёска», што стала своеасаблівай энцыкляпэдыяй жыцьця беларускіх сялянаў на пачатку XX стагодзьдзя й уадначас — помнікам вёсцы Віцкаўшчына пад Койданавам, малой радзіме аўтара.

Сваім настаўнікам яго лічылі нашы знакамітыя вучоныя — дактары гістарычных навук Міхась Ткачоў і Генадзь Каханоўскі — і лічаць дзясяткі іхніх маладзейшых калегаў.



Маё асабістае знаёмства зь Мікалаем Мікалаевічам Улашчыкам адбылося ў 1986-м, калі ён ужо быў безнадзейна хворы.

На ложку ў маскоўскай кватэры гісторыка ляжалі сьвежыя нумары «ЛіМу» зь першымі вострымі публікацыямі пра становішча і лёс беларускай мовы й культуры.

Гаспадару было цяжка гаварыць, але ў той кароткі візыт ён пасьпеў прадыктаваць мне ліст у Браслаў: за некалькі тыдняў да хваробы Ўлашчык знайшоў у Яраслаўлі павятовы браслаўскі архіў, які (тыповы выпадак!) быў вывезены ў глыбіню Расеі падчас Першай усясьветнай вайны й якога, вядома, ніхто і не зьбіраўся вяртаць законным уладальнікам.

Ён заставаўся гісторыкам да канца.

Мікола Ўлашчык быў, відаць, адзіным у сьвеце чалавекам, які чытаў, вольна гаварыў і пісаў на старабеларускай мове.

Часам я бачу, як ён пашанотліва гутарыць з Францішкам Скарынам ды ягонымі віленскімі фундатарамі, найвышэйшым гетманам Канстанцінам Астроскім або канцлерам Львом Сапегам.

**Мікола Ўлашчык**
14.2.1906, в. Віцкаўшчына, цяпер Дзяржынскі раён —
14.11.1986, Масква, Расея.
Пахаваны на менскіх Чыжоўскіх могілках.

## Барыс Кавэрда



7 чэрвеня 1927 году на Варшаўскім вакзале прагучалі стрэлы, якія азваліся на старонках усёй эўрапейскай прэсы. Беларус Барыс Кавэрда сьмяротна параніў паўнамоцнага прадстаўніка СССР у Польшчы Пятра Войкава, што на Захадзе быў вядомы як непасрэдны ўдзельнік расстрэлу сям'і расейскага імпэратара Мікалая II. (Калі саветы спрабавалі накіраваць Войкава пасланьнікам у Канаду, яму адмовілі ў агрэмане, афіцыйна назваўшы «царазабойцам».)

Паседжаньні польскага Надзвычайнага суда суправаджаліся дэманстрацыяй непрыхаванай сымпатыі публікі да зусім маладога падсуднага, якому яшчэ ня споўнілася і дваццаці гадоў. У прысутнасьці дамаў з букетамі кветак і сотні журналістаў былы навучэнец Віленскай беларускай гімназіі й супрацоўнік тыднёвіку «Беларускае слова» Кавэрда заявіў: «Прызнаю, што забіў Войкава, але вінаватым сябе не лічу. Я застрэліў Войкава за ўсё тое, што зьдзейсьнілі бальшавікі ў Расеі, — за мільёны людзей...»

Барысава маці Ганна, загадчыца сірочага прытулку ў Вільні, сьведчыла, што, калі сям'я жыла ў эвакуацыі ў Самарскай губэрні, сына перасьледавалі як «буржуазнае дзіця». Бальшавікі пасьля тэракту зруйнавалі школу, дзе вучыўся Барыс, і царкву, якую наведвалі Кавэрды. ЧК расстраляла Барысавага стрыечнага брата і шмат знаёмых.

Насуперак спробам расейскай эміграцыі й польскай прэсы паказаць Кавэрду расейскім патрыё-

там альбо — адпаведна — палякам з паходжаньня й перакананьняў, Барыс абвясьціў на судзе, што «адчувае сябе беларусам». (Пэўнае дачыненьне да беларускіх справаў меў бацька падсуднага, які займаўся вэрбоўкаю добраахвотнікаў у створаную з ініцыятывы Беларускай вайсковай камісіі падпольную арганізацыю «Зялёны Дуб».)

Гісторык Ніна Стужынская лічыць учынак Кавэрды адказам-выклікам, з аднаго боку, на слабасьць беларускіх антысавецкіх сілаў, а з другога — на практыку польскіх уладаў абвінавачваць беларускую апазыцыю ў сымпатыях да бальшавіцкага рэжыму.

Не зважаючы на тое, што Кавэрду абаранялі славутыя польскія адвакаты, ён атрымаў пажыцьцёвае зьняволеньне. Амністыя скараціла тэрмін да дзесяці гадоў. У 1931-м газэты паведамілі, што пасьля чатырохгадовай няволі Барыс Кавэрда ў стане дэпрэсіі перарэзаў сабе вены, але быў выратаваны.

Пасьля вызваленьня з турмы ён жыў у Югаславіі й Польшчы. Канец Другой усясьветнай вайны засьпеў яго ў Княстве Ліхтэнштайн, што не выдавала савецкім уладам нікога з былых грамадзянаў як СССР, так і іншых усходнеэўрапейскіх краінаў. Пазьней Кавэрда выехаў у ЗША, дзе супрацоўнічаў з эміграцыйнай прэсай. Цікава, што з блізкімі пра сваё мінулае ён ніколі не размаўляў, аднак пакінуў падрабязныя, амаль пахвілінныя ўспаміны пра тэракт, што на некалькі дзён зрабіў ягонае імя вядомым у розных кутках плянэты.

Заўсёды прыгадваю яго лёс, ідучы полацкай вуліцай Войкава, якую ўжо столькі гадоў не ўдаецца пераназваць.

**Барыс Кавэрда**
21.8.1907, Вільня — 18.2.1987, Вашынгтон, ЗША.
Пахаваны на могілках Новадзівееўскага праваслаўнага манастыра, Нануэт, Нью-Ёрк.

## Аўген Калубовіч

Ці ведаеце вы, што абрэвіятура БССР мае прынамсі яшчэ адну расшыфроўку — Будуйце Самі Сваё Рабства? Гэтак прачыталі яе некалькі беларускіх інтэлігентаў, што чакалі вырашэньня свайго лёсу ў камэры менскай турмы НКВД. Сярод іх быў і дваццацігадовы выпускнік пэдагагічнага тэхнікуму Аўген Калубовіч.

У вольны ад допытаў час вязьні працягвалі крамольныя практыкаваньні, складаючы «канстытуцыю» рэспублікі.

«Ганаровае права мець грамадзянства БССР належыць дзьвюм катэгорыям жыхароў: тым, хто ўжо арыштаваны, і тым, хто будзе арыштаваны. Дзяржава ўрачыста гарантуе: права на працу — у вынайдзеных Леніным і Сталіным канцлягерах; права на адпачынак — у спэцыяльна абсталяваных дамох адпачынку, якія капіталістычная прапаганда называе турмамі; права на сьмерць — ад кулі ў патыліцу...»

Ішоў ня 1937-мы, а «ўсяго» 1930-ты. Таму Аўген атрымаў толькі тры гады Сібіры, а вярнуўшыся ў Менск, пасьпеў скончыць пэдынстытут і нават працягнуць у наркамаце асьветы сваю пачатую ў савецкіх канцлягерах працоўную біяграфію.

У гады нямецкай акупацыі ён быў старшынём Беларускага культурнага згуртаваньня, выступаў з асноўным рэфэратам на Другім Усебеларускім кангрэсе, які пацьвердзіў вернасьць ідэалам 25 сакавіка 1918 году.

На эміграцыі ён выкладаў у гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне, уваходзіў у склад Рады БНР, стварыў Беларускую нацыянал-дэмакратычную партыю.

Калубовіч — знаны дасьледнік беларускай мінуўшчыны, мовы й літаратуры. Ён стаў пачынальнікам вывучэньня гісторыі нашай эміграцыі, вылучыўшы восем яе хваляў. Яго пяру належаць



Зь сябрамі-пісьменьнікамі. Зьлева направа: Аўген Калубовіч, Рыгор Няхай, Алесь Бачыла, Пімен Панчанка. Канец 1930-х гадоў

апублікаваныя на эміграцыі кнігі «Мова ў гісторыі беларускага пісьменства» ў двух тамах, «Айцы БССР і іхны лёс», «На крыжовай дарозе».

Апошняя разам з зборнікам твораў Калубовіча «Крокі гісторыі» была выдрукаваная на пачатку 1990-х і ў Менску.

Выданьні спадара Аўгена я з радасьцю пабачыў у публічнай бібліятэцы Кліўлэнду. Жыхаром гэтага амэрыканскага гораду, дзе існуе шматлікая й уплывовая калёнія эмігрантаў зь Беларусі, ён доўгі час быў — і назаўсёды застаўся на мясцовым беларускім нэкропалі.

**Аўген Калубовіч (на эміграцыі Каханоўскі)**
5.3.1910, мяст. Ціхінічы, цяпер Рагачоўскі раён —
25.5.1987, Кліўлэнд, штат Агаё, ЗША.
Пахаваны на беларускай частцы кліўлэндзкіх могілак Рывэрсайд.

Таленавітыя кнігі зусім не заўсёды пішуць добрыя й сьветлыя людзі. Таму я ніколі не набіваўся ў сябры да пісьменьнікаў, творчасьць якіх люблю. Але, калі ўсё ж наважваўся на бліжэйшае знаёмства, Бог пакуль бярог мяне ад памылак. Так здарылася і ў выпадку зь Міхасём Стральцовым.

Але спачатку, яшчэ ў студэнцкія гады, адбываліся радасныя адкрыцьці ягоных твораў.

Аповесьці-эсэ «Загадка Багдановіча» зь вярэдлівым разуменьнем, што ў паэта не біяграфія, а — лёс, з тужлівым прадчуваньнем уласнага лёсу.

Апавяданьня «Сьвет Іванавіч, былы донжуан», што пачынаецца маёй улюбёнай фразай: «У тэлефоннай будцы былі двое, і я ненавідзеў іх», — фразай, зь якой, магчыма, нарадзіўся наш літаратурны мадэрнізм.

# Міхась Стральцоў



Потым было шэдэўральнае «Смаленьне вепрука» з такім сьцюдзёным подыхам вусьцішнасьці жыцьця...

«Ёсьць, на жаль, рэчы непадуладныя нам, але ж ёсьць і суцяшэньне, ёсьць і надзея. У таго, хто бярэ ў рукі пяро, надзея ёсьць таксама.

О, паэт да таго ж бывае крыху забабонным. Наіўны, ён хоча перамагчы сапраўднасьць, ён хоча верыць: я засьцярогся ад бяды — бо сказаў. Дабро і надзея тут накрэсьлілі свой круг».

Ён і ў прозе, і ў паэзіі (але ў прозе ўсё ж найбольш) быў вытанчаны, аднак гранічна шчыры. Іранічны

і самаіранічны, але з такім прыхаваным болем, што часам заходзілася душа.

У тыя задушлівыя гады ягоныя кнігі дыхалі кіслародам неўтаймоўнай інтэлектуальнай свабоды і «вострым пачуцьцём непазьбежнасьці страты ўсяго, што ёсьць пад гэтым небам» (Валянцін Акудовіч). За такое фатальна абвостранае адчуваньне жыцьця трэба было разьлічвацца.

У 1981-м Міхася зьняволілі ў лячэбна-працоўны прафілякторый. «Жыву, як выгнаны патрыцый...» — пісаў ён, гледзячы на нябёсы праз краты.

...Згадваю яго ў Полацку ў глыбокім экзыстэнцыйным здумленьні каля фрэскі зь верагодным партрэтам Эўфрасіньні Полацкай.

Згадваю вясёлым і артыстычным на цэнтральным пляцы ў Наваполацку: «Валодзя, дзе Ленін? Куды помнік падзеўся? Здаецца ж, учора не пілі».

Згадваю на маім улюбёным возеры з халаднавата-прыцемным назовам Люхава. Стральцоў стаяў на асноведзі вечаровага неба з каханай жанчынаю, а ўва мне гучала проста выдыхнутае:

*Імгненьні ёсьць пакутлівага шчасьця —*
*Ірвуцца ўвысь і слова, і душа,*
*Ды толькі тое ўсё ў радок ня ўкласьці,*
*Як ты яго, радок, ні падвышай.*
*Бо адмыслова, самадастаткова*
*Само сабой гаворыць пачуцьцё...*

На маёй першай кніжцы «Добры дзень, мая Шыпшына» пазначана: «Адрэдагаваў на грамадзкіх пачатках Міхась Стральцоў». Хочацца дадаць: «Вечны патрыцый нашай літаратуры».

**Міхась Стральцоў**
14.2.1937, в. Сычын, Слаўгарадзкі раён —
23.8.1987, Менск.
Пахаваны на менскіх Чыжоўскіх могілках.

Яна марыла пра Беларусь, але так і не адважылася вярнуцца туды, дзе зламалі лёсы большасьці блізкіх людзей, дзе катавалі й «ліквідоўвалі» яе настаўнікаў, сяброў, калегаў.

Натальля Вішнеўская была натураю адоранай і артыстычнай. Ужо ў адзінаццаць гадоў яна кіравала школьным тэатрам.

Аднакурсьнікаў зь Белпэдтэхнікуму ўражвала сьвежымі фарбамі строфаў, у якіх вынырваў з «залатых хмараў» месяц, адляталі ў вырай «у імглістай белі» журавы, «рассыпаліся каралі журавін у мшыстай далі». Аднакурсьнікамі гэтымі былі ня хто-небудзь, а будучыя слынныя літаратары й навукоўцы Антон Адамовіч, Пятро Глебка... Праз безьліч гадоў у сваіх мэмуарах яны будуць пісаць пра яе — сьветлавалосую, гожую, праз яшчэ дзіцячыя вершаваныя спробы прыкмечаную Якубам Коласам.

## Натальля Вішнеўская



Яна ўступіла ў літаратурна-мастацкае аб'яднаньне «Маладняк», цікава надрукавалася ў калектыўным паэтычным зборніку, выйшла замуж за сакратара аб'яднаньня Алеся Дудара.

Але яе рука, нібы пад нечую дыктоўку, выводзіла радкі, у якія самой не хацелася верыць, — пра жыцьцё, што «ў віхурах дагарыць і згасьне, і сплывуць надзеі воскам у небыцьцё». Між тым яны, гэтыя радкі, вешчавалі лёс.

У 1928-м за ненадрукаваны верш «Пасеклі край наш папалам», які хадзіў у рукапісах, арыштавалі й выслалі на тры гады мужа. Натальлю не друкуюць,

не бяруць на працу, змушаюць даведацца, што такое голад. Неўзабаве пераехаўшы ў Маскву, яна назаўсёды пакідае друкавацца.

У Маскве Вішнеўская сустракаецца з студэнтам літаратурнага факультэту МДУ паэтам Алесем Звонакам. «Задуменная, з блакітнымі вачыма і залатымі косамі, паўнаватая й рослая, спакойная і разважлівая Наташа празь некалькі гадоў стала маёй жонкай», — напіша ён пазьней у ўспамінах.

Увосень 1936-га забралі і другога мужа. Паэтку таксама ўзялі ў «распрацоўку». Пасьля адседкі яна сустрэла маладзенькага турэмнага сьледчага, які, зачараваны прыгажосьцю нядаўняй зьняволенай, шапнуў, каб хутчэй куды-небудзь выяжджала, бо рыхтуецца новая хваля арыштаў.

Але яна яшчэ не разьвіталася з надзеямі на ціхае чалавечае шчасьце і, апынуўшыся ў перадваенныя гады ў Ленінградзе, выйшла там замуж за беларускага паэта і кінакрытыка Янку Бобрыка: відаць, хацела, каб Беларусь была зь ёю заўсёды і ў сэрцы, і ў сям'і.

У 1942-м трэці муж памёр ад блякаднага голаду. Сама яна тады працавала ў эвакуяваным дзіцячым доме. Усынавіла і выхавала двух хлопчыкаў-сіротаў, якія сталі капітанамі далёкага плаваньня.

Натальля пражыве яшчэ доўгае жыцьцё: будзе працаваць у бібліятэцы, каб быць з кнігамі.

«За якія грахі мы трапілі ў гэты страшны млын?! І як жа стала магчыма на ўвесь голас сказаць пра гэта?» — пісала яна пры канцы васьмідзясятых гадоў мінулага стагодзьдзя паэту Сяргею Грахоўскаму.

**Натальля Вішнеўская**
3.5.1907, Коўня, Літва —
3.5.1989, Ленінград, цяпер Санкт-Пецярбург, Расея.
Пахаваная на пецярбурскіх Красьненькіх могілках.

У дзяцінстве заходнебеларускі хлопчык Міхал стаў сьведкам таго, як увосень 1939-га чырвонаармейцы, што патрабавалі называць іх «освободителями», расклалі каля школы вогнішча з кнігаў. Савецкі афіцэр кідаў у полымя ўсё, што было надрукавана «не по-русски».

Напэўна, тое вогнішча і запраграмавала стаўленьне Дубянецкага да новай улады. Тым больш, што неўзабаве НКВД арыштаваў за антысавецкую агітацыю ягонага бацьку.

На першы погляд, Міхал Дубянецкі рабіў пасьпяховую кар'еру: скончыў Рэспубліканскую партыйную школу і Вышэйшую партшколу ў Маскве, працаваў на адказных пасадах у менскіх выдавецтвах, з посьпехам займаўся літаратурнымі перакладамі, быў прызначаны інструктарам сэктару друку ЦК КПБ... Яму зайздросьцілі, але Міхал Хведаравіч не лічыў, што жыцьцё ўдалося. Ён быў з тых, хто ня проста разумеў антычалавечую сутнасьць таталітарызму, але і рыхтаваўся кінуць яму выклік, чакаючы, калі гісторыя дасьць шанец.

## Міхал Дубянецкі



Дубянецкі неацэнна шмат зрабіў для разьвіцьця ў Беларусі энцыкляпэдычнай справы. Калегі сьцьвярджаюць, што менавіта ён быў ініцыятарам шматтомнага выданьня твораў беларускага фальклёру. Ягоны талент кнігавыдаўца найбольш поўна раскрыўся на пасадзе дырэктара выдавецтва «Мастацкая літаратура». Прымаючы на працу новага супрацоўніка, Дубянецкі зазвычай казаў: «Запомніце, вы прыйшлі працаваць рэдактарам, а ня

цэнзарам». Добра ведаючы «кухню» савецкай цэнзуры, ён здолеў давесьці да сустрэчы з чытачом шмат сумнеўных з гледзішча ўлады кнігаў, у тым ліку чатырохтомнік Васіля Быкава, уключыўшы туды крамольную аповесьць «Мёртвым не баліць».

Уся лёгіка жыцьця Дубянецкага прывяла яго ў шэрагі тых, хто пры канцы 1980-х узяў на сябе адказнасьць за будучыню Беларусі. Ён быў сярод ініцыятараў стварэньня Камітэту-58, што падрыхтаваў Устаноўчы сход «Мартыралёгу Беларусі» 19 кастрычніка 1988 году. На тым гістарычным сходзе, дзе спадар Міхал старшыняваў, утварыўся аргкамітэт БНФ «Адраджэньне».

Дубянецкі стаў адным з найактыўнейшых сябраў як грамадзкай рады «Мартыралёгу», так і аргкамітэту (а затым і першага Сойму) БНФ. Ён умеў трымаць удар. Ён быў побач з намі на векапомных агульнабеларускіх Дзядах 30 кастрычніка 1988-га. Ягоны нягучны, але прасякнуты верай у сваю праўду голас прымушаў заціхаць шматтысячныя мітынгі.

Дубянецкага пахавалі пад бел-чырвона-белым сьцягам, якому заставаўся яшчэ год да таго, каб стаць дзяржаўным.

Пасьмяротную публікацыю ягоных мэмуараў «Трэба рызыкаваць...» (дзе фігуравала размаітая нечысьць ад загадчыкаў аддзелаў ЦК да шараговага стукача М.), распачатую ў часопісе «Полымя» Сяргеем Законьнікавым, помсьліва спыніў прызначаны ўладамі новы галоўны рэдактар М. Мятліцкі. Успаміны спадара Міхала ўрэшце надрукаваў незалежны часопіс «Дзеяслоў».

Кажуць, стукач М. кусаў сабе локці.

**Міхал Дубянецкі**
4.3.1927, в. Востраў, цяпер Пінскі раён —
3.9.1990, Менск.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

Лёс дапамагае моцным. Яна і была такая — падобная характарам да горных дрэваў, якія ўпарта, насуперак бязьлітасным вятрам і лявінам, растуць на самай строме.

Талент Тамары Цулукідзэ прыкмецілі, яшчэ калі яна была студэнткай Тбіліскага тэатральнага інстытуту. Юная акторка атрымала запрашэньне ў зорны тэатар імя Шата Руставэлі, дзе выходзіла на сцэну ў ролях шэксьпіраўскай Афэліі й шылераўскай Амаліі. Кветкі з авацыямі не закружылі ёй галавы. У перапынках паміж рэпэтыцыямі й спэктаклямі яна пісала тэатральныя рэцэнзіі й артыкулы, якія таксама выклікалі часам калі не авацыі, дык гарачыя спрэчкі. У 1934-м Тамара стала заслужанай артысткай Грузінскай ССР. Ёй споўнілася толькі трыццаць.

## Тамара Цулукідзэ

Праз безьліч гадоў,



Нарэшце на волі! Тамара й Алесь Пальчэўскі. 1950-я гады

у Менску, Тамара скажа: «Шчасьця было так многа, што сэрца сьціскалася ад прадчуваньня бяды». Сэрца ня хлусіла. Неўзабаве арыштавалі й расстралялі мужа. У тэатры ёй паказалі на дзьверы. У 1936-м прыйшлі па саму жонку «ворага народу».

Заслужаную артыстку чакалі страшныя п’есы пад назовамі «Катоўня», «Турма», «Лесапавал»... Яна годна сыграла наканаваныя ёй ролі й нават, да велізарнага зьдзіўленьня гулагаўскіх «пастаноўшчыкаў», прыдумала сабе іншую: цягнучы тэрмін у Комі АССР, стварыла там лялечны тэатар.

Пасьля вызваленьня шлях у Грузію ёй быў закрыты. Працу рэжысэрам Курскага тэатру лялек перапыніў новы арышт у 1950-м. Эшалён з закратаванымі вокнамі павёз яе ў высылку ў Краснаярскі край. Яна ня ведала, што едзе насустрач свайму шчасьцю.

У тых самых мясьцінах апынуўся яшчэ адзін высланец — беларускі пісьменьнік Алесь Пальчэўскі, таксама паўторна арыштаваны, зь лягерным досьведам і нечакана блізкай душой.

Іхні шлюб ня быў лёгкім. Пасьля рэабілітацыі ў сярэдзіне 1950-х Тамару зноў паклікалі ў Руставэлеўскі тэатар. Яна дала згоду — і тры гады выконвала там галоўныя ролі, сустракалася з ацалелымі ў жорнах рэпрэсіяў сябрамі, наноў прывыкала да Тбілісі.

Але ў 1959-м Тамара Цулукідзэ зрабіла выбар і пераехала ў Менск. Яна вывучыла нашу мову: пісала на ёй дзіцячыя п’есы й апавяданьні, шмат перакладала з грузінскай на беларускую і наадварот.

Аднойчы мне патэлефанаваў калега, які шукаў якраз такога перакладчыка. Але Тамара Рыгораўна ўжо даўно вярнулася ў Тбілісі — паводле запавету.

**Тамара Цулукідзэ**
19.12.1903, Тбілісі, Грузія — 9.2.1991, Менск.
Пахаваная ў Тбілісі.

«У чалавечых характараў, як і ў некаторых будынкаў, некалькі фасадаў, прычым ня ўсе яны прыемныя на выгляд», — заўважыў Франсуа дэ Ларошфуко.

Характар пісьменьніцы і кінасцэнарысткі Лідзіі Вакулоўскай належаў якраз да такіх. Аднак галоўнай рысаю ў ім была незьнішчальная вальнадумнасьць.

Пры канцы 1980-х на зьезьдзе Саюзу пісьменьнікаў мне паказалі немаладую прыгожую жанчыну з нумарам «Нового мира» ў руках. «Вакулоўская, дысыдэнтка», — з захапленьнем сказаў сябар.

# Лідзія Вакулоўская



Кватэра Лідзіі Аляксандраўны на вуліцы Берасьцянскай у 1960-я сапраўды была менскім клюбам інтэлектуальнай фронды (гэтаму спрыялі й ганарары гаспадыні, якая пісала парасейску і часта друкавалася ў Маскве).

Як згадвае ў сваёй кнізе «На высьпе ўспамінаў» адзін з блізкіх прыяцеляў Вакулоўскай, пісьменьнік Валянцін Тарас, у той вялікай стракатай кампаніі літаратараў, журналістаў, актораў, мастакоў закраналіся самыя рызыкоўныя тэмы. Брэжнева нехта зь вясёлай застоліцы мог назваць «траглядытам», галоўнага маскоўскага ідэоляга Суслава — «сушанай воблай», а ўсіх крамлёўскіх старцаў — «тупарылай шарагай».

Калі я гасьцяваў у Бэрліне ў нямецкага

беларусіста і колішняга палітвязьня Норбэрта Рандава, той паказаў мне некалькі сотняў старонак, ксэракапіяваных ім з адкрытых пасьля ўзьяднаньня Нямеччыны архіваў штазі.

Добры Норбэртаў прыяцель, апрача ўсяго астатняга, пісаў падрабязныя справаздачы пра дні нараджэньня «аб'екта» ўлучна з плянам стала, пералікам тостаў і часам прыходу й адыходу застольнікаў.

Падобныя госьці наведваліся і да Вакулоўскай. Адну, Зоечку, потым вылічылі, але яна пасьпела ўжо «напісаць опэру».

Лідзію зь сябрамі пацягнулі ў КГБ. Валянціна Тараса прымусілі звольніцца з рэдакцыі «Нёману», а ягоную жонку адхілілі ад этэру на Беларускім тэлебачаньні. Саму Вакулоўскую, якая была на вольных хлябах, абвінавачвалі ў пашырэньні забароненай літаратуры, спробах перадаць на Захад для публікацыі свае аповесьці й нават у закліках да тэрору.

Выступаючы тады на рэспубліканскім партактыве, першы сакратар ЦК КПБ П. Машэраў хваліў «органы» за тое, што ўскрылі «антысавецкі нарыў на кватэры члена Саюзу пісьменьнікаў Вакулоўскай».

Пасьля тых падзеяў Лідзія Аляксандраўна пражыла яшчэ чвэрць стагодзьдзя й выдала паўтара дзясятка кніг жывой чытэльнай прозы. Яна памерла ў жніўні 1991-га, калі «шарага» пучыстаў спрабавала павярнуць кола гісторыі назад.

Адным зь яе апошніх твораў стала прысьвечаная часам сталінскага тэрору аповесьць пад адметным назовам «Вальфрам — мэтал цьвёрды», у якім відавочна прысутная аўтахарактарыстыка пісьменьніцы.

**Лідзія Вакулоўская**
20.2.1926, Сноўск, Чарнігаўская вобл., Украіна —
28.8.1991, Шчорс, цяпер Сноўск, Украіна.
Пахаваная ў Сноўску.

Яна, як Натальля Арсеньнева ці бабуля сьпевака Данчыка Яніна Каханоўская, пражыла амаль стагодзьдзе, даўшы прыклад таго, колькі, на добры лад, павінны жыць беларускія жанчыны.

Гэты доўгі шлях быў неймаверна багаты на сустрэчы, захапленьні, самыя розныя пачынаньні й здабыткі. Зоська Верас мела добрае знаёмства з Максімам Багдановічам, тэатральным дзеячам Уладзіславам Галубком, літаратарамі Гальляшом Леўчыкам і Ядвігіным Ш., напісаўшы пра іх дасьціпныя прыгады.

Чытачы «Нашае Нівы», а потым заходнебеларускіх пэрыёдыкаў ведалі яе як аўтарку арыгінальных абразкоў і вершаў.

## Зоська Верас



Навукоўцаў зацікавіў укладзены і выдадзены Зоськай Верас «Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік».

Тагачасныя гаспадары зь Віленшчыны, Наваградчыны, Беласточчыны шукалі ў адрыўных календарах ейныя парады з агародніцтва й садоўніцтва. Пчаляры выпісвалі рэдагаваны ёю часопіс «Беларуская борць», а дзеткі чыталі адрасаваныя ім «Заранку» і «Пралескі», рэдактарам якіх таксама была спадарыня Зоська.

Зь віленскай турмы Лукішкі яна вынесла вершы зьняволенага Міхася Машары й выдала ягоны першы зборнік.

Ад 1923 году яна жыла ў Вільні — пераважна ў сваёй славутай «Лясной хатцы» сярод зялёных Панарскіх узвышшаў. У 1970—1980-я гады гэты прытульны



Маладыя кабеты ў модным адзеньні. Фота з збораў былога Беларускага музэю імя Івана Луцкевіча ў Вільні

гасьцінны дамок быў месцам паломніцтва нашай інтэлігенцыі й адраджэнскіх моладзевых суполак. Я быў там усяго аднойчы, але атмасфэру натуральнай беларускасьці, якая панавала ў тых сьценах, запомніў на ўсё жыцьцё. На жаль, гаспадыня ўжо нічога ня чула, і візытанты мусілі пісаць свае пытаньні, затое адказы былі грунтоўна-арыгінальныя ды суправаджаліся дэманстрацыяй унікальных фатаграфіяў і дакумэнтаў.

На дзясятым дзясятку Зоську Верас прынялі ў Саюз беларускіх пісьменьнікаў, а ў дзевяноста тры яна пабачыла выдадзеную ў Менску кніжку яе вершаў і апавяданьняў. Калі спадарыня Зоська сышла на вечны спакой, мне доўга не хацелася ў Вільню.

**Зоська Верас**
**(ад нараджэньня Людвіка Сівіцкая, у замужжы Войцік)**
30.9.1892, мяст. Мяджыбаж, цяпер Ляцічаўскі раён, Хмяльніцкая вобл., Украіна — 8.10.1991, Вільня.
Пахаваная на віленскіх Панарскіх могілках.

На самым досьвітку сваіх літаратурных заняткаў я надрукаваў у газэце «Літаратура і мастацтва» апавяданьне «Двойка». Ягоны герой, шасьцікласьнік зь вясёлай мянушкаю Шкілет, выславіўся тым, што ў творы на зададзеную тэму — «Самы памятны дзень лета» — насуперак парадам настаўніцы напісаць пра экскурсію ў Маскву або пра касьцёр у піянэрскім лягеры, распавёў аб тым, як, выпрабоўваючы сьмеласьць, шукаў уначы на вясковых кладах магілу свайго дзеда.

## Пятро Бітэль

У выніку ў апавяданьні Шкілет атрымаў «дваяк», а аўтар, гэта значыць я, у рэальным жыцьці быў усьцешаны перасланым з рэдакцыі дзясяткам лістоў абураных настаўнікаў, што баранілі гонар мундзіру. Самы рэзкі і, я сказаў бы, самы таленавіты з водгукаў належаў пяру выкладчыка беларускай мовы і літаратуры Вішнеўскай школы з Валожыншчыны. «За такі твор я сам, не вагаючыся, паставіў бы Ўладзімеру Арлову «двойку», — выносіў прысуд невядомы мне Пятро Бітэль. Так — спачатку завочна — я й пазнаёміўся зь ім, чалавекам, у лёсе якога адбіліся многія трагічныя беларускія падзеі XX стагодзьдзя.

Пятро атрымаў добрае нацыянальнае ўзгадаваньне ў вядомай Барунскай настаўніцкай сэмінарыі.

У 1939-м афіцэр польскага войска Бітэль трапіў у савецкі палон, але трагедыя Катыні абмінула яго.

Аднак гэбісты ўсё адно прыйшлі па беларускага патрыёта, які ў паваенны час, ня маючы магчымасьці працаваць настаўнікам, быў праваслаўным сьвятаром.

Да вызваленьня ў сярэдзіне 1950-х ён пасьпеў адседзець пяць зь дзесяці прызначаных савецкім судом канцлягерных гадоў. Кемерава — Омск — Джэзказган. Лесапавал — будоўлі сацыялізму — медныя капальні. Але, дзе б ні цягнуў тэрмін Бітэль, паўсюль яго атулялі глыбокая павага й любоў палітзьняволе-

ных-беларусаў. Сябры, часам разьлічваючыся сваёй пайкаю, здабывалі яму магчымасьць не ісьці на працу, а, седзячы ў прыцемным кутку бараку, перакладаць на беларускую мову Адама Міцкевіча. На абгортачнай паперы Бітэль перастварыў «Пана Тадэвуша», «Конрада Валенрода» і «Гражыну». (Бітэлеў пераклад «Пана Тадэвуша» быў выдадзены Беларускім фондам культуры да 200-годзьдзя Адама Міцкевіча.)



Пятро Бітэль з жонкаю Нінай і дочкамі Алай і Ліяй

У Саюз пісьменьнікаў нас прымалі адначасова. Бітэль падараваў мне сваю кнігу паэмаў, што ўразілі гістарызмам мысьленьня і напружанай пульсоўнай энэргетыкай. Я падпісаў яму маю першую кніжку апавяданьняў і колькі дзён лавіў сябе на тым, што чакаю ліста, дзе спадар Пятро зноў пастравіць мне «двойку». Але тым разам пранесла. Наступныя кнігі ўжо атрымлівалі ад яго адзнакі, вышэйшыя за два балы.

Бываючы ў старадаўнім Вішневе, заўсёды пераведваю апошні прыстанак Пятра Бітэля, нязломнага беларуса, які нават у лягерным пекле натхнёна служыў музам.

**Пятро Бітэль**
19.6.1912, мяст. Радунь, цяпер Воранаўскі раён —
18.10.1991, Маладэчна.
Пахаваны ў мяст. Вішнева, Валожынскі раён.

За савецкім часам у Закарпацьці сябры зьвялі мяне зь біскупам забароненай і загнанай у падпольле Ўкраінскай грэка-каталіцкай царквы. У сваім «паралельным» легальным жыцьці ўладыка працаваў таксістам. Гэта было шматгадовае служэньне Госпаду з штодзённай рызыкаю ператварыцца ў палітвязьня.

На жаль, мне не пашчасьціла сустрэцца зь беларускім каталіцкім сьвятаром Вацлавам Пянткоўскім, подзьвіг якога меў сувымерны маштаб.

Атрымаўшы выдатную адукацыю ў Рыме, ён у перадваенныя 1930-я гады служыў прэфэктам навагрудзкай гімназіі імя Адама Міцкевіча.

## Вацлаў Пянткоўскі

Пасьля Другой усясьветнай айцец Вацлаў нёс парафіянам слова Божае ў Івянцы і Рубяжэвічах, а потым быў прызначаны пробашчам касьцёлу ў вёсцы Мядзьведзічы Ляхавіцкага раёну.



Ксёндз Вацлаў Пянткоўскі сярод сьвятароў і вернікаў (на пярэднім пляне трэці зьлева). Канец 1980-х гадоў

У 1950-м «агента Ватыкану» й агітатара супраць калгасаў этапавалі ў казахстанскія лягеры. У сваю парафію, дзе ніхто зь вернікаў ня даў паказаньняў на пробашча, ён вярнуўся падчас хрушчоўскай адлігі.

Усё касьцёлы ва ўсходняй Беларусі тады былі зачыненыя. На колішніх заходнебеларускіх землях адчуваўся востры недахоп каталіцкіх сьвятароў. Між тым сэмінарыі былі толькі ў Коўне і Рызе.

У такіх умовах ксёндз Пянткоўскі адважыўся на вельмі небясьпечны крок. У сямідзясятыя гады мінулага стагодзьдзя ён адчыніў падпольную сэмінарыю ў сваім доме. Кабінэт ператварыўся ў аўдыторыю, пісьмовы стол — у прафэсарскую катэдру, арган замяняла фісгармонія. У праграме заняткаў былі гісторыя Касьцёлу, кананічнае права, этыка, замежныя мовы, філязофія...

Юнакі, якія імкнуліся стаць сьвятарамі, прыяжджалі ў Мядзьведзічы, слухалі лекцыі айца Вацлава і бралі ўдзел у набажэнствах.

Наступнымі этапамі былі экзамэны, якія выхаванцы Пянткоўскага таемна здавалі камісіі зь некалькіх ксяндзоў, і своеасаблівая «практыка» ў храмах.

Каб ня быць абвінавачанымі ў дармаедзтве, сэмінарысты працавалі ў Ляхавічах качагарамі.

За пяць гадоў нелегальная сэмінарыя падрыхтавала дзесяць сьвятароў. Сярод вучняў Вацлава Пянткоўскага быў Антоні Дзям'янка, які зьявіўся ў Мядзьведзічах сямнаццацігадовым юнаком. Сёньня ён — біскуп Пінскай дыяцэзіі. Тамсама служыць яшчэ адзін выхаванец ксяндза Вацлава — біскуп Казімер Велікаселец.

**Вацлаў Пянткоўскі**
21.4.1902, мяст. Ясёнуўка, цяпер Моньскі павет,
Падляскае ваяводзтва, Польшча —
30.11.1991, в. Мядзьведзічы, Ляхавіцкі раён.
Пахаваны ў в. Мядзьведзічы.

Тая чэрвеньская раніца 1947 году была вельмі кінэматаграфічная. Міхась касіў луг каля бацькоўскае сялібы. Прыклаўшыся да барылкі зь бярозавікам, пачуў вуркатаньне машыны.

На жаль, гэта было не кіно.

Ён папрасіў у гэбіста дазволу прайсьці пракос да канца. Адказам быў зьдзеклівы рогат. У хаце ўжо рабіліператрус, забіралі фатаздымкі й паперы. «Сыночак!» — галасіла маці.

Міхасю Ракевічу ішоў дваццаты год. У дзяцінстве вялікі ўплыў на яго мелі аповеды бацькі пра Амэрыку, дзе той быў у заробках і адкуль прывёз перакананьне, што там, за акіянам, чалавек — сапраўды вольны гаспадар свайго лёсу.

## Міхась Ракевіч



Бацькавы прыгады дапаўняў у дзіцячай сьвядомасьці дзядзька Мікола, студэнт Варшаўскага ўнівэрсытэту, які казаў, што прыйдзе час і Беларусь таксама будзе вольнай — без паноў, без камуны.

Выгнаньне немцаў у 1944-м Міхась не ўспрыняў як вызваленьне. Новыя савецкія начальнічкі, сярод якіх было шмат прыежджых, сьмяяліся зь беларускай мовы, абяцалі хутка пазачыняць цэрквы і касьцёлы ды палохалі аповедамі пра шчасьлівае жыцьцё ў калгасе.

У 1946-м на Слонімшчыне ўтварылася нелегальная антысавецкая арганізацыя «Чайка». Правай рукой яе кіраўніка Васіля Супруна стаў Ракевіч, якога прызначылі адказным за вайсковыя пытаньні.

На той час Міхась быў студэнтам Берасьцейскага чыгуначнага тэхнікуму, дзе стварыў падпольную гру-

пу й выдаваў зь сябрамі антысавецкія ўлёткі. Хлопцы выразалі з гумы літары, складалі словы і рабілі адбіткі на паперы. За год існаваньня «Чайкі» яе філіі ўзьнiклі, апрача Слоніму й Берасьця, у Баранавічах, Ганцавічах, на Піншчыне й Маладэчаншчыне.

Суд адмераў Ракевічу тагачасны максымум: чвэрць стагодзьдзя зьняволеньня і пяць гадоў высылкі. Ён здабываў вугаль у жудасных, сырых і загазаваных шахтах Варкуты й Інты, дзе мусіў на доўгія гады застацца і пасьля вызваленьня.

Усе спробы ўладкавацца на радзіме, у шахтарскім Салігорску, нязьменна сканчваліся адмовай. Беларускі патрыёт да пэнсіі мусіў працаваць на расейскай Поўначы.

Ягоная карэспандэнцыя й у 1980-я праглядалася гэбісцкімі куратарамі: лісты і бандэролі заўсёды прыходзілі ўскрытыя і падкрэсьлена неахайна заклееныя.

Абвінавачаньні ў нацыяналізьме выклікалі нават дзяржаўныя беларускія газэты й часопісы, што Ракевіч выпісваў сабе ў Інту.

Міхась ня толькі пакутліва доўга ня мог вярнуцца на Бацькаўшчыну. Амаль дваццаць гадоў ён даглядаў прыкутую хваробай да ложка жонку. Аднак ніколі не наракаў на лёс, а казаў, што нават удзячны яму, бо адукаваных, разумных і сумленных людзей пабачыў у лягерах значна больш, чым на волі.

На ягонай магіле побач з помнікам гарыць зьнічом агеньчык шахтарскае лямпы.

**Міхась Ракевіч**
19.11.1927, в. Ваўчкі, цяпер Слонімскі раён —
8.3.1992, Слонім.
Пахаваны на могілках у в. Клепачы, Слонімскі раён.

Упершыню мы сустрэліся ў зэльвенскай хаце Ларысы Геніюш. Празь некалькі дзён калега, пачуўшы імя Церашчатавай, акругліў вочы: «Ніякіх кантактаў!.. Ты ведаеш, што яна служыла ў выведцы? Цяпер разумееш, чаму яе ў Зэльву так цягне?»

Яна сапраўды служыла ў савецкай выведцы. Сямнаццацігадовую Вольгу немцы мабілізавалі капаць акопы. Дзяўчыне ўдалося зьбегчы, перайсьці лінію фронту і запісацца ў школу радыстак. На пачатку 1950-х гадоў, праходзячы каля Акадэміі навук, яна зайшла ў аддзел кадраў запытацца наконт якой-небудзь працы. «Баявое мінулае» адыграла сваю ролю, і яе залічылі сакратаркай.

# Вольга Церашчатава

Для беларускай мастацтвазнаўчай навукі гэта быў шчасьлівы момант.

У 1968-м супрацоўніца Інстытуту мастацтвазнаў-



Вольга Церашчатава (крайняя справа) з калегамі на гасьцінах у Ларысы Геніюш (другая справа). 1970-я гады

ства, этнаграфіі й фальклёру Церашчатава абараніла дысэртацыю па даваеннай беларускай графіцы. Але зорны час быў наперадзе.

У тыя гады фізык Юры Хадыка і мастацтвазнаўца Элеанора Вецер запалілі дзясяткі два гэткіх самых апантаных навукоўцаў сваёй ідэяй стварыць Музэй старажытнабеларускай культуры. Аднак у 1973-м у рэспубліцы разгарнулася змаганьне з нацыяналізмам. Перастрахоўваючыся, акадэмічнае начальства пазбавілася ад пяцісот першых экспанатаў будучага музэю. Тады яго стваральнікі прыйшлі ў кабінэт да Церашчатавай і знайшлі ў ёй неацэннага паплечніка.

Вольга Васілеўна сама езьдзіла ў экспэдыцыі, дзе лёгка знаходзіла агульную мову й з раённымі начальнікамі, і зь сьвятарамі, і з простымі сялянамі. Яна ўмела браць на сябе адказнасьць. Яна была здольная на фантастычныя рэчы. Немагчыма зразумець, як яна змагла пераканаць міністра культуры Літвы перадаць Беларусі калекцыю з тысячы твораў нашага народнага мастацтва канца XIX стагодзьдзя, што, вядома ж, паводле завядзёнкі нашых суседзяў, лічыліся «літоўскімі».

У 1979-м Музэй старажытнабеларускай культуры адчыніўся. Загадчыцай стала Вольга Церашчатава. Яе хапіла і на тое, каб праз некалькі гадоў выдаць сваю манаграфію «Старажытнабеларускі манумэнтальны жывапіс XI—XVIII стст.».

Астатні раз мы бачыліся зь ёю таксама ў Зэльве. Але спадарыня Ларыса не сустрэла нас і ня выйшла правесьці. Тады мы праводзілі яе ў апошні шлях.

Я глядзеў на Церашчатаву і бачыў, якая гэта для яе цяжкая страта.

**Вольга Церашчатава**
24.7.1926, Лоеў — 30.3.1992, Менск.
Пахаваная на менскіх Паўночных могілках.

На пачатку 1970-х я, захоплены навуковай і ненавуковай фантастыкай, разоў дзесяць глядзеў дакумэнтальны фільм заходненямецкага рэжысэра Дэнікена «Ўспаміны пра будучыню», прысьвечаны нашым магчымым касьмічным братам па розуме.

У фільме — і гэта казытала пачуцьцё нацыянальнага гонару — браў удзел беларускі вучоны Вячаслаў Зайцаў, які ў кадры харызматычна даводзіў, што мы ў Сусьвеце зусім не самотныя.

З драматычным лёсам гэтага чалавека і зь ім асабіста я пазнаёміўся значна пазьней, калі пераехаў у Менск і пачаў працаваць у выдавецтве «Мастацкая літаратура», дзе Зайцаў аднойчы прачытаў бліскучую лекцыю пра тых самых іншаплянэтнікаў, амаль пераканаўшы мяне, што да іх ліку належаў, у прыватнасьці, легендарны шумэрскі ўладар Гільгамэш.

## Вячаслаў Зайцаў



У біябібліяграфічным даведніку «Беларускія пісьменьнікі» гаворыцца, што Вячаслаў Зайцаў «быў паглыблены ў філязофска-тэалягічныя праблемы». Насамрэч ён быў проста апантаны імі. У атэістычнай краіне гэта не абяцала навукоўцу нічога добрага. У свой час дацэнта Зайцава за ідэалістычныя погляды практычна выслалі зь Ленінградзкага ўнівэрсытэту ў Менск.

Працуючы ў акадэмічным Інстытуце літаратуры, ён блізка сышоўся з Адамам Мальдзісам і Ўладзімерам Караткевічам. Апошні, маючы на ўвазе галоўнае захапленьне Зайцава, часам паказваў на неба і пакеп-

ліваў: «Прызнавайцеся, і вы адтуль?» — але глыбока паважаў інтэлектуальнае дысыдэнцтва прыяцеля і прысьвяціў яму верш «Калі паміраюць...».

У сярэдзіне 1960-х гадоў у сібірскім альманаху «Байкал» Зайцаву ўдалося надрукаваць сваю ў нейкім сэнсе праграмную працу «Багі прыходзяць з космасу». Рэдактара звольнілі, а Вячаслаў трапіў у разрад «хаўрусьнікаў заходніх багасловаў».

Абарона ягонай доктарскай дысэртацыі «Францыск Скарына і гуманістычная думка ў Беларусі XV—XVI стст.» была сарваная, а ў 1974-м, за два гады да пэнсіі, за публічную падтрымку калегаў, якіх улады перасьледавалі як нацыяналістаў, Зайцава пакінулі бяз працы.

Разгорнутая ім у тыя гады лекцыйная дзейнасьць і выпуск некалькіх дзясяткаў улётак, якія будуць кваліфікаваныя як «рэлігійна-містычныя», непазьбежна прывялі Вячаслава да арышту. Дзіва што: ягоны Хрыстос, які прыйшоў з Космасу, быў пераканаканым антысаветчыкам.

Справа закончылася экспэртызай у Інстытуце судовай псыхіятрыі, дзе вучонаму паставілі самы папулярны для іншадумцаў у СССР дыягназ — вялаплынная шызафрэнія.

Спатрэбіліся дзясяткі зваротаў мэдыкаў у «компетентные органы», каб праз тры гады прымусовае лекаваньне было нарэшце спыненае і Зайцава вызвалілі. Крымінальную справу закрылі толькі ў 1992-м, ужо пасьля яго сыходу.

Магчыма — да іншаплянэтнікаў.

**Вячаслаў Зайцаў**
18.9.1917, в. Ахлябініна, цяпер Уфімскі раён, Рэспубліка Башкартастан, Расея — 19.4.1992, Уладзімір, Расея.
Пахаваны на ўладзімірскіх могілках Улыбашава.

# Валеры Сьлюнчанка

У маёй памяці ён неадлучны ад старажытных полацкіх храмаў, якія ў 1980-я былі адрэстаўраваныя паводле Валеравых таленавітых праектаў і набылі вядомае нам сёньня велічнае аблічча. Найперш — гэта Сафія, якую Караткевіч назваў «белым караблём над Дзьвіною», ня без уплыву сустрэчы з Валерам.

На сэмінары творчае моладзі пісьменьнік быў уражаны працамі студэнта архітэктурнага факультэту Менскага палітэху. «Ад вашых праектаў мне робіцца радасьней жыць», — пісаў ён у лісьце маладому творцу, а потым падтрымаў яго мудрымі парадамі, калі Валера ад казённай інстытуцкай атмасфэры вырашыў кінуць навучаньне.

Сафійскі сабор, лёс якога быў давераны Сьлюнчанку, стаўся адным зь першых аб’ектаў рэспубліканскіх рэстаўрацыйных майстэрняў. Дапамагаючы спэцыялістам, полацкая інтэлігенцыя ладзіла ў мурах Сафійкі суботнікі, пасьля якіх Валера чытаў нам лекцыі пра беларускія рэнэсанс і барока, дэклямаваў вершы Івана Буніна і дасьціпна рэагаваў на рэплікі будучага празаіка Вінцэся Мудрова кшталту: «Хорошие стишата, вот только автор — белоэмигрант».

Валера й сам пісаў цікавыя вершы: пра жанчын і пра восень — па-расейску, а пра маці — па-беларуску. Ён бясконца перачытваў японца Басё й гішпанца Ўнамуна. Ён любіў параўноўваць грамадзтва з слоеным пірагом, дзе пячорныя людзі складаюць зусім ня самую тонкую праслойку. Насуперак тагачасным прапагандысцкім заклікам ня жыць адным днём, ён вучыў мяне, што якраз адным днём і трэба жыць — так, каб у ім заўсёды было месца каханьню, сяброўству, музыцы, паэзіі.

Відаць, таму, што якраз так Валера жыў сам, ён пасьпеў зрабіць неверагодна шмат: праекты рэканструкцыі гістарычнага цэнтру Полацку й ягоных



Богаяўленскага і Крыжаўзьвіжанскага сабораў, кармэліцкага касьцёлу ў Амсьціславе і касьцёлу Сьвятога Станіслава ў Магілеве, Калоскай царквы, сядзібы Багушэвіча ў Кушлянах... Гэтыя помнікі стваралі падмурак, на якім адраджалася гістарычная памяць.

Калі ў 1983-м у аднаўленай Сафійцы адчынялі канцэртную залю, Валера адзіны прамаўляў пабеларуску. Гэта выклікала відавочнае незадавальненьне начальства, якое, выступаючы па паперцы, блытала стагодзьдзі, а сябе называла «благороднымі потомкамі».

Валера меў хворае сэрца, якое не па чутках ведала, што такое хірургічны скальпэль. Калі мы купаліся ў полацкіх азёрах, ён зь вінаватаю ўсьмешкаю станавіўся на дно, не праплыўшы і дзясятка мэтраў.

Сьлюнчанка бязьмежна любіў Полацак, які стаў яму родным горадам. Зь ягонага партрэту ў Сафійскім саборы глядзяць уважлівыя вочы чалавека, што зазіраў у недаступныя многім глыбіні.

Сябры й калегі выдалі ў 2015-м прысьвечаную Валерыю мэмарыяльную кнігу, названую радком зь ягонага вершу — «Ляцеў з аблокамі я побач».

**Валеры Сьлюнчанка**
25.8.1945, Старадуб, Бранская вобл., Расея —
19.6.1992, Менск.
Пахаваны ў в. Слабада, Лагойскі раён.

У 1969 годзе канцылярыя ЦК КПСС атрымала сакрэтны ліст, у якім паведамлялася: «Комитет государственной безопасности Белоруссии располагает данными о политически нездоровых настроениях писателей Алексея Карпюка и Василия Быкова. Карпюк нелегально распространяет среди знакомых различные антисоветские пасквили. Отрицательно воздействует на молодежь. С санкции ЦК компартии республики готовятся мероприятия, направленные на предотвращение возможных враждебных акций названных лиц...» Пад лістом стаяў подпіс старшыні КГБ СССР Юрыя Андропава.

## Аляксей Карпюк

У дачыненьні камуніста Аляксея Карпюка плянаваныя гэбістамі захады хутка выявіліся ў допытах, ператрусах, выключэньні з партыі.

Яго, былога камандзіра партызанскага аддзелу імя Каліноўскага, кавалера савецкіх і польскіх баявых узнагародаў, на падставе сфабрыкаваных чэкістамі Фаміным і Клімовічам дакумэнтаў абвінавацілі ў калябарацыянізьме. Два гады Карпюк ня мог уладкавацца на працу.

Потым яго адновяць у КПСС, але на самым пачатку дзевяностых ён сам выйдзе адтуль. Праўда, пры гэтым партбілет пакіне сабе, напісаўшы ў заяве, што робіць гэта «на памяць пра летуценьні маладосьці».

Але непапраўным летуценьнікам і змагаром за свае ідэалы ён будзе заставацца праз усё жыцьцё: і ў творчасьці, і на пасадзе сакратара Гарадзенскага аддзяленьня Саюзу пісьменьнікаў, і ў нязьменна вострых і розгаласных прамовах на літарацкіх зьездах і пленумах.

Я быў адрэкамэндаваны яму якраз пасьля аднаго з такіх выступаў, у якім Аляксей Нічыпаравіч, абрынуўшыся на ўсеўладнасьць савецкае намэнклятуры, распавёў, як сын эгіпэцкага прэзыдэнта Насэра заваліў уступныя экзамэны ў унівэрсытэт.



З дачкой Аленай.
1950-я гады

Распавёў, каб рытарычна запытацца ў залі: «Ці магчыма такое ў нас нават на ўзроўні дзяцей сакратара райкаму?»

У гады перабудовы ён уступіць у БНФ, заявіць пра сябе як пра таленавітага публіцыста, неартадаксальна трактуючы падзеі верасьня 1939 году і калектывізацыі.

Адным разам на гарадзенскай вуліцы, ідучы амаль подбегам, каб не адстаць ад ягонай заўсёды шпаркай хады, я сказаў спадару Аляксею, што ці не найлепшым творам пра Заходнюю Беларусь лічу яго раман «Вершалінскі рай».

Інтэрвію Зянона Пазьняка, дзе той назаве Карпюкову Дануту з аднайменнай аповесьці (якая, дарэчы, перавыдавалася восем разоў) самым дарагім для яго жаночым вобразам у ўсясьветнай літаратуры, Аляксей Нічыпаравіч прачытаць ужо ня здолеў.

У Горадні дагэтуль няма вуліцы імя Карпюка, як і вуліцы імя ягонага сябра й аднадумца Васіля Быкава. Усталяваць мэмарыяльную шыльду на доме, дзе жыў Аляксей Карпюк, гарадзенскія ўлады далі дазвол «усяго» праз 27 гадоў пасьля яго сыходу.

**Аляксей Карпюк**
14.4.1920, в. Страшава, цяпер Беластоцкі павет, Падляскае ваяводзтва, Польшча — 14.7.1992, Горадня. Пахаваны на гарадзенскіх могілках Сакрэт.

## Валянцін Ждановіч

Калі выбітная асоба пакідае гэты сьвет, у яе раптам знаходзіцца шмат сяброў, колькасьць якіх з гадамі адно павялічваецца. Згадваецца адна зь юбілейных вечарынаў да 75-годзьдзя Ўладзімера Караткевіча, калі нехта з такіх «сяброў» захоплена апавядаў, як пісьменьнік цудоўна граў на гітары й яны сьпявалі дуэтам, хоць насамрэч Уладзімер Сямёнавіч, сапраўды маючы выдатныя голас і слых, гітары ў рукі ніколі ня браў.

Журналіст і фотамастак Валянцін Ждановіч быў адным зь нешматлікіх сапраўдных сяброў Караткевіча. Яны зблізіліся у 1960-я, у творчай экспэдыцыі на Палесьсе, і потым безьліч разоў вандравалі разам, ажно да апошняй выправы на ўлюбёную Прыпяць у ліпені 1984 году.

Амаль усё жыцьцё ён, адукаваны, дасьведчаны ў гісторыі патомны беларускамоўны мянчук з надзіва цёплай утульнай аўрай, працаваў фотакарэспандэнтам часопісу «Маладосць». Мноства зробленых ім здымкаў увайшлі ў энцыкляпэдыі й альбомы, зрабіліся клясыкай беларускага фотамастацтва. Ждановіч адным зь першых у Беларусі пачаў займацца фатаграфікай. Падзеяй стаў тады ягоны альбом «Бераг белых буслоў».

Ён вельмі цяжка перажываў сьмерць Караткевіча, заўсёды кажучы пра долю сваёй віны, хоць ініцыятарам той іх трагічнай вандроўкі быў сам пісьменьнік. Аднойчы мы доўга гаварылі пра гэта ў Валянцінавай маладосьцеўскай фотамайстэрні.

Майстэрня была ягоным другім домам. Там ён і разьвітаўся з жыцьцём. Не выключаю, што гэта быў абдуманы крок, бо неяк у размове Валянцін працытаваў Сэнэку: «Дзьверы адчыненыя, можаш пайсьці».

Дачка Валерыя лічыць, што бацька проста стаміўся ад тагачаснай незапатрабаванасьці й без-



грашоўя. Але калегі не выключаюць і іншых вэрсіяў, зьвязаных з тым, што Ждановіч ня толькі таленавіта фатаграфаваў, але часам браўся за складаныя журналісцкія расьсьледаваньні. Да прыкладу, даказаў, што адзін прыгрэты ўладамі народны мастак ствараў свае «шэдэўры», займаючыся плягіятам.

Валянцін, маючы потым непрыемнасьці, здолеў зьняць памятнае Гуканьне вясны ў сталічным Траецкім прадмесьці ў 1986 годзе, калі на навучэнцаў Менскай мастацкай вучэльні і школы-інтэрнату імя І. Ахрэмчыка напалі нацкаваныя гаркамам камсамолу і КГБ вэтэраны аўганскай вайны.

Незадоўга да сыходу Валянцін, які меў і бясспрэчныя літаратурныя здольнасьці, напісаў прысьвечанае Караткевічу бліскучае эсэ «Белы човен».

*Ён быў ПАДАРОЖНІК.*

*Ён валодаў талентам падарожжа...*

*Бывала — колькі бывала! — вецер дзьмуў супраціўны, зрываліся ветразі, ламаліся вёслы, лодку шпурляла на камяні. Бывала, ён радаваўся чэрстваму хлебу, а часам хлеб здараўся горкі...*

Валянцін Ждановіч і сам быў Падарожнікам і зьдзейсьніў сваю жыцьцёвую вандроўку таленавіта і годна.

**Валянцін Ждановіч**
7.1.1938, Менск — 20.7.1992, Менск.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

## Міхась Ткачоў

Выпускнік раённай расейскамоўнай школы Міхась Ткачоў да паступленьня на гістарычны факультэт БДУ рыхтаваўся паводле беларускіх падручнікаў, бо быў перакананы, што ў сталіцы БССР усё па-беларуску. Пагарду да роднай мовы ён сустрэне ўжо ў прыёмнай камісіі, але студэнцкія гады ўмацуюць яго нацыянальнае пачуцьцё.

Мая першая сустрэча з Ткачовым адбылася падчас археалягічных раскопак, якія ён вёў у родным Амсьціславе. Ад таго дня засталося адчуваньне ўпэўненасьці й камфортнасьці, якія потым заўсёды апаноўвалі побач зь ім. Вялікі, дужы, чарнявы, ён, здавалася, проста выпраменьваў гэтую ўпэўненасьць. Я думаю, што прычынаю была ягоная нязьменная вера ў сваю праўду, у эўрапейскую гісторыю нашай краіны, у вартасьць справы, якой прысьвяціў жыцьцё.

Калі падчас ягоных раскопак у Наваградку туды завіталі Ўладзімір Высоцкі з Марынай Уладзі, Ткачоў прачытаў ім лекцыю з гісторыі Беларусі, за якую быў узнагароджаны невялікім канцэртам.

Вынікам яго дасьледаваньняў абарончага дойлідзтва сталі кандыдацкая й доктарская дысэртацыі на гэтую тэму, а таксама кнігі «Замкі Беларусі», «Замкі і людзі», «Старажытны Амсьціслаў».

Працуючы загадчыкам катэдры ў Гарадзенскім унівэрсытэце, ён бескампрамісна бараніў ад мясцовых чыноўнікаў старадаўнюю забудову гораду. Даходзіла да зваротаў у Саўмін СССР, пасьля чаго Ткачова спрабавалі прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці за «клевету на органы советской власти».

Пільную ўвагу КГБ выклікаў і заснаваны зь непасрэдным удзелам Ткачова гарадзенскі гістарычнакультурны клюб «Паходня», які зьбіраў сотні людзей на свае асьветніцкія вечарыны, што ўсё часьцей ператвараліся ў палітычныя дыскусіі.



Вяртаньне ў 1989 годзе Ткачова ў Менск (як, дарэчы, і мой пераезд у сталіцу) адыёзная газэтка «Славянский набат» пазьней назаве акцыяй, сплянаванай ЦРУ. Такім чынам амэрыканская выведка далучылася да выпуску Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі, што было галоўным клопатам Міхася як кіраўніка выдавецтва «Беларуская Энцыкляпэдыя».

«Варожы агент» гаварыў пра сваю місію наступным чынам: «Мы вернем імёны тых, хто не шкадаваў здароўя і жыцьця, ішоў гэтым цяжкім торам дзеля будучыні нашай. Мы вернем народу тыя імёны, якія доўга ганьбілі, плямілі, трымалі ў спэцсховах».

У тыя вызначальныя для краіны гады Ткачоў быў у авангардзе дэмакратычных сілаў: браў удзел у стварэньні «Мартыралёгу Беларусі», уваходзіў у Аргкамітэт БНФ, стаў ініцыятарам аднаўленьня ў Беларусі сацыял-дэмакратычнага руху і ачоліў Цэнтральную раду Грамады. Ткачова паважалі ў самых розных слаях грамадзтва. Паніхіду ў Доме літаратара спраўляў мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філярэт.

Незадоўга да трагічна раньняй сьмерці Ткачоў казаў у інтэрвію: «Нягледзячы ні на якія адкаты, працягваю верыць у беларусаў, у іхнюю рашучасьць у крытычныя моманты гісторыі, калі на карту ставіцца лёс нацыі».

**Міхась Ткачоў**

10.3.1942, Амсьціслаў — 31.10.1992, Менск.

Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

## Марыя Кіпель

Пра Марыю мне безьліч разоў апавядаў яе сын, адзін зь лідэраў нашае эміграцыі Вітаўт Кіпель, слухаючы якога, я зазвычай успамінаў словы Мэнандра, што бацькоў трэба шанаваць нароўні з багамі.

Родны дом Марыі Зубкоўскай стаяў насупраць Менскага гарадзкога тэатру, дзе яе бацька чвэрць стагодзьдзя, як сам з гонарам казаў, «знаходзіўся пры гардэробе».

Пасьля гімназіі Марыя працавала ў школе, захоплена сьпявала ў вядомым хоры кампазытара Ўладзімера Тэраўскага.

Потым былі курсы беларусазнаўства, якімі кіраваў Язэп Лёсік, шлюб з маладым навукоўцам Яўхімам Кіпелем і лінгвістычна-літаратурны факультэт Беларускага дзяржаўнага пэдынстытуту.

Чорнай вяхой у жыцьці Марыі стаўся 1930-ты. У ліку іншых «нацдэмаў» быў арыштаваны і на пяць гадоў высланы ў Вяцкую вобласьць муж. НКВД настойліва «параіў» хутчэй зьяжджаць куды-небудзь падалей ад Беларусі й ёй з малым сынам Вітаўтам.

У 1935-м па зусім нядаўна вызваленага Яўхіма зноў прыехалі людзі ў форме.

На той час шлях Кіпелям у Беларусь быў зачынены, і сям’я жыла ў расейскім Арле. Марыя працавала настаўніцай.

У 1937-м ёй выдавалі новы пашпарт. Дырэктар школы паклікаў да сябе ў кабінэт: «Мария Васильевна, в паспорте есть графа «национальность». Русский или белорус — это все равно, но я очень советую вам записаться русской».

«Если все равно, напишите: белоруска», — адказала Марыя.

Сям’і ўдалося аб’яднацца і вярнуцца ў Менск у гады Другой усясьветнай вайны.

На эміграцыі Марыя Кіпель кіравала беларускім



Марыя Кіпель з мужам Яўхімам (зьлева) і стрыечным братам Васілём. 1950 г.

дзіцячым садком, выкладала родную мову, пісала ўспаміны, якія з нумару ў нумар друкаваліся ў ньюёрскім «Беларусу», дапамагала сыну Вітаўту і нявестцы Зоры.

Яна належала да беларускага праваслаўнага Сьвята-Эўфрасіньнеўскага прыходу ў амэрыканскім горадзе Саўт-Рывэры, дзе і была пахаваная побач з мужам Яўхімам.

Выконваючы волю сям'і, удзельнікі памінальнай бяседы заместа кветак на магілу сабралі ахвяраваньні на газэту «Беларус».

**Марыя Кіпель (ад нараджэньня Зубкоўская)**
14.1.1904, Менск —
14.12.1992, Рутэрфорд, штат Нью-Джэрзі, ЗША.
Пахаваная на беларускіх могілках у Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрзі.

Такіх людзей, як ён, на ўсю Беларусь было, як сказаў адзін паэт, «багата — магчыма, чацьвёра». Адзін — брат Якуба Коласа, дзядзька Юзік, апеты ў «Новай зямлі» Юзік-шаляніца, добры дух тых запаведных наднёманскіх мясьцінаў, які лічыў абавязкам дэклямаваць гасьцям (і рабіў гэта проста бліскуча) прысьвечаныя яму строфы паэмы. Другім быў Міхал Ляпеха, іншы сапраўдны народны інтэлігент, у якога вырабіўся зь селяніна-самавука.

Неяк на пачатку 1950-х яго, тады рабочага Смаргонскага прамкамбінату, паслалі шукаць па навакольлі вапняк. Так ён упершыню трапіў у родныя Багушэвічавы Кушляны. Літаратуразнаўца Ўладзімер Содаль апавядае, што ў душы Міхала Ляпехі, які штосьці чуў пра паэта і «мужыцкага адваката» ды ведаў пару ягоных вершаў, у той дзень адбыўся пераварот.

# Міхал Ляпеха



Genius loci — геній месца зрабіў сваё дзіва: Міхал пакінуў у роднай вёсцы дыхтоўную хату і разам зь сям’ёй пераехаў у Кушляны, пасяліўшыся ў невялікім кутку былога паэтавага дому, дзе тады была бібліятэка зь сьціпленькай мэмарыяльнай экспазыцыяй. Пасада дзядзькі Міхала афіцыйна

Без ахвярнасьці Міхала Ляпехі Беларусь магла б ня мець сёньня сядзібы-музэю Францішка Багушэвіча ў Кушлянах

называлася «вартаўнік», аднак, па сутнасьці, ён стаў і экскурсаводам, і хавальнікам сядзібы аднаго зь першых будзіцеляў нацыі, які растлумачыў беларусам, дзе іх краіна, як яна мусіць звацца, і наказаў берагчы — каб ня ўмёрлі — мову сваю, такую ж людзкую й панскую, як нямецкая або француская.

Найверагодней, што без ахвярнасьці Міхала Ляпехі, якога ў шасьцідзясятыя — васьмідзясятыя гады мінулага стагодзьдзя ведала ўся сьвядомая Беларусь, Багушэвічаў дом пры тагачаснай «ахове» помнікаў гісторыі й культуры да рэстаўрацыі проста б не дацягнуў.

Але ў Міхала была мэта — дажыць да таго дня, пакуль маленькая саматужная экспазыцыя не ператворыцца ў паўнавартасны музэй.

Ляпехаў сын займаў высокую пасаду ў Падмаскоўі. Бацька мог бы спакойна ўладкавацца пад яго крылом, але ён нават на дзявятым дзясятку наведваўся да сына, адно каб падлекавацца і зноў вярнуцца ў Кушляны — да родных сьценаў і сьцежак, да вандроўнікаў зблізку й здаля, да кнігаў водгукаў з сотнямі, а мо й тысячамі ўдзячных запісаў.

«Без Кушлянаў я — як птушка бяз крылаў», — патасна, але шчыра казаў дзядзька Міхал.

Ён дачакаўся свайго: у 1990-м мэмарыяльны музэй-сядзіба Францішка Багушэвіча адчыніў дзьверы першым наведнікам.

Яшчэ й цяпер, пад'яжджаючы да Кушлянаў, я чакаю, што ўбачу на ганку памятную цыбатую постаць.

**Міхал Ляпеха**
1.10.1902, в. Базары, цяпер Смаргонскі раён —
5.9.1992, Маладэчна.
Пахаваны на маладэчанскіх Старых могілках.

# Генадзь Каханоўскі

Згадваю Маладэчна, і заўсёды адразу ўзьнікае імя — Генадзь Каханоўскі.

Памятаю сябе студэнтам, які зачаравана стаіць у музэі перад скрыпкаю Міхала Клеафаса Агінскага. Я яшчэ не заўважаю, што з-за вітрыны з слуцкім пасам на мяне глядзіць чалавек зь нейкім надзіва ўтульным прымругам вачэй. Праз хвіліну мы паціснулі адзін аднаму рукі. Месца — Менскі абласны краязнаўчы музэй у Маладэчне. Чалавек — намесьнік дырэктара музэю па навуцы Каханоўскі.

Празь дзесяць гадоў ён будзе рэцэнзэнтам маіх кнігаў. Тады знаёмства з Генадзем Каханоўскім станецца бліжэйшым, і мне адкрыецца няпросты шлях гэтага самаадданага слугі Кліё.

Юначыя гады ў Маскве, дзе будучы гісторык Каханоўскі ачольваў беларускае студэнцкае зямляцтва. Сустрэчы з Уладзімерам Дубоўкам і Міколам Улашчыкам, які стаў для Генадзя ўзорам служэньня навуцы і Айчыне. Вяртаньне ў Маладэчна й праца ў абласным краязнаўчым музэі, дзе, найперш дзякуючы Каханоўскаму, была створаная экспазыцыя, якая, адрозна ад шмат якіх замшэлых сталічных, працавала на беларускую нацыянальную ідэю.

Але гэтак званыя кампэтэнтныя органы былі напагатове. У 1969-м адмыслова скліканая атэстацыйная камісія прызнала працу маладога гісторыка шкоднай для камуністычнага выхаваньня савецкіх людзей.

Ён быў абвінавачаны ў нацыяналізьме нават за тое, што казаў пра страту Беларусьсю ў Другой усясьветнай вайне кожнага чацьвертага, а значыць «штучна завышаў ролю беларускага народу».

Звольненага Каханоўскага аднавілі на працы дзякуючы заступніцтву Максіма Танка й Янкі Брыля, але нападкі на вучонага не спыняліся. Яго, які так любіў падарожнічаць, не выпускалі за мяжу. Мне здаецца, што якраз сваю тугу па нязьдзейсьненых ван-



драваньнях ён увасобіў у ўнікальным прыдарожным помніку Віленскаму шляху паблізу вёскі Мясата на Маладэчаншчыне.

Калі над краінай падзьмулі новыя вятры, Каханоўскі пасьпеў зрабіць захапляльна шмат.

У 1989-м спрычыніўся да заснаваньня Беларускага краязнаўчага таварыства і стаў яго першым старшынём.

У 1992-м абараніў першую ў Беларусі доктарскую дысэртацыю, прысьвечаную крыніцазнаўству матэрыяльнай і духоўнай культуры.

Адна за адной выходзілі яго кнігі ў галінах фальклярыстыкі й археалёгіі, дасьледаваньні, прысьвечаныя Яўстаху Тышкевічу, Адаму Кіркору...

Разам з сваёй навуковай спадчынай ён запавечыў нам і мару, якой у сямідзясятыя — васьмідзясятыя гады мінулага стагодзьдзя дзяліўся з блізкімі сябрамі: аднойчы прачнуцца, а Беларусь — вольная!

**Генадзь Каханоўскі**
8.1.1936, в. Дамашы, цяпер Маладэчанскі раён —
15.1.1994, Маладэчна.
Пахаваны на маладэчанскіх могілках у Насілаве.

Мы сустрэліся пры канцы васьмідзясятых гадоў мінулага стагодзьдзя ў Маскве на паседжаньні Савету па беларускай літаратуры Саюзу пісьменьнікаў СССР, куды запрасілі тузін айчынных літмаладзёнаў. Абмеркаваньне нашай творчасьці пачалося з таго, што адзін з сталічных крытыкаў публічна паведаміў: чытаючы творы гасьцей, учора раптам зразумеў, што беларуская мова, аказваецца, сапраўды існуе.

Адамовіч крыху спазьніўся і, пачуўшы ад нас пра зробленае «старэйшым братам» адкрыцьцё, толькі пагардліва махнуў рукой, дадаўшы пару моцных слоў. Потым ён першы падпісаў складзены намі зварот у высокія інстанцыі з просьбаю стварыць у Менску музэй Уладзімера Караткевіча. Праўда, адразу ж упэўнена заўважыў: «Нічога, хлопцы, у вас не атрымаецца».

## Алесь Адамовіч

Ягоныя (на шчасьце, не заўжды пэсымістычныя) прагнозы зьдзяйсьняліся й у маштабах нязьмерна большых. Адамовіч прадказаў крывавыя падзеі каля тэлевежы ў Вільні, а на пачатку лета таго самага гістарычнага 1991 году пайшоў у заклад з славутым палітолягам Генры Кісынджэрам, сьцьвярджаючы, што КПСС хутка сыдзе з арэны.

Ён усё жыцьцё ваяваў за справядлівасьць: у партызанах, куды трапіў падлеткам; у Маскоўскім дзяржаўным унівэрсытэце, дзе працаваў на катэдры нацыянальных літаратураў і адкуль быў выгнаны ў сувязі з справаю пісьменьнікаў-дысыдэнтаў Сіняўскага і Даніэля; у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук Беларусі, дзе адраджаў мэтадалягічныя прынцыпы праўдзівасьці й гістарызму. Гэта ён паставіў на месца Айзіка Кучара, які пасьля рэабілітацыі рэпрэсаваных пісьменьнікаў працягваў тапіць, не дапускаючы да выданьня, іхнія творы.

Рэзкі канфлікт з кіраўніцтвам Беларусі пась-



ля чарнобыльскай катастрофы, праўду пра якую ён імкнуўся данесьці любымі шляхамі, прывёў да пераезду ў Маскву. Там Адамовіч быў адным з выбітных удзельнікаў перабудовы і далейшых вірлівых палітычных падзеяў.

Ён стаў аўтарам сямнаццаці прыжыцьцёвых кнігаў, у тым ліку рамана «Карнікі» і «Хатынскай аповесьці», паводле матываў якой зьняты фільм «Ідзі і глядзі».

Аднак Адамовіч належаў да тых творцаў, чыя асоба вышэйшая за іх кнігі. Напэўна, ён і сам разумеў гэта, адважна рынуўшыся ў палітыку й грамадзкую дзейнасьць: быў народным дэпутатам, працаваў у «Мэмарыяле», выступаў на мітынгах. Ня раз прыяжджаў у Менск на Чарнобыльскі шлях.

Ягоная сьмерць сталася сымбалічнай: падчас суда, пасьля выступу ў абарону інтарэсаў Міжнароднага літфонду. Пасьмяротна яго назвалі ляўрэатам прэміі гэтага Фонду «За гонар і годнасьць таленту». Імя Адамовіча мае адна з прэміяў Беларускага ПЭН-цэнтру. Яе ляўрэатамі стаў цэлы шэраг супрацоўнікаў Беларускай службы Свабоды.

**Алесь Адамовіч**
3.8.1926*, в. Канюхі, Капыльскі раён —
26.1.1994, Масква, Расея.
Пахаваны ў в. Глуша, Бабруйскі раён.

* Афіцыйная дата нараджэньня, замацаваная ў энцыклялпэдыях, — вынік таго, што ў часе вайны маці больш як на год «падмаладзіла» сына, ратуючы яго ад вывазу ў Нямеччыну.

Даводзілася чуць, што на зломе 1980–1990-х гадоў, калі ў Менск зачасьцілі і хутка адшукалі мастака Басава замежныя галерэйнікі ды калекцыянэры, ён вынайшаў для стасункаў з гасьцямі наступную мэтоду. Дамовіўшыся пра сустрэчу, Ізраіль пасьля званка ў дзьверы доўга глядзеў у вочка. Па той бок адчувалі, што іх выпрабавальна разглядваюць, і цярпліва або нецярпліва чакалі. Гэта магло доўжыцца дзясяткі хвілінаў. Урэшце гаспадар адчыняў дзьверы або закрываў вочка, і візытант заставаўся ні з чым.

Калі ўсё адбывалася менавіта так, Басаў меў падставы быць празьмерна недаверлівым ды зацятым.

# Ізраіль Басаў



Бясконца ён сустракаўся зь неразуменьнем, абыякавасьцю і проста подласьцю.

Паступіўшы па вайне ў Менскую мастацкую вучэльню, ён быў адлічаны «за касмапалітызм» і толькі дзякуючы моцнай падтрымцы выкладчыкаў і аднакурсьнікаў — адноўлены. Ён захапляўся жывапісам Сэзана і Фалька, плённа пераасэнсоўваючы іх у сваіх творах, але ў менскіх майстэрнях Мастацкага фонду мусіў маляваць партрэты савецкіх правадыроў. Кіраўніцтва Саюзу мастакоў абавязанае было паводле статуту прапанаваць Басаву да 50-годзьдзя пэрсанальную выставу, ды мастаку паставілі прыніжальную і абразьлівую ўмову: выстава павінна быць закрытай, без гледачоў і прэсы. Майстар адмовіўся.

Насуперак афіцыйнай эстэтыцы сацрэалізму Басаў заставаўся верны ўласнай творчай пазыцыі,

набліжанай да авангардызму, і стаў ці не найбольш яскравым прадстаўніком тагачаснага беларускага мастацкага андэграўнду. Ён любіў маляваць Вялікі горад. Сын Мацьвей, таксама мастак, згадвае, што бацька дзень пры дні, нават у моцныя маразы, выпраўляўся ў вандроўку па менскіх вуліцах, шукаючы вобразы, рытмы, сюжэты. Часу хапала. У 1972-м «у сувязі з рэарганізацыяй» Ізраіля звольнілі з мастацкага камбінату, і больш ён ужо нідзе і ніколі на службе не лічыўся.

Басаў зноў і зноў сутыкаўся з праявамі антысэмітызму. Мастака пасьлядоўна замоўчвалі, ня згадвалі хаця б у агульных пераліках, амаль не выстаўлялі на радзіме, хоць ягоныя палотны мелі ўдзячную публіку і высокія ацэнкі калегаў, калі экспанаваліся ў 1970-я гады ў Вільні і Кіеве. Права паказаць творы ў Беларусі яму вярнулі адно ў 1987-м у выніку некалькіх лістоў у Міністэрства культуры ў Маскву. Аднак усе тыя глухія гады майстар не паддаваўся роспачы, не разьвітваўся з мроямі пра вэрнісажы ў Ерусаліме і Нью-Ёрку.

Упершыню пэрсанальная выстава Ізраіля Басава ў Менску адбылася праз два гады пасьля ягонага разьвітаньня з гэтым сьветам і дарагім яму Вялікім усясьветным горадам. Каталёг надрукавалі пры падтрымцы Фонду Сораса. Велізарны посьпех напаткаў выставу да 100-годзьдзя маэстра, разгорнутую ў залях Нацыянальнага мастацкага музэю. Каля славутага басаўскага палатна «Спатканьне» мне здалося, што аўтар *адтуль* нарэшце шчасьліва глядзіць на ўсіх нас праз сваё вочка.

**Ізраіль Басаў**
7.10.1918, Мсьціслаў — 4.5.1994, Менск.
Пахаваны на менскіх Чыжоўскіх могілках.

Дагэтуль памятаю поціск ягонай моцнай і шурпатай, нібыта й не пісьменьніцкай рукі.

Памятаю таўшчэзныя тэчкі зь ягоным дагэтуль не надрукаваным 750-старонкавым дасьледаваньнем пра ўдзел фіна-воўграў у нашым этнагенэзе. Відаць, не ў мяне аднаго ў памяці неадназначны розгалас пасьля публікацыі ягонага артыкулу на гэтую ж тэму — «Племя пяці родаў».

Скончыўшы хімічны факультэт БДУ і маскоўскі Літаратурны інстытут, Іван Ласкоў, здавалася б, надзейна атабарыўся на жончынай радзіме ў Якутыі.

## Іван Ласкоў

Ён пісаў па-расейску, друкаваўся ў самых прэстыжных маскоўскіх часопісах — ад «Юности» да «Нового мира», выпусьціў дзьве прыхільна заўважаныя крытыкай паэтычныя кнігі... І раптам вярнуўся да беларускай мовы, на якой пачынаў вершаваць у школе.

*Жывая плынь чужое мовы!*
*Я сам ня ведаю, калі*
*Яе канчаткі і асновы*
*Мяне падманам аплялі.*
*Ды я ня зьведаў зь імі шчасьця,*
*Не прасьвятліў замерлы змрок,*
*Не прычасьціўся тых причастий,*
*Глаголом сэрцы не апёк.*

Трэцяя кніга выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1969-м па-беларуску. Моцна й сьвежа прагучала пазьней ягоная паэма «Кульга» зь нечаканым для нацыянальнай літаратуры героем — сярэднявечным заваёўнікам Тамэрлянам.

Іван быў чалавекам прынцыповым і гранічна бескампрамісным.

Расказваюць, што гэта менавіта ён вывеў на чыстую ваду аднаго нашага даволі вядомага літаратара,



які пераклаў на беларускую мову і выдаў пад сваім імем цэлую кніжку апавяданьняў калегі з расейскай глыбінкі.

Шукаючы ў якуцкіх архівах беларушчыну, Ласкоў неспадзявана выявіў і зрабіў здабыткам грамадзкасьці тое, што адзін з «бацькоў» якуцкай літаратуры Платон Аюнскі быў інфарматарам НКВД.

Рэакцыя была нечаканай і жорсткай.

Саюз пісьменьнікаў Якутыі абвінаваціў Ласкова ў паклёпе. Яму забаранілі друкавацца.

Газэты, радыё і тэлебачаньне распачалі кампанію цкаваньня пісьменьніка. Працягам сталіся пагрозы фізычнай расправы, якія гучалі праз тэлефон, ад незнаёмых сустрэчных на вуліцы.

Ласкоў, жонку якога гэтаксама зрабілі беспрацоўнай, па сутнасьці, застаўся бяз сродкаў да існаваньня. Сям'і пагражала жабрацтва.

Проста немагчыма было даць веры, што на календары 1994-ты.

Ён стаўся апошнім годам Іванавага жыцьця.

Том ягоных выбраных твораў выйшаў у «Беларускім кнігазборы». Паэт Леанід Дайнека азваўся вершам: *«Паміж салодкіх галаскоў / І слоў цукровых / Пачулі мы, Іван Ласкоў, / Твой бас суровы».*

**Іван Ласкоў**
19.6.1941, Гомель —
29.6.1994, Якуцк, Расея.
Пахаваны на якуцкіх Чыраеўскіх могілках.

## Пятро Конюх

Яму прысьвечаная адна з апошніх прыжыцьцёвых публікацыяў Янкі Брыля — невялікі, афарбаваны лёгкім усьмешлівым сумам успамін пра трохі старэйшага земляка, які ў трыццатыя гады мінулага стагодзьдзя быў у мястэчку Турэц гарманістам — найгалоўнейшым для тутэйшых падшыванцаў музыкам у духавым аркестры пажарнай каманды.

Яго клікалі Пятро Конюх, і ён ня толькі зухавата выцінаў на гармоніку, але і ўражваў сваім голасам прыхаджанаў мясцовай царквы, «а калі выходзіў з клірасу да аналою й урачыста чытаў магутным басам «Апостала», рэчытатыў быў такі, што вісюлькі панікадзіла дрыжалі, гайдаліся й пазвоньвалі».

Праз колькі гадоў ягоным басам захапляліся ўжо жаўнеры й афіцэры польскай арміі генэрала Андэрса, у якой Пятро ваяваў з нацыстамі. У 1945-м ён атрымаў вайсковую стыпэндыю, каб дасканаліць талент у Рымскай Акадэміі мастацтваў.

Невераемная шырыня галасавога дыяпазону, яго тэмбравая афарбоўка і моц дазвалялі яму выконваць вядучыя партыі ў «Фаўсту» Ш. Гуно, «Барысу Гадунову» М. Мусаргскага, «Дону Карласу» Дж. Вэрдзі. Нейкі час Пятро Конюх выступаў у Італіі й гастраляваў па Эўропе, а потым атабарыўся ў Амэрыцы. Безь ягонага магутнага басу амаль трыццаць гадоў немагчыма было ўявіць знакамітага на эміграцыі Хору данскіх казакоў.

Пятро Конюх перамагаў на Міжнародным конкурсе вакалістаў у Рыме, выкладаў сьпевы ў уласных школах у Гамбургу і Нью-Ёрку, але ніколі не забываў Беларусі: сьпяваў па-беларуску, ліставаўся з Рыгорам Шырмам і Янкам Брылём.

Калісьці мяне запрасілі на сьвята апошняга званка ў Турэцкую беларускую школу. Неспадзявана для настаўнікаў тудысама без папярэджаньня заявіўся і загадчык мясцовага райана (дарэчы,



толькі ён на ўрачыстай лінейцы выступіў па-расейску). Гасьцей паводле завядзёнкі запрасілі потым на пачостку, падчас якой маладая выкладчыца гісторыі пачала распытваць мяне, як палачаніна, пра сьвятую Эўфрасіньню й заснаваны ёю манастыр.

Пачуўшы, што ў гады майго дзяцінства ў Крыжаўзьвіжанскім саборы зачыненага манастыра паселеная ў кельлях набрыдзь (гэта пра яе была тады такая песенька: «Мой адрес — не дом и не улица, мой адрес — Советский Союз») трымала сьвіней, настаўніцы завойкалі й захіталі галовамі. «Затое ў людзей было мяса», — жуючы пхануюю пальцам каўбаску, заўважыў загадчык райана.

Ня вельмі спадабалася яму й размова пра Пятра Конюха: маўляў, эмігрант, адпалы ліст. Я востра пашкадаваў, што ня маю з сабою запісу, дзе бас Конюха сьпявае «Магутны Божа», і весела падумаў: ад яго гэты раённы начальнік мог бы затрымцець, як тыя згаданыя Брылём вісюлькі ў панікадзіле.

**Пятро Конюх**
8.3.1910, мяст. Турэц, цяпер Карэліцкі раён —
14.7.1994, Сэнт-Кэтэрынз, правінцыя Антарыё, Канада.
Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку,
штат Нью-Джэрзі, ЗША.

Мы не былі сябрамі. Ён, старэйшы ўсяго на некалькі месяцаў, рана пачаў друкавацца і — калі я яшчэ нясьмела марыў пра першую публікацыю — ужо працаваў у часопісе «Полымя», галоўным на той час літаратурным выданьні рэспублікі.

Уладзіслаў пісаў «правільныя» апавяданьні, якія нярэдка друкаваліся ў сьвяточных нумарах «ЛіМу». Іхнімі героямі рабіліся то вэтэраны, то, як тады пісалі ў розных ідэалягічных пастановах, «людзі працы». Адзіным, што мяне прываблівала ў ягоных творах, была добрая беларуская мова.

Нашыя стасункі ня сталі бліжэйшымі і тады, калі я ў 1988-м стаў супрацоўнікам выдавецтва «Мастацкая літаратура», дзе Рубанаў загадваў аддзелам прозы і быў сакратаром партыйнай арганізацыі.

# Уладзіслаў Рубанаў



Але пасьля Дзядоў таго году штосьці паміж намі зрушылася. Не, яго не было тады ні на Ўсходніх могілках, ні ў полі каля Курапатаў, аднак, калі мяне за выступ на мітынгу 30 кастрычніка пачалі назаўтра ж звальняць з працы, Уладзіслаў Рубанаў цалкам нечакана аказаўся сярод маіх актыўных абаронцаў.

Якраз тады мне да рук трапіў часопіс «Крыніца» з апавяданьнем Рубанава «Артыстка», і я з радасным зьдзіўленьнем убачыў, што ён можа пісаць абсалютна іначай — нязмушана-лёгка, з празрыстай таямнічай глыбінёю, з гульнёй падтэкстаў ды імкненьнем спасьцігнуць парадоксы жыцьця.

Уладзіслаў Рубанаў стаўся яскравым прыкладам таго, як вольнае паветра тых гадоў разьнявольвала людзей мастацтва.

Ён на вачах рабіўся чалавекам унутрана свабодным, вызваленым ад нядаўніх догмаў і схемаў, захопленым зусім іншымі ідэямі, героямі й сюжэтамі.

З шэрага вопрадня выбаўляўся, каб узьляцець, новы, цікавы й арыгінальны, глыбока нацыянальны пісьменьнік, што засьведчыла публікацыя ў першых нумарах «Маладосці» за 1994 год ягонага раману «Не аднойчы забіты».

У творы сутыкаліся тры сьветы: фізычная паўсядзённасьць, рэальнасьць сноў і космас душаў тых, хто ўжо прайшоў свой зямны шлях.

На думку аўтара, мяноўна гэты, трэці сьвет, дзе сілы згоды, любові і гармоніі знаходзяцца ў жорсткім супрацьстаяньні зь сіламі хаосу і разбурэньня, і кіруе нашым быцьцём.

Раман вельмі паўплываў на Рубанава. Нязвыкла маўклівы і засяроджана-заглыблены, ён, здавалася, сапраўды здолеў зазірнуць у сфэры забароненыя і небясьпечныя.

Магчыма, так і было, бо празь некалькі месяцаў Уладзіслаў раптоўна і невытлумачальна сустрэў сьмерць на сорак другім годзе жыцьця.

На пахаваньні мы гаварылі, што яго сыход — страта для нашай літаратуры, і гэтыя словы не былі дзяжурнай рыторыкай.

Калі па той бок жыцьця сапраўды існуе апісаны Ўладзіславам сьвет бясконцага змаганьня, ягоная душа — на баку ваяроў сьвятла.

**Уладзіслаў Рубанаў**
15.12.1952, в. Аляксандраўка-1, Слаўгарадзкі раён — 21.7.1994, Менск.
Пахаваны на менскіх Міханавіцкіх могілках.

## Сяргей Новік-Пяюн

Пераехаўшы з Полацку ў Менск, я нечакана даведаўся, што наняў кватэру побач з домам, дзе жыў аўтар адной з маіх найулюбёнейшых песьняў.

Песьня, якую я ўпершыню пачуў у выкананьні паэта і барда Сержука Сокалава-Воюша, а затым — беларускага сьпевака з Амэрыкі Данчыка, называлася «Зорачкі», а яе аўтарам быў Сяргей Новік-Пяюн.

Праз пару дзён я ўжо разглядаўся ў ягонай падобнай да музэю аднапакаёўцы з кніжнымі рарытэтамі, карцінамі Пётры Сергіевіча і нотнымі сшыткамі Рыгора Шырмы. Увішны вясёлавокі ўладальнік усяго гэтага багацьця тым часам разыгрываў сваю, як потым выявілася, традыцыйную пры нейчым першым візыце сцэнку. «Сядай, сядай, даражэнькі».

Госьць сядаў, а гаспадар, якому тады даўно ўжо ішоў дзявяты дзясятак, працягваў стаяць. Візытант, натуральна, прасіў прысесьці й самога Сяргея Міхайлавіча. І тады той жыцьцярадасна адказваў: «А я, даражэнькі, ужо наседзеўся. Сядзеў пры ўсіх: пры паляках, пры немцах, пры саветах...»

Усё было праўда. За палякамі яго высылалі й саджалі ў турму за стварэньне ў родных бацькавых Лявонавічах беларускай бібліятэкі, нелегальнай школы, тэатральнага гуртка і народнага хору. Нацысты кінулі Новіка-Пеюна ў Калдычэўскі лягер сьмерці за сувязь з партызанамі. Савецкі суд у 1945-м узнагародзіў паэта дзесяцьцю гадамі Калымы за мітычнае супрацоўніцтва з акупантамі.

Ён усё вытрымаў, захаваўшы і своеасаблівае пачуцьцё гумару, і давер да людзей, і я сказаў бы, эпікурэйскае стаўленьне да жыцьця, і нязводную веру ў сьветлую зорку Айчыны.

Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі й унівэрсальная Беларуская Энцыкляпэдыя дружна пашыраюць «дэ-



зу», паведамляючы, што зборнік Сяргея Новіка-Пеюна «Песьні з-за кратаў» застаўся ў рукапісе. Насамрэч гэтая ўнікальная, амаль цалкам напісаная ў няволі кніга пабачыла сьвет у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1993 годзе, і аўтар яшчэ прыгожа падпісаў мне яе сваім непаўторным бісэрным почыркам, які быў, відаць, вынікам аднолькавай нястачы паперы ў самых розных турмах, дзе ён сядзеў за Беларусь.

Новік-Пяюн стварыў болей за сто песьняў. Далёка ня ўсе калегі Сяргея Міхайлавіча маглі б пахваліцца, што хоць адна зь іхніх песьняў стала народнай яшчэ пры жыцьці аўтара. Новік-Пяюн падараваў нам такіх цэлыя дзьве — «Над Шчарай» («Слонімскі вальс») і згаданыя ўжо «Зорачкі». Вы, пэўна ж, таксама ведаеце іхнюю шчымлівую мэлёдыю:

*Ўночы зорачкі прыветліва мігцяць,*
*Быццам зь неба на мяне яны глядзяць...*
*Што чуваць, скажэце, зорачкі, вы мне*
*Ў маёй роднай ды далёкай старане?..*

**Сяргей Новік-Пяюн (ад нараджэньня Новік)**
27.8.1906, Санкт-Пецярбург*, Расея —
26.8.1994, Менск.
Пахаваны ў в. Лявонавічы, Нясьвіскі раён.

* Энцыкляпэдыі падаюць памылковыя зьвесткі пра месца нараджэньня Сяргея Новіка-Пеюна.

Сябры казалі, што вялікае й мізэрнае, высокае й нізкае, прарочае й аблуднае спалучаліся ў ім — паэту ад Бога — неверагодна арганічна. Я сустракаўся зь ім усяго тройчы, і першае ўражаньне — о, як шмат зацятасьці, вальналюбнасьці й бунтоўнасьці ў гэтым, нечым падобным да дзядка-лесавічка худзенькім юнаку з хворым сэрцам! — з кожным разам рабілася ўсё мацнейшым.

Тыя навіны пра Андрэя, што я чуў ад агульных сяброў з Таварыства вольных літаратараў, стваралі жыцьцяпіс, падобны да паданьня.

## Андрэй Пяткевіч

У 1989-м на вечарыне ў Гарадзенскім унівэрсытэце студэнт Пяткевіч, вядомы як адзін з стваральнікаў сумнеўнай з гледзішча ўладаў суполкі «Верш-гурт Дыяген», прадэклямаваў свой паэтычны твор «Над нашай краінаю свастыкай зорка...». Вынікам гэбісцкіх допытаў сталася публікацыя ў газэце «Пагоня» скандальнага Андрэевага артыкулу «Паэт і камітэт».

Працягваць навучаньне пасьля тых падзеяў ён ня здолеў і жыў у роднай наваградзкай вёсцы на інвалідную пэнсію й сродкі ад зьбіраньня зёлак. У вольны ад гэтага занятку час Андрэй шмат пісаў.

*Хто мяне чакае ўночы?*
*Можа, д'ябал, мо Хрыстос?*

Тыя гады былі для яго пэрыядам своеасаблівага богашукальніцтва. «Я хаця лічу сябе постверНікам, але «Бог» заўсёды пішу зь вялікай літары», — прызнаваўся Андрэй.

Заўзята і вынаходліва змагаючыся з хлусьнёй у розных яе іпастасях, Пяткевіч зарэкамэндаваў сябе ўмелым ды вясёлым кансьпіратарам і містыфікатарам. 14 ліпеня 1990 году сьвіслацкая раёнка «Заветы Ильича» надрукавала ягоную бяскрыўдную, на першы по-



гляд, рыфмаванку, што, як неўзабаве выявілася, была шкодніцкім акравершам «КПСС — наш вораг».

Асаблівую пікантнасьць публікацыі надавала тое, што верш зьявіўся ў тым нумары, дзе паведамлялася пра XXVIII зьезд кампартыі Савецкага Саюзу.

Пазьней Андрэю прапаноўвалі аднавіцца ва ўнівэрсытэце. Ён адказаў вершам:

*Мая бочка — калгас,*
*А я сам — Дыяген.*
*Не вярнуся да вас,*
*Не схілю я кален!*

Дзень ягонага разьвітаньня з жыцьцём невыпадкова зусім побач з датай першага ініцыяванага рэжымам рэфэрэндуму. Андрэй зацята спрачаўся з аднавяскоўцамі ды з бацькамі. Урэшце сэрца канчаткова стамілася.

*А я, напэўна, застануся з птушкамі,*
*Пакіну людзям непатрэбны тлум.*
*Дзе ветрык раніцай туманы гушкае,*
*Я адзіноту зноў сваю нясу...*

Усе ягоныя дзёньнікі й сшыткі зь вершамі бацька спаліў.

**Андрэй Пяткевіч**
13.6.1966, в. Уселюб, Наваградзкі раён —
29.4.1995, в. Уселюб.
Пахаваны ў Уселюбе.

Працуючы разам зь ім у выдавецтве «Мастацкая літаратура», чаго толькі я ні наслухаўся: і таго, што Барыс Сачанка — палкоўнік КГБ, і таго, што ў кожнай выдавецкай рэдакцыі дзейнічае ягоная агентура... Ня буду сьцьвярджаць, што ўсё гэта чуткі й міты. Ня ведаю. Але ведаю іншае.

Канец вайны засьпеў дзевяцігадовага Барыса ў Нямеччыне. Адзін Сачанкаў зласьлівец любіў казаць: «Лепей бы ён застаўся!»

Думаю, што асабіста Сачанку ў такім выпадку, можа, і сапраўды было б лепей, а вось беларускай культуры — відавочна, не. Тады нехта іншы мусіў бы стаць аўтарам зьмешчанага ім у 1957-м у «ЛіМе» артыкулу «Шанаваць родную мову», што выклікаў дыскусію, перадрукоўваўся ў эміграцыйнай прэсе і, натуральна, зацікавіў гэбістаў. Праўда, Сачанка нейкім чынам атрымаў дараваньне «грахоў», бо пазьней працаваў у часопісе «Полымя», у Саюзе пісьменьнікаў, езьдзіў дэлегатам ад Беларускай ССР на сэсію ААН у Нью-Ёрк.

## Барыс Сачанка

Выдаючы кнігу за кнігай і нават атрымліваючы за іх прэміі, Барыс Іванавіч, мне здаецца, і сам з гадамі ўсё больш разумеў, што ягоная місія ў нашай культуры палягае ў іншым.

Загадваючы ў выдавецтве рэдакцыяй перакладной замежнай літаратуры, ён вытрымаў змаганьне на нейкіх узроўнях у Маскве і распачаў выпуск беларускамоўных зборнікаў дэтэктываў і фантастыкі, сэрыі «Скарбы сусьветнай літаратуры», кнігі зь якой зьбіралі замоваў на 10—15-тысячныя наклады.

Адразу, калі гэта сталася магчымым, Сачанка ўзяўся друкаваць артыкулы й укладаць зборнікі, дзе легалізоўваліся дзясяткі забароненых раней імёнаў і твораў — літаратараў, зьнішчаных у гады сталінізму, і пісьменьнікаў-эмігрантаў. Ці ня ён першы сказаў слова праўды пра сьмерць Янкі Купалы?



Вядома, ішлі размовы пра тое, што ўсё гэта адбываецца з дазволу КГБ, пагатоў дома ў Барыса Іванавіча была цэлая бібліятэка яшчэ нядаўна крамольнай літаратуры — сапраўдны філіял спэцсховаў. Але факт застаецца фактам: некалькі гадоў ён адзін працаваў, як цэлая літаратуразнаўчая інстытуцыя.

Ягоны пераход у 1993-м на пасаду галоўнага рэдактара выдавецтва «Беларуская энцыкляпэдыя» быў цалкам заканамерны.

У 1995-м усьцешыў чытачоў таўшчэзны энцыкляпэдычны даведнік «Беларусь» — дзе, як дакладна адзначыў у сваім водгуку Сяргей Дубавец, «упершыню за ўсю гісторыю наша легальнае і дазволенае было аб'яднанае з нашым нелегальным, забароненым і забытым — у адно цэлае».

Апантаны працаю на карысьць нацыянальнай ідэі, Барыс Сачанка стаўся для ўлады асобаю нязручнай.

Неўзабаве пасьля рэфэрэндуму 1995-га ён, не дажыўшы і да шасьцідзесяці, нечакана памёр у працоўным кабінэце. Перад гэтым быў выклік у адміністрацыю «галоўнага гісторыка краіны», дзе загадалі зьняць з вокладкі новага тому гістарычнай энцыкляпэдыі «Пагоню».

Энцыкляпэдычны даведнік «Беларусь» больш не перавыдаваўся.

**Барыс Сачанка**

15.5.1936, в. Вялікі Бор, Хойніцкі раён — 5.7.1995, Менск.

Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

Ён быў з тых, пра каго кажуць: як ня з гэтага сьвету. Гаворачы зь ім у бібліятэцы, за каваю або на кіназдымках, я ня раз лавіў сябе на адчуваньні, што ён тут, побач са мной, і ў той самы момант недзе ў іншым вымярэньні.

Мы затаварышавалі з Аляксеем падчас працы над фільмам «Эўфрасіньня Полацкая», які ў 1989-м паводле майго сцэнару здымала ў Полацку і Кіеве кінастудыя «Летапіс». Мельнікава, які толькі што пераехаў у Менск і стаў супрацоўнікам акадэмічнага Інстытуту літаратуры, запрасілі навуковым кансультантам. Лепшай кандыдатуры нельга было і ўявіць. Аляксей якраз падрыхтаваў да абароны дысэртацыю, прысьвечаную жыцьцяпісам беларускіх сьвятых. Дзякуючы яму ўпершыню загучалі па-беларуску «Жыціі» Эўфрасіньні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Аўрама і Мэркура Смаленскіх...

# Аляксей Мельнікаў



Аляксей быў глыбокім дасьледнікам і ня менш глыбокім хрысьціянінам. Нягледзячы на сваю навуковасьць, яго рукапісы й кнігі, якіх Аляксей ужо не пасьпеў убачыць, — «Найпадобнейшая Эўфрасіньня Полацкая» і «Кірыл, япіскап Тураўскі: жыцьцё, спадчына, сьветапогляд» — чытаюцца лёгка й захапляльна. За імі паўстае высакародны элегантны вобраз маладога вучонага, бліскучага палеміста, вытанчанага эстэта. Адна

з нашых агульных сяброваак напісала ў успамінах пра Аляксеева ўменьне апранацца, як «лёнданскі дэндзі». Насамрэч гэты дэндзі быў менскі — у белым гарнітуры і сьнежнай кашулі зь яркім чырвоным гальштукам.

Неяк у маёй зь ім спрэчцы Аляксей урэшце пагадзіўся з думкаю, што маральнага прагрэсу не існуе. Я, памятаецца, казаў пра матрыцу гісторыі, якая ўдрукоўвае адны й тыя ж сытуацыі ў розныя эпохі, а чалавек, што апынаецца перад маральным выбарам, — той самы.

Ужо па сыходзе Аляксея ў іншасьвет я адшукаў у адным зь ягоных тэкстаў афарыстычнае рэзюмэ да той нашай размовы: «Сапраўды, гісторыя — гэта мы самі, але вельмі даўно».

У Хрыстовым веку яго знайшлі забітым у сьценах уласнай кватэры.

Сьвятло таленту Аляксея працягвае ісьці да нас. Выдавецтва «Чатыры чвэрці» выпусьціла важкі том «Зь неапублікаванай спадчыны», куды, апрача манаграфій і артыкулаў, увайшлі ягоныя напоўненыя прадчуваньнем трагедыі вершы:

*Госпад ішоў супакоеным горадам,*
*сіняю замецьцю, шляхам нябачным:*
*небам, азораным зорамі, зорамі;*
*сьветам, асьвечаным плачамі, плачамі.*

*Позьні вандроўнік, вар’ят і паэта,*
*гнаны ў бяссоньне натхнёнаю марай,*
*убачыў, адзіны, пайшоў за ім сьледам,*
*сьветла ўздыхнуўшы: «Нарэшце, Ўладару!»*

**Аляксей Мельнікаў**
9.11.1962, Гомель — 13.8.1995, Менск.
Пахаваны на гомельскіх Паўднёвых могілках.

*Добра шапку закінуць пад лаву —*
*хай пад лаваю лета жыве.*
*Людзі скажуць: шаўковыя травы*
*парасьлі на маёй галаве.*

*Добра любую мецць на прыкмеце*
*і любіць, колькі сілы стае.*
*Можа, будзе свавольнік-вецер*
*мне насіць пацалункі яе.*

Каб пісаць такія сонечна-бесклапотныя вершы ў 1942-м, іх аўтар мусіў мець магутны зарад

## Лявон Случанін

аптымізму й жыцьцёвай трывушчасьці. Як ні парадаксальна, гэты зарад Лявон Случанін атрымаў у лягерах на Беламорканале, куды трапіў у 1937-м.

Напярэдадні вайны яму пашчасьціла вырвацца з жорнаў ГУЛАГу і нават два гады папрацаваць настаўнікам. Беларускае школьніцтва давала Лявону магчымасьць заробіць на хлеб і ў гады нямецкай акупацыі. Разам зь землякамі-паэтамі Янкам Золакам і Ўладзімерам Клішэвічам ён выдаў тады зборнік «Песьняры Случчыны».

У той самы час была створаная гістарычная паэма «Рагнеда», якой пашчасьціла выходзіць кнігамі тры разы: у 1944-м — у Вільні, у 1958-м — у Сыднэі й у 1994-м — у Салігорску.

Апошняе выданьне было прымеркаванае да 80-годзьдзя аўтара, перад якім мы з спадаром Лявонам абмяняліся сваімі кніжкамі, і я пачуў аповед аб тым, як эміграцыйны часопіс «Шыпшына» з глыбокім жалем паведаміў пра «заўчасную сьмерць выдатнага беларускага паэта Случаніна», які па вайне безразважна вярнуўся зь Нямеччыны ў Беларусь і быў засуджаны бальшавікамі на пятнаццаць гадоў зьняволеньня і пяць гадоў пазбаўленьня правоў як беларускі



Лявон Случанін з настаўніцай беларускай мовы і літаратуры Марыяй Мацюкевіч і салігорскай моладзьдзю. 1990-я гады

нацыяналіст ды аўтар антысталінскіх вершаў. Усё, апрача «заўчаснай сьмерці», было праўдай, і на родную Случчыну Лявон Раманавіч здолеў пераехаць з Комі АССР толькі ў 1973-м.

«Рагнеда нас лучыць, Валодзя», — амаль вершам сказаў ён, а я дакляраваў аздобіць фрагмэнтамі ягонай паэмы разьдзел пра непакорлівую Рагвалодаву дачку ў адным з будучых выданьняў маёй кнігі «Ад Полацку пачаўся сьвет».

«Ты ведаеш, а яна, Рагнеда, мне сьніцца, — прызнаўся спадар Лявон. — Ды яшчэ як!»

**Лявон Случанін (ад нараджэньня Шпакоўскі)**
15.10.1914, в. Лучнікі, цяпер Слуцкі раён —
25.10.1995, Салігорск.
Пахаваны ў в. Чыжэвічы, Салігорскі раён.

Habent sua fata libeli — і кнігі маюць свой лёс. Лёс адной зь яе нешматлікіх кнігаў спачатку складаўся зусім непамысна.

Нeяк увечары паэт Аркадзь Куляшоў добра сядзеў з калегам Максімам Лужаніным у гародчыку на лецішчы ў апошняга. З дому раптам выйшла гаспадыня з цэлым абярэмкам нейкіх папераў і нататнікаў.

— Ты куды? — пацікавіўся Лужанін.

— Да суседзяў, — кіўнула жонка на плот, з-за якога цягнула дымам ад вогнішча.

— А што нясеш?

— А які вам, пісьменьнікам, клопат?

## Яўгенія Пфляўмбаўм



Куляшоў, сьцяміўшы, у чым рэч, ускочыў і, заступіўшы дарогу, адабраў паперы. Гэта былі вершы. Не лужанінскія, а той, якая й асудзіла іх на спаленьне.

— Будзем друкаваць і рабіць кнігу, — пагартаўшы сваю здабычу, сказаў госьць. — Рэдагую я.

Гаспадыня нечакана хутка згадзілася. Праўда, як на бяду, Куляшоў неўзабаве адышоў у лепшы сьвет, і выхад кнігі адклаўся яшчэ на дзесяць гадоў, пакуль за справу ня ўзяўся паэт Анатоль Вярцінскі.

Аўтарку вершаў, якія ў 1989-м выйшлі кнігаю «Сувой жыцьця», звалі Яўгенія Пфляўмбаўм. Яе папярэдняя публікацыя ў калектыўным зборніку датавалася 1926-м.

Дачка беларускі й ра-

бочага-чыгуначніка родам зь Нямеччыны, прозьвішча якога яна захавала і ў замужжы, спадарыня Пфляўмбаўм стала адной з найцікавейшых беларускіх паэтак XX стагодзьдзя, якую знаўцы параўноўваюць з славутай амэрыканкай Эмілі Дыкінсан. Відаць, было б неабачліва сьцьвярджаць, што няпросты лёс не спрыяў гэтаму. Мо якраз наадварот: выпрабаваньні й нягоды пераплаўляліся ў радкі высокае пробы?

*Мела ты ўсяго нароўні:*
*Зьдзекаў, скруты, жменьку шчасьця,*
*Але скрозь жыла варожасьць,*
*І магла ты зноў упасьці...*

*Ды ўтрымалася, — на рукі*
*Падхапілі людзі з сэрцам,*
*І падслухала я згукі,*
*Што бываюць перад сьмерцю...*

У 1933-м яна, прадаўшы, каб набыць чыгуначны квіток, уласную бібліятэку, паехала ўсьлед за асуджаным на два гады мужам у Марыінск. Жывучы пасьля Сібіры ў Маскве, бо шлях у Беларусь быў закрыты, Яўгенія ў вайну была байцом супрацьпаветранай абароны.

Яе творчы партрэт будзе няпоўным, калі не сказаць, што спадарыня Пфляўмбаўм шмат перакладала: з ангельскай — Байрана і Джэка Лондана, з расейскай — прозу й драматургію Чэхава і Горкага. Калі вам давядзецца чытаць беларускія пераклады гэтых аўтараў, дзе ў якасьці перакладчыка фігуруе Лужанін, ня верце. Шкада, што я не пасьпеў запытацца ў старога, што змушала яго ўсё жыцьцё прысвойваць сабе таленавітыя жончыны пераклады. Дзякуй богу, што хоць ня вершы.

**Яўгенія Пфляўмбаўм**
1.11.1908, Менск — 13.1.1996, Менск.
Пахаваная на могілках у в. Паперня, Менскі раён.

Вы заўважалі, што прозьвішчы нярэдка надзіва адпавядаюць іх уладальнікам? Так было і зь ім, Барысам, якога шмат хто сапраўды ўспрымаў як чалавека ня толькі блізкага ў поглядах і перакананьнях, але і роднага па крыві. Усё, што я ведаю пра яго, пераконвае: мне б хацелася мець такога старэйшага брата.

Барыс Родзіч арганічна ня мог трываць несправядлівасьці й хлусьні.

Неяк на самым пачатку 1990-х маскоўская газэта «Правда» зьмясьціла паскудную «стацейку» свайго карэспандэнта ў Беларусі Алега Сьцепаненкі «Мама, возьми гадильник».

# Барыс Родзіч



Гэтую зьдзеклівую, пачынаючы з назову, пісаніну, скіраваную супраць вывучэньня беларускай мовы ў пачатковых клясах, дый наагул супраць нашае мовы, хуценька і сэрвільна перадрукавала «Советская Белоруссия».

Напісаны Барысам і ягоным сябрам адказ «Клевета — не аргумент» там, натуральна, друкаваць адмовіліся. Але артыкул ужо на наступны дзень апублікавала тагачасная «Народная газета» на чале зь Ёсіфам Сярэдзічам.

Барыса Родзіча хапала, здаецца, на ўсё.

Ён засноўваў разам зь Міхасём Ткачовым, Алегам Трусавым, Міхасём Чарняўскім Беларускую сацыял-дэмакратычную Грамаду. Ствараў на сваім заводзе суполкі Таварыства беларускай мовы і Свабоднага прафсаюзу.

Стаў адным з заснавальнікаў мэмарыяльнага фонду «Трасьцянец»...

Яшчэ за савецкім часам у яго можна было разжыцца «Расійска-крыўскім слоўнікам» Вацлава Ластоўскага і выдадзеным замежнымі суайчыньнікамі «Кароткім аглядам гісторыі Беларусі», што разбураў савецкія гістарыяграфічныя міты.

Родзіч вельмі даражыў суседзтвам і знаёмствам з Васілём Быкавым, зь якім быў у адной суполцы Беларускага Народнага Фронту.

На Барысавым 55-годзьдзі ягоны сябар і паплечнік Мікола Лавіцкі прачытаў акраверш «Родзіч», апошні радок якога гучаў, тады здалося, занадта трывожна: «Час паляваньня на родзіча».

Але за вакном была вясна 1994-га, і гэты час ужо няўхільна набліжаўся.

Барыс ніколі ня скардзіўся на здароўе й абяцаў, што пражыве да ста гадоў. Аднак пасьля рэфэрэндуму 1995 году, які ён успрыняў як асабістую трагедыю, Родзіча апанавалі хваробы.

Яго паклалі ў шпіталь лекаваць ад язвы, а праз колькі дзён сям'і сказалі: сканаў ад сардэчнай недастатковасьці. Відаць, так насамрэч і было, але міжволі згадваецца, што менавіта такі дыягназ паведамлялі ў сталінскія часы родным расстраляных «ворагаў народу».

Родзіча хавалі пад бел-чырвона-белым сьцягам і пад пільным вокам некалькіх невядомых нікому людзей. Аўтамабіль зь імі зьехаў адно тады, калі над магілаю людзі засьпявалі «Магутны Божа» — як быццам сам наш хрысьціянскі гімн адпрэчыў сатанінскую сілу.

**Барыс Родзіч**
9.4.1939, Барысаў —
6.5.1996, Менск.
Пахаваны на могілках у пас. Калодзішчы, Менскі раён.

Апынуўшыся на Адрыятычным узьбярэжжы, я кожны раз, заходзячы ў неверагодна чыстую смарагдавую ваду, мусіў пераадольваць псыхалягічны бар'ер: з другога боку Апэнінскага «батфорту» такое самае цёплае ласкавае мора забрала жыцьцё майго добрага прыяцеля Міколы Селешчука — мастака зь вечна затоенай у нібыта вясёлых вачах тугою.

Нейкі час мы жылі зь ім у суседніх панэльных дамах у менскай Серабранцы, і Мікола часта падвозіў мяне на «Волзе» ў «горад».

Ён меў ненашмат больш гадоў, але мне здавалася, што ягоныя творы, прынамсі, фантасмагарычныя ілюстрацыі да народных казак, я памятаю ад школы.

# Мікола Селяшчук



Селяшчук, Селя, быў і застаецца для мяне мэтрам, адным з самых улюбёных беларускіх мастакоў. Думаю, што не для мяне аднаго: на выставах каля ягоных карцінаў заўсёды клубілася публіка.

Я й цяпер бязь цяжкасьці — быццам перагортваю альбом рэпрадукцыяў — бачу яго палотны: «Наведваньне сядзібы Агінскага ў Залесьсі», «Матылькі тут не жывуць», «Гучаньне музыкі нябёсаў», «Люблю цябе сустракаць»...

Мікола быў адным з тых, каму яшчэ за савецкім часам пашчасьціла вырвацца за мяжу. Прагна пашыраючы для сябе сьвет, ён і сам імкнуўся адкрыцца сьвету сваім мастацтвам.

Яго падкрэсьлена далёкія ад апавядальнасьці працы, што ўдала спалучаюць сюррэалістычную манеру з вобразамі беларускага фальклёру й гісторыі, можна ўбачыць у галерэях розных краінаў і кантынэнтаў — ад Фінляндыі ажно да Экватарыяльнай Гвінэі.

Апошні раз мы сустрэліся зь Селем на Чарнобыльскім шляху 1996-га. Ён апынуўся ў самым эпіцэнтры гарачых падзеяў на плошчы Якуба Коласа і потым шмат разоў мільгаў на тэлеэкранах, зь якіх краіну страшылі нацыяналістамі, экстрэмістамі ды іншымі «дэструктыўнымі элемэнтамі». Гэта зусім не стасавалася зь ягоным характарам, і калі Селю казалі, што ўчора той зноў учыняў у тэлевізары беспарадкі й перакульваў машыны, ён страшэнна бянтэжыўся.

Сталася так, што ён пакінуў нас у тым самым годзе.

Літаратуру ад бэлетрыстыкі адрозьнівае наяўнасьць мэтафізыкі. Такі крытэр сапраўднасьці мастацтва можа прэтэндаваць на ўнівэрсальнасьць.

У творах Селі мэтафізыка заўсёды прысутнічала. Не абышлося безь яе і ў ягонай сьмерці. Міжволі перад вачыма зьяўляецца Міколава напоўненае містычным прадчуваньнем палатно з мужчынскім целам на шпітальнай каталцы — на тле абыякава-здаволенага алавянага мора.

Толькі раніцой ён вярнуўся ў курортны італійскі гарадок з Рыму, які марыў убачыць з маленства.

Падступная хваля падпільнавала яго каля самага берагу. Кажуць, у лёгкіх нават не было вады. «Патануў?!» — роспачна ўскрыкнула маці мастака, пачуўшы пра Селеву сьмерць.

**Мікола Селяшчук**
4.8.1947, в. Вялікарыта, Маларыцкі раён —
25.9.1996, Сабаўдыя, Італія.
Пахаваны на берасьцейскіх могілках Камяніца Жыравецкая.

Ягоную зьнятую паводле аповесьці расейскага пісьменьніка Паўла Ніліна лірычна-паэтычную стужку «Праз могілкі» ЮНЭСКО ў 1994-м улучыла ў лік найлепшых ста фільмаў. Тадысама ў сувязі з 100-годзьдзем кінэматаграфіі беларуса Віктара Турава ў ліку іншых выдатных дзеячаў усясьветнага кіно ўвялі ў ганаровы камітэт для сьвяткаваньня гэтае даты.

Але для мяне вяршыняю творчасьці Віктара Турава сталася экранізацыя мележаўскіх «Людзей на балоце». Я глядзеў яе тры разы з інтэрвалам у адзін дзень. «Вінаватыя» былі ня толькі рэжысэрскае майстэрства, бліскучы склад актораў і літаратурная аснова, але і тое, што героі фільму гаварылі па-беларуску. Усё разам гэта нараджала мары пра наш, беларускі кінэматограф.

## Віктар Тураў



Фільм атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР і прызы некалькіх міжнародных кінафэстываляў. Працяг — «Подых навальніцы» — быў, як нярэдка здараецца, слабейшы, хоць для іншага рэжысэра лічыўся б бясспрэчнай удачай.

У 1989-м я меў радасьць рэдагаваць першы поўны пераклад «Шляхціча Завальні» Яна Баршчэўскага. Праз год, амаль адначасова з кнігаю, зьявіўся і тураўскі «Шляхціч» — на жаль, ужо адзін з апошніх яго значных фільмаў.

На першы погляд, ён не канфліктаваў з уладамі: быў народным артыстам, першым сакратаром праўленьня



Сябрамі Віктара Турава былі Ўладзімір Высоцкі й Марына Ўладзі

Саюзу кінэматаграфістаў рэспублікі, езьдзіў па сьвеце. Аднак Віктар, які скончыў Усесаюзны інстытут кінэматаграфіі ў 1960-м, а потым у той самы час яшчэ й займаўся ў творчай майстэрні Аляксандра Даўжэнкі, назаўсёды застаўся шасьцідзясятнікам — чалавекам, што зрабіў глыток свабоды і ня выдыхнуў яе з душы. Пра гэта сьведчыла і шматгадовае сяброўства з Уладзімерам Высоцкім і Марынай Уладзі.

60-годзьдзе ён адзначаў у Тэатры кінаактора, а потым у рэстаране гатэлю «Кастрычніцкі» пад пільным кантролем мэдыкаў, ужо безнадзейна хворы. Роўна праз тыдзень у той самай залі адбываліся памінкі, на якіх калега, Міхаіл Пташук, сказаў, што Тураў — першы ў беларускай кінэматаграфіі чалавек, які вывеў «людзей з балота» на міжнародны экран.

**Віктар Тураў**
25.10.1936, Магілеў —
31.10.1996, Менск.
Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

## Уладзімер Салавей

«Свабодны розум ня можа трываць няволі», — было сказана яшчэ ў антычным сьвеце.

На пачатку 1946-га настаўнікі і моладзь Слонімшчыны заснавалі падпольную беларускую арганізацыю з канспірацыйным назовам «Чайка». Гэта было адказам на «татальныя зачысткі» гэбістамі «варожых элемэнтаў» і на хвалю русіфікацыі, што абрынулася па вайне на былыя заходнебеларускія землі, дзе на ўсе больш-менш значныя пасады пачалі ставіць людзей, варожых да беларушчыны. «Чайка» мела на мэце змаганьне за нацыянальныя правы беларусаў і ўрэшце — стварэньне незалежнай дзяржавы. Слонімскія патрыёты імкнуліся пашыраць свае ідэі ў іншых рэгіёнах.

У Баранавічах філію арганізацыі стварыў студэнт гістарычна-філялягічнага факультэту мясцовага настаўніцкага інстытуту Ўладзімер Салавей, які ўвайшоў у кіроўны орган «Чайкі» — Цэнтар беларускага вызвольнага руху.

Калі ў 1947-м распачаліся арышты сяброў, Уладзімер здолеў перайсьці на нелегальнае становішча. Ён добра знаўся ў канспірацыі: МГБ некалькі гадоў не магло выйсьці на маладога настаўніка, які ня толькі хаваўся на бацькоўскім хутары, але й езьдзіў, узброены наганам, па рэспубліцы.

Яго арыштавалі на пачатку 1950-х. У той час, калі я немаўлёнкам смактаў маміну цыцу, майго аднаймення жахліва катавалі. Нечакана Ўладзімераву бацьку «органы» загадалі зьявіцца ажно ў Казань. Дадому той прыехаў з горкай навіной: у гэбісцкіх катоўнях Валодзю ня толькі адбілі ныркі. Ягоны розум не стрываў няволі і зьдзекаў.

Можна толькі здагадвацца, якія думкі апаноўвалі яго ў хвіліны прасьвятленьняў, калі Ўладзімер бачыў краты на вокнах і з жахам глядзеў на санітараў. Праз колькі гадоў сваякам дазволілі забраць яго дахаты, але, калі ён убачыў жыцьцё тагачаснай, загна-

най у калгасны прыгон, вёскі, розум Салаўя зноў ня вытрымаў, гэтым разам — фатальна.

Сорак гадоў — цэлае жыцьцё — ён пакутаваў ў Магілеўскай, Ружанскай і Гарадзенскай вар'ятнях, а ў 1996-м, нават не напісаўшы і не патэлефанаваўшы родным, Уладзімера чамусьці перавялі ў псыхічную лякарню ў вёсцы Казлоўшчына на Дзятлаўшчыне.



Уладзімер Салавей (у цэнтры) зь сябрамі. Справа — будучы кіраўнік «Чайкі» Васіль Супрун. 1943 г.

Неўзабаве сям'і паведамілі, што Ўладзімер нібыта заблукаў узімку ў лесе, замёрз і быў знойдзены, ужо калі растаў сьнег. Труну на хаўтурах не адчынялі.

Але самае страшнае для мяне ў лёсе Салаўя нават ня гэта. Самае страшнае, што сваякі патрыёта анічога ня ведалі аб прычынах ягонага арышту, ніколі ня чулі пра «Чайку». Для іх ён быў проста няшчасным вар'ятам, на магіле якога доўгі час не было нават сьціплага помніка.

**Уладзімер Салавей**
1925, в. Гуменікі, цяпер Слонімскі раён —
сьнежань 1996, в. Казлоўшчына, Дзятлаўскі раён.
Пахаваны ў в. Жыровічы, Слонімскі раён.

Ці кожны зь беларусаў, якія ў цьвярозым або падвясёленым стане любяць зацягнуць папулярную песьню «Ручнікі», адкажа на пытаньне пра яе аўтараў? Ды што казаць пра шараговых пеюноў, калі нават нібыта прафэсіяналы зь Беларускага тэлебачаньня неаднойчы сьцьвярджалі, што словы і музыка «Ручнікоў» — народныя. Асабіста я на месцы сапраўдных аўтараў ад падобнай ацэнкі сваёй творчасьці, магчыма, і не адмовіўся б, але ж песьню стварылі ўсё ж не безыменныя таленты з народу, а паэтка Вера Вярба і кампазытар Мікалай Пятрэнка.

## Мікалай Пятрэнка

Калі я пайшоў у першы кляс, Мікалай Макаравіч якраз пачаў настаўнічаць у Полацку. Вучыцца ў яго мне, на жаль, не пашчасьціла, а вось прыяцельствам магу ганарыцца.

У вайну ён пасьля раненьня й кантузіі трапіў у нацысцкі палон, адкуль зноў і зноў спрабаваў уцячы. Мікалай прайшоў праз некалькі лягераў сьмерці. Выжыць дапамагла мара стаць настаўнікам і ствараць песьні, якія ўжо гучалі ў душы.

Большую частку жыцьця ён выкладаў у Полацкай пэдагагічнай вучэльні музыку, а таксама родную мову й літаратуру. Перакладаў на беларускую падручнікі, пісаў уласныя.

Тысячы выхаванак і выхаванцаў Пятрэнкі здабылі ў яго ня проста веды, але навучыліся галоўнаму — любіць Айчыну. Не СССР, а — Беларусь.

«Беларусь — гэта сьвятое», — казаў ён, сьцьвярджаючы сваё credo і на ўроках, і ў жыцьці, і ў песьнях — мэлядычных, багатых на інтанацыі беларускага мэлясу, «сьпеўных».

Абвяшчэньне незалежнасьці сталася для яго сьвятам, але гэта ня значыла, што ён цалкам прымаў усе ідэі й прапановы тых лёсавызначальных гадоў. Пасьля зьяўленьня ў «ЛіМе» складзенага Сяргеем Дубаўцом звароту, назоў якога казаў сам за сябе — «Рэпрэса-



На ўроку музыкі. 1970-я гады

ваны правапіс», — я (бо ў газэце стаяў і мой подпіс) вытрымаў зь Мікалаем Макаравічам гарачую спрэчку. Урэшце мой апанэнт перайшоў на наш бок, аднак згадзіўся толькі на мяккі варыянт вяртаньня клясычных правілаў.

Зборнік ягоных песьняў на вершы беларускіх паэтаў зьявіўся праз некалькі месяцаў пасьля таго, як Пятрэнка разьвітаўся з гэтым сьветам.

Ён меў назоў «Беларусі мілай» і стаўся нібы весткаю ад Мікалая Макаравіча адтуль, зь Беларусі нябеснай.

**Мікалай Пятрэнка**
19.12.1919, мяст. Барбароў, цяпер Мазырскі раён —
3.1.1997, Полацак.
Пахаваны на полацкіх Лясных могілках.

Само неба наканавала беларускам жыць доўга. Асабліва пісьменьніцам. І асабліва — нібы сплачваючы доўг за ростань з Бацькаўшчынай — тым, хто апынуўся за межамі краіны-мроі, назва якой — Беларусь.

Нашымі зусім блізкімі сучасьніцамі былі народжаныя яшчэ ў пазамінулым стагодзьдзі незабыўная вільнянка Зоська Верас і «масквічка» Канстанцыя Буйло. Крыху не дажыла да 95-годзьдзя ў эміграцыі за акіянам Натальля Арсеньнева...

Далікатна кажучы, невялікая розьніца ў гадах тым ня менш дазволіла мне трапіць у адну часавую «капсулу» і зь яшчэ нядаўняй жыхаркай амэрыканскага Кліўлэнду Аляксандрай Саковіч.

# Аляксандра Саковіч



Седзячы ў яе за па-беларуску багатым сталом, мы высьветлілі, што абое былі знаёмыя з гісторыкам Міколам Улашчыкам, а ў яе родных бацькоўскіх Ярэмічах на Наваградчыне я вудзіў рыбу, калі плыў зь сябрамі ад вытокаў Нёману да Балтыкі.

Мы з гаспадыняю вучыліся на адным гістарычным факультэце БДУ; праўда, яна — у славутых Уладзімера Пічэты, Мітрафана Доўнар-Запольскага й Усевалада Ігнатоўскага, а я — зноў жа ў славутага, але наадварот, Лаўрэнція Абэцэдарскага.

На гістфак яе, дарэчы, прывяло імкненьне паглыбіць веды, каб напі-

сацьраман пра вызвольнае паўстаньне Кастуся Каліноўскага — пачатак змаганьня за Беларусь.

У 1930-м яна выйшла замуж і паехала ўсьлед за сваім абраньнікам у Маскву. Падчас яжоўшчыны муж Дамінік, унук каліноўца, быў высланы на Калыму. Каб пазьбегнуць арышту, будучая пісьменьніца вяртаецца ў Беларусь.

Потым была выкладчыцкая праца (1942—1944) у Наваградзкай беларускай настаўніцкай сэмінарыі, лягер для перамешчаных асобаў і вайсковы транспартны карабель, на якім яна дабралася да берагоў ЗША. Там стала жонкаю вядомага гісторыка, літаратуразнаўцы і палітычнага дзеяча Аўгена Калубовіча (Каханоўскага).

Пачынаючы з 1950-х у друку ўсё часьцей зьяўляюцца ўспаміны, апавяданьні й аповесьці, падпісаныя: Аляксандра Саковіч. Галоўная іх тэма — лёс Беларусі і беларусаў у гады сталіншчыны і Другой усясьветнай вайны.

Я здымаю з паліцы том яе выбранай прозы «Ў пошуках праўды», выдадзены ў Нью-Ёрку, перачытваю аўтограф, пакінуты цьвёрдай упэўненай рукою на самым парозе свайго 90-годзьдзя, гляджу на партрэт прыгажуні зь белымі пэрлавымі каралямі і на момант шкадую, што, паступаючы на гістфак Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, спазьніўся на цэлыя пяцьдзясят гадоў.

**Аляксандра Саковіч**
**(ад нараджэньня Іна Рытар, у замужжы — Каханоўская)**
27.12.1906, Адэса, Украіна —
8.1.1997, Кліўлэнд, штат Агаё, ЗША.
Пахаваная на беларускай частцы кліўлэндзкіх могілак Рывэрсайд.

## Валеры Шаблюк

Ён быў маім аднакурсьнікам і сябрам, зь якім мы гаварылі на адной мове.

Ён нярэдка станавіўся першым чытачом маіх апавяданьняў і аповесьцяў.

Нас зьбліжала й агульная прага вандраваньняў. Мы разам блукалі па вуліцах Полацку і Рыгі, сядзелі за сталом у зэльвенскай хаце Ларысы Геніюш, палохаючы сьвіцязянак, плавалі ў таямнічай начной Сьвіцязі й сустрэліся на берагах Гарыні зь мядзьведзем, які кіраваўся на блізкі пчальнік, а таму паставіўся да нас амаль па-сяброўску, пагатоў, прэвэнтыўна атрымаў ад нас на пачостку тры бляшанкі згушчонкі.

Нават сваё вясельле з Натальляй Валера гуляў не ў рэстарацыі, а на маляўнічым поплаве, там, дзе пачынаецца Нёман. У той вечар мясцовыя бабры ўражана назіралі за нашым з Шаблюком сьвяточным заплывам і расьпіваньнем пляшкі шампанскага проста на нёманскай строме.

Пасьля гістарычнага факультэту БДУ ён працаваў школьным настаўнікам.

Вучні бязьмежна любілі яго й за цікавыя ўрокі, і за іхні працяг — падарожжы ў Горадню, Навагрудак, Нясьвіж, Вільню, туды, дзе чутны голас самой беларускай Гісторыі.

Сотні юных душаў Валера вучыў любіць сваё і зацята бараніць сваё яшчэ тады, калі вынаходнікі гэтых папулярных сёньня слоганаў яшчэ не нарадзіліся.

Муза Клiё прывяла Шаблюка ў акадэмічны Інстытут гісторыі, зрабіла археолягам — дасьледнікам старадаўніх паселішчаў у басэйне ягонага ўлюбёнага Нёману й аўтарам некалькіх кніжак, прысьвечаных тым адметным мясьцінам.

Ён быў зь ліку гісторыкаў, якія не ратаваліся ад сучаснасьці ў сваіх кабінэтах ці ў раскопах. Не радзей, чым у сяброўскім коле, мы сустракаліся зь ім у сярэдзіне дзевяностых гадоў на дэмакратыч-



ных акцыях. Ён балюча перажываў рэфэрэндум 1995-га, але, адрозна ад некаторых калегаў, ня кідаўся ў роспач і не лічыў, што ўсё страчана, а зацята працягваў рабіць сваю справу, верачы ў магутную стваральную сілу гістарычнай памяці.

Валера загінуў страшна й недарэчна — на пешаходнай зэбры пад уласнымі вокнамі яго зьбіла службовая машына генэральнага пракурора Беларусі, кіроўца якога катаўся ў сьвяточны дзень па горадзе з прыяцелькамі.

Майму сябру не хапіла часу абараніць доктарскую дысэртацыю й напісаць свае гістарычныя аповесьці.

Але Валерава прысутнасьць доўжыцца — у дочках Насьці й Вераніцы, у вучнях, у яго артыкулах, якіх у адной Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі блізу сотні. (Артыкул пра самога Шаблюка «энцыкляпэдысты» зьмясьціць забыліся.)

Сястра Валеры Тацяна, якая ўжо даўно жыве ў Аўстраліі, піша мне лісты па-беларуску. Мовы яна вучылася ад брата.

**Валеры Шаблюк**
3.8.1953, Узда —
2.5.1997, Менск.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

Жыцьцяпіс спадара Янкі я даўно і добра ведаю ад Івонкі Сурвілы.

У чатыры гады ён ужо чытаў па-беларуску і дэклямаваў на памяць Купалаву паэму «Курган».

У 1942-м сямнаццацігадовы Янка — дырэктар пачатковай беларускай школкі, спаленай партызанамі.

Па вайне ў беларускім лягеры для перамешчаных асобаў у нямецкім Ватэнштэце ён засноўвае й рэдагуе часопіс «Шляхам жыцьця».

Потым — эміграцыя ў Францыю. Там у 1948-м, на Першым зьезьдзе беларускай эміграцыі ў Парыжы, адбываецца рамантычнае Янкава знаёмства з зусім яшчэ

## Янка Сурвіла

юнай Івонкаю Шыманец, якая праз дзесяць гадоў стане ягонай жонкаю.

Атрымаўшы стыпэндыю Мадрыдзкага ўнівэрсытэту, Сурвіла вывучае эканоміку і робіць за-



Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла



хады, каб арганізаваць беларускамоўныя праграмы Гішпанскага радыё. 25 сакавіка 1952 году ён выходзіць у этэр зь першай скіраванай на Беларусь перадачаю. У 1958—1965 гадах Янка вядзе з Гішпаніі штодзённыя беларускія радыёпраграмы.

Пасьля пераезду Сурвілаў у Канаду наша заакіянская дыяспара атрымала ў асобе Янкі чалавека, які, паводле словаў Барыса Рагулі, «быў прычынны да вытокаў усіх пачынаньняў на беларускай палітычнай і грамадзкай ніве, што зарадзіліся і рэалізаваліся ў Атаве».

Зь дзіцячых гадоў, калі сам змайстраваў свой першы фотаапарат, ён захаваў захапленьне мастацкай фатаграфіяй, пакінуўшы, у прыватнасьці, цэлую галерэю партрэтаў нашых літаратараў-эмігрантаў, у тым ліку партрэт Натальлі Арсеньневай, зьмешчаны ў менскай кнізе яе вершаў «Яшчэ адна вясна» (1996).

У вечнасьць Янка адышоў, як і жыў, грамадзянінам Беларускай Народнай Рэспублікі, Раду якой ад 1997 году ўзначальвае Івонка Сурвіла.

**Янка Сурвіла**
20.6.1925, в. Белевічы, цяпер Смаргонскі раён —
3.6.1997, Атава, Канада.
Пахаваны на могілках Олд-Чэлсі, мяст. Чэлсі,
правінцыя Квэбэк, Канада.

## Юры Карачун

Ужо даўно я жыву недалёка ад Нацыянальнага мастацкага музэю, дзе ён дваццаць гадоў працаваў дырэктарам. Безьліч разоў мы сустракаліся на вуліцы ці ў музэйных залях, віталіся й казалі адзін адному колькі ветлівых словаў.

Я дзякаваў за запрашэньне на чарговы вэрнісаж, ён чытаў нешта маё. За ягонай магутнай постацьцю адчувалася найперш не фізычная дужасьць, а духоўная глыбіня, што натхняла на больш блізкія стасункі.

Ды, як гэта, на жаль, нярэдка бывае, калі я нарэшце вырашыў зьдзейсьніць даўні намер, падпісаў Юрыю Карачуну кнігу і сабраўся зайсьці да яго, ён зірнуў на мяне з газэтнай калёнкі ў жалобнай рамцы.

З таго дня прамінула цэлая чвэрць стагодзьдзя, што толькі дапамагло ацаніць значнасьць постаці Карачуна.

Ён, бясспрэчна, быў чалавекам дзяржаўнага мысьленьня, у якім талент мастака шчасьліва спалучаўся з бліскучымі арганізацыйнымі здольнасьцямі.

Досыць сказаць, што найперш дзякуючы ягонай настойлівасьці пачалася рэальная рэстаўрацыя Мірскага замку, які ўрэшце быў улучаны ў Усясьветны сьпіс спадчыны ЮНЭСКО. Філіялы музэю зьявіліся ў Раўбічах, Гальшанах, Магілеве, Менску (Дом Ваньковічаў, сядзіба ў Лошыцы).

За часамі дырэктарства Карачуна ў музэі, апрача безьлічы іншых, адбыліся выставы мастакоў нашага замежжа — Міколы Пашкевіча, Галіны Дакальскай, Галіны Русак.

У прадмове да каталёгу спадарыні Галіны Русак Юры Аляксандравіч пісаў: «Надзвычай цікавым і каштоўным уяўляецца тое, што разьвіцьцё творчасьці нашых землякоў за мяжою ішло натуральна, яны ня зьведалі ўціску таталітарных умоваў і традыцыяў».

Такіх поглядаў, як і шмат чаго іншага, Карачуну не даравалі — і сёй-той з калегаў, і неадукаванага чына-



венства ад культуры, што пачало правіць баль пасьля 1994-га.

У апошнія гады яму зь ягонай беларусацэнтрычнасьцю жыць было няпроста.

Спадар Юры ратаваўся ўласнай творчасьцю, працуючы ў кніжнай графіцы, ствараючы сонечныя акварэльныя краявіды, у якія хочацца хоць на колькі хвілінаў заляцець птушкай ці матыльком, каб пазбыцца шэрага цяжару будзённасьці.

Карачуна няма, але ягоныя ідэі працягваюць урэчаісьнівацца.

Пры канцы 2006-га прыняў наведнікаў новы будынак Мастацкага музэю з творамі беларускіх мастакоў. Але наўрад ці Юры Карачун, ініцыятар будаўніцтва гэтак званай «другой чаргі» , пагадзіўся б з тым, што ў старых «намоленых» сьценах, куды адразу трапляе наведнік, чамусьці выставілі творы расейскага мастацтва.

Цяжка дапусьціць і тое, каб ён ухваліў новую экспазыцыю, дзе няма твораў вядомых сучасных мастакоў, што «правінаваціліся» перад уладамі, для якой творчая асоба апрыёры на падазрэньні.

**Юры Карачун**
27.12.1931, Менск — 11.6.1997, Менск.
Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

Тое, што я пасьпеў сустрэцца зь ёю, выбітнай паэткаю (яе імя мае цяпер прэмія за найлепшую беларускую паэтычную кнігу году), жанчынай з таго шэрагу, які пачынаецца з Рагнеды й Эўфрасіньні, лічу дарагім падарункам лёсу.

Гэта здарылася ў Рочэстэры, на амэрыканскім беразе возера Антарыё, дзе спадарыня Натальля жыла з сынам Уладзімерам, надзіва падобным звонку да бацькі — Францішка Кушаля.

Стол сабралі пад чарэшняю ў садзе, дзе можна было назьбіраць кошык баравікоў.

## Натальля Арсеньнева



Арсеньнева падпісала мне свой выдадзены ў Нью-Ёрку важкі том паэзіі «Між берагамі», падзялілася думкаю, што паэтаў у беларускай літаратуры стала меней, чым у 1970-я, і, падняўшы шклянку з содавай (але і з глытком віскі), прапанавала тост за тое, «каб гэты вусаты хутчэй зьнік».

Углядаючыся ў далёкія гады, аўтарка гімну «Магутны Божа» надоўга замаўчала, каб потым распавесьці мне, як упершыню пачула беларускую мову. Сям'я вярталася ў 1920-м зь бежанства і затрымалася ў вёсачцы над Дрысай.

Уначы Наташа прачнулася ад таго, што за шафаю гаспадара пацягнула на любошчы. «Ня лезь, а то юшку спушчу», — азвалася гаспадыня, бо ў хаце былі чужыя людзі. Гэтая «юшка» расхвалявала дзяўчыну сваёй таямнічасьцю.

У Віленскай гімназіі адчула: беларускае — маё!..

Яна ішла ў 1940-м у літаратурнай кампаніі Максіма Танка, Міхася Машары й Айзіка Кучара па Менску. Танк загаварыў, і напалоханы Кучар крыкнуў: «Цішэй, цішэй! У нас у Менску так гучна гаварыць па-беларуску не прынята!»

Пасьля дэсэрту — невераемна смачных (яшчэ й таму, што іх згатавала сама гаспадыня) налісьнікаў — мы сфатаграфаваліся на памяць каля кветніку з валошкамі й белымі лілеямі, якія вельмі любіла і Ларыса Геніюш.

Прыцішана, але так, каб паэтка пачула свае радкі, якія таксама даўно зрабіліся гімнавымі, я напяваў: «У гушчарах, затканых імглою...»

Вестка пра сьмерць Натальлі Арсеньневай прыйшла ў Менск падчас адкрыцьця Другога зьезду беларусаў сьвету, калі сотні галасоў сьпявалі яе велічную «Малітву», вядомую як гімн «Магутны Божа»:

*Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,*  
*вялізных сонцаў і сэрц малых,*  
*над Беларусяй ціхай і ветлай*  
*рассып праменьне Свае хвалы...*

*Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,*  
*учынкам нашым пашлі ўмалот.*  
*Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай*  
*краіну нашу і наш народ!*

**Натальля Арсеньнева**  
20.9.1903*, Баку, Азэрбайджан —  
25.7.1997, Рочэстэр, штат Нью-Ёрк, ЗША.  
Пахаваная на могілках Маўнт Гоўп у Рочэстэры.

* Найбліжэйшая сяброўка паэткі Яніна Каханоўская сьцьвярджала, што насамрэч Натальля Арсеньнева нарадзілася ў 1902 г., афіцыйная ж дата — памылка міграцыйнай службы.

У Вільні быў празрысты кастрычніцкі вечар. Мы спыніліся каля Вострае Брамы — там, адкуль раніцою і пачалося нашае падарожжа, падчас якога я даведаўся, дзе дакладна быў дом Скарынавага фундатара бурмістра Якуба Бабіча, дзе жандары арыштавалі Каліноўскага, дзе месьцілася друкарня Марціна Кухты, дзе жылі Купала і Янка Пазьняк.

Мой спадарожнік і праваднік, у сваіх заўсёдных зухаватым бэрэце і прыцемненых акулярах, працытаваў героя аўтабіяграфічнай аповесьці Максіма Гарэцкага «Мэлянхолія»: «Пішу да цябе зь Вільні, адкуль сьвяціла магутным сьвятлом наша старадаўняя культура...» Я выказаў думку, што мой суразмоўца павінен падтрымаць гэтае сьвятло кнігаю пра беларускую Вільню, бо, бадай, ніхто зь беларусаў ня ведае нашую духоўную Мэку лепей за яго. Тым больш, што ягонае веданьне натхнёнае такой любоўю да кожнай старадаўняй мураванкі.

## Лявон Луцкевіч

Я быў усьцешаны, пачуўшы, што кніга ўжо ствараецца.

Майго праваднікá звалі Лявон Луцкевіч.

Сыну аднаго з бацькоў Беларускай Народнай Рэспублікі, Антона Луцкевіча, лёс ня мог падараваць лёгкага шляху. Выпускнік Віленскай беларускай гімназіі, падчас Другой усясьветнай вайны ён настаўнічаў, потым стаў афіцэрам Беларускай Краёвай Абароны. Пасьля працэсу над кіраўніцтвам Беларускай незалежніцкай партыі судзьдзі вызначылі Лявону Луцкевічу пятнаццацігадовы тэрмін. На 25 гадоў калымскіх канцлягераў быў засуджаны родны брат Юрка, сябра той самай партыі.

Вярнуўшыся на волю, спадар Лявон зьвязаў жыцьцё з роднай Вільняй. Ягонай жонкаю была дачка пісьменьніцы Зоські Верас — Галіна, а домам на доўгі час стала знаёмая кожнаму беларускаму нацыяналісту «Лясная хатка».



Лявон Луцкевіч і Зоська Верас з гасьцямі — мастаком Іванам Пратасенем (крайні зьлева) і гісторыкам ды літаратуразнаўцам Віталём Скалабанам (крайні справа). 1981 г.

Лявон Луцкевіч быў адным з тых, хто адраджаў беларускае культурнае жыцьцё ў Вільні пры канцы васьмідзясятых. Ён прычыніўся да стварэньня першай беларускай суполкі «Сябрына», а затым Таварыства беларускай культуры ў Літве. Дзядзька Лявон, у той час сябра Рады БНР, вёў беларускія перадачы на Літоўскім радыё і супрацоўнічаў з Радыё Свабода, на чыіх хвалях у аўтарскім выкананьні прагучалі ўсе тэксты з будучай кнігі, пра якую мы гаварылі каля Вострае Брамы.

На жаль, спадар Лявон ужо не патрымаў у руках свае «Вандроўкі па Вільні». Яны ўпершыню выйшлі ў 1998 годзе ў віленскім выдавецтве «Рунь» і застаюцца найлепшай беларускай кнігаю пра нашу колішнюю сталіцу.

**Лявон Луцкевіч**
17.3.1922, Вільня — 28.7.1997, Вільня.
Пахаваны на віленскіх могілках Росы.

Вельмі шкадую, што не пасьпеў пазнацца зь ім, хоць мы ня раз бывалі на адных імпрэзах і мелі, нягледзячы на саракагадовую розьніцу ў веку, агульных сяброў. Знаёмства ў нейкім сэнсе здолела замяніць ягоная мудрая разважлівая кніга «Рысы майго пакаленьня», што выйшла, калі спадара Вячаслава ўжо не было з намі.

У сярэдзіне 1930-х ён служыў у войску і вучыўся ў Маскоўскай артылерыйскай школе імя Красіна. Яго арыштавалі паводле даносу сябра юнацтва Язэпа Семяжонава (Семяжона), аб чым Шыдлоўскі даведаўся, гартаючы сваю справу падчас рэабілітацыі.

## Вячаслаў Шыдлоўскі

На судзе Вячаслаў і два ягоныя сябры выслухалі абвінавачаньне ў тым, што ўваходзілі ў «нацдэмаўскую» групу, якая зьбірала і вывучала крамольную літаратуру, у тым ліку творы Максіма Багдановіча, двухтомнік якога ОГПУ канфіскавала пры арышце. Трыбунал Беларускай вайсковай акругі пазбавіў Шыдлоўскага волі на чатыры гады, што для 1937-га выглядала прысудам нечакана мяккім. Аднак месца зьняволеньня — Калыма, лягер «Камандзіроўка Чалюскін», што месьціўся побач зь вядомай тады ўсёй краіне турмой Серпанцінкай, — было сапраўднай апраметнай. Адзін з самых страшных разьдзелаў у ўспамінах Шыдлоўскага — «Сель з трупаў»:

«Дажджы спыніліся раптоўна... У замытых забоях вачам адкрылася жудасная карціна. На паверхні зямлі ляжала мноства голых трупаў... Дзе-нідзе тырчэла рука, нага зь біркай або галава зь дзіркай ад кулі. Здавалася, што на нейкі момант, нібы ў стоп-кадры, спынілася д’ябальская кругаверць калымскай гісторыі. Хто былі гэтыя людзі?.. А недзе ў доўгім безнадзейным чаканьні жылі іх удовы, асірацелыя дзеці, бацькі. Тым зь іх, хто вельмі настойліва дамагаўся зьвестак пра лёс зьняволеных, з году ў год афіцыйна



адказвалі: «Осужден без права переписки»...

Шыдлоўскі здолеў выжыць. Ён стаў вядомым геолягам, меў сяброўскія стасункі з знакамітымі калегамі-вучонымі Гаўрылам і Радзімам Гарэцкімі, зь пісьменьнікамі Сяргеем Грахоўскім і Барысам Сачанкам, з прафэсарам Адамам Мальдзісам і Лявонам Луцкевічам. Ліставаўся з Зоськай Верас і расейскім паэтам Анатолем Жыгуліным, аўтарам вядомай аўтабіяграфічнай аповесьці «Чорныя камяні», дзе адлюстраваныя спробы моладзі супрацьстаяць сталінізму.

Спадар Вячаслаў фанатычна любіў кнігу, шануючы і песьцячы яе, як немаўлятка. Эксьлібрысы для ягонай бібліятэкі рабілі самыя масьцітыя беларускія графікі. А захапленьнем Шыдлоўскага была шытарская (пераплётная) справа. У 1979-м ён зрабіў апраавы для ўсяго першага нелегальнага накладу дасьледаваньня Міколы Ермаловіча «Па сьлядах аднаго міту».

Ён верыў у незалежную Беларусь і сваю кнігу — спробу гістарычнага дасьледаваньня прычынаў і наступстваў таталітарнага рэжыму — адрасаваў найперш моладзі — «як папярэджаньне і засьцярогу ад паўтарэньня ідэалягічна-палітычнага апакаліпсісу».

**Вячаслаў Шыдлоўскі**
12.1.1913, в. Карзуны, цяпер Чэрвеньскі раён — 23.8.1997, Менск.
Пахаваны ў в. Карзуны.

# Міхась Раманюк

Калі хтосьці лічыць, што мае дачыненьне да беларускай культуры, і пры гэтым ня ведае імя Міхася Раманюка, значыць, гэты хтосьці насамрэч — чалавек ад нашае культуры бясконца далёкі.

Тое, што рабіў Раманюк — мастацтвазнаўца, мастак і этнограф у адной асобе, — мне хочацца назваць ціхім гераізмам.

Чвэрць стагодзьдзя выкладчыцкай працы ў Беларускай акадэміі мастацтваў.

Заснаваньне часопісу «Мастацтва Беларусі», першым галоўным рэдактарам якога ён быў.

Стварэньне сцэнічных строяў для Дзяржаўнага народнага хору і Дзяржаўнага ансамблю танцу Беларусі.

Выданьне кніг, паштовак, марак з творамі народнага мастацтва.

Чытаю радкі энцыкляпэдыяў і бачу за імі спадара Міхася ў нязьменным саламяным капелюшы то на яго роднай Брагіншчыне, то на беразе Дрысьвятаў, то над маёй Дзьвіной.

Велізарная частка яго да крыўды кароткага жыцьця прайшла ў вандроўках па бясконцых беларускіх дарогах.

Плёнам гэтых экспэдыцый, заўсёды ладжаных за ўласныя грошы, сталі амаль сто пяцьдзясят рэканструкцыяў традыцыйных строяў нашых продкаў. Без Раманюковага альбому «Беларускае народнае адзеньне» любая бібліятэка па беларусазнаўстве будзе катастрафічна няпоўнай.

На ягоных выставах нацыянальных строяў у Менску мы натхнёна адкрывалі для сябе духоўныя скарбы прадзедаў.

Жыхары Парыжу, Ліёну ды іншых эўрапейскіх гарадоў, дзе зь вялікім посьпехам экспанаваліся гэтыя мастацкія выставы, адкрывалі для сябе цэлую невядомую краіну.

Астатні раз я сустрэў Раманюка ў 1997-м на менскім

паштамце і ледзьве пазнаў яго, бо гэта быў ужо зусім не Раманюк, а ягоны цень.



Спадар Міхась зразумеў мае пачуцьці й спакойна патлумачыў, што невылечна хворы і адпраўляе апошнія лісты. «Завяршаю зямныя справы», — пачуў я ціхія мужныя словы.

Галоўным зямным клопатам Раманюка працягваюць займацца вучні, сын Дзяніс — таленавіты фотамастак і выдавец. Дзякуючы яму выйшла бліскучая бацькава праца «Беларускія народныя крыжы».

На прэзэнтацыі ў менскім касьцёле Сьвятога Роха сябры і калегі казалі пра тое, што гэты ўнікальны альбом яшчэ раз засьведчыў: на будучыні народу, якому служыў Раманюк, крыж ня здолее паставіць ніхто.

Дзяніс выдаў і бацькаў альбом «Беларускія народныя строі». Яго выхад шчасьліва супаў з усплёскам цікавасьці да беларускіх вышыванак. Міхась Раманюк прапанаваў іх аматарам невычэрпную, як народная душа, крыніцу ўзораў.

Жыве яго справа!

**Міхась Раманюк**
3.1.1944, в. Кавалі, Брагінскі раён —
4.9.1997, Менск.
Пахаваны ў в. Старынкі, Дзяржынскі раён.

## Вітаўт Тумаш

Няпроста назваць нейкую іншую вучэльню, якая дала б Беларусі — дый сьвету! — столькі выбітных асобаў, як Віленская беларуская гімназія. (Жахлівай недарэчнасьцю выглядае тое, што мы дагэтуль ня маем прысьвечанай ёй кнігі.)

Там, у старадаўніх Базыльянскіх мурах, пачынаў свой шлях да навукі й вядомасьці і Вітаўт Тумаш, які потым студыяваў мэдыцыну ў Віленскім унівэрсытэце. «З прафэсіі ён быў лекарам і адначасна, з натуры, гуманістам», — напісала пра яго ў успамінах дзяячка нашай эміграцыі Раіса Жук-Грышкевіч, якая студэнткай спаткалася з Тумашам на экскурсіі ў Віленскім беларускім музэі імя Івана Луцкевіча.

Спадарыня Раіса сьцьвярджае, што праз Вітаўтавы рукі прайшлі ўсе заходнебеларускія паэтычныя зборнікі Максіма Танка. «Танк мае здольнасьці, а я — веды», — казаў Тумаш. Ён жа адрэдагаваў і першую, праскую, кнігу «Ад родных ніў» Ларысы Геніюш.

Беларуская энцыкляпэдыя паведамляе, што некалькі месяцаў у 1941-м ён быў бурмістрам Менску. Раіса Жук-Грышкевіч згадвае, што ў чэрвені таго году доктара Тумаша, які тады быў у Бэрліне, арыштавалі й прывезьлі ў Менск з катэгарычным, пад пагрозаю зьняволеньня, загадам стварыць адміністрацыю гораду і не дапусьціць там эпідэміяў.

Праз чатыры месяцы ён здолеў адмовіцца ад пасады і зьехаць.

На эміграцыі Тумаш стаў адным з стваральнікаў і кіраўнікоў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку, рэдагаваў ягонае выданьне «Запісы» й газэту «Беларус».

Усясьветную славу сярод беларусазнаўцаў прынесьлі Вітаўту Тумашу дасьледаваньні жыцьця й дзейнасьці Францішка Скарыны. Аднак у БССР ягоныя бліскучыя, часам сэнсацыйныя працы (яны



друкаваліся пад псэўданімам Сымон Брага) дзесяцігодзьдзямі вывучалі пераважна скарыназнаўцы з Камітэту дзяржбясьпекі.

Нават уляўраныя службі Клiё толькі рызыкоўнымі неафіцыйнымі шляхамі маглі атрымаць такія найцікавейшыя Тумашавы публікацыі, як «Скарына ў Падуі» або «Кнігі Скарыны на захадзе Эўропы ў пару ягонную і сяньня».

Вянцом саракагадовай працы стаўся выдадзены ў ЗША найгрунтоўнейшы даведнік «Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны. XVI—XX», што налічвае больш за 2500 пазыцыяў і ёсьць найкаштоўнейшым дапаможнікам для айчынных скарыназнаўцаў.

Прэзэнтацыя кнігі адбывалася ў Нью-Ёрку, калі аўтар ужо змог атрымаць віншаваньні зь Беларусі. Пэўны час у паветры насілася так і нязьдзейсьненая ідэя наданьня Тумашу годнасьці доктара honoris causa Полацкага ўнівэрсытэту.

**Вітаўт Тумаш**

20.12.1910, в. Сьпягліца, цяпер Сьвяцілавічы, Смаргонскі раён — 27.4.1998, Нью-Ёрк, ЗША.
Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку, штат Нью-Джэрзі.

Як шмат у жыцьці можа залежаць ад чытаньня правільнай газэты!

Дзякуючы «Нашай Ніве», якую выпісваў ягоны дзядзька, менскі хлопчык Антось Адамовіч ужо ў малодшых клясах заснаваў нелегальную суполку КРЫЮГ — Крыўскую Юнацкую Грамаду. Ягонымі новымі прыступкамі ў школе нацыянальнай сьвядомасьці былі славутая «Беларуская хатка», потым Белпэдтэхнікум і БДУ.

У 1927-м Антон стаў сябрам літаратурнага згуртаваньня «Ўзвышша», створанага Дубоўкам, Чорным, Бядулем ды іншымі тады ўжо амаль мэтрамі прыгожага пісьменства. Побач з старэйшымі паплечнікамі васямнаццацігадовы Адамовіч ня чуўся пачаткоўцам. Ужо праз год ён надрукаваў прыхільна сустрэтую калегамі манаграфію аб творчасьці Максіма Гарэцкага.

# Антон Адамовіч

Але грымнулі падзеі 1930 году: у справе Саюзу вызваленьня Беларусі ОГПУ арыштавала болей за сто чалавек. Дарэчы, канчатковага адказу на пытаньне — прыдумалі гэтую арганізацыю «органы» ці рэальныя парасткі арганізаванага супраціву ўсё ж існавалі, — дагэтуль няма. Паэт Міхась Кавыль пісаў у ўспамінах пра сябе й сяброў: «Гэта былі неаглядныя мройнікі... Паверыўшы незваротнасьці сталінскай беларусізацыі, кінуліся гуляць з агнём. Чаго вартая хоць такая дурніца, якая, бадай, паслужыла ОГПУ... Ня памятаю, хто дадумаўся «перахрысьціць» СВБ, напісанае на значку Саюзу ваяўнічых бязбожнікаў, на Саюз вызваленьня Беларусі. І кансьпірацыю прыдумалі: насіць значок не на штрыфэлі пінжака, а пад штрыфэлем». Аднак арышты й прысуды за такія гульні былі сапраўдныя.

Адамовіч вярнуўся з высылкі ў 1938-м.

У часе нямецкай акупацыі ён уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага навуковага таварыства, працаваў



у рэдакцыі «Беларускай газэты». Тады ім быў напісаны «Каханы горад» — твор, жанр якога Адамовіч вызначыў як «завязка раману». Штуршком да яго стварэньня было «сьвяточнае» і па-барбарску бязьлітаснае бамбардаваньне савецкай авіяцыяй Менску, што адбылося ў ноч на 1 траўня 1943 году.

У паваенныя гады Адамовіч рэдагаваў эміграцыйныя выданьні, у тым ліку газэту «Бацькаўшчына» і часопісы «Сакавік» і «Конадні». Ён быў адным з кіраўнікоў Беларускай службы Радыё Свабода й стваральнікаў мюнхэнскага Інстытуту вывучэньня СССР.

Найбольш значныя літаратуразнаўчыя і гістарычныя працы напісаныя ім у Нямеччыне і ЗША: «Супраціўленьне саветызацыі ў беларускай літаратуры», «Бальшавізм на шляхох устанаўленьня кантролю над Беларусьсю», «Бальшавізм у рэвалюцыйным руху на Беларусі»... У дзьвюх апошніх зробленая выснова, што бальшавіцкая ідэалёгія ня мела на нашай зямлі каранёў і не карысталася падтрымкаю народу. Ужо ў XXI стагодзьдзі ў Нью-Ёрку й Менску выйшлі ягоныя «Творы» і 1500-старонкавы зборнік «Да гісторыі беларускае літаратуры».

**Антон Адамовіч**
26.6.1909, Менск — 12.6.1998, Нью-Ёрк, ЗША.
Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку, штат Нью-Джэрзі.

Ёсьць людзі, якія тлеюць, а ёсьць людзі, якія гараць. Аляксей Філіпчанка належаў да другіх, і, на вялікі жаль, у дадзеным выпадку ў гэтых словах няма аніякай банальнай мэтафары: аднойчы ён пстрыкнуў запальнічкай і ператварыў сябе ў жывую паходню...

Пачаўшы ў 1978-м прафэсійную кар’еру ў адной з раённых пракуратураў, Аляксей вельмі хутка стаў «важняком» — абласным сьледчым у асабліва важных справах. Ён спэцыялізаваўся на гэтак званых «пярэваратнях» — злачынцах у мундзірах: пракурорах, судзьдзях, міліцыянтах.

# Аляксей Філіпчанка



Аляксей быў удзельнікам адмысловай групы пракуратуры СССР, што ў другой палове 1980-х займалася шырокавядомай справай віцебскага маньяка Міхасевіча, які пятнаццаць гадоў заставаўся няўлоўным, у той час, калі за ягоныя бясконцыя вусьцішныя злачынствы зноў і зноў саджалі і нават расстрэльвалі абсалютна бязьвінных людзей.

Відаць, якраз з таго часу Філіпчанка і нажыў сабе сярод некаторых віцебскіх «законьнікаў» заклятых ворагаў. Тым больш што з прыходам да ўлады першага прэзыдэнта ён ня раз публічна заяўляў, што ў Беларусі, як некалі і за савецкім часам, праваахоўныя органы выйшлі з-пад кантролю грамадзтва.

Аляксееў калега Леанід Сапранецкі называў яго сьледчым найвышэйшага клясу і чалавекам з крыштальным сумленьнем.

У новай іпастасі праваабаронцы Філіпчанка дапамагаў адстойваць свае інтарэсы свабодным прафсаюзам ды іншым грамадзкім структурам, якія былі ня ў ласцы ва ўлады.

Кажуць, ён нагадваў «мужыцкага адваката» Францішка Багушэвіча — з гатовасьцю браўся за складаныя справы простых людзей.

Адна з такіх справаў сталася для яго фатальнай. У жанчыны-пэнсіянэркі, заслужанага будаўніка Беларусі, у абход закону забралі пакой у двухпакаёвай кватэры.

Філіпчанка дабіваўся адмены гэтай пастановы два гады.

Вычарпаўшы ўсе сродкі змаганьня зь беззаконьнем, Аляксей у роспачы адважыўся на крайні крок: пісьмова паведаміў, што, калі судовыя чыноўнікі не скасуюць рашэньня, ён публічна спаліць сябе.

Улады нічога не зрабілі, каб прадухіліць трагедыю.

Гэта здарылася 8 ліпеня 1998 году.

Яшчэ бясконцыя дваццаць тры дні Аляксей жыў у рэанімацыі, амаль увесь час застаючыся ў прытомнасьці.

Ягоны брат па духу праваабаронца Валеры Шчукін, які нёс на пахаваньні крыж, сказаў, што не ўхваляе ўчынку Філіпчанкі, бо апошнюю кулю трэба пакідаць для ворага, але дадаў, што бясконца захапляецца асабістай мужнасьцю калегі.

«Хартыя-97» пасьмяротна прысудзіла Аляксею сваю першую прэмію за праваабарончую дзейнасьць.

**Аляксей Філіпчанка**

6.11.1949, Расея — 31.7.1998, Наваполацак.

Пахаваны на наваполацкіх могілках Вітаржжа.

## Мікола Трухан

Пасьля Беларускага тэатральна-мастацкага інстытуту ён скончыў Вышэйшыя рэжысэрскія курсы ў тэатры на Малой Броннай у Маскве, дзе займаўся ў майстэрні Анатоля Эфраса.

Ён атрымліваў прэстыжныя ролі ў Беларускім тэатры імя Якуба Коласа і Тэатры юнага гледача, а потым ставіў на розных сцэнах рэспублікі п'есы Янкі Купалы, Уладзімера Караткевіча, Андрэя Макаёнка.

Але Мікола Трухан меў даўнюю запаветную мару пра большае.

Ён лічыў абсалютна не нармальным, што двухмільённы Менск мае ўсяго дзясятак тэатральных калектываў.

Дзякуючы Міколу, якому дапамагаў шырока вядомы сёньня рэжысэр Віталь Баркоўскі, наша сталіца й уся краіна ў 1990-я атрымалі новы тэатар. Ужо сама яго назва — «Дзе-Я?» — змушала гледача не шамацець цукерачнымі абгорткамі, а — думаць.

У гэтым тэатры на ўскраіне гораду ўзімку заўсёды было — хоць ваўкоў ганяй.

Памятаю, падчас спэктаклю нехта з гледачоў ня вытрымаў і накінуў на пасінелую ад холаду акторку сваю куртку.

Але, не ўважаючы на праблемы зь фінансаваньнем, «Дзе-Я?» мела адданую публіку, якую вабілі Труханава рэжысэрская сьмеласьць і неардынарнасьць асобы, філязофская заглыбленасьць у таямніцы чалавечага быцьця і нейкая непаўторная сардэчнасьць.

Разам з акторамі-аднадумцамі ён па-новаму перачытваў Шэксьпіра, Гогаля, Чэхава.

Ён вярнуў на беларускую сцэну драматургію Францішка Аляхновіча, паставіўшы паводле ягоных п'есаў спэктаклі «Чорт і Баба», «Здань» і «Круці не круці — трэба памярці».

Зьдзейсьніўшы своеасаблівы прарыў, тэатар



«Дзе-Я?» некалькі разоў выступаў на ўсясьветна вядомых фэстах тэатральнага мастацтва ў Эдынбургу, дзе ў 1996 годзе пастаноўка «Круці не круці...» атрымала найвышэйшую адзнаку крытыкаў.

Аднак чыноўнікі ад культуры ды іхнія куратары наверсе ставіліся да здабыткаў Міколы Трухана насьцярожана.

Двойчы без уцямных тлумачэньняў былі адхіленыя хадайніцтвы аб наданьні яму званьня заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

Трухан памёр у часе аднаго з айчынных фэстываляў: проста своечасова ня выйшаў з гатэльнага нумару.

«Няхай адсыпаецца», — вырашылі акторы...

У ягоным раньнім сыходзе таксама было штосьці тэатральнае.

Безь Міколы Трухана менскі тэатар «Дзе-Я?» ціха кануў у Лету.

**Мікола Трухан**
18.8.1947, мяст. Плешчаніцы, Лагойскі раён —
20.3.1999, Маладэчна.
Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

У Генадзя Карпенкі напачатку атрымлівалася ўсё ці амаль усё.

Бліскуча абараніў доктарскую, зрабіў пяцьдзясят вынаходніцтваў, укаранёных у пятнаццаці краінах, быў абраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук і ўганараваны Дзяржаўнай прэміяй.

У 1987-м стаў дырэктарам Маладэчанскага заводу парашковай мэталюргіі й вывеў яго ў лік найлепшых прадпрыемстваў рэспублікі.

Лёгка заваяваў пасьведчаньне дэпутата Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га скліканьня, дзе кіраваў камісіяй па навуцы й навукова-тэхнічным прагрэсе.

# Генадзь Карпенка

У 1992-м узначаліў Маладэчанскі гарвыканкам і за два гады пасьпеў правесьці ў горадзе эканамічныя рэформы, запачаткаваць музычны і тэ-



Ніл Гілевіч і Генадзь Карпенка

атральны фэстывалі, карэнным чынам (адзіны ў краіне прыклад!) зьмяніць гарадзкую тапаніміку,ператварыўшы яе з убогай стандартна-савецкай у беларускую — з вуліцамі Вялікі Гасьцінец (замест Леніна), Грамадоўскай, імя Францішка Скарыны, Язэпа Драздовіча...

У 1996-м Карпенка, тагачасны намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, накіроўваў працэс імпічмэнту прэзыдэнта.

У 1998-м ён стаў на чале Нацыянальнага выканаўчага камітэту (ценявога ўраду), створанага перад заканчэньнем легітымнага тэрміну кіраваньня прэзыдэнта.

Ён быў чалавекам утульным і камфортным, але ўмеў быць і бескампрамісным.

Генадзь Карпенка мысьліў у агульнанацыянальных катэгорыях.

Ён быў адным з самых таленавітых лідэраў апазыцыі.

Ён мог стаць другім прэзыдэнтам краіны і разьвярнуць яе да дэмакратычнаай эўрапейскай супольнасьці.

Таму яго й няма сёньня з намі.

Ён, хоць ніколі ня скардзіўся на дрэннае здароўе, раптам загадкава згас, выпіўшы кавы зь нікому невядомай «журналісткай».

Празь месяц бясьсьледна зьнік адзін зь яго найбліжэйшых паплечнікаў — Юры Захаранка, яшчэ праз паўгоду другі — Віктар Ганчар.

Генадзю Карпенку ішоў усяго пяцідзясяты...

**Генадзь Карпенка**

17.9.1949, Менск — 6.4.1999, Менск.

Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

У людзей, надзеленых духоўнай свабодай, адабраць яе немагчыма. А калі да гэтае свабоды дададзена глыбокая й шчырая вера, чалавек робіцца неперAможным у самых нечалавечых выпрабаваньнях.

Пры канцы 1920-х Апалёнія Пяткун стала сястрой каталіцкага Ордэну эўхарыстак. Разам з адноўленым Ордэнам марыянаў яму было наканавана пакінуць у гісторыі царквы ў Беларусі не адну гераічную й драматычную старонку.

Яе накіравалі ў школу кравецтва і хатняй гаспадаркі. Апалёніі думалася, што цяпер праз усё жыцьцё ёй давядзецца шыць літургічныя шаты ды аздабляць касьцёлы. Аднак Усявышні даў ёй іншую місію — змагацца за само існаваньне Беларускага касьцёлу.

## Апалёнія Пяткун

Увосень 1941-га яна была ў ліку сясьцёр-эўхарыстак, якія распачалі сваё служэньне ў Росіцы, што на Дрысеншчыне, там, дзе пазьней пайшлі ў неба айцы-марыяне Антоні Ляшчэвіч і Юры Кашыра, спаленыя нацыстамі разам зь вернікамі. Якраз у тыя бязьлітасныя гады Апалёнія Пяткун ачоліла беларускую супольнасьць эўхарыстак.

Па вайне савецкая ўлада ўзнавіла перасьлед сьвятароў і вернікаў. Каб запабегчы рэпрэсіяў, у Ордэне нарадзілася ідэя пераезду ў Польшчу. Сёстры чакалі, як успрыме гэта маці Апалёнія. Адчуваючы, што служба на беларускай зямлі набывае цяпер сэнс апостальства, яна вырашыла застацца.

Аднойчы праводзіла групу сясьцёр на станцыю. Тыя клікалі за мяжу, у вагоне было вольнае месца. Як потым прызнавалася Апалёнія, шукаючы падтрымкі, апрача малітвы, яна абняла пристанцыйную бярэзінку і назаўтра вярнулася да сясьцёр у Друю.

Пацягнуліся бясконцыя месяцы няроўнага змаганьня з уладамі. У Беларусі ўжо не было нівод-



нага манаскага ордэну, а эўхарысткі яшчэ трывалі: спачатку легальна, а потым, калі забралі іх законны дом, — таемна.

У 1949-м па колішняй Заходняй Беларусі пракацілася хваля арыштаў каталіцкіх сьвятароў. Некаторыя здолелі схавацца ў лясах, на далёкіх хутарах. Іхняй ратавальніцай стала маці Апалёнія, якая ў жабрачым адзеньні штодня праходзіла не адзін дзясятак кілямэтраў, прыносячы ксяндзам ежу і навіны.

Навіны былі горкія. У зачыненых касьцёлах калгаснае начальства ў лепшым разе рабіла клюбы, а найчасьцей — сховішчы, а то й хлявы. Забраныя гэбістамі сьвятары атрымлівалі доўгія тэрміны ў сібірскіх канцлягерах. Бог даў Апалёніі сілы рупіцца і пра іх. Адмаўляючыся ад самага неабходнага, не дазваляючы сабе нават белага хлеба, сёстры-эўхарысткі адправілі вязьням ГУЛАГу сотні пасылак. Сярод тых, пра каго клапацілася маці Апалёнія, быў і засуджаны на 25 гадоў былы генэрал Ордэну марыянаў Андрэй Цікота.

Яна дажыла да больш літасьцівага часу. Бог паклікаў яе да сябе ў дзевяноста адзін год. На пахаваньні з вуснаў беларускіх сьвятароў гучалі словы: «У кагосьці ёсьць маці Тэрэза з Калькуты. У нас жа ёсьць маці Апалёнія».

**Апалёнія Пяткун**

26.1.1908, Краслава, цяпер Латвія — 9.4.1999, Вільня.
Пахаваная ў Друі, Браслаўскі раён.

Улетку 1947-га непаўнагадовая беларуска Ліна Бароўка слухала выстаўленае ёй абвінавачаньне: «Будучы варожа настроеная да савецкай улады, уступіла ў падпольную арганізацыю, для якой зрабіла бел-чырвона-белы сьцяг... Аддавала кватэру для нелегальных зборышчаў... Зьбірала ў арганізацыі сяброўскія складкі... Намервалася набыць друкавальную машынку... Дзеля канспірацыі ўзяла мянушку Тополя... Захоўвала антысавецкую літаратуру...»

У Менску ішоў працэс над сябрамі Саюзу беларускіх патрыётаў, створанага глыбоцкай і пастаўскай моладзьдзю ў адказ на палітыку русіфікацыі.

# Ангеліна Бароўка



Ліна была скарбніцай СБП. Знойдзеная ў яе гэтак званая антысавецкая літаратура ўяўляла сабой знакамітую «Беларускую граматыку» Браніслава Тарашкевіча.

Шаснаццацігадовую Бароўку-Таполю засудзілі на дзесяць гадоў канцлягераў. Але ў параўнаньні зь некалькімі пякельнымі месяцамі сьледзтва гэта ўспрымалася ёю як велізарная палёгка.

Цяпер яе прынамсі ня білі рукамі й нагамі.

У камэры ў чаканьні хуткага этапу можна было толькі сядзець не варушачыся, пры сьцяне ў халодных і сырых, населеных пацукамі сутарэньнях пастаўскай плябаніі. Менавіта такі загад вязьні чулі пасьля арышту ад сваіх ахоўнікаў-катаў.

Пэрсанажамі сьціхотнага сну здаваліся цяпер сьледчы, які на кожным допыце торкаў ліпучымі пальцамі ў вочы, і ягоны падручны старшына Авілаў,

што на допыты зьняволеных вёў, а назад ужо прыносіў іх на плячах і скідваў на падлогу, як дровы, не забываючыся выцяць «на прощание» нагой у самае балючае месца.

Спачатку Ліну Бароўку трымалі ў Менскай дзіцячай калёніі, затым этапавалі ў страшныя мардоўскія канцлягеры.

Былыя сябры Саюзу беларускіх патрыётаў расказвалі мне, што, ставячы подпіс у паперах на вызваленьне, стары лягерны доктар адно спачувальна пахітаў галавой: савецкая карная сыстэма выканала сваю ролю, ушчэнт падарваўшы здароўе яшчэ зусім маладой прыгожай жанчыны.

Калі Ліна падыходзіла цяпер да люстэрка і бачыла сябе — украй схуднелую, спакутаваную, з прыгаслымі вачыма, — яе юначая мянушка Таполя пачынала здавацца зьдзеклівай.

На радзіме Бароўка сустрэла пільную ўвагу «органаў» і савецкіх актывістаў, ды страх або, у лепшым разе, насьцярожанасьць абываталяў, сярод якіх хапала і сваякоў.

Ратуючыся ад штодзённага псыхалягічнага ціску, яна пераехала ў Рыгу, дзе й скончыўся жыцьцёвы шлях патрыёткі.

Ліну й яе сяброў выдаў спрактыкаваны правакатар Алег Стахоўскі, укаранёны ў Саюз беларускіх патрыётаў афіцэр дзяржбясьпекі, які меў і некалькіх падручных-стукачоў.

Вельмі магчыма, што ён да самага нядаўняга часу сядзеў у прэзыдыюмах, атрымліваў юбілейныя мэдалі за «баявыя заслугі» і вучыў моладзь любіць Беларусь, не захапляючыся такімі небясьпечнымі рэчамі, як беларуская граматыка.

**Ангеліна Бароўка**
1931 (?), Пастаўшчына — 11.11.1999, Рыга, Латвія.
Месца пахаваньня невядомае.

Адзін з найвыдатнейшых беларускіх кампазытараў XX стагодзьдзя Яўген Глебаў нарадзіўся ў Рославе. Толькі зусім недасьведчаныя ў гісторыі маглі называць яго «рускім чалавекам, які ўнёс вялікі ўклад у мастацтва Беларусі». Паходзячы зь беларускага этнічнага абшару, Глебаў быў шчодра надзелены найлепшымі рысамі нашай мэнтальнасьці, што выяўляліся як у творчасьці, так і ў паўсядзённым жыцьці.

У школе Жэня марыў пра мора і выправіўся паступаць у бакінскую мараходку. Адтуль, перапалохаўшы родных, ён прыехаў з чорным, як у мурына, тварам: ад самага Баку ехаў на вагонных дахах. Няпройдзены конкурс стаўся шчасьцем для беларускае музыкі.

# Яўген Глебаў



Сцэна з балету Яўгена Глебава «Тыль Уленшпігель» у пастаноўцы Фінскай нацыянальнай опэры. 1977 г.

Ягоныя эмацыйныя, інтанацыйна багатыя, нетрадыцыйныя сымфоніі й канцэрты, сюіты й араторыі, балеты «Курган», «Альпійская баляда», «Тыль Уленшпігель», «Маленькі прынц», опэра «Майстар і Маргарыта» заўсёды рабіліся падзеямі.

Відаць, кожнаму жыхару краіны знаёмыя глебаўскія п’есы для эстраднага аркестру «Залатая восень» і «Начны дыліжанс», якія тысячы разоў гучалі й працягваюць гучаць на нашым радыё.

Уляўраны й адзначаны самымі высокімі званьнямі



й прэміямі, Глебаў ніколі ня быў кампазытарам прыдворным.

Ён сябраваў з Быкавым, кнігі якога ня раз рабіліся для Яўгена Аляксандравіча літаратурнай асноваю музычных твораў.

Студэнты зь Беларускай дзяржаўнай кансэрваторыі, калегі й сябры захапляліся ня толькі яго магутным талентам і працавітасьцю, але і адметным гумарам.

Кажуць, ён працаваў наступным чынам: сымфонію — за два месяцы, балет — за паўгоду, а пра песьні казаў: «Не пасьпееў да абеду, то ня трэба й выседжваць — ня яйка ж!»

Стаўленьне народнага артыста да сёньняшняй улады цудоўна адлюстравалася ў гісторыі пра яго віншаваньне з 70-годзьдзем, калі з букетам да Глебава (які пасьля інсульту страціў зрок, але не пачуцьцё гумару) заявіўся тагачасны намесьнік кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі Іван Пашкевіч.

— Прэзыдэнт цэніць вас!

— І я яго цаню!

— Прэзыдэнт паважае вас!

— І я яго паважаю.

— Прэзыдэнт любіць вашы балеты!

— І я яго балеты люблю, — рэзюмаваў маэстра.

**Яўген Глебаў**

10.9.1929, Рослаў, Смаленская вобласьць, Расея — 13.1.2000, Менск.

Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

# Мікола Ермаловіч

Упершыню я сустрэўся зь ім у студэнцкія гады. Дзень пры дні ў чытальнай залі беларускага аддзелу Дзяржаўнай бібліятэкі зьяўляўся й заседжваўся да закрыцьця чалавек з надзіва адметным тварам — разумным, прасьветлена-адухоўленым і разам з тым нейкім безабаронным.

Прычынаю апошняга быў вельмі слабы зрок: здавалася, лінзы такіх акуляраў імгненна запаляць ад сонца паперу.

Мы пазнаёміліся нарэшце ў 1990-м, калі імя Ермаловіча ведаў кожны нацыянальна арыентаваны беларус. Ужо выйшла кнігаю ягонае славутае дасьледаваньне «Па сьлядах аднаго міту», якім мы некалі зачытваліся ў самвыдавецкім варыянце. (З працы Міколы Іванавіча вынікала, што аніякай, здавалася б, назаўсёды замацаванай у школьных і ўнівэрсытэцкіх падручніках «заваёвы літоўцамі беларускіх земляў» у гісторыі не было, а сама летапісная Літва знаходзілася на сучасным абшары Беларусі.)

Ужо было вядома, што гэта спадар Мікола пад псэўданімам Сымон Беларус нелегальна выпускаў у сярэдзіне глухіх сямідзясятых часопіс «Гутаркі», які памнажаў ягоны аднадумца мастак Яўген Кулік.

Вочы Ермаловіча амаль ня бачылі, але яго падтрымлівала шырокае прызнаньне: прыняцьце ў Саюз пісьменьнікаў, Дзяржаўная прэмія імя Кастуся Каліноўскага за кнігу «Старажытная Беларусь», мэдаль Францішка Скарыны, атрыманьне ім, маладэчанцам, менскай кватэры, што пакінула ў мінулым штодзённыя паездкі ў электрычках, дзе Мікола Іванавіч, каб не губляць часу, нярэдка чытаў пасажырам сапраўдныя натхнёныя лекцыі.

Цяпер яго называюць заснавальнікам новай беларускай рамантычнай гістарыяграфіі.

Акадэмічная навука мае да ягоных працаў



шмат прэтэнзіяў, але ніхто з крытыкаў ня можа адмовіць, што Мікола Ермаловіч у свой час зьдзейсьніў сапраўдны подзьвіг — адкінуўшы канцэпцыі несамастойнасьці і другараднасьці гісторыі Беларусі, абудзіўшы цікавасьць да мінулага ў дзясяткаў тысяч суайчыньнікаў, спрычыніўшыся да вострых навуковых і грамадзкіх дыскусіяў за межамі краіны.

Пры канцы 1990-х ягоныя вочы маглі адно адрозьніць сьвятло ад цемры. У іншай дзяржаве чалавек з такімі заслугамі атрымаў бы й адпаведны мэдычны догляд, і аўтамабіль з кіроўцам. Між тым Ермаловіч мусіў рухацца па Менску амаль навобмацак.

Пераходзячы вуліцу, ён загінуў пад коламі таксоўкі, так і не пасьпеўшы ўзяць у рукі сваю выніковую кнігу «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае».

Сьмерць Міколы Ермаловіча зь ліку тых, што застануцца на сумленьні цяперашняга рэжыму.

Я люблю вызначэньне Жуля Мішле: «Гісторыя — гэта ўваскрашэньне». Ермаловічу больш даспадобы быў Пліні Малодшы: «Гісторыя пішацца для высьвятленьня ісьціны».

**Мікола Ермаловіч**
29.4.1921, в. Малыя Навасёлкі, цяпер Дзяржынскі раён — 5.3.2000, Менск.
Пахаваны на маладэчанскіх могілках у Насілаве.

## Рыгор Клімовіч



У ягонай душы заўсёды жыў вольналюбівы дух продкаў-ліцьвінаў з роднае вёскі Шляхецкая Ваколіца, назоў якой бальшавікі сьцёрлі з мапаў.

Пры канцы 1942-га васямнаццацігадовы юнак пераходзіць лінію фронту, каб дабрацца да Саратава. Там у эвакуацыі быў Гомельскі тэхнікум, куды Рыгор паступіў перад самай вайной. Падчас вандровак па Расеі Клімовіча паводле абвінавачаньня ў шпіёнстве схапіў НКВД. Пачынаюцца яго блуканьні па пакутах, якія зацягнуліся на паўтара дзясятка гадоў.

За напісаныя пасьля арышту антысталінскія вершы Клімовіча накіроўваюць пад Нарыльск, у Гарляг з рэпутацыяй лягеру сьмерці. У 1950-м яго паўторна асуджаюць на дзесяць гадоў зьняволеньня.

Пасьля таго як «бацька ўсіх народаў» выправіўся ў апраметную і пачаліся масавыя амністыі, у Гарлягу рэжым, наадварот, зрабіўся больш жорсткім. Ахова атрымала дазвол расстрэльваць без суда й сьледзтва.

Калі колькасьць забітых наблізілася да дваццацёх, цярпеньне вязьняў высілілася: 25 траўня 1953 году над лягерам быў узьняты чорны з чырвонай паласой сьцяг паўстаньня. На чале яго стаў беларус Рыгор Клімовіч.

Ён жа склаў гімн паўстаньня «Ня страшны нам тыранствы бальшавізму», які зьняволеныя сьпявалі на мэлёдыю песьні Ўкраінскай паўстанцкай арміі «Мов той олень, що загнаний в болото».

Пазьней гімн быў перакладзены на беларускую,

украінскую, польскую, літоўскую і нямецкую мовы і гучаў на міжнародных сустрэчах сталінскіх вязьняў.

А тады паўстанцы патрабавалі прыезду з Масквы камісіі ЦК КПСС, рэабілітацыі іншадумцаў і вязьняў, якія да 1939 году не былі грамадзянамі СССР. Выступ зьняволеных доўжыўся сорак дзён, пасьля чаго ўнутраныя войскі атрымалі загад увайсьці на тэрыторыю Гарлягу й адкрыць агонь на зьнішчэньне з усіх відаў зброі.

За тры дні палегла болей за тысячу вязьняў, але крывавыя ахвяры не пайшлі намарна. Гарляг быў расфармаваны, і гэта ўратавала мноства іншых жыцьцяў.

Да канца васьмідзясятых гадоў мінулага стагодзьдзя Клімовіч заставаўся пад наглядам КГБ, але і ў той пэрыяд не пакідаў супрацiву: наладжваў сувязі паміж былымі палітвязьнямі, працаваў над успамінамі, якія пад назовам «Канец Гарлягу» выйшлі асобнай кнігаю ў 1999-м.

На той час імя правадыра легендарнага паўстаньня было добра вядомае ня толькі ў Беларусі. Клімовіч выступаў на міжнародных канфэрэнцыях і на мітынгах, актыўна супрацоўнічаў з расейскім «Мэмарыялам» і «Мартыралёгам Беларусі». Ён палымяна й доказна абвяргаў культываваную за савецкім часам дый пазьней думку аб «пакорліва-талерантным» няўдзеле беларусаў у антысталінскім супраціве.

Найяскравейшым у арсэнале яго доказаў было Нарыльскае паўстаньне, у якім бралі ўдзел болей за пяць тысяч беларусаў, чацьвёра зь якіх узначальвалі паўстанцкія камітэты.

**Рыгор Клімовіч**

3.10.1924, в. Шляхецкая Ваколіца, цяпер в. Цярэшкавічы, Гомельскі раён — 1.7.2000, Гомель.

Пахаваны ў в. Церуха, Гомельскі раён.

У яе доме, дзе я на некалькі дзён спыняўся ў падарожжы па «беларускай» Амэрыцы, мяне найперш уразіла калекцыя індзейскае керамікі.

Тады й зрабілася зразумелым, адкуль у карцінах спадарыні Галіны, нават у выявах беларускіх сьвятых, гэтыя нязвычныя эўрапейскаму воку дэкаратыўныя матывы.

Я ня даў волі фантазіі й ня стаў уяўляць, якія думкі й аналёгіі маглі ўзьнікаць у беларускай мастачкі падчас шматлікіх вандровак па архіпэлягу індзейскіх рэзэрвацыяў.

## Галіна Русак

Наваградчанка Галіна Русак у дзевятнаццаць гадоў апынулася ў ЗША. Там яна з ступенямі магістра бібліятэчных навук і гісторыі мастацтва скончыла заснаваны яшчэ ў каляніяльны пэрыяд



Ратгерскі ўнівэрсытэт, дзе пазьней была дырэктаркай мастацкай бібліятэкі. (Дарэчы, у той самай alma mater пачынаў навуковую кар'еру біяхімік беларус Аўген Вярбіцкі, спэцыяліст у захаваньні ежы, які

быў адказны за харчаваньне першай амэрыканскай экспэдыцыі на Месяц.)

Яна сталася вядомай дзяячкай нашай дыяспары, а таксама агульнаамэрыканскага руху за роўныя правы жанчын.

Але яе сапраўдным паклінаньнем было мастацтва — жывапіс і графіка, у якіх Галіна працавала ў імпрэсіяністычнай манеры. Беларусь прысутная ў многіх ейных пэйзажах («Буслы ў палёце», «Курган», «Папараць-кветка»), нават калі там, на першы погляд, адлюстраваная Амэрыка.

Згукі далёкае Бацькаўшчыны магутна гучаць у ейных творах «Эўфрасіньня Полацкая», «Голас продкаў», «Пагоня».

«Я глыбока зацікаўленая ў багатай сымбалічнай мове, у звычаях і ў сваім, адметным і непаўторным мастацкім выяўленьні беларускага народу, — пісала Галіна Русак. — Сымбалізм заўсёды быў важнай часткаю беларускага жыцьця. Як мастачка, я зацікаўленая ў перахоўваньні сымбалічнай мовы Беларусі, а яшчэ ў пашырэньні яе сродкамі сучаснай мастацкай тэхнікі паміж гледачоў замежжа».

З усіх шматлікіх выставаў у ЗША ды іншых краінах найдаражэйшаю спадарыня Галіна да апошніх дзён лічыла адзіную пэрсанальную выставу 1992 году ў незалежнай Беларусі.

Яе няма, але ў небе над Наваградчынай кружляюць ейныя буслы.

**Галіна Русак (ад нараджэньня Родзька)**
24.5.1930, Наваградак —
14.9.2000, Сомэрсэт, штат Нью-Джэрзі, ЗША.
Пахаваная на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку, штат Нью-Джэрзі.

# Стэфанія Станюта



Упэўнены, што ў многіх тысяч суайчыньнікаў пры згадцы пра Нацыянальны тэатар імя Янкі Купалы, дый наагул пра беларускі тэатар, адным зь першых выплывае з памяці велічнае імя — Стэфанія.

Драматург Францішак Аляхновіч, убачыўшы пятнаццацігадовую Стэфу, адразу ацаніў яе выбітны талент і прапанаваў выканаць галоўную ролю ў сваёй п’есе «Цені».

Яна ўпершыню выйшла на сцэну ў 1919-м у Першым таварыстве беларускай драмы і камэдыі.

З 1931-га і да апошніх дзён — амаль сем дзесяцігодзьдзяў — жыцьцё Стэфаніі было зьвязанае з купалаўскай трупай.

Тэатразнаўцы розных краінаў захоплена пісалі пра яе шматстайную творчасьць, дзе высокі драматызм спалучаўся зь непаўторнай камэдыйнасьцю, іронія — з гратэскам, яскравая эмацыйнасьць — зь пераканаўчай заглыбленасьцю ў псыхалёгію.

Для нас, шараговых тэатралаў, Станюта была проста наскрозь нашай, беларускай, іканапіснай. Хтосьці бачыў у ёй сваю маці, хтосьці — бабулю.

Добра знаёмы з Стэфаніяй Станютай тэатральны крытык Вячаслаў Ракіцкі лічыць, што найлепшыя вобразы яна стварыла ў спэктаклях «Гаральд і Мод» паводле К. Хігінза і Ж. К. Кар’ера, «Гульня

з кошкай» І. Эркеня, «Мудрамер» М. Матукоўскага, у кінафільме «Разьвітаньне» паводле аповесьці В. Распуціна «Разьвітаньне з Мацёрай».

Пагаджаючыся, дадаў бы, што Станюта была адным з вобразаў самой Беларусі.

Некалі я глядзеў пастаноўку на Малой купалаўскай сцэне. Раптам патухла электрычнасьць, і ў цемры заклапочаны голас шырокавядомай народнай артысткі прамовіў: «Извините, товарищи, технические неполадки. Надо немножко подождать».

Гэта быў ня голас Станюты: яна ніколі б не разбурыла тэатральнай умоўнасьці і не дазволіла б сабе гэтак паставіцца да нацыянальных пачуцьцяў гледачоў, частка якіх пакінула той спэктакль зусім не з прычыны адсутнасьці сьвятла.

Адрозна ад некаторых калегаў, яна ніколі не прысягала з трыбуны ў вернасьці партыі, не ўхваляла ленінскай нацыянальнай палітыкі. Затое ставіла подпіс пад лістамі пратэсту супроць будаўніцтва Віцебскай АЭС і разгону Дзядоў 1988 году, вітала стварэньне Беларускага Народнага Фронту.

У дзевяноста гадоў яна яшчэ выходзіла на сцэну ў «Памінальнай малітве» Рыгора Горына, «Страсьцях па Аўдзею» Ўладзімера Бутрамеева і зьзяла ў спэктаклі «Гаральд і Мод». «Мне хапіла розуму легкадумна пражыць жыцьцё», — казала яна, маючы на ўвазе сваю магчымасьць уцёкаў ад рэальнасьці ў сьвет мастацтва.

Калі Станюты ня стала, было пачуцьцё асірацеласьці, і, прыходзячы ў Купалаўскі тэатар на яе спэктаклі, я яшчэ доўга лавіў сябе на спадзяваньні, што вось зараз здарыцца дзіва...

**Стэфанія Станюта**
13.5.1905, Менск — 6.11.2000, Менск.
Пахаваная на менскіх Усходніх могілках.

## Вера Церлюкевіч

Яшчэ й цяпер, праз колькі гадоў пасьля яе сыходу ў тую, мроеную намі Беларусь, позірк міжволі шукае Веру Церлюкевіч на Дзень Волі, на Чарнобыльскім шляху або на Дзяды.

Знайсьці яе зазвычай можна было наперадзе — усьмешлівую, упэўненую, зь бел-чырвона-белым сьцяжком або з кветкамі гэткіх жа колераў.

Яна нарадзілася на Магілеўшчыне, у вёсцы, якая пасьля чарнобыльскай катастрофы назаўсёды зьнікла зь беларускіх мапаў.

Доўгія гады гэтая сялянская дачка зусім ня волатаўскага целаскладу працавала там, дзе не заўсёды вытрымліваюць і мужчыны, — кранаўшчыцай у ліцейным цэху Менскага трактарнага заводу.

У першы ж дзень рабочых красавіцкіх страйкаў 1991-га Вера Церлюкевіч зь яе абвостраным пачуцьцём справядлівасьці і змагарскім характарам зрабілася адным з галоўных арганізатараў пратэстаў на трактарным.

Гэта быў паваротны момант яе жыцьця.

У другой палове 1990-х Вера Максімаўна Церлюкевіч напоўніцу зьведала тое, што й тысячы нашых суграмадзянаў, якія адкрыта сталі на шлях барацьбы з рэжымам, — звальненьне з працы, арышты, правакацыі й зьбіцьцё тымі, каго ўлада называе ахоўнікамі правапарадку.

Падчас вулічных дэмакратычных акцыяў яна нязьменна апыналася ў самых гарачых месцах і звычайна выратоўвала кагосьці проста з рук разьятраных спэцназаўцаў.

Чалавеку зь яе бескампрамісным характарам у нашым грамадзтве было няпроста зарабіць сабе на хлеб. З палітычных матываў Веру звольнілі нават з пасады прыбіральніцы ў кавярні, уладальнік якой быў зацятым лукашыстам.

Пасьля гэтага яна мыла вокны ў мэблевай краме



й аднаго разу, упаўшы зь верхатуры, зламала сабе абедзьве рукі.

Але Вера Церлюкевіч была з тых, каго не маглі перайначыць ні зьняволеньні, ні вечныя хваробы, ні нястача.

Яе суседка, пісьменьніца й архівістка Вольга Бабкова, адзначае і такія адметныя Верыны якасьці, як нязводны альтруізм і бяссрэбніцтва.

З сваіх проста мізэрных заробкаў яна абавязкова штомесяц купляла дзецям суседзяў і сяброваk цукеркі й цестачкі.

Веру Максімаўну хавалі пад бел-чырвона-белымі сьцягамі.

У вялікай жалобнай працэсіі ішлі ня толькі сябры Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі Беларускага Народнага Фронту, да якой яна належала, але і многія іншыя — тыя, каму простая работніца Церлюкевіч дала яскравы прыклад ахвярнасьці й непераможнай веры ў Беларусь.

**Вера Церлюкевіч**
13.10.1941, в. Новы Барок, Краснапольскі раён — 31.12.2000, Менск.
Пахаваная на менскіх Паўночных могілках.

Мы — толькі нечая памяць пра нас.

Прысьвечаных Алесю Каралёву артыкулаў вы ня знойдзеце ў энцыкляпэдыях, але памятаюць пра яго многія.

Алесевы душа і розум прайшлі загартоўку ў Навабеліцкім дзіцячым доме, а потым у Ленінградзкім авіяпрыборабудаўнічым інстытуце. Займаючыся ў гэтай напалову засакрэчанай навучальнай установе, само паступленьне куды беларускага дзятдомаўца, няхай і з залатым школьным мэдалём, было дзівам, Каралёў трапіў у багемна-дысыдэнцкае піцерскае асяродзьдзе, якое шмат у чым вызначыла далейшае жыцьцё.

## Алесь Каралёў

Безь невысокай падхорцістай постаці Алеся, заўсёды густоўна апранутага, усьмешлівага, гаваркога, зь нездымальным бел-чырвона-белым значком на штрыфэлі, немагчыма ўявіць ніводнай нашай дэмакратычнай акцыі — пачынаючы з памятных усім нам Дзядоў 1988-га. Пасьля першага Маршу Свабоды ён стаў знаходкаю для незалежных журналістаў, дасьціпна распавёўшы, як кіраўніцтва ягонага авіярэмзаводу палохала працоўных на палітынфармацыях гісторыямі пра адмарозкаў з БНФ, што, пашыхтаваўшыся ў чэргі, гвалцілі ў спыненых трамваях маладзенькіх вагонаважатых.

Алесь Карпавіч умеў сябраваць. У ягонай кавалерскай аднапакаёўцы перабывала добрая частка Саюзу пісьменьнікаў і Саюзу мастакоў.

Дзьве паліцы ў шыкоўнай бібліятэцы займалі кнігі з аўтографамі, а сьцены ганарыліся творамі жывапісцаў Аляксея Марачкіна й Уладзімера Сулкоўскага, ювэліра Міколы Кузьміча, графікаў Міколы Купавы й Яўгена Куліка. Стасункі з Кулікам у Алеся былі асаблівыя. Ён у самым сапраўдным сэнсе гэтага слова падкормліваў нашага славутага мастака й грамадзкага дзеяча, які, невылечна хворы, жыў, як птушка



Алесь Каралёў зь сястрой Любай

нябесная, у сваёй майстэрні-гарышчы. Спадар Яўген разлучыўся з душою зусім хутка пасьля Каралёва.

А яшчэ Алеся лічылі адным з найлепшых няштатных супрацоўнікаў Менскага бюро падарожжаў. Удзячныя лісты пасьля праведзеных ім экскурсіяў прыходзілі некалі з усяго СССР. «А мы думалі, што беларусы — гэта рускія», — пісаў аўтар адной з такіх падзякаў з Эрэвану.

Алеся напаткала жудасная загуба ў уласнай кватэры. У гаспадара, на целе якога забойцы пакінулі дзясяткі ранаў, ім удалося знайсьці пару сотняў нямецкіх марак.

Адзін з злачынцаў не дажыў да суда. Другі, якому дапамаглі ледзь ня ўсё сьпісаць на суўдзельніка, атрымаў чатырохгадовы тэрмін і ўжо даўно на волі.

**Алесь Каралёў**
8.8.1940, в. Старыя Цярэшкавічы, Гомельскі раён —
30.4.2001, Менск.
Пахаваны ў в. Старыя Цярэшкавічы.

# Дзяніс Хвастоўскі

Калі ў менскім Доме літаратара гучна адзначалася 10-годзьдзе творчага руху «Бум-Бам-Літ», вечарыну пачалі з ушанаваньня памяці Дзяніса Хвастоўскага.

*Як ляціш — ня сьпі —*
*Зорачку схапі...*

— напісаў ён калісьці. Гэтыя вясёлыя й, на першы погляд, легкадумныя словы можна лічыць жыцьцёвай праграмаю паэта.

У школе Дзяніс, выклікаючы энтузіязм зусім ня ў кожнага настаўніка, зацята карыстаўся нерэфармаваным беларускім правапісам.

*Палітыкі, ня лезьце да Гісторыі.*
*Бо вы Яе ня варты.*
*Запхніце свае карты*
*сабе ў лябараторыі!*

— заклікаў Хвастоўскі, калі вучыўся на гістарычным факультэце БДУ, дзе выдаваў рукапісную газэту «Пан Панк». Адначасова з удзелам у вечарынах і пэрформансах «Бум-Бам-Літу» ён уваходзіў тады ў моладзевую суполку «Выбранецкія шыхты», якая прычынілася да пачатку масавага цяпер у Беларусі рыцарскага руху.

Дзяніс быў чалавек разьняволены і надзвычай іранічны.

Ён захапляўся беларускім, кельцкім і проста дзіцячым фальклёрам. Прыдумаў сабе старадаўні шатляндзкі радавод.

У яго былі свае прыхільнікі й зласьліўцы. Адзін з апошніх напісаў у сеціве, што ён не аматар вершаў кшталту:

*Я стары рагаты лось,*
*Ты мяне прапыласось.*

Мяркуючы з інтэрнэт-водгукаў, аматараў было ўсё ж больш. У чаканьні іхніх лістоў Дзяніс у адным зь вершаў падаў уласны адрас:

*А каб лістом маім сагрэцца,*
*Для Вас мой адрас вось такі:*
*Краіна Спаленага сэрца,*
*Сяло Старыя мастакі.*

Яму было дваццаць пяць.

Ён не вярнуўся з рэанімацыі пасьля падзеяў, пра якія сваякі дагэтуль адмаўляюцца гаварыць.

Літаратуразнаўца Аксана Бязьлепкіна піша, што Хвастоўскі, «вершы якога можна лічыць своеасаблівым сынтэзам фальклёрнай паэтыкі з іранічным «патасам» сучаснасьці, пасеяў у беларускай літаратуры адметныя ўчэпістыя радкі».



Празь пяць гадоў пасьля таго, як ён адышоў у «краіну Спаленага сэрца», у незалежным выдавецтве «Логвінаў» выйшла Дзянісава кніга «Лугназад».

Ён усё ж здолеў схапіць сваю зорачку. Няхай сабе і адну.

**Дзяніс Хвастоўскі**
13.1.1976, Менск — 25.7.2001, Менск.
Пахаваны на менскіх Чыжоўскіх могілках.

# Вячаслаў Адамчык

На паліцы, што расейскі пісьменьнік Юры Алеша назваў «залатой» (гэта значыць — той, кнігі зь якой зноў і зноў гартаюцца й перачытваюцца), у маёй бібліятэцы стаяць два выданьні Вячаслава Адамчыка: раман «Чужая бацькаўшчына» і томік апавяданьняў «Нязрушаны камень».

Першая кніга, напісаная, як сьцьвярджаюць сыны пісьменьніка, звычайнай школьнай асадкаю з сталёвым пяром, адкрыла мне некалі ня толькі й ня столькі вобраз заходнебеларускае вёскі, аб чым гаварылася ў падручніках. Яна адкрывала душу народу, наканаваньнем якога сталася быць жывой і пакутнай мяжой паміж Захадам і Ўсходам.

Не выпадкова фільм Валерыя Рыбарава «Чужая бацькаўшчына», што выйшаў у 1982 годзе ўсьлед за тураўскімі «Людзьмі на балоце», успрыняўся як абяцаньне сапраўды нацыянальнага кінэматографу. У тым фільме зьняўся юны Зьміцер Бартосік. Пазьней ён будзе ўспамінаць пра той, думаю, неверагодна важны для барда і пісьменьніка жыцьцёвы эпізод: «Я трапіў у іншую краіну. Канчаткова разбуралі звыклую савецкую рэчаіснасьць гукі жывой беларускай мовы, якая тут панавала паўсюль. Беларусь на імгненьне паказала свой сапраўдны твар. І ён быў чароўны».

Другая кніга Адамчыка з маёй «залатой» паліцы выйшла пасьля ягонага сыходу ў невараць. Апошнія гады мы, па сутнасьці, жылі ў адным двары, і ў дзёньніках ён замілавана апісваў дрэвы, якія я таксама бачыў з сваіх вокнаў, і птушак, што для мяне часта былі проста птушкамі, а ён адрозьніваў кожную па назьве, звычках і голасе.

Пра многіх людзей ён, наадварот, выказваўся ў дзёньнікавых запісах з успышкамі інфэрнальнай нянавісьці, у выніку чаго некаторыя з гэтых Адамчыкавых «герояў» абвясьцілі яго мізантропам.

Калі казаць наагул, то таленавіты мізантроп



для мяне пераважыць безьліч чалавекалюбівых пасрэднасьцяў. Аднак я перакананы, што Вячаслаў Адамчык больш за ўсё ненавідзеў тых і таго, хто перакрываў нашым лёгкім вольнае беларускае паветра.

Памятаю, зь якой роспаччу й болем на адным з паседжаньняў Рады Саюзу пісьменьнікаў ён сказаў, што ўжо некалькі тыдняў ня бачыў над цэнтральным сталічным праспэктам аніводнай беларускамоўнай расьцяжкі. І дадаў: «Хочацца памерці...»

Незадоўга да разьвітаньня з гэтым сьветам, які ён, як мала хто іншы, бачыў, здаецца, з усімі фарбамі й адценьнямі — і ў прыродзе, і ў людзкіх стасунках — Адамчык стварыў і апублікаваў выдатныя апавяданьні «Прылёт кажана» («Леанарда») і «Ноч на Галавасека», дзе ад узроўню праўды часам амаль задыхаесься.

Яго сыны Ўладзімер і Міраслаў, больш вядомыя як пісьменьнікі Адам Глобус і Міраслаў Шайбак, сваім коштам усталявалі ў гонар бацькі на доме № 12 на праспэкце Незалежнасьці мэмарыяльную дошку. На ёй аўтар «Чужой бацькаўшчыны» падобны ў профіль да Мікалая Гогаля.

Але ён ня быў нашым Гогалем.

Ён стаў нашым Адамчыкам.

**Вячаслаў Адамчык**

1.11.1933, в. Варакомшчына, цяпер Дзятлаўскі раён — 5.8.2001, Менск.

Пахаваны на менскіх Кальварыйскіх могілках.

## Валеры Масьлюк

Валеры Масьлюк — адзін з найбольш цікавых і сьмелых тэатральных рэжысэраў Беларусі 1980—1990-х гадоў.

Ён зьявіўся на сьвет у адзін з мною год у прыгараднай полацкай вёсцы. У дзяцінстве мы бегалі па адных сьцежках, купаліся ў адной Дзьвіне і, магчыма, разам удзельнічалі ў бойках «гарадзкіх» зь «дзеравенскімі», але нашыя дарогі сышліся толькі ў 1980-м. Тады ён, нядаўні выпускнік рэжысэрскага факультэту менскай «тэатралкі», паставіў на сцэне Беларускага тэатру імя Якуба Коласа спэктакль «Клемэнс» паводле п’есы літоўца Казіса Саі. Я езьдзіў на гэтую пастаноўку пяць разоў. Прыпавесьць Саі ў Валеравым прачытаньні поўнілася рызыкоўнымі падтэкстамі. Яна дыхала свабодай і ўспрымалася як выклік ціхай барталямэеўскай ночы брэжнеўскага застою. У адной зь песьняў на вершы Алеся Разанава, што гучалі ў спэктаклі, сьпявалася:

*І гэты час,*
*і гэты лад —*
*не назаўсёды...*

Потым Масьлюк ставіў Шэксьпіра й Гогаля, Дзюрэнмата і Ўільямза... За пастаноўку быкаўскага «Знаку бяды» ён у 1986 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі. Ягоныя яркія відовішчныя спэктаклі былі мэтафарычнымі й асацыятыўнымі, народжанымі сучаснай тэатральнай эстэтыкай.

Шмат хто перакананы, што Купалавы «Тутэйшыя» прыйшлі на сцэну дзякуючы Міколу Пінігіну, але насамрэч першую пастаноўку ажыцьцявіў у 1982-м на сцэне Магілеўскага абласнога тэатру Валеры Масьлюк, які, дарэчы, сам выконваў ролю Янкі Здольніка.

У яго былі прэстыжныя прэміі й высокія тэатральныя пасады. Ён пісаў таленавітыя п’есы і трапяткія вершы, падобныя да ягоных графічных малюнкаў.



Валеры Масьлюк (крайні справа) з акторамі-коласаўцамі. 1981 г.

Ягонае жыцьцё, якое Генадзь Бураўкін у прадмове да пасьмяротнай Валеравай кнігі паэзіі, графікі й драматургіі назваў «палётам у нязьведанае», закончылася раптоўна.

У апошніх Валеравых вершах вытанчаную паэзію часта замянялі боль і смутак:

*Мы завемся — Беларусы,*
*Б’ем у грудзі, нібы ў звон,*
*І скарыліся прымусу,*
*Узьвялі яго на трон...*

Да гэтай раньняй сьмерці найперш прычыніўся глыбокі душэўны разлад, выкліканы беларускай рэчаіснасьцю канца 1990-х, якая бязьлітасна перакрэсьліла мары й ідэалы.

**Валеры Масьлюк**
30.3.1953, в. Ропна, Полацкі раён —
26.8.2001, Віцебск.
Пахаваны ў Вушачах.

## Уладзіслаў Чарняўскі

«Кожны народ павінен маліцца ў сваёй мове». Вернасьць гэтаму credo беларускі сьвятар Уладзіслаў Чарняўскі пранёс праз усё жыцьцё.

Ягоны зямны шлях пачаўся ў ваколіцах старажытных Гальшанаў. Гімназія пры Друйскім кляштары айцоў марыянаў, што знаходзілася пад уплывам беларускіх ксяндзоў, дала душы моцны нацыянальны гарт. Сваю першую імшу малады сьвятар Уладзіслаў, як і некалі ягоны брат па духу Адам Станкевіч, адправіў па-беларуску ў векавечным Крэве.

Ад сярэдзіны 1950-х амаль паўстагодзьдзя айцец Уладзіслаў служыў у касьцёле Сьвятой Марыі ў Вішневе пад Валожынам.

Гэтае старажытнае мястэчка цікавае не адным касьцёлам — помнікам раньняга барока. Зь Вішневам было зьвязанае жыцьцё асьветніка часоў Рэфармацыі Сымона Буднага, у гэтых мясьцінах жылі й знайшлі апошні спачынак паэты Канстанцыя Буйло і Пятро Бітэль.

Аднак у 70—80-я гады мінулага стагодзьдзя ў Вішнева прыяжджалі найперш да айца Ўладзіслава, доўгі час адзінага ў Беларусі каталіцкага сьвятара, які служыў па-беларуску. У яго бывалі Ўладзімер Караткевіч, Зянон Пазьняк, гісторык і літаратуразнаўца Анатоль Сідарэвіч.

Да яго ехала па духоўную падтрымку адраджэнская моладзь. Я ведаю дзясяткі людзей, якія прынялі ў айца Ўладзіслава хрост. Сярод іх — вядомы праваабаронца, кандыдат на Нобэлеўскую прэмію міру Алесь Бяляцкі.

У 1960-я рымскі папа Павал VI прапанаваў ксяндзу Чарняўскаму заняць пасаду адміністратара для ўсіх каталікоў Беларусі. Савецкія ўлады не далі на гэта дазволу, як пазьней адхілілі й просьбу Ватыкану аб прызначэньні айца Ўладзіслава біскупам.

Улады некалькі разоў не дазвалялі яму паехаць



Айцец Уладзіслаў Чарняўскі (справа) на аўдыенцыі ў папы рымскага Паўла VI. Зьлева — біскуп Часлаў Сіповіч. 1968 г.

у Рым, але былі ня ў стане пахіснуць велізарны маральны аўтарытэт сьвятара сярод вернікаў і клеру.

Ён убачыў зьдзяйсьненьне мары пра беларускую мову ў каталіцкіх сьвятынях і дачакаўся выданьня свайго перакладу Новага Запавету.

**Уладзіслаў Чарняўскі**
14.1.1916, засьценак Амбружын, цяпер Ашмянскі раён — 22.12.2001, Менск.
Пахаваны ў мяст. Вішнева, Валожынскі раён.

У 1980-м рэспубліканскі Камітэт дзяржбясьпекі — кажуць, у складзе цэлага аддзелу — шукаў аўтара растыражаванай на Захадзе паштоўкі да 1000-годзьдзя Беларусі. Гэбісты ня ведалі, што пракляты нацыяналіст, за якога яны атрымалі не адну прачуханку, засеў не ў далёкіх сутарэньнях, а ўсяго толькі на другім баку праспэкту, насупраць іхняга жоўтага дому, з бэльвэдэру якога тады яшчэ можна было ўбачыць Калыму.

## Яўген Кулік

З вокнаў майстэрні Яўгена Куліка таксама адкрываліся далёкія краявіды. Адтуль па-над куродымам савецкага ідэалягічнага дурману відаць была Беларусь: ад пракаветных часоў Рагвалода да, здавалася, яшчэ далёкай прышласьці, калі краіна здабудзе незалежнасьць. У гэта верыў кожны з тых, хто зьбіраўся на паддашку ў спадара Яўгена. Бо «На Паддашку» — так неафіцыйна і называўся гэты апазыцыйны інтэлігенцкі асяродак, створаны ў сярэдзіне 1960-х, — сыходзіліся Лявон Баразна і Зянон Пазьняк, Міхась



Чарняўскі й Алесь Разанаў, Зьміцер Санько, Аляксей Марачкін, Алесь Лабанок...

Там нараджаліся ідэі спачатку культурніцка-асьветных, а потым і палітычных акцыяў і праектаў, генэратарам многіх зь якіх быў Кулік. Сябры і калегі згадваюць, што якраз ён вёў рэй у падрыхтоўцы выставаў да 100-годзьдзя з дня нараджэньня паэткі Цёткі і 500-годзьдзя Міколы Гусоўскага, якія прагучалі як выклік афіцыйнаму «мастацтву». Акурат выстава, прысьвечаная аўтару «Песьні пра постаць, дзікі нораў зубра і паляваньне на яго», разам з самой паэмай, праілюстраванай Кулікам, і натхнілі мяне на аповесьць «Час чумы».

У тыя 1970—1980-я гады Кулік стварыў найбольш значныя свае графічныя сэрыі «Помнікі Гарадзеншчыны», «Замкі Беларусі», аркушы паводле забароненай паэмы Янкі Купалы «На Куцьцю».

У маладосьці ён быў амаль двухмэтровым волатам-прыгажуном. Цяжкая хвароба фізычна скалечыла Яўгена, але загартавала ягоны дух.

Кулік стаў адным з ідэолягаў нацыянальнага Адраджэньня. Яго біёграф Пётра Васілеўскі падкрэсьлівае, што, застаўшыся ў мастацтве кансэрватыўным нацыяналістам, у палітыцы Яўген быў прыхільнікам нацыяналізму радыкальнага. У 1991-м ён браў удзел у стварэньні графічнага эталёну Пагоні — Дзяржаўнага гербу Беларусі. Якім шчасьцем сьвяціліся тады звычайна змучаныя болем Яўгенавы вочы!

Ён стаў ініцыятарам стварэньня аднайменнай мастакоўскай суполкі. «Беларусь — мой сьвет» — назвалі сябры «Пагоні» мэмарыяльную выставу твораў Куліка. Так сказаць пра сябе і Радзіму ён меў права, як мала хто іншы.

**Яўген Кулік**

31.10.1937, Менск — 12.1.2002, Менск.

Пахаваны на менскіх Кальварыйскіх могілках.

# Ігар Германчук

Думаючы пра Ігара Германчука, я найперш згадваю ягоныя вочы — дапытліва-засяроджаныя, але разам з тым нязьменна ўсьмешлівыя і сагрэтыя іроніяй. Вочы ўнутрана свабоднага чалавека.

Упершыню я сустрэў яго, студэнта факультэту журналістыкі БДУ, на пачатку 1980-х у ўжо авеянай паданьнямі Беларускай сьпеўна-драматычнай майстроўні. Я яшчэ ня ведаў, што Ігар ня толькі бярэ ўдзел у фальклёрных сьвятах ды адказвае на экзамэнах па-беларуску. Працуючы на паліграфкамбінаце імя Якуба Коласа, ён выносіў адтуль наборныя літары для нелегальнай друкарні, якую марыў стварыць зь сябрамі-майстроўцамі.

Незалежная Беларусь сталася мэтаю і зьместам ягонага жыцьця зь юначых гадоў.

У 1990-м Германчук, якому ня споўнілася яшчэ й трыццаці, быў абраны ў Вярхоўны Савет БССР 12-га скліканьня. Адзін з самых маладых дэпутатаў, ён з калегамі з фракцыі БНФ вяртаў нашую краіну на палітычную мапу сьвету.

У красавіку 1995-га Ігар разам зь іншымі дэпутатамі ад апазыцыі абвясьціў галадоўку пратэсту супраць рэфэрэндуму пра дзяржаўную мову і сымболіку. Уначы ў залю Вярхоўнага Савету ўварваліся галаварэзы ў чорных масках...

Трыццацігадовым Ігар узначаліў газэту «Свабода», якая пры ім зрабілася найбуйнейшым і найпапулярнейшым незалежным выданьнем краіны, дасягнуўшы 100-тысячнага накладу.

Ён, магчыма, як ніхто іншы з рэдактараў, разумеў магутную стваральную сілу нацыянальнай памяці. Даведаўшыся, што дзяржаўныя выдавецтвы адмовіліся друкаваць нашыя з Генадзем Сагановічам «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі», Германчук прапанаваў цалкам апублікаваць кнігу на старонках «Свабоды».




Пазьней «Дзесяць вякоў...» чатыры разы выходзілі ў кніжным фармаце, але для мяне найдаражэйшым застаецца тое першае, газэтнае выданьне, якое тыдзень за тыднем ў суботніх нумарах чыталі дзясяткі тысяч беларусаў.

За сьмелыя публікацыі пракуратура чатыры разы заводзіла на Ігара крымінальныя справы. Невядомыя прыцэльна стралялі па вокнах ягонага дому.

Пры канцы 1997-га газэта «Свабода» была забароненая, але праз лічаныя месяцы Ігар здолеў адрадзіць яе пад назовам «Навіны».

Алег Трусаў, які добра ведаў Ігара і працаваў зь ім разам у Вярхоўным Савеце, кажа, што Гермянчук нагадваў яму Кастуся Каліноўскага.

Жыцьцю і трагічна-заўчаснаму сыходу Ігара прысьвяціў сваю кнігу-біяграфію «Спадар Свабода» Сяргей Астраўцоў (Бібліятэка Свабоды, 2020).

Дактары сьцьвярджаюць, што ягонае сэрца спыніла невылечная хвароба. А мне здаецца, ён проста задыхнуўся ад вострага недахопу свабоды.

У Беларускай энцыкляпэдыі месца для артыкулу пра Ігара не знайшлося. Але ў той Беларусі, дзеля якой ён жыў, зьявяцца іншыя энцыкляпэдыі.

**Ігар Гермянчук**
1.1.1961, в. Стракавічы, Сьветлагорскі раён — 29.4.2002, Менск.
Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

# Уладзімер Кармілкін

Яшчэ пры жыцьці ён здабыў сабе славу фоталетапісца БНФ і ўсёй апошняй хвалі беларускага Адраджэньня. У дзень народзінаў за сталом у спадара Кармілкіна можна было сустрэць Васіля Быкава, вучонага і палітыка Юрыя Хадыку, вядомых мастакоў, літаратараў, музыкаў. Іхнія клопаты й памкненьні былі і справаю яго жыцьця.

Безь ягонай рухавай цыбатай постаці я не магу згадаць, здаецца, ніводнай вулічнай акцыі, дзе ён заўсёды апынаўся ў віры падзеяў.

Памятаю, як на Чарнобыльскім шляху 1996 году ён адарваўся ад аб’ектыву, каб перавязаць параненага, і сам атрымаў жорсткі ўдар па галаве.

Кармілкін ня меў найсучасьнейшай оптыкі, але



гэта заўсёды кампэнсавалася ягонай шалёнай, проста фантастычнай нястомнасьцю.

Ён зрабіў тысячы здымкаў, многія сотні зь якіх застануцца для нашых наступнікаў у газэтных падшыўках і кнігах.

Аднак Уладзімер глядзеў на сьвет ня толькі праз фотааб'ектыў. Незвычайна прыемна было ўбачыць у яго сваю новую кнігу з закладкай. Ён прасіў мяне напісаць раманы пра гетмана Астроскага й Станіслава Аўгуста Панятоўскага, нашага апошняга манарха.

Дачцэ, якая стала мастачкай, ён даў рэдкае й прыгожае імя — Мiлiта (Мядовая).

Былы вайсковец, ён быў надзелены нечакана чуйнай душою і талентам сябраваць з многімі, але з асабліва трапяткім пачуцьцём ставіўся да Быкава. Ад'яжджаючы за мяжу, Васіль Уладзімеравіч атрымаў ад Кармілкіна ў падарунак Пагоню й бел-чырвона-белы сьцяжок, зь якімі не расставаўся да апошніх дзён.

У пасьведчаньне аб сьмерці спадара Ўладзімера запісалі ўмоўную дату. Яго знайшлі ў кватэры толькі праз некалькі дзён пасьля таго, як спынілася ягонае беларускае сэрца. Балюча, што ён не пасьпеў зафіксаваць на стужку хроніку будучай перамогі, у якую так верыў.

Не пагаджайцеся з тымі, хто кажа, нібыта незаменных людзей не існуе. Уладзімера Кармілкіна няма з намі ўжо даўно, а яго месца фоталетапісца змаганьня за дэмакратычную Беларусь па-ранейшаму застаецца вакантным.

**Уладзімер Кармілкін**
15.2.1934, Смаленск, Расея —
14.7.2002, Менск.
Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

Я не служыў на флёце, але добра ўяўляю, якая выбітная роля належыць на караблі боцману. А калі даць волю фантазіі й уявіць маю верагодную марскую службу, я хацеў бы, каб нашага боцмана звалі Артурам Вольскім.

Частку сваіх дзесяці флёцкіх, у тым ліку і баявых, гадоў спадар Артур насамрэч выконваў боцманскія абавязкі, што, здаецца, зусім ня горшым чынам паўплывала на ягоны далейшы лёс — і літаратурны, і кар'ерны. А трапіў ён на Ціхі акіян у 1942-м. Артуру споўнілася васямнаццаць, і ён ужо лічыў сябе ня толькі мараком, але і пісьменьнікам, бо першае апавяданьне надрукаваў ажно ў трынаццаць гадоў.

## Артур Вольскі



Найбольш поўна шматстайныя таленты Вольскага раскрыліся, калі ён паўтара дзесяцігодзьдзя працаваў у Беларускім тэатры юнага гледача — спачатку загадчыкам літаратурнай часткі, а затым дырэктарам. Якраз тады разам з шматлікімі паэтычнымі й празаічнымі зборнікамі для дзяцей і дарослых была створаная п'еса-казка «Сьцяпан — вялікі пан», што — пакладзеная на музыку кампазытарам Юрыем Семянякам — сталася першай беларускай дзіцячай апэрэтай.

Парадак панаваў на ўсіх палубах і тады, калі спадар Артур быў дырэктарам менскага Дому літаратара.

Шмат каму жыцьцё Вольскага падавалася ўва ўсіх сэнсах камфортным і бясхмарным. Але пад ягоным нацельнікам, што пачасту выглядваў з-пад моднай кашулі, білася сэрца, якое прывяло пісьменьніка

ў кастрычніку 1988-га ў шэрагі стваральнікаў Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне».

Вольскі ўваходзіў у склад некалькіх Соймаў БНФ, узначальваў Беларускае дэмакратычнае аб'яднаньне вэтэранаў вайны. Некалькі разоў я быў сьведкам таго, як на шэсьцях дэмакратычных сілаў уладным позіркам і зычным голасам спадар Артур спыняў і прымушаў адступаць чорныя шэрагі тых, хто перагароджваў дарогу.

Ягоны бацька Віталь, аўтар славутага «Несьцеркі», пражыў восемдзесят сем гадоў, маці — дзевяноста чатыры. Генатып і магутнае здароўе абяцалі спадару Артуру доўгае жыцьцё. Аднак умяшаўся выпадак, а найверагодней — загадзя сплянаваная акцыя. Пасьля вечаровага выступу перад школьнікамі Вольскага запыніла вялікая агрэсіўная кампанія. Яго ня проста жорстка зьбілі, але і распранулі, пакінуўшы непрытомным ляжаць на халоднай лістападаўскай зямлі. Пэражыты тады шок, на думку мэдыкаў, і справакаваў анкалягічнае захворваньне.

У ліку ягоных найлепшых паэтычных твораў астатніх гадоў многія называюць верш «Калі гучыць «Магутны Божа»:

*Калі гучыць «Магутны Божа»,*
*гатоў я ўпасьці на калені.*
*Бог — толькі Бог! — нам дапаможа*
*знайсьці шляхі да вызваленьня...*

Таленавіты род Вольскіх доўжыцца ў Артуравым сыну Лявону — адным з найпапулярнейшых у краіне рок-музыкаў.

**Артур Вольскі**
23.9.1924, Койданава — 5.9.2002, Менск.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

Калі ў сярэдзіне 1990-х ён папрасіў у мяне рэкамэндацыю ў Саюз пісьменьнікаў, а неўзабаве і ў Беларускі ПЭН-цэнтар, я крыху зьніякавеў, бо значна лягічнейшай выглядала б сытуацыя адваротная.

І рэч ня ў тым, што Анатоль нарадзіўся на пятнаццаць гадоў раней.

Якраз тады я рэдагаваў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» (адкуль праз пару гадоў мяне звольняць зь непаўторнай фармулёўкаю — «за выпуск исторической и другой сомнительной литературы») том новай «Анталёгіі беларускай паэзіі», сярод адметных аўтараў якой быў Анатоль Канапелька.

## Анатоль Канапелька

Ягоныя вершы запомніліся мне сьвежасьцю й нейкім кранальным наівам, а адзін, што ў сьвядомасьці адразу зьвязаўся з 25 сакавіка, я памятаю і цяпер:

*Яшчэ шалее ветравік*
*асьнежаным крылом,*
*ды наступае сакавік,*
*і рушыў крыгалом.*
*І ўжо ня будзе лютых сьцюж...*
*Ад самага відна,*
*як ачышчэньне нашых душ,*
*да нас ідзе Вясна...*

Верш гэты я цытаваў у інтэрвію, якія даваў у сакавіку 2006-га на пляцы імя Кастуся Каліноўскага, дзе тады паўстала выспа свабоды.

Сам паэт ужо ня мог быць там разам з намі, але ў намётавым мястэчку я пазнаёміўся зь дзьвюма ягонымі былымі студэнткамі зь філфаку Віцебскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, дзе дацэнт Канапелька выхоўваў адданых сваёй справе выкладчыкаў і выкладчыц беларускай мовы й літаратуры, якія цяпер запрашаюць мяне на сустрэчы з вучнямі.



Анатоль таксама ня раз запрашаў да сваіх гадаванцаў, але ў апошнія гады заўсёды сутыкаўся з катэгарычнай рэктарскай забаронай, што наўрад ці спрыяла ягонаму ня надта моцнаму здароўю.

Ён быў бязьмежна закаханы ў творчасьць аднаго з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры Яна Баршчэўскага.

Дзякуючы Канапельку загучалі па-беларуску шмат якія польскамоўныя творы нашага зь ім знакамітага земляка.

У выніку Анатолевых намаганьняў ладзіліся міжнародныя навуковыя чытаньні, прысьвечаныя аўтару «Шляхціча Завальні, альбо Беларусі ў фантастычных апавяданьнях», а на яго радзіме, у Мурагах, на беразе таямнічага возера Нешчарда, зьявіўся помнік.

Акружаны ўлетку лугавымі званочкамі й сьлёзкамі, гвазьдзікамі й рамонкамі, ён здаецца мне помнікам і самому Анатолю Канапельку, што, як і калярытны герой Яна Баршчэўскага, кожны вечар запальваў на вакне сьвечку, каб паказаць заблукалым у непагадзі вандроўнікам шлях.

**Анатоль Канапелька**
16.11.1939, Расоны — 18.12.2002, Віцебск.
Пахаваны на віцебскіх Мазурынскіх могілках.

Аднойчы на сустрэчы з чытачамі мне прыйшло дзіўнаватае пытаньне: «Ці ведаеце вы, які сёньня дзень?»

«21 сьнежня», — адказаў я і ня здолеў анічога ўдакладніць.

Тады сярод публікі паднялася прывабная русявая жанчына: «Дзень нараджэньня Сталіна». Заля зьнячэўлена прыціхла, потым па ёй прашамацеў зьдзіўлена-абураны шумок.

Але жанчына эмацыйна працягвала: «Вы ўяўляеце, якое шчасьце, што мы пра такое ўжо ня памятаем?!»

## Марыя Мацюкевіч

Гэта была Марыя Мацюкевіч, выкладчыца беларускай мовы й літаратуры, якая і запрасіла нас з Вольгай Іпатавай і Сержуком Сокалавым-Воюшам на тую сустрэчу ў яе Салігорск.

У 1990-я ў асяродзьдзі беларускай дэмакратычнай інтэлігенцыі Марыю ведаў кожны.

Безь яе будзе няпоўнай гісторыя Таварыства беларускай мовы, салігорскую арганізацыю якой Марыя Мацюкевіч узначальвала болей за дзесяць гадоў, зрабіўшы яе, відаць, найактыўнейшай у цэлай краіне.

Яна правяла для вучняў і землякоў сотні сустрэчаў зь літаратарамі, гісторыкамі, мастакамі, прычым кожная мела таленавіты сцэнар і пакідала перакананьне, што твая праца — патрэбная.

Уласным коштам Марыя выпускала папулярную ў шахтарскім горадзе газэту «Рагнеда» зь літаратурным дадаткам. Дзякуючы ёй была перавыдадзеная асобнай кніжкай паэма Лявона Случаніна «Рагнеда».

Вакол улюбёнай настаўніцы вiравала моладзь...

Зьмянілася ўлада, прайшлі рэфэрэндумы 1995 і 1996 гадоў, а Марыя заставалася ранейшай — апантанай вераю ў сваю Беларусь.



Марыя Мацюкевіч з унучкай

Ці трэба казаць, што з кожным годам жыць ёй рабілася ўсё складаней.

Марыя была ўпэўненая: вулічную бойку, у якой загінуў сын, справакавалі яе «куратары».

Дарэчы, крымінальная справа паводле факту сынавай сьмерці была распачатая толькі пад ціскам няўцешнае маці.

Мацярынскае сэрца ня вытрымала гэтае страшнае страты.

Кажуць, хтосьці з дактароў вельмі дзівіўся: настаўніца і на Божай пасьцелі гаварыла па-беларуску.

**Марыя Мацюкевіч**
26.7.1949, в. Вялікія Заўшыцы, цяпер Салігорскі раён — 7.1.2003, Салігорск.
Пахаваная на салігорскіх могілках Дубеі.

Калі я вучыўся ў дзясятым клясе, у наш Полацак прыехалі «Песьняры» (тады яшчэ «Лявоны»).

Маімі кумірамі ўжо былі «Бітлы» і «Ролінгі», і перад канцэртам я меў настрой досыць скептычны. Апрача ўсяго, і сам канцэрт аказаўся пад пагрозаю. Як стала вядома, у гаркаме партыі, убачыўшы «Лявонаў», выставілі ім ультыматум: або «дзікабразы» ідуць у цырульню, або гастролі адмяняюцца.

На маё велізарнае шчасьце, Уладзімер Мулявін выбраў цырульню.

Пасьля таго канцэрту я некалькі тыдняў напяваў «Александрыну», адчуваючы, як ува мне прачынаецца зусім іншая істота.

## Уладзімер Мулявін



Калі не баяцца высокіх словаў, можна сказаць, што ня хто іншы, а «Песьняры» далучылі мяне, савецкага хлопчыка, да нацыянальнага космасу.

На маю думку, дзеля вяртаньня беларусам Беларусі Ўладзімер Мулявін у музыцы зрабіў ня менш, чым Уладзімер Караткевіч — у літаратуры.

Дзякуючы Мулявіну беларускую песьню засьпявалі мільёны нашых суайчыньнікаў.

Яе пачулі ў шасьцідзесяці краінах на абедзьвюх зямных паўкулях. Падчас гастроляў у ЗША «Песьняры» атрымалі прапанову на ўсясьветны гастрольны тур. Савецкае чынавенства ад культуры не дазволіла музыкам канчаткова скарыць сваім майстэрствам плянэту.

Талент і выключная інтуіцыя Мулявіна прынесьлі ў велізарныя перапоўненыя залі разам з народным

мэлясам і нацыянальную паэзію — Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Ларысы Геніюш... Вы памятаеце, як на пачатку 1990-х гучала песьняроўская «Пагоня»? А ў «Малітве» на словы Купалы кіраўнік «Песьняроў» геніяльна замяніў усяго адну літару, і «расьпетая душа»ператварылася ў «расьпятую». Паэт, напэўна, ня ў крыўдзе.



Зорны склад «Песьняроў». 1978 г.

Творчасьць «Песьняроў» зрабіла сапраўдную сьпеўную рэвалюцыю, якая ў краіне зь іншым мэнталітэтам мела б шанцы перарасьці ў рэвалюцыю палітычную.

Калісьці я сустрэўся за калядным сталом з двума «песьнярамі» зь іх даўняга, зорнага складу. Першы прыехаў на сьвяты з Амэрыкі, другі з Кёльну і — хоць і не забыў беларускай мовы — з прыемнасьцю і, як мне падалося, зь відавочнай палёгкаю загаварыў з адным з прысутных па-нямецку.

Абодва былыя паплечнікі Мулявіна не пакінулі музыкі, але разьвіталіся з Радзімай. Ён — застаўся.

Калі краіна праводзіла яго ў апошні шлях, ніхто не сумняваўся, што Ўладзімер Мулявін застанецца ў нацыянальным Пантэоне.

**Уладзімер Мулявін**

12.1.1941, Сьвярдлоўск, цяпер Екацярынбург, Расея — 26.1.2003, Масква, Расея.

Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

Пасьля Дзядоў 1988 году, якія адгукнуліся далёка за межамі Беларусі, старшыню Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР Георгія Таразевіча прызначылі кіраўніком камісіі ў расьсьледаваньні тых падзеяў.

Назаўтра ж ён накіраваўся на агульны сход нашага Саюзу пісьменьнікаў.

Сход быў надзвычай бурны. Высокі госьць шчодра раздаваў абяцаньні ўва ўсім разабрацца, абы не пасылалі тэлеграфнага звароту да Гарбачова.

Сярод выступоўцаў апынуўся й я: пасьля прамовы на Дзядах цягам двух дзён на мяне склалі два

## Георгі Таразевіч



пратаколы за пражываньне ў сталіцы без прапіскі, а, аформіўшы трэці, абяцалі арыштаваць. «Даю слова гонару, таварыш Арлоў, што міліцыя да вас больш ня прыйдзе», — сказаў Таразевіч.

Назаўтра людзі ў пагонах сапраўды пакінулі мяне ў спакоі.

Гэта асабліва ўражвала, бо ўчора — не пасьпеў скончыцца сход — Таразевічу даклалі: пісьменьніцкая тэлеграма ў Маскву адпраўленая яшчэ да ягонага візыту ў Дом літаратара.

Ён быў ня вельмі тыповым функцыянэрам высокага рангу. Атрымаўшы ў Львоўскім політэхнічным інстытуце дыплём інжынэра-геадэзіста, Георгі Таразевіч аб'ехаў з геалягічнымі экспэдыцыямі ўвесь Савецкі Саюз. А не зусім савецкі Львоў часоў свайго студэнцтва ён у 1990-я часта згадваў у размовах.

На пасадзе старшыні Менгарвыканкаму ён вызначаўся публічнымі выступамі па-беларуску.

Стаўшы ў 1989-м народным дэпутатам СССР, ачольваў камісію па міжнацыянальных дачыненьнях і наведаў усе тагачасныя «гарачыя кропкі», пачынаючы з Нагорнага Карабаху.

Галоўныя рашэньні, вядома, прымаліся не Таразевічам, але і ад армянаў, і ад літоўцаў мне даводзілася чуць пра ягоную мудрую разважлівасьць.

Дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі лёсавызначальнага 12-га скліканьня Пятро Садоўскі апавядаў, што падчас разгляду пытаньня пра сымболіку шмат у чым акурат дзякуючы спакойнаму й аргумэнтаванаму выступу Таразевіча, які ўгамаваў устрывожаную намэнклятурную большасьць, галасаваньне завяршылася зацьверджаньнем Пагоні і бел-чырвонабелага сьцягу.

У гады незалежнасьці ён быў першым намесьнікам міністра замежных справаў, а затым паслом Беларусі ў Польшчы, адкуль Таразевіча адклікалі пасьля яго адкрытых рэзкіх выказваньняў супраць рэфэрэндуму 1995-га.

Далучыўшыся да дэмакратычнага лягеру, Георгі Таразевіч увайшоў у Нацыянальны выканаўчы камітэт (ценявы ўрад), дзе кіраваў камісіяй у нацыянальных і рэлігійных справах.

Аднойчы мы сустрэліся на сьвяткаваньні Дня Волі. Хітравата прымружыўшы вочы, Таразевіч нечакана запытаўся: «Спадар Арлоў, а вы памятаеце той сход у Саюзе пісьменьнікаў?»

**Георгі Таразевіч**
17.7.1937, в. Слабада, цяпер Мядзельскі раён —
21.3.2003, Менск.
Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

## Алег Табола

Пасьля вызваленьня Беларусі ад гітлераўцаў пятнаццацігадовы Алег Табола прыйшоў давучвацца ў адну з глыбоцкіх школаў. На шыльдзе было напісана, што школа — беларуская, але ўсё выкладаньне ў ёй (як гэта зазвычай бывае й сёньня) ішло па-расейску.

Для юнакоў і дзяўчат, якія ў гады нямецкай акупацыі вучыліся сапраўды ў беларускіх школах, такое становішча было дзікім і незразумелым. Яно наводзіла на думку, што акупацыя зьмянілася не на свабоду, а на новую няволю, якая ў стаўленьні да ўсяго беларускага выглядала значна больш жорсткаю.

Адзін раз на ўроку гісторыі Алег зь сябрамі запытаўся ў настаўніка, чаму беларусы павінны вучыцца на мове іншага народу. «Что здесь непонятно? — ня проста зьдзівіўся, але абурыўся настаўнік. — Зачем ваш белорусский язык, если местное население хорошо понимает по-русски? Ведь и сами белорусы согласны, что их наречие излишне».

Але згодныя з гэтым былі зусім ня ўсе беларусы. Праз год, ужо ў Глыбоцкай пэдвучэльні, дзе таксама поўным ходам праводзілася русіфікацыя, Алег Табола ўступіў у нелегальны Саюз беларускіх патрыётаў. Асноўным пунктам яго праграмы была не дэкляратыўная, а рэальная незалежнасьць Беларусі зь дзяржаўнай беларускай моваю, бел-чырвона-белым сьцягам і гербам «Пагоня».

Кансьпірацыйныя сустрэчы, прысяга перад нацыянальнымі сымбалямі, аб’яднаньне з аднадумцамі з пастаўскай групы «За Беларусь» — усё гэта адпрэчвала безнадзейнасьць і напаўняла жыцьцё сэнсам. Але ў арганізацыі ўжо дзейнічаў правакатар Алег Стахоўскі. У лютым 1947-га пачаліся арышты, допыты з выкарыстаньнем сэансаў гіпнозу, катаваньні.

Табола быў асуджаны на восем гадоў лягераў і пяць



гадоў пазбаўленьня грамадзянскіх правоў. Пасьля вызваленьня ён здолеў вярнуцца ў Беларусь, дачакаўся рэабілітацыі й стаў адным з герояў прысьвечанай Саюзу беларускіх патрыётаў кнігі «Гарт», выдадзенай у 1990-я Архівам найноўшай гісторыі.

У той час Табола быў ужо інвалідам, але паранейшаму імкнуўся служыць ідэалам маладосьці. Ён знайшоў сябе ў праваабарончай дзейнасьці, быў абраны ў склад выканкаму Лігі правоў чалавека.

Ужо амаль напрыканцы свайго шляху спадар Алег завяршыў кароткія, але надзвычай насычаныя імёнамі й фактамі мэмуары «Мой жыцьцяпіс».

Ёсьць у іх згадка пра немаладога сулягерніка, які, каб умацоўваць беларускі дух землякоў — сяброў па няволі, чытаў ім на памяць клясыку айчыннай паэзіі. Гэта прыносіла добры плён, але, як піша Табола: «Былі сярод нас і такія, што не хацелі звацца беларусамі, а імкнуліся далучыцца да расейцаў. Аднак расейцы, палічыўшы іх ненадзейнымі людзьмі, да сябе групоўку ня бралі. Такія беларусы ёсьць сярод нас і сёньня. Ніяк яны ня хочуць усьвядоміць, што ў расейцаў заўсёды будуць людзьмі другога гатунку».

**Алег Табола**
18.5.1929, в. Заазёрцы, цяпер Шаркоўшчынскі раён — 3.4.2003, Менск.
Пахаваны на могілках у пас. Калодзішчы, Менскі раён.

## Зора Кіпель

Зора з тых людзей, зь сьмерцю якіх я дагэтуль не магу зьмірыцца. Нашу падараваны ёю швэдар, пішу «ейнымі» асадкамі, чакаю ад яе водгуку на новую кнігу...

Яна нарадзілася ў сям'і менскіх інтэлігентаў у гады беларусізацыі. Яе маці Апалёнія працавала настаўніцай і была блізка знаёмая з Уладзіславаю Луцэвіч, жонкаю Купалы. Бацька, Лявон Савёнак, які меў вядомасьць як здольны рэпартэр і фэльетаніст, у 1933-м трапіў у махавік рэпрэсіяў і быў адпраўлены ў высылку.

Навуку Зора здабывала ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне, у Лювэнскім унівэрсытэце ў Бэльгіі й Ратгерскім у ЗША.

Там, у Амэрыцы, яна пражыла большую частку жыцьця. Там выйшла замуж за школьнага сябра Вітаўта Кіпеля. Там нарадзіла і выхавала беларусамі дачку Алесю й сына Юрку.

Сваім другім домам спадарыня Кіпель называла Нью-Ёрскую публічную бібліятэку, дзе працавала амаль чатыры дзесяцігодзьдзі. Дзякуючы ёй значна пашырыўся беларускі кнігазбор бібліятэкі, былі наладжаныя дзясяткі тэматычна зьвязаных зь Беларусьсю выставаў, сэмінараў і канфэрэнцый.

Разам зь Вітаўтам Зора ўклала такія фундамэнтальныя кнігі, як «Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе», «Беларуская дзяржаўнасьць», «Беларускі і беларусаведны друк на Захадзе». Яна колькі гадоў рэдагавала газэту «Беларус». Зорынаму пяру належыць ангельскі пераклад беларускае вэрсіі знакамітай рыцарскай «Аповесьці пра Трышчана».

Яе імя было з шэрагу тых, што служылі своеасаблівымі візытоўкамі Беларусі ў вольным сьвеце.

Ад пачатку 1990-х Зора і Вітаўт штогод прыяжджалі на Бацькаўшчыну. Мы шмат вандравалі разам па Беларусі, і ў гэтых паездках — у Полац-



ку, Віцебску, Магілеве, Рэчыцы, Крычаве — Кіпелі заўсёды пачуваліся не гасьцямі, а гаспадарамі, ня раз даючы прыклад тым, хто жыве на зямлі дзядоў, нібыта прыхадзень, — ня ведаючы ні яе мовы, ні гісторыі, ні сьвятаў і традыцыяў.

У адказ на мой віншавальны ліст з нагоды прыняцьця яе й Вітаўта ў ганаровыя сябры Саюзу беларускіх пісьменьнікаў спадарыня Зора пісала: «Мы ўсё сваё жыцьцё аддалі Беларускасьці».

У Беларусь зноў і зноў вяртаецца душа Зоры. Кніга пра яе адкрыла ў 2019-м сэрыю «Людзі эміграцыі», якую выдае Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына».

**Зора Кіпель (ад нараджэньня Савёнак)**
1.7.1927, Менск —
14.4.2003, Гаварт, штат Нью-Джэрзі, ЗША.
Пахаваная на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку, штат Нью-Джэрзі.

## Уладзімер Емяльянчык

Адна зь яго кнігаў, прысьвечаная Касьцюшку, называецца словамі нашага знакамітага суайчыньніка: «Нарадзіўся я ліцьвінам». Усьлед за правадыром паўстанцаў тое самае мог сказаць пра сябе й Емяльянчык. І абліччам, і характарам ён быў падобны да іх — тых, хто ў мінулыя стагодзьдзі браў у рукі зброю, ня верачы ў перамогу, але ведаючы: свабода ня прыйдзе, калі яе не набліжаць.

Уладзімер нарадзіўся побач з старажытным шасьцісотгадовым мястэчкам Мыш пад Баранавічамі, тым самым, дзе прайшло маленства аднаго з найвыбітнейшых эўрапейскіх вайскаводцаў XVII стагодзьдзя гетмана Яна Караля Хадкевіча. Здаецца, якраз гэтая акалічнасьць прадвызначыла тое, што Емяльянчык абраў сваёй музаю Кліё.

Ён стаў адным з аўтараў выдадзеных у першай палове 1990-х «Нарысаў гісторыі Беларусі», якія неўзабаве трапілі ў разрад «нацыяналістычных».

Студэнты БДУ і навучэнцы Беларускага гуманітарнага ліцэю нават пасьля бяссонных начэй, прабаўленых у кампаніі сяброў ці каханых, не маглі задрамаць на ягоных лекцыях, дзе заўсёды было месца і досьціпам, і показкам, і паэзіі, бо Ўладзімер і сам пісаў вершы:

*Мы зьбіраліся столькі гадоў*
*у паход па каханьне вялікае...*
*Давяралі пяшчотныя словы*
*нават чорным варонам*
*на сьнезе...*

Адзін зь ліцэйскіх кіраўнікоў Лявон Баршчэўскі згадвае, якую атмасфэру адзінства й аптымізму Емяльянчык мог усяго некалькімі словамі стварыць у настаўніцкай. Гэта было асабліва важна ў той час, калі існаваньне Ліцэю аказалася пад пагрозай.



З Валодзем было заўсёды цікава — і на кніжнай прэзэнтацыі ягонага «Палянэзу для касінераў», і ў застоліцы, дзе ён цудоўна сьпяваў народныя песьні, і проста ў сумоўі. Неяк мы выпілі зь ім за тое, «каб дзеўка кахала, куля мінала й шабля ня брала», а потым — узяліся рэдагаваць гэты старадаўні ліцьвінскі тост у духу сучаснасьці ды ўласных заняткаў і памкненьняў: «Каб пяро пісала, каб цэнзура ня брала, каб дубінка мінала»...

Верылася ў тое, што наперадзе ва Ўладзімера і абарона доктарскай дысэртацыі, і новыя кнігі. У сорак зь нечым гадоў яшчэ можна адчуваць сябе неўміручым.

Яго ня стала на пачатку лета 2003 году, у самыя гарачыя дні змаганьня за Ліцэй, калі выкладчыкі, вучні і бацькі стаялі ў пікетах.

Напэўна, Уладзімерава душа знаходзіць суцяшэньне ў тым, што зачынены ўладамі Ліцэй — жыве!

**Уладзімер Емяльянчык**
9.5.1955, в. Вялікія Лукі, Баранавіцкі раён —
5.6.2003, Менск.
Пахаваны на менскіх Пятроўшчынскіх могілках.

## Васіль Быкаў

У кожнага з нас ёсьць свае быкаўскія радкі, што нараджаюць у душы наймацнейшы водгук. Мяне, чалавека ня самага сэнтымэнтальнага, да сьлёзаў на вейках уразілі некалькі сказаў з аўтабіяграфічных «Пункціраў жыцьця»:

«Тады быў яшчэ малы... Далей гародаў нікуды не хадзіў. І вось аднойчы старэйшы мой сябра Валодзя кажа: «Пайшлі на возера». Пайшлі — праз парасьнікі, цераз роў... З гары адкрыўся цуд: лясное возера ўнізе, за ім лес на касагоры — прыгажосьць на ўсё жыцьцё...»

Напэўна, рэч у тым, што для мяне вобраз Радзімы і хараства таксама непарыўна зьвязаны зь лясным полацкім возерам.

Як тое возера прысутнае ў маім жыцьці ад часу, калі я пачаўся як асоба, так і Васіль Быкаў, здаецца, прысутнічаў у мяне ў сьвядомасьці заўсёды. Прынамсі, з моманту, калі я адчуў сябе беларусам.

Упершыню мы сустрэліся з Быкавым на сэмінары маладых літаратараў у 1982 годзе. Слухаючы яго словы аб тым, што яшчэ не прамоўленая ўся праўда пра мінулую вайну, я адразу ўспомніў тую полацкую вёску, якую ў 1941-м спалілі разам з жыхарамі пераапранутыя ў нямецкую форму супрацоўнікі НКВД. Але значна больш за тое, што гаварыў Васіль Уладзімеравіч, мяне ўразіла тады ягонае маўчаньне падчас выступаў markdown рознага кшталту каляліратурных чыноўнікаў. У гэтым маўчаньні адчувалася веліч асобы.

Сапраўднае адкрыцьцё Быкава як пісьменьніка глыбока нацыянальнага пачалося для мяне пасьля зьяўленьня аповесьці «Знак бяды» — твору, бясспрэчна, знакавага для нашае літаратуры.

Васіль Уладзімеравіч ня раз казаў, што яму блізкі экзыстэнцыялізм, асабліва раман Альбэра Камю «Чума». Адрозна ад францускага калегі, Быкаў, нягледзячы на моцную падтрымку Вацлава Гаўла і Чэслава Мілаша, ня быў уганараваны Нобэлеўскай прэміяй. Але



ці была б гэтая ўзнагарода зь яе сёньняшнім моцна пахіснутым аўтарытэтам вартая Быкава?

Ён быў увасабленьнем Адраджэньня Беларусі й сымбалем змаганьня з дыктатурай. Свае ўчынкі мы выпрабоўвалі пытаньнем: «А што скажа Быкаў?» Пасьля яго пахаваньня замежныя калегі ўражана пісалі мне, што ўжо некалькі дзесяцігодзьдзяў нідзе ў Эўропе разьвітаньне народу зь пісьменьнікам не было такім грандыёзна-шматтысячным.

Адзін з заходніх крытыкаў назваў сыход Быкава апошнім уздыхам экзыстэнцыялізму. Мэтафара небездакорная: сьвет працягвае чуць магутнае дыханьне быкаўскае прозы.

Улада заўсёды больш любіць не жывых, а мёртвых геніяў. Цяперашняя ня здатная нават на гэта. У Менску, як і ў Горадні або Віцебску, няма помніка Быкаву. Ягонае імя не ўшанаванае нават у назовах вуліцаў.

У нашай апошняй размове Быкаў паўтарыў фінальныя словы з сваёй «Доўгай дарогі дадому»: «Мой лёгас пэсымістычны, хаця душа мая прагне аптымізму».

Быкаў быў з намі ўвесну 2006-га на менскім пляцы, якому надалі імя Каліноўскага: у намётавым мястэчку я бачыў ягоную «Сьцяну».

**Васіль Быкаў**

19.6.1924, в. Бычкі, Вушацкі раён — 22.6.2003, Менск.

Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

## Сяргей Кавалёў

Зь Сяргеем мы вучыліся на гістарычным факультэце БДУ. Ён друкаваў расейскамоўныя вершы ў нашым самвыдавецкім альманаху «Мілавіца», якім цікавілася ня толькі факультэцкае начальства, але і знаўцы прыгожага пісьменства з Камітэту дзяржбясьпекі.

Ад нас Сяргея адрозьнівалі неюначая сур’ёзнасьць і стрыманасьць.

Хвароба ўжо трымала яго ў сваіх, тады яшчэ не сьмяротных, кіпцюрах.

Пасьля ўнівэрсытэту нашыя дарогі разышліся. Сяргей абараніў дысэртацыю, выкладаў гісторыю ў Віцебскім тэхналягічным інстытуце.

Цяпер я ведаю, што гэта было ня проста выкладаньне, а — заглыбленьне ў мінуласьць, прага спасьцігнуць адметнасьць тысячагадовага шляху беларусаў, каб убачыць іх гістарычную пэрспэктыву.

Ягонае вяртаньне да Беларусі было доўгім і пакутлівым. Але яно адбылося.

Сяргей Кавалёў стаў прыхільнікам БНФ, рашуча і назаўсёды перайшоў на беларускую мову ў лекцыях і ў вершах.

У 1999-м яго з палітычных матываў адхілілі ад выкладчыцкай працы. Гэта сталася фатальным ударам для Сяргеевага здароўя.

Замест узнагародаў за выдатную працу й удзел у міжнародных навуковых канфэрэнцыях таленавіты лектар і дасьледнік атрымаў пасьведчаньне інваліда другой, а потым і першай групы.

Але Кавалёў ня здаўся.

Катастрафічна хутка страчваючы слых, зрок, каардынацыю рухаў, ён усё ж, не выпускаючы асадкі з рук да астатніх дзён, здолеў завяршыць галоўную працу жыцьця, якой даў назоў «Шлях: твары, думкі, галасы».



Жанр гэтага твору на многія тысячы радкоў Сяргей вызначыў як «рыфмаваная гісторыя ў адценьнях беларускага духу».

«Шлях» ужо пасьля сьмерці аўтара некалькі месяцаў друкавала газэта «Наша слова». Яе чытачам Кавалёў вядомы як С. Квіцень. Такім псэўданімам Сяргей падкрэсьліваў імкненьне паквітацца з тымі, хто пазбаўляў беларусаў іх гісторыі, а значыць, хацеў пазбавіць і будучыні.

Зямная дарога майго аднакурсьніка спынілася якраз у дзень яго 50-годзьдзя.

На надмагільным помніку Сяргея Кавалёва паводле ягонага запавету выбітая Пагоня.

**Сяргей Кавалёў**
24.7.1953, Віцебск — 24.7.2003, Віцебск.
Пахаваны на віцебскіх Мазурынскіх могілках.

# Янка Юхнавец

Калі ў добрыя старыя часы на пачатку 1990-х я рэдагаваў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ягоную кнігу паэзіі «Сны на чужыне» (яна выйшла ў 1993-м у сэрыі «Галасы беларускага замежжа»), адзін мой калега, засунуўшы нос у карэктуру, запытаўся: «Ён што — вар'ят альбо геній?»

Праз два гады я ўручыў кнігу аўтару ў царкве Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай у амэрыканскім горадзе Саўт-Рывэры. З царквы, прызнаюся, мы перабраліся ў больш аддаленае ад Бога месца, дзе спадар Юхнавец замовіў сабе куфаль ірляндзкага піва, а мне — пляшку каліфарнійскага віна. Адрозна ад іншых эмігрантаў, у тым ліку і літаратараў, ён не распытваў пра палітычныя падзеі ў Беларусі. Адно што пацікавіўся, ці быў я калі ў Бягомлі, у ваколіцах якога ў вайну карнікі-літоўцы спалілі ягоных бацькоў і пяцярых малых братоў.

Тыя мясьціны зноў і зноў прыходзілі да яго ў снах-вершах (а вось Амэрыка так ніколі і не прысьнілася), дзе ён вёў гутаркі то зь легендарным героем Машэкам, то з Скарынам, то з таямнічым пэрсанажам, якога завуць Лесасекам і які мяркуе, што Гісторыя — гэта крушня, а потым удакладняе, што гэта — памяшканьне, дзе адбываюцца нелягічныя выпадкі.

Я расказаў спадару Янку пра тое, як на бягомальскай аўтастанцыі тамтэйшы хлопец павесіў аднойчы на Дзень Волі бел-чырвона-белы сьцяг і празь пяць хвілінаў апынуўся ў кайданках. Лесасек, відаць, назваў бы гэтую гісторыю банальнай, каб не адна дэталь: хлопец быў глуханямы.

Але наагул усе нашы нешматлікія размовы зь Юхнаўцом былі да краёў напоўненыя шорахам моўкнасьці (мяноўна так — «Шорах моўкнасьці» — называўся ягоны першы выдадзены ў Нью-Ёрку ў сярэдзіне 1950-х паэтычны зборнік), у якой засталася нявыказанай мая думка пра тое, што з часу Максіма



Багдановіча, магчыма, ніхто не сумовіўся з космасам на такой блізкай мове, як ён. Хіба што Алесь Разанаў, чыя паэзія гэтаксама, як і ў яго, Юхнаўца, незаўважна перацякае ў філязофію.

У шораху гэтае моўкнасьці расталі так і ня вымаўленыя ўголас радкі, што ўразілі ў рукапісе «Сноў на чужыне», зрабіўшыся іх своеасаблівым эпіграфам:

*...я дома зноў, ён*
*для мяне спакой.*
*Гляджу з вакна у сад у воддаль поля,*
*там не відаць дарог шумлівых,*
*а краскі на аселіцах —*
*самі сабе,*
*прыгожая няволя!*
*Адчуваю: на зямлі бытую*
*адзінотным...*
*Гляджу на стол, там ліст —*
*каму, недапісаны?*

Юхнавец падпісваў мне сваіх выдадзеных у 1967-м у Нью-Ёрку «Калюмбаў», выводзіў унізе аўтографу загадкавую (магчыма, падказаную ў гэты момант Лесасекам) дату — 1968, а я чамусьці думаў: «Можа, той недапісаны ліст адрасаваны бягомальскаму хлопцу зь сьцягам?»

**Янка Юхнавец**
3.11.1921, в. Забродак, цяпер Докшыцкі раён —
6.1.2004, Нью-Ёрк, ЗША.
Прах разьвеяны над штатам Нью-Джэрзі.

## Алесь Усюкевіч

У чэрвені 1947 году міністар дзяржбясьпекі БССР Лаўрэнці Цанава вырашыў асабіста дапытаць сакратара нелегальнага Саюзу вызваленьня Беларусі, які дзейнічаў у Наваградку.

Магчыма, «беларускі Берыя» спадзяваўся ўбачыць перад сабой зламанага арыштам юнака, якога лёгка будзе раскалоць, але адразу адчуў, што перад ім чалавек іншага гарту.

Міністар чытаў паперы: франтавік, мэдалі «За адвагу», «За баявыя заслугі», «За ўзяцьце Кёнігсбэргу»... Арыштант раптам рэзка адштурхнуў канваіра й, схапіўшы цяжкі столак, кінуўся на Цанаву.

Вымуштраваным гэбісцкім ахоўнікам удалося скруціць вязьня, якога адразу ж пачалі жорстка зьбіваць.

Непрытомнага скрываўленага юнака вынесьлі з кабінэту на руках. Яго звалі Алесем Усюкевічам.

Некалькі месяцаў таму, пры канцы 1946-га, ён стварыў зь сябрамі падпольную арганізацыю, чыёй канчатковай мэтаю быў выхад Беларусі з СССР (што, між іншым, не пярэчыла савецкай Канстытуцыі). Паводле жорсткіх правілаў канспірацыі, кожны ўдзельнік Саюзу вызваленьня не



У паваенным Менску ў ліку першых новых будынкаў было ўзьведзенае правае крыло міністэрства дзяржаўнай бясьпекі. Канец 1940-х гадоў



павінен быў ведаць больш за двух сяброў.

Упершыню ўсе васямнаццаць патрыётаў, зь якіх складаўся Саюз, сустрэліся на закрытым судовым паседжаньні.

На лаве падсудных не было толькі правакатара. Актыўна ўдзельнічаў у справах арганізацыі супрацоўнік баранавіцкай абласной газэты Алесь Бажко. Ён ня быў арыштаваны і засуджаны, а пазьней зрабіў кар’еру літаратара, нястомна выкрываючы ў сваіх публікацыях антысавецкія падкопы нацыяналістаў, імпэрыялістаў і клерыкалаў.

Усюкевічу далі дзесяць гадоў канцлягеру.

Яму ішоў дваццаць трэці год.

Зьняволеньне ён адбываў у Казахстане, дзе і застаўся пасьля вызваленьня.

Там дачакаўся таго, за што змагаўся ў юнацтве, — незалежнасьці Беларусі. Праўда, Беларусь хутка ператварылася зусім ня ў тую краіну, пра якую марылі маладыя патрыёты.

Напэўна, таму спадар Усюкевіч так і не вярнуўся на Бацькаўшчыну.

Цяпер з васямнаццаці сяброў Саюзу вызваленьня Беларусі на гэтым сьвеце не засталося ўжо ніводнага. Ніхто зь іх так і не прычакаў рэабілітацыі.

**Алесь Усюкевіч**
Люты 1925, в. Хадасы, цяпер Наваградзкі раён — 10.1.2004, Паўладар, Казахстан.
Пахаваны ў Паўладары.

## Аляксей Логвін

Падчас сьледзтва яго ня білі. Сьледчы вучыўся ў вячэрняй школе, і Аляксей рашаў яму матэматычныя задачы.

Сямнаццацігадовым ён атрымаў дзесяць гадоў канцлягераў.

Астатнім, паўналетнім, суд адмераў чвэрць стагодзьдзя.

З гледзішча савецкага правасудзьдзя яны зьдзейсьнілі жудаснае злачынства — стварылі падпольную школьную арганізацыю на чале з камсоргам.

Аляксей Логвін і яго сябры, гэтыя яшчэ хлапчукі зь Ліды, не выступалі супраць савецкай улады і Леніна лічылі амаль што сьвятым. Але іхнія душы не маглі прыняць рэчаіснасьці зь яе хлусьнёй пра шчасьлівае жыцьцё, за якой хаваліся калгасны прыгон і арышты знаёмых і сваякоў.

Юныя нелегалы ставілі задачу выхоўваць моладзь у антысталінскім духу. Плянавалася наладзіць сувязь зь мясцовым ксяндзом, а таксама зь Югаславіяй, бо яе кіраўніцтва пачало праводзіць незалежную ад Масквы палітыку.

На адпаведным узроўні знаходзілася і кансьпірацыя. Сярод сяброў арганізацыі былі два хлопцы, чые бацькі, як потым выявілася, мелі беспасярэднія сувязі з МГБ. Гэтая «двойка» трымала органы ў курсе ўсіх справаў (пазьней стукачы і самі сталі афіцэрамі ўсёмагутнага ведамства).

У першым лягеры для непаўналетніх у Мардовіі ён зьвярнуў увагу на тое, што сядзяць адны палітычныя і зусім мала расейцаў.

Сьмерць Сталіна зьняволеныя, як згадваў Аляксей, адзначалі, як сапраўднае сьвята.

Але першая амністыя закранула адно тых, хто меў тэрміны, меншыя за пяць гадоў. Логвіна перавялі ў сібірскі Камышляг на будаўніцтва нафтаперапрацоўчага заводу.



Аляксей Логвін (зьлева) зь сябрам.
Канец 1940-х гадоў

Праз тыдзень працы ён ужо ня мог хадзіць, і карцэр здаваўся паратункам. У 1954-м Аляксей адседзеў у карцэры пяцьдзясят чатыры дні й ночы.

На схіле дзён ён прызнаваўся, што як не шкадаваў пра свой удзел у падпольнай арганізацыі пры арышце, так ані не раскаяўся і пасьля ўсяго перажытага.

Яго згадваюць ціхмяным, маўклівым чалавекам, які цудоўна сьпяваў беларускія песьні й рамансы, маючы асаблівы сантымэнт да Багдановічавай «Зоркі Вэнэры». Відаць, гэтая любоў была зьвязаная з памяцьцю пра тое, як чакала й дачакалася яго зь лягеру нарачоная Марыя.

**Аляксей Логвін**
26.2.1934, в. Збляны, цяпер Лідзкі раён —
12.1.2004, Ліда.
Пахаваны на лідзкіх могілках Зосіна.

Калісьці, на вырашальнай для Беларусі мяжы 1980—1990-х гадоў, існаваў такі адыёзны часопіс ЦК КПБ — «Политический собеседник», на старонках якога я атрымаў бяздоказны аглабельны адпор за тое, што называў у сваіх публікацыях Полацкае княства першай беларускай дзяржавай.

Аўтар таго пагромнага артыкулу відавочна не чытаў Язэпа Юхо, чые погляды былі значна больш радыкальныя: ён лічыў, што дзяржаўныя ўтварэньні на сучасным беларускім абшары існавалі, магчыма, яшчэ да нараджэньня Хрыстовага.

На вялікі жаль, на нашым гістарычным факультэце БДУ ў мае студэнцкія 1970-я гады лекцыяў ён не чытаў.

## Язэп Юхо



Відаць, нас, будучых «байцоў ідэалягічнага фронту», старанна берaглі ад неартадаксальных поглядаў спадара Язэпа.

Затое студэнтам юрфаку, дзе ён працаваў некалькі дзесяцігодзьдзяў, пашанцавала. Яны, да прыкладу, маглі даведацца, што Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 году быў самым дасканалым зборам законаў ува ўсёй тагачаснай Эўропе і што наш Статут цягам цэлага сэмэстру вывучаюць на спэцкурсе студэнты-юрысты Сарбоны.

Дзіва што! Наш Статут, які дасьледаваў Язэп Юхо, ужо чатыры стагодзьдзі таму абвяшчаў ідэю праўнай дзяржавы, бараніў усіх

яе жыхароў незалежна ад веравызнаньня, уводзіў паняцьце прэзумпцыі невінаватасьці, вызваляў ад крымінальнага перасьледу дзяцей і падлеткаў, гарантаваў удзел у судовым працэсе адваката, стаяў на абароне прыродных багацьцяў краіны значна лепей за некаторыя сучасныя законы.

Прафэсар Юхо абвяргаў высновы польскіх ды савецкіх гісторыкаў адносна Крэўскай і Люблінскай вуніяў і казаў пра канфэдэрацыйны лад Рэчы Паспалітай, у якой дзяржава нашых продкаў — Вялікае Княства Літоўскае — мела столькі сувэрэнітэту, колькі Беларускай ССР у «братняй сям'і саюзных савецкіх рэспублік» і ня сьнілася.

Юхо стаў заснавальнікам навуковай школы вывучэньня гісторыі дзяржавы і права Беларусі.

Менавіта ён першым пачаў тады дасьледаваць жыцьцё й дзейнасьць Тадэвуша Касьцюшкі і ў выніку сваімі артыкуламі і кнігаю «За вольнасьць нашу і вашу» (1989) вярнуў імя паўстанцкага правадыра ў гістарычную памяць беларусаў.

Незалежнасьць Бацькаўшчыны была ягонаю марай, а потым сталася штодзённым клопатам.

Язэп Юхо браў чынны ўдзел у распрацоўцы Канстытуцыі 1994 году і шмат якіх іншых заканадаўчых актаў.

Ён непахісна верыў, што краіна абавязкова вернецца ў сям'ю дэмакратычных народаў і яшчэ зьдзівіць Эўропу, як некалі ўразіла яе сваім Статутам.

**Язэп Юхо**
19.3.1921, Менск —
29.7.2004, Менск.
Пахаваны на менскіх Вайсковых могілках.

Ёсьць у мяне здавён такі крытэр ацэнкі паэзіі: калі з кніжкі ўразіць хоць адзін радок, запамінаю імя аўтара і чакаю наступнае сустрэчы.

Калісьці, на пачатку 1970-х, дзякуючы сябру-аднакурсьніку да маіх рук патрапіў паэтычны зборнік, які пачынаўся неяк нязвыкла-даверліва: «Я хацеў вам сказаць...»

Кніжка называлася «Непазьбежнасьць». Яна была ў папяровай вокладцы, выдадзеная абы-як, але затое — абцёрханая і з загнутымі сям-там краямі старонак, бо відавочна мела нямала чытачоў.

# Мікола Купрэеў

Да іх ліку далучыўся яшчэ адзін, пагатоў, акрамя першага радка, мяне (можа, нейкім эпічным размахам?) зачапілі й іншыя:

*Стаю над Дняпром.*
*На сълядах сваіх продкаў*
*Стаю...*

Аўтара зборніка звалі Мікола Купрэеў. Год прамінаў за годам, яго даўнія радкі ня вялі ў памяці, а новых кніжак усё не зьяўлялася.

Другая — «Правінцыйныя фантазіі» — выйшла амаль праз трыццаць гадоў, у 1995-м, і адразу была вылучаная на Дзяржаўную прэмію імя Янкі Купалы. Камісія па прэміях аднагалосна выказалася «за», але знайшліся рупліўцы, якія настукалі куды трэба, што Купрэеў зганьбіць годнасьць ляўрэата, бо ён — «бомж», ды, апрача ўсяго, у адным зь вершаў згадаў неласкавым словам самога прэзыдэнта.

Саюз пісьменьнікаў даў Купрэеву сваю прэмію — імя Аркадзя Куляшова, а абласное начальства ў выглядзе своеасаблівай кампэнсацыі пастанавіла адшкадаваць паэту кватэру-аднапакаёўку ў Пружанах. На званок зь Берасьця ў райцэнтры адказалі, што Купрэеў — валацуга й алькаголік, але найвышэйшы абласны начальнік сурова запытаўся ў чыноўніка, ці напісаў ён сам хоць адзін верш, каб судзіць паэта.

У той час Купрэеў у бясконцых бадзяньнях па



Беларусі раз-пораз заяўляўся ў часопіс «Крыніца», дзе я меў палову рэдактарскай стаўкі. Мой калега паэт і крытык Леанід Галубовіч заўсёды апекаваўся госьцем: сачыў, каб той быў сыты, памыты, па сэзоне апрануты. Але — галоўнае — «Крыніца» друкавала практычна ўсё, што тады пісаў Мікола. Узровень шчырасьці да сябе і самых блізкіх людзей у ягоных аўтабіяграфічных аповесьцях шакаваў. Прачытаўшы «Дзіцячыя гульні...», бацька вандроўнага паэта адмовіўся пускаць таго ў хату.

Пасьля кожнага Міколавага візыту ў рэдакцыю я доўга ня мог дасягнуць душэўнага спакою, спрабуючы ўявіць, як ён жыве — хворы, незразуметы й адрынуты сваякамі, маючы недзе ўласных дзяцей, якіх калісьці, абраўшы лёс вандроўніка, пакінуў без падтрымкі. Не маглі супакоіць і ягоныя вершы:

*Колькі яшчэ мне, высокі Гасподзь,*
*па сьвеце насіць пакуту?..*

На ягоным надмагільлі выбітыя словы: «О, я многа хацеў вам сказаць...»

**Мікола Купрэеў**
25.5.1937, в. Ямнае, Рагачоўскі раён —
19.8.2004, в. Лясная, Баранавіцкі раён.
Пахаваны ў Міхнавічах, прыгарад Івацэвічаў.

У аднаго філёзафа запыталіся, што такое шчасьце. «Памерці за Радзіму», — адказаў філёзаф. Потым, крыху падумаўшы, дадаў: «Шчасьце — гэта пражыць жыцьцё ў дастатку й памерці з годнасьцю». Філёзаф быў шасьцігадовай беларускаю дзяўчынкай Ганначкай Уланавай. Праз год настольнаю кнігай у яе была Біблія...

Ганьніны бацькі згадваюць, што вельмі часта ўзьнікалі сытуацыі, калі не яны выхоўвалі дзяўчынку, а, наадварот, тая, зноў і зноў уражваючы недзіцячым поглядам на рэчы, давала ўрокі дарослым. Дзякуючы Ганьне яе расейскамоўная сям'я вывучыла беларускую мову й сур'ёзна зацікавілася нацыянальнай гісторыяй.

# Ганна Ўланава




Падцягвала Ўланава й сваё гімназічнае атачэньне. І ня толькі ведамі — стаўленьнем да роднага слова, да веры, да хрысьціянскіх каштоўнасьцяў. Погляды й прынцыпы Ўланавай падабаліся ня ўсім.

Яе мама Тацяна з болем згадвае, як Ганусі на школьных вечарах не дазвалялі выступаць на сцэне. Рэч была не ў адсутнасьці здольнасьцяў: дзяўчынка сьпявала ў хоры Чырвонага касьцёлу, у намінацыі «музычны твор» стала дыплямантай конкурсу «Маці Божая Будслаўская ў маім жыцьці й жыцьці Бацькаўшчыны». Прычына забароны палягала ў іншым: Ганна хацела сьпяваць *па-беларуску*.

У вачах дырэкцыі гэтае жаданьне разам зь бел-чырвона-белым значком, які насіла дзяўчынка, выглядала амаль злачынствам.

Ганначка сама складала сцэнар уласнага жыцьця. Таму ў ім цяжка знайсьці нешта выпадковае.

Дзяўчына ня проста думала па-беларуску. Яна думала па-беларуску ў нацыянальным маштабе.

Зьбіралася напісаць сцэнар мастацкага фільму паводле «Каласоў пад сярпом тваім» Уладзімера Караткевіча. Плянавала ўзяцца за кнігу, прысьвечаную змаганьню за свабоду Беларусі ў найноўшай гісторыі. Мела запаветную мару пра незалежны беларускі тэлеканал. Але найперш Ганна марыла выдаваць духоўны часопіс для моладзі, у руках якой будучыня Беларусі. Яшчэ гімназісткай яна абрала месца далейшага навучаньня — Варшаўскі ўнівэрсытэт Стэфана Вышынскага.

Атрымаўшы атэстат сталасьці, паехала ў Варшаву, каб трапіць на размову да рэктара. Пасьля сустрэчы зь ім Ганна пачула, што залічаная без экзамэнаў.

А перад тым была выпускная гімназычная вечарына, дзе Ганна — у белай сукенцы, аздобленай чырвонымі ружамі, — усё ж прасьпявала па-беларуску палянэз Агінскага «Разьвітаньне з Радзімай». Але шэрасьць ды подласьць і тут паказалі твар: настаўніца музыкі, зь якой усё было дамоўлена, ня выканала абяцаньня і не ўключыла музычнага суправаджэньня.

Ганна Ўланава пакутавала ад іншай хваробы, але памерла таму, што яе зраненаму і збалеламу сэрцу хранічна неставала кіслароду мовы і свабоды.

Quem Deus amat, iuvenis moritur — той, каго любіць Бог, памірае маладым.

**Ганна Ўланава**

20.5.1985, Менск — 30.8.2004, Менск.

Пахаваная на могілках у пас. Калодзішчы, Менскі раён.

Адны жывуць розумам, і таму ўспрымаюць жыцьцё як камэдыю.

Другія жывуць пачуцьцямі, і для іх зямны шлях — трагедыя.

Алесь Асташонак жыў пачуцьцямі. Зь ім бывала ўдумна, бывала весела, бывала нясьцерпна, але ніколі не бывала сумна.

Кім толькі ён ні працаваў!

Перакладчыкам у Альжыры, выхавальнікам у каледжы, настаўнікам францускае мовы, рэдактарам часопісу «Крыніца», асыстэнтам псыхіятра й памочнікам нарколяга. Але на сваім месцы Алесь быў адно за пісьмовым сталом.

## Алесь Асташонак



Ён цікава й імкліва пачынаў. Прадмову да яго першай кнігі прозы «Фарбы душы» напісаў Алесь Адамовіч.

Асташонкава п’еса «Камэдыянт» пасьля сцэнічнага ўвасабленьня зьявілася ў вэрсіі мастацкага тэлефільму, а іншы фільм паводле Алесевага сцэнару — «Сон» — атрымаў першую прэмію на міжнародным конкурсе ў Гішпаніі.

Нашыя дзеці чыталі ў ягоных таленавітых перакладах на беларускую мову «Востраў скарбаў» Стывэнсана й «Плянэту малпаў» П’ера Буля.

Ён быў ня з тых літаратараў, што хаваюцца пад пісьмовым сталом ад падзеяў у краіне.

Яго адметнае аблічча

памятаюць удзельнікі менскіх Дзядоў 1988-га, пасьля якіх Асташонак доўга ачуньваў ад атрыманага каля Ўсходніх могілак хрыбеталомнага ўдару прафэсіянала ў казённым спартовым строі.

Я быў сьведкам Алесевых пакутаў, бо пасьля тых падзеяў на мяне палявала міліцыя і кватэра Асташонка на некалькі тыдняў сталася маім надзейным і гасьцінным прытулкам.

Ды нязьмерна цяжэйшымі для яго заўсёды былі пакуты душы — па-дзіцячаму даверлівай і безабароннай. Аднойчы, начытаўшыся газэтаў, Алесь прыйшоў у бар Дому літаратара і прапанаваў мне й астатнім прысутным неадкладна абвясьціць бестэрміновую галадоўку пратэсту ў адказ на нейкую заяву прэм'ера Вячаслава Кебіча.

Што б прапанаваў Асташонак, пагартаўшы сёньняшнія незалежныя газэты ды пачытаўшы навіны ў сеціве?

У сярэдзіне 1990-х ён мусіў пакінуць Беларусь — не з палітычных прычынаў (быў уцягнуты блізкім чалавекам у фінансавую авантуру), але, як сам лічыў, без магчымасьці вярнуцца. Гэтае расстаньне сталася фатальным.

Я стаю каля вакна, нібы герой Алесевай пасьмяротнай кнігі «Жоўты колер белага сьнегу», і ўяўляю, як недзе там, можа, зусім побач, Алесь таксама стаіць пры вакне і, магчыма, чуе, як я ціха прамаўляю ягонае ўлюбёнае: «Vita brevis, Patria aeterna» — «Жыцьцё кароткае, Радзіма вечная».

**Алесь Асташонак**
1.6.1954, Менск —
7.9.2004, Кіеў, Украіна.
Пахаваны на менскіх Кальварыйскіх могілках.

## Васіль Мельяновіч

Пры канцы 1980-х у менскім Палацы спорту дэманстравалася выстава амэрыканскай тэхнікі. Больш за экспанаты многіх наведнікаў уражваў амэрыканец, які выдатна гаварыў пабеларуску.

Як я пазьней даведаўся, магчыма, якраз з гэтае прычыны яму, Васілю Мельяновічу, так і не дазволілі тады наведаць родную палескую вёску.

Па-сапраўднаму мы пазнаёміліся ўжо ў Амэрыцы, праехаўшы з Васілём зь дзясятак штатаў — ад Вашынгтону да Кліўлэнду.

Пра чалавека вельмі шмат могуць сказаць драбніцы: у майго спадарожніка на гадзіньніку былі два цыфэрбляты, стрэлкі якіх паказвалі час з разьбежкаю на сем гадзінаў, што існавала паміж Менскам і Нью-Ёркам.

Нумар ягонага аўтамабіля гэтаксама быў адметны: «BELARUS» (амэрыканскія законы такое без праблемаў дазваляюць).

Едучы па спадзістых, як дзе-небудзь пад Наваградкам, пэнсыльванскіх пагорках пад музыку нашых фальклёрных гуртоў, я лавіў сябе на адчуваньні, што знаходжуся ў нейкай ідэальнай Беларусі.

У доме Мельяновіча ілюзія адно мацнела: беларуская бібліятэка, калекцыя ручнікоў, прывезеная з пошты пульхная капэрта айчыннай пэрыёдыкі.

Васіль любіў жыцьцё ва ўсіх ягоных праявах. Ён быў нястомным падарожнікам, цаніў жаночую прыгажосьць, азартна ўдзельнічаў у аўкцыёнах. Але найбольш любіў Беларусь.

Мроіў сваю вёску, моцны й вялікі бацькоўскі дом, дзе цяпер месьціцца школа.

Зьбіраўся вярнуцца на Радзіму: прыцэньваўся да менскіх кватэраў, месяцамі жыў у Беларусі, доўга наймаў двухпакаёўку насупраць колішняй рэстарацыі «Патсдам».




Пасьля выхаду на пэнсію Васіль цалкам аддаўся беларускай справе. Дзеля спрыяньня кантактам ЗША зь Беларусьсю ён заснаваў Беларуска-амэрыканскую інфармацыйную службу.

Асабіста знаёмы з прэзыдэнтамі Рональдам Рэйганам і Джорджам Бушам-старэйшым, узброены шматгадовым досьведам удзелу ў прэзыдэнцкіх ды іншых выбарчых кампаніях, Мельяновіч заўсёды прапаноўваў нашай апазыцыі свае паслугі й глыбока перажываў, калі ягоныя веды заставаліся на Бацькаўшчыне нікім не запатрабаванымі.

Вяртаньне дадому ўсё ж зьдзейсьнілася, няхай сабе й пасьля сыходу.

Ягоная жонка журналістка Тацяна Антонава-Мельяновіч пахавала урну з Васілёвым прахам у палескай Азярніцы, побач з магілаю дзеда.

**Васіль Мельяновіч**
28.8.1934, в. Азярніца, цяпер Лунінецкі раён —
6.10.2004, Брансўік, штат Агаё, ЗША.
Пахаваны ў в. Азярніца.

# Вераніка Чаркасава



Незалежная айчынная журналістыка ў найноўшыя часы нясе цяжкія страты — Ігар Гермянчук, Зьміцер Завадзкі, Васіль Гроднікаў, Вераніка Чаркасава, Алег Бябенін...

Вераніку, супрацоўніцу незалежнай газэты «Салідарнасць», забілі ў яе кватэры. Злачынца зрабіў больш за сорак удараў нажом.

Мы зь ёй не былі сябрамі, але за некалькі тыдняў да зьверскага забойства Вераніка брала ў мяне інтэрвію пра беларуска-расейскія дачыненьні ў гістарычнай рэтраспэктыве. (Дагэтуль памятаю дакладныя й не заўсёды камфортныя пытаньні, скажам, пра нязводную веру часткі нашых продкаў у добрага маскоўскага цара.) Мой тэлефон знайшлі ў яе ў нататніку, і я апынуўся на допыце.

Сьледчы пацікавіўся маёй вэрсіяй трагедыі. «Мяркую, што прычына — прафэсійная дзейнасьць», — адказаў я. — «Напрыклад?» — «Напрыклад, публікацыі кшталту «КГБ усё яшчэ сочыць за табой». Сьледчы забегаў па кабінэце, пераконваючы мяне, што забойства — самая банальная «бытавуха», якую яны хутка, ледзь не на наступным тыдні, раскрыюць.

Вярнуўшыся дадому, я знайшоў у хатнім архіве некалькі публікацыяў Веранікі Чаркасавай. Сабраныя разам, яны ператвараліся ў своеасаблівы гіпэртэкст, дзе адлюстравалася ўся наша найноўшая гісторыя — зь яе перамогамі, трансфармаванымі ў паразы, і паразамі, якія дзіўным чынам запальвалі сьвятло ў канцы тунэлю.

Героямі Веранікі былі дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня Сяргей Навумчык, вядомы ўва ўсім сьвеце беларускі мастак зь Беласточчыны Лёнік Тарасэвіч, майстар-самародак Сьцяпан Яфімчык, які стварыў адзіны на плянэце цалкам драўляны, прычым «жывы», а не дэкаратыўны гадзіньнік...

У адным з апошніх сваіх эсэ — «Чырвоным па белым» — Вераніка пісала пра лёс нацыянальнага сьцягу. Пра паталягічную нянавісьць да яго з боку цяперашняга рэжыму, найбольш красамоўна выяўленую ў паводзінах колішняга прэзыдэнцкага дружбана Івана Ціцянкова, які пасьля рэфэрэндуму 1995 году па-нэандэртальску рваў галоўны сымбаль дзяржавы на шматкі, пакідаючы на іх аўтографы.

Але фінал эсэ ня дыхаў безнадзейнасьцю: «Тое, што склалася цягам стагодзьдзяў, усё адно будзе прарастаць у народзе знутры. Змагацца за свабоду і незалежнасьць ідуць пад сьцягам, за які паміралі продкі, бо ён — як намоленая ікона...»

Менавіта гэты тэкст даў назву кнізе выбраных публікацыяў Веранікі, выдадзенай сябрамі пасьля яе сьмерці.

«Справу Чаркасавай» не ўдалося раскрыць, і яна была прыпыненая. Правёўшы ўласнае расьсьледаваньне, журналіст Сяргей Сацук прыйшоў да высновы, што на Вераніку была замова, і прафэсійны кілер інсцэнаваў бытавое забойства.

Неяк я сустрэў сьледчага, што так непахісна верыў у «бытавуху». Як прафэсіянал, ён відавочна пазнаў мяне, а таму адвярнуўся і паскорыў крок.

**Вераніка Чаркасава**

12.1.1959, Менск — 20.10.2004, Менск.

Пахаваная на могілках у пас. Калодзішчы, Менскі раён.

## Сяргей Войчанка

У свой час яго адлічвалі зь Беларускага тэатральна-мастацкага інстытуту, а потым аднаўлялі. Адлічвалі за тое, што пабіўся з сакратаром камітэту камсамолу, калі той узяўся чытаць Сяргею мараль. Аднаўлялі — за тое, што ён быў мастаком ад Бога.

Ён працаваў у жанры плякату, кніжнай графікі, жывапісу і, за што б ні браўся, імкнуўся да ўзроўню шэдэўру. Вельмі часта гэта атрымлівалася. Паглядзіце жывапісныя кампазыцыі «Чарапаха», «Чынгісхан», «Насарог», што твораць свой, не падобны ні на чый іншы, шматсэнсавы мэтафізычны сьвет.

Яшчэ ад студэнцкіх гадоў у Сяргея склаўся творчы тандэм з Уладзімерам Цэсьлерам. Сёй-той нават лічыў, што Войчанка-Цэсьлер — гэта адзін мастак з падвойным прозьвішчам. Усё лепшае — і ў жывапісе, і ў плякаце — яны стварылі разам. У 2006-м на Міжнародны дзень музэяў чарга ахвотнікаў трапіць у Нацыянальны мастацкі музэй на аднадзённую (дакладней, аднаночную) выставу іхніх плякатаў, многія зь якіх сталі ўжо клясыкай жанру, выцягнулася да праспэкту Незалежнасьці.

Іхняя майстэрня ў доме на рагу Ўльянаўскай і Чырвонаармейскай сталася менскай славутасьцю. Сяргея з Уладзімерам называлі самымі пасьпяховымі дызайнэрамі постсавецкай прасторы. Чуткі пра іх нібыта фантастычныя ганарары кідалі зайздрасьлівых калегаў у роспач. Тыя маглі б супакоіцца, даведаўшыся, што аднойчы за стварэньне дзьвюх паштовых марак Міністэрства сувязі заплаціла Войчанку й Цэсьлеру шаснаццаць тысяч беларускіх рублёў, або чатыры даляры на брата, у той самы час калі іх каляжанцы — беларускай мастачцы, што жыве ў Гішпаніі, за такую самую працу заплацілі таксама шаснаццаць тысяч, але эўра.

Да 50-годзьдзя перамогі над нацысцкай Нямеччынай яны рабілі плякат на замову ўраду Масквы.



Тагачасны мэр расейскае сталіцы Лужкоў, сказаўшы ветлівыя словы пра арыгінальнае вырашэньне тэмы, працу забракаваў. На плякаце вэтэран трымаў у выцягнутай руцэ фуражку, а ў ёй жабрацкай міласьцінай паблісквалі баявыя ўзнагароды.

Сяргей не любіў пінжакоў і наагул гарнітураў як зьяву. Больш за іх ён не трываў толькі гальштукі.

У труне Войчанка ляжаў у сваім улюбёным швэдры і выглядаў зусім не нябожчыкам — быццам прылёг адпачыць або вырашыў зладзіць экстравагантны пэрформанс.

Мастацтвазнаўца Пётра Васілеўскі адгукнуўся на Сяргееў сыход грунтоўнымі артыкуламі пра вялікую страту нашага мастацтва. А пісьменьнік і мастак Адам Глобус напісаў верш:

*Мы малявалі, балявалі,*
*Пілі гарэлку, разважалі*
*Пра зоркі Чапліна з Шагалам.*
*Гарэлкі ўсё было замала.*
*Жыцьцё прайшло, і ты памёр.*
*Цябе занесьлі на касьцёр,*
*У родны менскі крэматорый.*
*Такая простая гісторыя*
*З Шагалам, Чаплінам і зоркамі*
*Над беларускімі пагоркамі...*

**Сяргей Войчанка**
5.11.1955, Марыюпаль, Украіна — 9.12.2004, Менск.
Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

Сярод безьлічы стандартных помнікаў зь ня менш стандартнымі расейскамоўнымі надпісамі ёсьць на полацкіх Лясных могілках дагледжанае надмагільле з словамі, што прымушаюць спыніцца: «Хай сьняцца сны аб Беларусі...»

Тут знайшоў вечны спачын Васіль Мядзелец — адзін з кіраўнікоў Саюзу беларускіх патрыётаў, падпольнай моладзевай арганізацыі, што дзейнічала на Пастаўшчыне і Глыбоччыне ў 1945—1947 гадах і была разгромленая гэбістамі.

«Як ні дзіўна, але якраз школа зь яе ваяўнічай, надакучлівай пальшчызнай дала мне першыя ўрокі нацыянальнага пачуцьця.

# Васіль Мядзелец



Настаўнікі патрабавалі, каб мы «мувілі» заўжды на іхняй «гжэчнай» польскай мове, пазьбягаючы ўжываць тутэйшыя «брыдкія» словы. Тым самым яны абуджалі ў нас пратэст на такі гвалт», — пісаў ён у ўспамінах.

Родны беларускі дух запанаваў у школе, адчыненай мясцовымі патрыётамі ў гады нямецкай акупацыі. «Вучылі нас любіць Беларусь і служыць ёй. Настаўнікі й вучні гаварылі заўсёды выключна па-беларуску», — згадваў спадар Васіль.

Аднак нават у ўмовах вайны Масква, памятаючы русіфікатарскія запаветы Мураўёва-Вешальніка, бязьлітасна змагалася зь беларускім школьніцтвам.

Гэта рабілася рукамі савецкіх партызанаў, якія палілі нашыя школы і «ліквідоўвалі» настаўнікаў. (Сюжэт апавяданьня Вячаслава Адамчыка «Прылёт кажана», дзе гэтак званыя «народныя мсьціўцы», а ў

іх ліку і нядаўні вучань тае самае школы, гвалцяць і забіваюць маладую настаўніцу, зусім ня быў нейкім нялюдзкім выняткам.)

Сумны лёс напаткаў і Язьненскую школу, дзе вучыўся Васіль.

Па вайне, у Глыбоцкай пэдвучэльні, Мядзельца зь сябрамі Антосем Фурсам, Львом Бялевічам, Алесем Юршэвічам пад пагрозаю выключэньня загналі ў камсамол. Усе дысцыпліны ў вучэльні выкладаліся па-расейску. Беларуская мова зноў, як і за палякамі, трапіла ў становішча непажаданай і падазронай падчаркі. Моладзь адказала стварэньнем свайго нелегальнага Саюзу, мэтаю якога была незалежная Беларусь. 25 сакавіка 1946 году прысягу пад бел-чырвона-белым сьцягам, апрача хлопцаў, прымалі іхнія сяброўкі і аднадуміцы Людміла Краснадубская, Лідзія Несьцяровіч, сёстры Алена ды Ларыса Барсук і Марыя Бабіч (тады яшчэ Бялевіч, якая пасьля ГУЛАГу стане жонкаю Льва Бялевіча).

Іх, юных, рамантычных, выдаў правакатар.

Дзевятнаццацігадовы Васіль як заснавальнік антысавецкай арганізацыі быў асуджаны да расстрэлу, які ў сувязі з часовай адменаю ў СССР сьмяротнага пакараньня замянілі на 25 гадоў зьняволеньня.

На радзіму ён здолеў вярнуцца толькі ў 1985-м. У дзевяностыя гады мінулага стагодзьдзя напісаў цікавыя і дасьціпныя мэмуары для кнігі «Гарт. З успамінаў пра Саюз беларускіх патрыётаў».

Да Васіля Мядзельца і сёньня прыходзяць аднадумцы — і сталыя, і полацкая моладзь.

На ягонай магіле зноў і зноў зьяўляюцца жывыя сьцяжкі зь бел-чырвона-белых гвазьдзікоў.

**Васіль Мядзелец**
1928, в. Ружанпольле, цяпер Мёрскі раён —
20.12.2004, Полацак.
Пахаваны на полацкіх Лясных могілках.

# Кастусь Рамановіч

Ён меў канспірацыйную мянушку Сокал. Яго мараю з раньніх гадоў была вольная Беларусь.

Падчас вайны Кастусь Рамановіч вучыўся ў Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі, быў сябрам Саюзу беларускай моладзі, а потым — курсантам афіцэрскай школы Беларускай Краёвай Абароны ў Менску. Ён адмовіўся ісьці на Захад.

Сокал хацеў лётаць над роднай Беларусьсю, але якраз такім, як ён — сьветлым і апантаным, — лёс наканоўваў далёкія нябёсы. А найчасьцей — не нябёсы, а клеткі.

Першы арышт у 1944-м. Рамановічу ўсяго сямнаццаць гадкоў.

Вяртаючыся праз два гады з варкуцінскіх лягераў, ён, не баючыся, сказаў сустрэтаму на баранавіцкім вакзале знаёмаму: «Ня думай, што мяне там назаўсёды запалохалі. Я прыехаў, каб змагацца з гэтай уладай за нашу незалежнасьць».

У роднай хаце на Наваградчыне малодшы брацік схаваўся ад незнаёмага дзядзькі пад ложак. Бацька кіўнуў Кастусю й адвярнуўся, зрабіўшы выгляд, што не пазнае «блуднага» сына.

У 1946-м Рамановіч з аднадумцамі заснаваў у Наваградку нелегальны Саюз вызваленьня Беларусі ды стаў кіраўніком яго фінансавага аддзелу. Мэтаю Саюзу было стварэньне самастойнай беларускай дзяржавы. Сымбалямі арганізацыі сталі бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоня, а гімнам — «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Асноўным мэтадам змаганьня патрыёты лічылі антысавецкую агітацыю, але пры гэтым не выключалі й збройнага супраціву.

Рамановіч быў засуджаны на дзесяць гадоў лягераў і пяць гадоў паразы ў правах.

У перасыльнай турме ў Воршы Кастуся з паплечнікамі кінулі ў адмысловы барак да ўзброеных нажамі й кінжаламі блатных. Зброяю нашых хлопцаў



сталі брусы ад зламаных нараў. Тую лютую бойку, інсьпіраваную дзеля фізычнага зьнішчэньня палітвязьняў, Рамановіч назаве ў сваіх мэмуарах Аршанскаю перамогай.

Пасьля вяртаньня ў Беларусь Кастусь Рамановіч жыў у Пінску.

Калі над краінаю падзьмулі вятры пераменаў, ён адразу далучыўся да незалежніцкага руху. Стаў сябрам Таварыства беларускай мовы і Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, ствараў на Палесьсі дэмакратычную вэтэранскую арганізацыю.

Ганаруся тым, што ў ягонай бібліятэцы засталіся мае кнігі з аўтографамі.

Падчас нашай сустрэчы мне падумалася, што з такімі, як Рамановіч, было б нястрашна і на этапе, і ў лягерным бараку.

Спадар Кастусь не дачакаўся ад сёньняшніх уладаў рэабілітацыі, як не пасьпеў узяць у рукі й кнігу сваіх успамінаў «За волю Беларусі», што сустрэлася зь першымі чытачамі праз некалькі месяцаў пасьля таго, як ён разлучыўся з душой.

Няхай Сокалу будзе ўтульна там, у нябеснай Беларусі!

**Кастусь Рамановіч**
1.1.1927, в. Лозкі, цяпер Наваградзкі раён —
31.1.2005, Пінск.
Пахаваны на пінскіх могілках Пасянічы.

## Карлас Шэрман

Месца яго нарадзінаў для беларускага літаратара ня самае звычайнае. У выходныя дні Карласаў бацька Рыгор — заходнебеларускі габрэй-эмігрант — рыбаліў у Ля-Плаце і, прывозячы дадому тамтэйшых двухмэтровых рыбін, у адказ на захопленыя крыкі малога пагардліва азываўся: «Хіба гэта рыба! Гаўно! Вось у нас у Прыпяці — там рыба!»

У далёкую й загадкавую Беларусь Карлас зь сям'ёю прыехаў у сярэдзіне 1950-х. Дваццацідвухгадовы юнак пасьпеў ужо закончыць Нацыянальны ўнівэрсытэт Марэна ў Буэнас-Айрэсе й нават пабыць галоўным рэдактарам апазыцыйнай левай газэты...

Краіна саветаў, якая ўяўлялася Карласу ледзьве не зямлёй запаветнай, падаравала бязьлітасны крах ілюзіяў. На прычале ў вяртанцаў першым чынам забралі пашпарты. З сотняў рэпатрыянтаў, якія сышлі разам з Шэрманамі з аргентынскага цеплаходу ў адэскім порце, практычна ўсе праўдамі й няпраўдамі вярнуліся ў Амэрыку. Карлас застаўся. Вырашальную ролю адыграла сустрэча з Рыгорам Барадуліным, Уладзімерам Караткевічам і Валянцінам Тарасам.

Дзякуючы Шэрману па-гішпанску загучала беларуская клясыка — ад Купалы да Васіля Быкава. У тандэме з Барадуліным Карлас паставіў на нашыя паліцы цэлую бібліятэку з твораў Фэдэрыка Гарсія Лёркі, Габрыелі Містраль, Нікаляса Гільена... Улетку 1977-га самым папулярным часопісам у СССР нечакана зрабіўся наш «Нёман». Там друкаваўся зроблены Шэрманам у суаўтарстве з Валянцінам Тарасам пераклад раману Габрыеля Гарсія Маркеса «Восень патрыярха», зьяўленьне якога ў гады росквіту брэжнеўскага застою было падзеяй, што выходзіла за межы літаратуры.

Свае вершы й паэмы Карлас пісаў па-гішпанску, эсэ — па-беларуску. Ягоная апошняя прыжыцьцё-



вая кніга паэзіі мае назоў «Накірункі сьвету». Для Шэрмана яны не абмяжоўваліся захадам і ўсходам, поўначчу й поўднем. Галоўным для яго заўсёды быў кірунак углыб — углыб творчасьці таго, каго перакладаў. Углыб душы таго, з кім сябраваў. Углыб справы, якой займаўся.

Дзесяцігадовая праца віцэ-прэзыдэнтам Беларускага ПЭН-цэнтру зрабіла Шэрмана вядомым праваабаронцам. Яму вельмі прыдаўся юначы досьвед барацьбы з дыктатурай Пэрона ў Аргентыне.

Змагаючыся зь цяжкай хваробай, ён мусіў зьехаць у Нарвэгію, але сэрцам заставаўся тут. Мой тэлефон па-ранейшаму раз-пораз гаварыў Карласавым голасам зь ягоным нязводным цёплым акцэнтам. У адным з апошніх лістоў Карлас пісаў, што «страшэнна сумуе па дзіўным жыцьці ў Беларусі».

Ён памёр у Осьлё падчас трынаццатай апэрацыі.

Ягоным імем мы назвалі прэмію за найлепшыя перакладныя кнігі году.

Разам з прахам Карласа яго жонка Тамара прывезла ў Беларусь мэмуары «Блуканец» і зборнік вершаў «Вока дня», упершыню напісаных не па-гішпанску, як раней, а па-беларуску.

**Карлас Шэрман**
25.10.1934, Мантэвідэо, Уругвай —
4.3.2005, Осьлё, Нарвэгія.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

## Барыс Рагуля

Ён вучыўся ў Наваградзкай беларускай гімназіі, а пасьля яе закрыцьця мусіў давучвацца ў польскай. Успамінаючы створаную там дыскрымінацыйную атмасфэру, Барыс Рагуля пазьней пісаў: «У беларускай гімназіі я ведаў, што я беларус, а ў польскай адчуў сябе беларусам».

За год да пачатку Другой усясьветнай вайны ён здаў экзамэны на факультэт мэдыцыны Віленскага ўнівэрсытэту, але ў абход закону юнака-патрыёта забралі ў польскае войска.

Потым былі нямецкі палон і ўцёкі ў жніўні 1940-га на «вызваленую» Чырвонай Арміяй радзіму, дзе Барыса напаткалі арышт і сьмяротны прысуд, ад выкананьня якога ўратаваў толькі напад Нямеччыны на СССР.

Увосень 1943 году акупацыйныя ўлады прынялі пастанову пра стварэньне новага беларускага добраахвотніцкага фармаваньня — Наваградзкага коннага швадрону. Камандавацъ ім прапанавалі выкладчыку Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі Барысу Рагулю. Гітлераўцы ня ведалі, што ён быў сярод заснавальнікаў Беларускай незалежніцкай партыі, якая зьбіралася змагацца і з бальшавікамі, і зь немцамі.

Рагуля даў згоду, паставіўшы цьвёрдую ўмову поўнай незалежнасьці швадрону ад мясцовай нямецкай адміністрацыі.

25 сакавіка 1944 году кавалерысты Рагулі пад сваім штандарам з Пагоняй і гербам Наваградку прынялі прысягу на вернасьць беларускаму народу. Швадрон удала дзейнічаў як супраць савецкіх, так і супраць польскіх партызанаў з Арміі Краёвай, што забівалі беларускіх актывістаў.

Аўтар успамінаў пра байцоў Барыса Рагулі пісаў, што ў тых умовах «беларускаму народу заставалася толькі вера ва ўласныя сілы. Гэта адзіны момант, які



дамінаваў у Наваградзкім швадроне. Яго маладыя жаўнеры былі люстэркам народных пачуцьцяў».

Пасьля вайны зьдзейсьніць яшчэ дзіцячую мару — стаць лекарам — Барысу Рагулю дапамог мэдычны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту ў Бэльгіі.

Жывучы пазьней у Канадзе, ён стаў адным з найаўтарытэтнейшых у краіне анколягаў. Аднак прыватная практыка і навуковыя дасьледаваньні ніколі не заміналі яму працаваць на беларускую справу: у Згуртаваньні беларусаў Канады, у Радзе БНР, у Камітэце дапамогі дзецям — ахвярам Чарнобылю.

Мы сустрэліся зь ім у сярэдзіне 1990-х гадоў на зьезьдзе беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Кліўлэндзе. Энэргічны поціск моцнай і чуйнай рукі мэдыка, глыбокі дапытлівы позірк, аўтограф на ягонай кнізе «Беларускае студэнцтва на чужыне».

Уражаньні ад размовы самі сабою склаліся ў выснову: гэтаму чалавеку можна даверыць сваё здароўе, а паваяваць пад яго камандаваньнем я таксама б пагадзіўся.

**Барыс Рагуля**
1.1.1920, мяст. Турэц, цяпер Карэліцкі раён —
22.4.2005, Лёндан, правінцыя Антарыё, Канада.
Прах разьвеяны ў мясцовасьці Маскока, дзе быў дом Рагуляў.

## Анатоль Сыс

Мы пазнаёміліся ў 1984-м у Вінцука Вячоркі. Анатоль Сыс, цьвярозы, як сьлязінка немаўляці, усю ноч чытаў вершы — улюбёныя й уласныя. Ягоныя часта гучалі мацней: у іх, хоць яшчэ і не заўсёды дасканала схопленая словамі, пульсавала стыхія сапраўднай паэзіі. Усьцешаны гэтым адкрыцьцём, пад раніцу я заснуў, але Толя далікатна пабудзіў мяне і працягваў дэклямацыю.

Ён учора вярнуўся з вайсковай службы, якую адбываў у Польшчы часоў «Салідарнасьці» і надзвычайнага становішча, што, безумоўна, абвастрыла ў яго і грамадзянскае, і нацыянальнае пачуцьцё.

Сыс увайшоў у нашую паэзію і наагул у беларускае жыцьцё ўпэўнена і харызматычна. Ён стаў адным з стваральнікаў Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя» й арганізатарам першых Дзядоў у 1987-м. Ён зьбіраў на сваіх вечарынах паўнюткія залі. Ягоныя кніжкі «Агмень» і «Пан Лес» імгненна разьляцеліся. Трэцяя — «Сыс» — выйшла адно ў 2002 годзе дзякуючы эмігрантцы Валянціне Якімовіч.

Яго цытавалі студэнты і дактары навук:

*...і сталі дружна, шчыра, шчыльна,*
*як на касьбе ці на сяўбе,*
*паэт сказаў: п’ем за Айчыну!*
*І кожны выпіў: за сябе...*

Сяброўства зь ім шукалі ня толькі літаратары, але і міністры, да прыкладу, першы міністар замежных справаў незалежнае Беларусі Пятро Краўчанка. Ягонаму маскоўскаму калегу Андрэю Козыраву Сыс з сцэны Дому літаратара прачытаў верш пра закапаны кулямёт і «мядзьведзя расейскага», публічна нагадаўшы, што тут — Беларусь, якая ніколі ня будзе Расеяй.

Ён быў непрадказальны і таленавіты ўва ўсім.



Міталягізаваў родную вёску Гарошкаў. У 1990-м з крыкам «Акупанты, прэч!» спыніў разам зь сябрамі на сталічным праспэкце калёну бронетэхнікі, што рыхтавалася да кастрычніцкага параду. Анатоль падаваў менскім жабракам (а аднаго прывёў у кавярню Дому літаратара і нагадава́ў, выдаючы за свайго бацьку), пакуль сам вонкава не ператварыўся амаль што ў аднаго зь іх.

Я папрасіў некалькіх знаёмых даць асобе Сыса ацэнку ў адным слове. Адказы можна вышыхтаваць так: Мужчына. Беларус. Паэт. Клясык. Геній. Яго пяро насамрэч да апошніх дзён магло нараджаць вершы залатой пробы. Такія, як вось гэты, «Пчаліная матка»:

*Начаваў я ў вульлі*
*Пад крылом у пчалінае маткі*
*Пчолы казкі гулі*
*Трутні ноч*
*Казыталі мне пяткі...*

Ён паміраў пакутліва, адзін: ня мог, а мо і не хацеў нікога клікаць на дапамогу. Але ён верыў, што застанецца ў вершах, і не памыляўся. Гэта засьведчылі Анатолевы пасьмяротныя кнігі.

**Анатоль Сыс**
26.10.1959, в. Гарошкаў, Рэчыцкі раён — пачатак траўня 2005, Менск.
Пахаваны 10.5.2005 у в. Гарошкаў.

# Пятро Драчоў

Драчоў быў сябрам і аднадумцам Уладзімера Караткевіча, ягоным спадарожнікам у апошняй вандроўцы па Палесьсі. «Увесь час Караткевіч як бы паказвае, куды ісьці, як ісьці. І, мне здаецца, так будзе ўсё жыцьцё», — казаў ён у адным з інтэрвію.

Многія з тых, хто ня ведае імя Пятра Драчова, насамрэч ня раз сустракаліся зь яго творчасьцю, бо чыталі бліскуча аформленыя ім Караткевічавы кнігі «Зямля пад белымі крыламі» і «Чорны замак Альшанскі», бачылі ягоныя панарамы і дыярамы ў Нацыянальным музэі гісторыі і культуры («Гандаль у Полацку», «Пажар Магілева ў Паўночную вайну»), Музэі гісторыі мэдыцыны («Францыск Скарына трымае экзамэн у Падуанскім унівэрсытэце») і Музэі Максіма Багдановіча («Менск у 1890 годзе»). Яшчэ студэнтам я захапляўся літаграфіямі майстра на тэмы беларускай гісторыі, якую Драчоў ведаў і адчуваў, як мала хто іншы з нашых мастакоў.



Чвэрць стагодзьдзя ён адпрацаваў мастацкім рэдактарам часопісу «Бярозка», падпісаўшы ў друк болей за трыста яго нумароў, а затым ягоным клопатам стаў мастацкі твар новага «Беларускага гістарычнага часопісу».

Гонар быць аформленым таленавітай рукою Драчова выпаў майму першаму зборніку прозы на сюжэты з даўніны «Дзень, калі ўпала страла». Асабліва ўдалай, дарма што вельмі ляканічнай у вобразных сродках, атрымалася вокладка: белае вакно на чорнай асноведзі перацінала чырвоная страла.

Кнігу пачалі прадаваць у кнігарнях, і раптам яна зьнікла. Высьветлілася, што вінаватая якраз вокладка зь бел-чырвона-белым вакном. Я быў у роспачы: яшчэ не задаўнілася гісторыя зь дзіцячай кніжкаю народных казак, увесь наклад якой адправілі пад нож выключна за тое, што мастак намаляваў на замкавай вежы маленькі нацыянальны сьцяжок.

Драчоў перажываў ня менш за мяне.

Але на дварэ ўжо стаяў 1989-ты. У нейкіх інстанцыях, дзе разглядаўся данос маіх «добразычліўцаў», прынялі пастанову ў духу абвешчанай Міхаілам Гарбачовым перабудовы: кнігу ня рэзаць, але вокладку неадкладна перафарбаваць.

Беручы своеасаблівы рэванш, Драчоў у тых самых колерах аформіў мой новы зборнік прозы «Пяць мужчын у лесьнічоўцы». Праўда, тады наш сьцяг ужо быў дзяржаўным.

Пад ім, зноў «крамольным», над магілаю Драчова гучалі разьвітальныя прамовы.

**Пятро Драчоў**
6.7.1937, Ленінград, цяпер Санкт-Пецярбург, Расея —
8.5.2005, Менск.
Пахаваны на менскіх Кальварыйскіх могілках.

Вы ўяўляеце, як прыемна вадроўніку зь Беларусі, што ўсяго на тыдзень прыехаў у ЗША, выпадкова сустрэць на ранішнім Мангэтане добрую знаёмую?

Асабліва калі яна — родная пляменьніца Івана й Антона Луцкевічаў і бабуля сьпевака Данчыка Яніна Каханоўская, якую, маленькую, вазіў на сабе «конік» Максім Багдановіч.

Яе мама Эмілія хадзіла ў тую самую школу, што і царскія дочкі.

Яніна вучылася ўжо ў савецкай школе, але беларуская незалежніцкая атмасфэра ў сям'і зводзіла на ніштo ўсе спробы ідэалягічных прышчэпак.

## Яніна Каханоўская



Апынуўшыся ўлетку 1950-га ў нью-ёрскім Гарлеме, Яніна ня ведала ні слова па-ангельску і мусіла зарабляць на жыцьцё цяжкай працай, але, паводле ейных словаў, тысячы кілямэтраў, што аддзялялі яе ад віжоў, арыштаў і начных расстрэлаў, былі большчым дастатковаю кампэнсацыяй.

Напэўна, я яшчэ не сустракаў на сваім шляху жанчыны, якая ўмела б мацней за спадарыню Яніну любіць і шанаваць жыцьцё й цаніць усе яго вялікія й маленькія радасьці.

Яна мела багатае рамантычнае мінулае.

Яна сябравала з Натальляй Арсеньневай.

Яна любіла падарожнічаць і ўжо на дзясятым дзясятку наведала праскую кавярню «Чартоўка», пра якую вычытала ў маёй кнізе. «Божая кароўка зь Пятай авэню».

Яе ўтульная маленькая кватэрка ў Іст-Віліджы выглядала сапраўдным музэем, а густоўна падабраная бібліятэка складалася з адных рарытэтаў, зь якіх мне засталіся на памяць прыжыцьцёвае парыскае выданьне ўспамінаў Івана Буніна і «Граскі дзёньнік» Галіны Кузьняцовай.

Яна добра малявала і зрабіла ілюстрацыі да некалькіх беларускіх кніжак. Найлепей у яе атрымліваліся вядзьмаркі — спакусьліва прыгожыя, іранічна-гарэзьлівыя й, напэўна, добрыя — такія, да якіх належала сама.

Данчык, які без улюбёнай бабулі, відаць, быў бы зусім ня тым, кім мы яго ведаем і любім, пісаў, што візытоўкаю яе незалежнай і шчодрай душы заўсёды была ўсьмешка.

Што яна ніколі ня мела даўгоў.

Што пагарджала алькаголем і тытунём, бо — хоць зусім не была пурытанкай — лічыла, што яны пазбаўляюць чалавека свабоды.

Што ў апошнія гады любіла глядзець містычны трылер «Зялёная міля».

На сваё 90-годзьдзе яна вальсавала ў сьвяточна-прыцемнай рэстараннай залі. Сотні прысутных сяброў і родных верылася, што ў сто гадоў яна гэтаксама закружыцца ў танцы — па-птушынаму лёгкая, элегантная, бездакорна ўбраная.

Я вельмі чакаю кнігу, якую напіша пра сваю незвычайную бабулю Данчык.

**Яніна Каханоўская (ад нараджэньня Шабуня)**
26.11.1909, Менск — 16.7.2005, Нью-Ёрк, ЗША.
Пахаваная на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку, штат Нью-Джэрзі.

## Ібрагім Канапацкі

Шэсьць з гакам стагодзьдзяў таму Вітаўт запрасіў у Вялікае Княства Літоўскае Тахтамыша, якога ў Залатой Ардзе пазбавілі ўлады. Ад таго часу ў нас і пасяліліся татары, для якіх Беларусь стала радзімай, а яе мова — настолькі роднай, што па-беларуску арабскай вязьзю пісаліся іх мусульманскія рэлігійна-маральныя кнігі — кітабы.

Гісторык Ібрагім Канапацкі лічыў сябе нашчадкам аднаго з татарскіх кавалерыстаў, якія поруч з нашымі продкамі бралі ўдзел у разгроме тэўтонцаў пад Грунвальдам.

Справаю жыцьця ён абраў адраджэньне багатай і прыгожай культуры беларускіх татараў, даведзенай савецкай уладай амаль да поўнага занядбаньня. Свой Татарскі дом ён адбудоўваў на гле-



Мячэт у Сьмілавічах, збудаваны з ініцыятывы Ібрагіма Канапацкага



бе агульнабеларускай, пад нашымі нацыянальнымі сымбалямі. На часам паблажлівае пытаньне: «Ну колькі вас тут, гэтых татараў?» — Канапацкі заўсёды адказваў: «Нас зь беларусамі 10 мільёнаў».

Ібрагім працаваў, як добрая ўстанова. Безь ягоных эрудыцыі, энэргіі, зацятасьці, безь яго магутнай ваярскай постаці й густой беларускай мовы шмат страцілі б і дзейнасьць згуртаваньня «Аль-Кітаб», і квартальнік «Байрам», і татарскі культурны цэнтар у Іўі, і адбудовы мячэтаў у Наваградку, Слоніме, Клецку, у ягоных родных Сьмілавічах на Чэрвеньшчыне.

Я доўга міжволі шукаў Ібрагіма на прэзэнтацыях сваіх новых кніг. Мне часам яшчэ хочацца патэлефанаваць яму, каб удакладніць склад татарскіх аддзелаў у войску Вялікага Княства або жыцьцяпіс выхаванца Полацкага кадэцкага корпусу, дзеяча беларускага руху Гасана Канапацкага. Цяпер на мае пытаньні адказвае Ібрагімава дачка Зарына, якая працягвае бацькаву справу, абараніўшы кандыдацкую дысэртацыю на тэму «Татары ў Беларусі й іх культура. XIV—XVII стст.».

Мусульманін для выратаваньня душы капае калодзеж. Алаг ацэніць Ібрагімаў «калодзеж» у сябе на нябёсах. Мы мусім зрабіць гэта на зямлі, якую ён так любіў.

**Ібрагім Канапацкі**
28.2.1949, мяст. Сьмілавічы, Чэрвеньскі раён —
9.9.2005, Менск.
Пахаваны на мусульманскім мізары ў Сьмілавічах.

Ніколі ня мог пахваліцца шырокімі сувязямі ў беларускім акторскім асяродзьдзі. Напэўна, таму, што баюся расчараваньня: а раптам па-за магічнымі межамі сцэны чалавек, якім захапляўся, зноў выявіцца нецікавым і пуставата-абыякавым да таго, чым ты жывеш.

Алесь Лабанок ня быў маім сябрам, але кожная зь нячастых сустрэчаў зь ім не расчароўвала, а рабілася падзеяй.

У 1970-я гады нас шчасьліва зьвёў таленавіты паэт і актор Коласаўскага драмтэатру, зямляк і ўлюбёнец Янкі Брыля — Пятро Ламан.

## Алесь Лабанок



Я прызнаўся, што ўжо тройчы прыяжджаў на «Званы Віцебску» паводле Ўладзімера Караткевіча, дзе Лабанок выконваў ролю завадатара віцебскага паўстаньня 1623 году Сьцяпана Пасіёры.

Памятаецца, пасьля шкляначкі чырвонага я загаварыў пра гістарычную дакладнасьць і Алесеву бліскучую схільнасьць да імправізацыі. Ён тактоўна, але рашуча спыніў: «Давай я лепей пачытаю Купалу».

Вершы гучалі незнаёма:

*Адзін, адзін раз толькі ў год*
*Зьбірацца можна з ласкі рока,*
*Каб год іржавы карагод*
*Зганяць зь мінуўшчыны далёкай...*

Ягоны голас пакрысе набіраў сілу і браў у палон — і майстэрствам дэклямацыі, і сэнсам Купалавых радкоў:

*За мною ўсьцяж, і тут і там,*
*Іх вусны бледныя шапталі:*
*«Аддайце песьню нашу нам!*
*Нашто схавалі-расхапалі?»*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Ня ўмруць, ня ўмруць ужо яны,*
*Раз хочуць сонца, славы, песьні...*

Гэта была паэма «На Куцьцю», якая апошні раз друкавалася ў сярэдзіне 1930-х, а потым трапіла пад забарону, як і другая паэма — «На Дзяды», яе я таксама пачуў у той вечар.

Мянчук Лабанок, які ў студэнцкія гады прайшоў загартоўку сваіх поглядаў у створаным Яўгенам Клікам нацыянальным асяродку «На Паддашку», пасьля Беларускага тэатральна-мастацкага інстытуту прыехаў у Віцебск.

Усё наступнае жыцьцё — амаль сорак гадоў — ён працаваў у тэатры імя Якуба Коласа. Ён выканаў дзясяткі роляў: Хорста ў «Гісторыі граху» паводле С. Жаромскага, Сьвятара ў Брэхтавай «Матухне Кураж», Старога ў «Крэслах» А. Камю...

Тэатар замяняў Алесю сям'ю.

Ён быў нячастым прыкладам беларускага актора, які і на сцэне, і ў жыцьці гаварыў на адной мове.

Гэта ён прывёз у Вільню да тамтэйшых беларусаў маладога Алеся Разанава.

Ён заўсёды быў непахісным незалежнікам.

На Дзяды й на Куцьцю ён штогод завітвае да мяне.

**Алесь Лабанок**
13.9.1944, Мар'іна Горка, Пухавіцкі раён —
19.9.2005, Віцебск.
Пахаваны ў Мар'інай Горцы, Пухавіцкі раён.

## Алесь Емяльянаў

У Алеся быў моцны поціск рукі. Ды й самога яго нельга назваць чалавекам слабым. У гістарычную восень 1988-га Емяльянаў ня проста стаў сябрам Арганізацыйнага камітэту БНФ «Адраджэньне». На маю думку, яму ў тыя тыдні належала адна з ключавых роляў.

Тагачасны літкансультант Саюзу пісьменьнікаў, Алесь цудоўна зразумеў стратэгічныя магчымасьці сваёй пасады і напоўніцу выкарыстоўваў іх.

Праз тыдзень пасьля векапомных Дзядоў «Звязда» разам зь іншымі афіцыйнымі выданьнямі зьмясьціла нататку пад назваю «Прыйшла ў рэдакцыю лістоўка». Галоўным у публікацыі быў не камэнтар, а сама інфармацыя пра тое, што рэгістрацыя створаных на месцы працы ці жыхарства групаў падтрымкі БНФ адбываецца па адрасе: Менск, вул. Фрунзэ, 5, Саюз пісьменьнікаў, Алесь Емяльянаў.

Ужо ў дзень зьяўленьня нататкі Алесеў кабінэт



ператварыўся ў штаб-кватэру Аргкамітэту. За дзень там бывалі сотні людзей, якія ехалі з усёй Беларусі: прывозілі дакумэнты й сьпісы, атрымлівалі ўлёткі й праграмы, хавалі ў дыпляматы і заплечнікі нацыянальныя сьцягі. Тамсама, у нашым Саюзе, з дапамогаю Алеся праходзілі й першыя паседжаньні франтаўскага Аргкамітэту.

Нейкім дзівам у тыя шалёныя дні ён яшчэ пасьпяваў пісаць вершы.

*Прычакала — у нямым прасьцягу*
*дзідамі ўзрастае сьмела рунь,*
*і пад бел-чырвона-белым сьцягам*
*крылы разьвінае Беларусь.*

У сваёй кнізе ўспамінаў «Доўгая дарога дадому» Быкаў згадвае, як паэт Алесь Емяльянаў публічна прызнаўся, што яго вэрбаваў КГБ. «Пісьменьніцкая грамадзкасьць, — піша Васіль Уладзімеравіч, — падвергла яго астракізму, хоць было невядома — за што: за тое, што вэрбавалі, ці за тое, што ён прызнаўся». Ня выключана, што найбольш выступалі супраць Алеся якраз тыя, што насамрэч супрацоўнічалі з «органамі», але не пакаяліся.

Емяльянаў меў разьвітае пачуцьцё гумару, а таму, відаць, толькі пасьмяяўся б з гісторыі, якая адбылася падчас гэтак званых прэзыдэнцкіх выбараў 2006 году. Алесева дачка Міхаліна, прыйшоўшы на свой участак, даведалася, што яе бацька-нябожчык ужо прагаласаваў датэрмінова і нават здолеў сам расьпісацца.

**Алесь Емяльянаў**
20.3.1952, в. Забалоцьце, Чавускі раён —
6.10.2005, в. Рубяжэвічы, Стаўпецкі раён.
Пахаваны ў в. Буцявічы, Менскі раён.

Ягоныя публікацыі абмяркоўвалі ў курылках і ў тралейбусах. Аднойчы я сам быў сьведкам і ўдзельнікам такой дыскусіі й з гэтае прычыны праехаў некалькі лішніх прыпынкаў. Артыкул называўся «Аброць на Беларусь, або Пра што мы гаварылі з прэзыдэнтам у маёй хаце з вока на вока».

А гаварылі пра тое, што за апошнія гады Беларусь ператварылася ў краіну анамальных зьяваў — ад становішча з мовай да зьдзеку зь вясковых жыхароў, якія ў XXI стагодзьдзі нярэдка вымушаныя жыць амаль у сярэднявечных умовах. Размова аўтара з прэзыдэнтам была віртуальнай, ды я не сумняюся, што гэты паглядны барадач з пранікліўымі мудрымі вачыма адкрыта сказаў бы прэзыдэнту пра ўсё набалелае й у рэальнасьці.

## Васіль Гроднікаў

Хтосьці, пераадолеўшы пэнсійны рубеж, дае сабе адпачынак і засяроджваецца на клопатах, зьвязаных зь лецішчам.

Магчыма, такі намер меў і колішні журналіст «Чырвонай змены» і галоўны рэдактар кінастудыі «Летапіс» Васіль Гроднікаў. Сваімі рукамі ён адбудаваў двухпавярховы дом у вёсцы з калярытнай назваю Мазалі на Маладэчаншчыне.

Здавалася б, можна спакойна набываць «Каляндар садавода й агародніка» й жыць у задавальненьне. Але тое, што чынілася ў краіне, зноў змусіла Васіля ўзяцца за пяро.

На старонках «Народнай волі» пачалі адзін за адным зьяўляцца ягоныя вострыя, аналітычныя, з адразу пазнавальнымі стылем і мовай артыкулы. Найлепшыя зь іх — «Грахі нашы цяжкія», «Асьцярожна: пятая калёна», ужо згаданая «Аброць на Беларусь» — былі сапраўднай публіцыстыкай высокай якасьці.

Да Гроднікава прыйшло магутнае другое дыханьне, якое прынесла вядомасьць і ўвагу — як прыхільнікаў і аднадумцаў, так і тых, для каго Бела-



русь была не радзімай, а ўсяго тэрыторыяй, дзе яны пакуль адчувалі сябе беспакарана. Родны Васілёў брат пісьменьнік Мікола Гроднеў (розьніца ў прозьвішчах — вынік памылкі сельсаветаўскага пісарчука) згадвае, што ягоны сусед па лецішчы літаратуразнаўца Дзьмітры Бугаёў неяк сказаў: «Як гэта твой Васіль так сьмела піша? Яго ж забіць могуць». Пачуўшы братаў аповед, Гроднікаў толькі засьмяяўся.

Яго знайшлі дома мёртвым. На сьценах і падлозе налічылі дзевятнаццаць крывавых плямаў. Сьледзтва прыйшло да высновы, што сьмерць была выпадковай, і крымінальную справу хутка закрылі.

Цікава, што ў падтрымку афіцыйнай вэрсіі гібелі журналіста матэрыял пад назовам «Роковой угол падения» надзіва апэратыўна зьмясьціла «Советская Белоруссия».

Разгортваючы сьвежы нумар «Народнай волі», я яшчэ доўга шукаў там новы Васілёў матэрыял, чые радкі, як заўсёды, павінны былі загаварыць ягоным адметным мужным голасам.

**Васіль Гроднікаў**
13.1.1938, в. Старая Алешня, цяпер Рагачоўскі раён — 17.10.2005, Заслаўе, Менскі раён.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

# Францiш Бартуль



На памяць пра нашыя размовы на адной з традыцыйных сустрэч беларусаў Паўночнай Амэрыкі мне застаўся сьветлы «абразок»: Францiш Бартуль несупынна ўсьміхаецца, шкадуе, што ў мэню няма дранікаў, і ўвесь час распытвае, не дазваляючы разгаварыць яго самога.

Усё ж мне гэта ўдалося, і да тых зьвестак пра спадара Францiша, што я недзе ўжо чытаў (нараджэньне на беларускім этнічным абшары, які бальшавікі аддалі Латвіі, пасьпяховы бізнэс у галіне дантыстычных тэхналёгіяў), дадаліся надзвычай яскравыя штрыхі.

У часе школьных вакацыяў юны Францiш падзарабляў цяжкай і небясьпечнай працаю аснача — ганяў па Дзьвіне плыты ў Рыгу.

На пачатку вайны ён служыў у Чырвонай арміі й займаўся эвакуацыяй сем’яў і маёмасьці савецкага кіраўніцтва Латгаліі, якое на знак падзякі не ўзяло яго ў апошні цягнік. (Сказалі, што няма месца, і пакінулі зь няспраўным пісталетам.)

У 1944-м годзе ён зусім нядоўга павучыўся ў менскай Беларускай афіцэрскай школе і быў зь яго добрым веданьнем моваў тэрмінова запатрабаваны на пасаду перакладчыка ў штаб камандзіра нядаўна ўтворанай Беларускай Краёвай Абароны генэрала Францiшка Кушаля...

Апынуўшыся зь сям’ёю

ў ЗША, Бартуль заснаваў прамысловую карпарацыю «A-rite».

Ягонымі партнэрамі й сябрамі былі італіец, індус, кітаец і ямайкіец. Ён добра валодаў латыскай, польскай, расейскай, нямецкай, ангельскай і лацінскай мовамі. Але прынцып «Беларусь — перадусім» заўсёды заставаўся для яго галоўным. «Беларушчына — гэта хвароба, якой немагчыма пазбыцца ніколі», — казаў ён.

Цягам некалькіх дзесяцігодзьдзяў ён быў сябрам Рады БНР і ўзначальваў Фундацыю імя Пётры Крачэўскага ў Нью-Ёрку.

Адзін з маладых эмігрантаў апошняй хвалі сказаў пра Бартуля: «Ён быў бацькам для ўсіх беларусаў, якія ня мелі бацькі».

Калі Беларусь здабыла незалежнасьць, спадар Франціш (якраз так ён сябе заўжды называў) паважна разглядаў магчымасьць вяртаньня на Бацькаўшчыну.

Гэтыя пляны былі зламаныя контранаступам антыбеларускіх сілаў у сярэдзіне 1990-х.

Вера ў хуткае Адраджэньне пахіснулася, але не зьмяніла імкненьня дапамагаць беларусам — і за акіянам, і на радзіме. Да прыкладу, Бартуль прафундаваў выданьне кніжкі свайго школьнага настаўніка Эдварда Вайвадзіша, пасьля чаго амаль стогадовы літаратар атрымаў пасьведчаньне сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў.

Паэт і бард Сяржук Сокалаў-Воюш, зяць Бартуля, прыгадвае, як за дзень да сьмерці ён, зусім зьнясілены хваробаю, яшчэ пытаўся: «Што там у Беларусі?»

**Франціш (Францішак) Бартуль**
15.11.1918, мяст. Прыдруйск, цяпер Піедруя, Латвія — 4.12.2005, Нью-Ёрк, ЗША.
Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку, штат Нью-Джэрзі.

Напэўна, усе, хто сустракаўся з Паўлам Антонавічам Жуком, пагадзіліся б, што вызначальнаю рысаю ягонага характару была непахісная вера ў справядлівасьць.

Гэта асабліва ўражвала, калі ты ведаў, што некалі Павел твар у твар сутыкнуўся зь лютай несправядлівасьцю, якая магла перакрэсьліць усё жыцьцё юнака з Браслаўшчыны.

Па вайне ў будынку пошты, дзе ён працаваў бухгальтарам, здарыўся пажар.

Затрымаць падпальшчыкаў так і не ўдалося, але «органы» мелі загад паказаць народу яго «клясавага ворага».

# Павел Жук



На допыце сьледчы спакойна, нават весела, сказаў Паўлу: «Ты, хлопец, не вінаваты, але ня адкруцісься ад расстрэлу, калі не падпішаш прызнаньня. Тады з улікам малалецтва атрымаеш якіхнебудзь гадоў дзесяць».

Ваенны трыбунал войскаў МГБ і сапраўды «выпісаў» яму ўсяго дзесяцігодзьдзе лягераў.

Салікамск, Караганда, Енісейск, Дудзінка...

У Нарыльску Павел удзельнічаў у паўстаньні, калі пад кулямётным агнём палеглі сотні палітвязьняў.

Ён вытрымаў усе кругі сталінскай апраметнай.

Вярнуўшыся праз восем гадоў на волю, Павел скончыў дзесяцігодку і працаваў на сьціплых пасадах. Разумеў, што для гэ-



тай улады ён заўсёды будзе «ворагам народу».

Але, чакаючы лепшага часу, у ім жыла нязгасная прага праўды.

У 1990-м абласная гарадзенская газэта надрукавала артыкул Жука пра лёсы палітзьняволеных. Публікацыя, у якой бруіўся жывы чалавечы і грамадзянскі боль, выклікала велізарны рэзананс.

Неўзабаве аўтара аднагалосна абралі старшынём абласной Асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў.

Спадар Павел здолеў згуртаваць у арганізацыі больш за трыста сяброў.

Ён высьветліў, што ў архіве гарадзенскага ўпраўленьня КГБ пад грыфам «Захоўваць вечна» застаюцца 15 тысяч справаў грамадзян, засуджаных у гады сталіншчыны паводле палітычных артыкулаў.

Ён лічыў сваім абавязкам несьці праўду пра тыя падзеі ў школьныя клясы й студэнцкія аўдыторыі.

Помнікам Паўлу Жуку сталася выдадзеная яго Асацыяцыяй кніга ўспамінаў былых палітвязьняў «Ніколі болей».

**Павел Жук**
15.4.1928, в. Рацюны, цяпер Браслаўскі раён — 26.1.2006, Горадня.
Пахаваны на гарадзенскіх могілках Аульс.

Яго называлі «галоўным бандытам раёну». Такім Кастусь Мысьлівец быў у вачах драгічынскай намэнклятуры.

Для сяброў і паплечнікаў ён да апошніх дзён заставаўся ці ня самым адданым патрыётам Беларусі ў палескім краі.

Пры канцы 1980-х Кастусь стаў актывістам грамадзка-культурнага згуртаваньня «Полісьсе», але неўзабаве рашуча выступіў супраць яго кіраўнікоў. Тыя прапанавалі ідэю стварэньня Беларуска-Палескай фэдэрацыі, і Мысьлівец адразу ўбачыў тут пагрозу дзяржаўнай цэласьці краіны.

## Кастусь Мысьлівец

З ініцыятывы спадара Кастуся й ягоных аднадумцаў тры чвэрткі сяброў «Полісься», што жылі на Берасьцейшчыне, далучыліся да структураў БНФ. Сам ён стаў адным зь лідэраў Драгічынскай арганізацыі.

Кастусёў голас гучаў на пікетах і мітынгах, дзе ён патрабаваў паведаміць драгічынцам праўду пра іх накрытыя чарнобыльскімі хмарамі вёскі. Мысьлівец змагаўся супраць будаўніцтва ў райцэнтры экалягічна небясьпечнага біяхімзаводу.

Ворагі звальнялі яго з працы, сябры папярэджвалі, каб позна не хадзіў адзін па вуліцах. Але ён заставаўся самім сабой і па-ранейшаму казаў у вочы тое, што думаў, і вэртыкальшчыкам, і дэмакратам, якія не маглі адкінуць уласных амбіцыяў і аб’яднацца.

Ён прывёз з Рэспублікі Комі жонку Галіну і навучыў яе беларускай мове. Ён сябраваў зь Юрыем Хадыкам. Ён ня раз сустракаў на сваім падворку лідэраў дэмакратычнага руху — кветкамі, нацыянальнымі сьцягамі, сталамі з палескімі абрусамі і прысмакамі. Побач з бацькам быў сын Кірыл на чале скаўцкага аддзелу.

У прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі 2006 году па колькасьці подпісаў, сабраных за лідэра аб’яднаных



Кастусь Мысьлівец з драгічынскімі скаўтамі

дэмакратычных сілаў Аляксандра Мілінкевіча, Драгічын стаў упоравень з значна большымі Баранавічамі і Пінскам.

Тады, на нагах, Кастусь перажыў першы інфаркт. Другі стаўся фатальным.

Яго пахавалі побач з маці ў роднай вёсцы, мужчыны якой з зброяй у руках змагаліся супроць саветаў у нацыянальнай партызанцы пасьля Другой усясьветнай вайны.

Зь людзей гэткага самага гарту быў і Кастусь Мысьлівец.

**Кастусь Мысьлівец**
15.12.1945, Драгічын —
7.4.2006, Драгічын.
Пахаваны ў в. Вулька Сіманаўская, Драгічынскі раён.

# Юры Завадзкі



Юры Завадзкі быў з тых дзясяткаў, а мо й сотняў тысяч беларусаў, чыё жыцьцё зьмянілі падзеі сакавіка 2006 году. Праўда, жыць Юрыю, што таксама адчуў сябе грамадзянінам будучай вольнае краіны, заставалася лічаныя дні.

Маладэчанец Завадзкі займаўся бізнэсам у Расеі, аднак напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў адмыслова прыехаў дадому. 19 сакавіка ён з старэйшай дачкой Ірынай ня змог дабрацца да Менску, бо ўсе электрычкі, як і іншы транспарт, былі адмененыя.

Ірына, студэнтка аддзяленьня фатаграфіі Менскага тэхналягічнага каледжу, зьявілася ў Менску назаўтра і засталася ў намётавым мястэчку.

Два дні на гэтай тэрыторыі свабоды быў і спадар Юры — падвозіў сьвежыя харчы і цёплыя рэчы, шчасьлівымі вачыма глядзеў на дачку й яе сяброў.

Пасьля ліквідацыі намётавага лягеру спэцназам Ірына Завадзкая апынулася сярод сотняў арыштаваных.

Так званае беларускае тэлебачаньне перадало, што ўсіх жанчын вызвалілі. Гэта быў той выпадак, калі людзі, найперш блізкія схопленых, гатовыя былі паверыць нават БТ.

Але дачкі не было двое сутак, і Юры, які ніколі не наракаў на здароўе, перажыў першы сардэчны прыступ. Ён знайшоў Ірыну, прарваўся на суд, дзе адкрыта сказаў, што думае пра рэжым і яго абаронцаў у судзейскіх мантыях.

Потым насіў у турму перадачы, сустракаў Ірыну



Менская вясна — 2006

як гераіню, перажываў, калі яе затрымлівалі за бел-чырвона-белы значок.

Неўзабаве Юрыя выклікаў на размову дырэктар доччынага каледжу Аляксандар Гайдукевіч. Выявілася, што Ірына — яшчэ ўчора выдатніца, здольная фотамастачка, удзельніца й пераможца выставаў і конкурсаў — «ужасно опозорила учебное заведение». Завадзкі адмовіўся «хорошо повлиять на правонарушительницу» і заявіў, што ганарыцца дачкой.

Гэтым разам ягонае сэрца ня вытрымала.

Юры ўжо не прышле дачцэ эсэмэску, як рабіў гэта штодзень. Яны не паедуць разам на рыбалку. Але Ірына перакананая, што яна з малодшым братам Жэнем і сястрой Марынай будуць жыць у іншай Беларусі. Той, якую не пасьпеў убачыць бацька.

**Юры Завадзкі**
9.11.1961, Маладэчна — 17.4.2006, Маладэчна.
Пахаваны ў Маладэчне.

Крыху вандраваўшы па плянэце і адзначыўшыся ў пары дзясяткаў блізкіх і далёкіх краінаў, я канчаткова пераканаўся ў тым, што беларускі, незалежна ад узросту, — найпрыгажэйшыя жанчыны ў сьвеце.

Гэтая аптымістычная выснова канчаткова сфармулявалася ў мяне ў беларускай царкве Маці Божай Жыровіцкай у гарадку Гайлэнд-Парк, штат Нью-Джэрзі, дзе я сустрэў неверагодную, фантастычна высокую для Амэрыкі канцэнтрацыю прыгожых дзяўчатак, дзяўчат, кабетаў і бабуляў.

## Вера Бартуль

Адным з увасабленьняў красы беларусак была Вера Бартуль, якую, пра што я потым даведаўся, у свой час абралі каралеваю харастве нашае эміграцыі.

Яна ня толькі сама была красуняю, але і дапамагала зрабіцца прыгажэйшымі вельмі многім жанчынам.

Калісьці ў Бартулёў кватаравала амэрыканская акторка. Яна й параіла Веры пайсьці ў школу дэманстрацыі моды. Закончыўшы яе, Вера Бартуль пачала плённа працаваць мадэльлю і кансультантам-кутур’е.

Ейныя працы ня раз дэманстраваліся ў найлепшых крамах Нью-Ёрку, Сан-Францыска, Лос-Анджэлесу, Чыкага.

Вера стварыла сцэнічныя ўборы для славутага на эміграцыі танцавальнага гурта «Васілёк», разам зь якім упершыню пасьля доўгага расстаньня наведала Беларусь.

Потым яна шмат разоў прыяжджала на Бацькаўшчыну як сябра арганізацыі «CitiHope», што дапамагала ахвярам Чарнобылю.

Дабрачыннай гуманітарнай дзейнасьцю спадарыня Вера займалася проста нястомна.

У маладосьці яна зьбірала сродкі на падтрымку вяртанцам з ГУЛАГу. Сярод тых, хто згадваў гэтую



Вера і Франціш Бартулі з дачкой Ганнай. 1950-я гады

дапамогу, былі Ларыса й Янка Геніюшы, Юрка і Лявон Луцкевічы.

За сабраныя ёю грошы выходзілі кружэлкі Данчыка, набываліся экспанаты ў Беларускі музэй у Гайнаўцы на Беласточчыне.

Да апошніх сваіх дзён Вера была старшынёй ньюёрскай суполкі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

Яна перажыла мужа, слыннага дзеяча нашай эміграцыі Францішa Бартуля ўсяго на некалькі месяцаў.

**Вера Бартуль (ад нараджэньня Касьцюкевіч)**
22.11.1930, в. Губічы, цяпер Буда-Кашалёўскі раён —
24.4.2006, Нью-Ёрк, ЗША.
Пахаваная на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку,
штат Нью-Джэрзі.

За савецкім часам цэнзура забараняла згадваць антысавецкі збройны Супраціў у Беларусі пасьля Другой усясьветнай вайны.

Мы глядзелі фільмы й чыталі кнігі, дзе выкрываліся бандэраўцы або прыбалтыйскія «лясныя браты», якія скрозь былі нелюдзямі ці, у лепшым разе, наіўнымі падманутымі маладзёнамі.

У БССР жа ў тыя гады нібыта шчасьліва панавалі спакой і натхнёнае будаўніцтва сьветлае камуністычнае будучыні.

Насамрэч было іначай: Беларусь таксама змагалася й мае сотні імёнаў, якія насуперак забаронам і замоўчваньню вяртаюцца ў нашую памяць, выклікаюць вострыя спрэчкі і вымагаюць пошукаў новых фактаў. Сярод такіх герояў — генэрал Міхал Вітушка.

# Міхал Вітушка



Выхаванец Віленскай беларускай гімназіі, Праскай і Варшаўскай палітэхнікі, у гады вайны ён ствараў Беларускую службу парадку на Магілеўшчыне, Смаленшчыне й Браншчыне. Сябра ЦК Беларускай незалежніцкай партыі й удзельнік Другога Ўсебеларускага зьезду, Вітушка быў сярод арганізатараў плянаванага, як мяркуюць некаторыя гісторыкі, антынямецкага паўстаньня з мэтаю абвяшчэньня незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

Да канца пяцідзясятых гадоў Міхал Вітушка, якога афіцыйна абвясьцілі забітым яшчэ ў 1945-м, ачольваў беларускі збройны Супраціў.



Менскі гарадзкі тэатар перад адкрыцьцём Другога Ўсебеларускага зьезду, удзельнікам якога быў Міхал Вітушка. 27 чэрвеня 1944 г.

У 1948-м ён рэарганізаваў гэты рух у Беларускую Вызвольную Армію, вядомую яшчэ як арганізацыя «Чорны Кот», а пазьней перапраівіў значную частку паплечнікаў у Заходнюю Эўропу.

Дасьледнік тых падзеяў Сяргей Ёрш называе Вітушку адзіным з кіраўнікоў нацыянальных антысавецкіх рухаў у СССР, які выжыў у партызанцы і здолеў захавацца ад савецкіх агентаў на Захадзе.

Ёсьць зьвесткі, што пад чужым прозьвішчам ён ужо ў 1970-я гады неаднаразова наведваў Беларусь, у тым ліку Менск.

Легендарны генэрал, пакінуўшы яшчэ ненадрукаваныя ўспаміны, памёр у адным з альпійскіх санаторыяў на дзевяноста дзявятым годзе жыцьця. Мара ўбачыць вольную Беларусь перайшла ў спадчыну да ягонага сына.

**Міхал Вітушка**

5.11.1907, Нясьвіж — 27.4.2006, Нямеччына.

Месца пахаваньня не паведамляецца.

Свабода ніколі не прыходзіць да таго, хто яе не чакае. Уладзімер Плешчанка ня проста чакаў свабоду — ён набліжаў яе прыход.

У Віцебску — без усякага перабольшаньня — яго ведалі ўсе.

Болей за пятнаццаць гадоў Уладзімер у маразы і сьпёку, у дождж і завеі не радзей, чым кожны панядзелак і чацьвер, а часам амаль штодня выходзіў у цэнтар на самы шматлюдны ў горадзе тралейбусны прыпынак каля гэтак званага Сіняга дому і разгортваў бел-чырвона-белы сьцяг.

## Уладзімер Плешчанка



Хтосьці лічыў ці, дакладней, спрабаваў абвясьціць яго блазнам. Але большасьць віцяблянаў ставіліся да Плешчанкі калі не з разуменьнем, дык, прынамсі, з павагаю.

Каля Сіняга дому можна было атрымаць незалежныя газэты й улёткі, паставіць подпіс за свайго кандыдата на выбарах, параіцца і паспрачацца. Зянон Пазьняк назваў змаганьне Плешчанкі найбольш блізкім да мэтаду Махатмы Гандзі.

Калі Ўладзімер на звыклым месцы некалькі дзён адсутнічаў, увесь горад ведаў: ягоны несанкцыянаваны пікет зноў разагналі, а адзін з старэйшых віцебскіх апазыцыянэраў, а ў апошнія гады — старшыня абласной рады КХП БНФ сядзіць пад чарговым арыштам.

Адзін раз яго не было цэлыя сем месяцаў: быў зьняволены ў зьвязку зь вядомай справай зьнікненьня бюсту Аляксандра Суворава, які патапіў у крыві

паўстаньне Касьцюшкі. Віцебскія пінкертоны палічылі, што чалавек з хворым сэрцам здолеў перацягнуць трохсоткіляграмовы бюст генэралісымуса ў суседні двор.

Зрэшты, з увагі на тое, што інжынэр Уладзімер Плешчанка некалі быў славутым на ўвесь Савецкі Саюз рацыяналізатарам, такія высновы не выглядаюць фантастычнымі.

З гэтае ж прычыны наўрад ці быў чыста сымбалічным удзел Плешчанкі ў групе легендарнага Мірона, што вывешваў нацыянальныя сьцягі ў месцах, даступных, здавалася б, толькі анёлам.

Дарэчы, седзячы за кратамі, Уладзімер ня толькі дзень пры дні займаўся самаадукацыяй і чытаў беларускую клясыку (на шчасьце, яе ў турэмнай бібліятэцы не бракавала). Сваімі шматлікімі нястомнымі зваротамі ў розныя інстанцыі ён здолеў дамагчыся вызваленьня маладога вязьня Ігара Мацьвеева, якога асудзілі на вялікі тэрмін за забойства, хоць насамрэч непаўналетні хлопец нікога не забіваў.

Свой апошні сямідзённы арышт за акцыю, прысьвечаную Дню Волі, Плешчанка адбываў у гарачую вясну 2006-га.

У траўні яго сэрца, што раней перажыло два інфаркты, ужо ня вытрымала.

На саракавы дзень, як яго душа адляцела, сябры Ўладзімера паставілі на віцебскай Усьпенскай горцы мэмарыяльны крыж з надпісам: «Ахвярам нялюдзкага рэжыму».

**Уладзімер Плешчанка**
25.7.1948, в. Вароны, Віцебскі раён —
20.5.2006, в. Вароны.
Пахаваны на могілках в. Друкава, Віцебскі раён.

## Янка Брыль

Брыль нарадзіўся ў Адэсе, што, відаць, гэтаксама прычынілася да ягонага нязводнага — то вытанчанага, то па-народнаму грубаватага гумару, які нездарма назвалі калябруньёнаўскім.

Гэтым гумарам былі наскрозь прасякнутыя лісты, якія я зрэдку — кожны раз бясконца шчасьлівы — атрымліваў ад мэтра, калі Брыль заўважыў мае першыя апавяданьні.

Ён умеў пахваліць і ўадначас па-настаўніцку пасьмяяцца з праколаў накшталт лужынкі пад нагамі ў адной маёй гераіні, што аб'ект яе непадзеленага каханьня прыняў за наплаканыя сьлёзы.

Я суперажываў Алесю Руневічу з адзінага Брылёвага раману «Птушкі і гнёзды».

Я рагатаў над старонкамі аповесьці «Ніжнія Байдуны», ідэяй якой даўні Брылёў сябар (і суаўтар у стварэньні знакамітай кнігі «Я з вогненнай вёскі») літаратуразнаўца Ўладзімер Калесьнік назваў «неад'емнасьць права нізоў на гістарычнае быцьцё й тварэньне свайго лёсу ў супярэчлівым сьвеце».

Але найбольш маімі ў ягонай творчасьці заўсёды былі лірычна-філязофскія мініятуры.

Кнігу «Жменя сонечных промняў» я доўгі час вазіў з сабой паўсюль.

Яна, дарэчы, апрача наталеньня мудрасьцю, ўратавала мяне ў жалезнаводзкім санаторыі ад бойкі з двума чачэнцамі, якія, на шчасьце, убачылі ў «расейскага акупанта» «нярускую» кнігу, а потым нястомна выбачаліся, называючы мяне сардэчным братам, і прадказвалі чачэнска-расейскую вайну.

Мы ўсе павінны быць удзячныя яму за падтрымку маладзейшых Уладзімера Караткевіча і Міхася Стральцова, таленты якіх станавіліся на крыло пад Брылёвай увагаю й апекай.

Ён быў больш, чым выбітным пісьменьнікам.



Пасьля яго пахаваньня мне прысьнілася, што Янка Брыль выступае на тэлебачаньні. Ад нечаканасьці я прачнуўся.

Такое цяпер сапраўды можна ўбачыць толькі ў сьне.

Адразу разгледзеўшы антынацыянальную сутнасьць цяперашняй улады, Брыль не пайшоў зь ёю ні на якія кампрамісы.

Ён не надрукаваў ні радка ў сэрвільных дзяржаўных выданьнях.

Ён у восемдзесят гадоў адкрыў выдатнай прамовай Кангрэс дэмакратычных сілаў.

Пасьля сыходу Васіля Быкава менавіта Янка Брыль быў, на думку многіх, найвышэйшым маральным аўтарытэтам краіны.

Сьведчаньнем гэтага мог бы стаць і ягоны дзёньнік на пяць тысяч старонак, які, паводле запавету, можна было апублікаваць праз пяць гадоў пасьля сьмерці аўтара, але ён дагэтуль так і застаецца недаступны для чытачоў.

Прыхільнікі таленту народнага пісьменьніка ўжо зачакаліся.

**Янка Брыль**
4.8.1917, Адэса, Украіна —
25.7.2006, Менск.
Пахаваны на могілках у пас. Калодзішчы, Менскі раён.

Служачы ў савецкай арміі, афіцэр-беларус Яўген Лугін узяўся складаць праект канстытуцыі свабоднай краіны.

За гэта — бо падзяліўся запаветным зь сябрамі — і мусіў разьвітацца з вайсковай формай і пасьпяховай кар'ерай.

Аднак гонар афіцэра былы падпалкоўнік інжынэрна-сапэрных войскаў захаваў — гэтаксама, як і веру ў эўрапейскую прышласьць роднай краіны.

Спадар Яўген быў з тых, хто выпраменьвае перакананасьць у сваёй праўдзе.

# Яўген Лугін



Акурат такім я запамятаў яго на Ўстаноўчым зьезьдзе БНФ у Вільні, на сьвяткаваньнях Дня Волі й Чарнобыльскіх шляхах, на Дзядах ды іншых акцыях дэмакратычнае апазыцыі, пасьля якіх ён ня раз трапляў за краты.

Ён стаў адным з найактыўнейшых сяброў Згуртаваньня беларускіх вайскоўцаў, дзе адстойваў ідэю стварэньня прафэсійнае арміі й бязьядравасьці і нэўтральнасьці Беларусі.

Лугін любіў нашую зямлю і ў першасным значэньні гэтага слова.

Пераадолеўшы дзясяткі бюракратычных бар'ераў, Яўген здолеў стварыць на бацькоўскай Глушчыне адну зь першых у краіне прыватных фэрмаў.

У Беларусі яго ведалі як заснавальніка й кіраўніка Сялянскай партыі, што мела на мэце абарону эканамічных інтарэсаў і палітычных правоў вяскоўцаў. Адрозна ад некаторых паплечнікаў з дэмакратычна-




Плошча Леніна (цяпер Незалежнасьці) у дні жнівеньскага путчу 1991 г.

га лягеру, Лугін імкнуўся не да асабістай улады, а да шырокага аб’яднаньня партыяў і рухаў.

У адным з аўтографаў я напісаў яму, што ён, Лугін, зь ягонымі заўзятасьцю й зычлівасьцю, з талерантнасьцю й непахіснасьцю, з натуральнай багатай моваю, ёсьць для мяне ўвасабленьнем беларускага нацыянальнага характару.

Гэта выявілася й у яго жаданьні быць пахаваным у роднай глускай зямлі.

**Яўген Лугін**
23.2.1935, в. Барбарова, Глускі раён —
16.10.2006, Менск.
Пахаваны ў в. Барбарова.

Увесну 1983-га мы зь сябрам Вінцэсем Мудровым ехалі на пахаваньне Ларысы Геніюш. У вагоне дызэлю з Баранавічаў на Ваўкавыск, відавочна зрэагаваўшы на беларускую мову, да нас пачаў прыглядацца высокі станісты мужчына. Мы насьцярожыліся й замоўклі. Але ў Зэльве падазроны пасажыр выйшаў сьледам, і мы, убачыўшы ягоную выпраўку, ужо амаль не сумняваліся, з кім маем справу.

Як жа прыемна было памыліцца, калі даведаліся, што наш нежаданы спадарожнік — сулягернік спадарыні Ларысы, якому яе вершы дапамаглі вытрымаць тыя нечалавечыя ўмовы. Іх, вершы, перапісаныя

# Мікола Канаш

драбнюткімі радкамі на папяроснай паперы, перадавалі з жаночай зоны ў мужчынскую, выкарыстоўваючы самыя розныя вынаходкі. Адной з найбольш надзейных схованак быў кавалак вугалю з сакрэтам.

Свае 25 гадоў Мікола Канаш мусіў адбываць за тое, што вучыўся пры немцах у Пастаўскай настаўніцкай сэмінарыі й уступіў там у Саюз беларускай моладзі. Яго арыштавалі падчас службы ў войску: выпісалі камандзіроўку й пазнаёмілі зь яшчэ адным «камандзіраваным». Мікола ўсё зразумеў, калі пайшоў у цягніку ў прыбіральню, а той, другі, адразу рвануўся за ім.

Канцлягер у Інце толькі загартаваў яго беларускі патрыятызм. Аднойчы, ужо праз шмат гадоў пасьля вызваленьня, Канашу за «выдатную працу» ў шахтах прапанавалі ключы ад кватэры й пуцёўку ў Карлавы Вары. Але трэба было выканаць адну «фармальнасьць»: пакаяцца ў мясцовай газэце за грахі маладосьці. Новай кватэры, як і чэскага курорту, Мікола Імполевіч так і не пабачыў.

Там, у Комі АССР, адкуль і на «волі» не дазвалялі вярнуцца на Бацькаўшчыну, ён сустрэў сваё шчасьце — украінку Соф'ю, таксама асуджаную на 25 гадоў



за нацыяналізм, у прыватнасьці за тое, што падняла зь зямлі ліст, кінуты на дол адным з палонных байцоў Украінскай паўстанцкай арміі, калёну якіх гналі па вуліцы. Міколу і Соф'ю таемна павянчаў украінскі вуніяцкі сьвятар, былы зьняволены.

Усё жыцьцё яны, не дамаўляючыся, гаварылі ў сям'і кожны на сваёй роднай мове.

Я пераканаўся ў гэтым, гасьцюючы ў Канашаў у іхняй каапэратыўнай кватэрцы ў Жлобіне, куды ім удалося пераехаць з Поўначы адно ў 1970-я. Жытло месьцілася на першым паверсе шматпавярховіку, і, калі на стале скончыліся салёныя гуркі, гаспадар зьлёгку пасунуў ходнічак, падчапіў шахтарскім мезенцам ўштукаванае ў масьнічыну непрыкметнае колца, і маім вачам адкрыўся ўваход у глыбачэзнае сутарэньне, дзе можна было б схаваць цэлы ўзвод.

У дзевяностыя гады мінулага стагодзьдзя дзядзька Мікола не ўступаў ні ў якія арганізацыі, але ў Жлобіне сваім лічылі яго і тэбээмаўцы, і фронтаўцы. Для моладзі ён напраўду быў жывой легендай.

**Мікола Канаш**
15.11.1926, в. Азярава, цяпер Браслаўскі раён —
29.10.2006, Жлобін.
Пахаваны ў Жлобіне.

Наагул я даволі скептычна стаўлюся да астролягаў і ўсякіх прадказаньняў. Але ёсьць сярод зьвездароў, як называлі адмыслоўцаў гэтае дакладнае навукі продкі, асоба, што выклікае ў мяне адно ўдзячныя пачуцьці. Гаворка ідзе пра Васіля Нямчына, які, жывучы шэсьцьсот гадоў таму, паабяцаў нашаму зь ім роднаму Полацку ў XXI стагодзьдзі зноў зрабіцца сталічным горадам.

Я ведаю прынамсі яшчэ аднаго чалавека, якому гэтае прароцтва надзвычай падабалася. Але, нават калі б яго, прароцтва, і не было, Мікалай Ільніцкі, безумоўна, зрабіў бы для Полацку ня менш.

## Мікалай Ільніцкі

Можна любіць нашу першую сталіцу па-рознаму. Зьбіраць пра яе паштоўкі. Прывозіць туды сяброў на экскурсіі. Здымаць пра калыску беларускай гісторыі фільмы і пісаць кнігі. Любоў Мікалая Ільніцкага была ці ня самая складаная ў ажыцьцяўленьні.

Пятнаццаць гадоў ён узначальваў Полацкі нацыянальны гістарычна-культурны запаведнік. Колькі за гэты час яму давялося пераадолець бюракратычных рагатак, колькіх чыноўнікаў рознага рангу пераканаць, колькі людзей зрабіць сваімі аднадумцамі!..



Я з вусьцішшу думаю, што здарылася б, каб у 1991-м на гэтую пасаду прыйшоў ня ён. Ці пабагацеў бы горад на помнікі Эўфрасіньні і Сімяону Полацкаму? Ці атрымала б краіна створаную ў адрэстаўраваных мурах Полацкай акадэміі мастацкую галерэю? Ці мелі б мы міжнародны фэстываль арганнай музыкі «Званы Сафіі»? Верагодна, нешта з гэтага толькі пачатага пераліку і зьявілася б без Ільніцкага, але ўсяго разам — упэўнены — не было б.

Шмат у чым дзякуючы менавіта яму прадбачаньне Нямчына пачало зьдзяйсьняцца: наш зь ім родны горад зь яго запаведнікам, Сафійскім саборам, Спаса-Эўфрасіньнеўскім манастыром, больш чым дзясяткам музэяў, зь яго ўнівэрсытэтам, становіцца адным з культурных і духоўных цэнтраў краіны.

Мікалай з паўслова разумеў нас з фотамастаком Сяргеем Плыткевічам у часе працы над кнігаю «Ад Полацку пачаўся сьвет». На яе прэзэнтацыі мы бачыліся апошні раз — у той жывой і чуйнай залі Музэю-бібліятэкі Сімяона Полацкага, дзе ўжо ў час пісаных і няпісаных забаронаў выступалі рэдактары «Нашае Нівы» і часопісу «ARCHE», сьпявалі Зьміцер Бартосік і Віктар Шалкевіч.

Для яго сьвет таксама пачынаўся ад Полацку. Мікалай не пасьпеў пасумовіцца з бронзавым Усяславам Чарадзеем. Не прайшоў праспэктам Скарыны (былым Маркса). Ня ўбачыў зьдзяйсьненьня сваіх плянаў пра музэі гісторыі гораду й археалёгіі. Найлепшай памяцьцю пра Ільніцкага будзе працяг яго справы.

**Мікалай Ільніцкі**
11.10.1948*, в. Баранава, Полацкі раён —
6.11.2006, Полацак.
Пахаваны на полацкіх Лясных могілках.

---

* Дата нараджэньня падаецца паводле зьвестак ад сваякоў і не супадае з афіцыйнай.

«Прысягаю перад Бацькаўшчынай і беларускім народам, што заўсёды буду верны ідэалам свабоды і незалежнасьці Беларусі. Калі ж па слабасьці сваёй або па злым намеры я парушу гэтую прысягу і выдам тайну сяброў, хай пакарае мяне Бог ганебнай сьмерцю здрадніка Радзімы...»

Гэта словы прысягі, якую давалі ўдзельнікі Саюзу беларускіх патрыётаў — нелегальнай паваеннай арганізацыі пастаўскай і глыбоцкай моладзі, якая марыла пра вольную Беларусь. Тэкст прысягі склаў адзін з найактыўнейшых сяброў СБП Алесь Юршэвіч.

Патрыётам ён стаў вельмі рана.

## Алесь Юршэвіч



Дырэктарам беларускай школы, адчыненай у гады нямецкай акупацыі ў мястэчку Язна на Мёршчыне, быў Ігнат Мятла — брат вядомага дзеяча нашага нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі, дэпутата Польскага сойму Пятра Мятлы. Вучні грунтоўна знаёміліся з гісторыяй і роднай літаратурай. На ўроках ім расказвалі пра рэпрэсіі 1930-х у савецкай Беларусі, пра расстраляных і забароненых пісьменьнікаў і навукоўцаў.

У зусім іншай сытуацыі Алесь аказаўся пасьля вайны. У глыбоцкай школе дзесяціклясьніку Юршэвічу растлумачылі, што «в СССР государственный язык — русский, а бедная крестьянская «мова» за ненадобностью скоро отомрет».

Асабліва абурала Алеся зь сябрамі тое, што іхнія нацыянальныя пачуцьці зноў і зноў абражаў падобнымі «прароцтвамі» ня хто-небудзь, а выкладчык гісторыі,

ад якога яны чакалі ўрокаў, дзе выхоўваліся б годнасьць і гонар за сваю зямлю, яе культуру й мову.

У сяброўскім коле высьпеў ня проста пратэст, а ідэя стварэньня падпольнай беларускай арганізацыі. Юршэвіч прапанаваў узяць за ўзор таварыства філяматаў, што дзейнічала на пачатку XIX стагодзьдзя ў Віленскім унівэрсытэце. Гэта надзвычай красамоўны факт, які сьведчыць, што ў неперапынным змаганьні за незалежнасьць, якое трывае ад моманту захопу беларускіх земляў царскай імпэрыяй, новыя пакаленьні патрыётаў заўсёды адчувалі духоўную лучнасьць з папярэднікамі.

Разам з Васілём Мядзельцам і Антосем Фурсам, зь якімі вучыўся за немцамі ў Язьненскай школе, Алесь Юршэвіч напісаў праграму і статут Саюзу беларускіх патрыётаў, арганізаваў 25 сакавіка 1946-га ўрачыстую цырымонію прысягі сяброў СБП. Іхняя дзейнасьць, скіраваная на супраціў русіфікацыі ды прапаганду незалежніцкіх ідэяў, трывала паўтара году...

Паводле пастановы ваеннага трыбуналу, які судзіў патрыётаў, тагачаснага студэнта БДУ Юршэвіча чакаў расстрэл. Прысуд зьмянілі на 25-гадовае зьняволеньне і пяць гадоў паразы ў правах.

Спадар Алесь зноў удыхнуў п’янкога вольнага паветра ў 1956-м, у часе хрушчоўскай адлігі.

Вярнуўшыся ў Беларусь, ён жыў у Мёрах і, разумеючы, што сыстэма не дазволіць зрабіць ніякай прафэсійнай кар’еры, працаваў будаўніком.

З нашых размоваў зь Юршэвічам я не магу прыгадаць, каб ён прасіў нечага для сябе. Ягоным вечным клопатам была дапамога былым сябрам СБП. У іх гонар ён пасадзіў у Курапатах каштанавую алею.

**Алесь Юршэвіч**
1.1.1928, в. Курылавічы, цяпер Шаркоўшчынскі раён — 26.3.2007, Мёры.
Пахаваны ў Мёрах.

Выдатныя здольнасьці й нечуваная працавітасьць, зьсябраваныя з апантанасьцю новымі інфармацыйнымі тэхналёгіямі, прывялі яго спачатку на студэнцкую стажыроўку ў ЗША, а потым у Амэрыканскі ўнівэрсытэт у баўгарскім Благоеўградзе. Там Каткоўскі вывучаў кампутарнае праграмаваньне й журналістыку.

У сяброўскіх размовах пра Каткоўскага і ў ягоных афіцыйных характарыстыках нельга абысьціся бяз слова «першы». Ён стаў адным зь першых айчынных інтэрнаўтаў і адным зь першых беларускамоўных блогераў. Першым узяўся за беларусізацыю пошукавіку Google. Яго называлі першым інтэрнэт-амбасадарам Беларусі. І сапраўды ў розных кутках сьвету я сустракаў людзей, якія першае ўяўленьне пра нашую краіну атрымалі дзякуючы Каткоўскаму, вядомаму ў сеціве як rydel23 і br23.

## Уладзімер Каткоўскі



Уладзя быў самым маладым супрацоўнікам Беларускай службы Радыё Свабода і першым у яе гісторыі вэб-майстрам, якога ўзялі на працу выключна ў такой ролі.

Дырэктар беларускай Свабоды Аляксандар Лукашук кажа, што Ўладзевы праекты часта апярэджвалі магчымасьці тэхнічнага аддзелу, і такім чынам Каткоўскі прымушаў усіх рухацца наперад. Вынікам сталася бясспрэчнае лідэрства сайту нашага радыё сярод двух дзясяткаў рэдакцыяў. У сакавіку 2006 году, падчас пратэстаў на менскай плошчы Каліноўскага, сайт Свабоды наведала чвэрць мільёну чалавек.

Уладзевым клопатам былі беларуская Вікіпэдыя,

сайты «Мартыралёгу Беларусі» і Pravapis.org. Ён радаваў сваімі перакладамі, сярод якіх — фрагмэнты «Кнігі сьмеху й забыцьця» Мілана Кундэры.

Мне выпала двойчы на пару з Уладзем удзельнічаць у радыйных анлайнавых канфэрэнцыях. У памяці і сёньня жывое аблічча прыгожага юнака з набрынялымі сумотаю вачыма інтравэрта, якія зьнячэўку маглі зазьзяць адкрытасьцю й сонечнай прыязнасьцю. Я сказаў бы, што ён валодаў кампутарам ня проста дасканала, ён абыходзіўся зь ім элегантна і віртуёзна. Здавалася, я яшчэ фармулюю адказ, а ён ужо сканчваў яго набор.

Партал TUT.BY прысудзіў Уладзімеру Каткоўскаму Гран-пры конкурсу беларускіх кантэнт-праектаў. Гэта быў заслужаны падарунак да 30-годзьдзя «патрыярха» Белнэту.

Уладзя не пасьпеў атрымаць узнагароду. За тры дні да круглай даты ён трапіў на праскай вуліцы ў катастрофу й апынуўся ў коме.

Ягонае існаваньне доўжылася яшчэ амаль цэлы год. Хочацца верыць, што ўвесь гэты час Уладзя быў *тут*.

Шмат распавяла мне старонка зь яго нататніку з контравэрсійнымі парамі словаў: *Эўразія — Эўропа / Рускае праваслаўе — Свабода рэлігіяў / Манаполія — Канкурэнцыя / Пародыя — Аўтэнтыка / Абыякавасьць — Талерантнасьць / Самагон — Крамбамбуля / Дэпрэсія — Аптымізм / Страх — Мужнасьць / Краты — Воля...*

Калі выходжу ў сеціва, у мяне часта ўзьнікае адчуваньне сустрэчы з Уладзем.

**Уладзімер Каткоўскі**
19.6.1976, Менск — 25.5.2007, Прага.
Пахаваны на менскіх Пятроўшчынскіх могілках.

Задаў сабе пытаньне, каго зь літаратурных пэрсанажаў нагадвае мне Яўген, і адказ выплыў адразу — ралянаўскага Кала Бруньёна. На гэтае параўнаньне спрацавала нават прысьвячэньне раману сьвятому Марціну. Яўген, праўда, анічым не нагадваў сьвятога. Хіба што фантастычнай стваральнай энэргіяй.

Нам вельмі пашанцавала, што сын літоўскага камуніста, колішняга рэвалюцыйнага камісара Жамойці, пагойсаўшы па савецкай імпэрыі ад Масквы да Цюмені, прыбіўся ўрэшце да беларускага берагу, пачаў працаваць у журналістыцы і ў 1980-я стаў адным зь вядучых айчынных публіцыстаў.

## Яўген Будзінас



Новыя часы дазволілі Будзільніку, як яго клікалі блізкія сябры, «зазьвінець» на поўную сілу.

«*Будзі нас, Будзінас!*» — напісаў яму тады ў вершаванцы на дзень нараджэньня Рыгор Барадулін.

Не пакідаючы літаратуры і публіцыстыкі (шмат хто ўзгадае, да прыкладу, раман «Дураки»), ён стаў старшынём праўленьня фірмы-выдавецтва «Паліфакт», якое зьдзейсьніла запатрабаваны на ўсёй постсавецкай прасторы праект «Итоги века» — выпусьціла сэрыю важкіх буйнафарматных тамоў зь вершамі, казкамі, дэтэктывамі, самвыдатам XX стагодзьдзя...

Улюбёным ягоным дзіцём стаў музэйны комплекс старадаўніх народных рамёстваў і тэхналёгіяў «Дудуткі» каля вёскі Дудзічы Пухавіцкага раёну. Яны, паводле непахіснага перакананьня Будзінаса, былі якраз тымі Дудуткамі з «Слова пра паход Ігаравы»,

дзе ў пракавецьці адзначыўся полацкі князь Усяслаў Чарадзей.

У 1994-м у Дудутках задыхаў кавальскі горан, закруціліся ганчарныя колы, азваліся ткацкія варштаты, пацягнула дымком ад бровару. На ладжаных Яўгенам шматлюдных сьвятах зь іхняй непаўторнай куражнай атмасфэраю вакол славутага тамтэйшага самагоннага агрэгату ўперамешку раіліся, нібы пчолы, дыпляматы й літаратары, журналісты й музыкі.

Уяўлялася, што Будзінаса любілі ўсе. Аднак знайшліся й тыя, каму Яўген, ягоныя таленты, вальнадумства, посьпех, яго афарызм, што «палітыка — гэта задворкі розуму», сталі ўсё больш замінаць.

Надышоў дзень, калі ён ня змог прыехаць у Дудуткі як гаспадар.

На самым схіле жыцьця, безнадзейна хворы на рак, Будзінас напісаў і пасьпеў выдаць кнігу пра каханьне «Давайте, девочки». У пакінутым мне аўтографе ён у сваім стылі выказваў веру ў тое, што мы іх *усіх* (меліся на ўвазе зусім не дзяўчаткі) перапішам, пераплюнем, перакрычым, пера... Далей ішла экспрэсіўная нецэнзурная лексыка.

Гэтыя *ўсе* ў апошні момант — і арэнда была аплочаная — подла сарвалі прэзэнтацыю «Девочек» у менскім Доме літаратара, які ўжо належаў не літаратарам, а тым, каму чытаць кнігі «нету ўрэмені». Але Яўген усё адно прэзэнтаваў кнігу — у Дудутках, у садзе каля ягонага загараднага дому.

Наступны раз мы сустрэліся там, калі ў садзе зьявіўся надмагільны камень.

**Яўген Будзінас**
18.2.1944, Масква —
4.10.2007, Менск.
Пахаваны ў Дудутках, Пухавіцкі раён.

Калі ў 1990-я мне даводзілася прыяжджаць на творчыя сустрэчы ў Гомель, у залі нязьменна прысутнічаў паважны немалады чалавек з маладымі вачыма — Цімох Якімавіч Вострыкаў. Ягоныя пытаньні сьведчылі: з айчыннай гісторыяй ён знаёмы ня горш за ўнівэрсытэцкага выкладчыка. Тады я ня ведаў: у мардоўскіх лягерных бараках ён з памяці напісаў працу, дзе вызначаў месца знаходжаньня летапіснай Літвы і даводзіў правы беларусаў на спадчыну Вялікага Княства Літоўскага.

Цімохаў бацька, перакананы вораг калгаснага ладу, загінуў у ГУЛАГу. Вострыкаў-малодшы з раньняга юнацтва ненавідзеў камуністаў, але перакананым беларускім патрыётам зрабіўся ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне. Цімох стаў сябрам славутай беларускай «Дванаццаткі», пра якую распавёў у аднайменнай кнізе ягоны паплечнік, яшчэ адзін гімназіст-купалавец Янка Запруднік.

## Цімох Вострыкаў



У Вялікабрытаніі хлопцы зараблялі працаю на вугальных шахтах, выдавалі часопіс «Наперад», падпісалі сакрэтную дамову, што становяцца на шлях змаганьня за беларускую незалежнасьць і, калі спатрэбіцца, возьмуць у рукі зброю. Праз два гады ў абліччы беларускага дзеяча Барыса Рагулі яны, можна сказаць, сустрэлі свой лёс. Бальшыня зрабілася студэнтамі Лювэнскага ўнівэрсытэту.

Але Цімох правучыўся там няпоўныя два гады: ягоная натура прагла іншае дзейнасьці. У жніўні

1952-га ён як прадстаўнік Рады БНР разам з трыма таварышамі дэсантаваўся ў Налібацкай пушчы. Групу (у выніку здрады аднаго парашутыста) гэбісты выкрылі цягам лічаных дзён.

Тры гады Цімоха спрабавалі выкарыстаць у складанай радыёгульні з амэрыканцамі, але дэсантнік вёў уласную гульню. Урэшце расчараваныя байцы нябачнага фронту аддалі Вострыкава пад суд.

Тэрмін (25 гадоў) ён адбыў амаль цалкам. У кожным з чатырох лягераў, дзе сядзеў, яму ўдавалася ствараць беларускую суполку. За моцнай гарбаткай займаліся мовай, гісторыяй, спрабавалі сабраць беларускія бібліятэчкі. Тут прадстаўнік Рады БНР меў добрых памагатых. Адначасова зь ім за калючым дротам трымалі «злоснага нацыяналіста» філёляга Браніслава Ржэўскага, беларускага пастара Эрнста Сабілу, Міхася і Лявона Белых — пляменьнікаў Якуба Коласа, асуджаных «за антысавецкую прапаганду» (пашыралі верш у абарону беларускай мовы).

З надыходам незалежнасьці Цімох, які ўсё ранейшае жыцьцё нібыта хадзіў па мінным полі, далучыўся да гомельскай беларускай грамады, выступаў перад моладзьдзю, напісаў найцікавейшыя ўспаміны. Журналіст Анатоль Гатоўчыц да 100-годзьдзя Беларускай Народнай Рэспублікі выдаў пра яго кнігу «Адысэя капітана БНР».

На надмагільным помніку Вострыкаву, пастаўленым на ўзвышшы над зялёным поплавам, дзе віецца Іпуць, два словы: Змагару і Беларусу.

**Цімох Вострыкаў**
28.8.1922, в. Баршчоўка, цяпер Добрускі раён — 13.11.2007, Гомель.
Пахаваны на Старых могілках у в. Раманавічы, Гомельскі раён.

# Кастусь Акула

Кастусь Акула быў для мяне адным з увасабленьняў беларускай эміграцыі — той, якая, на паўстагодзьдзя адарваная ад Бацькаўшчыны, захоўвала мову, культуру, незалежніцкія ідэі.

Знаёмства з спадаром Кастусём пачалося на пачатку 1980-х, калі да мяне патрапілі ягоная канадыйская кніжка «Ўсякая ўсячына», а неўзабаве і колькі нумароў часопісу «Зважай», што Акула больш за дваццаць гадоў выдаваў у Таронта. Часопіс паведамляў пра тое, аб чым тут прэса яшчэ доўга маўчала: пра жыцьцё дыяспары, пра вайсковыя базы зь ядравай зброяй, якімі была нашпігаваная Беларусь, пра лёс беларускага дысыдэнта Міхала Кукабакі...

У час нацысцкай акупацыі будучы пісьменьнік здаў іспыты ў апошні, восьмы, кляс Віленскай беларускай гімназіі, але скончыць яе не пашчасьціла: падчас паездкі дадому трапіў у Менску ў аблаву. Вучэньне перапынілася трыма месяцамі нямецкай вязьніцы і месяцам канцлягеру.

У чэрвені 1944-га ён паступіў добраахвотнікам у Менскую школу камандзіраў Беларускай Краёвай Абароны, якая афіцыйна так і не пасьпела адчыніцца. Потым былі чыгуначныя эшалёны, пешыя маршы па дарогах Эўропы.

Пры канцы жніўня краёвыя абаронцы арганізавана перайшлі да францускіх партызанаў. Пазьней Кастусь уступіў у 8-ю брытанскую армію, браў удзел у баях з гітлераўцамі на Апэнінскай паўвысьпе, памяткаю пра што засталіся ўзнагароды — ангельскі «Мэдаль за вайну» і «Зорка Італіі».

За акіянам Кастусь стаў першым старшынём Згуртаваньня беларусаў Канады, рэдагаваў газэту «Беларускі эмігрант», супрацоўнічаў з парыскім «Континентом».

У 1962-м быў надрукаваны першы раман Кастуся Акулы «Змагарныя дарогі», які ў 1994-м быў перавыда-



дзены ў Беларусі і некалькі месяцаў займаў найвышэйшыя радкі ў сьпісах айчынных бэстсэлераў, адкуль потым перавандраваў у складзены «Нашай Нівай» пералік 100 найбольш папулярных беларускіх кнігаў XX стагодзьдзя. Пяру Кастуся Акулы належыць цэлая бібліятэка, дзе адметнае месца займае аўтабіяграфічная трылёгія «Гараватка».

Ён шчодра падтрымліваў нашы незалежныя выданьні. Любіў рабіць падарункі, прычым гэта заўсёды былі карысныя й патрэбныя рэчы. Чаравікі зь неймаверна трывалай валовай скуры, прывезеныя мне на пачатку 1990-х, я абуваю й цяпер.

Прыяжджаючы ў Беларусь, ён казаў, што памяняў бы ўсіх канадыйскіх птушак на родных беларускіх сарокаў, якія ў таронцкіх ваколіцах чамусьці не вяліся, а таму здаваліся яму неверагодна экзатычнымі.

У кожным зь лістоў да мяне ён маляваў птушку ў палёце.

Гэта была птушка ягонай душы.

**Кастусь Акула (ад нараджэньня Аляксандар Качан)**
16.11.1925, в. Верацеі, цяпер Докшыцкі раён —
29.1.2008, Таронта, Канада.
Пахаваны на могілках Пайн Гілз у таронцкім прыгарадзе Скарбара.

## Генадзь Кісялёў

Дзьве кнігі асьвятлялі мой шлях у нацыянальны космас — раман «Каласы пад сярпом тваім» Уладзімера Караткевіча і томік гістарычных нарысаў «З думай пра Беларусь» Генадзя Кісялёва. Насупор лекцыям на нашым гістфаку БДУ тыя кнігі сьцьвярджалі крамолу: гісторыю робіць не народ, а — асобы. І калі ў Караткевіча гэта былі літаратурныя пэрсанажы, якія дарасталі да будучых дзеяў, то з старонак Кісялёва да нас прыходзілі рэальныя героі — з імёнамі й адрасамі.

Было вялікай нечаканкаю даведацца, што Генадзь Кісялёў нарадзіўся не ў Беларусі, а ў Падмаскоўі, і што яго бацька-расеец амаль усё жыцьцё праслужыў у «органах». Гэтыя аргумэнты ня раз выкарыстоўвалі рэдактары кніг Кісялёва, каб абараніць аўтара ад абвінавачваньняў у нацыяналізьме. Тое, што ён атрымаў дыплём Маскоўскага гістарычна-архіўнага інстытуту, было аргумэнтам слабейшым, бо гісторыкі з вайсковымі званьнямі ведалі згаданую навучальную ўстанову як «рассаднік вальнадумства».

Паўтара дзесяцігодзьдзя, праведзеныя Кісялёвым пасьля інстытуту на пасадзе супрацоўніка Дзяржаўнага гістарычнага архіву Літвы, сталіся для нашай гісторыі і літаратуразнаўства амаль эпахальнымі. Сама атмасфэра старажытнай сталіцы й яе незьлічоныя архіўныя скарбы, памножаныя на талент і апантанасьць сваёй справаю, зрабілі Генадзя Кісялёва яшчэ да пераезду ў 1971-м у Менск выдатнай постацьцю нацыянальнай навукі й культуры.

Гэта ён нарэшце даў рады: славутыя паэмы «Тарас на Парнасе» й «Энэіда навыварат» цяпер не ананімныя: першую стварыў Канстанцін Вераніцын, а другую — Вікенці Равінскі.

На пачатку 1990-х Кісялёў прынёс да нас у выдавецтва «Мастацкая літаратура» дзьве важкія тэчкі,



на якіх было напісана: «Кастусь Каліноўскі» — яго публікацыі, лісты, дакумэнты паўстаньня, сьведчаньні сучасьнікаў. Я разьвязаў тасёмкі і прачытаў эпіграф: *— Каго любіш? / — Люблю Беларусь. / — То ўзаемна!* (Пароль паўстанцаў 1863 году).

Ужо ў новым стагодзьдзі мне выпала інтэлектуальная раскоша супрацоўнічаць з Кісялёвым у часе падрыхтоўкі першага выданьня «Імёнаў Свабоды». Дзясяткі яго старонак, азораных імёнамі паўстанцаў 1863-га, былі напісаныя з блаславеньня мэтра.

Падпісаць яму «Імёны» я яшчэ пасьпеў... А праз пяць гадоў выпаў гонар пісаць прадмову да ўжо ня першай пасьмяротнай кнігі Кісялёва «Смак Беларушчыны».

Цяпер ён сам навекі далучыўся да сваіх сейбітаў вечнага. Да тых, хто стаяў ля вытокаў нацыянальнай ідэі, хто вучыў беларусаў жыць у нацыянальных каардынатах. Хто ведаў адказ на пытаньне, якое ня страціла вострай надзённасьці: *«Каго любіш?»*

**Генадзь Кісялёў**
19.3.1931, Каломна, Расея — 14.11.2008, Менск.
Пахаваны на менскіх Кальварыйскіх могілках.

Мой стары пульхны нататнік з тэлефонамі ды адрасамі пачынаецца зь вершу незабыўнай Ніны Мацяш:

*Намарозіць радня па крыві...*
*Адагрэе радня па долі.*

У дзяцінстве яна была, на першы погляд, звычайнай дзяўчынкай. Ну, можа, крыху больш засяроджанай, чым раўналеткі. Заглыбленай у сябе. Душа ўжо прадчувала хваробу, што таілася ў генах.

## Ніна Мацяш

Сямнаццацігадовая вясковая дзяўчына перажыла сапраўднае шчасьце, даведаўшыся, што залічаная на французскі факультэт Менскага інстытуту замежных моваў. Але зусім хутка, яшчэ на першым курсе, абрынулася бяда. У інстытут Ніна вярнулася толькі праз чатыры гады, за шэсьць сэмэстраў здаўшы экзамэны экстэрнам. Атрымаўшы дыплём, бліскуча ведала французскую й нямецкую. Ангельскую й польскую вывучыла самастойна.

Невылечная хвароба на ўсё астатняе жыцьцё прыкула Ніну да інваліднага вазка. Але яна ўспрыняла гэта не як свой крыж, а як сваю адзначанасьць, і здолела зьдзейсьніцца ў некалькіх іпастасях.

Яна ўзьнялася ў шэраг нашых выдатных паэтак, атрымаўшы высокія літаратурныя ўзнагароды і галоўную зь іх — чытацкую любоў. Зрабілася прызнанай перакладчыцай, пераўвасобіўшы па-беларуску паэзію нобэлеўскай ляўрэаткі Віславы Шымборскай, «Маленькага прынца» Антуана дэ Сэнт-Экзюпэры, паэтаў французскай «Пляяды»...

Яна зь дзяцінства марыла шмат падарожнічаць і ўрэчаісьніла мроі, пабываўшы ў Варшаве, Бэрліне, Парыжы...

Ніна Мацяш стала бясспрэчным маральным аўта-

рытэтам краіны. Пры ўсёй розьніцы лёсаў я паставіў бы яе ў адзін шэраг з Ларысай Геніюш. Асабіста ведаю дзясяткі людзей, якія прыйшлі да Беларусі дзякуючы Ніне. А іх былі сотні, а мо і тысячы.

Ці трэба казаць, як Ніна Мацяш ставілася да цяперашняй улады? Афіцыйныя сымбалі, зацьверджаныя пасьля рэфэрэндуму 1995 году, Ніна публічна называла «сымболікай часовага ўраду». Калі недзе «наверсе» яе выкрасьлілі з кандыдатаў на Дзяржаўную прэмію, я адразу падумаў, што Ніна ўсё адно адмовілася б прыняць узнагароду ад рэжыму, які пагарджае нацыянальнымі каштоўнасьцямі, і найперш самай сьвятой — моваю.



Яна ўжо не пакарміла мяне сваёй невыказна смачнай гарбузовай кашай, як абяцала падчас астатняй сустрэчы.

Калі скончылася дзяцінства, я рэдка плакаў, але, пачуўшы горкую навіну пра Нінін сыход, ня здолеў стрымаць сьлёз.

Наша мудрая пісьменьніца і крытык Альбіна Сямёнава ў тыя дні назвала Мацяш чалавекам эўрапейскага кшталту, асобаю зь ліку абраньнікаў Божых, якія жывуць у рытме гэтага абраньніцтва. Сапраўды, за два дні да адыходу Ніна яшчэ выступала перад чытачамі.

У беларускім сусьвеце зьвініць яе радок-запавет: «Аддавайся жыцьцю сьветланосна!»

**Ніна Мацяш**
20.9.1943, в. Нівы, цяпер Бярозаўскі раён —
19.12.2008, Белаазёрск.
Пахаваная на новых Ніўскіх могілках.

## Валянцін Тарас

У лютым 1943-га, у трынаццаць гадоў, ён пайшоў у партызанскі лес і, як жартаваў, магчыма, адтуль і ня выйшаў.

І тады, калі працаваў у часопісе «Нёман», адкуль мусіў у 1968 годзе звольніцца «па ўласным жаданьні», а насамрэч па жаданьні КГБ, які ў той час займаўся справаю Валянцінавай прыяцелькі пісьменьніцы Лідзіі Вакулоўскай, на кватэры якой зьбіраліся дысыдэнты-інтэлектуалы. І тады, калі Тараса доўгімі гадамі не друкавалі. І тады, калі ў брэжнеўскі застой ён пераклаў разам з Карласам Шэрманам раман Габрыеля Гарсія Маркеса «Восень патрыярха». І ўжо ў новыя часы, калі спадар Валянцін працаваў у Беларускім Хэльсынскім камітэце і ў кіраўніцтве Беларускага Фонду Сораса, калі стаў адным з стваральнікаў Хартыі-1997.

Да апошніх дзён Тарас заставаўся намесьнікам старшыні Беларускага ПЭН-цэнтру і — зь бясцэнным жыцьцёвым досьведам і мудрасьцю — меў там велізарны ўплыў. Памятаю, купка досыць вядомых айчынных пісьменьнікаў, паквапіўшыся на вялікі ганарар і, вядома, не афішуючы сваёй натхнёнай дзейнасьці, «пераклала» на замову амбасады Туркмэніі кнігу тамтэйшага дыктатара Ніязава «Рухнама», якую ледзь не на памяць мусіў ведаць кожны яго падданы. Сярод «перакладчыкаў з туркмэнскай» аказаўся й адзін зь сяброў ПЭНу. На паседжаньні Рады прагучала прапанова выключыць калегу за маральную непераборлівасьць. Валянцін Яфімавіч ня менш рашуча выступіў супраць. «У гэтага чалавека, — сказаў ён, — ёсьць сумленьне». Вось яно, маўляў, няхай і судзіць «перакладчыка».

У Тараса засталася багатая літаратурная спадчына. Для мяне галоўная ягоная кніга — мэмуары «На высьпе ўспамінаў» — сумленныя і дасьціпныя, без уздыманьня самога сябе на катурны, сагрэтыя



гумарам і падсьвечаныя філязафічнасьцю.

Менавіта Тарасу Васіль Быкаў даверыў перакласьці на расейскую мову сваю «Доўгую дарогу дадому».

Аднадумцам і паплечнікам Валянціна Тараса быў сын Віталь — журналіст і публіцыст, ляўрэат прэміі імя Алеся Адамовіча, супрацоўнік Радыё Свабода й газэты «Наша Ніва», на чыіх старонках ён, ужо безнадзейна хворы, амаль да астатняга дня друкаваў бліскучыя артыкулы.

Адразу пасьля Віталевага сыходу адбыўся дзікі выпадак, ад якога скалануліся ўсе яго родныя і блізкія. Склаўшы паперу пра тое, што прычынаю сьмерці сталася анкалягічнае захворваньне, супрацоўнік міліцыі, нягледзячы на пратэсты сваякоў, зьняў у нябожчыка адбіткі пальцаў.

Сын перажыў бацьку ўсяго на два гады.

Тарас-старэйшы ганарыўся Віталёвай кнігай эсэ «Звыклае зло», дзе, як зазначыў аўтар прадмовы Сяргей Дубавец, «ты кожны раз пераконваесься, што дабро і зло, белае і чорнае, сьвятло і цемра ў гэтым сьвеце хоць і зьмянілі свой выгляд, але ў сутнасьці засталіся ранейшымі».

Мяне не пакідае надзея, што літаратурную дынастыю Тарасаў працягне сын Віталя Антось.

**Валянцін Тарас**
9.2.1930, Менск — 13.2.2009, Менск.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

Калі б мне выпала магчымасьць зьдзейсьніць падарожжа ў часы Гая Юліюса Цэзара або Нэрона, якому так падабаўся дым Айчыны, і я меў бы права выбраць сабе перакладчыка, то ні імгненьня не сумняваўся б — Уладзімер Шатон.

У нашу першую сустрэчу ён, яўна пераацаніўшы валоданьне лацінаю колішняга выпускніка гістарычнага факультэту БДУ, зьвярнуўся да мяне на мове Гарацыя. Наш трэці, невідочны, суразмоўнік, безумоўна, таксама пашкадаваў невука. Трэцім быў Мікола Гусоўскі.

# Уладзімер Шатон



Уладзімер Шатон тады якраз падрыхтаваў да друку сваё беларускае прачытаньне знакамітай «Песьні пра зубра», наступнае пасьля зробленых Натальляй Арсеньневай і Язэпам Семяжонам і, дарэчы, адзінае на сёньняшні дзень, якое захоўвае вершаваны памер арыгіналу — элегічны двуверш. Часам я параўноўваю гэтыя пераклады й уяўляю Шатона ў складзе той самай дыпляматычнай місіі Вялікага Княства Літоўскага ў Рым, на чале якой стаяў мэцэнат Гусоўскага біскуп Эразм Вітэліюс.

Спадар Уладзімер, якога ягоны калега і блізкі знаёмец Пятро Садоўскі назваў чалавекам «абсалютна не савецкім», ведаў дваццаць моваў, але ягонай любоўю заставалася самастойна й бліскуча вывучаная лаціна.

На ёй ён размаўляў і судзіў тэнісныя сустрэчы сяброў. Зь яе пераклаў на беларускую «Пахвалу дурасьці» Эразма Ратэрдамскага і трактат «Аб грамадзянскай, або палітычнай свабодзе» нашага Андрэя Воляна, на ёй загаварылі вялікія фрагмэнты «Новай

зямлі» Якуба Коласа, надрукаваныя потым у замежных лацінамоўных выданьнях.

Шатона бязьмежна любілі ягоныя студэнты Лінгвістычнага ўнівэрсытэту й навучэнцы Беларускага гуманітарнага ліцэю.

Любілі ня толькі за адмысловы талент лінгвіста і выкладчыка. За энцыкляпэдычную эрудыцыю й стрыманую іранічнасьць, што хавалася ў прымружаных вачах. За тое, што быў вялікім жыцьцялюбам і ня менш вялікім дзіваком. І на дзявятым дзясятку гадоў ён нечым нагадваў бяскрыўднае бескарысьлівае дзіця, якое ўадначас і зьдзіўленае гэтым сьветам, і разумее яго лепей за дарослых.

Ён да апошніх гадоў быў у выдатнай інтэлектуальнай форме. Вывучаў новыя мовы і мог нечакана, але бязь цені снабізму запытацца ў кампаніі: «Тут хтонебудзь гаворыць па-кітайску? А па-японску?» У гэты момант душа Акутагавы магла адгукнуцца падзякаю за беларускую нізку ягоных навэляў.

Сябры сьцьвярджаюць, што, жывучы паводле нейкіх сваіх унутраных законаў, ён нязьменна быў па-за ўсялякімі інтрыгамі, ідэалёгіямі, рухамі й партыямі. Я не зусім згодны.

Шатон глыбока перажываў, калі ўлада распачала небясьпечныя гульні ў «союзное государство». Яму падабалася выслоўе пра тое, што мова ахоўвае межы дзяржавы мацней за армію.

Ірляндцы кажуць, што ў іхняй краіне нават атэіст абавязкова павінен вырашыць, хто ён: каталік або пратэстант.

Уладзімер Шатон заўсёды ведаў, на чыім ён баку.

**Уладзімер Шатон**
26.4.1929, Рэчыца — 4.8.2009, Менск.
Пахаваны на могілках у пас. Калодзішчы, Менскі раён.

На пачатку XXI стагодзьдзя Кастусь Тарасаў атрымаў унікальны пашпарт. Старонку, дзе ставілася адзнака аб прапісцы, аздабляла адно назва краіны. Больш нічога: ні гораду, ні вуліцы, ні нумароў дому й кватэры. Проста — Рэспубліка Беларусь. Прычыну такой анамаліі можна, вядома, лічыць чыста бюракратычнай. Але мне бачыцца тут рука вышэйшых сілаў. Тарасаў сапраўды быў (і застаецца) прапісаны не ў канкрэтным месцы і годзе, а ўва ўсёй Беларусі. Дакладней — у беларускай гісторыі.

Калісьці мы, яшчэ не знаёмыя, павінны былі спаткацца ў маім Полацку. Каб не разьмінуцца,

## Кастусь Тарасаў



прызначылі сустрэчу каля помніку Скарыну. Спадара Кастуся я пазнаў адразу. Ён выглядаў абсалютна нетутэйшым. Падазраю, што такім самым Тарасаў мог падацца і бронзаваму першадрукару.

Вецер гісторыі гартаў каляндар 1984-га. Якраз у той год Тарасаў аднае раніцы прачнуўся знакамітым. Ягоная «Памяць пра легенды» выйшла 30 тысячамі асобнікаў, імкліва зрабіўшыся культавым выданьнем. Дасьведчаныя людзі казалі, нібыта кніга сабрала замоваў на 300 000 асобнікаў, ды таварышы з ЦК цыкнулі на выдаўцоў, і адзін нуль тыя паслухмяна «згубілі». Аднак і скарочаны ў дзесяць разоў наклад узводзіў пісьменьніка ў ранг нацыянальнага асьветніка.

«Памяць пра легенды» ў маім кнігазборы ўладкавалася поруч зь «Зямлёй пад белымі крыламі» Караткевіча.

Караткевіч і Тарасаў не канкуруюць, а — дзякуючы розным ракурсам і розным мэтадам мастацкага дасьледаваньня гісторыі — цудоўна дапаўняюць адзін аднаго. Першы — вандроўнік, які глядзіць на мінулае, праплываючы над ім на мангальф'еры. Другі — падарожнік, які ступае па зямлі й можа ахапіць вокам меншы абсяг, затое здольны зблізку пачуць і распазнаць патаемныя шолахі, рухі, прыкметы.

Ён ведаў, што гісторыя — ня толькі перамогі й узьлёты чалавечага духу, але — ці не часьцей — горкія паразы, рэнэгацтва, чорныя здрады з падзеньнем у пекла безь ніякага спадзяваньня на прыпынак у чыстцы. Ён, магчыма, як ніхто іншы, адчуваў (і прадчуваў!) трагізм беларускай гісторыі, дзе краіна зноў і зноў стаіць перад мяжой, за якой — нацыянальнае небыцьцё.

Аднак Тарасаў ня быў бесстароньнім сузіральнікам-фаталістам і ніколі не зачыняўся ў кабінэце. Ён ня раз пакідаў пісьмовы стол, каб выступіць на мітынгу. Ён не адзін год захоплена працаваў у часопісе «Спадчына», быў намесьнікам галоўнага рэдактара незалежных газэтаў «Навіны» і «Наша Свабода». Пазьней стаў адным з заснавальнікаў газэты «Новы час».

На мяжы стагодзьдзяў, у новым палітычным клімаце, Тарасаў выдаў аповесьць «Апошняе каханьне Міндоўга», якая ўяўляецца мне найлепшым у нашай гістарычнай літаратуры творам пра дачыненьні ўладара й улады.

З надмагільнага помніку глядзіць такі самы, як і некалі даўно, у Полацку, чалавек з адбіткам нетутэйшасьці на твары.

Гэты самотны рыцар і цяпер у падарожжы — у мінулых ці ў будучых стагодзьдзях. Там, дзе мы некалі сустрэнемся.

**Кастусь Тарасаў**

10.10.1940, Менск — 20.3.2010, Менск.

Пахаваны на менскіх Чыжоўскіх могілках.

Цяжка не пагадзіцца з Адамам Глобусам: Людміла была найбольш падобная да артысткі эпохі вялікага нямога кіно. Адамавы «Словы пра авангардыстку Люду Русаву» — сярод лепшых эсэ ягонай кнігі «Рысы. Нарысы пра творцаў».

Ад самага пачатку прыходу ў мастацтва на мяжы 70-х — 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя яна (як потым напішуць, лідэрка беларускага авангарду і «хросная маці айчыннага акцыянізму») нязьменна зьдзіўляла.

Зьдзіўляла жанравай і тэматычнай шырынёю канцэптуальнага творчага абсягу: жывапіс, графіка, тэкстыль, інсталяцыі, відэапраекты, фотакаляжы... І — вершы (пад псэўданімам Вераніка Архангельская), а таксама тэарэтычнае асэнсаваньне мастацкіх пошукаў.

## Людміла Русава

Людміла Русава стала ў Беларусі аўтаркаю першай арт-кнігі і ці ня першага пэрформансу.

Разам з мастаком Ігарам Кашкурэвічам яна зладзіла незабыўны выступ, прысьвечаны Казімеру Малевічу: аўтар «Чорнага квадрату» быў пахаваны ў супрэматычнай труне і ўрачыста ўнесены ў Палац мастацтва. Але Малевіч — разам з сэрбкай Марынай Абрамавіч, расейцам Андрэем Таркоўскім, французам Івам Кляйнам — і надалей патрэбны быў Русавай як віртуальны апанэнт, а таму адбыліся менскае «Ажыўленьне Казімера» і ягонае маскоўскае «Супрэматычнае ўваскрашэньне».

З аднолькавым посьпехам Людміла рэпрэзэнтавала сваю творчасьць і наша мастацтва ў Менску і Полацку, Віцебску і Маскве, Таліне і Стакгольме. Яе працы набывалі Нацыянальны мастацкі музэй Беларусі і мэрыя Бону, Музэй Зымэрлі ў амэрыканскім штаце Нью-Джэрзі і калекцыянэры з усёй Эўропы.

Мастацтвазнаўцы адзначаюць, што Русава стварала на скрыжаваньні трансцэндэнтальных абсалютаў і постмадэрнісцкай гульні, на сутыкненьні веры ў



«аўру» тэарэтыка культуры Вальтэра Бэньяміна і немагчымасьці яе ўвасабленьня.

Аднойчы Людміла абвясьціла сябрам: ёй надакучыла служыць д'яблу і яна будзе служыць Богу, зрабіўшы асноўным колерам палітры блакітны.

Потым надышоў момант, калі яе палотны пацямнелі. Гэта не азначала, што яна адвярнулася ад Бога. У Русавай дыягнаставалі невылечную ваўчанку. «Жыць засталося мала, — казала яна, — але я цяпер цалкам свабодная. Я адчуваю лёгкасьць, бо нікому нічога не вінаватая. Хвароба сьпісала ўсе мае пазыкі. У мяне засталіся лёгкасьць, свабода і блакітны колер».

Людміла захаплялася Ігнатам Грынявіцкім, наагул нарадавольцамі і мела пісталет, што нарадзіла думку пра яе магчымае самагубства. Аднак яна, неверагодна пакутуючы, ня стрэліла і сышла, глянуўшы ў вочы сьмерці з стаічнай мужнасьцю.

**Людміла Русава**
11.6.1954, пас. Дашчанае, Архангельская вобласьць, Расея — 30.5.2010, Менск.
Пахаваная на менскіх Паўночных могілках.

Трыццацігадовым я за адну ноч прачытаў кніжку пад назваю, ад якой адразу дыхнула нечым сьвежым і прытульным, — «Ня плач, душа мая». Калі гэта сацрэалізм, падумалася мне, то я — японскі імпэратар.

Галоўны герой Анцюха быў пэрсанажам, безумоўна, станоўчым, але, відавочна, не савецкім.

Ягоныя «цыганскі» лад жыцьця, нязводны гумар, авантурнасьць нагадвалі пэрсанажаў Твэна й О. Генры. Імя аўтара кнігі зноў жа спадабалася й надзейна легла ў памяць — Вячаслаў Дубінка.

## Вячаслаў Дубінка

Калі пасьля выступу на Дзядах 1988 году ў мяне ўзьніклі непаразуменьні зь міліцыяй і трэба было часова зьнікнуць з далягляду, Дубінка сам знайшоў мяне і прапанаваў, колькі спатрэбіцца, жыць у яго ў майстэрні.

Пра тыя тры месяцы побач з чалавекам, што так нагадваў свайго героя Анцюху, можна напісаць яшчэ адну аповесьць.

Народжанаму ў вальналюбным Слуцку хлапчуку, сыну «антысаветчыка» (той восем гадоў мусіў прабавіць у Варкуце і вярнуўся адно пасьля сьмерці Сталіна), зь юных гадоў праглася рассунуць межы ўласнага сьвету. У сёмым клясе ён абтрос у суседа яблыньку, атрымаў на сокавыціскальным заводзіку чырвонец, купіў білет на цягнік, дакуль хапіла грошай, а далей на даху вагону даехаў да Адэсы, — каб убачыць мора і гэткім самым чынам ірвануць назад — насустрач матуліным кухталям.

Былы заўсёднік сустрэчаў у нонканфармісцкім асяродку «На Паддашку», Дубінка застанецца ўнікальным для Беларусі творцам. За тое, каб выдаць яму пасьведчаньне сябра, галасавалі прыёмныя камісіі чатырох творчых саюзаў — журналістаў, пісьменьнікаў, мастакоў і народных майстроў.

Ягоныя вандроўныя нарысы прыводзяць на



памяць творы Рышарда Капусьцінскага. Прасякнутыя незьнішчальнай іроніяй кнігі «Браты сьвятой ночы» і «Сындыкат Мані Дулі», як і «Ня плач, душа мая», маглі б стаць літаратурным грунтам для авантурных сэрыялаў.

Але найбольшую славу прынесла Дубінку старадаўняе беларускае мастацтва выцінанкі, якое мяноўна ён вярнуў зь нябыту. Выцінанкі Вячаслава Дубінкі ілюструюць многія беларускія кніжкі, дапамагаюць мультыплікатарам здабываць міжнародныя прэміі, проста захапляюць сваёй сьціплай геніяльнасьцю. Знайдзіце, да прыкладу, у альбомах твор пад назовам «Пеўні ловяць сэрцам дух прыгожы».

Міліцыя колькі разоў затрымлівала «ненармальнага» з нажніцамі і паперай на вакзалах і ў аэрапортах. А пісаць, ізноў прыцягваючы ўвагу пільных ахоўнікаў парадку, ён найбольш любіў на менскім паштамце.

Ягонае сэрца спынілася на паўдарозе, на паўслове, на паўсправе. Рыхтаваў да друку кнігу прозы. Пісаў пра «другое слуцкае паўстаньне», што выбухнула ў 1967-м супраць няправеднага савецкага суда...

Заходзячы на паштамт, я дагэтуль наструньваюся: а раптам у чалавечым тлуме сустрэну ўважлівы цёплы позірк ягоных неўміручых у памяці вачэй?..

**Вячаслаў Дубінка**

17.12.1941, Слуцак — 10.8.2010, Менск

Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

Мы былі знаёмыя вельмі даўно, хоць маглі б сустракацца часьцей (гэта, як зазвычай, разумееш, калі ўжо нічога нельга зьмяніць). Тым ня менш я меў адмысловы зварот да яе, на які Тацяна заўсёды весела адгукалася, — «ветраная жанчына». У тлумачальным слоўніку беларускай мовы вы знойдзеце два значэньні гэтага слова. Другое ў дадзеным выпадку аніяк не пасавала.

## Тацяна Сапач

Цяпер, калі пабачылі сьвет вельмі раньнія Таніны вершы, бачыш, што іх аўтарка ўжо тады ведала ці прадчувала, у якую гавань плыве. Студэнткаю журфаку БДУ, дзе яна вучылася на «зорным» курсе — разам з Барысам Пятровічам, Ігарам Герменчуком, Сяргеем Навумчыкам, будучым мужам Сяргеем Дубаўцом, — Тацяна завіхалася ў Беларускай майстроўні.

Прыехаўшы працаваць па разьмеркаваньні ў Гомель (дагэтуль памятаю яе гомельскія блінцы), заснoўвала там моладзевую суполку «Талака».

Зьявіўшыся ў Менску на радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная», у 1987-м стварыла праграму «Альбаросіка», што хутка адгукалася на тагачасныя зьмены ў грамадзтве і імкнулася паскараць іх.

Потым быў пераезд Дубаўцоў у Вільню. Разам зь сябрамі яны ехалі адраджаць у нашай старажытнай сталіцы беларускае жыцьцё. Аднак апынуліся ў віры змаганьня літоўцаў за незалежнасьць. Таня, стаўшы сваёй на нелегальным радыё, якое выходзіла ў этэр з гарышча Палацу спорту, заклікала беларусаў Літвы падтрымаць імкненьне да выхаду з імпэрыі. Тое ж рабіла на незалежным тэлебачаньні, чые перадачы запісваліся ў кватэрах, а вяшчаньне ішло з Коўні.

Ад 1991-га і да аўтакатастрофы, вестка пра якую працяла сэрцы ўсіх, хто ведаў Тацяну, яна дваццаць гадоў рыхтавала беларускую тэлепраграму «Віленскі сшытак». А было ж яшчэ і супрацоўніцтва з Ра-



дыё Свабода і радыёстанцыяй «Балтыйскія хвалі», арганізацыя беларускіх набажэнстваў у віленскай царкве Сьвятога Мікалая.

Але найперш Таня была і застанецца паэткай.

У напісаным ёю немагчыма знайсьці выпадковыя радкі. Будзённае, штохвілiннае, мімалётнае яе талент нязьменна ператвараў у нябеснае й касьмічнае.

*Вядуць усе гасьцінцы і сьцяжыны*
*туды, дзе цераз рэчку гразкі брод.*
*Там па калена.*
*Там раней прайшлі.*
*А я умею плаваць адмыслова...*

На яе дзень нараджэньня ў роднай вёсцы адбываюцца прысьвечаныя Тані чытаньні. А з-за пагоркаў, над якімі, паводле няпісанага запавету, разьвеяная частка праху, плыве срэбнае рэха яе голасу.

**Тацяна Сапач (у замужжы — Дубавец)**
26.8.1962, в. Маркава, Маладэчанскі раён —
27.12.2010, паблізу г. Алітусу, Літва.
Пахаваная ў в. Маркава.

## Тацяна Зіненка

На тым месцы ўжо гарадзкая забудова, а тады мы, некалькі тысяч мітынгоўцаў, каму ўдалося вырвацца зь міліцэйскага атачэньня на Ўсходніх могілках, стаялі пасярод голага поля, і вецер кідаў нам у твар першыя калючыя сьняжынкі. Былі Дзяды, 30 кастрычніка 1988-га.

Пасьля двух выступаў: Зянона Пазьняка (ад аргкамітэту БНФ «Адраджэньне») і майго (ад створанага дзесяць дзён таму таварыства «Мартыралёг Беларусі») вакол нас зноў сьціснулася ачапленьне. Салдаты ўнутраных войскаў відавочна паходзілі зь сярэднеазіяцкіх рэспублік, ня надта разумелі, што адбываецца, і маглі выканаць любы загад сваіх камандзіраў. У нашых шэрагах адчуліся трывога і разгубленасьць.

І тут наперад ступіла і адкінула з высокага чыстага ілба неслухмяную пасмачку гожая русявая дзяўчына:

*Пачуйце ўсе маю жывую споведзь,*
*Хоць я памерці заўтра не баюся.*
*Але мяне сягоньня непакоіць*
*Найбольш за ўсё — маўчаньне Беларусі...*

Цяпер той верш адкрывае выдадзеную ў 2019-м пасьмяротную Тацяніну кнігу «Гарчэйшае пітво». Яе ўкладальнік і рэдактар Леанід Галубовіч называе Зіненку адзінай жанчынаю сярод нашых так званых выклятых паэтаў: Міхася Стральцова, Міколы Купрэева, Анатоля Сыса...

Але напачатку выглядала, што маладой паэтцы, выпускніцы філялягічнага факультэту БДУ, наканаваны зусім іншы лёс. Яна запамінальна друкавалася, адметна чытала вершы — нязьменна ў кашулівышыванцы, зеленавокая, з саламянымі косамі. У лістах і размовах часта называла сябе русалкай.



Зьдзейсьніла даўнюю мару: наведала ў Ялце магілу Максіма Багдановіча, пакінуўшы там разам з кветкамі томік вершаў улюбёнага паэта.

Вядомасьці Таццяне дадаў яе верш «Двухмоўе», надрукаваны пры канцы 1980-х гадоў у «Настаўніцкай газэце» як узор «нацыяналізму і экстрэмізму»: *«Дзе той філёзаф, дзе ён, дзе? / Што распаўсюджвае выслоўе, / Што беларускай грамадзе / Ня мова трэба, а двухмоўе?»* Аўтар разгромнага артыкулу пра верш сьцьвярджаў: па віне людзей з падобнымі поглядамі і здараюцца «такія канфлікты, як у Карабаху». У выніку рэдакцыя атрымала мноства лістоў у падтрымку Зіненкі і (надыходзілі новыя часы) мусіла публічна прабачыцца.

Таццяну любілі і паважалі ў Зачысьценскай школе на Барысаўшчыне, дзе яна выкладала мову і літаратуру. Яна ганарылася знаёмствам з Уладзімерам Каваленкам, музэй якога стварылі настаўнікі і вучні. На адным з музэйных здымкаў паэтка вальсуе з касманаўтам, які прадказваў ёй вялікую будучыню.

Будучыня сталася цёмнай, беспрытульнай, бяздомнай. «Палётам над безданьню» назвала яе жыцьцё пісьменьніца Алена Брава. Аднак: «Калі б паэзія ўзводзіла сваіх верных дачок у ранг сьвятых, Таццяна была б кананізаваная як шчасьлівая пакутніца».

**Тацяна Зіненка**

4.3.1960, Казахстан — 1.2.2011, Барысаў.

Пахаваная на барысаўскіх Елісееўскіх могілках.

## Уладзімер Конан

Некалькі гадоў мы жылі з спадаром Уладзімерам у суседніх дварах менскай Серабранкі. Зрэдку сустракаліся на вечаровых прагулянках, і да нас далучалася «дама» — прыручаная ім (небывалая рэч!) гарадзкая куніца-беладушка, што гаспадарыла ў сутарэньнях ягонага дому.

Побач зь ім я зазвычай адчуваў лёгкую вусьціш: маім суразмоўцам быў чалавек фантастычных ведаў і фантастычнага складу розуму.

Сілаю сваёй заўсёды маладой думкі ён уздымаўся зь серабранкаўскай кватэры ў касьмічныя вышыні, вызначаючы адтуль месца Беларусі ў сусьветнай культуры, ды мужна зазіраў у будучыню. У той прадзьмутай усімі вятрамі аднапакаёўцы на ягоным апошнім паверсе самага высокага серабранкаўскага шматпавярховіка пад сьціплую вячэру ды кілішак зусім зямнога напою — айчыннага джыну «Ведрыч» з даўніх і, трэба сказаць, паважных прафэсарскіх запасаў — мне была прачытаная не адна лекцыя зь філязофіі, літаратуразнаўства, гісторыі. Ён не баяўся чапаць даўно, здавалася б, кананізаваных аўтарытэтаў. «Сымон Будны? Не прымаў ні хрысьціянскага мастацтва, ні народных карнавалаў, музыкі, сьпеваў».

Калі гаспадар замаўкаў, я мэтафізычна і фізычна адчуваў, што над намі — толькі неба. Вяртаючыся дадому, пракручваў у памяці пачутае, доўга шпацыраваў па набярэжнай нашага каналу — натхняўся, рыхтаваўся да бяссоннай ночы за пісьмовым сталом.

Бывала — сустракаў у двары іншага суседа, сяржанта спэцназу, які неяк пахваліўся, што заробак у яго большы, чым у гэтага дзівака-прафэсара.

На той час Конан працаваў загадчыкам аддзелу ў Нацыянальным навукова-асьветным цэнтры імя Скарыны. Там сабралася сузор’е бліскучых дасьледнікаў, што ўрэшце, у новай палітычнай сытуацыі дру-



гой паловы 1990-х, і прадвызначыла лёс асяродку.

Скарынаўскі цэнтар быў зьнішчаны, хоць у іншых умовах мог бы ператварыцца ў Інстытут Беларусі з сваімі прадстаўніцтвамі ў іншых краінах — накшталт добра вядомых нам Польскага інстытуту альбо Інстытуту Гётэ.

Конан, які лічыў, што «даўнія прыкметы беларускай нацыянальнай культуры — гераізм і трагічнасьць», так і ня стаў ні акадэмікам, ні членам-карэспандэнтам. Але я ўяўляю, колькі гэтых самых членаў пякуча зайздросьцілі ягоным шматлікім манаграфіям, тысячам энцыкляпэдычных артыкулаў, доказным і дасьціпным рэцэнзіям у пэрыёдыцы. А яшчэ — адважным публічным выступам, падчас аднаго зь якіх з акадэмічнай трыбуны ён прамовіў: «Манголы рабавалі кішэні, а расейцы рабуюць душы».

Вазьміце ў рукі выдадзеную яшчэ ў 1976-м кніжку Ўладзімера Конана пра выбітнага літаратурнага крытыка Адама Бабарэку.

У разьвітальным слове пасьля канчатковага сыходу вучонага ў захмарныя вышыні малодшы калега філёзаф Валянцін Акудовіч сказаў, што, прачытаўшы менавіта тую кніжыцу, ён яшчэ за савецкай уладай зразумеў: «Няма іншага часу, акрамя таго, які выбіраеш для сябе сам. І Конан, беларускі Дон Кіхот, абраў сабе час духу, у якім застанецца навечна».

Ён сапраўды там, у беларускай Вечнасьці.

**Уладзімер Конан**
23.4.1934, в. Вераскава, цяпер Наваградзкі раён — 6.6.2011, Менск.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

## Васіль Храмцоў

Пры канцы 1980-х Васіль Храмцоў вывесіў у Наваполацку дзясяткі бел-чырвона-белых сьцягоў, за што некалькі разоў блізка пазнаёміўся зь міліцыянтамі і «самым справядлівым у сьвеце» судом. Назаўтра, як Вярхоўны Савет зацьвердзіў наш сьцяг дзяржаўным, Васіль зь сябрамі ўзьняў яго над наваполацкім і полацкім гарвыканкамамі. Тады выкліканыя чыноўнікамі міліцыянты і гэбісты былі ўжо бясьсільныя. Я таксама наведваўся ў той дзень у кабінэт полацкага начальніка, падымаўся зь сьцягам на заваленае савецкімі транспарантамі і загаджанае галубамі гарвыканкамаўскае гарышча, меў у пераможным фінале гутарку з падпалкоўнікам, што захоўваў інкогніта, і зь яго падначаленым з адметным прозьвішчам Кашчэеў. Тыя падзеі адлюстраваліся ў маёй міні-п’есцы «Сьцягі над горадам», якая потым, бывала, разыгрывалася рэальнымі дзейнымі асобамі ў ролях.

Васіль далучыўся да беларускага дэмакратычнага руху ўжо прызнаным лідэрам шматтысячных наваполацкіх экалягічных пратэстаў. Ён быў сярод арганізатараў першых беларускіх клясаў. Яго арыштоўвалі за ўдзел у аргкамітэце Канфэдэрацыі беларускіх суполак. На менскіх Дзядах-1988 ён пасьпеў зрабіць унікальныя фота. Мы зноў сустрэліся ў Вільні на Ўстаноўчым зьезьдзе БНФ «Адраджэньне».

Васіль проста жыў сваімі беларускімі справамі, прычым заўсёды быў заточаны на нешта новае. З студэнтамі і выкладчыкамі Полацкага ўнівэрсытэту ён стварыў гістарычна-культурніцкі клюб «Княжыч», што прышчапіў патрыятызм не адной сотні юнакоў і дзяўчат. Ачоленая Храмцовым супольнасьць «Усяслаў Чарадзей» разам з «Княжычам» таленавіта адраджала народныя сьвяты — Гуканьне вясны, Дзяды, Каляды. Купальлі на полацкіх азёрах, дзе Васіль неадменна пераўвасабляўся ў Князя-Купаліша,



ператварыліся, па сутнасьці, у агульнанацыянальнае сьвята. Туды з году ў год прыяжджалі цэлыя аўтобусы беларусаў з замежжа, нават з Амэрыкі.

Васіля можна было ўбачыць у чарнобыльскай зоне, куды ён вазіў перададзеныя нашай дыяспарай лекі, і ў перадвыбарчых штабах дэмакратычных кандыдатаў. Ён дапамагаў выдаваць у Прыдзьвіньні дзясяткі рэгіянальных незалежных газэт і бюлетэняў. Яго, хворага на дыябэт з абавязковымі іньекцыямі інсуліну, пасадзілі «на суткі» ў час прэзыдэнцкай кампаніі 2006 году.

Храмцоў прываблівай да сябе людзей шматстайнымі зацікаўленьнямі і здольнасьцямі: калекцыянаваў гістарычныя артэфакты, стаў прызнаным фатографам, пісаў вершы, пакінуўшы па сабе вялікую нізку «Балахоўскі цыкль».

Часам мроіцца: ягоная трагічна раньняя сьмерць — нечая прыдумка, мы спаткаемся на Купальлі, і ён нальле мне шклянку свайго непаўторнага крупніку, рэцэпт якога так пакуль ніхто і не аднавіў.

**Васіль Храмцоў**
16.12.1965, Наваполацак — 10.6.2011, Наваполацак.
Пахаваны на наваполацкіх Паўночных могілках.

Палітолягу, бліскучаму аналітыку Віталю Сіліцкаму заўсёды будзе трыццаць восем.

Адказваючы за некалькі гадоў да свайго такога раньняга сыходу на пытаньне анкеты: «Што значыць быць беларусам?» — ён напісаў: жыць у Беларусі, размаўляць па-беларуску, любіць Беларусь, дбаць пра Беларусь. Любіць для яго й азначала — дбаць.

У васямнаццаць ён з дакладам, прысьвечаным дэмакратычным зьменам у Ўсходняй Эўропе, стаў пераможцам усесаюзнай алімпіяды юных сацыёлягаў. Надыходзіў час самому прысьпешваць гэтыя зьмены ўчынкамі й навуковымі штудыямі.

## Віталь Сіліцкі

У яго ўсё заўжды было на «выдатна». БДУ — дыплём сацыёляга. Цэнтральнаэўрапейскі ўнівэрсытэт у Будапэшце — магістар паліталёгіі. Ратгэрскі ўнівэрсытэт у ЗША — ужо доктар. Супрацоўніцтва з інтэрнэт-газэтай Naviny.by і «Нашай Нівай». Заснаваньне адной з самых аўтарытэтных аналітычных структураў краіны — Беларускага інстытуту стратэгічных дасьледаваньняў.

Віталь пакінуў нас у чорнае лета 2011 году, калі мы ледзь ня кожны тыдзень разьвітваліся з тымі, хто, як і ён, плённа працаваў дзеля той Беларусі, якая нам пакуль толькі сьніцца. Філёзаф Уладзімер Конан, гісторык-архівіст Віталь Скалабан, зусім маладыя — бліскучы гістарычны картограф Віктар Цемушаў, гісторык і паэт Эдуард Мазько, мастацтвазнаўца Юрась Малаш, гісторык Вольга Рамановіч, што пераклала два тамы францускамоўных мэмуараў Міхала Клеафаса Агінскага, Васіль Храмцоў, адзін з тых, на кім трымалася беларушчына на Полаччыне... Кожны быў непаўторны, а хтосьці — незаменны.

Пасьля ўсяго, што здарылася зь Беларусьсю ў ХХ стагодзьдзі, слой нашай інтэлігенцыі застаецца вельмі тонкім. Гэта значыць, даводзіцца ўскладаць на сябе абавязкі і справы, прызначаныя не для ад-



нага чалавека. Ня кожны здольны несьці такую ношу бясконца.

«Я паміраю. Прашу: зрабіце ўсё, каб жылі тыя ідэі, якімі я жыў», — сказаў Віталь сябрам у адзін з апошніх дзён.

У Цэнтральнаэўрапейскім унівэрсытэце заснаваная стыпэндыя яго імя для беларускіх студэнтаў. Інстытут эўрапейскіх навук у Славаччыне й Беларускі інстытут стратэгічных дасьледаваньняў стварылі сваю стыпэндыяльную праграму імя Сіліцкага.

Сябры заснавалі Фонд Сіліцкага, выдалі ягоныя кнігі «Адкладзеная свабода» ды «Доўгая дарога ад тыраніі: посткамуністычны аўтарытарызм і барацьба за дэмакратыю ў Сэрбіі й Беларусі».

Калегі і вучні называлі яго лідэрам навуковага аналізу, які вывучаў Беларусь у кантэксьце ўсясьветнай паліталягічнай навукі, нязьменна прапускаючы праблемы праз розум навукоўца і праз сэрца патрыёта.

А для мяне Віталь быў яшчэ й апантаным футбольным заўзятарам. Ці здолеў ён аднекуль *адтуль* пабачыць фээрычную гульню БАТЭ зь мюнхэнскай «Баварыяй», калі нашы выйгралі 3:1?

**Віталь Сіліцкі**

25.12.1972, Менск — 11.6.2011, Менск.

Пахаваны на могілках у пас. Калодзішчы, Менскі раён.

Вы калі-небудзь спрабавалі зьлічыць анёлаў у храме? Ён ведаў, што гэта немагчыма, бо іхні лік штохвілінна мяняецца.

«Вадзіў нас ад зялёнага дворыка з чатырох’яруснай званіцай і аж да лазаў у сьценах добры знаўца францысканскіх муроў і ўвогуле старажытнага Пінску сіваваты ўжо, харошы чалавек з усьмешлівым і разумным абліччам Казімер Сьвёнтак. Дужа добры фатограф, матацыкліст, кінэматаграфіст-аматар, чалавек, які здатны цэлую ноч нерухома праляжаць у лесе, каб запісаць на магнітафон такаваньне глушцоў...»

## Казімер Сьвёнтак

Знаўцы творчасьці Ўладзімера Караткевіча, магчыма, пазналі ўжо фрагмэнт нарысу «Званы ў прадоньнях азёраў», упершыню надрукаванага ў часопісе «Маладосць» у 1969-м.

На жаль, Караткевіч праз цэнзурныя рагаткі ня здолеў паведаміць чытачам, які ж галоўны занятак гэтага знаўцы старасьвеччыны і заядлага матацykліста. Пагатоў ён ня мог распавесьці, што ксёндз Казімер паходзіць з польскай шляхецкай сям’і і да Другой усясьветнай вайны скончыў Пінскую духоўную каталіцкую сэмінарыю, а ў 1939-м, з прыходам саветаў, быў абвінавачаны ў шпіянажы і кінуты ў турму.

Пасьля вайны яго засудзілі на дзесяць гадоў лягераў. Адтуль, зь сібірскай тундры, ён, адцягнуўшы тэрмін ад званка да званка, вярнуўся ў 1954-м у Пінск і пачаў служыць у францысканскім касьцёле. Адмовіўся выяжджаць у Польшчу. Не атрымаўшы рэабілітацыі, усё жыцьцё пісаў у анкетах пра судзімасьць.

Ад канца XVIII стагодзьдзя беларускія каталікі ня мелі сваіх кардыналаў. Бясконца доўгі перапынак скончыўся ў 1994-м, калі Ян Павал II надаў гэтую годнасьць Казімеру Сьвёнтку. Міжнародным прызнаньнем яго заслугаў сталася ўзнагароджаньне ў 2006-м францускім Ордэнам камандора Ганаровага легіёну.



За палякам (адзін час нават намесьнікам старшыні Саюзу палякаў Беларусі) Сьвёнткам адбывалася беларусізацыя нашага Касьцёлу. Маючы гонар быць запрошаным на 90-годзьдзе яго эмінэнцыі, я загаварыў пра гэта зь юбілярам і зразумеў, як няпроста давалася вяртаньне нашай мовы ў сьвятыні.

А вось наконт таго, што Сьвёнтак быў «кінэматаграфістам-аматарам», Караткевіч, відаць, памыляўся. Прынамсі, беларускі кінарэжысэр Юры Гарулёў лічыць, што фільмы «абсалютна прафэсійныя». Зрэшты, кожны можа сам пагадзіцца з гэтай думкаю або аспрэчыць яе, зьвярнуўшыся да выпушчанай у 2014-м выдавецтвам «Pro Christo» кнігі «Чары Палесься». Туды ўвайшлі дыскі зь фільмамі выбітнага сьвятара. Дыктарскі тэкст — польская паэзія, музыка — Сьвёнткаў улюбёны Шапэн.

**Казімер Сьвёнтак**
21.10.1914, мяст. Валга, Эстонія — 21.7.2011, Пінск.
Пахаваны ў Пінскім катэдральным саборы Ўнебаўзяцьця Дзевы Марыі.

Калі Нацыянальны архіў быў у самым цэнтры Менску, мы раз-пораз сустракаліся на лавачцы ў Аляксандраўскім сквэры. Каля Купалы, казаў ён. Разам з прывітаньнем спадар Віталь зазвычай дарыў сваю адметную ўсьмешку чалавека, якому вядома неверагодна шмат, а празь вялікія веды, як зазначана яшчэ ў Кнізе кніг, душу бярэ ў палон і вялікі смутак.

Памятаю, я ўзгадаў у размове показку савецкіх часоў. Пісьменьнікі падзяляюцца на дзьве часткі: тых, хто садзіцца і піша, і тых, хто піша й садзіцца. Ён адразу ўдакладніў, што існавала і трэцяя катэгорыя — хто садзіўся й пісаў, каб садзіць іншых. У той час Скалабан

## Віталь Скалабан

працаваў з адпаведнымі фондамі дваццатых — трыццатых гадоў XX стагодзьдзя, ня проста вяртаючы імёны, факты і падзеі, але аднаўляючы панараму тагачаснага літаратурнага жыцьця рэспублікі.

Ягонае рарытэтнае прозьвішча магло здавацца вясёлым. А вось мне ў ім найперш чулася *скала*. Ён і быў такім — магутным фізычна і стакроць мацнейшым інтэлектуальна.

Адзін з найлепшых айчынных архівістаў, які адкрыў мноства таямніцаў беларускага нацыянальнага руху, нашае культуры двух мінулых стагодзьдзяў, які на роўных вёў свае маўклівыя гаворкі зь Мітрафанам Доўнар-Запольскім, Усеваладам Ігнатоўскім, Максімам Гарэцкім.

Дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода Аляксандар Лукашук, які сам не па чутках знаёмы з архіўнымі сховішчамі, дакладна заўважыў, што многія іх дасьледнікі хварэюць на сындром «скупога рыцара». Скалабан жа сапраўды быў рыцарам фэнамэнальна шчодрым: зь нязьменнай хітрынкаю ў вачах падказваў маладзейшым калегам шляхі пошукаў, выступаў на вечарынах, пісаў сцэнары, зьяўляўся ў свабодаўскіх праграмах «Беларуская Атлянтыда»,



«Вострая Брама», «Вольная студыя», што для чалавека на афіцыйнай пасадзе было яшчэ і рызыкай.

У ягоных публікацыях гісторыя набывала плоць і кроў і пачынала прамаўляць, крычаць, сьмяяцца, стагнаць і плакаць галасамі жывых рэальных людзей.

Разам зь Людмілай Рублеўскай ён напісаў п’есу «Людвіка і Фабіян», прысьвечаную каханьню Зоські Верас (у віленскім доме якой Скалабан ня раз бываў) і расстралянага ў 1920-м Фабіяна Шантыра — таксама героя гэтага выданьня.

П’еса ўражвала. Цікавы літаратурны вынік абяцаў працяг. Мне бачылася ўжо цэлая кніга драматургічных твораў, з старонак якой загавораць тыя катаваныя, зломленыя і нязломныя, на доўгія дзесяцігодзьдзі забароненыя, каго Віталь Скалабан ведаў, відаць, лепей за ўсіх.

Ён быў у самым росквіце сіл. Яго сыход стаўся стратаю для ўсяго беларускага грамадзтва.

Без дапамогі Віталя Скалабана «Імёны свабоды» былі б істотна бяднейшыя.

**Віталь Скалабан**

5.8.1947. в. Шылавічы, Слонімскі раён — 20.8.2011, Менск.

Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

# Галіна Сямдзянава

Яе імя ў маёй памяці найперш зьвязанае з трыма падзеямі найноўшай беларускай гісторыі.

24 жніўня 1991 году на нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету, што сабралася пасьля правалу маскоўскага антыдэмакратычнага путчу, дэпутатка Галіна Сямдзянава заносіць у Авальную залю Дому ўраду, дзе праходзіць паседжаньне, бел-чырвона-белы сьцяг.

Празь некалькі гадзін яна зганяе з трыбуны першага сакратара ЦК кампартыі А. Малафеева, які падтрымаў пучыстаў. Камуністычная большасьць Вярхоўнага Савету разгубілася.

Дзейнасьць КПБ-КПСС была прыпыненая, а ўвечары на плошчы абдымаліся і цалаваліся тысячы шчасьлівых людзей: Дэкларацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце атрымала канстытуцыйную сілу, Беларусь — незалежная!

Такія дні назаўсёды застаюцца ў гісторыі нацыі.

Ня згубіцца ў ёй і дзень 8 верасьня 1992-га. Тады, на чарговыя ўгодкі Аршанскай перамогі над маскоўскімі захопнікамі, тысячы беларусаў на чале з дэмакратычнымі дэпутатамі й сябрамі БЗВ — Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў — ужо на плошчы Незалежнасьці прымалі прысягу на вернасьць Беларусі.

Галіна стаяла побач з Васілём Быкавым, старшынём БЗВ Міколам Статкевічам і гісторыкам Міхасём Ткачовым, і я бачыў на вачах у яе сьлёзы.

Яна нарадзілася ў сям'і савецкага афіцэра далёка ад Беларусі, скончыла інстытут у Куйбышаве, працавала ў абароннай прамысловасьці, а перад абраньнем у Вярхоўны Савет была на намэнклятурнай пасадзе старшыні Наваградзкага раённага камітэту народнага кантролю. Як згадвае адзін з кіраўнікоў парлямэнцкай апазыцыі Сяргей Навумчык, зрабіўшыся дэпутаткай, Сямдзянава перад першай сэсіяй крытычна ставілася да БНФ.



Калі імкненьне да справядлівасьці й разуменьне, за кім гістарычная праўда, лічыць фэномэнам, то тут мы маем справу якраз зь ім.

Зрабіўшы свой выбар, Галіна хутка аказалася ў шэрагу лідэраў незалежніцкай дэмакратычнай апазыцыі. Яна была суаўтаркай канцэпцыі пераходу рэспублікі да рынкавай эканомікі, удзельніцай распрацоўкі Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце. Стала аўтаркаю заканадаўчых прапановаў, скіраваных на стварэньне Беларускай арміі.

Пра яе ўсё часьцей пачыналі гаварыць як пра магчымага міністра абароны.

Як старшыня Беларускай асацыяцыі вайскоўцаў «Вяртаньне» Галіна дапамагла зноў ступіць на родную зямлю больш чым чатыром тысячам нашых землякоў з пагонамі.

Да 2010-га, дзесяць вельмі нялёгкіх для Беларускага Народнага Фронту гадоў, Сямдзянава працавала ў кіраўніцтве партыі БНФ, у тым ліку палову гэтага часу — намесьніцай старшыні.

Над сталом міністра абароны нэўтральнай і бязьядравай, дэмакратычнай Беларусі (некалі на гэтую пасаду абавязкова прыйдзе жанчына) павінен вісець партрэт Галіны Сямдзянавай.

**Галіна Сямдзянава**
28.2.1947, Гдыня, Польшча — 18.9.2011, Менск.
Пахаваная на менскіх Паўночных могілках.

Паэт Ігар Шклярэўскі распавядаў мне, як здаваў за свайго сябра Валерыя ўступны экзамэн у тэатральна-мастацкі інстытут. Атрымаў, вядома, пяцёрку, але Раеўскі ацаніў дапамогу адно паблажлівым паляпваньнем па плячы: «Малойца». Шклярэўскі абурыўся: «Ты хоць чуў, што такое гіпэрбала?» Сябар адказаў: «Ведаю, ведаю. Карацей за два катэты».

Праўда гэта ці показка, я ў Раеўскага, калі мы пазнаёміліся, запытацца не адважыўся. Ён быў для мяне мэтрам, які чамусьці яшчэ пры канцы 1980-х даверыў мне, маладому літаратару, зрабіць для Купалаўскага тэатру некалькі перакладаў. Асабліва важным гэты давер стаўся праз дзесяцігодзьдзе, калі за, далікатна кажучы, неляяльнасьць да цяперашняй улады я быў звольнены з працы ў выдавецтве і аказаўся ў вельмі няпэўным фінансавым становішчы.

## Валеры Раеўскі



Неўзабаве затэлефанавала загадчыца літчасткі купалаўцаў Марына Бартніцкая: у Раеўскага ёсьць для вас п’еса на пераклад. Мы колькі разоў сустракаліся раніцой у яго кабінэце. «Каньячку?» — зазвычай пытаўся Валеры Мікалаевіч. Я адмаўляўся, ён быў салідарны. «Ты памятаеш, што можаш хадзіць на любы спэктакль без квіткоў? Будзем лічыць гэта сьціплай гуманітарнай дапамогай пацярпеламу ад разгулу стыхіі».

Раеўскі прыйшоў у Купалаўскі ў 1967 годзе, у 1973-м стаў галоўным рэжысэрам, а потым да 2009-га быў мастацкім кіраўніком. Ён стварыў блізу пяцідзесяці

спэктакляў — ня толькі ў родных сьценах, але і на сцэнах іншых гарадоў і краінаў. У Беластоку паставіў гогалеўскага «Рэвізора», у Любляне — «Зацюканага апостала» Андрэя Макаёнка, у Бэлфасьце — «Парог» Аляксея Дударава.

Выдатна памятаюцца «Апошні шанец» паводле Васіля Быкава, «Што той салдат, што гэты» паводле Бэртольда Брэхта, дудараўскія «Радавыя». Знаўца тэатру Вячаслаў Ракіцкі лічыць: Раеўскі мог бы паставіць нашмат больш добрай і найперш беларускай драматургіі, ды не давалі, бо Раеўскі быў у тэатральным мастацтве «мяккім дысыдэнтам».

З мною ён, нават калі гэтага быццам бы вымагала сытуацыя, пра палітыку ніколі не загаворваў. Але ў 2006-м я сустрэў Раеўскага ў намётавым мястэчку на плошчы з двума цяжкімі пакетамі, дзе былі бананы і памаранчы.

Разьвітаньне з пасадай мастацкага кіраўніка і апошнія гады Валерыя Мікалаевіча былі афарбаваныя ў драматычныя колеры.

Да ягонага 80-годзьдзя былыя калегі сабралі зробленыя ў розныя часы выказваньні Раеўскага, якія шмат каму дазволілі інакш убачыць гэтую асобу. «Адзін чалавек усё жыцьцё застаецца пацаном, а другі ўсё жыцьцё грае чыноўніка». «Самае цяжкае — трываць іншага: партнэра, суседа, жонку, маці, дзяржаву, кіраўніка...»

«Калі ў улады няма палітычнай апазыцыі, такой апазыцыяй павінна стаць мастацтва».

**Валеры Раеўскі**

20.6.1939, Менск — 19.11.2011, Менск.

Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

Ён быў творцам, што ішоў да прызнаньня ўпэўнена й імкліва. Яшчэ студэнтам гэты паляшук з прымружана-пільнымі й вечна крыху зьдзіўленымі вачыма браў удзел у маскоўскіх і кіеўскіх выставах. У трыццаць чатыры — першая пэрсанальная выстава ў Маскве. Пражыўшы два дзесяцігодзьдзі ў Расеі, Яўген меў добрыя магчымасьці заякарыцца дзенебудзь у Маскве або Пецярбурзе, зрабіўшыся вядомым расейскім графікам «белорусского происхождения». Але ён меў не беларускае паходжаньне, а беларускае пакліканьне.

## Яўген Шатохін

Таленавітыя пераклады свайго захапленьня беларускім космасам на мову алоўка й пэндзля прынесьлі Шатохіну міжнароднае прызнаньне. Ён працуе і выстаўляецца ў Нямеччыне і Польшчы, мае больш за дзясятак пэрсанальных выставаў у Францыі. Яўгенава мастацтва было ацэненае некалькімі францускімі ўзнагародамі, у тым ліку прызам Нацыянальнай асамблеі. Ён стаў ганаровым грамадзянінам гораду Альбэр.



У той самы час у Пінску Яўгена з палітычных прычынаў звальнялі з пасады дырэктара заснаванай ім у 1988-м дзіцячай мастацкай школы.

Ён быў чалавекам цьвёрдых перакананьняў. Гэта могуць засьведчыць аднапартыйцы з КХП БНФ, мастакі з суполкі «Пагоня», удзельнікі пленэраў у родных мясьцінах Васіля Быкава, Язэпа Драздовіча, Напалеона Орды, куды Яўген, бывала, прыяжджаў ажно з Францыі. Ад 1990-га да 1999-га ён быў дэпутатам Пінскага гарсавету, выклікаючы шалёную нянавісьць у апанэнтаў-лукашыстаў.

Менш вядомыя падзеі зь Яўгенавага юнацтва, калі ён, не жадаючы з ідэйных меркаваньняў служыць у савецкай арміі, нейкі час вёў паўгалоднае і небясьпечнае жыцьцё таёжнага самотніка. У выніку Шатохіна ўзяліся «привлекать за тунеядство». «Ты дзе працуеш? Дзе тваё працоўнае месца?» — роў на яго чалавек у форме. «Я — мастак. А мы на працы ўдзень і ўначы». І раптам архангельскі мент астыў і крыху разгублена прамовіў: «Амаль, як я». Справа не атрымала ходу.

Ён хораша сябраваў з намі, літаратарамі. Ганарыўся, што ў Сойме БНФ працаваў разам з Быкавым. Стварыў выдатны партрэт Барадуліна.

Але для мяне Жэня быў яшчэ й капітанам. Ці, можа, лепей так — Капітанам.

Калісьці недзе пад Піцерам ён купіў стары вельбот. Дадому, у Пінск, Яўген вярнуўся зь яхтай. У 2011-м мы сяброўскай кампаніяй зьдзейсьнілі на гэтай яхце, якая завецца «Сакавік 25», вандроўку ад Пінску да Турава. Дасюль сьняцца белыя чаплі, вячыстыя дубровы, сонныя вужы на цёплым пяску...

Мы ішлі пад бел-чырвона-белым сьцягам.

Пад ім Капітан адплываў і ў апошняе падарожжа.

**Яўген Шатохін**

25.2.1947, Пінск — 22.1.2012, Пінск.

Пахаваны на пінскіх могілках Пасянічы.

У беларускай мове слова «рыцар» ня мае жаночага роду. Але ёсьць, прынамсі, дзьве нашыя суайчыньніцы, якіх я без ваганьняў назваў бы рыцаркамі.

Першая — паўстанка 1831 году Эмілія Плятэр, якая стварыла й ачоліла аддзел зь некалькіх сотняў змагароў. Другая — Арына Вячорка.

І рэч ня толькі ў тым, што Арына (яна, як і Плятэр, прайшла абрад пасьвячэньня) была заснавальніцай сучаснага рыцарскага руху ў Беларусі ды кіраўніцаю клюбу рыцараў «Вялікае Княства», арганізатаркаю дзіцячага летніку «Грунвальд», першага турніру ў Лошыцкім парку, першых выправаў на спаборніцтвы ў Польшчу і Чэхію.

# Арына Вячорка

Рыцаркаю я ўспрымаў яе з тых даўніх часоў, калі, прыяжджаючы з Полацку ў Менск, начаваў у Арыны і Вінцука Вячорак і гаспадыня частавала мяне на дэсэрт нязьменнаю, але заўсёды зь нейкімі новымі нюансамі шарлёткаю.

Арыну ўжо тады ведалі, відаць, усе, чые сэрцы біліся па-беларуску. І дзякуючы ёй гэтых сэрцаў рабілася ўсё больш.

Матэматык паводле адукацыі, яна разам з купкаю сяброў і аднадумцаў стварала першае нацыянальнае незалежнае згуртаваньне новага часу — «Беларускую сьпеўна-драматычную майстроўню», а затым яе спадкаеміцу «Талаку», ладзіла дзясяткі імпрэзаў, адраджала беларускае школьніцтва.

У XXI стагодзьдзі Арына мужна й натхнёна ўзялася за справу, якая, здавалася, па сілах адно мужчынскім плячам — за адраджэньне нашай даўняй музычнай культуры. Безь Вячоркі не зьявіліся б пэрлінкі маёй (ды хіба толькі маёй!) фанатэкі — восем альбомаў даўняй беларускай музыкі: «Легенды Вялікага Княства», «Старажытная зямля», «Музыка Вялікага Княства Літоўскага»...



Яна стала прадусарам знакамітага сёньня гурта «Стары Ольса» і музычнага праекту «Вір», кансультантам фільму «Старадаўнія музычныя інструмэнты Беларусі» й праекту «Гістарычны эпас», арганізоўвала ў Менску і Наваградку нацыянальныя конкурсы маладых выканаўцаў «У гонар каралевы Боны». Удумаемся і ў гэтую лічбу: 100 зладжаных ёю канцэртаў старадаўняй і фальклёрнай музыкі.

А былі ж яшчэ клопаты пра дзяцей — Радаславу, Францішка і Ружану. Імя сына Вячоркаў ведае цяпер усё незалежнае беларускае грамадзтва, а фільм «Жыве Беларусь!», адзін з аўтараў якога — Франак, заваяваў зь дзясятак узнагародаў на міжнародных кінафэстывалях.

Мне бачыцца зусім не выпадковым, што зямны шлях Арыны, род якой паходзіць зь Вяліжу, зь беларускай Смаленшчыны, завяршыўся ў нашай рыцарскай і адраджэнскай сталіцы — Вільні.

Яе душа адлятала ў нябёсы пад ціхую музыку Вялікага Княства.

**Арына Вячорка (ад нараджэньня Поўзік)**
14.4.1961, Менск — 9.4.2012, Вільня.
Пахаваная на менскіх Міханавіцкіх могілках.

Дайце волю фантазіі: вы зайшлі ў школу, а там усё па-беларуску: шыльдачкі на кабінэтах, клясныя насьценгазэты, расклад урокаў. Па-беларуску гавораць і сустрэтыя ў калідоры дзяўчаткі, і выкладчыкі ў настаўніцкай, і, вядома, сам дырэктар, які радасна паціскае вам руку ды запрашае перад выступам на гарбату з свойскімі прысмакамі. Такая вось выспачка той Беларусі, якой яна магла б стаць.

Магла б... А сярэдняя школа № 3 у Глыбокім такою і стала. І заставалася, пакуль дырэктарам там быў ён, Віталь Гарановіч. Выкладчык беларускай мовы і літаратуры, паэт, патрыёт гораду і краіны, які ганарыўся, што ягоныя выхаванцы былі ў 2006-м і ў 2010-м на Плошчы, сядзелі потым «на сутках», выходзілі адтуль яшчэ больш перакананымі ў сваёй праўдзе.

# Віталь Гарановіч

Я тройчы выступаў у яго школе і заўсёды вяртаўся дадому з адчуваньнем ня проста недарэмна пражытага дня, а з тым пачуцьцём, якое грэе душу, напрыклад, пасьля новага напісанага апавяданьня.

Бывае — каб разварушыць санлівую аўдыторыю — даводзіцца абвяшчаць конкурс на самае цікавае пытаньне, а калі і гэта не дапамагае, выдумляць гэтыя пытаньні самому. У Глыбокім усё было наадварот: каб паспрабаваў там правесьці яшчэ і свой выратавальны конкурс, ніколі не пасьпеў бы на апошні менскі аўтобус.

Апошняя, відаць, ува ўсёй Віцебскай вобласьці сапраўды беларуская гарадзкая школа (ды яшчэ з паглыбленым вывучэньнем ангельскай, францускай і, натуральна, беларускай моваў, а таксама матэматыкі) хутка зрабілася бяльмом на воку «обрусителям» рознага рангу.

Дырэктару была абвешчаная вайна. Пачаліся праверкі. Аднекуль зьявіліся бацькі, якія патрабавалі стварыць у СШ № 3 расейскамоўныя клясы, нібыта



ўсе астатнія глыбоцкія школы не былі расейскімі. Пра многае Гарановіч не хацеў казаць нават сябрам.

Калі ён напісаў заяву пра сыход паводле ўласнага жаданьня, у гэтае жаданьне ніхто не паверыў.

Школу хуценька перарабілі на расейскую.

Былога дырэктара, які працаваў у раённым прафсаюзе работнікаў адукацыі, змушалі напісаць яшчэ адну заяву — пра выхад з падазронага Саюзу беларускіх пісьменьнікаў і пераход у саюз надзейны і правільны, што падкрэсьлівала кіраваньне ў ім былога міліцэйскага генэрала. Гарановіч наадрэз адмовіўся.

За некалькі дзён да яго сьмерці каля школы сьпілавалі вячыстыя таполі, пад якімі прызначалі спатканьні многія пакаленьні выпускнікоў.

Ці гучаць цяпер на школьных вечарынах напісаныя на вершы Віталя Гарановіча «Глыбоцкі вальс» і «Глыбоцкае танга»? Ці адбылася ў школе прэзэнтацыя прысьвечанай яго памяці кнігі «Пагавары са мной»?

**Віталь Гарановіч**
7.1.1952, в. Ермакі, Маладэчанскі раён —
17.4.2012, Глыбокае.
Пахаваны ў в. Рабунь, Вялейскі раён.

Ня ведаю, ці займаўся Алесь Наўроцкі боксам, але пры рэдкіх сустрэчах у выдавецкіх калідорах нязьменна здавалася, што ён — невысокі, добра скроены, рэзкі і жывы, як міркіль, — у любы момант можа заняць баксэрскую пазыцыю, каб абараніцца ад нейкай небясьпекі, пра якую казаў ягоны заўсёды крыху трывожны позірк. Той, хто быў знаёмы з калізіямі жыцьця пісьменьніка, ня вельмі зьдзіўляўся гэтай устрывожанасьці.

Сын вясковых настаўнікаў, ён абраў прафэсію мэдыка, але захапленьне прыгожым пісьменствам, узьніклае пад уплывам бацькі — выкладчыка беларускай мовы і літаратуры, карэнным чынам зьмяніла лёс. У сярэдзіне 1970-х учорашні доктар Менскай станцыі хуткай дапамогі Наўроцкі, чыю прозу і паэзію цанілі Уладзімір Караткевіч, Янка Брыль і Міхась Стральцоў, паступіў на Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскву. Здавалася, наперадзе новыя кнігі, пераклады, шырокае прызнаньне калегаў і чытачоў. Аднак погляды беларускага літаратара на савецкую рэчаіснасьць выклікалі пільную ўвагу куратараў курсаў з КГБ. Некаторыя аднакурсьнікі заводзілі з Алесем дзіўнаватыя размовы. Вяртаючыся з заняткаў, ён заўважаў: у пакой хтосьці зноў наведваўся і падкрэсьлена пакінуў рэчы не на сваіх месцах.

## Алесь Наўроцкі



Завяршыць навучаньне не ўдалося. У Менску пачаліся праблемы з працаўладкаваньнем і публікацыяй новых твораў. Абураны невыданьнем раману

«Пакаленьні і папялішчы», Наўроцкі падаў заяву аб выхадзе з Саюзу пісьменьнікаў.

У 1980-м на курсах павышэньня кваліфікацыі мэдыкаў Алесь Піліпавіч у лекцыйнай залі публічна выступіў супроць выкарыстаньня ў СССР псыхіятрыі дзеля палітычных мэтаў. Незадоўга да гэтага ён напісаў на тую ж тэму артыкул для заходніх радыёстанцый і зьвярнуўся па падтрымку да акадэміка Андрэя Сахарава і пісьменьніка Уладзіміра Вайновіча.

Надышоў дзень, калі ў кабінэт доктара Наўроцкага зьнянацку завітала адмысловая мэдкамісія з мноствам спэцыфічных пытаньняў.

Вынікам сталася прымусовае прымацаваньне калегі да псыхіятрычнага дыспансэру.

Згадваючы ўсе гэтыя акалічнасьці, я думаю, што ў творчасьці вялікія знаходкі сапраўды вельмі часта робяцца ў пякельным пошуку, у памежным сьвядомасным стане.

Адольваючы сямейныя «непаразуменьні» («Ніяк ты не напішасься, чарнільная крыса», — казала жонка), замоўчваньне, што доўжылася гадамі, ён працягваў верыць: натхненьне палягае ў тым, каб кожнага дня сядаць за пісьмовы стол. Працягваў уражваць нестандартнасьцю, а часам парадаксальнасьцю мысьленьня: да прыкладу, скептычна адгукаўся пра паэзію Анатоля Сыса, а сваю паэтычную творчасьць нечакана параўноўваў з цыркам.

У 2016-м у сэрыі «Беларускі кнігазбор» выйшаў том выбраных твораў Наўроцкага, дзе надрукаваныя раман «Прыпяць» і аповесьць «Дома», чаго пры жыцьці ён так і не дачакаўся.

**Алесь Наўроцкі**
12.2.1937, в. Давыдаўка, цяпер Сьветлагорскі раён — 24.4.2012, Менск.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

Пры канцы 1980-х ксёндз Пятрайціс у нас у Полацку быў чалавекам-легендай. Калі ўсіх, хто сьвядома гаварыў па-беларуску, яшчэ можна было зьлічыць па пальцах, калі мой старэйшы сын пытаўся, чаму на нашай мове размаўляюць адны нашыя знаёмцы, пранеслася чутка, што ў блізкім навакольлі зьявіўся беларускамоўны каталіцкі сьвятар, прычым літовец.

Скончыўшы Ковенскую духоўную сэмінарыю й атрымаўшы сьвятарскае пасьвячэньне, малады ксёндз Уладас Пятрайціс прыехаў служыць у Мёры. Тамтэйшы касьцёл, як, зрэшты, практычна ўсе тагачасныя беларускія касьцёлы, быў польскамоўны. Айцец Уладас мог прыняць «традыцыю» і мець, як бальшыня тутэйшага клеру, адносна спакойнае жыцьцё, бо паводле савецкага календару пачыналася перабудова.

## Уладзіслаў Пятрайціс



Аднак здарылася іншае.

Аналёгія з «Марсіянскімі хронікамі» Рэя Брэдбэры будзе занадта сьмелай, але беларуская стыхія ваколіц і самога невялікага гарадка колішняй Віленскай губэрні пачала мяняць сьветапогляд сьвятара й ягоную мову.

Калі ў Полацку асьвячалі крыж ахвярам сталінскага тэрору, прысутныя ўпершыню ў жыцьці пачулі беларускамоўныя малітвы.

Пісьменьніца Ірына Жарнасек узялася выда-


Касьцёл Унебаўзяцьця Дзевы Марыі ў Мёрах

ваць разам зь Пятрайцісам газэту «Голас душы» — адно з нашых першых каталіцкіх выданьняў. Ірына напаўжартам паставіла ўмову: возьмецца за гэта тады, калі «калега» дасканала авалодае беларускай моваю. Падчас маёй першай сустрэчы з айцом Уладзіславам, якая адбылася неўзабаве, ён ужо гаварыў па-беларуску лепей за двух маіх знаёмых народных пісьменьнікаў Беларусі.

На казані пасьля рэфэрэндуму 1995 году Пятрайціс з гневам казаў з амбону, што Пагоня з крыжам Хрыста зьмененая на зорку сатаны. Ён пытаўся: што робяць у касьцёле тыя, хто галасаваў супроць Крыжа, за сьцяг, пад якім зачынялі храмы і вывозілі сьвятароў у Сібір? Верніцы разгублена плакалі.

Пятрайціс многае зрабіў упершыню. Запачаткаваў пілігрымкі парафіянаў да Будслаўскай Божай Маці. Паставіў першы на той час у Эўропе помнік ненароджанаму дзіцяці. Пакінуў пасьля сябе ў Слабодцы на Браслаўшчыне помнік Эўфрасіньні Полацкай.

Праяжджаючы празь Мёры, я пытаюся: дзе вуліца імя Ўладзіслава Пятрайціса?

**Уладзіслаў Пятрайціс**
20.1.1955, в. Пацэнуляй, Радзьвіліскі раён, Літва —
9.5.2012, в. Іказьнь, Браслаўскі раён.
Пахаваны ў Мёрах.

Быў канец 1980-х. Купальле ў лесе пад Менскам — шматлюднае, з магутным вогнішчам, карагодамі, скокамі цераз агонь, зь сьпевамі і вянкамі. З атмасфэраю сапраўднага сьвята, напоенай чаканьнем дзівосаў — і ад гэтае ночы, і ад блізкае будучыні, у якую ўступала Беларусь.

Рэй вёў ён, Сяржук: завіхаўся каля купальскіх колаў, распараджаўся наконт дроваў, выбіраў Купалінку і, здавалася, зусім не зважаў на дзясяткі захопленых дзявочых позіркаў. Малады, прыгожы, з румянцам на шчоках. Кроў з малаком. Хто мог падумаць, што гэты румянец — сьведчаньне ягонае цукроўкі...

## Сяржук Вітушка

Студэнт гістфаку БДУ Сяржук Вітушка тады старшыняваў у моладзевым гістарычна-культурным клюбе «Талака».

Калі «Талака» спыніла існаваньне, бо большыня яе сяброў уступіла ў Беларускі Народны Фронт (які разам з старэйшымі аднадумцамі і стварала), Сяржук пераехаў у любую ягонаму сэрцу Вільню, у якой меркавалася ўскалыхнуць беларускую супольнасьць.

На ягоных уроках вучні віленскай беларускай школы імя Францішка Скарыны спасьцігалі таямніцы гісторыі. Вітушка займаўся аднаўленьнем Беларускага музэю імя Івана Луцкевіча і выдаваў газэту «Vilnia i kraj», пісаў для «Нашай Нівы» і газэты віленскіх беларусаў «Рунь».

А бязьлітасныя абдымкі хваробы рабіліся ўсё мацнейшымі. Кожная справа давалася Сержуку шматкроць цяжэй, чым сябрам.

Надышоў дзень, калі ў Вітушкавых вачах назусім пагасла сьвятло.

Памятаю, я сказаў яму пра свайго ўлюбёнага Борхэса, які пятнаццаць гадоў жыў і ствараў у цемры. Але Сяржук і сам быў невераемна моцны духам, хоць тады яшчэ ня ведаў, што наперадзе ампутацыя нагі й інвалідны вазок.



Страціўшы зрок, ён не разгубіўся, застаўся ў сваёй сыстэме каардынатаў.

Ён вынайшаў «сьляпыя экскурсіі» па Вільні для прыежджых беларусаў. Ён навучыўся добра наўсьлеп кулінарыць. Пачаў пісаць казкі, п’есы і беларускія тэксты на папулярныя мэлёдыі.

Усе апошнія гады Сяржук пакутліва шукаў асабісты шлях да Бога і казаў, што ня можа зразумець, чаму абедзьве галоўныя хрысьціянскія канфэсіі Беларусі не падымаюць голасу супроць перасьледу нязгодных з уладай, супроць зьнішчэньня мовы, якое вядзе нацыю ў нябыт.

Душу закутага ў вечную ноч пакутніка пасьпеў асьвятліць промень радасьці ад выхаду ягонай першай кніжкі «Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі», неўзабаве паўторанай у аўдыёвэрсіі.

Другая кніга — «Тэатар Сержука Вітушкі» пабачыла гэты сьвет, калі ён ужо бачыў іншы. Выданьне нездарма назвалі цудам.

Калі ў вас у сям’і ёсьць дзеткі, гэтая кніжка — з пальчыкавым тэатрыкам для маленькіх, з тэатрам ценяў, з пантамімамі, гульнямі, забаўлянкамі й казкамі-пірамідкамі — можа стаць цудоўнай знаходкай.

...З кім мне цяпер размаўляць пра тое, што віленскія будынкі могуць зьнікаць і зноў зьяўляцца, а жыхары — адначасова быць у розных месцах?

**Сяржук Вітушка**
10.4.1965, мяст. Чысьць, Маладэчанскі раён —
2.7.2012, Вільня.
Пахаваны ў в. Рагава, Менскі раён.

Мяне зь ім зьвёў акадэмік Дзьмітры Ліхачоў, якога называлі «сумленьнем расейскай інтэлігенцыі». Была вечарына ў менскім Доме літаратара, на якой я казаў, што і самыя сумленныя «старэйшыя браты», калі заходзіць гаворка пра беларускую або ўкраінскую незалежнасьць, імгненна мяняюцца. Як пацьверджаньне згадаў некалькі выказваньняў Ліхачова. Напрыклад, пра тое, што «не радея о единстве Русской земли, полоцкий князь Всеслав провел свою жизнь в беспутных походах».

Пасьля вечарыны мяне спыніў высокі і высакалобы чалавек з уважлівым позіркам. «Намесьнік

## Алесь Петрашкевіч



галоўнага рэдактара «Беларускай Энцыкляпэдыі» Алесь Петрашкевіч, — адрэкамэндаваўся ён. — Пра Ліхачова — цалкам згодны...»

Выдавецтва тады яшчэ называлася «Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя». Мне спадабалася, што Петрашкевіч прапусьціў у назове другое слова.

Дарэчы, ён разам з галоўным рэдактарам Петрусём Броўкам некалі і ствараў гэтае выдавецтва — займаўся і падборам супрацоўнікаў, і ўзьвядзеньнем будынку, які быў пазьней забраны цяперашняй уладай і ператвораны ў суд, дзе, у прыватнасьці, судзілі незалежных беларускіх выдаўцоў.

У 1992-м кіраўнікі СНД падпісалі ў Менску пагадненьне аб вяртаньні гістарычных каштоўнасьцяў дзяржавам іх паходжаньня. Масква агучыла заяву, што не прызн*а*е дакумэнту, бо ён супярэчыць інтарэсам

Расеі. У навінах круцілі выступ Ліхачова, які запальчыва заклікаў не дапусьціць «расьцягваньня агульных скарбаў па нацыянальных кватэрах». Пры сустрэчы Петрашкевіч пацікавіўся: «Чулі голас расейскага сумленьня?»

Я ня схільны ідэалізаваць яго. У свой час ён працаваў у апараце ЦК КПБ, пісаў п'есы «ў духу патрабаваньняў», да прыкладу, пазмагаўся пяром з рэлігіяй. Аднак Петрашкевіч заўсёды заставаўся беларусам, яго вабіла не апаратная дзейнасьць, а гісторыя і літаратура.

Ён пісаў сцэнары мастацкіх фільмаў, апавяданьні, лібрэта, але найбольш цікавае й вартае стварыў у жанры гістарычнай драматургіі, з дапамогаю якой імкнуўся адлюстраваць увесь шлях народу — ад часоў Рагвалода да нашых дзён. Спадар Алесь ганарыўся, што ягоныя продкі-шляхцічы належалі да гербу «Лебедзь», як і Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч з Ігнатам Буйніцкім.

Найбольш ярка Петрашкевіч-драматург раскрыўся ў прысьвечанай Скарыну дылёгіі «Напісанае застанецца» і «Прарок для Айчыны». У першай п'есе разам з гуманістам-першадрукаром дзейнымі асобамі сталі Мікола Гусоўскі, Пётра Мсьціславец, Марцін Лютэр, Мікалай Капэрнік, што ставарае пераканаўчы кантэкст эўрапейскага Рэнэсансу, аванпостам якога была Беларусь. Другі твор, як вынікае ўжо зь ягонае назвы, ставіць вечнае пытаньне лёсу прарока ў сваёй Айчыне.

Нязьменна застаючыся і навукоўцам, Алесь Петрашкевіч пакінуў нам мару — выдаць энцыкляпэдычны даведнік «Беларуская Народная Рэспубліка».

Хто зьдзейсьніць гэтую задуму?

**Алесь Петрашкевіч**
1.5.1930, в. Пярэвалачня, Талачынскі раён —
24.8.2012, Менск.
Пахаваны на менскіх Чыжоўскіх могілках.

Магчыма, ён выратаваў мне жыцьцё.

Увесну 1991-га, пасьля крывавай карнай акцыі савецкіх войскаў каля Віленскага тэлецэнтру, я разам з Уладзімерам прыехаў у блякадную Літву на вечарыну салідарнасьці з суседзямі, што першымі вырываліся з камуністычнай імпэрыі. Па дарозе да гары Гедзіміна мы ўбачылі наперадзе вайсковы патруль. Я безразважна зьняў з пляча Пузыні ягоную знакамітую сурму і, стаўшы на калена, навёў інструмэнт на патрульных. Тыя ўскінулі аўтаматы. Гэтак жа імгненна мой спадарожнік штурхнуў мяне на газон і прыкрыў сваім целам...

## Уладзімер Пузыня

Такіх, як Уладзімер Пузыня, неба пасылае на зямлю тады, калі трэба зьдзейсьніць унікальнае і непаўторнае — зьвязаць парваныя ніці, не дазволіць перапыніцца традыцыі.

У 1970-я ён бярэцца за аднаўленьне нашых старажытных музычных інструмэнтаў, ужо, здавалася б, канулых у Лету. Дзякуючы яму ў нас зноў загучалі ліры,



жалейкі, чароткі, згаданы ў Радзівілаўскім летапісе XIII стагодзьдзя хорум, які высушваецца з гарбуза.

У 1981-м газэта «ЛіМ» паведаміла, што Пузыня вярнуў да жыцьця турыны рог, або сурму. Тую самую, чый голас вякамі клікаў ліцьвінаў на бітву.

Паэт Алег Мінкін адгукнуўся на навіну вершам «Сурма», што потым даў назоў яго першай кнізе:

*Прарочыце вы крыкам хіжым, тлумным*
*Засільле вечнай сьцюжы і зімы,*
*Ды скрозь ваш гвалт мне чуцен звон забыты*
*Званой Сафіі і прызыўна-сумны,*
*Працяглы сьпеў абуджанай сурмы.*

Ад канца 1980-х, напэўна, кожная агульнанацыянальная дэмакратычная ўрачыстасьць пачыналася з выступу Ўладзімера Пузыні, які пяшчотна падносіў да вуснаў сваю неразлучную сяброўку. Яго сурма гучала і на разьвітаньні з Васілём Быкавым.

Створаная Пузынем у Менскім інстытуце культуры лябараторыя адраджэньня і вырабу народных інструмэнтаў «Беларуская хатка» сталася ўлюбёным месцам маладых музыкаў. Тут бывалі хлопцы зь цяперашняга праслаўленага гурта «Стары Ольса». Вядомы кожнаму беларусу «Палац» дагэтуль грае на адмыслова створаных для яго Пузынем ліры й жалейцы.

Калі б мая воля, я ўзнагародзіў бы яго самымі высокімі дзяржаўнымі адзнакамі.

Вікіпэдыя называе Пузыню музыкам і майстрам-рэстаўратарам (ён быў і таленавітым графікам). Але сказаць, што Ўладзімер даваў другое жыцьцё забытым інструмэнтам, — усяго частка праўды.

Ён аднаўляў беларускую душу.

**Уладзімер Пузыня**
26.2.1949, в. Суцін, Любанскі раён — 18.9.2012, Менск.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

# Сяржук Цімохаў

Ня кожны і вельмі адораны мастак здольны стварыць свой космас. Гэта — не пра Цімохава.

Ягоны мастацкі сусьвет, які нарадзіўся з апантанага дасьледаваньня нашай дахрысьціянскай, далетапіснай мінуўшчыны, уладна вабіць, а часам — палохае. Перад палотнамі зь ценямі Ярылы і Вялеса, зь сьціхотна-таямнічымі стодамі, з далёкімі згукамі паганскіх абрадаў і сьвятаў можа ўзьнікнуць адчуваньне, падобнае да прыцягненьня бездані. Так твораць геніі.

Мы сустрэліся ў Полацку, куды Цімохаў зь сям'ёй прыехаў у 1986-м, каб затрымацца ў Прыдзьвіньні на дванаццаць гадоў. Першай убачанай мною Сержуковай працай быў партрэт Івана Луцкевіча. Ужо адно гэта абяцала працяг знаёмства.

Выбар гораду, адкуль пачыналіся беларускія гісторыя й культура, безумоўна, таксама быў невыпадковым. Бяз полацкага пэрыяду мы б ведалі мастака Цімохава зусім іншым. Але і сам Сяржук, які проста іскрыў ідэямі й задумкамі, стаўся Полацку шчасьлівым падарункам.



Ён стварыў галерэю «Рыса», дзе лічылі за гонар выстаўляцца найвядомейшыя майстры. Непараўнальна шмат ён здолеў зрабіць для гораду як галоўны мастак.

Дагэтуль у памяці ягоная пэрсанальная выстава ў толькі што адчыненай «Рысе». На падлозе — разгорнутыя папяровыя скруткі з магічнымі знакамі-кодамі і размаляваныя валуны, якія расстаўляюць у экспазыцыі моцныя і абсалютна нечаканыя акцэнты. Творы на сьценах — напоўненыя алюзіямі і шматлікімі сэнсамі, — хтосьці з мастацтвазнаўцаў назваў харугвамі.

У сталіцу пры канцы 1990-х гадоў Цімохаў пераехаў ужо прызнаным і на радзіме, і за мяжой майстрам. Мастацтвазнаўцы пісалі пра незвычайнага калярыста, што ўмее праз нюанс ці кантраст дасягнуць тонкага суладнага гучаньня, завабіўшы як быццам празрыстай канструкцыяй, якая раптам прымушае разблытваць сапраўдную павуціну сымбаляў.

Працягваючы натхнёна працаваць у сваёй галоўнай тэме, Цімохаў захапіўся графікай і адкрыўся як вытанчаны лірык. Графічныя аркушы зь ню прынесьлі Гран-пры на біенале «Залатое пяро Бялграду».

Адзін зь сяброў-мастакоў адгукнуўся на адыход Цімохава прыпавесьцю пра тое, як Уладар ходзіць па райскім садзе і зьбірае ў кошык залатыя яблыкі, зрываючы адно самыя сьпелыя. Слабое суцяшэньне.

Апрача ягонага дзівоснага сусьвету, Сяргей пакінуў жонку Рыту, дачку Вальжыну і сына Глеба. Усе — творцы.

Сярод маіх улюбёных яго працаў — мэтафізычныя сэрыі пад агульным назовам «Рытуальнае шэсьце». Цяпер у гэтай адвечнай працэсіі заняў месца й ён сам.

**Сяржук Цімохаў**
8.9.1960, в. Кротаў, Калінкавіцкі раён —
9.10.2012, Менск.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

## Юры Гумянюк



Сталася так, што мой тэкст пра Юру Гуменюка пачаў нараджацца ў сьне.

Я пісаў яму ліст. У кожнага з нас пра цябе свае ўспаміны, гаварылася ў ім. Але ўсе мы ведаем, што ты — найперш паэт, і калі твой сябар Анджэй Пачобут сказаў цяпер, што ты — зорка сучаснай беларускай літаратуры, якая выбухнула на пачатку 1990-х, ніхто й ня думаў яму пярэчыць. Але я здагадваўся пра гэта і раней, бо чытаў усё, што ты друкаваў, пачынаючы ад выдадзеных калісьці ўжо даўно ў Полацку «Вадару цела» ды «Твару Тутанхамона» і да тваёй гарадзенскай кнігі вершаў «Назаві мяне геніем», якая ў мяне на стале ўсьцешліва пахла друкарняй, але ты ўжо не ўдыхнуў таго цудоўнага паху. Хаця, хто ведае, бо ты — паэт і ў цябе іншая форма душы...

Прачнуўшыся, я перапісаў свой прысьнёны ліст і зразумеў, што галоўнае пра Юрыя Гуменюка ў ім ужо сказанае.

Безумоўна, можна пералічваць ягоныя іншыя кнігі й дзіцячыя п’есы, пастаўленыя Гарадзенскім тэатрам лялек. Можна згадаць дакумэнтальную сагу «Прывід даўніх крэсаў», няскончаны раман «Апосталы нірваны», два тузіны песьняў, напісаных на Юравы вершы беларускімі рок-гуртамі. Калегі-журналісты пакрыўдзяцца, калі я забуду аб шматгадовай працы Гуменюка ў газэце «Пагоня», на радыё «Рацыя» і Беларускай службе Польскага радыё для замежжа.

Ён быў у ліку заснавальнікаў Таварыства вольных

літаратараў і сурэдактарам тэвээлаўскага часопісу «Калосьсе». У адным з інтэрвію Юры агучыў асноўную мэту ТВЛ: «Мы нічога не зьбіраемся адмаўляць і разбураць. Наша задача — максымальна рэалізавацца ў дадзеным часе й прасторы».

Цяпер Гумянюк апынуўся сярод герояў раману Алеся Аркуша «Мясцовы час», дзе ажываюць асобы канца васьмідзясятых — пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагодзьдзя.

Пасьля апетых Аркушам часоў надышлі іншыя. Стаўленьне да новай рэчаіснасьці, якой Юра ня мог прыняць, ён сфармуляваў у вядомым вершы-баевіку «Спэрма прэзыдэнта». Гэта быў адказ тым, хто імкнуўся загнаць у сутарэньні андэграўнду тое, чым ён жыў, — літаратуру, мову, на якой яна ствараецца, незалежнае мастацтва.

Яму так і засталося 43. Гэты век, як і 37, лічыцца для творчай асобы небясьпечным.

Таямніцу свайго сыходу ён забраў з сабой. Хадзілі глухія чуткі пра вярбоўку. Шмат каму ў астатнія месяцы ён казаў, што яго хутка заб'юць. Яшчэ раней Юра чамусьці спаліў усе лісты ад сяброў. Пакінуў афарыстычнае выказваньне: «Жыцьцё беларускіх паэтаў шчасьлівае толькі пасьля сьмерці».

І ўсё ж, калі я спрабую ўявіць ягоны палёт зь дзявятага паверху, то думаю менавіта пра палёт, а не пра падзеньне. І чую, чую Юраў голас:

*Рассачыцца ў нябеснай сінечы,*
*Як мэтафары ў плыні радкоў?..*

У руках адна зь ягоных ужо трох пасьмяротных кнігаў — «Краіна нязьдзейсьненых мараў».

Так завецца краіна, у якой ён жыў.

**Юры Гумянюк**
24.9.1969, Горадня — 19.1.2013, Горадня.
Пахаваны на гарадзенскіх могілках Сакрэт.

Ён быў вогнепаклоньнікам, сябрам Расамахі й чалавекам-інстытутам.

У 1974-м спадар Міхась, ужо вядомы археоляг, кандыдат гістарычных навук і ўдзельнік клюбу патрыятычнай інтэлігенцыі «Акадэмічны асяродак», быў выгнаны з акадэмічнага Інстытуту гісторыі і зарабляў на хлеб грунтоўнікам палатна на вытворча-мастацкім камбінаце Саюзу мастакоў. Пра новую «пасаду» ён гаварыў з мудрым гумарам чалавека, непахісна ўпэўненага і ў сваёй праўдзе, і нават у тым, што ўсё будзе добра й мы да гэтага дажывем.

## Міхась Чарняўскі



Чарняўскі не памыліўся: імпэрыя, як ён і прадказваў нам, студэнтам-гісторыкам, калі эсэсэсэраўскі гмах яшчэ здаваўся непахісным, ляснулася, і мы дажылі да незалежнай Беларусі.

Ён ня проста прарочыў, а набліжаў гэты дзень. Зьбіраў, здавалася б, ужо не патрэбныя нікому аскепкі гісторыі, выхоўваў — ня толькі ў навуцы — вучняў, шукаў і падтрымліваў аднадумцаў.

Кладучы цаглінку за цаглінкай у падмурак новага Адраджэньня, Чарняўскі працаваў за дзесяцярых. Дасьледаваў каменны і бронзавы век у Беларусі. Вывучаў сярэднявечны Мядзел. Пісаў манаграфіі й кнігі для дзяцей (памятаю, як мае сыны Раман і Багдан упадабалі «Вогнепаклоньнікаў» і «Стралу Расамахі»). Рызыкуючы патрапіць за краты, вывез з Зэльвы і захоўваў да лепшых часоў «Споведзь» Ларысы Геніюш. Ствараў «Мартыралёг» і БНФ. Адраджаў нацыянальную сацыял-дэмакратыю.

З прыходам незалежнасьці справаў адно паболела.

Спадар Міхась браў удзел у падрыхтоўцы энцыклятпэдыяў, працягваў пісаць дзіцячыя кнігі, змагаўся за беларускамоўнасьць гістфаку БДУ, засноўваў арганізацыю «Вэтэраны Адраджэньня», адкрываў праўду пра антысавецкае падпольле на Мядзельшчыне і Смаргоншчыне.

Калі на пахаваньні заплакала дуда Зьмітра Сасноўскага, а ўсьлед за ёю не стрымаў сьлёзаў і сам славуты музыка, і загартаваныя, вядомыя ўсёй Беларусі людзі, — гэтая страта адчулася яшчэ глыбей...

Клічучы замуж будучую жонку Сьвятлану, Міхась папярэдзіў: «Давядзецца выбіраць — выберу не цябе, а Беларусь».

«І выберу Радзіму» — назваў ахвяраваны Чарняўскаму фільм яго сябар рэжысэр Валеры Мазынскі. У стужцы гучыць песьня «Ах, якія былі Пагоні», прысьвечаная лісоўчыкам, — лёгкай ліцьвінскай кавалерыі, што праславілася ў войнах з Расеяй на пачатку XVII стагодзьдзя. Тэкст і мэлёдыя створаныя Міхасём Чарняўскім, якому хапала таленту і на песьні.

*Ах, якія былі Пагоні!*
*Ах, якія былі баі!*
*Быццам птушкі, ляцелі коні*
*На чатыры канцы зямлі!*
*Мы Масковію шабляй мерылі,*
*Дзідай мерылі ціхі Дунай.*
*Даляцелі б і да Амэрыкі,*
*Толькі вельмі ж далёкі край...*
*Ах, якія былі Пагоні...*

Ах, якія былі Пагоні!..

**Міхась Чарняўскі**
7.3.1938, в. Круці, цяпер Мядзельскі раён —
20.1.2013, Менск.
Пахаваны ў в. Круці.

Адно з маіх наймацнейшых уражаньняў ад летніх вандровак па Беларусі зьвязанае з прынарачанскім возерам Глубля.

Мы ішлі па беразе, і раптам побач зь сьцежкаю сярод папараці вырас камень з словамі, што паведамлялі вусьцішную зьвестку: тут, атруціўшыся цыкутай, заручыўся зь зямлёю зусім малады хлопец Міхал.

Надпіс на гэтым незвычайным лясным помніку зьвяртаўся да падарожнікаў: «Памаліцеся за яго і беражыце сябе».

На мяне павеяла антычнасьцю і больш блізкай, сваёй гісторыяй — згадаліся сыход Сакрата й запаветы вальнадумцаў Каспара Бекеша й Казімера Лышчынскага.

## Міхал Шарамет



Але я ведаў і гэтае імя — Міхал Шарамет.

Я памятаў Міхала на чале маладафронтаўскай дружыны.

Ён стварыў вайскова-патрыятычную арганізацыю «Ваяр», якая сталася спадкаеміцай «Краю» і з канца 1990-х да сярэдзіны 2000-х абараняла ўдзельнікаў масавых акцыяў.

Колішні кіраўнік Маладога Фронту Павал Севярынец распавядае, што Шарамет быў сапраўдным прафэсіяналам сваёй справы: цудоўна ладзіў летнікі, вышкалы з палосамі перашкодаў, спартовыя турніры.

Іншага ягонага паплечніка — Сержука Бахуна — уражвала высокая Міхалава эрудыцыя, асабліва ў гісторыі й мове.

Кажуць, Шарамет пасьпяхова замяняў кампутар-

нага рэдактара: глянуўшы на беларускамоўны тэкст, адразу лавіў усе артаграфічныя й стылістычныя памылкі.

Міхал займаўся прамысловым альпінізмам, гэта значыць, выконваў заданьні на вышыні.



Помнік на месцы сьмерці Міхала Шарамета

Пэўны час ён працаваў у міністэрстве надзвычайных сытуацыяў. Ня раз выносіў людзей з полымя, але не любіў гаварыць пра гэта.

Калегі-ратавальнікі не здагадваліся, што побач зь імі выяжджае на выклікі адзін зь легендарных няўлоўных Міронаў, якія адважна ўздымалі нашы нацыянальныя сьцягі ў самых нібыта недаступных месцах.

Выратаваўшы многіх іншых, Шарамет ня змог уратавацца сам...

Ён быў зь сябрамі ў паходзе на байдарках. Прыхільнік мэтадаў экстрэмальнага выжываньня, Міхал, паводле завядзёнкі, шукаў ядомыя расьліны. У ручаіне ўбачыў некалькі каранёў, якія чамусьці здаліся яму вадзяным тапінамбурам.

Праз гадзіну яго беларускае сэрца спынілася.

Краіну, дзеля якой ён жыў, павінен убачыць Міхалаў сын Алесь.

**Міхал Шарамет**
27.2.1982, Менск —
21.4.2013, бераг возера Глубля, Мядзельскі раён.
Пахаваны на могілках у в. Захарычы, Менскі раён.

У той вечар я глядзеў у Купалаўскім тэатры спэктакль «Офіс». Там, у офісе, і адбывалася дзеяньне. Супрацоўнікі бясконца прыходзілі на працу, і з сцэны гучала: «Добрай раніцы! Добрай раніцы». Няма, падумалася мне, на іх Юры Бушлякова, які пераканаўча давёў, што ў нашым моўным этыкеце гэтае вітаньне не традыцыйнае, а — калька савецкіх часоў.

У гэты момант на тэлефон і прыйшло паведамленьне пра Юраву сьмерць.

Калі б у беларускім мовазнаўстве, як у спорце або палітыцы, гэтаксама існавалі рэйтынгі, Бушлякоў, у маім уяўленьні, заўсёды знаходзіўся б, калі не на самым высокім месцы, то, прынамсі, не ніжэй за першую тройку.

## Юрась Бушлякоў



Ён наогул быў зорным — спачатку хлопчыкам, потым мужчынам. Скончыў з чырвоным дыплёмам філфак Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, дзе ў 1990-м стаў, па словах сябра й аднагрупніка Валера Булгакава, амбасадарам беларушчыны. Абараніў бліскучую дысэртацыю на тэму «Моватворчая практыка Янкі Станкевіча».

Пералік месцаў, дзе Бушлякоў працаваў, уражвае: Белдзяржунівэрсытэт, Беларускі гуманітарны ліцэй, Радыё 101,2 і Радыё «Рацыя», газэта «Наша Ніва», Радыё Свабода, Карлаў унівэрсытэт у Празе.

Хтосьці зь людзей недасьведчаных раптам падумае: «Ну вось, нейкі лятун». Для такіх тлумачу: незалежнае Радыё 101,2 «часова», што пры цяперашнім рэжыме азначала назаўжды, пазбавілі этэру (узятае Юрам у

мяне інтэрвію трапіла ў лік апошніх передачаў), ліцэй афіцыйна зачынілі...

Ягоны талент журналіста і мовазнаўцы ў адной асобе, ды яшчэ разам зь непаўторным аксамітным голасам, стаў для Беларускай службы Радыё Свабода дарагім падарункам. Праграму Бушлякова «Жывая мова» я таксама не магу назваць іначай, чым зорнай.

Юрась нічым не нагадваў чалавека, цалкам зацыкленага на сваім асноўным занятку.

Ён знаходзіў час на клясныя літаратурныя пераклады — Эдгара Алана По, Чэслава Мілаша, Зьбігнева Гэрбэрта, Вітальда Гамбровіча, Яраслава Сэйфэрта. Быў жывой спартовай энцыкляпэдыяй, беспамылкова ўзгадваючы не адных чэмпіёнаў і прызёраў, але і пераможцаў у асобных футбольных гульнях, агульны лік і аўтараў галоў.

З старэйшых клясаў, калі Юрась лічыўся найлепшым вучнем на ўроках фізкультуры і натхнёна «цягаў жалеза», ён быў увасабленьнем чалавека вельмі моцнага фізычна.

І тут — тая радзімка, што змусіла зьвярнуцца да мэдыкаў.

Пэсымістычны прагноз адводзіў яму ўсяго год. Юра змагаўся чатыры. І як ваяваў! Акурат у гэты час каханая жанчына Таццяна нарадзіла яму сына Яна Міхала.

Жыцьцё Юрася Бушлякова працягваецца і ў кнізе «Жывая мова», якую ён дасканаліў да сваіх самых астатніх дзён.

Кажуць, любой моваю можна авалодаць за тры месяцы, адно родную трэба вучыць усё жыцьцё. Цяпер я займаюся гэтым зь Юравай кнігай.

**Юрась Бушлякоў**
29.5.1973, Менск — 4.6.2013, Менск.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

## Арлен Кашкурэвіч

Мы гулялі з сынам па беразе возера ў ваколіцах Нясьвіскага замку. «Тата, тата! — захоплена крычаў малы Ромусь. — Глядзі, качкі!» Да нас падышла прыгожая шляхетная пара: «Вы гаворыце па-беларуску?..»

Так пачалося знаёмства з геніяльным графікам, які ў юнацтве быў хуліганам, блізка знаўся з крымінальнікамі і зьбіраўся стаць пісьменьнікам.

Было шчасьцем бываць у Кашкурэвічаў дома і — падняўшыся на некалькі паверхаў — у майстэрні мэтра. Я слухаў мудрыя маналёгі пра беларускія абразы, пра даваенны і пасьляваенны Менск (у сучасным ён адчуваў сябе чужаніцай), пра тое, што мастацтва кнігі памірае, пра більярд, у які ён некалі гуляў (уваччу адразу паўстае самотны більярдыст на адным зь ягоных графічных аркушаў, які я назваў бы працінальна-бязьлітасным)...

Рэчаіснасьцю для яго была ня столькі сучаснасьць, колькі мінулае, ажно да біблійных часоў. І — мастацкая рэальнасьць літаратурных твораў. Ён ня проста ўжываўся ўва ўсе гэтыя сьветы, а жыў там.



Іначай ён ня стаў бы аўтарам сэрыяў «Купаліяна», «Асьветнікі», «Сьвятыя зямлі Беларускай». На «віялянчэльны», невымоўна энэргетычны і эратычны «Concerto Grosso», які гучаў на галерэі Нацыянальнага мастацкага музэю, я гатовы быў хадзіць штодня.

Каб ня тыя падарожжы ў прасторы й часе, — не нарадзіліся б непаўторныя, адразу клясычныя малюнкі да «Фаўста» Гётэ, «Песьні пра зубра» Міколы Гусоўскага, «Найвышэйшай песьні Салямонавай».

Ілюстрацыямі да нашай клясыкі Кашкурэвіч упэўнена ствараў для яе эўрапейскі кантэкст. Гэта пра такіх творцаў кажуць, што яны ілюструюць ня тэкст, а падтэкст. Я дадаў бы, што ён і сам уносіў у літаратурны твор новыя нечаканыя гучаньні.

Ён блізка сябраваў з такім самым арыстакратам духу Караткевічам. Той сказаў пра сябра: «Мастак суровы, паўночны. І адначасова мяккі, добры, наш».

Плёнам супрацы двух майстроў сталася бліскучае афармленьне «Дзікага паляваньня караля Стаха», «Чазеніі», «Ладзьдзі роспачы», «Каласоў пад сярпом тваім». Машынапісны арыгінал «Каласоў» — з рэдактарскімі заўвагамі й дасьціпнымі адказамі аўтара на палях — спадар Арлен захоўваў у сваёй майстэрні і за пару месяцаў да сыходу перадаў празь мяне ў аршанскі музэй пісьменьніка.

Ён быў шчасьлівы з жонкаю Людмілай, адоранай мастачкай, якая стварыла адметныя лялькі-патрэты гістарычных асобаў. Іх сыны Ігар і Тодар — таксама мастакі. Другі вядомы і як этнакультуроляг, пачынальнік у Беларусі сучаснага дударскага руху.

Спадар Арлен штодня побач: над кампутарам малюнкі да маёй кнігі «Рандэву на манэўрах» і — дапытлівы суворы позірк ягонай «Сьвятой Эўфрасіньні».

**Арлен (Арсен) Кашкурэвіч**

15.9.1929, Менск — 26.8.2013, Менск.

Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

Мяне нязьменна кранае Віктараў краявід старадаўняга Віцебску з маёй невялікай мастацкай калекцыі. Гэтыя дзьвінскімя паплавы і незруйнаваныя храмы калісьці нагадалі бунінскаму герою «Жыцьця Арсеньнева» гішпанскае Таледа, а мне прыводзяць на памяць словы Напалеона Орды пра нашу ліцьвінскую цывілізацыю, што пасьлядоўна зьнішчалі расейскія калянізатары.

Сам Віктар, дарэчы, лічыў, што гістарычны ляндшафт ёсьць мэтафізычнай прастораю матэрыяльных і духоўных скарбаў, чыя значнасьць ніколі не абясцэньваецца і ня ведае межаў у часе.

## Віктар Маркавец

Маркавец быў сябрам дысыдэнцкай суполкі менскай інтэлігенцыі «На паддашку». У ягонай майстэрні на старой, яшчэ ня зьнесенай вуліцы Дзімітрава адбываліся нелегальныя імпрэзы кшталту вечарыны памяці Івана Луцкевіча, якая ў 1981 годзе сабрала некалькі дзясяткаў маладых удзельнікаў. На пачатку дзейнасьці Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» там праходзілі амаль усе паседжаньні Сойму.

Віктар стаў адным з заснавальнікаў незалежнай мастакоўскай суполкі «Пагоня» і заслаўскага аб’яднаньня «Мастак».

З намі ягоныя працы: жывапіс (найперш геніяльнае «Сьвята ў Докшыцах»), габэлены, маляваныя дываны, бо Віктар належаў да шанавальнікаў спадчыны Язэпа Драздовіча і Алены Кіш.

Ён стварыў партрэты Францішка Скарыны, Сымона Буднага, Уладзіслава Сыракомлі, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і яго дачкі Камілы — таленавітай артыстычнай натуры і адчайнай патрыёткі.

Цэлую сэрыю прысьвяціў Кастусю Каліноўскаму, якім усё жыцьцё захапляўся і натхняўся.

Уражваюць глыбінёю і шматстайнымі значэнь-



нямі «Прадзедава сяўня» і шматлікія «імпрэсіі Заслаўя», а таксама карціны «На доле. Звон» (своеасаблівы рэквіем разбураным храмам і зламаным лёсам) і «Апошнія ліхтары». Віктар называў іх карцінамі-рэчавідамі і, паводле мастацтвазнаўцаў, пераводзіў гэтыя творы з жанру пабытовага натурморту ў статус архетыпаў сакральнай значнасьці. Рэчавіды — бо свае артэфакты мастак уяўляў сьведкамі гістарычнага шляху народу.

Добра вядомая ў літаратурных і мастацкіх колах супраца Віктара Маркаўца з паэтам Алесем Разанавым.

Яе плёнам сталіся авангардныя праекты «Яйкаквадраты», «Ісвы», «ZBANABZ», «Функцыянальныя кантэксты».

Віктару часам рабілася цесна ў мастацтве, і тады ён поплеч з жонкаю-мастачкаю Тацянай Гаранскай ствараў у Менску арт-кавярню «Добрыя мысьлі», будаваў у Заслаўі царкву ў гонар Сабору Беларускіх сьвятых. Творцаў з розных сфэраў прыцягвала Віктарава лецішча ў Вайшкунах на загадкавым возеры Балдук.

Калега Адам Глобус напісаў, што Маркавец «быў спакойным, як зямля, жывапісцам сьветлай раніцы».

Якраз такая мэтафізычная раніца на краявідзе, зь якім я спадзяюся сустрэць яшчэ нямала дзён.

**Віктар Маркавец**
5.8.1947, Докшыцы — 17.9.2013, Менск.
Пахаваны ў Докшыцах.

Нас прывезьлі на «казьле» ў пастарунак, і сяржант кінуўся зрываць у мяне з шыі керамічны мэдальён. Другі служака ў форме заняўся Віктарам. Баронячыся адной рукой, другой я спрабаваў выцягнуць з кішэні пісьменьніцкае пасьведчаньне. Віктар абараняўся абедзьвюма рукамі. «Вы ведаеце, што вам сьвеціць за супраціў міліцыі!» — роў сяржант. І тут мне нарэшце ўдалося тыцнуць яму ў твар чырвоную кніжачку з надпісам «Союз писателей СССР».

Тады такія дакумэнты дзейнічалі. Мы былі вызваленыя і пасьпелі на дзьвінскі бераг да старту ладжанага моладзьдзю воднага ралі «Дзьвіна — Даўгава», што было пратэстам супроць будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС. Мэдальёны ўдзельнікаў акцыі засталіся пры нас, як і чырвоныя пісягі на шыях, якія потым доўга мянялі колеры. Гэта было нашае зь Віктарам першае затрыманьне. Ішоў 1987 год.

# Віктар Івашкевіч

Потым, калі ён, журналіст паводле адукацыі, канчаткова абраў палітыку, у яго гэтых затрыманьняў рабілася ўсё болей. І ня проста затрыманьняў, але судоў, адседак у турме на Акрэсьціна.

У 1988-м Віктар займаўся арганізацыяй аднОй зь першых чарнобыльскіх акцыяў пратэсту — экалягічнага маршу па Прыпяці. Праз год ладзіў забастоўку кіроўцаў менскіх аўтобусаў. Увесну 1991-га ствараў страйкамы. Ужо існаваў БНФ, у якім Івашкевіч ад самага пачатку быў у ліку лідэраў.

Да 1996 году ён працаваў сакратаром фронтаўскай управы на тагачаснай вуліцы Варвашэні і кожны дзень уздымаў над уваходам бел-чырвона-белы сьцяг. Віктар адказваў за масавыя акцыі й фінансавае забесьпячэньне Фронту.

Станіслаў Шушкевіч сьцьвярджае, што лепшага арганізатара, чым Івашкевіч, ён проста ня ведае. Дый сярод «апанэнтаў», бясспрэчна, хапае людзей, якія



былі б з гэтым згодныя: працу ім Віктар падкідваў рэгулярна.

Пяць гадоў ён рэдагаваў газэту «Рабочы», дзе быў апублікаваны артыкул «Злодзей павінен сядзець у турме», за што рэдактар атрымаў у 2002-м два гады «хіміі» па абвінавачваньні ў паклёпе на «аўгусьцейшую» асобу.

2007—2009-я гады Івашкевіч аддаў пасадзе намесьніка старшыні партыі БНФ, потым кіраваў яе менскай гарадзкой арганізацыяй. На прэзыдэнцкіх выбарах 2010 году стаў даверанай асобай кандыдата ад «Эўрапейскай Беларусі» Андрэя Саньнікава.

Герой — той, хто і паразу сустракае з высока ўзьнятай галавой. У апошнія гады міліцыя не забірала Віктара з вулічных акцыяў або з дому з адной-аднюткай прычыны: там ведалі, што Івашкевіч сьмяротна хворы і можа памерці проста ў варанку...

**Віктар Івашкевіч**

21.9.1959, Менск — 3.10.2013, Менск.

Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

# Уладзімер Кулажанка

У вялікай сялянскай сям'і Кулажанкаў бацькі былі адначасова добрымі гаспадарамі і добрымі пэдагогамі. Яны здолелі выхаваць у дзяцей працавітасьць, мэтанакіраванасьць, павагу да роднага, спрадвечнага. Усе дзявяцера атрымалі вышэйшую адукацыю і дасягнулі жыцьцёвага посьпеху. Гонарам сям'і стаў Уладзімер.

Ён быў бацькам майго найлепшага сябра Генадзя, чыё кароткае яркае жыцьцё пазьней абарвалася ў Аўганістане, і першым сапраўдным беларускім інтэлігентам, якога я сустрэў. Кулажанка-старэйшы памятаецца мне ня проста чалавекам, бліскуча дасьведчаным у абранай сфэры — эканоміцы. Ён зайздросна ведаў беларускую літаратуру і гісторыю. І — што ў тыя глухія для беларушчыны 1970-я найбольш уражвала — Уладзімер Андрэевіч і ў сям'і, і на ўнівэрсытэцкай катэдры, і ў кнігарні, і ў кавярні, паўсюль пасьлядоўна гаварыў пабеларуску. Тады для гэтага патрабавалася не абы-якая мужнасьць, бо ў Менску маіх студэнцкіх гадоў мова вельмі часта выклікала ў абываталя агрэсію, абразы — «дзярэўня», «калгасьнік», а то й «нацыст».

У той далёкі час ён ужо быў беларускім незалежнікам. Ад яго мы з Генадзем ня раз чулі: усе імпэрыі разваліліся, сканае й савецкая. «За гэта і вып'ем!» — казаў ён за сваім шчодрым сталом, дзе падкормліваў галаднаватых студэнтаў.

Ад яго мы даведаліся пра выгнаньне Аляксандра Салжаніцына. Кулажанка-старэйшы пракамэнтаваў навіну так: «Аднаго з апошніх сумленных людзей выкінулі з краіны». Тое самае ён сказаў назаўтра і на паседжаньні катэдры, пра што хтосьці з калегаў руплівa данёс у органы...

Калі мы з Генадзем пачалі выпускаць на гістфаку БДУ самвыдавецкі альманах «Мілавіца», Кулажанка-старэйшы быў адным зь першых чытачоў.



Свае інтэлігентнасьць і беларускасьць ён перадаў і дочкам Людміле й Вользе. Яны разам з бацькам дачакаліся, калі зьдзейсьнілася ягоная мара і Беларусь стала незалежнай. Спадару Ўладзімеру было ўжо далёка за шэсьцьдзесят, але да яго прыйшло магутнае другое дыханьне.

Доктар эканамічных навук Кулажанка стаў першым беларускім вучоным, які пачаў прапагандаваць перавагі рынкавай эканомікі. Ён меў сталую рубрыку ў газэце «Народная Воля», вёў адмысловую перадачу на Радыё Свабода. У 1993—1996 гадах спадар Уладзімер уваходзіў у склад ценявога кабінэту апазыцыі БНФ, а на прэзыдэнцкіх выбарах працаваў у камандзе Пазьняка.

Ягоныя вучні — сярод іх адзін доктар і 36 кандыдатаў навук — згадваюць, што Кулажанка вучыў адчуваць асалоду ад навуковага пошуку, аддаваць, нічога не чакаючы ўзамен. На чале з самім прафэсарам студэнты ня раз хадзілі на Плошчу. Кулажанка любіў словы Шылера, што годнасьць палягае ў тым, каб дух супрацьстаяў інстынкту.

Апошні раз мы бачыліся ў кнігарні. Ён з пакункам набытых беларускіх кніг дапытваўся ў прадавачкі, дзе ў іх збор твораў Васіля Быкава.

**Уладзімер Кулажанка**
10.6.1926, в. Косель, Кармянскі раён —
2.11.2013, Менск.
Пахаваны на могілках у пас. Калодзішчы, Менскі раён.

## Міхал Жызьнеўскі



Жыць дзеля высокай ідэі цяжэй, чым за яе памерці. Магчыма, я цалкам пагадзіўся б з такой думкаю, каб не адно але. Гісторыя сьведчыць, што — каб жыла сама ідэя — за яе хтосьці павінен паміраць.

Гаворка пра свабоду.

Мы не былі знаёмыя зь Міхалам, хоць ён зь ягонай цікавасьцю да гісторыі мог бываць на маіх сустрэчах з гомельскімі чытачамі.

Пасьля школы хлопец вучыўся на газазваршчыка, рэканструяваў сярэднявечныя панцыры ў рыцарскім клюбе, займаўся каратэ і... дапамагаў свайму духоўнаму настаўніку айцу Ўладзімеру падчас набажэнстваў у царкве. Міхал не хаваў плянаў пасьля службы ў войску пайсьці ў Жыровіцкі манастыр. Усё сьведчыла пра неардынарнасьць асобы й абяцала нешараговы лёс.

І раптам сямнаццацігадовы Міхал загадкава зьнік. Родныя спрабавалі знайсьці яго нават праз тэлеперадачу «Чакай мяне». Наконт таго, чаму ён пакінуў родны дом, існуюць розныя вэрсіі. Можа, я і памыляюся, думаючы, што юнак шукаў свой шлях. Або шлях — яго.

Але ўрэшце яны знайшлі адзін аднаго.

Бацькі даведаліся, што сын у Ўкраіне. Міхал уступіў у вядомую радыкальную арганізацыю ЎНА-ЎНСО. Сябры кажуць, што Жызьнеўскі, які ў гонар героя скандынаўскай міталёгіі ўзяў сабе мянушку Локі, быў сапраўдным байцом, аднак ніколі не выкарыстоўваў сілу без патрэбы і меў абвостранае імкненьне да праўды. А яшчэ ўсе згадваюць, што ён

меў улюбёную ўкраінскую песьню — «Гей, пливе кача по Тисині» і дзівосна сьпяваў яе.

У падзеях украінскай рэвалюцыі, што застануцца ў гісторыі як Эўрамайдан, Міхал браў удзел ад першых дзён. Ён ахоўваў занятыя пратэстоўцамі будынкі, дзяжурыў у намётах, зьбіраў самую сьвежую інфармацыю для газэты «Соборна Київщина».

Пасьля жорсткага разгону і зьбіцьця студэнтаў сіламі спэцназу атмасфэра Майдану, якую раней параўноўвалі з карнавальнай, рэзка зьмянілася.

Беларус Жызьнеўскі стаўся другой ахвяраю ў ліку тых, каго ўкраінцы назавуць «Нябеснай сотняй». На шасьцідзясяты дзень пратэстаў, у часе сутыкненьняў зь «Беркутам» на вуліцы Грушэўскага, куля снайпэра, прабіўшы драўляны шчыт, трапіла Міхалу ў сэрца.

Кіеў разьвітваўся зь ім на 26-ты дзень нараджэньня. Паэт і палітык Уладзімер Някляеў, які ішоў у жалобнай працэсіі, казаў пра 100 тысяч удзельнікаў, якія раз-пораз пачыналі скандаваць: «Дзякуй, Беларусь!»

Пахаваньне Міхала Жызьнеўскага ў роднай беларускай зямлі сабрала блізу пяцідзесяці чалавек. Ягонае цела накрылі сьцягам УНА-ЎНСО, а труну — бел-чырвона-белым палотнішчам.

Прэзыдэнт Пятро Парашэнка асабіста ўручыў Міхалавым бацькам ордэн Героя Нябеснай сотні, а пазьней сваім указам пасьмяротна надаў яму званьне Героя Ўкраіны.

Побач зь месцам гібелі Міхала — помнік. Пад вечна маладым абліччам героя высечаныя словы:

*По серце в крові Україна.*
*По очі в сльозах Білорусь...*
*Коли убивають сина —*
*Тоді оживає дух...*

**Міхал Жызьнеўскі**
26.1.1988, Гомель — 22.1.2014, Кіеў, Украіна.
Пахаваны ў в. Сьцяг Працы, Гомельскі раён.

# Генадзь Грушавы

Ці лёгка чвэрць стагодзьдзя быць своеасаблівай візытоўкаю дзяржавы ў дзясятках краінаў? Асабліва калі вы ня проста мільгаеце на самітах, канфэрэнцыях і фэстывалях, а — шукаеце дапамогу мільёнам людзей, што трапілі ў бяду.

Адказ на гэтае пытаньне мог даць Генадзь Грушавы, чалавек, імя якога ў нашай краіне ведаў, бадай, кожны.

Ён быў філёзафам, доктарам навук, дасьледаваў гісторыю філязофіі й грамадзка-палітычнай думкі часоў Адраджэньня й Асьветніцтва, больш за сорак гадоў выкладаў у Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце. Але сталася так, што ў найноўшайгісторыі Генадзь застанецца не сваімі навуковымі штудыямі, а дзякуючы таму, што, адклаўшы манаграфіі, узяўся ратаваць цэлую нацыю. У гэтым для яго палягала найвышэйшая філязофія.

У 1989-м ён узначаліў «чарнобыльскі» камітэт Беларускага Народнага Фронту, адным з арганізатараў якога быў.

Праз год Грушавы, ужо дэпутат Вярхоўнага Савету і сябра Апазыцыі БНФ, ператварыў камітэт у дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобылю».

Ёсьць людзі роздуму (датычна філёзафа лепей сказаць — здумленьня), людзі дзеяньня і людзі выніку. Генадзь адпавядаў усім гэтым характарыстыкам, але найперш ён, замяняючы сабой цэлыя міністэрствы, камісіі ды камітэты, быў чалавекам фантастычнага выніку.

Ня мэдыкі, а філёзаф Грушавы зьвярнуў увагу чалавецтва на маштабы чарнобыльскай катастрофы і неабходнасьць ратаваць генафонд найбольш пацярпелай краіны.

За пэрыяд дзейнасьці Фонду дапамогу ад яго атрымалі больш за два мільёны жыхароў Беларусі. Сотні тысяч дзяцей прайшлі рэабілітацыю й азда-



раўленьне за мяжой, пабачыўшы, апрача лекаваньня, і жыцьцё ў вольным сьвеце.

Мо якраз з гэтае прычыны дзяржаўныя структуры паглядалі на Фонд як на канкурэнта. У другой палове 1990-х праз пагрозу арышту і сам Генадзь мусіў на цэлы год зьехаць «на аздараўленьне» ў Нямеччыну.

На прэс-канфэрэнцыі, якую Грушавы склікаў у сьнежні 2012-га (акурат у той дзень, калі дваццаць тры гады таму першая група дзяцей паляцела лекавацца за мяжу), ён паведаміў, што Фонд спыняе працу: «Мы павінны былі падняць гэтае правінцыйнае грамадзтва на дзейнасьць, зьвязаную з самадапамогай, з тым, каб ратаваць дзяцей уласнымі сіламі, і мы таго дасягнулі. Прыйшоў час іншых праектаў».

Апошні раз мы бачыліся зь ім у вузкім коле, дзе абмяркоўвалася ідэя скліканьня Другога кангрэсу ў абарону незалежнасьці. Я ня ведаў, што ўжо некалькі гадоў Генадзь хворы на лейкемію...

**Генадзь Грушавы**
27.7.1950, Менск — 28.1.2014, Менск.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

Пазнаёміў нас адзін зь ягоных улюбёных і ўдзячных выхаванцаў Сяргей Цімохаў, які стаў выдатным мастаком, трагічна-заўчасна пайшоў у іншы сьвет і які таксама — сярод герояў гэтае кнігі. Настаўніка і вучня зьвязвала і тое, што абодва паходзілі з Палесься, чые зямля, нябёсы, барвы і міты паўплывалі на творчасьць абодвух.

Мастацкую адукацыю Вашчанка атрымаў у Ўкраіне. У Кіеўскай вучэльні прыкладных мастацтваў сярод яго пэдагогаў і старэйшых сяброў быў вядомы прафэсар Мікалай Прахаў. На трэцім курсе Гаўрылу ўжо запрасілі рабіць росьпісы ў будынку ўкраінскага

## Гаўрыла Вашчанка



Вярхоўнага Савету, а пасьля абароны дыплёмнай працы накіравалі на кінастудыю імя Даўжэнкі. Вялікі ўплыў на сьветапогляд і прыярытэты Вашчанкі зрабіла атмасфэра Львова, дзе ён пазьней скончыў Інстытут прыкладнога і дэкаратыўнага мастацтва. Потым была праца ў Малдове: выставы, прэміі, ляўрэацкія званьні... Але душы не ставала чагосьці надзвычай істотнага, лёсавызначальнага.

Сапраўдным творцам, прызнаваўся потым Вашчанка, адчуў сябе, толькі пераехаўшы на радзіму, у Менск. Менавіта тут было знойдзенае ўласнае разуменьне плястыкі, свой почырк. Паваротнай для грамадзянскага самасьцьверджаньня стала карціна «Маё Палесьсе».

У яго былі выразныя непаразуменьні з сацрэалізмам. Застойнымі часамі Вашчанка ствараў партрэ-

ты Міколы Гусоўскага, Кірылы Тураўскага, Сымона Буднага... «На свае страх і рызыку» (так і было сказана ў кабінэце міністра культуры) працаваў над цыклем «Асьветнікі» (1976). Нацыянальная ідэя магутна пульсавала ў трыптыху «За зямлю, за волю» (1983), прысьвечаным паўстаньню Каліноўскага. На выставе да 40-годзьдзя перамогі над нацызмам, устурбаваўшы чыноўнікаў ад мастацтва, майстар выставіў палатно «Грунвальдзкая бітва». Існуе легенда, у якую цалкам хочацца паверыць: нібыта цудоўныя вітражы Вашчанкі для Дому кіно, што месьціўся тады ў Чырвоным касьцёле, уразілі Машэрава і не далі ходу пастанове пра руйнаваньне храму.

Вашчанка ўмеў сябраваць. Блізкія стасункі зьвязвалі маэстра з манумэнталістам Аляксандрам Кішчанкам. Спадар Гаўрыла перацягнуў яго з Украіны ў Беларусь, вельмі высока цаніў, а за шматлікія сябравы небыліцы называў таго Мюнхгаўзэнам. А вось сяброўства зь Міхаілам Савіцкім назаўжды скончылася, калі той выставіў сваю сэрыю «Лічбы на сэрцы», ад якой, апрача каньюнктуры, патыхала і антысэмітызмам.

Ён не трываў ніякага прымусу і, хоць меў высокія званьні і ўзнагароды, вітаў распад савецкай імпэрыі, дзе, як сказаў тады ў інтэрвію, «заўсёды душылі свабоду, а свабода і незалежнасьць — даражэйшыя за ўсё на сьвеце».

Ён любіў опэру, фэхтаваньне, падарожжы, часам слухаў рок-музыку.

На самым краёчку жыцьця папрасіў сына-мастака Кастуся пасадзіць яго да начнога вакна і глядзеў на поўню.

**Гаўрыла Вашчанка**
20.6.1928, в. Чыкалавічы, Брагінскі раён —
14.2.2014, Менск.
Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

## Рыгор Барадулін



Першая сустрэча зь ім здарылася безьліч гадоў таму ў маім родным, дый яму блізкім і дарагім Полацку, што Рыгор Іванавіч называў «цемечкам нацыі», па якім ворагі Беларусі адвеку імкнуліся ўдарыць як наймацней.

Тады на разьвітаньне Барадулін, на якога я, амаль яшчэ бязвусы і безбароды аўтар трох вершаў і двух апавяданьняў, глядзеў, быццам на Бога, неспадзявана падараваў мне капялюш. Ці то знойдзены ў гатэльным нумары, ці то свой — зразумець гэта зь бясконцых жартаў дзядзькі Рыгора было немагчыма. «Насіце, Валодзечка, на добрае здароўе ды на добрае натхненьне», — даў наказ дзядзька Рыгор.

Можа, і жыцьцё склалася б іначай, каб ня гэты капялюш, які я насіў, пакуль ня выдаў свой дэбютны зборнік прозы.

Уладзімер Някляеў у прадмове да адной з апошніх прыжыцьцёвых кніг майстра даў яму бліскучую, на мой погляд, характарыстыку: «Роўных Рыгору Барадуліну няма сярод сучасьнікаў. Хрышчоны ў вуніяцтве, ён называе сябе крывічом і кшчоным паганцам. Называе нездарма, бо ўвабраў у сябе жыцьцядайны крывіцкі дух, удыхнуўшы зь ім усю нашу мову. Ён — адзіны беларускі паэт, які існуе толькі ў мове і выключна ў ёй. Існуе гэткім жа цудам, якім сама мова існуе ў пабураным — або дасюль ня створаным — беларускім сьвеце».

Калі паэт разлучыўся з душой, мне хацелася плакаць.

Але я не заплакаў.

Не дазволіла непаўторная, далібог, боская барадулінская ўсьмешка, што сьвеціцца й будзе сьвяціцца ўва мне давеку.

Не дазволілі ягоныя геніяльныя вершы, што несьціхана гучаць, хвалююць, здаецца, даўно ўжо зрабіўшыся часткаю маёй фізычнай істоты.

*Лілею млявы плёс люляе...*

*Ад «ня трэба, ня трэба», да «сьвятла патушы»...*

*Ноч — пасланая Богам ісьціца...*

Калісьці я напісаў прозаю пра адметны полацкі мэнталітэт. Барадулін адгукнуўся аднайменным вершам. Радкі зь яго ўвекавечаныя цяпер у Полацку на матэрыяльным увасабленьні нашай літары «Ў»:

*Ад ЕЎфрасіньні, ад Скарыны,*
*Ад Полацка пачаЎся сьвет...*

У тым вершы Рыгор Барадулін назваў нашых знакамітых папярэднікаў, продкаў цэлай беларускай нацыі, «небачолымі».

Ён і сам — з гэтых небачолых, што будуць з намі, пакуль будзе Беларусь.

А яна будзе.

Бо былі й будуць яны.

**Рыгор Барадулін**
24.2.1935, хутар Верасоўка, Вушацкі раён —
2.3.2014, Менск.
Пахаваны ў Вушачах.

Аўтары ўсяго толькі пішуць кнігі, робяць іх — рэдактары.

У нас мноства помнікаў пісьменьнікам, і ніводнага — рэдактару. Калі гэтая несправядлівасьць будзе нарэшце выпраўленая, я хацеў бы ўбачыць у вобразе бронзавага Рэдактара незабыўнага Ўладзімера Дамашэвіча.

Часам здаецца, што ён быў рэдактарам ледзь ня ўсёй сучаснай беларускай літаратуры, прынамсі, той, якая чытаецца й перачытваецца, — пачынаючы ад Быкава, Караткевіча, Адамчыка.

Мне таксама выпала шчасьлівая карта: Дамашэвіч

## Уладзімер Дамашэвіч



стаў рэдактарам маіх першых опусаў і, адрозна ад большасьці сваіх тагачасных калегаў, ніколі ня браў на сябе цэнзарскіх паўнамоцтваў. Як пісьменьнік ён сам ня раз рабіўся ахвяраю цэнзарскіх нажніцаў, а дакладней — сякеры, што высякала цэлыя выпакутаваныя кнігі. Дастаткова згадаць мужны раман Дамашэвіча «Камень з гары», які ня мог дакаціцца да чытача цэлыя два дзесяцігодзьдзі.

Праз розьніцу гадоў і досьведаў я ня меў магчымасьці зрабіцца ягоным сябрам, але ўдзячны лёсу, што Максімавіч, як ён дазваляў сябе называць яшчэ з «маладосьцеўскіх» часоў, заўсёды трымаў мяне ў полі цёплай увагі ды ветлівай цікавасьці.

Напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў 2006 году ён патэлефанаваў мне з прапановаю тэрмінова сустрэцца. «Не начуйце дома. Будуць браць, — папярэдзіў

Максімавіч у адным глухім двары. — Зьвесткі з дакладных крыніц. Усюды ёсьць нашы людзі». Я сказаў, што буду адбівацца. Дамашэвіч не падтрымаў легкаважнага тону і на разьвітаньне паказаў сьпіс людзей, якіх ён яшчэ павінен быў засьцерагчы ад арышту.

Трэба сказаць, што я не паслухаўся і начаваў дома. Праз колькі дзён узялі падчас разгрому намётавага мястэчка на плошчы Каліноўскага майго сына Багдана, які ў выніку прайшоў «школу» ў менскай турме на вуліцы Акрэсьціна.

Браць у кватэрах пачалі праз чатыры гады — у сьнежні 2010-га.

У 1980-я гады дый раней на пісьменьніцкіх зьездах і сходах Дамашэвіч востра выступаў супроць русіфікацыі.

А яшчэ — быў час — ён ваяваў з сакратаром Саюзу пісьменьнікаў Іванам Чыгрынавым, адказным за працу з маладымі літаратарамі.

Максімавіч некалькі разоў публічна прапаноўваў Чыгрынаву зьняць з выдавецкіх плянаў шматлікія ўласныя выданьні й перавыданьні — на карысьць першых кніг маладых калегаў, а затым выклікаў яго за адмову на дуэль.

Усё, здаецца, скончылася прыкладна так, як гісторыя з выклікам на двубой, пасланым у гады Інфлянцкай вайны вялікім князем і каралём Стэфанам Баторыем Івану Жахліваму.

Але, як бы там ні было, Уладзімер Дамашэвіч, апрача ўсяго іншага, застаўся ў гісторыі й як апошні дуэлянт беларускай літаратуры.

**Уладзімер Дамашэвіч**
17.2.1928, в. Вадзяціна, Ляхавіцкі раён —
30.4.2014, Менск.
Пахаваны на менскіх Заходніх могілках.

Вы ведаеце, што такое Камэлот? Так, слушна, гэта замак караля Артура, дзе знаходзіўся ягоны круглы стол, за якім зьбіраліся найвядомейшыя рыцары Эўропы. Але ўсьлед за гэтым чалавек, абазнаны ў нашай сучаснай музыцы, адразу скажа: а яшчэ «Камэлот» — папулярны ў першай палове 1990-х этна-рок-гурт.

Яго лідэрам быў Зьміцер Сідаровіч, асоба, што спалучала ў сабе рэчы амаль несумяшчальныя. Атрымаўшы дыплём Беларускага політэхнічнага інстытуту, інжынэр-будаўнік Сідаровіч абараніў дысэртацыю й да апошняга працаваў па спэцыяльнасьці, але заўсёды пісаў песьні.

# Зьміцер Сідаровіч

У сярэдзіне 1980-х, пасьля паездкі на Беласточчыну і сустрэч з тамтэйшымі беларусамі, ён, ужо даволі вядомы бард, перайшоў на нашую мову і праславіўся немудрагеліста-шчыраю песьняй «Які ж я беларус?», якую натхнёна сьпявала ўся адраджэнская моладзь: *Які ж я беларус, / скажыце мне, панове, / калі я гавару паўсюль на рускай мове?...*

Але ён быў створаны для песьняў іншага кшталту. Зьмітра вабілі Сярэднявечча, Вялікае Княства Літоўскае, вольны дух рыцарства. Разам з такімі ж маладымі музыкамі Ігарам Войнічам, Валянцінам Агеевым і Алесем Кішкіным, якія захапляўся Толкінам, што было якраз у тэму, Зьміцер і стварыў «Камэлот».

Яны гралі выключна акустычную музыку — на гітарах, флейтах, бубнах, віялянчэлі, скрыпках, клявэсыне, дудзе, чэлесьце... Заплюшчыўшы на канцэрце вочы, можна было ўявіць, што ты ў віленскім вялікакняскім палацы Жыгімонта Аўгуста.

«Камэлот» выпусьціў усяго адзін альбом «У Краіне талераў», затое песьні зь яго хутка пачалі ўспрымацца як сучасныя апрацоўкі старадаўніх народных, створаных у асяродзьдзі жаўнераў або месьцічаў — «Грай, дудар!», «А дзе ж тыя ваяры?», «Ясна панна мая».



Вы, напэўна, іх слухалі, а мо й сьпявалі разам: *Ясна панна мая, / сонцу час прачынацца...*

Пасьля рэфэрэндуму 1996 году гурт, па сутнасьці, распаўся. Сябры прыгадваюць, што тыя падзеі выклікалі ў Зьмітра глыбокі і доўгі крызіс.

Але ён вярнуўся да творчага жыцьця і, быццам прадчуваючы, што часу няшмат, зьяўляўся на людзях у розных ролях. Запісваў песьні з гуртом «Стары Ольса». Дасьледаваў гісторыю музыкі і складаў даведнік «Вялікія музыкі XX стагодзьдзя». Разам зь сьпявачкай Тацянай Грыневіч выпусьціў два «Дзіцячыя альбомы». Выдаў кнігу вершаў «Тры жалуды». Тысячы гледачоў, якія хутка рабіліся ўдзельнікамі, прайшлі праз ладжаныя ім «Шляхецкія фольк-вечарыны» і штотыднёвыя вечары народных танцаў у менскай кавярні «Жар-птушка».

На 49-м годзе жыцьця Зьміцер сышоў у сваю «Краіну талераў»: яго знайшлі ў кватэры нежывым.

Ёсьць зьвесткі, што ён пакінуў вялікі архіў песьняў, якія яшчэ трэба давесьці да сустрэчы з публікай. І, вядома, неабходна перавыдаць славуты альбом «Камэлота», што заслужана прылічаюць да клясыкі сучаснай беларускай музыкі.

**Зьміцер Сідаровіч**

2.10.1965, Менск — 17.5.2014, Менск.

Пахаваны на менскіх Заходніх могілках.

## Генадзь Бураўкін

Ён меў рэдкае полацкае прозьвішча. Рэдкае і вельмі гаваркое. У ім чуліся і бура з буранам, і заняты магутны бур, што дасьледуе цьвёрдыя пароды, і паэтычныя буравей з бурапеннасьцю.

Характар Бураўкіна быў адпаведны прозьвішчу, і гэта выяўлялася ўва ўсіх ягоных іпастасях — паэта, палітыка, дыплямата.

Полацкая душа схільная да веры ў дзівосы. Аднак ён разам зь вераю ў дзівы і сам ствараў іх — і словам высокай пробы, і ўчынкамі, што застануцца ў айчыннай гісторыі.

Для мяне — сяміклясьніка той самай 1-й полацкай школы, якую скончыў і Генадзь, — сапраўдным дзівам стаўся яго верш «Юнацтва сінія арэлі» з прысьвячэньнем Юлі:

*Яны прыглушана рыпелі*
*Сярод старых кашлатых ліп.*
*Мы тыя сінія арэлі*
*Зламаць нікому не далі б...*

Гэта быў верш пра тыя самыя арэлі за школай, што дагэтуль прыцішана рыпяць у маёй памяці.

А хіба ня дзіва — стварэньне Бураўкіным яшчэ за савецкім часам сапраўды нацыянальнага — не паводле назвы, а паводле духу — тэлебачаньня? Якім шчасьцем было для нас, маладых заўзятараў, глядзець беларускамоўныя рэпартажы з гульняў менскага «Дынама», якое тады перажывала сваю залатую пару!

Праяваю Божай волі бачыцца, што якраз Бураўкін быў прадстаўніком Беларусі ў ААН у той гістарычны час, калі нашая краіна вярнулася у лік незалежных дзяржаваў. Ён, дарэчы, згадваў, як, прыехаўшы ў Нью-Ёрк, даведаўся, што беларуская місія ня мае нават друкавальнай машынкі зь беларускім шрыфтам. А калі бел-чырвона-белы сьцяг стаў дзяржаўным, уначы яны з жонкай Юляй пашылі палотнішча



з дарагімі колерамі, каб ураньні ўзьняць яго на флягштоку перад ААН.

Веру ў дзівосы і здольнасьць дзяліцца ёю ён захоўваў усё жыцьцё.

Неяк з Бураўкіным мы выступалі разам перад полацкімі школьнікамі. Пры канцы спадар Генадзь сказаў, што па гэтай зямлі трэба як мага часьцей хадзіць басанож — каб падзараджацца ейнай жыцьцядайнаю энэргіяй. «І зьявяцца сярод вас тады і новы Скарына, і новая Эўфрасіньня», — паабяцаў Бураўкін. Выходзячы з школы, мы ўбачылі на ганку гурму хлопцаў і дзяўчатак, якія відавочна чакалі пісьменьнікаў. Усе ўжо былі басаногія й, шматзначна зірнуўшы на нас, рушылі ў бок блізкай Дзьвіны. На шчасьце, у Прыдзьвіньні тады валадарыла бабіна лета.

Магчыма, гэта занадта лірычнае сьведчаньне таго, што Генадзь Бураўкін быў і застаецца ў шэрагу тых, хто вызначаў каардынаты нашага нацыянальнага быцьця.

Узгадваюцца словы аднаго зь літаратурных мэтраў, што, маўляў, такім, як Бураўкін, «сяброў не паложана па штаце». Разьвітаньне з спадаром Генадзем засьведчыла: мэтар ані ня меў рацыі.

Бураўкіна пахавалі з кнігаю «Нагаварыцца з зоркамі», чаканьне якой апошнія дні трымала яго на сьвеце. Цяпер ён гаворыць з зоркамі. А анёлы сьпяваюць яму ягоную «Калыханку».

**Генадзь Бураўкін**
28.8.1936, в. Шуляціна, цяпер Тродавічы, Расонскі раён — 30.5.2014, Менск.
Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

У Менску пакуль што ёсьць вуліца Маркса, на якой я жыву й якую пасьля сьмерці Габрыеля Гарсія Маркеса перайменаваў для сябе і сяброў у вуліцу Маркеса. Але часам мне хочацца назваць яе і вуліцай Марцава. Асабліва калі праходжу паўзь вядомую кавярню «News Cafe».

Раней там дзень пры дні можна было ўбачыць журналіста, рэдактара і выдаўца Пятра Марцава. На маладых клёнах распускаліся першыя лісьцікі або вецер гнаў па ходніках срэбную дуйку, а Марцаў — то за вулічным столікам, то за шклом, звычайна ў атачэньні прыгожых жанчын — быў там прысутны, здавалася, заўсёды. Ён сядзеў з лэптопам і кубкам кавы або нечым трохі мацнейшым, і гэтае відовішча дзіўным чынам нараджала ў душы спакой і раўнавагу.

# Пётар Марцаў



Ён быў героем нашага часу.

Пасьля ўдзелу ў «Дзядах» 1988 году Пётар мусіў разьвітацца з працай у Беларускім тэлеграфным агенцтве.

У адыёзным часопісе ЦК КПБ «Политический собеседник» тады зьявіўся артыкул, які палохаў чытача ўжо назовам: «Кто он, П. Марцев?».

Прайшоўшы добрую школу карэспандэнта, а затым дырэктара карпункту тыднёвіка «Коммерсантъ» у Беларусі й агенцтва «Постфактум», Марцаў у 1992-м пачаў выдаваць «Белорусскую деловую газету», а затым штотыднёвік «Имя» ды штомесячнік «БДГ. Для служебного пользования». Думаю, ня я адзін бачыў, як у шапіках «Белсаюздруку» сьвежыя нумары гэтых газэт разьляталіся, як гарачыя піражкі.

Гэта былі сапраўды зорныя выданьні, дзе працавалі журналісты з божай іскрай, чыё жывое слова ўплывала не адно на чытачоў, на дзелавыя, палітычныя й культурніцкія колы, але і на сытуацыю ў краіне.

Пералік тэмаў, артыкулаў, інтэрвію, журналісцкіх расьсьледаваньняў, якія я й цяпер добра памятаю, атрымаўся б занадта доўгім. Асабіста я ўдзячны Марцаву за фантастычную па колькасьці ўдзельнікаў тэлефонную жывую лінію, якую мы вялі з адным з найталенавіцейшых супрацоўнікаў «БДГ» Сяргеем Шапранам. За маю пэрсанальную рубрыку «С историей на «Вы». За публікацыю расейскамоўнай газэтнай вэрсіі нашай з Генадзем Сагановічам кнігі «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі».

Узровень газэт Пятра Марцава быў такі, што ва ўмовах, калі ўлада ня проста спыніла час, а павярнула яго назад, выхад «БДГ» жывіў надзею на перамены.

Ён па-ранейшаму «заплываў за буйкі». Быў момант, калі Пятра папярэдзілі, што рыхтуецца яго зьнікненьне-забойства. Марцаў, купіўшы квіток на самалёт у Нямеччыну, наняў на ўскраіне Менску кватэру і на месяц лёг на дно...

Увесну 2006-га выпуск «БДГ» быў спынены. Марцаву прыпомнілі, відаць, і ўдзел у стварэньні вядомага фільму «Звычайны прэзыдэнт».

У пяцьдзясят два гады ён за лічаныя дні згарэў ад вострага лейкозу.

На пахаваньні старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна назвала Марцава і ўсё зьвязанае зь ім «самай яркай старонкай найноўшай беларускай журналістыкі».

У «News Cafe» я дагэтуль не хаджу.

**Пётар Марцаў**

14.4.1962, Менск — 13.9.2014, Менск.

Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

## Анатоль Грыцкевіч

Здаецца, усё жыцьцё быў знаёмы зь ім, — прынамсі, з таго часу, як адчуў сябе беларусам, — спачатку па кнігах, потым і асабіста.

Мы жылі па суседстве, і мне часта даводзілася бываць у Анатоля Пятровіча дома, у ягоным кабінэце — царстве кніг, манускрыптаў і гістарычных артэфактаў, якія штораз дарылі госьцю няхай маленькае, але адкрыцьцё: старадаўні дакумэнт, рарытэтнае выданьне, радавод Грыцкевічаў, прасочаны на глыбіню пяці стагодзьдзяў. Мы гутарылі, і да нас прыхільна прыслухоўвалася сама муза Кліё.

Ён стаў першым чытачом і рэцэнзэнтам вельмі важных для мяне кніг ілюстраванай гісторыі — «Краіна Беларусь» і «Вялікае Княства Літоўскае», якім аддадзены не адзін год жыцьця. Памятаю, як шчыра цешыўся мэтар, калі ўзяў у рукі «Вялікае Княства Літоўскае» й ангельскі пераклад «Краіны Беларусі».

Стаўшы доктарам навук у 1986-м, калі павеяла пераменамі, Грыцкевіч годна рэпрэзэнтаваў беларускую гістарычную навуку ў Эўропе і сьвеце. Ён увёў у гістарыяграфію азначэньне Рэчы Паспалітай як фэдэрацыі дзьвюх раўнапраўных дзяржаваў — Вялікага Княства Літоўскага й Польшчы. Ён ня раз выступаў нашым «амбасадарам» на міжнародных канфэрэнцыях у Лёндане, Рыме, Парыжы, Будапэшце, Санкт-Пецярбурзе.

Шэсьць ягоных манаграфій і больш за тысячу публікацыяў — сапраўдны скарб.

У 2012 годзе ў сэрыі «Беларускі кнігазбор» выйшаў том яго выбраных твораў, а апошнім выданьнем, над якім мы працавалі разам, стала прысьвечаная 500-годзьдзю перамогі над маскоўскімі захопнікамі кніжка «Сьцягі Воршы», што адкрыла сэрыю «Славутыя бітвы». Ён быў аўтарам, а я — рэдактарам і аўтарам прадмовы, у якой ня мог не згадаць, што далёкі про-



дак спадара Анатоля баярын Юхно Грыцкевіч, як сьведчыць Мэтрыка Вялікага Княства Літоўскага, «прыйшоў з Аршанскай баталіі пераможцам».

Анатоль Пятровіч таксама быў шляхетным ваяром — і ў навуцы, і ў грамадзка-палітычным жыцьці краіны: шмат гадоў уваходзіў у Сойм БНФ, узначальваў Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», займаў ганаровую пасаду Вялікага маршалка Згуртаваньня беларускай шляхты... Да канца сваіх дзён спадар Анатоль заставаўся сябрам Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ.

У пранікнёным слове папскага нунцыя ў Беларусі Кляўдыё Гуджэроці, якім той адгукнуўся на сыход Анатоля Грыцкевіча, праца выбітнага гісторыка была названая сакральным служэньнем ісьціне, што «дапамагло беларусам адкрыць частку сваёй душы».

Яму вельмі пашанцавала з братам Валянцінам, аднадумцам і паплечнікам у змаганьні за гістарычную праўду.

Паводле першай вышэйшай адукацыі браты Грыцкевічы былі дактарамі, скончылі мэдінстытут і нейкі час працавалі па спэцыяльнасьці. Але, як некалі доктар лекарскіх навук Францішак Скарына, вырашылі даць люду паспалітаму «броні духоўныя» й прысьвяцілі жыцьцё лекаваньню беларусаў ад бяспамяцтва.

**Анатоль Грыцкевіч**

31.1.1929, Менск — 20.1.2015, Менск.

Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

Часам хочацца даць партрэт чалавека адным словам. У выпадку з айцом Аляксандрам Надсанам гэтае слова — прасьветлены.

Калі гаворка пра сьвятара, ня трэба тлумачыць, прасьветлены кім.

Мне выпала наведаць не адну сотню храмаў розных канфэсіяў. Але ніводны зь іх ня быў сугучны маёй душы так, як Беларуская грэка-каталіцкая царква Сьвятых Пятра і Паўла ў Лёндане. Бо там служыў сьвятар, які болей за любую іншую сустрэтую мной духоўную асобу адпавядаў свайму чыну.

# Аляксандар Надсан



У дзень, калі чорнай птушкаю ўдарыла ў грудзі вестка пра сыход духоўнага лідэра беларускай эміграцыі, гісторыка, перакладніка літургічных тэкстаў, я ня згадваў таго, што кожны можа прачытаць у сеціве.

У памяці ажыла будзённая лёнданская раніца, калі, крыху заспаўшы, на дыбачках увайшоў у царкву і не адразу зразумеў, што разам з айцом Аляксандрам нас на набажэнстве ўсяго двое.

Ды насамрэч я, вядома, памыліўся.

Разам з намі ў сьценах храму невідочна, але надзіва адчувальна былі прысутныя і архімандрыт Леў Гарошка, і біскуп Часлаў Сіповіч, і той чатырнаццацігадовы беларускі падлетак-вуніят, якога расейскія калянізатары ў асобе «окружного полицейского апостола Новицкого» ў 1839-м ня здолелі перавесьці ў «правильную веру» нават з дапамогаю дзьвюх соцень розгаў, аб чым распавёў у «Колоколе» Аляксандар Герцэн.

Цуд заўсёды быў з айцом Аляксандрам, здавалася, на адлегласьці выцягнутай рукі.

У 1990 годзе сваім першым прыездам у Беларусь пасьля пакутліва доўгага, амаль бясконцага расстаньня Аляксандар Надсан адрадзіў нашу Вуніяцкую царкву.

Калі пасьля рэфэрэндуму 1995-га з выдавецкіх плянаў выкінулі нашу з Генадзем Сагановічам кнігу пра дзесяць вякоў беларускай гісторыі, макет патрапіў да рук айца Аляксандра, і кніга выйшла. Першы раз, потым другі, трэці...

Падчас апошняга наведваньня радзімы айцец Аляксандар вянчаў нашага сына Багдана зь Янінай. Сьвяткаваць падзею паехалі ў Музэй народнай архітэктуры ў Строчыцах.

Перад застоліцай завіталі ў колішнюю вуніяцкую Пакроўскую царкву.

Зь першымі крокамі айца Аляксандра пусты, даўно пакінуты вернікамі храм страпянуўся, ажыў, адгукнуўся нечаканымі проймамі, гукамі й пахамі. На вуліцы толькі што шалела непагадзь, а тут у ваконцы зазірнула сонца.

Вобраз строчыцкай Пакроўкі адгукнуўся на поўначы Лёндану, у Фінчлі, новым будынкам Беларускай вуніяцкай царквы Сьвятога Кірылы Тураўскага. Аўтар праекту храму, які ўжо адзначаны дзясяткам архітэктурных прэміяў, — колішні прыхаджанін айца Аляксандра архітэктар Цзыўай Рафаэль Со.

Прыйдзе час — я веру — айцец Аляксандар будзе належаць да ліку сьвятых Беларускай зямлі.

**Аляксандар Надсан (ад нараджэньня Аляксандар Бочка)**
8.9.1926, мяст. Гарадзея, цяпер Нясьвіскі раён —
15.4.2015, Лёндан, Вялікабрытанія.
Пахаваны на лёнданскіх могілках Сьвятога Панкрата.

Сыход у іншасьвет заўсёды высьвечвае сапраўдны маштаб асобы.

У гады вайны Марыя, якой яшчэ ня споўнілася і шаснаццаці, працавала настаўніцай пачатковай школы. Неўзабаве акупацыйныя ўлады прызначылі яе дырэктаркай. У тым ліхалецьці дзяцей усё адно трэба было камусьці вучыць. Калі ўлічыць, што ў школе не пачапілі партрэта Гітлера і не займаліся нацысцкай прапагандай, справа гэтая была сьмяротна небясьпечная. А потым загад зьнішчаць беларускія школы і беларускіх настаўнікаў атрымалі савецкія партызаны. Напэўна, Маруся нарадзілася пад шчасьліваю зоркай...

# Марыя Лукашук



Марыя Пракопаўна была цудоўная маці, таленавітая мовазнавіца і пэдагог. Абараніўшы дысэртацыю па філялёгіі, яна загадвала катэдрай беларускай мовы Берасьцейскага пэдагагічнага ўнівэрсытэту. Але для вельмі многіх яна стала настаўніцай ня толькі беларускай мовы, але найперш — настаўніцай беларускай вернасьці, беларускай ахвярнасьці, непахіснага аптымізму.

Яна давала ўзор таго, як ваяваць за нацыянальную ідэю, а значыць, і за будучыню Беларусі, і тады, калі ў душах учорашніх аднадумцаў часта вілі гнёзды паняверка і безнадзейнасьць. Калі ў красавіку 1995 году ў Авальнай залі Дому ўраду зьбілі апазыцыйных дэпутатаў ад БНФ, што абвясьцілі галадоўку супроць рыхтаванага антызаконнага рэфэрэндуму, да-

цэнт Лукашук, ні ад кога не хаваючы гэтага, уступіла ў Народны Фронт.

Для мяне Марыя Пракопаўна зрабілася старэйшай сяброўкаю. Яна чытала ўсе мае кнігі, адгукаючыся на іх лістоўна і ў водгуках у прэсе. Яна дасьціпна і пераможна змагалася з аўтарам беларусафобскай рэцэнзіі на «Краіну Беларусь». А на прэзэнтацыі яе працягу, «Вялікага Княства Літоўскага», у абласной берасьцейскай бібліятэцы сказала такую бліскучую прамову, што заля выбухнула авацыяй, да якой мусілі далучыцца і два прысутныя палкоўнікі дзяржбясьпекі зь першага шэрагу крэслаў.

Незадоўга да таго, як душа спадарыні Марыі выправілася ў Вечны вырай, мы сустрэліся ў затопленай паводкаю Вэнэцыі на юбілеі яе сына Аляксандра, дырэктара Беларускай службы Радыё Свабода. Яна танцавала, глядзела на ўсіх шчасьлівымі маладымі вачыма і абяцала адзначыць і свой блізкі дзень нараджэньня ня дзе-небудзь, а таксама ў «Вэнэцыі» — аднайменнай берасьцейскай кавярні. Цяпер Марыя Лукашук для мяне — і Берасьце, і горад сабору Сьвятога Марка, палацу дожаў і таго несусьветнага адрэналінавага патопу.

На разьвітаньні з Марыяй Пракопаўнай мне яскрава ўзгадалася пахаваньне незабыўнай Ларысы Геніюш, што ў 1970–1980-я гады была для нас — маладых літаратараў, гісторыкаў, мастакоў — бездакорным маральным аўтарытэтам. «Вы здолелі між іншых беларусак застацца беларускай назаўжды», — жалобна-паэтычна прагучала тады над яе труной. Гэтыя словы гучалі ў маёй душы і на вясновых могілках роднай вёскі спадарыні Марыі.

**Марыя Лукашук (ад нараджэньня Сахарчук)**
16.3.1927, в. Ставы, цяпер Камянецкі раён —
20.4.2015, Берасьце.
Пахаваная ў в. Ставы.

Удзельнікі тых, гістарычных Дзядоў 1988 году памятаюць, як пры канцы нядоўгага мітынгу-рэквіему ў полі паблізу Курапатаў з гушчыні людзкога збою ў цэнтар нашага кола перадалі нейкі скрутак. Праз імгненьне па-над галовамі ўзьняўся бел-чырвона-белы сьцяг. Менавіта тады марознае паветра і скаланула каманда: «Рась-ся-кай!», і на нас з усіх бакоў наляцелі міліцыянты і салдаты ўнутраных войскаў.

Гэта было першае публічнае ўзьняцьце нацыянальнага сьцягу за некалькі дзесяцігодзьдзяў забароны.

# Васіль Лазоўскі



Доўгі час імя чалавека, які прынёс з сабою сьцяг, было вядомае толькі вельмі вузкаму колу сяброў. Летапісцы найноўшай беларускай гісторыі губляліся ў здагадках, у публікацыях зьяўляліся заклікі адгукнуцца, дапамагчы адшукаць героя, але адказам было маўчаньне.

Цяпер будзем ведаць: яго звалі Васіль Лазоўскі.

Васіль быў мастаком, лічыў настаўнікамі славутых майстроў Альгерда Малішэўскага і Ядзьвігу Разьдзялоўскую. Трыццаць гадоў ён працаваў выкладчыкам малюнку і жывапісу ў дзіцячай мастацкай школе ў Маладэчне.

Да беларускай супольнасьці роднага гораду Васіль далучыўся задоўга да абвешчанай зьверху перабудовы. Браў удзел у аздабленьні памяшканьня клюбу патрыятычнай моладзі «Беларуская хатка». Духоўнымі бацькамі гэтага асяродку культуры і вольнай думкі былі

гісторыкі Мікола Ермаловіч і Генадзь Каханоўскі. «Хатку» ўпрыгожваў герб «Пагоня», партрэты айчынных літаратурных клясыкаў. Адзін пакой займала мастацкая гасьцёўня Язэпа Драздовіча, яшчэ адзін — музэй Уладзіміра Караткевіча. Потым у Маладэчне ўзьнікла новае гістарычна-краязнаўчае аб'яднаньне — «Крывіч».

Колішні кіраўнік крывічанаў, краязнаўца, літаратар і выдавец Міхась Казлоўскі называе Васіля Лазоўскага самым надзейным сябрам, «прынцыпова беларускамоўным, сьветлым і прыгожым у думках і ўчынках чалавекам, зь якім бясьпечна было размаўляць на любыя тэмы». Васіль ствараў для «Крывіча» вымпэлы і харугву, маляваў вясёлыя ілюстрацыі для насьценгазэты «Беларусь». У ягонай кватэры захоўвалася ўся забароненая літаратура, там адзначалі Дзень Волі (упершыню ў 1986-м), іншыя нацыянальныя сьвяты.

Акурат з той кватэры сябры і паехалі на Дзяды ў Менск. Мелі пра сабе два пашытыя Васілём сьцягі. Што сталася ў калатнечы зь першым сьцягам, невядома, а вось другі, дублёр, што проста не пасьпелі ўзьняць, потым вісеў у майстэрні Лазоўскага побач з творамі гаспадара.

Пасьля адной зь яго пэрсанальных выставаў хтосьці напісаў у водгуку, што Васіль сваімі карцінамі «стварае ў сэрцах гледачоў сьвятланосны запас, які радуе, цешыць і лекуе чалавечую душу».

Калі гляджу на ягонае «Сьвятло Вострай Брамы», мне хочацца падпісацца пад гэтымі радкамі і неўзабаве зноў узяць квіток да Вільні.

**Васіль Лазоўскі**
16.6.1953, в. Татаршчына, Маладэчанскі раён —
25.7.2015, Маладэчна.
Пахаваны на маладэчанскіх могілках у Лазаўцы.

## Алесь Чаркашын

Там, дзе ваююць за свабоду і незалежнасьць, пад сьцягі барацьбітоў заўсёды становяцца і прадстаўнікі іншых народаў. Так было і ў час вызвольнага паўстаньня 1863–1864 гадоў: поплеч з нашымі інсургентамі на беларускай зямлі змагаліся ўкраінцы, палякі, італійцы, вугорцы, французы, расейцы.

Калі ў 2014-м пачалася вайна ў Украіне, на бок абаронцаў яе дэмакратычнага шляху і тэрытарыяльнай цэласьці сталі дзясяткі беларусаў-добраахвотнікаў. Адзін зь іх — берасьцеец Алесь Чаркашын.

У беларускі нацыянальна-дэмакратычны рух ён прыйшоў васямнаццацігадовым юнаком. Уступіў у спартова-патрыятычную арганізацыю «Край», а затым — у «Зубар».

Алесь вучыўся ў Украіне: з чырвоным дыплёмам скончыў Таўрыйскі хрысьціянскі інстытут у Херсоне. Яшчэ ў часе навучаньня ён уступіў у партыю Беларуская хрысьціянская дэмакратыя і стаў кіраўніком яе берасьцейскай суполкі. 19 сьнежня 2010 году прыехаў на Плошчу, потым быў у родным горадзе арганізатарам маўклівых пратэстаў.

На фронце Чаркашын выконваў абавязкі капэляна (у кішэні заўсёды насіў Новы Запавет) і дапамагаў мэдыкам. Ён меў пазыўны «Тарас», але сябры часта называлі яго Бясстрашным. Яны згадваюць, што Алесь сапраўды ня меў у душы страху: у бітве за Данецкі аэрапорт, у пекле каля пасёлку Пяскі, калі вакол несупынна гучалі выбухі, ён пад кулямётным абстрэлам выцягваў з-пад агню параненых.

Яму нязьмерна камфортней было мець у руках ня зброю, а гітару, пад якую Алесь у хвіліны зацішша сьпяваў аднапалчанам песьні на вершы Ларысы Геніюш і на ўласныя словы. Замест мэдыятара ў руцэ ён трымаў патрон.

У жніўні 2015-га ў баі пад Белай Каменкай Чаркашына цяжка параніла. Лёс адмерыў яму два з паловаю



тыдні жыцця ў шпіталі і падараваў сустрэчу з каханай дзяўчынай.

На пахаваньне ў роднай берасьцейскай зямлі прыйшлі сотні аднадумцаў і дзясяткі віжоў.

Пасьмяротна Чаркашына ўзнагародзілі мэдалём «За самаахвярнасьць і любоў да Ўкраіны» і ордэнам «Народны герой Украіны». Імя нашага адважнага суайчыньніка ўвекавечанае на помніку беларусам, якія загінулі за Ўкраіну. Гэты манумэнт усталяваны ў Кіеве на вуліцы Беларускай. Побач з Алесевым — імёны Міхала Жызьнеўскага, чыё жыцьцё замёрла на кіеўскім Эўрамайдане, і Віталя Ціліжэнкі, заснавальніка тактычнай групы «Беларусь», дзе ваяваў Алесь.

Надмагільны помнік Чаркашына складаецца з трох плітаў, што сымбалізуюць Бога, Айчыну і Служэньне. Сродкі ахвяравалі грамадзяне Беларусі, Украіны, Літвы, Расеі, Польшчы, ЗША.

Яшчэ адным помнікам Алесю стаўся выдадзены сябрамі альбом зь ягонымі песьнямі «Не здавайся!». Гэтыя словы і ў назьве фільму пра Чаркашына, зьнятым на тэлеканале «Белсат» рэжысэрам Антонам Цялежнікавым.

Спадзяюся, незалежнасьць Беларусі мы адстаім без вайны, але ня маю сумневу: калі давядзецца бараніць яе збройна — поплеч стануць украінцы.

**Алесь Чаркашын**
27.9.1982, Берасьце — 28.8.2015, Запарожжа, Украіна.
Пахаваны ў в. Камяніца Жыравецкая, Берасьцейскі раён.

Памятаецца, у адным інтэрвію на пытаньне «Ў якую эпоху вы хацелі б жыць?» ён адказаў, што хацеў бы падарожнічаць на машыне часу ад Полацкага княства да XXII стагодзьдзя. «Машыну часу» Аляксею замяняла выключная эрудыцыя, глыбокае разуменьне гісторыі з усёй яе непрадказальнасьцю і іроніяй, зь яе неверагоднымі сюжэтамі і вясёлымі або жорсткімі жартамі.

Ён быў аўтарам адметнай манаграфіі пра гісторыка і палітыка, першага прэзыдэнта Беларускай Акадэміі навук Усевалада Ігнатоўскага, чыё жыцьцё трагічна завяршылася ў 1931-м. Пісаў пра Зьмітра Жылуновіча ды іншых закатаваных і расстраляных «нацдэмаў». Аляксандар Лукашук, што ў другой палове 1980-х пачаў друкаваць свае дасьледаваньні сталінізму ў Беларусі, удзячны Каралю за ягоныя ўнутраныя рэцэнзіі, якія дапамагалі адольваць цэнзурныя перашкоды і абаранялі ад гневу яшчэ ўсёмагутнага ЦК КПБ.

## Аляксей Кароль



Але Кароль ня толькі вывучаў гісторыю. Ён быў сярод тых, хто ўчынкамі ствараў яе плоць. Мы ўпершыню сустрэліся на паўлегальным Першым вальным сойме беларускіх моладзевых суполак. Аляксей кіраваў там сэкцыяй гісторыі і выклікаў выступамі ды камэнтарамі захапленьне маладзёнаў зь менскай «Талакі», віцебскага «Ўзгор’я», полацка-наваполацкага «Маладзіка»... Потым мы бачыліся зь ім на навуковых канфэрэнцыях і мітынгах, у выбарчых штабах і рэдакцыйных кабінэтах. Пазьней пра той час ён

сказаў у сваім дакумэнтальным фільме «1990-я: як гэта было і які шлях мы не прайшлі».

Адзін з заснавальнікаў Партыі народнай згоды, ён чатырнаццаць гадоў выдаваў незалежную газэту «Згода», а пасьля яе закрыцьця ўладамі з 2007-га і да апошніх дзён рэдагаваў газэту «Новы час». На гэтай пасадзе Аляксей быў уганараваны прэстыжнымі міжнароднымі прэміямі — імя Найта і «Вольная прэса ва Ўсходняй Эўропе».

Аддаўшы дзесяць гадоў журналісцкай працы, я востра шкадую, што ніколі ня меў такога галоўнага рэдактара. Апрача ўсяго ён умеў сябраваць зь пісьменьнікамі, што ўвасобілася ў дадатак да «Новага часу» — «Літаратурную Беларусь».

Калі б мы жылі ў дэмакратычнай краіне, Кароль зь яго інтэлектам, мудрасьцю, разважлівасьцю, дыпляматычнасьцю, з улюбёным дэвізам «Гонар даражэйшы» мог бы зрабіць вельмі пасьпяховую палітычную кар'еру. У манархіі заходнеэўрапейскага кшталту ён цалкам здолеў бы выканаць і ролю караля. (Адметныя імёны і прозьвішчы нярэдка ўплываюць на гаспадароў, а ў ім, далібог, было штосьці каралеўскае.)

Пасьля анкалягічнай апэрацыі ён пражыў роўна год. Але гэта быў, паводле сьведчаньняў сям'і, год насычанага, паўнавартаснага жыцьця.

На жаль, хваробу не змаглі перамагчы і мэдыкі ў Сынгапуры, дзе працаваў сын Сяргей. Апошнія дні побач былі і жонка Вольга з дачкой Ірынай. Яны згадваюць, што ў астатні зямны вечар Аляксей праглядаў абноўленую вэрсію сайту «Новага часу».

**Аляксей Кароль**
29.5.1945, мяст. Копысь, Аршанскі раён —
12.9.2015, Сынгапур.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

Бывае, зь нечай асобаю асацыюецца цэлы горад. Зэльва — Ларыса Геніюш, Белазёрск — Ніна Мацяш, Баранавічы — Віктар Сырыца.

Я нарадзіўся ў год сьмерці Сталіна, а ён — у той самы дзень, калі краіна пазбылася крывавага тырана, і ў гэтым было нейкае прадвызначэньне..

Здаецца, мы былі знаёмыя ўсё жыцьцё, прынамсі, з часу выхаду маіх першых кнігаў. У асобе Віктара я меў аднаго з самых удзячных чытачоў, што выяўлялася і ў рэцэнзіях надзвычай дасьведчанага і таленавітага чытача з добрай гістарычнай адукацыяй, і ў шматлікіх прэзэнтацыях, ладжаных ім у родных Баранавічах. Кожная мела свой адмысловы сцэнар і абавязкова — непаўторны падарунак: сьвежы духмяны каравай з «Пагоняй», каваную «Стралу гістарычнай праўды», кілішак, зь якога грэўся ў паходах прадзед Віктарава прыяцеля — інсургент 1863 году...

## Віктар Сырыца



Сырыца называў сябе жаўнерам Адраджэньня, і тут яскрава адлюстраваная сьціпласьць гэтага чалавека, бо насамрэч ён быў не шарагоўцам, а камандзірам, заўжды кіраваўся шляхецкім кодэксам гонару і таму вельмі натуральна выглядаў у шляхецкім строі. Шкада, ніхто з мастакоў не пасьпеў намаляваць ягоны «сармацкі» партрэт з старадаўнім дэвізам нашага «палітычнага народу»: «Славу — Айчыне, гонар — нікому!»

Лідэр баранавіцкай дэмакратычнай грамады, шматгадовы старшыня суполкі ТБМ, арганізатар фэстаў у гонар юбілеяў бітваў пад Палонкай і Мілавідамі, дзе зь ягонай ініцыятывы ўсталявалі першыя мэмарыяльныя камяні, Сырыца быў і адным зь лідэраў агульнанацыянальнага Руху «За свабоду». Яго можна было спаткаць на Кангрэсе дэмакратычных сілаў, на мітынгу супроць расейскай авіябазы, дома ў Віктара Статкевіча, бацькі кандыдата ў прэзыдэнты Міколы Статкевіча, калі той апынуўся за кратамі.

Раней, за арганізацыю сустрэчы студэнтаў зь іншым кандыдатам у кіраўнікі дзяржавы Аляксандрам Мілінкевічам, Віктара звольнілі з Баранавіцкага эканамічна-юрыдычнага каледжу. Тады ж міліцыянты ў адсутнасьць сьведкаў «знайшлі» ў кватэры Сырыцы навюткія баявыя патроны, разам зь якімі сканфіскавалі сыстэмныя блёкі кампутара, перадвыбарчую дакумэнтацыю і ўлёткі.

Перавыхаваць Віктара было немагчыма. На прэзыдэнцкіх перавыбарах 2015 году ён як сябра тэрытарыяльнай выбарчай камісіі адзіны прагаласаваў супраць зацьвярджэньня сфальсыфікаванага, на ягоную думку, пратаколу.

Празь некалькі тыдняў сэрца Віктара спынілася на пэроне баранавіцкага вакзалу. Ён выпраўляўся на паседжаньне кіраўніцтва Руху «За свабоду». Неўзабаве Рух заснаваў прэмію імя Віктара Сырыцы за найлепшыя рэгіянальныя ініцыятывы.

Яго жыцьцёвым credo былі словы: «Стаміўся — адпачні, аднак пасьля ты ўжо ня будзеш жаўнерам Адраджэньня».

**Віктар Сырыца**
5.3.1953, в. Слабодка, Нясьвіскі раён —
9.11.2015, Баранавічы.
Пахаваны на баранавіцкіх Русінаўскіх могілках.

Ягонага дзеда-эсэра за супрацiў калектывiзацыi выслалi на Салаўкi, а пазьней расстралялi. Бацьку, маскоўскага студэнта, адправiлi ў ГУЛАГ за антысавецкую агiтацыю. Дазвол пакiнуць Калыму i пасялiцца ў Менску сям'я атрымала адно ў 1955-м.

Вакно пакою, нанятага паблiзу касьцёлу Сьвятога Роха, выходзiла на вежу з радыёглушылкамi. Наймацней, згадвае спадар Сяргей, глушылi найцiкавейшы «варожы голас» — Радыё Свабода. Студэнт полiтэхнiчнага iнстытуту Ханжанкоў (на вайсковай катэдры хлопца вучылi на сапёра) разам з двума сябрамi стварыў падпольную антысавецкую групу.

## Сяргей Ханжанкоў



Аўтар кнiгi «Сьлед матылька. Освальд у Менску» Аляксандар Лукашук, пазнаёмiўшыся з Ханжанковым, якi ў адзiн i той самы час зь Лi Гарвi хадзiў па адных вулiцах, напiсаў, што погляды двух маладых людзей на сталёвую вежу з глушылкамi супалi, але Лi Гарвi абмежаваўся нататкамi ў дзёньнiку, а Сяргей пастанавiў яе падарваць. Акурат гэта вырашылi зрабiць першай i галоўнай справаю нелегальнай групы.

Рыхтавалiся як сьлед: здабылi дэтанатар, вызначылi месца, куды закладаць выбухоўку, каб вежа ня рухнула i не ўчынiла людзям шкоды. Думаючы пра выпадковых мiнакоў, акцыю плянавалi прызначыць на позьнi час i дзень з дрэнным надвор'ем.

Школьны сябар Сяргея настукаў у КГБ, i ўвесну 1963 году кiраўнiка падрыўнiкоў арыштавалi ў аўтобусе з валiзкаю, дзе быў тол. (У друку ўжо ня раз

выказвалася думка, што акурат намеры Ханжанкова зь сябрамі маглі натхніць фантастаў Аркадзя і Барыса Стругацкіх на аповесьць «Населены востраў» з падобным сюжэтам.)

Сяргею (Аляксандар Салжаніцын назваў яго «змагаром за нашу агульную свабоду») далі максымальны прысуд — 10 гадоў зьняволеньня, адбытых ад званка да званка. У мардоўскіх лягерах ён працягваў вучыцца. Побач сядзела безьліч адукаваных людзей, а ў дадатак Ханжанкоў рабіў для сябе максымальна дазволеную падпіску.

У «Новом мире» знайшоў аповесьці Васіля Быкава, дзякуючы часопісу «Авиация и космонавтика» пачаў чытаць лекцыі на гэтыя тэмы.

Увайшла ў аналы лекцыя Ханжанкова, прысьвечаная высадцы амэрыканцаў на Месяц. На сьцяне бараку вісела схема палёту, а пад ёй (нават цяжка даць веры) разьмясьцілі пашытую ў зэкаўскай швачнай майстэрні пад кіраўніцтвам «касьмічнага аўтарытэта» мадэль «Апалёна-11» у натуральны памер. Лекцыя — яе слухала і ахова — скончылася словамі: «Нашы — на Месяцы!»

У найноўшай гісторыі краіны Ханжанкоў знайшоў сваё месца ў дэмакратычным руху.

Пасьля наведваньня судовых паседжаньняў, якім папярэднічалі падзеі сьнежня 2010-га, ён казаў: «Нашыя судзьдзі былі сталіністы, перакананыя, што за імі праўда. Гэта была непрабіўная сьцяна. А цяперашнія судзейскія — цынікі. Іх сыстэма — картачны домік. Выцягнеш адну карту, і капец, усё рухне!»

**Сяргей Ханжанкоў**
13.3.1942, пас. Усьць-Уціны, Магаданская вобл., Расея — 16.3.2016, Менск.
Пахаваны на менскіх Чыжоўскіх могілках.

Калі Ніл Сымонавіч пакінуў нас, ці не ўпершыню выразна прагучала думка: на пачатку незалежнасьці ён пры пэўных акалічнасьцях мог бы ўзначаліць дзяржаву і справіцца з гэтай місіяй.

Сапраўды, Гілевіча — народнага паэта і дэпутата-незалежніка — паважалі або ненавідзелі, але ўсё адно лічыліся зь ім самыя розныя асобы і сілы: нацыянальныя дэмакраты і камуністычная намэнклятура, правыя і левыя, лібэралы і кансэрватары, «зялёныя» і «чырвоныя», нават прадстаўнікі «русского мира». Гэта дапамагло ў студзені 1990-га яшчэ ранейшаму, чыста савецкаму Вярхоўнаму Савету прагаласаваць за Закон аб мовах, паводле якога беларуская стала (на жаль, усяго на пяць гадоў) адзінай дзяржаўнай. Кіраўніком працоўнай групы для падрыхтоўкі закону быў Гілевіч. Выбар зрабілі бездакорны: менавіта ён і ў самыя змрочныя часы супрацьстаяў русіфікацыі, адстойваў мову і з прафэсарскай катэдры, і з самых высокіх трыбунаў.

## Ніл Гілевіч



На золку незалежнасьці ён старшыняваў у парлямэнцкай Камісіі адукацыі, культуры і захаваньня гістарычнай спадчыны і яшчэ раз важка засьведчыў, што мысьліць па-дзяржаўнаму, у агульнанацыянальных катэгорыях. У жалобныя дні разьвітаньня яго называлі волатам беларускага духу.

Для мяне ж, як і для мільёнаў беларусаў, Ніл Гілевіч перадусім выдатны паэт, аўтар цудоўных кніг, раману ў вершах «Родныя дзеці», улюбёных песьняў, ужо не

ананімнага «Сказу пра Лысую гару», створанага пры ўдзеле Міколы Аўрамчыка.

Ён зьдзейсьніўся і ў іпастасі мудрага публіцыста і эсэіста. Перачытайце перадсьмяротную кнігу «Ў віры быцьця». Шмат хто непазьбежна спыніцца на цытаваных там словах імпэратрыцы Кацярыны II: «Замирить Белую Русь силой невозможно. Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя, русского попа. Именно они отнимут у белорусов не только их язык, но и память про самих себя».

Ён перастварыў па-беларуску вершы і прозу болей як 400 славянскіх літаратараў і ўганараваны высокімі югаслаўскімі, украінскімі, балгарскімі ордэнамі. Апынуўшыся ў Балгарыі, я быў уражаны тым, што пра Гілевіча (ці здаровы? ці не пагражае яму за погляды турма?) у мяне пыталіся і дырэктар сафійскага выдавецтва, і супрацоўніца музэю ў маленькім прыдунайскім гарадку.

Асобная тэма — Гілевіч-пэдагог. Выпускнікі філфаку БДУ згадваюць, якое магутнае ўражаньне рабіў на іх Ніл Сымонавіч ужо на першай лекцыі. Ня столькі абліччам рымскага патрыцыя (у мяне заўсёды круцілася рыфма: Гілевіч — веліч), колькі пераканасьцю: «Ніколі не дазваляйце абражаць Беларусь, сваіх продкаў, мову, гісторыю. Дзеці і ўнукі не даруюць».

Мне, выпускніку гістарычнага факультэту, ён шмат разоў раіў напісаць раман «Мы, ліцьвіны». Я выдаў па-беларуску і па-ангельску ілюстраваную гісторыю Вялікага Княства Літоўскага. Спадзяюся, атрымаў ад прафэсара хаця б залік.

**Ніл Гілевіч**
30.9.1931, в. Слабада, Лагойскі раён — 29.3.2016, Менск.
Пахаваны на менскіх Кальварыйскіх могілках.

Дзед Зьмітра па бацьку, або, як казалі продкі, — па мячы — паходзіў зь сям'і беларуса-плытагона, а бабуля была дачкою рабіна. І ў Саўкавым абліччы, і ў ягоным характары непарыўна зьнітаваліся гены з абедзьвюх гэтых радаводных галінаў. Ён умеў пераконваць у сваёй праўдзе, гатовы быў прачытаць бліскучую лінгвістычную лекцыю-казань, але разам з тым мог бы ганяць плыты, бо быў дужы, цягавіты і заложны ў працы. Любоў жа да беларускай мовы, а можа, і змагарскі дух ён успадчыў ад бабулі па кудзелі родам з тых самых мясьцінаў, дзе нарадзіўся Тадэвуш Касьцюшка.

## Зьміцер Саўка



У 1982 годзе Зьміцер з аднаклясьнікам і суседам па парце, цяпер слынным мастаком і літаратарам Артурам Клінавым, дачуліся: у Заслаўі беларускія нацыяналісты будуць гукаць вясну. «Дык мы ж таксама нацыяналісты!» — зрабілі ўсьцешлівае адкрыцьцё хлопцы і купілі квіткі на электрычку. Так і папоўнілі апавітую цяпер паданьнямі Беларускую сьпеўна-драматычную майстроўню. У праграме Радыё Свабода «Вострая Брама» пазьней Саўка згадваў: «Праз Майстроўню я пачаў бачыць, што ўся Беларусь абуджаецца, што мы — сіла, мы — заўтрашні дзень краіны».

Студэнтам філялягічнага факультэту БДУ Зьміцер пратэставаў з майстроўцамі супроць руйнаваньня будынку старога менскага тэатру і ўпершыню трапіў у міліцэйскі па-

старунак. Потым — праз удзел у пашырэньні самвыдавецкай кнігі Алега Бембеля «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс» — Саўка мусіў пазнаёміцца з адмыслоўцамі аднаго ўсім вядомага дому на галоўным сталічным праспэкце. Як некалі і я (зноў жа за самвыдавецкія справы), ён атрымаў «траяк» на экзамэне па навуковым камунізьме і пазбыўся зусім блізкага чырвонага дыплёму.

Зьміцер Саўка знайшоў пакліканьне ў філялёгіі, стаўшы ў гэтай сфэры, часам казалі, «акадэмікам бяз званьня». Дзе б ён ні працаваў — выкладчыкам у Лінгвістычным унівэрсытэце, стыль-рэдактарам на Радыё Рацыя, на тэлеканале «Белсат» (там з 2006-га Саўка кіраваў моўнаю службай) — паўсюль здольны быў разьвязаць любое найскладанейшае пытаньне, ствараў канон.

Ён мог плённа рабіць сваю справу ў камандзе, сьведчаньнем чаго сталіся кнігі «Беларускія слоўнікі й энцыкляпэдыі. Бібліяграфія» (у суаўтарстве зь Вітаўтам Кіпелем) і «Беларускі клясычны правапіс» (зь Юрасём Бушляковым, Вінцуком Вячоркам і Зьмітром Санько). Праз тры гады пасьля сыходу Саўкі выйшла ягоная 600-старонкавая кніга «Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы» — вынік шматмесяцавай працы ў ЗША. У яго спадчыне і сэрвіс праверкі правапісу «Добрапіс».

Калі мы разьвіталіся з нашым акадэмікам, праваабаронца Алесь Бяляцкі сказаў: «На такіх, як Зьміцер, трымалася беларуская ідэя апошнія 30 гадоў. Удзел у беларускім аркестры заўсёды быў яму ў задавальненьне, там ён граў джаз».

Дакладна — джаз!

**Зьміцер Саўка**
26.7.1965, Менск — 9.4.2016, Менск.
Пахаваны на менскіх Заходніх могілках.

Яго, журналіста-музыказнаўцу і літаратара, называюць «таленавітым дэгустатарам», апошнім рамантыкам і архіварыюсам айчыннага року, але насамрэч Вітаўт Мартыненка быў яго стваральнікам і, дарэчы, аўтарам самога тэрміну «беларускі рок».

Атрымаўшы дыплём факультэту журналістыкі БДУ, ён зь першай паловы 1980-х працаваў у газэце «Чырвоная змена», дзе рэдагаваў музычную старонку «Нотны аркуш». Публікацыі на ёй выводзілі з падпольля папулярныя ўжо беларускамоўныя гурты «Мроя», «Рэй», «Магістрат», «Бонда», бардаў Касю і Алеся Камоцкіх, Вольгу Цярэшчанку, Сержука Сокалава-Воюша.

# Вітаўт Мартыненка



Супольна зь сябрам, музычным крытыкам Анатолем Мяльгуем у 1985-м Вітаўт заснаваў першы ў Беларусі рок-клюб — менскую «Нямігу», куды ўвайшлі «Мроя» і яшчэ сем гуртоў. Асноўным заданьнем клюбу (ён праіснаваў да 2003 году) была арганізацыя фэстываляў, якія ладзіліся двойчы на год: у дні нараджэньня Рычы Блэкмара і Джымі Гэндрыкса. На адным з гэтых фэстываляў — яны мелі назоў «Тры колеры» — адыграў першы канцэрт «Ляпіс Трубяцкой». Вітаўт спрычыніўся і да арганізацыі штогадовага фэсту беларускай альтэрнатыўнай і рок-музыкі «Басовішча».

Мартыненка, здаецца, пасьпяваў паўсюль. Вёў гітпарады ў «Чырвонай змене» і на Беларускай службе

Радыё Свабода. Уваходзіў у нефармальны моладзевы клюб «Талака» і Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Стварыў у «Чырвонцы» адну зь першых групаў падтрымкі Беларускага Народнага Фронту. Стаў разам з Анатолем Мяльгуем аўтарам выдадзенай у 1989-м у Нью-Ёрку кнігі для маладых мэляманаў «Праз рок-прызму». У супрацы зь сябрам Мартыненка выпусьціў пазьней і першы энцыкляпэдычны даведнік «222 альбомы беларускага року і ня толькі», а затым — сольную кнігу «Rock on-line».

Ён пісаў прозу і вершы, «пераклаў» з лацінкі на кірыліцу і выдаў з грунтоўнымі камэнтарамі раман Гэнрыка Сянкевіча «Quo Vadis», перастворaны некалі па-беларуску знакамітым беларускім рэлігійным і культурным дзеячам Пятром Татарыновічам. Гэты чын Вітаўта даў яму магчымасьць сустрэцца з Папам рымскім Янам Паўлам ІІ.

Чакае выдаўца Вітаўтаў аўтабіяграфічны раман «Карабалом» («Караблекрушэньне»), у якім ажывуць гісторыя, маладыя гераіні і героі беларускага року.

У апошнія гады жыцьця, пакутуючы на цяжкую цукровіцу, Вітаўт з скрухаю казаў, што альбомы выміраюць, што слухаць музыку праз тэлефон — гэта пародыя, а ўсеагульная даступнасьць ператварае культуру ў звалку тэхнічных дасягненьняў.

На мэмарыяльным канцэрце, прысьвечаным ягонаму 60-годзьдзю, на сцэну падымаліся ўжо легендарныя музыкі — Андрэй Плясанаў, Алег Хаменка, Аляксандар Памідораў, Алесь Таболіч... Напэўна, шмат каму мроілася: выйдзеш у фае, а там, як зазвычай, стаіць за сталом з дыскамі і кнігамі сам юбіляр.

**Вітаўт Мартыненка**
29.9.1959, Менск — 17.4.2016, Менск.
Пахаваны на менскіх Чыжоўскіх могілках.

Чытаю кнігу Аляксандра Талерчыка «Парэчча», ахвяраваную яго роднай вёсцы, і думаю: калі б такія кнігі выйшлі пра кожныя нашыя мястэчка ці вёску, мы маглі б жыць у іншай Беларусі.

На 150 старонках зь любасьцю і гонарам, часам з гневам (гісторыя павінна быць злапамятлівай) узнаўляецца мінулае старадаўняга паселішча, пачынаючы з вусных аповедаў пра яго заснавальнікаў. Магутны беларускі род уладальнікаў вёскі Валовічаў. Прыход расейскіх каланізатараў. Вясковыя сьвятары і настаўнікі. Першая і Другая усясьветныя войны. Новы прыгон — калгасная няволя.

## Аляксандар Талерчык

Асаблівае месца ў кнізе займаюць разьдзелы пра вызвольнае паўстаньне 1831 году і ўдзел у ім Міхала Валовіча, аднаго з герояў «Імёнаў Свабоды». Аўтар стварае яскравы вобраз патрыёта-інсургента, які вярнуўся з эміграцыі на радзіму, каб працягваць збройную барацьбу, і побач зь ім — выразны, запамінальны партрэт тагачаснага гарадзенскага губэрнатара, колішняга дзекабрыста, а затым вернага царскага сатрапа і ката паўстанцаў



Міхаіла Мураўёва, што застаўся ў памяці беларусаў як Мураўёў-Вешальнік.

Ушанаваньне памяці Міхала Валовіча было сярод найважнейшых клопатаў спадара Аляксандра. У Парэччы, дзе ягоная кніга, кажуць, ёсьць у кожным доме, Талерчык з аднадумцамі ўсталяваў мэмарыяльны знак і крыж герою-земляку ды ягоным паплечнікам. Штогод там адбываюцца патрыятычныя імпрэзы.

Ён дамогся ад абласнога начальства і мэмарыяльнай шыльды з надмагільным помнікам пахаванаму ў Горадні кампазытару Антону Валынчыку, якога ня надта шанавала савецкае чынавенства.

Паводле адукацыі Талерчык быў інжынэрам, аднак яго глыбока паважалі прафэсійныя слугі Кліё.

У памяці гарадзенцаў ён застанецца таксама адным з заснавальнікаў гістарычна-культурнага таварыства «Паходня». Зь сярэдзіны 1980-х гадоў яно ладзіла Купальлі і Дзяды, сустрэчы з вучонымі, пісьменьнікамі і мастакамі, літаратурныя вечарыны і краязнаўчыя канфэрэнцыі да 400-годзьдзя Статуту Вялікага Княства Літоўскага, 125-годзьдзя паўстаньня Кастуся Каліноўскага... Пры таварыстве дзейнічала скаўцкая суполка і хор «Бацькаўшчына».

Аляксандар Талерчык меў дачыненьне да ўсіх гэтых справаў. На паседжаньнях «Паходні» ён прачытаў дзясяткі лекцыяў. Ня ўсе ведаюць: частку заробку ён штомесяц выдзяляў «на беларушчыну».

А вось ягоныя словы, штоператварыліся ў аўтограф мне ў кнізе «Парэчча»: «Ідзём мы па сьвеце не адны. Побач з намі тыя, хто крочыў па гэтай зямлі на стагодзьдзі раней, хто бараніў яе дзеля нашчадкаў і незалежнасьці, якую нікому не аддамо».

**Аляксандар Талерчык**
26.12.1931, в. Парэчча, цяпер Слонімскі раён —
5.5.2016, Горадня.
Пахаваны на гарадзенскіх могілках Аульс.

Героі раману Рычарда Гавяліса «Віленскі покер», культавай кнігі сучаснай літоўскай літаратуры, ня раз спрачаюцца, чыёй жа насамрэч была Вільня: літоўскай, польскай, габрэйскай? Мы можам упэўнена працягнуць гэты пералік.

Адным з твараў беларускай Вільні для мяне назаўсёды застанецца Алег Аблажэй — мудры мастак, пісьменьнік-інтэлектуал, змагар за незалежнасьць Літвы, узнагароджаны мэдалём за гераізм у падзеях 13 студзеня 1991 году каля тэлевежы.

Мы зь ім пазнаёміліся на паўтара году раней на Ўстаноўчым зьезьдзе БНФ на Туравай гары,

## Алег Аблажэй



тамсама, у Вільні. Ён быў асобаю ўжо вядомай, ня толькі як творца, але і як прыхільнік дэмакратычнага руху «Саюдзіс», сябра Таварыства беларускай культуры ў Літве.

Алег уразіў шляхетнымі паводзінамі, удумлівасьцю, і — нечакана — нейкай незразумелай чуйнай насьцярожанасьцю. Пазьней агульныя прыяцелі распавялі, што апошняя якасьць перадалася ад бацькі. Таго ў вайну аднавяскоўцы абралі старастам, і потым ён, ратуючыся ад турмы і лягераў, да самай сьмерці Сталіна хаваўся на гарышчы сваёй хаты.

Аблажэя, аднаго з кіраўнікоў суполкі краінаў Балтыі «Маю гонар», лічылі майстрам-віртуозам графікі і цікавым жывапісцам. Ён праілюстраваў шмат кніжак для віленскіх, менскіх, варшаўскіх, маскоўскіх выдавецтваў. Неспадзяванкай сталася менская выстава Алегавай сэрыі плякатаў «Шэсьць аргумэнтаў супроць сьмяротнага пакараньня». Аўтар і сам быў

уражаны: «Прывык маляваць цмокаў з каралеўнамі, а тут такая цяжкая тэма. Але думаў пра заўтрашні дзень Беларусі».

На пачатку 1990-х Алег разам з жонкаю, таксама мастачкай і беларускай патрыёткаю Крысьцінай Балаховіч набылі жытло ў віленскім прадмесьці. Літва яшчэ не пасьпела прыняць усіх неабходных пастановаў ды правілаў і па інэрцыі дзейнічалі некаторыя выдадзеныя яшчэ для ўсёй савецкай імпэрыі. З атрыманых дакумэнтаў гаспадары даведаліся, што на прысядзібным участку яны маюць права трымаць адну карову, або аднаго каня, або аднаго... вярблюда. Гэтую жывёліну, якую Алег часта і весела згадваў у размовах, ён не завёў, але, магчыма, віртуальны вярблюд істотна паўплываў на тое, што мастак стаў яшчэ і літаратарам-казачнікам.

Аблажэй выдаваў казкі па-беларуску і па-польску. Беларуская казачная кніга, што сагрэла цяжка хворага аўтара за колькі месяцаў да сыходу, мела, як мне ўяўляецца, у нейкім сэнсе аўтабіяграфічную назву — «Красамоўнае сэрца».

Для дарослых чытачоў ён пісаў публіцыстычныя артыкулы і фэльетоны, апавяданьні і афарызмы. Друкаваўся ў «Нашай Ніве», у менскай «Свабодзе» і віленскай «Руні». Некалькі запісаў Алега, прачытаных у часопісе «Дзеяслоў», выплываюць імгненна: «Паэт — вольная птушка, зьняволеная ў клетцы сваёй мовы». «Нельга двойчы ўвайсьці на той самы Майдан». «З героямі найлепш мець справу тады, калі яны ўжо ў бронзе».

Мне добра было мець зь ім справу заўсёды.

**Алег Аблажэй**
6.5.1954, в. Лезьнявічы, Дзятлаўскі раён —
18.5.2016, Вільня.
Пахаваны ў в. Лезьнявічы.

«Мы не свабодныя дасягнуць таго або іншага, але свабодныя зрабіць або не зрабіць неабходнае». Гэтыя словы філёзафа Освальда Шпэнглера маглі б стаць эпіграфам да жыцьцяпісу Юрыя Хадыкі, які, я ўпэўнены, — з тых нешматлікіх асобаў, што зрабілі ўсё, чаго вымагаў ад іх час, дзе выпала жыць.

Я пачуў ягонае імя яшчэ ў студэнцкія гады. Хтосьці з выкладчыкаў нашага гістарычнага факультэту БДУ сказаў: пакуль гуманітарыі лічаць варонаў, фізікі, што займаюцца касьмічнымі тэхналёгіямі, езьдзяць па Беларусі, зьбіраючы абразы ды іншыя скарбы, каб стварыць Музэй старажытнай беларускай культуры.

# Юры Хадыка



Музэй адчыніўся ў 1979-м, і тая падзея ўспрымаецца цяпер як першая ластаўка новага нацыянальнага Адраджэньня.

Калі ў Савецкім Саюзе пачаліся дэмакратычныя перамены, зьявілася азначэньне: «прарабы перабудовы». Да іх у Беларусі адносілі і прафэсара, доктара навук, ляўрэата прэміі Савету Міністраў СССР (за ўдзел у стварэньні сыстэмы ранняга папярэджаньня аб ракетным нападзе) Юрыя Хадыку. Але ён не зьбіраўся перабудоўваць камуністычную імпэрыю. Ён марыў пра беларускую незалежнасьць і стаў адным зь яе архітэктараў. Пры канцы 1980-х яго кабінэт у Інстытуце фізікі ператварыўся ў сядзібу БНФ і франтаўскае выдавецтва.

Амаль два дзесяцігодзьдзі Хадыка быў намесьнікам старшыні Беларускага Народнага Фронту і нязь-

менна вызначаўся мудрасьцю, талерантнасьцю, талентам кампрамісу. Ягоным заўсёдным прынцыпам было: хто ня вораг, той можа стаць саюзьнікам. Ягоным першачарговым крытэрам было сумленьне. Дзеля справы ён быў гатовы ахвяраваць сабой. У аналах застаецца яго гераічная галадоўка пасьля Чарнобыльскага шляху 1996 году.

Усіх уражвала выдатнае веданьне Юрыем Віктаравічам айчыннай і ўсясьветнай гісторыі і культуры. (У 1997-м яго абралі прарэктарам Народнага ўнівэрсытэту — самага, бадай, буйнога праекту цэнтру «Беларуская пэрспэктыва».) Фізык Хадыка быў бліскучым мастацтвазнаўцам і ў гэтай якасьці прачытаў сотні лекцыяў. Ён упэўнена арыентаваўся ў акіяне замежнай і нацыянальнай літаратуры. Любіў паэзію і прозу Ўладзімера Караткевіча і свой вядомы артыкул «Нацыяналізм і патрыятызм» не бяз скрухі пачаў зь ягоных радкоў:

*Мужыцкі Брэйгель трызьніць родным краем*
*На вуліцах паміж абжорных крам.*
*О крамы, крамы! Вы — душа радзімы...*

У мяне багата асабістых успамінаў пра спадара Юрыя. Яго нязьменная філязофская яснасьць духу і маральная раўнавага прыводзілі мне на памяць аўтара неўміручых «Досьведаў» — Мішэля Мантэня. Аднаго разу пасьля паседжаньня Сойму БНФ Хадыка правёў з мною, маладым аднадумцам, доўгую гутарку пра тое, як перамагаць у спрэчках з разумнымі і перакананымі апанэнтамі, як заваёўваць прыхільнікаў сваёй ідэі, і нават — як глядзець чалавеку ў вочы.

Так цяпер і гляджу.

**Юры Хадыка**
23.6.1938, Менск —
11.9.2016, Дэнвэр, штат Каларада, ЗША.
Пахаваны на менскіх Чыжоўскіх могілках.

«Белорусский язык должен исчезнуть, а вы нам мешаете. Вы как учитель обязаны изменить своё отношение к этому полумёртвому языку и пропагандировать русский». Такія словы настаўнік мовы і літаратуры Гудзевіцкай школы Белакоз выслухаў ад гэбістаў-куратараў у 1969-м. Вядома, ён ня здрадзіў сваім поглядам і ахвярнай дзейнасьці на карысьць усяго беларускага. Ды і куратары наўрад ці на гэта спадзяваліся, дзейнічалі паводле інэрцыі. У іхніх справаздачах настаўнік даўно і нязьменна фігураваў як перакананы нацыяналіст без асаблівых сымпатыяў да савецкай улады.

## Алесь Белакоз

Гены вальналюбнасьці і незалежнасьці ён мог атрымаць ад бацькі, што ў 1920-я пасьпяхова зьезьдзіў на заробкі ў Бразылію, пабудаваў добры дом і адкрыў прыватную краму. Дом у Другую ўсясьветную вайну спалілі людзі, якія называлі сябе партызанамі. Бацька загінуў ад выбуху кінутай у вакно гранаты.

У паваенныя саракавыя, узгадваў Белакоз, ні ў Мастоўскім, ні ў суседніх Ваўкавыскім і Сьвіслацкім раёнах не было ніводнай беларускай школы-васьмігодкі. Па-расейску выкладаліся амаль усе дысцыпліны і ў Гарадзенскім пэдінстытуце, дзе ён завочна навучаўся з 1949-га. Юнак ужо меў досьвед нелегальнага супраціву: зь сябрамі раскідваў зь цягнікоў і пашыраў у Горадні ўлёткі з заклікам змагацца за вольную Беларусь. Хлопцы былі неблагімі канспіратарамі і пазьбеглі арышту, ды спынілі дзейнасьць, бо ў той справе затрымлівалі шмат невінаватых.

Белакоз засяродзіўся на пэдагагічнай і краязнаўчай працы. Ягоныя выхаванцы ліставаліся ці не з усімі знанымі беларускімі пісьменьнікамі, выдавалі альманах «Праменьчык», руплівa зьбіралі экспанаты для школьнага музэю. Але настаўнік усё адно заставаўся на падазрэньні. І нездарма.



У 1965-м у актавай зале Саюзу пісьменьнікаў адбывалася сустрэча кіраўнікоў раённых сэкцый выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры з майстрамі прыгожага пісьменства і менскімі студэнтамі. На сцэну падняўся Белакоз: «Патрабую, каб адзінай дзяржаўнай мовай у Беларусі была беларуская! Патрабую, каб 80 працэнтаў школаў былі беларускамоўнымі! Патрабую, каб беларускімі былі ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы!» Іван Шамякін, што вёў імпрэзу, закамандаваў: «Хопіць! Хопіць! Тушыце, хлопцы, сьвятло, паказвайце фільм!»

Нядобранадзейны Белакоз дачакаўся лепшых часоў. У 1990-м школьны літаратурна-этнаграфічны музэй набыў статус дзяржаўнага. Там болей за 20 тысяч фондавых адзінак. Стэнд, прысьвечаны Ларысе Геніюш. Яе кніга «Невадам зь Нёману» з дарчым надпісам касманаўта Пятра Клімука. Асадка, якой Уладзімер Караткевіч напісаў «Каласы пад сярпом тваім»...

І цяпер кожную экскурсію для мяне праводзіць там Алесь Белакоз.

**Алесь Белакоз**
11.9.1928, в. Лякті, цяпер Мастоўскі раён —
1.12.2016, в. Гудзевічы.
Пахаваны ў Гудзевічах.

У Польшчы, Украіне, Ізраілі, іншых краінах ёсьць інстытуты нацыянальнай памяці.

У Беларусі быў Леанід Маракоў.

Інжынэр-радыёэлектронік паводле адукацыі, пасьпяховы бізнэсовец, гулец (мог за ноч прайграць некалькі тысяч даляраў), ён у сярэдзіне 1990-х зацікавіўся лёсам дзядзькі — паэта Валерыя Маракова, расстралянага ў чорны дзень беларускай гісторыі 29 кастрычніка 1937-га, калі ахвярамі сталінскага тэрору сталі болей за сто дзеячаў літаратуры і мастацтва, навукі і тэхнікі, буйных кіраўнікоў рэспублікі. Заняўшыся архіўнымі росшукамі, Леанід меркаваў абмежавацца выданьнем кнігі пра дзядзьку, але яна толькі разахвоціла, натхніла і распачала велізарную, проста тытанічную працу аднаго чалавека.

# Леанід Маракоў



Так, ён быў таленавітым літаратарам, уражваў нечаканымі сюжэтамі і героямі. Але пакліканы быў, каб сказаць жудасную праўду пра незьлічоныя злачынствы камуністычнай улады ў Беларусі. Злачынствы бяз тэрміну даўнасьці.

Пачаўшы свой ахвярны жыцьцёвы чын з даведніка «Вынішчэньне. Рэпрэсаваныя беларускія літаратары», Леанід выдаў бібліятэку зь некалькіх дзясяткаў кнігаў, вярнуўшы праўду пра 25 тысяч нашых зьняволеных, закатаваных, расстраляных суайчыньнікаў — літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асьветы і культуры, мэдыкаў, сьвятароў. Рыхтаваліся

новыя кнігі — пра жонак «ворагаў народу», нацыянальныя мяншыні... Дзеля гэтага ён не шкадаваў заробленых раней грошай, залазіў у пазыкі, распрадаваў маёмасьць. Мог падысьці да паліцы, ласкава дакрануцца да карэньчыкаў чарговых энцыкляпэдычных тамоў і сказаць: «Вось гэта мая «Мазда», вось гэта «Таёта», а тут — самы наварочаны тэлевізар».

Ён прызнаваўся: некалі яго перасьледавала боязь сьмерці. Яна мінулася пасьля першых жа выданьняў, чые назвы пачыналіся з слова «Рэпрэсаваныя».

Ён пачасту казаў: «Мы — дзеці горшых. Лепшых зьнішчылі».

Маракоў зьдзяйсьняў служэньне ісьціне ў краіне, якая не перажыла пакаяньня, у краіне, дзе стаяць помнікі бальшавіцкім катам. Тут патрабаваліся асаблівыя вера і сіла духу. Значна больш мужнасьці трэба было мець, каб называць імёны і ахвяраў, і тых, хто абвяшчаў і выконваў злачынныя прысуды. Вы чыталі Леанідаў даведнік «Ахвяры і каты»?

Ад пачатку 1990-х гадоў я дзесяць разоў зьвяртаўся ў розныя «інстанцыі» ў спадзяваньні знайсьці справу майго дзеда Максіма Дзянісава, расстралянага ў 1933-м. Сабраў цэлую калекцыю адказаў: «не захавалася», «утылізаваная», «не ўяўляецца магчымым».

Надзею падтрымліваў адзін Леанід. І ён — не памыліўся!

Пры іншай уладзе Маракоў стаў бы Героем Беларусі.

Адразу, як яго забралі ў рэанімацыю, дзьверы кватэры былі ўзламаныя і пакінутыя незачыненымі. Нічога каштоўнага ў разуменьні міліцыі ўзломнікі ня вынесьлі. Відавочна прыходзілі па іншае.

**Леанід Маракоў**

15.4.1958, Менск — 17.12.2016, Менск.

Пахаваны на менскіх Заходніх могілках.

Згадваецца: ідзем зь дзядзькам Антосем, старшынём Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня (БАЗа), па нью-ёрскай Пятай авэню, і ён з сваімі шыкоўнымі падкручанымі вусамі выдае тыповым беларускім шляхцічам другой паловы XIX стагодзьдзя, хоць гаворым пра ягонае захапленьне паэзіяй Алеся Разанава.

А кіруемся мы да Ўсясьветнага гандлёвага цэнтру, дзе будзем стаяць на 110-м паверсе, глядзець на экскурсійныя гелікоптэры, што лётаюць далёка ўнізе, і размаўляць пра падзеі амаль 60-гадовай даўніны.

## Антон Шукелойць

Тады, у 1939-м, Антон Шукелойць, нядаўні выпускнік Віленскага ўнівэрсытэту Стэфана Баторыя, пасьля прыходу саветаў у Заходнюю Беларусь стварыў у былым Ашмянскім павеце блізу ста беларускіх школаў і настаўніцкія курсы, загадваў у Ашмянах аддзелам народнай адукацыі, але хутка трапіў у турму НКВД, адкуль вызваліўся ў выніку налёту нямецкай авіяцыі.

Мы наведалі сёньня Музэй Гугэнхайма, таму заходзіць гаворка пра Менскі гістарычны музэй. Малады Антон кіраваў ім у час нямецкай акупацыі. Немцаў ён любіў гэтаксама моцна, як і бальшавікоў, таму і ўступіў у Беларускую незалежніцкую партыю. Брунатны фашызм, кажа ён, прыйшоў на зьмену чырвонаму.

Ён чытаў мае гістарычныя апавяданьні і эсэ, чакае «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі», выкінутыя пасьля травеньскага рэфэрэндуму 1995 году з пляну выдавецтва «Мастацкая літаратура» як «сацыяльна нязначныя». (Кніга сабрала дзясяткі тысяч замоваў і выйдзе пазьней некалькімі выданьнямі з дапамогаю замежных суайчыньнікаў.)

Мы з спадаром Антосем яшчэ і ў вусьцішным сьне ня можам убачыць усяго жаху, што будзе тут 11 верасьня 2001-га, калі ў ліку амаль трох ты-



сяч нью-ёрскіх ахвяраў загінуць і ўсе супрацоўнікі разьмешчанага ў адной зь вежаў невялікага выдавецтва, у якім нашы «Дзесяць вякоў» былі падрыхтаваныя да друку ўжо пангельску.

Пасьля Другой сусьветнай вайны Шукелойць займаўся арганізацыяй школьніцтва і прафэсійных курсаў у лягерах для перамешчаных асобаў у Заходняй Нямеччыне, шукаў вывезеныя туды нацыстамі беларускія музэйныя каштоўнасьці.

У Злучаных Штатах Амэрыкі дзядзька Антось быў адным з найактыўнейшых беларускіх «штыхоў»: трыццаць два гады ачольваў БАЗа, супрацоўнічаў з газэтай «Беларус» і Беларускім інстытутам навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку.

Добрым словам успамінаюць ягоную працу ў Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі.

Там, на вежы па-над Нью-Ёркам, дзядзьку Антосю было восемдзесят. Я пажадаў яму на разьвітаньне 100 гадоў.

Ён пражыў 101. Столькі і павінны жыць беларусы ў XXI стагодзьдзі.

**Антон Шукелойць**
19.7.1915, в. Якелеўшчына, цяпер Ашмянскі раён — 7.1.2017, Нью-Ёрк, ЗША.
Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку, штат Нью-Джэрзі.

Слуцкі збройны чын, натхнёны ідэаламі Беларускай Народнай Рэспублікі, ужо згасае пад націскам велізарных сілаў, кінутых на ваяроў за волю і незалежнасьць бальшавікамі. Купка паўстанцаў, апынуўшыся ў аблозе, адважваецца на самагубства. Случакі ведаюць: карнікі ня проста забіваюць палонных, а праводзяць апазнаньні трупаў, шукаючы і жорстка караючы сваякоў. Трапляць у рукі чырвоным катам нельга ні жывымі, ні мёртвымі. Паўстанцы капаюць сабе агульную брацкую магілу і па чарзе кладуцца ў яе. Жыць застанецца адно падлетак Валодзька, што зраўнуе магілу таварышаў зь зямлёй...

# Валеры Панамароў



Сюжэты пераважнай бальшыні твораў Васіля Быкава цяжка назваць аптымістычнымі, але апавяданьне «На Чорных лядах» вылучаецца сваім гранічным трагізмам. Каб узяцца за ягоную экранізацыю, патрабавалася немалая творчая адвага і чалавечая мужнасьць. Пагатоў палітычная, а разам зь ёю і культурная сытуацыя ў краіне хутка мянялася да горшага.

Да 75-годзьдзя антыбальшавіцкага Слуцкага паўстаньня фільм «На Чорных лядах» зьняў рэжысэр і сцэнарыст Валеры Панамароў — выпускнік нашага тэатральна-мастацкага інстытуту, які стажаваўся ў знаных майстроў — Леаніда Гайдая і Георгія Данэліі.

Гледачы ўжо ведалі яго з экранізацыяў «Амністыі» і «Мудрамера» Мікалая Матукоўскага, а найперш — з экраннай вэрсіі Купалавых «Тутэйшых» (1993).

Прэм’ерныя паказы стужкі «На Чорных лядах» у менскім Доме літаратара прайшлі з супэраншлягам. (Двое маіх знаёмых адважна спрабавалі трапіць у глядзельную залю праз пажарную лесьвіцу, але і там спазьніліся.)

Аднак радасьць Валерыя была перакрэсьленая навіною, што якраз у час прэм’еры зь фільматэкі кінастудыі «Беларусьфільм» хтосьці выкраў адзіную копію стужкі.

Пракат фільму быў забаронены, і яго ўдалося паказаць яшчэ толькі адзін раз для калегаў і кінакрытыкаў у Маскве.

Такі самы лёс напаткаў і «Тутэйшых».

Бяскрылыя ўсё шырэй разгортвалі крылы.

Цяжка ўдарыў па Валерыю і вымушаны ад’езд Васіля Быкава за мяжу.

Панамароў перажываў усё гэта як глыбокую асабістую і мастакоўскую драму. Памятаю, як ён замкнуўся, зрабіўся зусім нешматслоўным, не адказваў на тэлефонныя званкі.

Два апошнія дзесяцігодзьдзі жыцьця ён нічога не здымаў. У мяне нават узьнікала думка, што рэжысэр — пры ўсёй адрознасьці сытуацый — як і ягоныя героі на Чорных лядах, зьдзейсьніў своеасаблівае творчае самагубства.

Дачка Кацярына не зусім пагадзілася: бацька пісаў кінасцэнары, але ўсе яны былі адхіленыя.

Часам аўтару намякалі: ня тое здымаў, ня з тымі зьвязаўся.

Ня з тымі — гэта значыць, з Быкавым і Купалам.

**Валеры Панамароў**
27.5.1943, г. Юрга, Кемераўская вобласьць, Расея —
8.1.2017, Менск.
Пахаваны на менскіх Заходніх могілках.

Неяк у сярэдзіне 1980-х увечары ў дзьверы маёй наваполацкай кватэры пазваніў невядомы чалавек. Мяне і жонку тады спрабавалі прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці «за незаконныя аборты» ў нашай кватэры: прысылалі позвы зь міліцыі, зьбіралі паказаньні суседзяў (адны адгукнуліся страшным кампраматам, маўляў, «разговаривают на белорусском языке, ведут нелюдимый образ жизни», зразумела, што да абортаў пасьля гэтага заставаўся ўсяго крок). Справа, прыдуманая некім з маіх «куратараў» з багатай фантазіяй, вядома, рассыпалася, аднак крыві нам папсавалі ў той час нямала.

# Міхась Паўлаў



Я адчыніў дзьверы з насьцярогаю, але адразу падкупіла крыху зьбянтэжаная цёплая ўсьмешка нечаканага візытанта: «Прачытаў вашую кнігу. Прыехаў зь Віцебску пазнаёміцца зь пісьменьнікам».

Дома ў пісьменьніка — уступіўшы пасьля першай кнігі ў свой творчы саюз і звольніўшыся з працы, я быў у вольным палёце — на вячэру адшукаліся адно хлеб і сала. Праўда, да іх шчасьліва дадалася бутля свойскага чырвонага віна, прывезенага ад закарпацкіх сяброў. Спалучэньне тых інгрэдыентаў выявілася надзіва плённым: мы зь Міхасём ужо ніколі не гублялі адзін аднаго зь відавоку.

Ён меў у сяброўскім коле мянушку Доктар — відаць, ня толькі з прычыны мэдычнай адукацыі і прафэсіі — яшчэ і таму, што разам з паплечнікамі імкнуўся лекаваць хваробы грамадзтва.

Паўлаў стаў адным з заснавальнікаў віцебскага

клюбу аматараў гісторыі і даўніны «Ўзгор'е». Сябры клюбу здолелі ўратаваць ад сучасных вандалаў Пакроўскую царкву, іншыя старасьвецкія будынкі гістарычнага цэнтру, працавалі на аднаўленьні касьцёлу Сьвятой Барбары.

Міхась быў у авангардзе барацьбы супроць будаўніцтва Віцебскай АЭС, калі ўдалося сабраць дзясяткі тысяч подпісаў нязгодных і спыніць (цяпер гэта выглядае дзівам) выкананьне зацьверджанай ужо пастановы Саўміну СССР.

Паўлаў стварaў у Віцебску першыя суполкі БНФ і кіраваў яго абласной філіяй, ачольваў абласное аддзяленьне праваабарончага цэнтру «Вясна», адраджаў грэка-каталіцкую парафію.

Яго ведалі як дасьведчанага краязнаўца, аўтара і выдаўца брашураў з сэрыі «Таямніцы віцебскай гісторыі». Мелі посьпех і выпусканыя ім планкеткі з архітэктурнымі помнікамі.

Незадоўга да сыходу Міхась перажыў моцны асабісты стрэс. У яго на вачах згарэла бацькоўская хата ў роднай вёсцы. Рызыкуючы жыцьцём, ён кінуўся ў полымя і вынес зь яго старэнькую маці.

Сына ён назваў у гонар Багдановіча — Максімам, а дачку, як і лірычную гераіню паэта, — Веранікай. Вельмі чакаў унукаў, таму я спадзяваўся ўбачыць Міхася на віцебскай прэзэнтацыі сваёй створанай з мастаком Паўлам Татарнікавым і адрасаванай дзецям ды падлеткам кнігі «Айчына: маляўнічая гісторыя».

У залі ён так і не зьявіўся. Назаўтра я даведаўся: якраз у тыя хвіліны Міхась разьвітваўся з Айчынай.

Але — vita brevis, Patria aeterna.

**Міхась Паўлаў**
16.11.1957, в. Селішча, Гарадоцкі раён —
27.4.2017, Віцебск.
Пахаваны ў в. Селішча.

Калі побач з словам «шахматы» паставіць назву нашай краіны, трэцім у гэтым шэрагу ўзьнікне імя — Віктар Купрэйчык.

Першы беларускі міжнародны грасмайстар, ён выступаў больш як у ста краінах, згуляў на спаборніцтвах рознага ўзроўню (ад чэмпіянатаў Беларусі да першынства Эўропы і сьвету сярод сэньёраў) 4000 партыяў. Ягонымі супернікамі былі Тыгран Петрасян, Барыс Спаскі, Віктар Карчной, Васіль Смыслоў, Бэнт Ларсэн, Анатоль Карпаў, Гары Каспараў. Чэмпіёнам сьвету Купрэйчык ня стаў, але перамагаў чэмпіёнаў на самых прэстыжных турнірах. Пра шахматную творчасьць беларускага грасмайстра надрукаваныя сотні артыкулаў і рэпартажаў, зьняты фільм. У Канадзе выйшаў зборнік ягоных выбраных партыяў.

# Віктар Купрэйчык



Адмыслоўцы кажуць, ягонай стыхіяй была нястрымная атака з каскадам ахвяраў на алтар перамогі. У журналісцкіх колах яго, выпускніка журфаку БДУ, называлі проста Купрэй, а ў шахматных — Менскі д'Артаньян.

Ягоным дэвізам было: ніколі не здавацца да пачатку партыі. Ня толькі ў шахматнай гульні.

Неўзабаве пасьля чарнобыльскай катастрофы Купрэйчыка ад спартовага таварыства «Дынама» накіравалі з шэфскай паездкай у зону.

Не пасьпеў вярнуцца — званок ад дынамаўскага функцыянэра: падавай дакумэнты на пасьведчань-

не ліквідатара, выгадная справа. «Ды я ж там усяго дзень прабыў!» І паслаў чыноўніка далёка-далёка ад шахматнай дошкі.

Калі ў 1997-м адбываліся выбары прэзыдэнта Нацыянальнага алімпійскага камітэту Беларусі, грасмайстар Купрэйчык быў адзіны, хто падняўся і цьвёрда сказаў: галасаваць ня будзе. Ня будзе, бо, паводле Алімпійскай хартыі, дзейны прэзыдэнт краіны ня можа быць абраны на гэтую пасаду.

Віктар выйшаў з залі.

Пакаяннага ліста ён, не ўважаючы на шматлікія парады, не напісаў.

Разам зь філёзафам Генадзем Грушавым, паэтамі Рыгорам Барадуліным і Генадзем Бураўкіным ён стаяў ля вытокаў грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду». Яе лідэр Уладзімер Някляеў запытаўся, ці трэба яму зь ягонымі праблемамі палітыка, Купрэйчык адказаў: «Праўда — не палітыка». А тады, як Някляеў сышоў з кампаніі, грасмайстар супакоіў яго: «Ты ж ня з праўды сышоў».

Кажуць, жыцьцё для яго не было гульнёй, але гульня была жыцьцём. Але па-за межамі сваёй шахматнай гульні працягласьцю на цэлы лёс Віктар цікавіўся гісторыяй, мастацтвам, літаратурай.

За грошы, выйграныя на вэтэранскім турніры, выдаў па-беларуску кнігу выбранай прозы і паэзіі Івана Буніна. Грошы, што перакладчыкі не ўзялі ад яго як ганарар, аддаў на надмагільны помнік Рыгору Барадуліну.

У час разьвітальнай цырымоніі над труною Купрэйчыка гучалі ягоныя ўлюбёныя «Кони привередливые» Ўладзіміра Высоцкага.

**Віктар Купрэйчык**

3.7.1949, Менск — 22.5.2017, Менск.

Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

Пад намаляванай Алесяю «Пагоняй» 25 сакавіка 1946 году сябры Саюзу беларускіх патрыётаў (СБП) — нелегальнай патрыятычнай арганізацыі пастаўскай і глыбоцкай моладзі — прымалі прысягу на вернасьць Беларусі.

# Алеся Фурс



У гады нямецкай акупацыі Алеся, як і тысячы юнакоў і дзяўчат, была ў Саюзе беларускай моладзі (СБМ). Тады яна навучалася ў Пастаўскай настаўніцкай сэмінарыі, дзе дырэктарам быў Барыс Кіт. «Асабіста я і мае сябры, — успамінала Алеся ў 1990-я, — разумелі СБМ толькі як асяродак, дзе гартаваліся патрыятычныя пачуцьці, любоў да роднага, беларускага. Нічога не прышчаплялася нам нацыянал-фашыстоўскага, ніякай непрыязьні да іншых народаў».

Калі прыйшла Чырвоная армія, сэмінарыю пераўтварылі ў пэдвучэльню ды імгненна зрусіфікавалі. Новы неадукаваны дырэктар, былы партызан, на просьбы вярнуць родную мову называў навучэнцаў фашыстамі і пагражаў здаць іх гэбістам. У адказ маладыя патрыёты пастанавілі змагацца: шукаць і гуртаваць аднадумцаў, пасьлядоўна карыстацца беларускай мовай, рознымі шляхамі пашыраць беларушчыну. Яны марылі пра сапраўдную, а не марыянэткавую дзяржаўнасьць, дзе беларусы былі б гаспадарамі на сваёй зямлі.

Не прамінула году, і МГБ, якое заслала ў арганізацыю правакатара, распачало арышты. Празь

некалькі дзён пасьля Алесі гэбісты прыйшлі па яе бацьку, настаўніка Лявона. У полацкую турму іх везьлі разам у кодабе грузавіка. Раз-пораз машына спынялася, вязьняў прымушалі зьлезьці, і гэбісты з камсамольцамі-«ястрабкамі», цесна абступіўшы бацьку з дачкой, расшпільвалі прарэхі і мачыліся. «Заплюшчы, дачушка, вочы», — казаў ёй тата.

Значна сьмялейшымі за людзей у камэры пачуваліся пацукі. Да ўкормленага пацука быў падобны і сьледчы. Ён карыстаўся гіпнозам, пасьля чаго Алеся пад ягоны рогат падпісвала паказаньні, як у Берасьці (дзе ніколі не бывала) атрымлівала інструкцыі ад амэрыканскіх выведнікаў.

У мардоўскіх лягерах, куды этапавалі асуджаную на 25 гадоў Алесю Ўмпіровіч, дазвалялася пісаць адзін ліст на год. Яна доўга ня ведала, што бацька, пакараны за неданясеньне на дачку 10 гадамі зьняволеньня, сканаў у менскай турме.

Застацца жывой, не звар’яцець ад жаху і зьдзекаў дзяўчыне дапамагла сустрэтая ў лягеры Ларыса Геніюш. Як і гэтая шчырая верніца, Алеся насіла на шыі зроблены з хлебнага мякішу крыжык.

Яна вытрывала, на волі выйшла замуж за Антося Фурса з глыбоцкай філіі СБП. Яны выхавалі сына Юрыя — славутага ў Беларусі каваля, напісалі пранікнёныя ўспаміны, дачакаліся на пачатку незалежнасьці сваёй рэабілітацыі.

«Такое жыцьцё даў мне Бог, — лічыла спадарыня Алеся. — Нічога ў ім я б не зьмяніла, бо іначай здрадзіла б сябрам і Беларусі».

**Алеся Фурс (ад нараджэньня Ўмпіровіч)**
11.1.1925, в. Азярава, цяпер Браслаўскі раён —
19.8.2017, Паставы.
Пахаваная на пастаўскіх могілках каля в. Кашыцы.

«Спадар Арлоў». Упершыню мяне назвала так Юлія Андрусішына.

«Я ня пані, а спадарыня, — у адказ на мой зварот мякка паправіла яна. — А вы — спадар».

У 1989-м я паказваў ёй і яе сыну Багдану — ужо вельмі папулярнаму ў нас сьпеваку Данчыку — мой родны Полацак, калі яна ўпершыню пасьля Другой усясьветнай вайны прыехала ў Беларусь. Асабліва ўразіла спадарыню Юлію Спасаўская царква, збудаваная на замову сьвятой Эўфрасіньні.

Потым былі дранікі з душамі, хатняя вішнёўка, канцэрт у Багаяўленскім саборы, калі твар спадарыні Юлі і ўся яна сьвяцiліся шчасьцем і гонарам за сына. І — раскоша чалавечых стасункаў з мудрай і сьветлай жанчынай. Здавалася, ведаў яе ня два дні, а — пасьля доўгіх і надзіва шчырых размоваў — цэлае жыцьцё.

## Юлія Андрусішына



У Нью-Ёрку мы сустрэліся ўжо як даўнія сябры. Я быў проста атулены цеплынёю ды клопатамі спадарыні Юлі ды яе мамы Яніны Каханоўскай, роднай пляменьніцы Івана і Антона Луцкевічаў. Тая цеплыня грэла душу і на горным лецішчы Андрусішыных з падобнымі да нашых хрушчоў птушачкамі-калібры над кветкамі духмянае табакі, і ў нью-ёрскай кватэры з густоўнымі лялькамі ды іншымі Юлінымі творамі-сувэнірамі, аздобленымі беларускім арнамэнтам.

Кватэра тады была гасьцінна аддадзеная нядаўнім

эмігрантам Зянону Пазьняку і Сяргею Навумчыку. У тых сьценах, дарэчы, нарадзілася маё эсэ «Вустрыцы а пятай раніцы». Так я назваў пазьней кнігу выбраных эсэ, сярод герояў якой і Юлія Андрусішына.

Каб не яна з сваёй патрабавальнасьцю, выдатным слыхам, пошукамі нотаў і тэкстаў, прызнаецца Данчык, ён ня стаў бы сьпеваком, ня выдаў бы чатыры музычныя альбомы: «Гэта найперш маміна матэрыяльная спадчына, якую яна пакідае па сабе».

Змагаючыся зь цяжкай хваробай, Юлія Андрусішына пакінула і іншую спадчыну: завяршыла і выдала ў 2015 годзе кнігу ўспамінаў «Забыцьцю не аддана», дзе прасочвае адгалінаваньні радаводу, апавядае пра дзяцінства, даваенны і ваенны Менск, узнаўляе ўсю доўгую і багатую на падзеі жыцьцёвую адысэю. Кніга аздобленая шматлікімі каштоўнымі ня толькі для асабістай гісторыі, але і для гісторыі наогул здымкамі.

Некалі, пакідаючы пад бомбамі і абстрэламі Менск, дванаццацігадовая Юля, пакуль дарослыя зьбіралі пабытовыя рэчы, зьняла з стала абрус і пашыла зь яго кайстру. Склала туды фатаграфіі зь сямейных альбомаў, а зьверху — вартаваць неацэнны скарб — пасадзіла ўлюбёнага ката. Той, спалохаўшыся выбухаў, неўзабаве ўцёк. Юля сваё багацьце зьберагла. Характар, разуменьне сапраўдных каштоўнасьцяў выявіліся ўжо тады.

Чую яе густы і цёплы непаўторны голас: «Спадар Арлоў...» Веру, што і *там* для яе гучаць Данчыкава гітара і беларускія песьні.

**Юлія Андрусішына**
**(ад нараджэньня Каралёва, пазьней Каханоўская)**
19.6.1932, Менск — 16.9.2017, Нью-Ёрк, ЗША.
Пахаваная на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку, штат Нью-Джэрзі.

Яго вельмі высока цаніў Васіль Быкаў.

Калі пры канцы 1980-х фармавалася нашая група з дваццаці літаратараў для заснаваньня Беларускага ПЭН-цэнтру, аргкамітэт быў аднадушны: ад літаратуразнаўцаў — Бугаёў.

Бацька шасьцігадовага Зьмітрака, селянін з Крычаўшчыны, у крывавыя сталінскія гады не вярнуўся пасьля чарговага арышту. Аддаць гэта забыцьцю было немагчыма, пагатоў у анкетах ня раз даводзілася запаўняць «бацькаву» графу. Бугаёў вучыўся на філялягічным факультэце Магілёўскага пэдінстытуту ў тыя паваенныя гады, калі студэнткаю гістфаку тамсама была мая маці. Яна ніколі не змагла забыць, як некалькіх выкладчыкаў і студэнтаў забралі проста зь лекцыяў.

## Дзьмітры Бугаёў



У маладога асьпіранта, а затым навуковага супрацоўніка акадэмічнага Інстытуту літаратуры і прафэсара БДУ, не было ілюзіяў наконт мінулага дый свайго часу. Было пакліканьне.

Беларускіх пісьменьнікаў, закатаваных і расстраляных, зламаных ГУЛАГам, надоўга ці назаўсёды разлучаных з радзімай у 1930-я гады, рэабілітавалі як грамадзянаў, але трэба было рэабілітаваць іх для айчыннай літаратуры і акадэмічнай навукі. Дзьмітры Бугаёў стаў адным з тых, хто няўхільна вяртаў забароненыя імёны, ствараў магчымасьці для публікацыі кніг, лічаныя асобнікі якіх захаваліся ў спэцсховішчах. Прычым рабілася гэта тады, калі на высокіх пасадах і ў ЦК

КПБ, і ў Акадэміі навук працавала шмат «надзейных» кадраў, правераных за часамі «вялікага правадыра народаў». Такія кадры, што на сумленьні мелі не адзін загублены лёс, хадзілі і па калідорах Саюзу пісьменьнікаў, выступалі з прамовамі на зьездах і канфэрэнцыях.

Першая ж кніга Бугаёва «Шчодрае сэрца пісьменьніка», прысьвечаная даваеннай прозе Міхася Лынькова і выдадзеная празь дзесяць гадоў пасьля сьмерці Сталіна, засьведчыла: у літаратуразнаўства прыйшоў глыбокі сумленны дасьледнік. Потым зьявіліся манаграфіі «Уладзімір Дубоўка» (1965) і «Максім Гарэцкі» (1968), зборнікі літаратурна-крытычных артыкулаў «Шматграннасьць» і «Талент і праца». Бугаёў пісаў пра рэпрэсаванага Барыса Мікуліча, які памёр у сібірскай высылцы, пра расстраляных Васіля Каваля і Платона Галавача.

Ужо ў незалежнай Беларусі ён выдаў кнігу пра Васіля Быкава «Праўда і мужнасьць таленту».

Згадваючы ў 1992-м у адным з інтэрвію сябе і калегаў у 1960–1970-я гады, Дзьмітры Якаўлевіч адзначыў: «Цяпер усё дазволена, і нічым ня трэба рызыкаваць. А тады нам усім многае давалася зь вялікімі пакутамі, кожная пераацэнка даставалася з боем». Прамоўлена было — мы сёньня разумеем — занадта аптымістычна, але калі нядоўгая кволая адліга ў нашых шыротах і закончылася, Бугаёў застаўся бескампрамісным змагаром.

«Гісторыя яшчэ скажа праўду пра нас», — напісаў перад сьмерцю ў жудасны для беларускай гісторыі дзень 29 кастрычніка 1937-га Платон Галавач.

Гэтую праўду нястомна казаў Бугаёў.

**Дзьмітры Бугаёў**
12.1.1929, в. Сычык, Крычаўскі раён — 28.12.2017, Менск.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

У маёй вальеры, як я называю кабінэт, тры сталы. Міхал — дызайнэр, мастак, паэт, мысьляр — прысутны на ўсіх трох.

На пісьмовым стале Міхалава паштоўка — фіялетавая ноч, сярод якой зьзяе залатымі яблыкамі, а можа, цьвіце зіхоткімі кулямі загадкавых плянэтаў казачнае блакітна-сіняе дрэва.

На стале, дзе растуць стосы кніг, вока адразу знаходзіць бел-чырвона-белы карэньчык «Колераў Беларусі». У зусім не бясспрэчнай (барані нас, Божа, ад бясспрэчных!) кнізе шмат закладак. Яны сьведчаць: мы зь Міхалам вандравалі — ня разам, а паасобку і ў розны час — па тых самых гасьцінцах, дарогах і сьцежках нашага беларускага сьвету, нашага нацыянальнага космасу, адным з захавальнікаў і творцаў якога ён быў.

## Міхал Анемпадыстаў



Наваградзкае замчышча і віленскі касьцёл Сьвятых Пятра і Паўла. Вадзяны млын у Гальшанах і зялёны мячэт у беларуска-татарскай вёсцы Крушыняны на Падляшшы. Царква Сьвятога Арханёла Міхала ў Бельску і смаленскае сяло Талашкіна, дзе працавалі Ігар Стравінскі, Міхаіл Урубель і Мікалай Рэрых. Анемпадыстаў параўнаў спалучэньні сіняга, блакітнага і зялёнага ў Талашкіне і Бельску. Я згодны: атрымалася сапраўды астральна.

Адна з самых дарагіх для мяне фотаілюстрацый — беларускі туман, што дае Міхалу падставы паразважаць пра шэрую гаму, «поле найбольшых разыходжаньняў паміж мовай вэрбальнай і візуальнай, бо вока бачыць усе калярыстычныя нюансы, але мова не заўсёды ў стане іх апісаць». У мяне ту-

ман свой — той, дзе я згубіўся пад інсургенцкімі Мілавідамі і ледзьве ня выйшаў у чэрвень 1863-га.

На трэцім, кампутарным століку, таксама Міхал Анемпадыстаў — на фота. Слухаем разам з экрану ягоныя «Простыя словы» з папулярнага ўжо трэцяе дзесяцігодзьдзе «Народнага альбому». Белая саколка падкрэсьлівае амаль іканапісны твар неймаверна свабоднага чалавека.

*Ёсьць чым сагрэцца,*
*ёсьць дзе схавацца*
*ў доме бацькоўскім,*
*у матчынай хаце...*

Досыць працягнуць руку, і з кніжнай паліцы я здыму Міхалаву кніжку вершаў «На дне філіжанкі кавы». Павінна зьявіцца і кніга ўспамінаў пра яго «Простыя словы. Міхал Анемпадыстаў». Шэсьцьдзясят тры аўтары.

Пісьменьнік Павал Касьцюкевіч сказаў, што Міхал сканструяваў новую ДНК нашай культуры. Мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі назваў Анемпадыстава «іконаю стылю». Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» ўдзячнае яму як генэратару ідэяў у грамадзка-культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!». Не знаёмыя мне суседзі па століку ў кавярні захоплена згадвалі, што Міхал бараніў ад разбурэньня адметны менскі раён Асмалоўку.

Неяк мы гаварылі зь ім пра час як адно з увасабленьняў Айчыны. Я думаю, час для Міхала не спыніўся, проста зрабіўся іншым. Цяпер ён у створаным ім сьвеце, сярод сваіх герояў, сваіх вобразаў і колераў. І гэты ягоны час, і гэты ягоны сьвет — працяг Айчыны.

**Міхал Анемпадыстаў**
16.3.1964, Менск — 23.1.2018, Менск.
Пахаваны на менскіх Чыжоўскіх могілках.

## Валер Шыла

Баранавіцкія незалежнікі запрасілі мяне на Мілавідзкі фэст у гонар самай вялікай пераможнай бітвы паўстанцаў Кастуся Каліноўскага з расейскімі карнікамі.

У ўрачыстым маўчаньні, ушаноўваючы памяць герояў, мы стаялі пад бел-чырвона-белымі сьцягамі каля мэмарыяльнай капліцы, і тут, здалося, з саміх нябёсаў ці з навакольных чэрвеньскіх разлогаў палілася журлівая мэлёдыя палянэзу Міхала Клеафаса Агінскага «Разьвітаньне з Айчынай».

Мэлёдыя набліжалася, і ўрэшце з-за дрэваў выйшаў музыка. Сонца зьзяла на ягоным саксафоне, вецер распростваў сьцягі, палянэз вярэдзіў душы і прасьвятляў твары.

Той момант і той дзень назаўсёды засталіся ў залатым запасе памяці.

Саксафаніста звалі Валер Шыла. Ён скончыў прэстыжную Расейскую акадэмію музыкі імя Гнесіных, потым дасканаліўся ў Нямеччыне, перамагаў на міжнародных конкурсах. Меў магчымасьць застацца за мяжой, але вярнуўся і — не шкадаваў.

Яго любілі вучні зь Менскай гімназіі-каледжу мастацтваў імя Івана Ахрэмчыка і Баранавіцкага музычнага каледжу. Валеравы выхаванцы ўпэўнена паступалі ў айчынныя і замежныя навучальныя ўстановы.

Шмат для каго з вучняў выкладчык стаў прыкладам як адданасьці музыцы, так і служэньня Беларусі.

Валер Шыла быў дэлегатам ад Баранавічаў на Кангрэсе дэмакратычных сілаў у 2005-м. У наступным годзе прыехаў у Менск, каб далучыцца да пратэсту пасьля прэзыдэнцкіх выбараў, застаўся ў намётавым мястэчку і пасьля яго разгрому сядзеў «на сутках» у Жодзінскай турме.

Некалькі гадоў Валер змагаўся з анкалягічнай хваробай, перанёс шэраг апэрацыяў, аднак амаль ніхто



ня ведаў пра гэта. Ведалі іншае: у той самы час ён двойчы езьдзіў за стырном уласнага аўтамабіля на кіеўскі Эўрамайдан, браў разам з саксафонам удзел у баранавіцкіх патрыятычных імпрэзах, заставаўся такім самым сумленным, сьціплым, гатовым адгукнуцца на любую беларускую справу.

Я меўся запрасіць Валера на прэзэнтацыю свайго «Пяцікніжжа», выдадзенага Ігарам Логвінавым. Мроіў, што пад саксафон буду чытаць «Танцы над горадам», і слухачы таксама стануць у кола побач з танцорамі-самнамбуламі.

Валер ужо ня здолеў прыехаць.

Мне пачасту летуценіцца, як ён танчыць з маімі героямі на дахах іншых гарадоў і сьветаў.

**Валер Шыла**

10.1.1970, Баранавічы — 24.1.2018, Баранавічы.

Пахаваны на баранавіцкіх Русінаўскіх могілках.

## Барыс Кіт

Безьліч разоў, віншуючы сяброў з днямі нараджэньня, я зычыў ім браць прыклад з Барыса Кіта. Ня толькі, каб жылі да ста гадоў, а потым — як заманецца, але — каб жылі напоўніцу, яскрава, каб пакінулі гэты сьвет крыху лепшым, чым засьпелі. І — куды б ні закінуў лёс — не забывалі: Айчына — вечная.

Калі сказаць, што ў жыцьці чалавека адлюстравалася цэлае стагодзьдзе, то гэта — пра яго.

Барыс ужо добра памятаў, як у 1918-м вярнуўся з бацькамі зь Пецярбургу на іх родную Наваградчыну. Неўзабаве яна, паводле Рыскай дамовы, апынулася ў складзе Польшчы. Кіт яшчэ пасьпеў скончыць Наваградзкую беларускую гімназію. Калі палякі закрылі яе, прыехаў на радзіму і арганізаваў пераезд большыні гімназістаў у беларускую гімназію ў Вільні. На той час ён, выпускнік фізычна-матэматычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту (за плячыма меў два арышты за беларускую дзейнасьць) выкладаў у гэтай гімназіі, а ў 1939-м стаў яе дырэктарам.

Увосень таго году сытуацыя ў нашых шыротах імкліва мянялася. Вільня, пабыўшы сорак дзён у складзе Беларусі, была перададзеная Сталіным яшчэ незалежнай Літве. Новыя гаспадары касавурыліся на беларусаў ня менш, чым палякі, і Кіт зноў наладзіў пераезд часткі гімназістаў — гэтым разам назад у Навагрудак, дзе ягонымі намаганьнямі беларуская гімназія аднавілася.

Падчас нямецкай акупацыі ён настаўнічаў, заснаваў у Маладэчне гандлёвую школу, дырэктарстваваў у Пастаўскай настаўніцкай сэмінарыі. Яе навучэнка Алеся Ўмпіровіч (Фурс) пазьней, за саветамі, стварыла з аднадумцамі нелегальны Саюз беларускіх патрыётаў. Нацысты мелі да пэдагога Кіта прэтэнзіі настолькі важкія, што кінулі яго ў расстрэльную камэру, дзе за ноч з трыццаці вязьняў заставалася пяць.



Ад сьмерці выратавалі былыя ўдзячныя вучні.

Прэзыдэнт Францыі Шарль дэ Голь у свой час публічна падзякаваў выкладчыкам, што пад акупацыйнай нямецкай уладай працавалі ў францускіх школах. Беларускіх настаўнікаў партызаны сотнямі расстрэльвалі, а школы палілі. Тых, хто выжыў, чакалі турмы і лягеры.

Жывучы з 1949 году ў ЗША, Барыс Кіт зрабіўся плянэтарна вядомым вучоным у галіне астранаўтыкі. Ён вынаходзіў формулы ракетнага паліва, распрацоўваў сродкі сувязі для касьмічных караблёў, прычыніўся да падрыхтоўкі высадкі на Месяц. Імя акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі Кіта закладзенае ў «капсулю часу» найлепшых вучоных гэтай галіны, якую заплянавана ўскрыць праз 500 гадоў.

Беларусь ніколі не пакідала ягонага сэрца. Ён неаднаразова наведваў яе ў 1990-я, фундаваў беларускія выданьні, сябраваў з Васілём Быкавым, заснаваў прэмію свайго імя для культурных дзеячаў. Пра Барыса Кіта, ганаровага грамадзяніна Навагрудку, выйшла важкая палічка кніг.

Ягонае імя штораз прыходзіць на памяць, калі бачу на начным небе рухомую зорачку штучнага зямнога спадарожніка.

**Барыс Кіт (ад нараджэньня Кіта)**
6.4.1910, Санкт-Пецярбург, Расея —
1.2.2018, Франкфурт-на-Майне, Нямеччына.
Пахаваны на могілках праваслаўнай царквы Сьвятой Лізаветы ў Вісбадэне.

Спадар Георгі сышоў у вечнасьць, калі Менск і навакольле патаналі ў сумётах і ў завеях, — акурат як у тыя сакавіцкія дні дзевяць з паловаю стагодзьдзяў таму, калі кіпела векапомная бітва на Нямізе.

Доктар гістарычных навук, археоляг Георгі Штыхаў і сам стаў неадлучнай часткаю айчыннай гісторыі.

Некалі мы, студэнты-гістфакаўцы, зачытваліся ягонай кніжкай «Ажываюць сівыя стагодзьдзі». Потым ён выдаў цэлую бібліятэку манаграфій, што зрабіліся клясыкай нацыянальнай археалёгіі, а таксама навукова-папулярных кніг і школьных падручнікаў.

## Георгі Штыхаў



У савецкія яшчэ часы, калі нам адурманьвалі галовы бясконцай хлусьнёй, нібыта беларусы атрымалі дзяржаўнасьць «выключна дзякуючы Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі», Штыхаў прапанаваў адлічваць нашу гісторыю і традыцыю дзяржаўнасьці ад Полацкага княства.

Пазьней, ужо ў 1990-я, на навуковым кангрэсе ў Ноўгарадзе ён уразіў (прычым многіх, найперш расейскіх калегаў — вельмі непрыемна) тым, што заявіў: хопіць нарэшце разглядаць раньнюю гісторыю ўсходнеславянскіх народаў праз спрэчную, замшэлую і наогул эўразійскую канцэпцыю «Старажытнай Русі».

Потым у падтрымку гэтай пазыцыі Штыхаў

апублікаваў кнігу «Старажытныя дзяржавы на тэрыторыі Беларусі».

Ён быў шчодры з сваімі вучнямі і наступнікамі. Адзін зь іх, археоляг Сяргей Тарасаў, згадваючы настаўніка, дзяліўся: «Георгі Васілевіч аддаваў нам ня толькі напрамкі ў навуцы. Аддаваў цэлыя гарады. У Горадні даў магчымасьць працаваць Алесю Краўцэвічу. Мне падараваў Полацак».

Ён ані не цураўся палітычных падзеяў у краіне: быў сярод заснавальнікаў «Мартыралёгу» і дабрачыннага фонду «Памяць ахвяраў сталінізму ў Беларусі», ачольваў Асацыяцыю ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. Як сябра Грамадзкага трыбуналу Штыхаў паставіў свой подпіс пад абвінаваўчым заключэньнем пра злачынствы сталінізму на нашай зямлі.

Быў момант, калі мне, нядаўна звольненаму з палітычных матываў з працы, цяжка было знайсьці запатрабаваных раптам выдаўцамі навуковых рэцэнзэнтаў (прычым адразу некалькіх) на перавыданьне маіх «Таямніцаў полацкай гісторыі», ня кажучы ўжо пра новую кнігу «Краіна Беларусь». Адны прафэсійныя слугі Кліё з навуковымі ступенямі надоўга задумваліся і няпэўна абяцалі ператэлефанаваць, другія адмаўляліся: маўляў, ты ж разумееш, у мяне пасада. Адразу згадзіліся трое: Міхась Чарняўскі, Анатоль Грыцкевіч і — загадчык аддзелу археалёгіі й гісторыі Полацкай зямлі Інстытуту гісторыі Акадэміі навук Георгі Штыхаў.

Зь ягоных падручнікаў пачыналі вучыцца дзеці незалежнай Беларусі, якія цяпер бароняць яе будучыню.

**Георгі Штыхаў**
14.7.1927, в. Старая Беліца, цяпер Гомельскі раён —
2.3.2018, Менск.
Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

Арсень Ліс быў чалавек незвычайнай эрудыцыі і разам з тым неверагодна сьціплы, разважліва-спакойны і — здольны выбухнуць гневам, калі сутыкаўся зь непрыняцьцем ці зьнявагаю беларускай мовы і культуры. Ягоныя прыхільныя водгукі на мае першыя гістарычныя апавяданьні нараджалі імпэт і веру, што нельга збочваць.

Яго дачка Алёна і мой сын Багдан вучыліся ў Беларускім гуманітарным ліцэі, і мы бліжэй пазнаёміліся, калі баранілі ўнікальную навучальную ўстанову: праводзілі сходы, пісалі звароты, стаялі ў пікетах на плошчы. Доктар філялёгіі, вядомы ня толькі ў Беларусі фальклярыст і літаратуразнаўца, Арсень Ліс быў сярод тых, хто заставаўся ў сьценах ліцэю на выпадак спробы начнога захопу. Першую атаку адбілі, але Ліс прадказваў: улады не супакояцца. Так і сталася, праз колькі гадоў ліцэй выкінулі на вуліцу, а будынак перадалі суду. У залі, дзе адбываліся ліцэйскія сьвяты, дзе жыў вольны дух, новыя гаспадары ўсталявалі жалезную клетку. Ня раз у ёй трымалі на судовых паседжаньнях былых ліцэістаў: прышчэпка свабоды дзейнічае, напэўна, пажыцьцёва. На шчасьце, сам ліцэй зьнішчыць не ўдалося, і ён, няхай і паўлегальна, працуе на будучыню.

## Арсень Ліс



Арсень Ліс з кагорты тых, хто ствараў падмурак найноўшага нацыянальнага Адраджэньня. Яшчэ ў 1960-я ён выдаў манаграфіі «Браніслаў Тарашкевіч» і «Мікола Шчакаціхін: харасство непазнанай зямлі».

Усьлед выйшлі кніга пра мастака Пётру Сергіевіча і нездарма зьніклы ў мяне «Вечны вандроўнік». Гэтым натхнёным нарысам пра Язэпа Драздовіча зачытваліся і сябры менскага клюбу «Талака», і маладыя літаратары з наваполацкага літаб'яднаньня «Крыніцы».

На маіх кніжных паліцах у шчыльных шэрагах узятых у льняныя апраВы тамоў з акадэмічнай сэрыі «Беларуская народная творчасьць» стаяць укладзеныя Лісам зборы песьняў: жніўных, купальскіх і пятроўскіх, восеньскіх і талочных. За ўдзел у тым тытанічным праекце ён стаў ляўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі, а ўжо ў часы незалежнасьці за кнігу «Цяжкая дарога свабоды. Артыкулы. Этуды. Партрэты» быў уганараваны прэміяй імя Максіма Гарэцкага.

Бібліяграфія гэтага, здавалася, вечнага працаўніка заняла б цэлую старонку. А былі ж і сцэнары дакумэнтальных фільмаў пра Аляксандра Ўласава, Аркадзя Смоліча, Мітрафана Доўнар-Запольскага... Арсень Ліс выдаў том выбранага ў «Беларускім кнігазборы», надрукаваў у газэце «Новы час» найцікавейшыя ўспаміны.

Кожны раз дарагім падарункам бывалі ягоныя званкі. «Прачытаў вашых «Трох мужоў спадарыні Дамінікі». «Чуў пра скандал з вашым «Ордэнам Белай Мышы» ў «Мастацкай літаратуры». Выдалі, а цяпер локці кусаюць. Але ж нехта кнігу падпісаў у друк! На нябёсах залічыцца».

Яго пахавалі ў Залесьсі, у колішніх Паўночных Афінах Міхала Клеафаса Агінскага. Некалі ў галерэі палацу месьцілася школа, дзе вучыўся Арсень.

У ягоным лёсе не было нічога выпадковага.

**Арсень Ліс**
4.2.1934, в. Вётхава, цяпер Смаргонскі раён —
28.5.2018, Менск.
Пахаваны ў в. Залесьсе, Смаргонскі раён.

## Кірыла Насаеў

Калі камэрны мужчынскі хор «Унія» сьпяваў гімн «Магутны Божа», мая душа заўсёды імкнулася ў нябёсы і ў ёй мацнела вера ў нашу праўду і прышласьць.

«Унію» на пачатку 1990-х стварыў хормайстар, музыказнаўца і пэдагог Кірыла Насаеў. Маці выкладала музыку, што і паланіла сына з малых гадоў. Ён сьпяваў у хоры хлопчыкаў пры кансэрваторыі, куды затым і паступіў.

Харысты «Уніі» належалі да розных канфэсіяў, але ўсіх — каталікоў, праваслаўных, вуніятаў, пратэстантаў — абʼяднала агульная мэта: сьпяваць храмавыя і патрыятычны беларускія песьні. Кірыла вельмі хуткаператварыў хор з аматарскага ў сапраўды прафэсійны, прывёў яго да перамогі на першым фэстывалі духоўнай музыкі «Магутны Божа». Неўзабаве «Унія» стала ляўрэатам конкурсу імя Шубэрта ў Вене. Канцэрты хору адбываліся ў Літве, Польшчы, Бэльгіі. Нашыя песьні плылі па-над ранішняй Сенай і вечаровым Басфорам.

Славуты опэрны сьпявак і мастацкі кіраўнік «Беларускай капэлі» Віктар Скарабагатаў, характарызуючы Кірылу Насаева, кажа: perpetuum mobile — вечны рухавік. Шмат хто называў яго унікумам беларускай музычнай культуры.

Тады ж, у першай палове 1990-х, — такія былі часы! — Насаеў на просьбу кіраўніцтва ансамблю песьні і танцу Ўзброеных сілаў Беларусі падрыхтаваў для выкананьня гэтым калектывам «Пагоню» і гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Потым запісаў альбом «Беларускія песьні і маршы. Лірыка змаганьня», прысьвечаны 80-годзьдзю БНР. Харавы варыянт «Пагоні» ён стварыў пазьней і для праекту «Re:Песьняры». Ганарыўся зробленым: маўляў, паказаць ня сорамна нават Уладзімеру Мулявіну.



«Унія» адраджала айчынную музычную даўніну: выконвала рэлігійныя і сьвецкія творы розных эпохаў, пачынаючы з XII стагодзьдзя. Даўно стала рарытэтам выдадзеная яшчэ на касэтах праграма «Музыка Літвы і Кароны». А як гучалі «Сьпевы даўніх ліцьвінаў» на вершы Яна Чачота і «Музыка беларускіх храмаў»! «Унія» сьпявала на плошчы Незалежнасьці ў верасьні 1992 году, калі мы прысягнулі быць вернымі Айчыне, адстойваючы яе сувэрэнітэт усімі сродкамі.

Дзякуючы таленту і арыгінальным хормайстарскім поглядам Насаева на канцэрты «Уніі» было не прабіцца. Памятаю, якое захапленьне залі выклікала тое, што мэлёдыі часоў Міхала Клеафаса Агінскага зьмяняліся апрацоўкамі «Бітлз».

Між тым некалькі гадоў «Унія» існавала на грамадзкіх пачатках. Потым хор, які рэпэтаваў у Менску, «прымацавалі» да Магілёўскай філармоніі, ды ўрэшце зноў выправілі ў вольнае плаваньне. У 2002-м адбыўся апошні канцэрт. Хтосьці з харыстаў пайшоў у опэру, хтосьці падаўся за мяжу. Кірыла цяжка перажываў, але працягваў працаваць: кіраваў іншымі харамі, складаў збор твораў Міколы Равенскага, выкладаў... Сярод ягоных выхаванак — знакамітая сьпявачка Руся.

Адмысловы праект ён рыхтаваў да 100-годзьдзя Беларускай Народнай Рэспублікі..

Не пасьпеў.

**Кірыла Насаеў**

15.5.1960, Сумы, Украіна — 17.7.2018, Менск.

Пахаваны на менскіх Міханавіцкіх могілках.

У 1988 годзе ў рэдакцыю газэты «Знамя юности» патэлефанавалі па камэнтар зь Мюнхэну, дзе тады месьцілася Радыё Свабода. Слухаўку падняў Алесь Ліпай. У тым самым годзе ён стаў першым у Савецкім Саюзе карэспандэнтам Беларускай службы гэтага радыё.

Тая падзея бачыцца глыбока не выпадковай. Студэнт факультэту журналістыкі Белдзяржунівэрсытэту Ліпай меў непрыемнасьці за выпуск вальналюбнай і вострай насьценгазэты «Лірнік». Ён быў сябрам нонканфармісцкага Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», што пачало рэальна ўплываць і на літаратурнае, і на палітычнае жыцьцё рэспублікі. Сябры і калегі цанілі Алесевы цьвёрдыя нацыянальныя незалежніцкія каштоўнасьці, яго паэтычны слых, азарт і зацятасьць, укладаныя ў любую справу.

## Алесь Ліпай



Ягоная далейшая біяграфія вартая кнігі.

У 1991-м Ліпай заснаваў першае ў краіне незалежнае інфармацыйнае агенцтва БелаПАН, якое перарасло ў кампанію з запатрабаваным у Беларусі і за мяжой мультымэдыйным кантэнтам. Ён стаў аўтарам беларускага перакладу падпісанай Станіславам Шушкевічам і Білам Клінтанам Дамовы пра вывад зь Беларусі ядравай зброі. Перавёз з-за мяжы амаль паўтары тысячы кніг, выдадзеных беларускай дыяспарай.

Памятаеце выпадак, калі ў менскім дзіцячым садку ў закладнікі былі ўзятыя сямнаццаць малых ды іхнія выхавальніцы? Журналістам, што, рызыкуючы

жыцьцём, браў у тэрарыста інтэрвію і адцягваў ягоную ўвагу, быў Алесь Ліпай.

Заведзеная супроць яго крымінальная справа выявілася дзіўным чынам блізкаю ў часе зь менскім мітынгам-канцэртам, прысьвечаным 100-годзьдзю абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Генэральным партнэрам той яскравай падзеі быў БелаПАН, а Ліпай выступіў там, каля Опэрнага тэатру, з натхняльнай прамовай.

Кожнае неардынарнае таленавітае жыцьцё мае сваю непаўторную мэлёдыю. Найбольш выразна Алесева мэлёдыя чулася ў яго вершах.

Аднойчы мы стаялі зь ім на пустэльнай праскай плошчы Сьвятога Вацлава, ён падняў вочы ў неба і пачаў чытаць:

*У нябеснай бібліятэцы*
*Божа перабірае кнігі.*
*Лёгкія, як аблокі ў рэчцы,*
*І грувасткія, быццам крыгі...*

Верш увайшоў у трэцюю і апошнюю прыжыцьцёвую кнігу «Абдымкі».

На надмагільным помніку таксама ягоныя радкі:

*Я ўкрыжаваны лёсам на крыжы,*
*Які завуць у сьвеце Беларусьсю...*

Прыносьце яму валошкі. Алесь любіў гэтыя кветкі. На Радыё Свабода ён выходзіў у эфір як Ясь Валошка.

**Алесь Ліпай**
9.4.1966, в. Андросаўшчына, Капыльскі раён —
23.8.2018, Менск.
Пахаваны ў г. п. Рудзенск, Пухавіцкі раён.

Хведар Якубавіч вельмі любіў і цудоўна ведаў Вільню, па якой, нават на шматкілямэтровыя адлегласьці, зазвычай хадзіў пешкі. Маршруты бывалі самыя розныя, але нярэдка ён рабіў своеасаблівыя «інспэкцыйныя» прагулянкі, наведваючы шматлікія беларускія мясьціны крывіцкай Мэкі, адзначаныя мэмарыяльнымі шыльдамі.

Недзе тут шчыраваў пасьля Прагі ў сваёй віленскай друкарні Францішак Скарына. Тут правёў апошнія зямныя дні Кастусь Каліноўскі. Тут, у Беларускай гімназіі, выкладалі Максім Гарэцкі ды Адам Станкевіч і вучылася Натальля Арсеньнева. У гэтым доме жыў Вацлаў Ластоўскі, у тым — Рыгор Шырма, а там была рэдакцыя «Нашай Нівы», якую тады рэдагаваў Янка Купала. Такіх шыльдаў можна налічыць дзясяткі два, і да кожнай ён меў беспасярэдняе дачыненьне, бо чвэрць стагодзьдзя, ад моманту заснаваньня, ачольваў Таварыства беларускай культуры (ТБК) у Літве.

## Хведар Нюнька



Асобны маршрут прыводзіў спадара Хведара на знакамітыя могілкі Росы, дзе ён сумовіўся зь Яўстахам Тышкевічам і Ўладзіславам Сыракомлем, Казімерам Сваяком і Ядзьвігіным Ш., братамі Іванам ды Антонам Луцкевічамі, Францішкам Аляхновічам... Шкада, крыху не дажыў да сустрэчы з Каліноўскім і каліноўцамі.

З удзячнасьцю кажуць пра Хведара Нюньку выкладчыкі сучаснай Віленскай беларускай гімназіі, дэлегаты пяці праведзеных ТБК канфэрэнцый беларусаў Балтыі, сябры Рады БНР, у Прэзыдыюм якой ён уваходзіў цягам двух дзесяцігодзьдзяў.

Памятаю яго і цудоўным апавядальнікам. Неяк у 1944-м шаснаццацігадовы Хведар пачуў, як на вуліцы за вакном сьпяваюць гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» (там праходзілі жаўнеры Барыса Рагулі). Сын разам з бацькам Якубам укленчылі і маліліся за вольную Беларусь.

Выпадала пачуць і згадкі іншага кшталту.

У 1954 годзе Нюнька залез у пазыкі, але прымудрыўся набыць сабе новую «Победу». На такіх машынах тады езьдзілі міністры, а ён, возячы дзяўчат па Вільні ды яе блізкіх і далёкіх ваколіцах, заўсёды казаў, што працуе шафёрам: «Не хацеў, каб любілі машыну, а не мяне».

Апошнія гады жыцьця Хведара Якубавіча былі атручаныя прэтэнзіямі з боку былых паплечнікаў і судовымі разьбіральніцтвамі. Варта падкрэсьліць: суд адкінуў усе абвінавачаньні і пастанавіў выплаціць Нюньку вялікую кампэнсацыю. Але яму бязьмерна даражэйшае было добрае імя.

У 2017-м, на Зьезьдзе беларусаў сьвету, мы бачыліся астатні раз. Ён падышоў, каб узяць аўтограф на маёй кнізе «Айчына», і прабачліва прамовіў, што кніга для яго рук ужо зацяжкая.

Я калямбурыста і ня надта дарэчна напісаў: няхай, маўляў, Айчыну, якая трымае нас усіх, ніколі ня будзе цяжка трымаць нам самім.

Цяпер бы аўтограф выглядаў іначай, бо Хведар Нюнька сапраўды з тых, хто трымаў і трымае ў сваіх руках гонар і годнасьць Айчыны.

**Хведар Нюнька**
6.4.1928, в. Алешавічы, цяпер Мастоўскі раён —
15.9.2018, Вільня.
Пахаваны на віленскіх Сьвята-Эўфрасіньнеўскіх
(Ліпаўскіх) могілках.

Адну зь ягоных кніжак мая рука заўсёды імгненна знаходзіць на застаўленых у два шэрагі хатніх кніжных паліцах. Тут не абыходзіцца бязь містыкі. Яно й нядзіва: кніга называецца — «Здані і пачвары Беларусі». Яна, выдадзеная ў суаўтарстве з Максімам Клімковічам у 1995-м пад псэўданімамі Францішак Юр і Марцін Хлус, абяцала ў уступе сустрэчу «зь першым у Беларусі навуковым дасьледаваньнем арэалаў і ладу існаваньня звышнатуральных істотаў». Кніга сталася эпатажным, але яскравым узорам беларускай несавецкай літаратуры. Ад старонак сьвежа павявала блізкім знаёмствам аўтараў і з трансцэндэнтальнымі зьявамі, і з айчыннай гісторыяй ды клясычным прыгожым пісьменствам. Досыць узгадаць імёны пэрсанажаў: Прывід сібірскага ката князя Паскевіча, Гаўляйтэр і Пакаёўка, Русалка Камсамольскага возера, Палескія Рабінзоны і Міколка Паравоз, што ўжо ў наш час падбухторваў на страйкі аршанскіх чыгуначнікаў.

## Уладзіслаў Ахроменка

Потым знайшлі чытача таксама народжаныя разам з Клімковічам-Юрам вострасюжэтны кінараман «Янкі, альбо Астатні наезд на Літве» і апокрыф-правакацыя «Праўдзівая гісторыя Кацапа, Хахла і Бульбаша». У творчай адзіноце Ўладзіслаў напісаў «Тэорыю змовы», якая важка прэтэндавала на прэмію Гедройця, а затым кнігу «Музы і сьвіньні» (яе параўноўвалі зь «Легендамі Неўскага праспэкту» Міхаіла Велера).

Калі пачалася неабвешчаная вайна ў Украіне, Уладзіслаў Ахроменка, жывучы зь сям'ёй у Чарнігаве, запісаўся добраахвотнікам у войска, хадзіў на баявыя дзяжурствы на мяжы з акупаваным Крымам і быў звольнены ў запас толькі з прычыны таго, што меў непаўналетнюю дачку.

Апошні раз мы сустрэліся ў Купалаўскім тэатры на прэм'еры пастаўленага Мікалаем Пінігінам спэк-



таклю «Дзьве душы» паводле аповесьці Максіма Гарэцкага. Аўтарам драматургічнай вэрсіі зноў жа быў суладны дуэт Ахроменка — Клімковіч.

На той час Уладзіслаў заняўся росшукамі ў архіве СБУ Чарнігаўскай вобласьці, дзе знайшоў дзясяткі справаў беларусаў, асуджаных за антысавецкую дзейнасьць ад 1919 да 1991 году. Ён, у прыватнасьці, даведаўся: пры канцы 1980-х КГБ, баючыся перабудовачнай адлігі, актыўна зьнішчаў дакумэнты, датычныя завэрбаванай агентуры. А вось сьведчаньняў пра пазаштатных стукачоў ды іхні энтузіязм захавалася багата. Не пасьпеў інжынэр Маліноўскі ў кампаніі выказацца пра адсутнасьць у СССР сапраўдных выбараў і асудзіць увод войскаў у Аўганістан, як на «ворага» цягам тыдня прыйшло 15 даносаў. Камандзір корпусу, герой грамадзянскай вайны на першым ж допыце здаў усіх, пра каго пыталіся, і атрымаў 25 гадоў, а маладзенькая настаўніца з-пад Полацку нікога не агаварыла, на судзе назвала НКВД бандаю катаў, і была асуджаная на тэрмін у пяць разоў меншы. Не ламаўся ў сярэднім адзін зь дзесяці.

Архіўную кнігу Ўладзіслава я чакаў яшчэ больш, чым пачатую ім антыўтопію «Выкрадальнікі гукаў»...

**Уладзіслаў Ахроменка**
29.1.1965, Гомель — 9.11.2018, Беласток, Польшча.
Пахаваны на менскіх Заходніх могілках.

Ягоная кніга «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», выдадзеная ў 1993-м па-беларуску 5-тысячным накладам, стала сапраўднай сэнсацыяй і бэстсэлерам.

Падзеі Другой усясьветнай вайны на нашай зямлі паўставалі перад чытачамі не ў даўно абрыдлай чорна-белай гаме, а ў самых розных барвах. Вядома, пераважна ў драматычных і трагічных, але часам і ў трагікамічных. (Памятаеце пачатак фільму «Акупацыя. Містэрыі», калі паліцай натхнёна сьпявае «Широка страна моя родная»? Думаю, і аўтар сцэнару Аляксандар Качан, і рэжысэр Андрэй Кудзіненка ня раз зазіралі ў дасьледаваньне Туронка.)

## Юры Туронак



Пад немцамі, як выявілася, працягвалася беларускае жыцьцё: працавалі школы, выходзілі падручнікі і мастацкія кнігі, дзейнічаў тэатар. Туронак абгрунтавана паставіў пад сумнеў савецкія міты пра забойства падпольшчыкамі гаўляйтэра Вільгельма Кубэ і менскага бургамістра Вацлава Іваноўскага. На той час пяру спадара Юрыя ўжо належала выдадзеная манаграфія «Вацлаў Іваноўскі і адраджэньне Беларусі».

Бацька Юрыя, лекар Браніслаў Туронак, быў вядомым дзеячам заходнебеларускага нацыянальнага руху, але рана памёр. Маці вярнулася з сынамі ў родныя мясьціны на Беласточчыну, якую Сталін па вайне перадаў «польскім таварышам». Так будучы гісторык (дарэчы, паводле

адукацыі і першай прафэсіі экспэрт-хімік) апынуўся ў Польшчы, але заўжды адчуваў сябе беларусам.

Літаратар і журналіст Ян Максімюк, згадваючы сваё варшаўскае студэнцтва, піша, наколькі важнай была асоба Туронка для беларускай моладзі: «Ён не хаваў антыпатыі ні да камуністычных парадкаў, ні да функцыянэраў афіцыйнага Беларускага грамадзка-культурнага таварыства (БГКТ) і зь вялікай радасьцю ўспрыняў нашую спробу ўвесну вірлівага 1981 году вырвацца з-пад апекі польскіх спэцслужбаў і заснаваць незалежнае Беларускае аб'яднаньне студэнтаў».

Туронак — іхні настаўнік беларускасьці. Гэта ад яго хлопцы і дзяўчаты, учорашнія «дзеці безнацыянальнага сялянства», даведваліся пра Пагоню, бел-чырвона-белы сьцяг і БНР. Пры канцы 1980-х гадоў спадар Юры ачоліў паўлегальны Беларускі клюб, чыёй мэтаю было «асэнсаваньне палітычных абставін нашага далейшага існаваньня як нацыянальнай меншасьці».

Клюб здолеў апярэдзіць камуністаў з БГКТ і выставіў сваіх кандыдатаў на парлямэнцкіх выбарах 1989-га, калі Польшча стаяла на парозе велізарных пераменаў. Празь некалькі месяцаў Клюб пераўтварыўся ў палітычную партыю — Беларускае дэмакратычнае аб'яднаньне. Тыя, хто добра ведаў Туронка, лічаць, што якраз у тую пару ён адчуў сябе на адпаведным месцы.

Беларусы Польшчы атрымалі тады гістарычны шанец і, выкарыстаўшы яго, уступілі ў польскую палітыку. А беларусы ўсяго сьвету атрымалі выдатнага гісторыка.

**Юры Туронак**
27.4.1929, Вільня —
2.1.2019, Варшава, Польшча.
Пахаваны на варшаўскіх праваслаўных могілках на Волі.

Калі выданьні ўсіх твораў, нязьменна таленавіта, а то і проста геніяльна пераўвасобленых Васілём Сёмухам па-беларуску, скласьці ў стос — ён атрымаецца вышэйшы за самога перакладчыка. Паспрабуйце ўявіць хаця б частку гэтага стосу:

Біблія. Кнігі Сьвятога Пісаньня Старога і Новага Запавету
Ёган Вольфганг Гётэ. Фаўст
Гэрман Гэсэ. Гульня шкляных пэрлаў
Томас Ман. Доктар Фаўстус
Фрыдрых Ніцшэ. Так сказаў Заратустра

## Васіль Сёмуха

Густаў Майрынк. Голэм
Эрнст Тэадор Амадэй Гофман. Курдупель Цахес
Кляўс Ман. Мэфіста
Патрык Зюскінд. Басэтля. Парфума
Райнэр Марыя Рыльке. Санэты Арфэю
Ганс Якаб Крыстофэль фон Грымэльсгаўзэн. Авантурнік Сымпліцысымус
Вітальд Гамбровіч. Ferdydurke
Юліян Тувім. Польскія кветкі
Ян Райніс. Агонь і ноч

Нацысты расстралялі ягоных бацькоў і спалілі родны хутар, і ён вырашыў вывучыць нямецкую мову, каб знайсьці адказ: чаму і за што?

Скончыўшы раманска-германскае аддзяленьне філялягічнага факультэту Маскоўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, Васіль амаль адразу ўзяўся за галоўны твор Гётэ. У 1967-м напісаў ліст амбасадару Заходняй Нямеччыны ў Маскве: ці можа ён прэтэндаваць на кампэнсацыю за забойства бацькоў і зьнішчэньне ўсёй маёмасьці сям'і, каб выдаць пераклад «Фаўста» і палепшыць свае жыльлёвыя ўмовы? Гэты ліст Сёмуха неабачліва перадаў у Міністэрства замежных справаў БССР, і замест амбасадара ліст трапіў



у ЦК КПБ. Адказам было выключэньне з Саюзу пісьменьнікаў Беларусі (супраць прагаласаваў адзін Васіль Вітка, Васіль Быкаў устрымаўся).

Пераклад выйшаў толькі праз дзесяцігодзьдзе і быў прызнаны ў Нямеччыне найлепшым перастварэньнем «Фаўста» на славянскія мовы. Пазьней спадар Васіль быў узнагараваны ордэнам «За заслугі перад Фэдэратыўнай Рэспублікай Нямеччынай». Урад Латвіі адзначыў Сёмуху Ордэнам Трох Зорак. Абедзьве ўзнагароды ў сваіх дзяржавах — найвышэйшыя.

Амаль дзесяць гадоў мы працавалі з Васілём Сяргеевічам у суседніх кабінэтах выдавецтва «Мастацкая літаратура». Усе супрацоўнікі ведалі словы мэтра: «Я перакладаю творы, што сам хацеў бы напісаць».

Нават на фоне тых, каго называюць маральнымі аўтарытэтамі, Сёмуха вылучаўся бескампраміснасьцю ў стаўленьні да ўлады: спачатку савецкай, а потым — цяперашняй, якая скасавала Ордэн Каліноўскага, а Ордэнам Скарыны ўзнагародзіла Філіпа Кіркорава.

У 1997-м, падчас зачысткі ў нашым выдавецтве, праведзенай палкоўнікам Замяталіным, пастаўленым тады кіраваць Дзяржкамітэтам друку, Сёмуха разам з Барадуліным былі звольненыя. Гэта была высокая ўзнагарода. Ганаруся, што атрымаў яе разам зь імі.

Незадоўга да сьмерці спадар Васіль даведаўся: Рада БНР узнагародзіла яго мэдалём «100 гадоў Беларускай Народнай Рэспублікі».

**Васіль Сёмуха**
18.1.1936, хутар Ясенец (не захаваўся), паблізу в. Смаляніца, цяпер Пружанскі раён — 3.2.2019, Менск.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

Ён быў аўтарам трохсот навуковых працаў, галоўным рэдактарам выдадзеных у 1994–1995 гадах двухтомных «Нарысаў гісторыі Беларусі» і пазьнейшай «Гісторыі Беларусі» ў шасьці тамах. Больш за два дзесяцігодзьдзі, да апошніх дзён жыцьця, заставаўся ў краіне адзіным гісторыкам-акадэмікам. Але было ў яго біяграфіі дасягненьне, якое, ня толькі на маю думку, магло б сваёй значнасьцю паспрачацца з усімі ягонымі чатырма выдадзенымі манаграфіямі. Маецца на ўвазе не гістарычная навука, а наша найноўшая гісторыя.

## Міхаіл Касьцюк

19 верасьня 1991 году на сэсіі Вярхоўнага Савету разглядалася ініцыяванае апазыцыяй БНФ пытаньне пра дзяржаўныя сымбалі. Гэтаму папярэднічала прадуманая кампанія: індывідуальныя перамовы з дэпутатамі ад камуністычнай большыні, выстава пра нацыянальную гістарычную сымболіку ў фае Дому ўраду. Але сытуацыя заставалася надзвычай складаная. Як згадвае дэпутат-незалежнік Сяргей Навумчык, адзін з ідэалягічных апанэнтаў, выслухаўшы ўсе аргумэнты, выказаўся прыблізна так: «Згодны, хай на гербе скача конь, але на шчыце абавязкова — чырвоная зорка!»

Дэмакратам удалося запусьціць «цяжкую артылерыю»: на сэсіі ў падтрымку бел-чырвона-белага сьцяга і гербу Пагоня выступілі былы старшыня Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету Георгі Таразевіч і прэзыдэнт Акадэміі навук Уладзімер Платонаў. Дэпутаты з намэнклятуры — нядаўнія партыйныя сакратары ды іхнія хаўрусьнікі — армейскія чыны і вэтэраны звыклі верыць высокім афіцыйным асобам. Давяралі яны і афіцыйным паперам з грыфамі і пячаткамі.

Акурат такая папера, а дакладней, Заключэньне акадэмічных вучоных, была ў кожнага дэпутата ў руках. Некаторым чытаць яе было ня проста дзіўна, але, відаць, і вусьцішна. Выяўлялася, што герб Пагоня быў



на харугвах Берасьцейскага, Віцебскага, Полацкага, Мсьціслаўскага, Менскага, Віленскага і Наваградзкага ваяводзтваў. Што на Пагоні адлюстраваныя нацыянальныя колеры Беларусі — белы і чырвоны. Што Пагоня і геральдычна зьвязаны зь ёю бел-чырвона-белы сьцяг былі ў 1918 г. зацьверджаныя дзяржаўнымі сымбалямі Беларусі, а вось прынятыя ў 1951 г. герб і сьцяг БССР «не адлюстроўваюць шматвяковую гераічную гісторыю і нацыянальныя колеры, стаўшы сымбалем адміністрацыйнага рэжыму...» Зыходзячы з усяго гэтага, аўтары Заключэньня, пад якім стаяў подпіс дырэктара і старшыні Вучонай рады Інстытуту гісторыі Міхаіла Касьцюка, рабілі адназначную прапанову: зацьвердзіць дзяржаўнымі сымбалямі Пагоню і бел-чырвона-белы сьцяг. Увечары таго ж дня адпаведная пастанова была — няхай сабе і з трэцяга разу — прынятая.

Што здарылася праз чатыры гады, добра вядома. Але ў вузкім коле акадэмік Касьцюк ня раз намякаў: падпісанае ім Заключэньне яшчэ прыдасца.

**Міхаіл Касьцюк**
26.3.1940, в. Масьцішча, Наваградзкі раён — 5.2.2019, Менск.
Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

Антычны граматык Тэрэнцыян Маўр пакінуў нам мудрае выслоўе: «Habent sua fata libelli — Кнігі маюць свой лёс». Аднак амаль забыты працяг афарызму: «...адпаведна таму, як іх прымае чытач».

Калі б не Яўгенія Чаплінская і яе лісты — часам аж залішне захопленыя водгукі на папярэдняе выданьне «Імёнаў Свабоды», — кніга, якую вы трымаеце ў руках, напэўна, ня выйшла б. Вось толькі, на вялікі жаль, спадарыня Яўгенія з удзячных чытачак перайшла ўжо ў лік гераіняў.

# Яўгенія Чаплінская



У 1938-м заходнебеларуская дзяўчынка паступіла ў польскую гімназію імя Эміліі Плятэр. Ад бацькі, настаўніка-патрыёта Тамаша Белановіча, яна ўспадчыла любасьць да мовы, да творчасьці Янкі Купалы, чые радкі дэклямавала на памяць яшчэ дашкольніцай. Ведала, дарэчы, гімназістка і тое, што графіня Плятэр, гераіня паўстаньня 1831 году, лічыла сябе ня полькай, а ліцьвінкай, і пісала на мове свайго народу вершы. На летнія вакацыі Жэня прыехала ў родную вёску, а вярнуцца на заняткі ў Польшчу ўжо не пасьпела: грымнула вайна.

«За палякамі, — успамінала Чаплінская, — школа была польская, за саветамі спачатку беларуская, але бальшавіцкая, і адно пад немцамі нашыя дзеячы стварылі сапраўды беларускую школу. Не было там ніякага нацысцкага

выхаваньня — родныя мова і літаратура, гісторыя, нават беларуская музыка».

Па вайне, скончыўшы пэдвучэльню ў Лідзе, Яўгенія ўзялася вучыць малых дзяцей у роднай вёсцы, замяніўшы ў пачатковай школцы сваю маці. Настаўніца цяжка перажывала русіфікацыю адукацыі, якая ў 1970-я гады пасьля гарадоў прыйшла і ў сельскія школы. Яе лісты ў розныя інстанцыі не далі плёну, але ўмацавалі беларушчыну ў душы.

Неяк улетку прыехаў на гасьціны да бацькоў-вяскоўцаў маскоўскі студэнт і паблажліва папрасіў спадарыню Яўгенію назваць хоць адно беларускае слова, не падобнае да расейскага ці польскага. У адказ яна склала слоўнік на тысячу лексычных адзінак, а з улікам аднакарэнных прыметнікаў і дзеясловаў атрымаліся цэлыя тры тысячы.

Чаплінская пераклала з чэскай мовы і выдала кніжку казак. Яна пераканала земляка-эмігранта Мікалая Махнача, удзельніка вайны з нацыстамі на заходнім тэатры баявых дзеяньняў, напісаць успаміны і перастварыла іх для выданьня па-беларуску.

Яна была шматгадовай слухачкаю Радыё Свабода, а калі тое перавандравала з этэру на сайт і ў сацыяльныя сеткі, не разгубілася, бо ў свае дзевяноста з гакам камфортна пачувалася ў сеціве і мела профіль у Фэйсбуку.

Яна была шчыраю хрысьціянкай, аб чым фільм Ягора Сурскага «Вернікі», і ўражвала гасьцей, натхнёна граючы на сынтэзатары духоўныя мэлёдыі.

Цяпер яны прыводзяць спадарыню Яўгенію ў нашы сны.

**Яўгенія Чаплінская (ад нараджэньня Белановіч)**
13.9.1925, в. Маршалкі, цяпер Валожынскі раён —
25.3.2019, в. Літва, Маладэчанскі раён.
Пахаваная на могілках каля в. Дубіна Юрздыцкая,
Валожынскі раён.

Ужо ў самім прыходзе Наталі на сьвет бачыцца тое, што мэтафізычна паўплывала на лёс. Яна нарадзілася ў украінскай Жоўкве зь яе замкам-рэзыдэнцыяй Яна Сабескага, пераможцы туркаў пад Венай. Адзначылася Жоўква і ў гісторыі айчыннай літаратуры. Там эмігрантка з Расейскай імпэрыі ў аўстра-вугорскую Галіцыю Алаіза Пашкевіч (Цётка) выдала на пачатку XX стагодзьдзя свае «Скрыпку беларускую» і «Хрэст на свабоду».

Жыцьцёвы шлях Наталі, таемна ахрышчанай сьвятаром ужо скасаванай тады Ўкраінскай вуніяцкай царквы, будзе зьвязаны і з гісторыяй, і зь беларускай літаратурай.

# Наталя Санько



Калі бацькі-беларусы вярнуліся ў 1955-м на радзіму, сямігадовай Наталі было няўцям, чаму ў Жоўкве ўсе гаварылі па-ўкраінску, а ў сталіцы Беларусі ніхто па-беларуску не размаўляе. Сумнае дзіцячае адкрыцьцё таксама адгукнецца ў лёсе — невынішчальным імкненьнем бараніць роднае, спрадвечнае.

Працуючы ў Беларускім навукова-дасьледчым інстытуце гематалёгіі, Наталя выславілася як экспэрымэнтатарка і стала ўладальніцай некалькіх патэнтаў на вынаходніцтвы. Аднак заняткі навукай ужо саступалі месца іншым зацікаўленьням.

У 1972-м будучы муж Зьміцер Санько прывёз Наталю ў родную вёску Азярычына знаёміць з сваякамі. Бацька, вясковы інтэлігент-патрыёт зь сям’і «раскулачаных», нечакана запытаўся: «А калі майго сына

пагоняць у Сібір, гатовая пайсьці зь ім?» «Так», — адказала Наталя. Яна ўсьведамляла, з кім зьвязвае лёс.

Разам зь Зьмітром, цяпер вядомым кнігавыдаўцом і сапраўдным беларускім асьветнікам, Наталя ўвайшла ў нонканфармісцкую суполку «На паддашку», паседжаньні якой адбываліся ў майстэрні мастака Яўгена Куліка. Дзякуючы Наталінай гасьціннасьці філіялам суполкі хутка зрабілася кватэра маладой сям'і на вуліцы Арлоўскай.

Наталя разам з паддашкаўцамі ладзіла, па сутнасьці, неафіцыйныя мастацкія выставы, у тым ліку самую розгаласную — да 500-годзьдзя Міколы Гусоўскага. У першым беларускім выданьні ягонай паэмы «Песьня пра зубра» правобразам ліцьвінкі ў народным строі зь дзіцем на руках на адной з ілюстрацый Куліка стала якраз Наталя.

Яна прычынілася да першага, нелегальнага выданьня славутай працы Міколы Ермаловіча «Па сьлядах аднаго міту». Адна зь першых у беларускай кнігавыдавецкай справе асвоіла пэрсанальны кампутар і стварыла макеты цэлай сэрыі кніг, сярод якіх «150 пытаньняў і адказаў з гісторыі Беларусі», мае «Адкуль наш род» і «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі» (у суаўтарстве з Генадзем Сагановічам). Некалькі гадоў ахвярна рыхтавала для факсымільнага выданьня гадавыя камплекты «Нашай Нівы». Часам стан нумароў быў такі, што даводзілася працаваць з кожнай літарай.

Ужо на Божай пасьцелі яна пісала артыкул пра слоўнікі архімандрыта Льва Гарошкі.

Наталі няма, але па-ранейшаму гучыць прыцішана-сьветлая музыка яе жыцьця.

**Наталя Санько**
12.4.1948, Жоўква, Львоўская вобласьць, Украіна — 31.3.2019, Менск.
Пахаваная на менскіх Паўночных могілках.

Пасьля таго набажэнства прыхаджане віцебскай Казанскай царквы разыходзіліся пад асабліва моцным уражаньнем: дыякан Уладзімер прысьвяціў казань пакутнікам за веру ў Савецкім Саюзе. Адразу трэба зазначыць: казань прагучала ў 1983 годзе. Камуністычная імпэрыя яшчэ не зьбіралася паміраць, і ў той самы вечар адзін зь вернікаў-нявернікаў, прымацаваны да храму інфарматар, напісаў справаздачу таварышу опэру. Апальнага айца Ўладзімера пазбавілі месца служэньня і выслалі ў Жыровіцкі манастыр.

## Уладзімер Русак

Цяжэзная тэчка гэбісцкага дасье на Русака пачыналася з студэнцкіх гадоў: у Менскім пэдынстытуце юнак то сам «распускаў язык», то, хоць і маўчаў, «усім выглядам дэманстраваў, што цалкам згодны» з пачутай крамолай. Зьехаўшы падалей ад менскіх куратараў, Уладзімер працаваў у «Журнале Московской патриархии», скончыў з ступеньню кандыдата багаслоўя духоўную акадэмію і быў рукапакладзены ў дыяканы. Але адначасова ён пісаў кнігу пра бальшавіцкія рэпрэсіі супроць царквы, складаў сьпісы расстраляных сьвятароў. Знайшоў дакумэнты, што прызначэньне япіскапаў таксама было ў ведамстве КГБ.

Заняткі небясьпечнай тэмай (данос на Русака руплівa склаў настаяцель храму, дзе той быў дыяканам) прывялі да звальненьня з працы. Дапамог знайсьці месца мітрапаліт Менскі і Беларускі Філярэт, але тут прагучала віцебская казань...

Кандыдат багаслоўя папоўніў шэрагі маскоўскіх дворнікаў, аднак ягоная самвыдавецкая кніга «Сьведчаньне абвінавачваньня» трапіла да чытачоў на Лубянку. За «антысавецкую прапаганду і агітацыю» Русак у 1986-м атрымаў максымальны тэрмін: сем гадоў лягераў суровага рэжыму і пяць гадоў высылкі. Праз год, у пермскіх лягерах (Уладзімера везьлі туды



ў кайданках і ў асобнай вагоннай камэры-адзіночцы) ён даведаўся пра выданьне кнігі ў ЗША.

Тым часам у СССР запахла пераменамі. Хадайніцтва амэрыканскага Кангрэсу і міжнародных праваабарончых арганізацыяў прывяло да датэрміновага вызваленьня дыякана.

Яго прытуліла Амэрыка, дзе апеку над нашым суайчыньнікам узяў на сябе Аляксандар Салжаніцын. Зь ягонай фінансавай падтрымкай Русак выпусьціў трохтомнік аб гісторыі Расейскай праваслаўнай царквы.

Паверыўшы ў новыя дэмакратычныя парадкі на абшары былой савецкай імпэрыі, Уладзімер вярнуўся, двойчы быў у самога патрыярха, пераконваючы таго ў важнасьці сваіх дасьледаваньняў. Але яго сьвятасьць мела на гэты конт іншае меркаваньне.

Расейскі тэоляг і філёзаф Андрэй Кураеў стаў сьведкам яшчэ адной аўдыенцыі Русака — у шыкоўных апартамэнтах япіскапа суздальскага. Уладыка, седзячы з адсутным тварам, раптам раззлаваўся: «Ты, Володька, хоть и умный, никому со своим умом не нужен. И вообще, ты ведь нищий».

Сябры лічылі Русака сьвятым чалавекам.

**Уладзімер Русак**

17.6.1949, в. Муцькавічы (потым Зорная), цяпер у складзе Баранавічаў — 20.4.2019, Баранавічы.

Пахаваны ў Баранавічах.

Гэты выпадак добра вядомы ў футбольных і журналісцкіх колах.

Аднойчы пасля гульні клюбу «Крумкачы», які два сэзоны, зьдзіўляючы і натхняючы многіх, выступаў у вышэйшай лізе чэмпіянату краіны, група заўзятараў чакала ўлюбёных футбалістаў каля распранальні. Сытуацыя не спадабалася амапаўцам. Цэлы іхні ўзвод вырашыў выправадзіць абсалютна мірна настроеных маладзёнаў з стадыёну. Шлях разагрэтым служакам у форме заступіў мужчына ў саколцы з надпісам «Бліноў». Ад хваляваньня ён моцна заікаўся, але ў слоўным двубоі здолеў пераканаць

# Юры Бліноў



камандзіра гатовых да бою «герояў» адступіцца. На разьвітаньне міліцыянт, уражаны цьвёрдасьцю і адвагай свайго візаві, паказаўшы на саколку, пацікавіўся, хто ж такі гэты Бліноў. «Піяніст», — адказаў Юры.

Калі б той лейтэнант зазірнуў потым у сеціва, ён даведаўся б: на стадыёне яго перамог ня проста піяніст, а музыка ўсясьветнага ўзроўню, ляўрэат шматлікіх прэстыжных конкурсаў, што быў абраны прэзыдэнтам Міжнароднай асацыяцыі піяністаў і кампазытараў, першы беларускі піяніст, які адыграў сольны канцэрт у амэрыканскім Карнэгі-холе.

Ужо ў дванаццаць гадоў музычны вундэркінд з Драгічына дэбютаваў на Вялікай сцэне Ленінградзкай філярмоніі. Васямнаццацігадовым меў гастролі ў Японіі, пазьней у Вялікабрытаніі. Дзесяць гадоў Юры вучыўся, жыў і бліскуча выступаў у ЗША. У ягоным рэпэртуары было 35 канцэртаў розных стыляў

для фартэпіяна з аркестрам і столькі ж сольных праграмаў на два аддзяленьні. Адмыслоўцы могуць ацаніць гэтую амаль бязьмежнасьць.

Двойчы на год Юры абавязкова прыяжджаў у Беларусь. Штораз зьбіраў поўныя залі філярмоніі, атрымліваючы за выступ блізу 20 даляраў. Потым, шмат каго вельмі зьдзівіўшы, вярнуўся на радзіму.

Як казалі сябры-калегі, Бліноў быў асобаю поліфанічнай. Пісаў і друкаваў таленавітыя беларускія вершы. Валодаў дзясяткам моваў. Цудоўна ведаў сваю і замежную літаратуру. У цяжкую для каманды пару стаў шчодрым фундатарам «Крумкачоў».

У родным Драгічыне ён заснаваў дзіцячы конкурс-фэстываль «Палескі агеньчык». Узяўся за «рэстаўрацыю» спадчыны вядомага ў заходнім сьвеце кампазытара Мікалая Набокава (стрыечнага брата знанага пісьменьніка), што нарадзіўся ў Любчы і ўсё жыцьцё называў сябе беларусам. Бліноў канцэртаваў у Беларусі і за мяжой, ствараў сваю музыку: «Гісторыі пад Божае Нараджэньне», «Песьні Афэліі», «Кот Шрэдынгера». Працуючы простым выкладчыкам Беларускай акадэміі музыкі, мусіў звольніцца праз канфлікт з кіраўніцтвам: не па форме афармляў дакумэнты.

Хаўрусьнікам Юрыя, ягонай радасьцю быў спорт і найперш бег. Ён бегаў марафоны, браў удзел у міжнародных спаборніцтвах. На паўмарафоне ў вясновым Гомелі яму зрабілася блага, але сыходзіць з дыстанцыі было не ў правілах Блінова. Сэрца спынілася за пяць мэтраў да фінішу.

Якая музыка грала ў ягонай душы ў астатнія імгненьні?

**Юры Бліноў**

3.8.1975, Драгічын — 21.4.2019, Гомель.

Пахаваны на менскіх Чыжоўскіх могілках.

Выдатна памятаю нашую размову перад новым, 2000-м годам, калі ішла гучная і пагрозьлівая для беларускай незалежнасьці валтузьня вакол імпэрскай ідэі «саюзнай дзяржавы». Пятро зь неверагоднай скрухаю казаў: жыць у чужой краіне не захоча і ня зможа. Спасылаючыся на досьвед гісторыка, мне ўдалося пераканаць земляка-палачаніна: Сафійскі сабор і мы зь ім застанемся ў дзяржаве сваёй, няхай і не такой, пра якую марылі на пачатку 1990-х.

## Пятро Васючэнка



Пятро, прызнаны літаратуразнаўца і адораны адметным талентам пісьменьнік з пакаленьня «Тутэйшых», тады (і да астатніх дзён жыцьця) узначальваў катэдру беларускай мовы і літаратуры Менскага лінгвістычнага ўнівэрсытэту. Найперш Васючэнка, сьцьвярджаючы калегі, і не даваў там згаснуць «агменю беларускасьці».

Пасада загадчыка катэдры, як і ранейшая — старшага навуковага супрацоўніка Акадэміі навук, ані ня змусілі Пятра пакінуць выкладаньне ў Беларускім гуманітарным ліцэі, што даўно быў на падазрэньні ў уладаў. Шмат хто, відаць, не забыў іскрыста-сьмешнага і зьедлівага батлеечнага спэктаклю «Цар Аляксашка» на адным з дэмакратычных мітынгаў каля Опэрнага тэатру. П’есу (гэта да самага нядаўняга часу трымалася ў таямніцы) напісаў Васючэнка.

Ён неаднаразова бываў суразмоўцам Вячаслава

Ракіцкага ў ягонай праграме, а затым і ў кнізе «Беларуская Атлянтыда» зь Бібліятэкі Свабоды.

Хтосьці з знаёмых сказаў: зробленае Пятром можна было б падзяліць на пецярых кандыдатаў навук — і невядома, ці далі б яны рады. Ён, апрача Лінгвістычнага ўнівэрсытэту і гуманітарнага ліцэю, выкладаў на журфаку БДУ, чытаў лекцыі ў незалежным Беларускім калегіюме, ствараў радыёп'есы для каналу «Культура», працаваў у рэдакцыйнай радзе сэрыі «Мая беларуская кніга», у журы незалежных літаратурных прэміяў. Быў навуковым кіраўніком дысэртантаў і дысэртантак. Адна зь іх — іранка Нурыех — дзякуючы Пятру закахалася ў Беларусь і абрала яе новай радзімай.

Сярод шасьці манаграфіяў Васючэнкі — «Беларуская літаратура XX стагодзьдзя і сымбалізм». Немагчыма запярэчыць Лявону Баршчэўскаму, што ацаніў гэтую працу як адну з самых грунтоўных літаратуразнаўчых манаграфій у айчыннай гісторыі. Аўтар аргумэнтавана давёў: нашыя клясыкі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі без усялякіх агаворак ёсьць і клясыкамі літаратуры эўрапейскай.

Уадначас з навуковымі дасьледаваньнямі Пятром пісаліся (і былі перакладзеныя на дзясятак моваў) уласныя творы. Дзеці зачытваліся прыгодамі паноў Кубліцкага і Заблоцкага, а дарослыя ўпадабалі «Прыгоды аднаго губашлёпа», а потым захапляліся «Крыўскім слоўнікам паводле Яна Баршчэўскага». П'есы Васючэнкі ішлі на сцэнах некалькіх тэатраў.

На пахаваньні ягонага праху мы скрозь сьлёзы сьмяяліся, слухаючы яго вясёлыя вершыкі зь «Піраміды Ліннэя»: «Дзеля чаго жывуць паэты? Жывуць... І дзякуй ім за гэта».

**Пятро Васючэнка**

15.2.1959, Полацак — 25.8.2019, Менск.

Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

На пачатку 1990-х я дачакаўся першага выданьня «Таямніцаў полацкай гісторыі». Гэтая кніга паставіла сярод маіх іншых рэкорд у колькасьці водгукаў у даінтэрнэтны пэрыяд. Адгукнуліся нават з канцылярыі Таварыства Ісуса (Ордэну езуітаў), дзе зьвярнулі ўвагу на разьдзел «Academia Polocensis», прысьвечаны гісторыі Полацкага калегіюму і створанай на яго аснове Акадэміі.

Уважліва прачытаў той разьдзел і першы рэктар Полацкага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Эрнст Бабенка. Яго натхніла ідэя злучыць перарваную сувязь эпохаў і паяднаць дзейнасьць сучаснай alma mater з эўрапейскімі традыцыямі папярэднікаў. Я летуцеў, каб гэта ўвасобілася і ў вяртаньне сёньняшнім студэнтам і выкладчыкам колішніх акадэмічных карпусоў. Рэктар таксама загарэўся такой думкай.

## Эрнст Бабенка

Можна адно здагадвацца, колькі зрабіў Бабенка, каб мара сталася яваю. Але надышоў дзень, калі ў Сафійскім саборы адбылася перадача старадаўніх будынкаў зь ведамства Міністэрства абароны — унівэрсытэту. Сымбалічнае ўручэньне ключа новым гаспадарам прыпала на 23 лютага. Цырымонію не сапсавала (толькі дадало станоўчых эмоцыяў) тое, што ключ уручаўся двойчы. Адказны за гэта палкоўнік зь Менску, ужо насьвяткаваўшыся, заснуў, і ключ перадаў ягоны намесьнік, аднак шэф прачнуўся і зухавата загадаў паўтарыць урачысты момант.

Рэктар быў асобаю дэмакратычных поглядаў, хоць не заўсёды мог іх дэманстраваць адкрыта.

Калі выкладчык унівэрсытэту, малады кандыдат філялёгіі Лявон Баршчэўскі ў 1990-м балятаваўся ў дэпутаты Вярхоўнага Савету Беларусі, Бабенка, нягледзячы на моцны ціск з боку партыйных органаў, заняў, па сутнасьці, спрыяльную пазыцыю. Лявон упэўнена перамог на выбарах не каго-небудзь, а само-



га першага сакратара гаркаму КПБ.

Бабенка пасьлядоўна будаваў унівэрсытэт як навучальную ўстанову, што трансьлявала б эўрапейскі культурны код. Сам доктар тэхнічных навук, ён уводзіў гуманітарныя спэцыяльнасьці, быў сябрам культурнай эліты гораду і шмат каго зь дзеячаў літаратуры і мастацтва краіны. У ўнівэрсытэце віравалі фэстывалі бардаўскай песьні, выступалі Дзяржаўны аркестар Беларусі імя Жыновіча і сымфанічны аркестар «Маладая Беларусь», паэты Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін...

Цяпер Полацкі ўнівэрсытэт упэўнена адлічвае сваю гісторыю з 1581 году, калі адчыніў дзьверы езуіцкі калегіюм. Там праводзяцца захапляльныя гістарычныя экскурсіі, апатэозам якіх робіцца сустрэча з адноўленым творам полацкіх мэханікаў — знакамітай галавой, што адказвала на любое пытаньне на любой мове. Я запытаўся ў галавы, хто такі Эрнст Бабенка. «Славуты чалавек, наш першы рэктар. Дзякуючы яму мы з вамі і размаўляем», — па-беларуску адказала галава.

**Эрнст Бабенка**
21.4.1937, мяст. Плешчаніцы, цяпер Лагойскі раён — 15.9.2019, Наваполацак.
Пахаваны на наваполацкіх Паўночных могілках.

Вы, магчыма, памятаеце: у дні жнівеньскага путчу 1991 году ў адным з вокнаў Дому ўраду вісеў бел-чырвона-белы сьцяг. Ён рабіў дужэйшымі моцныя сэрцы і вяртаў надзею слабым. Сьцяг прынёс з плошчы, дзе ішоў няспынны мітынг, і вывесіў з вакна 363-га пакою, дзе працавала апазыцыя БНФ, дэпутат Вярхоўнага Савету з Лагойску Алесь Шут, паводле прафэсіі хірург, а паводле перакананьняў — непахісны незалежнік.

Той сьцяг лунаў над плошчай і ўсе дні, пакуль доўжылася гістарычная Сэсія незалежнасьці. Пазьней яго фатаздымак аздобіў вокладку першага выданьня кнігі Сяргея Навумчыка «Дзевяноста першы» (ёю распачаўся сапраўдны летапіс найноўшай беларускай гісторыі).

## Алесь Шут



Алесь Шут — сярод 35 дэпутатаў, якія паставілі ў 1990-м подпісы пад праектам Дэклярацыі аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Праект стаўся асноваю Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце, што 25 жніўня 1991 году набыла статус канстытуцыйнага закону. Лагойскі дэпутат удзельнічаў у распрацоўваньні канцэпцыі пераходу краіны да рынкавай эканомікі і адпаведнага блёку законапраектаў. Усе шэсьць гадоў дэпутацтва Алесь, сын рэпрэсаванага «кулака», пасьлядоўна змагаўся за права прыватнай уласнасьці на зямлю.

Яшчэ да незалежнасьці ён раскрыў з трыбуны сэсіі злачынны загад рэспубліканскага Саўміну аб закупцы мяса без уліку яго радыеактыўнай забруджанасьці і назваў гарады, куды гэтае мяса паступала на

перапрацоўку, — Гомель, Магілёў, Горадня, Бабруйск, Барысаў, Слуцак, Мёры, Бяроза, Крычаў... Агучаны быў і выдадзены тады пад грыфам «сакрэтна» загад Міністэрства аховы здароўя СССР: пацярпелым ад чарнобыльскай катастрофы (каб схаваць іх рэальную колькасьць) ставіць у бальнічным лісьце хлусьлівы дыягназ «вэгета-судзінная дыстанія». Зрабіць закіды ў непрафэсіяналізьме намесьніку галоўнага доктара бальніцы ніхто не адважыўся.

У векапомнае 25 жніўня Алесь Шут быў у ліку тых дэпутатаў, хто сагнаў з трыбуны А. Малафеева — чальца зусім нядаўна ўсёмагутнага палітбюро ЦК КПСС і першага сакратара ЦК КПБ.

У красавіку 1995-га пра Алеся зноў загаварыла ўся краіна. Пасьля зьбіцьця дэпутатаў ад апазыцыі, што ў Авальнай залі Дому ўраду галадоўкаю пратэставалі супроць нелегітымнага рэфэрэндуму, кіраўнік дзяржавы цынічна заявіў: «Ніхто іх ня біў». Адказваючы на падман, Шут перад удзельнікамі сэсіі падняў кашулю і паказаў на сьпіне велізарны крывападцёк. Яго білі двойчы — у Авальнай залі і потым — міліцэйскімі дручкамі, калі апазыцыянэраў развозілі і выкідалі з варанкоў.

Да апошніх месяцаў невылечна хворы доктар Шут працягваў рабіць апэрацыі.

За тры дні да разьвітаньня з жыцьцём яму — «за заслугі ў здабыцьці незалежнасьці Беларусі» — уручылі мэдаль Рады БНР «100 гадоў Беларускай Народнай Рэспублікі».

А той гістарычны жнівеньскі сьцяг Алесь падараваў унуку Кастусю.

**Алесь Шут**
5.5.1952, Вілейка — 6.11.2019, Лагойск.
Пахаваны на лагойскіх могілках каля в. Ніўкі.

У «Архіпэлягу ГУЛАГу» Аляксандра Салжаніцына ёсьць разьдзел «Сорак дзён Кенгіру», прысьвечаны паўстаньню вязьняў Кенгірскага лягеру, што выбухнула ў1954-м. У змаганьні даведзеных да роспачы зьняволеных брала ўдзел шмат беларусаў.

Падчас разгрому бясстрашнага выступу загінула болей за сямсот расьціснутых танкамі і расстраляных вязьняў. Калі каты пашыхтавалі ацалелых на пераклічку, Надзея ў адказ на сваё прозьвішча крыкнула: «Далоў берыеўскае беззаконьне!»

Непакорлівую Надзею, асуджаную ў 1949-м за антысавецкую дзейнасьць на 25 гадоў няволі, этапавалі на поўнач у Тайшэцкія лягеры. Яна вызвалілася ў 1956-м (важыла ўсяго сорак кіляграмаў), але так і не была рэабілітаваная.

## Надзея Дземідовіч



За часамі нямецкай акупацыі Надзея вучылася ў Слонімскай беларускай гімназіі, як і многія раўналеткі уступіла ў Саюз беларускай моладзі. «Мы хацелі, — згадвала яна, — жыць у роднай беларускай дзяржаве, працаваць на свой народ, а не на чужынцаў, пакінуць для дзяцей і ўнукаў гэтую зямлю лепшай».

За такія летуценьні органы шукалі, арыштоўвалі і судзілі сяброў СБМ па ўсім савецкім раі. Надзеі ўдавалася заставацца на волі пяць гадоў, але і пераезд у далёкі Петрапаўлаўск не ўратаваў яе. На допытах маладую беларуску зьбівалі да непрытомнасьці, катавалі электратокам, але яна не назвала ніводнага імя іншых «злачынцаў».

У сваіх блуканьнях па пакутах Надзея часта ўзгадвала юначае каханьне — аднаклясьніка Міхася Лічко, які вылучаўся сярод слонімскіх гімназістаў

і прывабнасьцю, і здольнасьцямі, і дужасьцю ды спрытам у спартовых спаборніцтвах.

Пра лёс Міхася яна даведалася толькі праз безьліч гадоў. Здарылася гэта на пахаваньні Васіля Быкава, калі да Надзеі падышоў чалавек, які сказаў, што памятае яе з Слоніму.

Міхася Лічко даўно не было на сьвеце. Па вайне ён апынуўся на Захадзе. Аднаго разу на вуліцы зь ім загаварыў хлопец, які няблага валодаў беларускай мовай. На чужыне чалавек міжволі можа пранікнуцца даверам да земляка. Новы знаёмы зноў і зноў заводзіў размову, што трэба вяртацца і працаваць дзеля Беларусі. Такіх, як Міхась, там чакаюць інстытуты, стыпэндыі, кватэры. Міхась паддаўся на ўгаворы. Яго, колішняга эсбээмаўца, чакалі лягерны тэрмін, барак з хворымі на сухоты і хуткая сьмерць.

Пад уражаньнем запозьненай на 55 гадоў страшнай навіны спадарыня Надзея напісала верш «Лёсы»:

*Высокі ўзьлёт, хапала волі, сілы*
*Узьняцца ўвысь, дзе шорхалі арлы...*
*Ды тую рунь чужынцы пакасілі...*

Надзея Дземідовіч была інвалідам першай групы, хадзіла на мыліцах, але дух заставаўся магутным: мы сустракаліся і на мітынгах, і на шэсьцях у Курапаты, і на прэзэнтацыях свабодаўскіх кніг. Яна таксама напісала чатыры кнігі вершаў і ўспамінаў. Была шчасьлівая, калі атрымала ад Рады БНР мэдаль да 100-годзьдзя Беларускай Народнай Рэспублікі.

На пытаньне анкеты Свабоды: «Кім з сучасьнікаў вы захапляецеся?» яна адказала: «Маладафронтаўцамі».

**Надзея Дземідовіч**
24.2.1926, хутар Макейкі, цяпер Слонімскі раён —
3.3.2020, пас. Калодзішчы, Менскі раён.
Пахаваная ў в. Каралёў Стан, Менскі раён.

Калісьці вельмі даўно я, яшчэ зусім малады літаратар, атрымаў ад Валерыя Мазынскага, тады галоўнага рэжысэра Беларускага акадэмічнага тэатру імя Якуба Коласа, замову напісаць п'есу пра кагосьці з герояў айчыннай даўніны. Маім абраннцам стаў Мікола Гусоўскі. Некалькі месяцаў я жыў у дзівосным атачэньні самога паэта, ягонай каханай Франчэскі, мэцэната Эразма Вітэліюса і папы рымскага Льва X. Яшчэ праз месяц адбылося абмеркаваньне майго «дзіцяці» ў тэатральных сьценах.

Раман з тэатрам у мяне ня склаўся: Мазынскі бязьлітасна разьбіў п'есу. Але я ня кінуўся ў Дзьвіну.

# Віктар Дашкевіч

Мой тэкст працягнуў жыцьцё ў аповесьці «Час чумы», якая пісалася паралельна з п'есай, а апрача гэтага, паездка ў Віцебск падаравала мне знаёмства зь сям'ёю Дашкевічаў.

Калі б XX стагодзьдзе ў нацыянальнай гісторыі мела іншую рэдакцыю, такіх сем'яў — з культам продкаў, з роднай мовою, сваімі традыцыямі, сьвятамі, захапленьнем літаратурай — маглі б быць сотні тысяч. Але гэтая сям'я была яшчэ і тэатральная: Сьвятлана працавала ў літаратурна-драматычнай частцы коласаўцаў, а Віктар выходзіў на сцэну як актор і загадваў трупай. Яны, людзі неверагодна занятыя, прымудраліся чытаць, здаецца, усё, што я друкаваў. Я, у сваю чаргу, не прапускаў ніводнай віцебскай прэм'еры — спачатку езьдзячы на іх з Полацку, а потым зь Менску альбо прыходзячы на гастрольныя выступы, дзе заўсёды чакалі запрашальнікі.

Віктар праславіўся яшчэ студэнтам тэатральна-мастацкага інстытуту: згуляў некалькі галоўных роляў у дыплёмных спэктаклях. Найлепшым у сцэнічным увасабленьні быў прызнаны ягоны Міканор у «Людзях на балоце». Дашкевіча адразу запрасілі ў Расейскі тэатар імя Горкага. Ён абраў Віцебск.



За чвэрць стагодзьдзя Віктар выканаў больш за сорак роляў і стаў адным з твараў Коласаўскага тэатру. Галава біскупскай «гвардыі» Палікар Абрагімовіч і мітрапаліт Балвановіч у спэктаклях «Званы Віцебску» і «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» паводле Караткевіча, Чорны ў «Сьне на кургане» Купалы, пастар у «Бацьку» Стрындбэрга, сьвятар у «Візыце дамы» Дурэнмата, Добчынскі ў «Рэвізору»...

Памятаю, пры нашай пляшцы «Folonari» з правінцыі Вэрона ён, прачытаўшы налепку, раптам шматзначна грымнуў словамі вэронскага прынца Эскала з «Рамэо і Джульеты»: «Забойства даравацъ — такое ж самае злачынства!»

Ён заўсёды быў пераканаўчы, заўсёды схопліваў часам глыбока схаванае зерне ролі.

Малыя гледачы пляскалі яму за Чыпалёне і за Капітанавельмідоўгуюпанчоху, тату славутай гераіні Астрыд Ліндгрэн.

У сакавіку 2020-га Віктар Дашкевіч, як зазвычай даверліва, крыху па-дзіцячаму, зірнуў на мяне з чорнага прастакутніка на кампутарным экране. Ён стаў у Беларусі першай афіцыйна прызнанай ахвяраю каронавірусу. Мясцовы інфэкцыяніст, які ніколі ня быў у тэатры, ня бачыў Віктаравых Грыня Дубатоўка зь «Дзікага паляваньня» або герцага Альбанскага з «Караля Ліра», пракамэнтаваў сьмерць актора ў тым духу, што стары, маўляў, дарэмна цягаўся па горадзе.

**Віктар Дашкевіч**
3.1.1945, в. Вяціцераўка, Чашніцкі раён —
31.3.2020, Віцебск.
Пахаваны на віцебскіх Георгіеўскіх могілках.

Яго пачасту называлі грамадзянінам сьвету. Ён не пярэчыў, але звычайна ўдакладняў, што, як і ягоны блізкі знаёмы Чэслаў Мілаш, лічыць сябе грамадзянінам Вялікага Княства Літоўскага. Гэта знайшло важкае і маляўнічае пацьверджаньне ў чатырохмоўным шасьцікіляграмовым фаліянце гістарычных і культуралягічных эсэ «Кніга Вялікага Княства Літоўскага», дзе сярод аўтараў выпаў гонар быць і мне.

## Анджэй Струміла



У Беларусі прэзэнтацыя «Кнігі» адбывалася на вялікай сцэне паўнюткага Купалаўскага тэатру. Пан Анджэй, які разам з Чэславам Мілашам і Томасам Венцлавам быў ініцыятарам выданьня, а затым стаў незаменным рухавіком праекту, распрацаваў канцэпцыю і напісаў прадмову, — выглядаў чалавекам ня проста шчасьлівым, а такім, які зьдзейсьніў адну з найважнейшых справаў свайго жыцьця. Ён лічыў яе данінаю памяці народжаным у Менску дзеду і бацьку. Ня раз гучала тады імя іншага менчука па нараджэньні — Ежы Гедройця, погляд якога на будучыню народаў Княства зьяднаў аўтараў «Кнігі».

Колькі гадоў таму мы з скульптарам Уладзімерам Піпіным адшукалі Струмілу ў Сувалкаўскай лякарні. Позьнім травеньскім вечарам ужо няёмка было стукацца ў палату, але мэдсястра пашанотліва паведаміла, што «пан прафэсар ня сьпіць, а працуе». Пан прафэсар пісаў у вялікім сшытку вершы. Выдатны мастак, вучань славутага Ўладзіслава Стрэмінскага,

які, дарэчы, таксама прыйшоў на сьвет у Менску, пан Анджэй быў яшчэ і паэтам, аўтарам некалькіх ілюстраваных ім самім жа кніг. Адзін зь ягоных вершаў пачынаецца такімі радкамі: *у маладосьці я часта лётаў / узьлятаў зазвычай з вышыні катэдраў*.

Камуністычная ўлада яго не любіла. У час надзвычайнага становішча на гарышчы Струмілавага дому знайшоў прытулак Анджэй Вайда. Усе свае высокія ўзнагароды, у ліку якіх тры Крыжы (кавалерскі, афіцэрскі і камандорскі) Ордэну Адраджэньня Польшчы, пан Анджэй пачаў атрымліваць адно ў 1990-я.

Пасьля безьлічы жыцьцёвых і творчых прыгодаў ён вырашыў атабарыцца на польска-беларуска-літоўскім памежжы ў вёсцы Мацькова Руда над Чорнай Ганьчай. Гэтыя мясьціны нагадвалі яму, віленчуку нараджэньнем, юнацтва на Наваградчыне, дзе ён вучыўся ў беларускай гімназіі. Сюды, у Мацькову Руду, дзе пан Анджэй гадаваў коней і плённа працаваў у жывапісе, графіцы, скульптуры, сцэнаграфіі, фатаграфіі й дызайне, прыходзілі запрашэньні на пэрсанальныя выставы амаль з усіх кантынэнтаў. Ягоны адмысловы дом зь лістоўніцы і яго адметную постаць, нахіленую наперад (здавалася, зусім ня векам патрыярха, а ўсяго толькі насуперак моцнаму сустрэчнаму ветру) будуць памятаць многія беларускія мастакі, запрошаныя ім на дзясяткі пленэраў.

Да самай беларускай мяжы я думаў, як акрэсьліць дух, што лунаў у тых сьценах. Потым — няхай хтосьці і папракае мяне за збыткоўную ўзьнёсласьць, — прыйшла яснасьць: гэта быў дух Рэнэсансу. Струміла і сам уяўляецца мне чалавекам Рэнэсансу — былога ці, можа наіўна думаецца, — будучага.

**Анджэй Струміла**
23.10.1927, Вільня — 9.4.2020, Сувалкі,
Падляскае ваяводзтва, Польшча.
Пахаваны ў в. Магдаленава, Сувальскі павет.

Ён быў вандроўнікам і любіў плаваць у неспакойным перадштармавым моры. Ужо гэтыя якасьці шмат чаго кажуць пра асобу.

Юры нарадзіўся ў вальналюбным Львове, дзе так канчаткова і не ўдалося «кардынальна палепшыць» інтэрнацыянальнае і камуністычнае выхаваньне, чаго вымагалі некалькі прынятых у Маскве «львоўскіх» партыйных пастановаў.

У юнацтве ён меў запаветную мару стаць мэдыкам і падараваць чалавецтву лекі ад раку, але ў сям'і Зісераў добра памяталі справу габрэйскіх «дактароўшкоднікаў» і пераканалі сына абраць іншы шлях.

## Юры Зісер



Юры атрымаў спэцыяльнасьць праграміста ЭВМ у Ленінградзе і накіраваўся дадому, дзе пасьпеў папрацаваць у Львоўскай палітэхніцы і на заводзе. Цікавы радок у біяграфіі — Львоўскі паштамт. «Я быў паштальёнам!» — мог паведаміць Зісер зьдзіўленаму суразмоўніку.

Менск стаў для яго другім родным горадам пры канцы 1980-х, пасьля знаёмства з будучай жонкаю Юліяй Чарняўскай — дарэчы, унучкаю пісьменьніка Васіля Віткі, цяпер вядомай літаратаркаю і культуролягам.

Напачатку Юры ў пэўным сэнсе аддаў належнае колішняй мары, папрацаваўшы праграмістам у навукова-дасьледчым інстытуце анкалёгіі, але неўзабаве зрабіўся прыкметнай асобаю бізнэс-супольнасьці як дырэктар і ўладальнік кампаніі «Надзейныя праграмы». Яна займалася праграмным забесьпячэньнем электронных банкаўскіх тэхналёгіяў і ўкараніла

ўласныя распрацоўкі больш як у ста банках Беларусі, Украіны, Малдовы і Расеі.

Пасьля вяртаньня з стажыроўкі ў ЗША Зісера захапіла ідэя стварыць беларускі аналяг Yahoo. (Першапачатковы капітал быў у наяўнасьці: сабраныя на набыцьцё кватэры грошы.) У выніку ў 2000-м зь бясплатнай пошты пачаў сваю гісторыю партал Tut.by, якому было наканавана зрабіцца самым папулярным інтэрнэт-рэсурсам краіны.

Юры імкнуўся балянсаваць паміж грамадзянскай супольнасьцю і ўладамі, нярэдка сустракаючы непрыманьне з абодвух бакоў: з аднаго папракалі, што «супрацоўнічае», з другога боку аднойчы прагучала патрабаваньне ўзяць Зісера, як і «всех евреев», пад кантроль.

Апошнія гады жыцьця Зісер змагаўся з той хваробаю, ад якой некалі зьбіраўся вынайсьці лекі. Своеасаблівымі лекамі стаў для яго дабрачынны ўдзел у шматлікіх культурніцкіх праектах. Безь яго ў Менску не адбыўся б міжнародны фэстываль клезьмерскай (усходнеэўрапейскай габрэйскай) музыкі. Адна з апошніх справаў Юрыя — фінансаваньне рэканструкцыі беларускіх арганаў у сталіцы, Нясьвіжы і Пінску. Шмат каго ўразіла, што Зісер на шостым дзясятку скончыў Беларускую акадэмію музыкі паводле клясы арганаў і выступаў на арганных канцэртах. Ён лічыў сябе дэістам, але прызнаваўся, што, дакранаючыся да клявішаў, адчувае прысутнасьць найвышэйшай сілы.

Магчыма, якраз арганны харал гучаў у ягонай душы, калі яна адлятала ў Вечнасьць.

**Юры Зісер**

28.6.1960, Львоў, Украіна — 17.5.2020, Менск.

Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

Уладзімер Караткевіч называў свайго малодшага сябра і цёзку мастака Басалыгу не іначай як «наш Каналетта» — параўноўваў з славутым вэнэцыянцам, майстрам гарадзкіх краявідаў Джаваньні Антоньё Каналем. Мастацкія веды айчыннага кляcыка не нашмат саступалі гістарычным.

А пазнаёміліся два Ўладзімеры тады, калі Басалыга разам з братам Міхалам праілюстраваў «Маю Іліяду» — найлепшую Караткевічаву кнігу паэзіі, што зьнікла з кнігарняў за пару тыдняў у нейкай ступені і таму, што мела густоўнае нетрадыцыйнае афармленьне.

## Уладзімер Басалыга



Басалыга пазьней прызнаваўся, што вершы з «Іліяды» зрабілі на яго магутнае ўражаньне, яшчэ больш угрунтаваўшы ў прасторы беларускага нацыянальнага космасу.

Аднойчы пісьменьнік запрасіў мастака дадому і паказаў сваю бібліятэку. «Ты ведаеш, колькі рознай мураўёўшчыны мусіў прачытаць, пакуль пісаў «Каласы пад сярпом тваім»? Дык вось, зрабі эксьлібрыс з Каліноўскім, і я на кніжках пра Мураўёва панастаўлю эксьлібрысаў з Кастусём, каб гэты вешальнік у труне перавярнуўся».

Іхняе сяброўства было багатае на самыя розныя гісторыі. Акурат Басалыгу Караткевіч выдаў сакрэт сваёй загадкавай, зеленаватай, нібы бэхераўка, грушавай настойкі. Як у стан-

дартную пляшку з гарэліцай ці нечым мацнейшым магла трапіць вялікая груша з хвосьцікам? А вельмі простым чынам: калі ў садзе Караткевічаў на грушах зьяўлялася завязь, да яе падчаплялі пустую пляшку.

Пісьменьнік хацеў, каб ад Саюзу мастакоў з 50-годзьдзем яго павіншаваў якраз Уладзімер Басалыга, але той тады быў выгнаны з працы за «нацыяналістычны ўхіл». (Ужо ў XXI стагодзьдзі ён будзе шэсьць гадоў узначальваць свой творчы Саюз.) Мастацтвазнаўцы асаблівага гарту ўбачылі небясьпечны ўхіл у графічнай сэрыі «Помнікі дойлідства Беларусі» — адной зь вяршыняў творчасьці Басалыгі.

Дзякуючы найперш гэтаму вялікаму цыклю гравюраў, якія прынесьлі шырокую вядомасьць і на якія быў добры попыт (пакрыёма набірала моц плынь Адраджэньня), Басалыга перажыў афіцыйнае беспрацоўе да самага развалу СССР. Дарэчы, над сваімі «Помнікамі» ён працаваў да апошніх дзён жыцьця, аднаўляючы на гравюрах зьнішчаную архітэктурную спадчыну роднага Слуцку.

Яшчэ адной асобай, што дапамагла Басалыгу сьцьвердзіцца як творчай асобе і грамадзяніну, быў мастак Лявон Баразна, змагар за захаваньне нацыянальнай спадчыны, які ў 1972 годзе стаў ахвярай, па сутнасьці, так і не раскрытага забойства.

У маленстве Ўладзімер засынаў і прачынаўся, гуляўся і марыў пад дзівоснымі маляванымі дыванамі сваёй зямлячкі Алены Кіш. Гэта быў знак лёсу. Менавіта Басалыга пазьней замацаваў імя нашай геніяльнай мастачкі ў беларускіх і ўсясьветных энцыкляпэдыях.

Уладзімер сустрэўся з Аленай на старонках гэтае кнігі.

**Уладзімер Басалыга**
1.4.1940, Слуцак — 7.6.2020, Менск.
Пахаваны ў в. Кухты, Слуцкі раён.

Ягоная жонка, настаўніца беларускай мовы і літаратуры, стварыла ў Барані два музэі: «Аршаншчына літаратурная» і этнаграфічны. На жончыным пахаваньні Юры паабяцаў зьдзейсьніць яе мару і стварыць яшчэ адзін музэй — прысьвечаны радаводам іхняе сям'і. Праз год прыватны музэй «Тамарына сядзіба» на лецішчы Нагорных уразіў першых наведнікаў сваёй багатай экспазыцыяй. Яна проста выпраменьвала каханьне да спадарожніцы жыцьця, а таксама любоў і пашану да продкаў, а мяне, апрача гэтага, сагрэла тым, што сярод шматлікіх экспанатаў знайшлося месца і маім кнігам з аўтографамі — на чале зь першым выданьнем аповедаў для дзяцей «Адкуль наш род». Зрэшты, спадар Юрась тлумачыў, што гэта не зусім экспанаты, бо кожны ахвочы можа ўзяць упадабаную кніжку пачытаць.

## Юры Нагорны

Ён ганарыўся тым, што ў 1968 годзе быў сярод падпісантаў звароту за выкладаньне па-беларуску на філялягічным факультэце БДУ, дзе вучыўся. Прозьвішча Нагорнага стаяла побач з подпісамі ініцыятараў ліста — Алеся Разанава, Віктара Яраца і Лявона Барташа. Юры згадваў, што ліст яшчэ хадзіў па студэнцкім асяродзьдзі, а выкладчык замежнай літаратуры Міцкевіч ужо зь лёгкасьцю перайшоў у чытаньні лекцыяў на беларускую мову.

Усё жыцьцё Юры настаўнічаў. У Барані памятаюць час, калі ён быў дырэктарам школы і дзесяць гадоў, да 1995-га, ачольваў Бараньскі гарсавет. Яму ўдалося распачаць дэсаветызацыю гарадзкой тапанімікі, у выніку чаго зьявілася, напрыклад, вуліца Радзівілаўская, а завод «Красный Октябрь» зрабіўся акцыянэрным таварыствам «Лёс».

Некалькі кадэнцыяў Нагорны ўзначальваў Аршанскую кааліцыю дэмакратычных арганізацыяў і шмат гадоў кіраваў адной з найбольш дзейсных у краіне су-



полак Таварыства беларускай мовы. Не ўважаючы на шматлікія перашкоды і забароны, спадар Юрась зладзіў у Барані і Воршы прэзэнтацыі ці ня ўсіх маіх кніг, што пабачылі сьвет у гэтым стагодзьдзі, прычым дамагаўся, каб сустрэчы з чытачамі адбываліся менавіта ў музэі Ўладзімера Караткевіча. (Памятаю, як дырэктарка музэю, чыноўніца на пэнсіі, патэлефанаваўшы мне, зь непрыхаванай уквеленасьцю паведаміла, што «этот Нагорный достал» сваімі лістамі ў розныя інстанцыі, а потым пацікавілася, ці хопіць мне на выступ «минут двадцать».)

Атрыманую ў 2019 годзе прэмію за грамадзкую дзейнасьць Юры ахвяраваў на арганізацыю першага Вандроўнага фэсту Караткевіча. Частку грошай ён выдаткаваў на аднаўленьне помніка на месцы апошняга бою аршанскіх паўстанцаў-каліноўцаў пад камандаваньнем Ігната Будзіловіча каля вёскі Пагосьцішча на Лёзьненшчыне.

Ягонае прозьвішча сугучнае з назваю знакамітай казані Ісуса Хрыста. Мне ўяўляецца, што Юры заўсёды імкнуўся жыць у адпаведнасьці зь яе настаўленьнямі.

**Юры Нагорны**
20.1.1949, хутар Мондзін (цяпер Чаромушкі),
Наваградзкі раён — 17.7.2020, в. Селішча, Аршанскі раён.
Пахаваны ў в. Селішча.

# Валеры Шчукін



З спадаром Валерыем мы зусім не ўва ўсім былі аднадумцамі. Не магу не ўзгадаць, што само слова «спадар» ён лічыў прыдуманым нацыяналістамі і аднойчы пайшоў са мной у заклад на скрынку каньяку, якую абяцаў выставіць, калі я абвергну ягонае меркаваньне цытатамі зь першакрыніцаў. Словы гэтыя ў вуснах камуніста Шчукіна, як вы разумееце, былі зусім не выпадковыя.

Для мяне прапанаваць спадару Валеру-няверу цытаты было не цяжэй, чым выпіць келіх чырвонага. Па-першае, славутая Баркулабаўская хроніка, дзе падчас голаду жабракі просяць: «Матухна, зязюлюхна, спадарыня, дай крошку хлеба». Па-другое, надрукаваная ня дзе-небудзь, а ў першым выданьні Статуту Вялікага Княства Літоўскага «эпіграма» паэта Андрэя Рымшы на гербы Льва Сапегі, дзе недвухсэнсоўна сьцьвярджаецца, што гербавы конны ваяр «служыць сваім спадарам». Па-трэцяе...

Скрынкі каньяку я так і не атрымаў, бо Шчукін заявіў, што і хронікі, і вершы — «не первоисточники».

Але, як той казаў, любім мы яго не за гэта.

Будучы марскі афіцэр, праваабаронца і журналіст нарадзіўся на другім краі савецкай імпэрыі, ва Ўладзівастоку, але сям’я неўзабаве вярнулася на родную для маці Талачыншчыну, і Валерка пайшоў у беларускую школу. Мяне ён называў земляком, бо ў другой палове 1990-х адстаўны марак пасяліўся ў Полацку. Там ён, чалец камуністычнай партыі, і быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня.

У той час жыцьцёвы шлях Валерыя зрабіў круты

паварот. «Таварышы», якія даверылі яму выконваць абавязкі сакратара камісіі нацыянальнай бясьпекі, абароны і барацьбы з злачыннасьцю, былі ў хуткім часе глыбока расчараваныя. Капітан другога рангу ў адстаўцы Шчукін выявіў сябе змагаром не за «ленінскія прынцыпы», а за справядлівасьць.

У 1996-м ён быў сярод дэпутатаў, што падтрымалі імпічмэнт. Валерыя выключылі з кампартыі, але ён стаў сябрам Беларускага Хэльсынскага камітэту і Беларускай асацыяцыі журналістаў. Без адметнай Валеравай барады ўжо не абыходзілася, бадай, ніводная сталічная дэмакратычная акцыя, што зрабіла яго «сваім» чалавекам у вядомай установе на менскай вуліцы імя лётчыка-героя Акрэсьціна.

У тыя яшчэ, так бы мовіць, «лібэральныя» часы Шчукін меў завядзёнку ня толькі сувора экзамэнаваць турэмнікаў на прадмет веданьня, на вуліцы чыйго імя яны нясуць сваю службу. Былы дэпутат вёў барацьбу за паляпшэньне ўмоваў утрыманьня і дамогся, каб у рацыён вязьняў уключылі белы хлеб, навялі адносны парадак з турэмнымі шпацырамі, а таксама замянілі лыжкі-калекі з абламанымі тронкамі на нармалёвыя, якія можна было ўзяць у руку.

Апекуны неўтаймоўнага Шчукіна на схіле жыцьця пазбавілі яго прапіскі, у выніку чаго ён колькі гадоў жыў на вакзале і стаў самым вядомым бамжом краіны.

Апошні раз спадар Валеры трапіў у аўтазак на Дзень Волі ў 2017-м.

Крыж на пахаваньні нёс калега-дэпутат Павал Знавец. Труну накрылі бел-чырвона-белым сьцягам. Вайскоўцы, якіх паводле закону афіцыйна накіравалі на разьвітаньне з афіцэрам, свайго сьцягу не разгарнулі.

**Валеры Шчукін**
22.3.1942, Уладзівасток, Расея — 10.10.2020, Менск.
Пахаваны на менскіх Чыжоўскіх могілках.

Ягоная магутная і велічная, хочацца сказаць *патрыцыянская* постаць, шмат гадоў часта зьяўлялася ў вакне маёй літарацкай «вальеры»: майстэрня Валерыя месьцілася на верхатуры аднаго з суседніх дамоў. Маэстра самавіта крочыў, трымаючы ў руцэ старамодны брунатны партфэль. Агульныя знаёмыя апавядалі, што, апрача іншага, там нязьменна чакала сваёй хвіліны пляшка каньяку. Я аматар іншых напояў, таму пра зьмесьціва партфэля так і не даведаўся (гэтаксама як і ніколі ня бачыў Валеры нападпітку). Нашае знаёмства жывілася іншым.

## Валеры Шкаруба

Шкаруба з канца мінулага стагодзьдзя заняў месца ў ня надта доўгім сьпісе маіх улюбёных беларускіх мастакоў.

Яшчэ дашкольнікам ён уражваў бацькоў-земляробаў апантанай схільнасьцю да маляваньня. Прамінуць гады, і ён будзе ўражваць аматараў мастацтва ад Рыму да японскага Сэндаю.

Цікавая старонка жыцьцяпісу Шкарубы — праца пасьля тэатральна-мастацкага інстытуту дызайнэрам першых айчынных кампутараў (пэрсанальных вылічальных машынаў) у навукова-дасьледчым інстытуце ЭВМ. Там Валеры нечакана стаўся аўтарам некалькіх прызнаных прамысловых вынаходніцтваў, аднак тым дзесяці гадам ён быў удзячны за іншае: манатонная вытворчая дзейнасьць усё мацней хіліла да творчасьці. Шкаруба ўзяўся кіраваць дзіцячай мастацкай студыяй, але яго ўжо цалкам захапіў жывапіс, дзе ён найяскравей раскрыўся ў жанры пэйзажу.

Валеры ня быў мізантропам, але на ягоных палотнах — пазнавальных зь першага позірку праз дасканалую тэхніку, суладнасьць сьвятла і колеру, а перадусім праз сваю затоеную таямніцу і мэтафізычнасьць, — вы ніколі не сустрэнеце людзей. Для таго, каб сказаць пра Вечнасьць, пра шматаблічнасьць і нават пра барвы Часу (Валеры пагаджаўся з маёй думкаю пра Час як



Айчыну), мастаку дастаткова было дарогі, поплава, поля пад цаліком...

У мяне заўсёды найбольшы водгук знаходзіў Валераў вецер — напоўнены трывогаю, роздумам, смуткам па чалавечым жыцьці. Ён прыводзіў на памяць вецер у бязьлюдных кадрах фільмаў Антаніёні.

Свае працы Валеры Шкаруба сьціпла называў «ціхай песьняй у славу Беларусі». Гэтую песьню чулі ў эўрапейскіх сталіцах і на Вэнэцыянскім біенале, у ААН і Эўрапарлямэнце. Калі Мэрэт Мэер-Грабэр, унучка Марка Шагала, даведалася, што ў нашым Нацыянальным мастацкім музэі няма працаў Шкарубы, яна падаравала туды нядаўна набытае «Белае зьмярканьне».

Ён быў маім удзячным чытачом, дакладней — слухачом: працуючы, слухаў аўдыёкнігі. Аднойчы з-за дзьвярэй майстэрні я, прыстояўшы, пачуў свае «Імёны Свабоды», а менавіта аповед пра Адама Пуслоўскага, які быў расстраляны ў1863 годзе, хоць ягоны ўдзел у паўстаньні доўжыўся ўсяго адзін дзень. «Шкада, не малюю партрэтаў», — сказаў гаспадар, калі я зайшоў. «А каго б хацеў намаляваць?» — кіўнуў я на кампутар з аўдыёдыскам. «Марыю Ямант», — адказаў мастак. «Але ж яе ў кнізе няма», — крыху разгубіўся я. «Напішаш».

Напісаў. Новае выданьне «Імёнаў» зьявілася акурат на Дзяды 2020-га, але падараваць кнігу Валеру я ўжо не пасьпеў. Праз лічаныя дні яго забраў каронавірус.

**Валеры Шкаруба**

10.12.1957, Барысаў — 19.11.2020, Менск.

Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

На адным з сваіх фатаздымкаў у сеціве ён — у прывезеным з навуковай выправы ў Амэрыку каўбойскім капелюшы.

У эканамісту і палітолягу Леаніду Заіку і насамрэч было штосьці ад каўбоя, але зь відавочнай пячаткаю магутнага інтэлекту.

Вучань і паплечнік, эканаміст Яраслаў Раманчук пісаў пра яго як пра арыстакрата духу, непадкупнага вучонага і чалавека зь нязломным каштоўнасным стрыжнем: «Зь ім захапляльна было абмяркоўваць макраэканоміку і рок-музыку, Імануіла Канта і Джона Мэйнарда Кейнса, геапалітыку і зорнае неба. Ён граў на піяніна, па-майстэрску жангляваў лічбамі, глыбока прэпараваў праблемы сьветабудовы».

## Леанід Заіка

Нават нядоўгі праведзены з Заікам час пераконваў, што гэты чалавек шчасьліва і шчодра надзелены тонкім пачуцьцём гумару, ironіяй і — што для асобы такога маштабу надзвычай важна — самаіроніяй. (Як бракуе такіх якасьцяў шмат каму з нашых палітыкаў, палітолягаў і аналітыкаў!)

Адзін зь ягоных улюбёных дэвізаў: «Не хварэй на ўладу!» У беларускай рэальнасьці зь ейнымі рызыкамі, парушанымі сыстэмамі каардынатаў быцьця, адкладзенымі каштоўнасьцямі, якія чакаюць новага часу, Заіка абраў крамністы шлях незалежнага дасьледніка і перакананага незалежніка.

Быў дэканам эканамічнага факультэту Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту. Кіраўніком няўрадавага цэнтру стратэгічных ініцыятываў «Усход — Захад», зачыненага ўладамі ў далёкім1996 годзе. Ужо ў наступным годзе Заіка стварыў аналітычны цэнтар «Стратэгія». Яго закрылі ў 2021-м.

Праца цэнтру цягам чвэрці стагодзьдзя была сапраўдным дзівам, створаным шматстайным талентам Заікі. За гэтыя гады супрацоўнікамі «Стра-



тэгіі» былі напісаныя дзясяткі кніг і сотні артыкулаў, арганізаваныя школы, канфэрэнцыі, круглыя сталы, дзе рыхтавалася эліта нацыі. Сам кіраўнік пісаў падручнікі і манаграфіі, чытаў курсы лекцый ва ўнівэрсытэтах Беларусі, ЗША, Нямеччыны, Украіны, Кітаю, Расеі...

А яшчэ ж зь дзевяці гадоў выхоўваў сына.

Леанід быў экспэртам міжнародных арганізацый і Савету Міністраў, меў шмат зваблівых прапановаў, але быў верны свайму дэвізу і на ўладу не захварэў.

Ведаю, што Леанід ня проста ніколі не адмаўляўся ад інтэрвію ці камэнтара незалежным мэдыям на гарачую тэму — ён быў для журналістаў неацэннай знаходкай. Лічылася, што кожную ягоную цытату можна выносіць у загаловак. Але пры гэтым размова з Заікам не бывала лёгкай, бо ён мог учыніць суразмоўцу сапраўдны экзамэн па эканоміцы, пачаўшы з таго, колькі каштуе бутэлька малака.

Неяк ён загаварыў пра калегаў-выкладчыкаў, што пыталіся: як выжыць? Параду яны атрымалі наступную: «Кубак добрай кавы, цікавы суразмоўнік, новая добрая кніга. Астатняе прыкладзецца».

Ня ведаю, ці быў я для яго цікавым суразмоўнікам, але мае гістарычныя кнігі Леанід чытаў і ў тое, што эўрапейская гісторыя можа стаць для Беларусі пропускам у эўрапейскую будучыню, таксама верыў. Таму мы выпілі б зь ім яшчэ не адзін кубак латэ ці капучына.

Каб не эпідэмія.

**Леанід Заіка**

23.8.1948, Горадня — 27.12.2020, Менск.

Пахаваны на могілках у пас. Калодзішчы, Менскі раён.

Вандруючы зь сябрамі па Прысожжы, у старажытным Прапойску, а цяпер Слаўгарадзе, мы не маглі не завітаць да самага славутага сучаснага слаўгародца Фэлікса Шкірманкова. Ягоныя гады падбіраліся пад дзясяты дзясятак, і, як пройдзе візыт, заставалася адно здагадвацца.

Гаспадара мы ўбачылі ў брамцы сядзібы. Моцны срэбнавалосы барадач быў у батфортах і з цэлым букетам вудаў ды іншага прычындалльля. З кішэні вятроўкі самавіта выглядала біклага, як неўзабаве высьветлілася, віна з свойскай ізабэлы.

Спадар Фэлікс адразу з шляхецкім паклонам запрасіў нас у дом, паабяцаўшы, апрача ўсяга, наладзіць і дэгустацыю згаданага напою. Але ў вачах гаспадара гарэў такі рыбарскі імпэт, што мы, уручыўшы Шкірманкову бібліятэчку прывезеных кніг, неабачліва дакляравалі зазірнуць наступным разам. На жаль, не пасьпелі.

## Фэлікс Шкірманкоў



Іначай мы пачулі б пра партызанскі аддзел, куды Фэлікс пайшоў пятнаццацігадовым падлеткам, пра раненьне «на жалезцы», пасьля чаго хлапца вывезьлі самалётам за лінію фронту, пра франтавыя шляхі, што скончыліся ў 1945-м на чэскай зямлі, але ўсё жыцьцё нагадвалі пра сябе чатырма ранамі.

Амаль траціну стагодзьдзя, з 1951 году, Шкірманкоў адпрацаваў геолягам на Калыме. Лёс вязьня яго абмінуў, але з «ворагамі народу», асуджанымі пераважна «за контрарэвалюцыйную дзейнасьць», бачыцца даводзілася часта. Ён лічыў, што якраз тыя сустрэчы вырашальна паўплывалі на сьветапогляд.

Неўзабаве па вяртаньні на радзіму пачаліся новыя франтавыя дарогі спадара Фэлікса. Ён пазнаёміўся зь Зянонам Пазьняком і стварыў з прыхільнікаў дэмакратычных сілаў Слаўгарадзкую суполку БНФ. Сустрэча з кіраўніком Фонду «Дзецям Чарнобылю» Генадзем Грушавым таксама атрымала хуткі працяг: Шкірманкоў заснаваў раённае аддзяленьне гэтай дабрачыннай арганізацыі, і дзеці з забруджаных радыяцыяй слаўгарадзкіх вёсак паехалі набірацца сілаў у заходнеэўрапейскія краіны.

У 1990—1995 гадах спадар Фэлікс старшыняваў у Слаўгарадзкім гарсавеце, а пасьля рэфэрэндуму 1995-га забраў адтуль на захаваньне герб Пагоня. Прычым не запраторыў яго некуды да лепшых часоў, а зьмясьціў дома на самым ганаровым месцы.

Памятаю, як нашая Рада аднагалосна прыняла Шкірманкова ў сябры Саюзу беларускіх пісьменьнікаў. Хтосьці з рэкамэндантаў, апрача добрых словаў пра творы кандыдата (ён выдаў болей за дваццаць кніжак вершаў і прозы), адзначыў, што той часта выступае перад моладзьдзю, нязьменна пераконваючы яе, што бяз мовы беларусы акажуцца ў іншай дзяржаве, дзе зьнікнуць як нацыя.

На дзевяноста трэці дзень нараджэньня Фэлікс Шкірманкоў у родным доме пад бусьлянкай атрымаў вельмі дарагую для яго ўзнагароду: побач з баявымі ордэнамі і мэдалямі на грудзях найстарэйшага сябра Беларускага Народнага Фронту зьявіўся мэдаль «100 гадоў БНР». Вельмі шкадаваў, што гэтую радасьць ужо не магла падзяліць зь ім жонка Вера, зь якою яны прайшлі разам семдзесят гадоў.

**Фэлікс Шкірманкоў**
27.5.1926, Прапойск, цяпер Слаўгарад —
4.1.2021, Слаўгарад.
Пахаваны ў Слаўгарадзе.

Ёсьць такая дапаможная гістарычная навука — палеаграфія. Калі ляканічна, яна вывучае старажытныя рукапісы: вызначае час, аўтарства, гісторыю і месца іх стварэньня, дапамагае вызначыць аўтэнтычнасьць і адпрэчыць падробкі. Менавіта на пасадзе палеографа Цэнтральнага дзяржаўнага архіву рэспублікі пачаў Анатоль працаваць, атрымаўшы ў адзін год са мной дыплём гістфаку БДУ. Для маладога адмыслоўца палеаграфія ня стала справаю жыцьця, але імкненьне змагацца за аўтэнтыку засталося зь Цітовым назаўсёды.

## Анатоль Цітоў

Найбольш красамоўна гэта выявілася, відаць, у працяглай і зацятай дыскусіі пра сапраўдны герб Слуцку, дзе Анатоль Цітоў са сваім Пэгасам здолеў перамагчы іншага надзвычай аўтарытэтнага Анатоля — прыхільніка Пагоні доктара навук Грыцкевіча. Хоць свае важкія аргумэнты былі ў кожнага з бакоў, рызыкну сьцьвярджаць, што ў выніку дыскусіі Пагоні ў нашай гістарычнай прасторы наўрад ці паменела, затое зьявіўся арыгінальны і непаўторны ў беларускай геральдыцы герб, на якім белы конь, аздоблены чырвонай гунькаю з манаграмаю Радзівілаў.

На той час Цітоў быў ужо найбольш прызнаным беларускім геральдыстам і сфрагістам (адмыслоўцам, якія займаецца пячаткамі), правамоцным сябрам геральдычных таварыстваў Польшчы, Літвы і Ўкраіны. У свой час ён уваходзіў у камісію для распрацоўкі эталёну Дзяржаўнага гербу Рэспублікі Беларусь і ўзораў пячатак Вярхоўнага Савету і яго прэзыдыюму. Наогул выглядае, што ніхто так глыбока і дасканала, як Цітоў, не вывучаў гісторыю ўзьнікненьня і разьвіцьця Пагоні ад вытокаў сымбалю да яго агульнадзяржаўнай ролі ў Вялікім Княстве Літоўскім, Беларускай Народнай Рэспубліцы і ў нашай адроджанай пры канцы XX стагодзьдзя незалежнай дзяржаве.




Не пабаюся назваць бэстсэлерным цэлы шэраг выданьняў Анатоля Цітова, які пачынаецца з «Гербаў беларускіх гарадоў», «Пячатак старажытнай Беларусі» і кнігі «Наш сымбаль — Пагоня», працягваецца «Сфрагістыкай і геральдыкай Беларусі», «Краінай майстроў» (рамесныя цэхі XVI—XVIII стагодзьдзяў) і, на жаль, абрываецца «Зэгармістрамі Беларусі», кнігаю пра славутых майстроў гадзіньнікавых справаў.

Пра што б ні пісаў Анатоль, да прадмету сваіх дасьледаваньняў ён ставіўся зь цеплынёю і адчувальным душэўным болем за часы зьняважлівага стаўленьня да гістарычнай спадчыны, якія ў нашых шыротах маюць уласьцівасьць зноў і зноў мець цяжкія рэцыдывы. Чытаючы ягоную «Геральдыку Беларусі», апрача канкрэтных навуковых зьвестак, можна захапіцца цэлай анталёгіяй займальных выпадкаў і сытуацый, задумацца над аналёгіямі і пасьмяяцца з гістарычных анэкдотаў.

Анатоль быў бездакорным аўтарытэтам і бліскучым кансультантам у маёй працы над гістарычнай тэматыкай. Памятаю ягоны голас з прыхаванаю ў тэлефоне ўсьмешкаю: «Пачакай крыху, займуся тваімі справамі, як толькі адпушчу Чартарыйскіх з Тышкевічамі, потым на паўгадзінкі яшчэ зойдуць Гальшанскія». Цяпер ён недзе разам зь імі.

**Анатоль Цітоў**
27.11.1947, Дрэздэн, Нямеччына — 5.1.2021, Менск.
Пахаваны на менскіх Чыжоўскіх могілках.

Расейскія літаратуразнаўцы дагэтуль спрачаюцца, ці сапраўды Андрэй Платонаў, трапіўшы ў няміласьць, працаваў дворнікам і падмятаў у Маскве двор Саюзу пісьменьнікаў. Наконт таго, ці займаў такую пасаду аўтар абароненай у 2004 годзе доктарскай дысэртацыі «Палітычная гісторыя Беларусі ў часы падзелаў Рэчы Паспалітай» Яўген Анішчанка, дыскутаваць не выпадае: я на ўласныя вочы, як і дзясяткі ягоных калегаў і былых студэнтаў, бачыў спадара Яўгена зь дзеркачом у ваколіцах Беларускага эканамічнага ўнівэрсытэту. Аднак і ў той жыцьцёвай сытуацыі вядомы гісторык не губляў шляхетных манераў.

## Яўген Анішчанка



Ягоную доктарскую, што не адпавядала афіцыёзным ідэалягічным патрабаваньням, бо разглядала вынікі падзелаў радзімы нашых продкаў як акупацыю ўсходнім суседам, не зацьвердзіла Вышэйшая атэстацыйная камісія. Але гэта быў адно пачатак. Яшчэ адна камісія, створаная ўжо ў акадэмічным Інстытуце гісторыі, якому Яўген аддаў амаль дваццаць гадоў працы, пастанавіла, што ён, аўтар двух дзясяткаў кніг і соцень публікацый у навуковай пэрыёдыцы і энцыкляпэдыях, не адпавядае пасадзе старэйшага навуковага супрацоўніка.

Адзін з чальцоў той камісіі ў прыватнай размове паведаміў, што, на думку кіраўніцтва, Анішчанка не адпавядае ў інстытуце ніводнай пасадзе. У нас, маўляў, набірае абароты інтэграцыя, а ты пішаш пра паўстаньне Тадэвуша Касьцюшкі, захапляесься шлях-

тай ды ўніятамі. Чым табе не падабаецца Кацярына II? Затое даспадобы Канстытуцыя Рэчы Паспалітай 3 траўня 1793 году — ну і што з таго, што яна была другой у сьвеце пасьля амэрыканскай? І што гэта за мэтафары пра кіпцюры расейскага арла?

Усе спробы калегаў абараніць Яўгена Анішчанку, яшчэ і таленавітага гістарычнага картографа, стваральніка шматлікіх мапаў для энцыкляпэдый і атлясаў (да таго, як атрымаць чырвоны дыплём гістфаку БДУ, ён скончыў славуты Парнат — Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве) скончыліся дворніцкай мятлой.

Ён быў шчасьлівы, калі ўдалося ўладкавацца ў Нацыянальны гістарычны архіў і зноў апынуцца сярод герояў мінулых стагодзьдзяў, у таварыстве якіх ён заўсёды, пра што сам неаднаразова казаў, пачуваўся значна больш камфортна, чым з сучасьнікамі.

Ня толькі я падкрэсьлена называў Яўгена доктарам навук. Ён быў варты гэтай навуковай ступені шматкроць болей за тых, хто займаўся ягоным цкаваньнем.

Яўген ня здрадзіў галоўнай тэме сваіх штудыяў, вынікам чаго сталі новыя кнігі і зборнікі архіўных дакумэнтаў. У 2016 годзе выйшла новае, дапоўненае выданьне ягонай манаграфіі «В когтях двуглавого орла. Беларусь во времена Екатерины II (1772—1796)».

У аўтографе ён напісаў мне, што няпраўда, быццам гісторыя паўтараецца ў выглядзе фарсу. Яна мае ўласьцівасьць зноў прыходзіць і ў абліччы трагедыі.

**Яўген Анішчанка**
27.10.1955, в. Бранцава, Аршанскі раён —
16.5.2021, Менск.
Пахаваны ў в. Бранцава.

# Фёдар Крыванос

Хто з вас прачытаў «Капітал» Карла Маркса? А хто заканспэктаваў гэтую кнігу, пра ўплыў якой на цывілізацыю можна доўга спрачацца?

Студэнтам гістфаку БДУ Фёдар на летніх вакацыях якраз і займаўся такім канспэктаваньнем, за што аднакурсьнікі міжсобку называлі яго Марксістам. Паколькі ў нас зь ім дыплёмы пра заканчэньне аднаго і таго ж факультэту, з упэўненасьцю кажу, што тыя сьпісаныя Крываносам агульныя сшыткі былі ягонай уласнай ініцыятывай. З працаў заснавальнікаў марксізму нам досыць было нешта ведаць з «Маніфэсту камуністычнай партыі», на старонкі якога аўтары некалі выпусьцілі блукаць яшчэ бяскрыўдную «здань камунізму». А савецкі паэт Сяргей Нароўчатаў тады запанібрата пісаў: *Хотел бы я, чтоб видел старый Маркс, / Как мы сейчас бушуем на планете!*

Зь сёньняшяга гледзішча тагачаснае канспэктаваньне «Капіталу» выглядае ні чым іншым, як дысыдэнцтвам, якое фармавала склад розуму і выводзіла на сьцежку новых зацікаўленьняў. Сябры памятаюць, як «марксіст» Крыванос пачаў даваць ім чытаць самвыдавецкага Аляксандра Салжаніцына, а затым рэлігійных мысьляроў Мікалая Бярдзяева, Уладзіміра Салаўёва, Мікалая Лоскага (дарэчы, беларуса з паходжаньня, народжанага ў Дзьвінскім павеце і выключанага пазьней за погляды зь Віцебскай клясычнай гімназіі).

Цалкам лягічным у сьвятле гэтага кола чытаньня выглядае хрышчэньне Фёдара ў 25-гадовым веку, ягонае паступленьне ў сэмінарыю, а затым у духоўную акадэмію, якую ён скончыў кандыдатам багаслоўя.

Выкладаючы ў Менскай духоўнай сэмінарыі, айцец Фёдар уражваў, а часам нават палохаў вучняў тым, што казаў пра рэпрэсаваных, закатаваных і расстраляных сьвятароў нібыта пра сьвятых. Сэмінарысты



ня ведалі, што іхні выкладчык ня толькі служыць у Сьвята-Духавым саборы, але ўжо не адзін год працуе ў архівах КГБ, вяртаючы сотні імёнаў і складаючы жыцьцяпісы сьвятапакутнікаў Менскай япархіі.

Архіўныя росшукі Фёдара Крываноса ўвасобіліся ў дзясяткі публікацыяў і кнігі «У Бога мёртвых няма», «Але смутак ваш у радасьць будзе», «Многи скорби праведным»... Мала хто ведаў, што самыя патаемныя думкі ён давяраў вершам, сабраным у дзьвюх кніжках. Мяноўна дзякуючы шматгадовай працы Крываноса ў царкоўным календары зьявіўся Дзень памяці новапакутнікаў зямлі Беларускай.

«Балем Сатаны» называў айцец Фёдар пэрыяд сваіх дасьледаваньняў. Ён кожны дзень маліўся, каб тыя часы не паўтарыліся. Ніколі не забываў, як пяцігадовым трымаў за ногі бацьку, настаўніка гісторыі адной зь менскіх школаў, калі таго забіралі «за антысавецкую дзейнасьць». Вярнуўшыся пасьля зьняволеньня, бацька змог уладкавацца на працу толькі рабочым.

Вечны спачын айцец Фёдар знайшоў у Жыровічах на кладах каля царквы Сьвятога Георгія, недалёка ад магілы мітрапаліта Філярэта, які пасьвяціў яго ў сьвятары, а потым багаславіў на ахвярную працу ўсяго жыцьця.

**Фёдар Крыванос**
18.8.1962, Менск — 1.6.2021, Менск.
Пахаваны ў Жыровіцкім манастыры, Слонімскі раён.

Паўтара стагодзьдзя таму чатыры беларускія шляхецкія сям'і выкупілі на Случчыне ў пана Даманскага кавалак лесу і ўзяліся яго высякаць і выкарчоўваць, заворваць і засяваць. Паставілі хаты. Так узьнік засьценак Даманшчына, дзе будучая пісьменьніца і прыйшла на сьвет.

Калі дзяўчынцы было сем гадоў, пахварэлі і памерлі бацькі. У сірацінкі пачалася самастойная жыцьцёвая адысэя, якая завершыцца амаль праз сто гадоў. Спадарыня Алена лічыла, што такі век ёй быў наканаваны, каб пражыць і за бацькоў, што сышлі ў невараць зусім маладыя.

## Алена Васілевіч



У гады Другой усясьветнай вайны юная выпускніца Рагачоўскага настаўніцкага інстытуту працавала бібліятэкаркай у шпіталі, пісаркай і начальніцай бібліятэкі ў вайсковай частцы. Ужо тады яе вабілі кніга і слова, прычым найперш слова беларускае, што і прывяло Алену пазьней на філфак БДУ.

Лёс закінуў яе ў Расею, але нерасьцярушаная беларуская душа клікала дадому і — усё больш уладна — да пісьмовага стала. Упэўнены: шмат хто памятае зьнітаваную з жыцьцяпісам тэтралёгію Алены Васілевіч «Пачакай, затрымайся…». Ня толькі назваю, але і сюжэтамі, даверлівай цёплай інтанацыяй, псыхалягізмам засталася ў маёй памяці кніга прозы «Мыс Добрай Надзеі». Беларускія дзеці зачытваліся зробленым Аленай Сямёнаўнай перакладам «Рабінзона Круза».

Па-новаму сьвежа загучаў голас прызнанай і шанаванай чытачамі пісьменьніцы ў этудах і эсэ пад во-

кладкаю «Элегіі», выдадзенай пры канцы 1980-х, калі Васілевіч знайшла сваё месца ў новай хвалі нацыянальнага Адраджэньня.

Мне, рэдактару выдавецтва «Мастацкая літаратура», было асалодаю працаваць зь яе сынам Уладзімерам, прызнаным фальклярыстам і этнографам, які выдаў цэлую бібліятэку зь некалькіх дзясяткаў таленавіта сабраных і ўкладзеных зборнікаў беларускіх мітаў, прыкметаў і павер'яў, загадак і замоваў. Імгненна згадваюцца багатая беларуская мова спадара Ўладзімера, трапныя назвы кніг, якія праходзілі праз нашую рэдакцыю: «Зямля стаіць пасярод сьвету», «Жыцьця адвечны лад», «Зямная дарога ў вырай». Ува ўсім гэтым адчувалася клапатлівае матчына крыло. А яшчэ — у сынавых манэрах, дзе адбіліся захаваныя мамай традыцыі жыхароў таго даўняга шляхецкага засьценку, у якім мужчыны нязьменна цалавалі жанчынам руку і няпісаным законам быў зварот адно да аднаго толькі на «вы».

На стале ў спадарыні Алены заўсёды чакалі сустрэчы з рукамі гаспадыні «Народная Воля» і «Наша Ніва». Яна была адданай слухачкаю, а затым чытачкаю Радыё Свабода, а калі на дзясятым дзясятку ўжо цяжка было даваць рады з кампутарам, прасіла чытаць навіны сына. Драматычныя падзеі ў Беларусі апошні год спадарыня Алена камэнтавала сваім улюбёным выслоўем: «Жывым — жыць!»

У Вечны вырай яна выправілася на 99-м годзе, а яе зямная дарога спынілася там, дзе продкі калісьці сталі шчасьлівымі ўладальнікамі сваёй зямелькі.

**Алена Васілевіч**
22.12.1922, засьценак Даманшчына (цяпер в. Ліпнікі),
Слуцкі раён — 8.8.2021, Менск.
Пахаваная ў в. Ліпнікі.

Асоба Алеся Разанава мела не адно вымярэньне і ўвасабленьне, але найперш ён, стваральнік новых жанраў і наогул новай паэтыкі, застанецца геніяльным паэтам, які заслугоўваў Нобэлеўскай прэміі.

«Сон у купальскую ноч» на сцэне Купалаўскага тэатру, калі Шэксьпір загучаў у перакладзе Разанава, навёў, напэўна, ня толькі мяне на думку пра сувымернасьць гэтых творцаў.

Хмельным глытком азону для нас, маладых літаратараў, сталася на пачатку сямідзясятых першая ж ягоная кніга «Адраджэньне», якая насамрэч мела аўтарскую назву «Адрачэньне».

## Алесь Разанаў



У выдавецтве «Мастацкая літаратура», дзе мне выпала працаваць у дзевяностыя гады, хадзіла легенда, нібыта нецьвярозы рэдактар адчыніў вакно, і вецер зьдзьмуў тытульную старонку будучай кнігі. Пасьля пакутлівых спробаў узгадаць, што там было напісана («Ад...», «ад...», «адра...») рэдактар ляпнуў сябе па лобе: вядома, адраджэньне! Насамрэч было іначай: выдавецкае начальства проста спалохалася назвы, якой аўтар (пагатоў, з сумнеўным нацыяналістычным мінулым) мог прыхавана адракацца ад нечага сьвятога для кожнага савецкага чалавека. Пільныя цэнзарскія нажніцы зьнявечылі і зьмест (цалкам былі, да прыкладу, выразаныя вершы з падазронымі назвамі «Адкрыцьцё» і «Экспэрымэнт», але зьнішчыць сьвежае

дыханьне магутнага таленту цэрбэры сацрэалізму не патрапілі.

Разанава нязьменна цікавіла існаваньне асобы ў агульнацывілізацыйным космасе і ў трагічным сьвеце беларускай гісторыі.

*Нібы раздарожжа, я паказваю ўсім,*
*куды ісьці, а сам застаюся на месцы —*
*на гэтай зямлі, пад гэтым небам...*

*Тут мой захад, і тут — усход.*

Пра яго казалі: «жыхар неба», але ён заўсёды заставаўся і жыхаром нашай беларускай зямлі.

У студэнцтве быў выключаны з унівэрсытэту за ліст з патрабаваньнем выкладаць па-беларуску. (Выдавецтва «Тэхналёгія» ў 2021-м выдала пра тыя падзеі кнігу, названую разанаўскім радком «І немагчымае зрабі!».) У сьнежні 2010 году Алесь паставіў свой подпіс пад лістом генэральнаму пракурору, калі мы ня ведалі, жывы ці мёртвы яшчэ адзін выдатны паэт — кандыдат у прэзыдэнты Ўладзімер Някляеў. Алесь ня проста падпісаў ліст, а быў сярод тых, хто прыйшоў у генэральную пракуратуру. Памятаю, як мы ішлі туды і сыходзілі, па сутнасьці, пад канвоем людзей у цывільным з аднолькавымі вязанымі шапкамі. Хтосьці з журналістаў запытаўся ў іхняга начальніка: «Што, вяртаецца трыццаць сёмы год?» У адказ прагучала абяцаньне: «Будзе вам і трыццаць сёмы!»

Але — як бы ні склаўся лёс той зямлі, дзе наш агульны зь ім захад і наш усход, — творы Алеся Разанава — з тых цаглін, якія не дадуць зьнішчыць ні гмах беларускай літаратуры, ні саму Беларусь.

**Алесь Разанаў**
5.12.1947, в. Сялец, Бярозаўскі раён — 26.8.2021, Менск.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

## Уладзімер Ляхоўскі

Уладзімер Ляхоўскі быў менчуком, але часам знаёмыя і калегі лічылі яго случаком: настолькі выдатна, да драбніцаў, ён ведаў гісторыю Слуцкага збройнага чыну.

Мы пазнаёміліся з Уладзімерам яшчэ ў мінулым стагодзьдзі, і гэта была шчасьлівая сустрэча, бо якраз тады я задумаў свой праект «Краіна Беларусь. Ілюстраваная гісторыя». Без кансультацыяў Ляхоўскага, безь ягонай калекцыі бясцэнных дакумэнтаў канца XIX — першай паловы XX стагодзьдзя, зьвязаных з нашым нацыянальным рухам, і ў «Краіне Беларусі» і ў «Вялікім Княстве Літоўскім» дакладна было б на дзясятак разгортаў менш. Пашпарты грамадзянаў Беларускай Народнай Рэспублікі, паперы яе вайскова-дыпляматычных місіяў, унікальныя фатаздымкі таго часу... Адзін зь іх адразу паўстае ўвачччу: прысьвечаны першым угодкам абвяшчэньня незалежнасьці банкет у Горадні 25 сакавіка 1919 году са сьвяточным сталом, які, здаецца, працягнуўся ледзьве не за далягляд. Мы марылі, што калі-небудзь у гэты дзень зьбярэмся менавіта за такім сталом.

Ляхоўскі — спачатку супрацоўнік «Беларускай Энцыкляпэдыі», затым часопісу «Спадчына», акадэмічнага Інстытуту гісторыі, Нацыянальнага архіву — меў бездакорную рэпутацыю знаўцы ня толькі Слуцкай вайны пад сьцягамі БНР супроць бальшавікоў, але і цэлага шэрагу ключавых падзеяў і зьяваў «свайго» пэрыяду. Пра што б ён ні пісаў: пра дзейнасьць беларускіх моладзевых арганізацый стагодзьдзе таму (кніга «Ад гоманаўцаў да гайсакоў» атрымала прэмію Францішка Багушэвіча нашага ПЭНу) або Рыскую дамову 1921 году, пра дзеячаў нацыянальна-вызвольнага руху, ураджэнцаў Беласточчыны, або самагубства Ўсевалада Ігнатоўскага, — заўсёды здавалася, што Ляхоўскі быў сучасьнікам



і нават відавочцам. Нібыта ён учора сядзеў з Іванам Луцкевічам за кавай у віленскім «Чырвоным Штралі» ці сустрэў першага прэзыдэнта Акадэміі навук Ігнатоўскага ў Аляксандраўскім сквэры акурат пасьля допыту ў ОГПУ.

Народжаны праз сто гадоў пасьля вызвольнага паўстаньня 1863 году, Уладзімер не хаваў, што на ягоны выбар прафэсіі і пэрыяду дасьледаваньняў паўплываў лёс і каліноўцаў, і ўласных продкаў.

Ягоны бацька паходзіў з заможнага сялянскага роду, які бальшавікі раскулачылі і выслалі на расейскую Поўнач. Выжылі ня ўсе, але франтавіку Віктару Ляхоўскаму пашчасьціла вярнуцца ў Беларусь. Пра высылку ў сям'і маўчалі нават пасьля бацькавай сьмерці. Ляхоўскі-малодшы даведаўся пра тое толькі ў гады перабудовы. (Мне вядомы гэты страх: што мая мама Марыя была ў часе вайны вывезеная ў Нямеччыну, я таксама дазнаўся адно пасьля яе сыходу ў нябыт.)

За рэдкую эрудыцыю і нязьменную грамадзянскую пазыцыю Ўладзімера любілі ягоныя студэнты з факультэту міжнародных дачыненьняў БДУ. Веру, што яны ведаюць, якім чынам найлепей ушанаваць ягоную памяць.

Сто гадоў назад Ляхоўскі мог быць сярод стваральнікаў БНР і герояў Слуцкага паўстаньня. Цяпер ён папоўніў іхнія шэрагі ў «Імёнах Свабоды».

**Уладзімер Ляхоўскі**

5.2.1964, Менск — 7.9.2021, Менск.

Пахаваны на менскіх Чыжоўскіх могілках.

На календары быў пачатак 1980-х. Мы, удзельнікі нарады гэтак званай творчай моладзі (такія імпрэзы ладзіліся пад эгідаю камсамолу) сядзелі за вечаровым сталом, на якім няўхільна расла колькасьць пустых пляшак з-пад грузінскага і, як мы жартавалі, вельмі эратычнага віна «Эрэці», бо пры тагачаснай савецкай нэндзе нічога прыстойнейшага ў навакольлі адшукаць было немагчыма. Рэй вёў мастак, які тады атрымаў нейкую абласную прэмію і таму злавіў кураж. «Задрал ты нас, Володя, своей беларускай мовай!» — раптам абвясьціў ён. Застоліца прыціхла, а мастак, відавочна, падрыхтаваўся на гэтым не спыняцца. «Вот, скажем, ваш кастрычнік — это от какого слова?» Ён склаў нажніцамі два пальцы і зрабіў некалькі шматзначных рухаў. Маладыя творцы засьмяяліся. Я падумаў, што застануся ў адзіноце, ды на другім канцы стала хлапец, які на нарадзе чытаў расейскамоўныя вершы, па-беларуску прамовіў: «А вы ведаеце, як нашыя бабулі рабілі льняное палатно? Можа, ня будзем адрывацца ад каранёў?» Сьмех прыціх. «Ещё один», — няпэўна сказаў нейкі камсамольскі сакратар, які спотайку раз-пораз наліваў сабе ў шклянку штосьці з схаванай у дыплямаце пляшкі.

# Кастусь Севярынец



Так я пазнаёміўся з Кастусём Севярынцам.

Назаўтра да сьцяны ў залі нашых паседжаньняў прыляпілі зробленую мастакамі насьценгазэту. На ёй мы з Кастусём, пусьціўшы ў зямлю вузлаватыя карані, незварушна стаялі побач, а вакол нас кружлялі легкакрылыя птушкі з тварамі іншых удзельнікаў нарады.

Мы ня сталі блізкімі сябрамі, але надалей заўсёды адчувалі прысутнасьць адзін аднаго ў гэтым сьвеце. Пры канцы васьмідзясятых гадоў Кастусь, у тыя часы карэспандэнт ТАСС-БелТА, востра і з прыцэлам на будучыню пісаў у рэспубліканскай і віцебскай абласной прэсе. Ён дапамагаў у пасьпяховым урэшце змаганьні грамадзкасьці супроць будаўніцтва Віцебскай АЭС. Быў сярод тых, хто ў 1990-м падтрымліваў дэмакратычных кандыдатаў на выбарах у Вярхоўны Савет Беларусі. Ня страціла высокага градусу публіцыстыка Кастуся Севярынца і ў часы незалежнасьці, якая ўрэчаісьнілася зусім не такою, пра якую мы летуцелі.

Сустракаючы ў друку, а затым у сеціве Кастусёвы вершы, я цешыўся іхняй іроніяй, філязафічнасьцю, сьветлінёю і аптымізмам. Ён выдаў некалькі паэтычных кніг. Ягоны талент быў адзначаны міжнароднымі ўзнагародамі, у тым ліку прэміяй расейскамоўнага часопісу «FloriДа». Але найлепей, на маю думку, атрымліваліся ў яго дзіцячыя вершы. Пачытайце створаную супольна з мастачкай Сьвятланай Баранкоўскай першую беларускую азбуку для iPad.

Кастусь разам з жонкай і аднадуміцай Тацянай выхаваў вядомага ў Беларусі і сьвеце палітыка і таленавітага літаратара Паўла Севярынца. Без бацькоўскіх грамадзянскіх і сьветапоглядных урокаў Беларусь ня мела б і адметнай пісьменьніцы, літаратуразнавіцы і пэдагога Ганны Севярынец.

У адным з апошніх вершаў, прачытаных мною перад тым, як каронавірус абарваў жыцьцё Кастуся, ён напісаў: *Ты — беларус. / Не супакойся! / Ня вер і не прасі. / Ня бойся!*

**Кастусь Севярынец**
4.9.1952, в. Унорыца, Рэчыцкі раён — 1.10.2021, Віцебск.
Пахаваны ў в. Унорыца.

Мы сядзелі з Чэславам у ягонай варшаўскай кватэры на правабярэжжы Віслы пры па-беларуску шчодрым стале і падымалі келіхі за нядаўняе завяршэньне галоўнай перакладчыцкай працы гаспадара. Пераўвасабленьню «Новай зямлі» для польскага чытача (натхняльнікам гэтага гераічнага чыну быў Янка Брыль) Сенюх аддаў цэлае дзесяцігодзьдзе — з 1991 да 2001-га.

Ён дасьціпна і хвостка апавядаў пра расейскі пераклад Сяргея Гарадзецкага, дзе зьнікалі нават не асобныя радкі, а цэлыя фрагмэнты, якія, маўляў, былі б не зразумелыя тамтэйшаму чытачу. Нечага не

## Чэслаў Сенюх



разумеў, відаць, сам перакладчык, а нечага — ягоныя ідэалягічныя куратары. Ну як гэта просты дарэвалюцыйны беларускі лясьнік мае некалькі кароў, дзьве цялушкі, бычка, коней, а яшчэ сьвіней і курэй? Непарадак! Беларус ва ўяўленьні «старшего брата» мусіў быць, напэўна, вечна галодным.

Чэслаў падчапіў на відэлец круглячок духмянай пханай пальцам каўбаскі і па памяці прадэклямаваў коласаўскі разьдзел пра Вялікдзень:

*Ляжала шынка, як кадушка, / Румяна-белая пампушка, / Чырвона зьверху, сакаўная... / Між сьцёган, сала і грудзінак / Красуе ўсмажаны падсьвінак, / Чысьцюткі, сьвежы і румяны, / Як бы паніч той надзіманы. / Муштарда, хрэн — адно дзяржыся, / У рот паложыш — сьцеражыся! / А пірагі, як сонца, зьзялі, / І ў роце бабкі раставалі...*

Ён прапанаваў знайсьці гэтую амаль раблезіянскую карціну ў расейскай вэрсіі й, весела падміргнуўшы, пачаставаў яшчэ адной цытатаю: *Яичко матушка несёт...*

Народжаны ў беларускай сялянскай сям'і ў Любчы, Чэслаў пазьней, выбіраючы псэўданім, далучыць назву малой радзімы да свайго імя. Бацькі пераехалі ў знакамітае сваім замкам заходнебеларускае мястэчка ў 1920-я з Кіева. Ратаваліся ад бальшавікоў. Але, калі прыйшлі першыя, перадваенныя «саветы», дзесяцігадовы Чэсік роспачна спрабаваў адбараніць татку ад узброеных людзей, якія называлі Сенюха-старэйшага «врагом народа», а малодшага — «гадёнышем».

Бацька памёр у турэмным лягеры пад Навасібірскам, а маці з сынам пераехалі па вайне ў Польшчу. Там Чэслаў скончыў філялёгію ў Варшаве.

Ён дасканала валодаў некалькімі славянскімі мовамі, але самай важнай у перакладчыцкай дзейнасьці лічыў беларускую. Дзякуючы Сенюху да палякаў прыйшлі Караткевічаў «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і быкаўскія «Аблава» і «На Чорных лядах», «Споведзь» Ларысы Геніюш, паэмы і вершы Янкі Купалы, Максіма Танка, Рыгора Барадуліна, Уладзімера Някляева... Менавіта ён першы пераклаў на польскую маё эсэ «Незалежнасьць — гэта...». З канца 1980-х Чэслаў са старонак прэсы ў Польшчы і Беларусі зьвяртаўся да чытачоў і як публіцыст, нязьменна праводзячы думку, што дзьве паяднаныя гістарычным лёсам краіны непазьбежна сустрэнуцца ў агульнаэўрапейскай будучыні.

Калі мы адзначалі 80-годзьдзе Акту 25 сакавіка, Сенюх апублікаваў заяву з просьбаю лічыць яго грамадзянінам БНР.

Ён марыў пабачыць адрэстаўраваным Любчанскі замак.

**Чэслаў Сенюх**
9.7.1930, Любча, цяпер Наваградзкі раён —
8.10.2021, Варшава.
Пахаваны на варшаўскіх Брудноўскіх могілках.

# Антось Фурс

Для мяне ён заўсёды, ад самага знаёмства напрыканцы 1980-х, быў дзядзькам Антосем, асобаю з кагорты тых беларусаў, якія не скарыліся сталінскай тыраніі й праз усе выпрабаваньні пранесьлі веру ў незалежнасьць, у вольную Айчыну, дзе адчуваеш сябе сваім чалавекам на сваёй зямлі.

У 1944-м ён, сямнаццацігадовы юнак, паступіў пасьля адыходу нямецкіх акупантаў у Глыбоцкую пэдагагічную вучэльню. Хацеў зрабіцца настаўнікам, каб выхоўваць дзяцей у павазе да роднага слова, нацыянальнай гісторыі, да сваіх, а не накінутых пад прымусам сьвятаў і герояў. Летуценьні разьбіліся аб рэальнасьць: бальшыня прадметаў у пэдвучэльні выкладалася па-расейску, прысланыя з усходу настаўнікі сьцьвярджалі, што гісторыя Беларусі пачалася з 1917 году, з пагардай выказваліся пра беларускую мову.

Антось зь сябрамі адказалі стварэньнем Саюзу беларускіх патрыётаў. Фурс быў адным з тых, хто напісаў праграму і статут арганізацыі. 25 сакавіка 1946 году яны зладзілі ўрачыстую прысягу. Патрыёты мелі на мэце супрацьстаяць русіфікацыі й усялякімі сродкамі прапагандаваць незалежніцкія ідэі. Яны пастанавілі паўсюль і заўжды гаварыць па-беларуску, трымацца беларускіх традыцыяў, абуджаць у нашых людзях пачуцьцё нацыянальнай годнасьці. Неўзабаве глыбачане аб'ядналіся з пастаўскімі аднадумцамі з суполкі «За Беларусь!».

Дзейнасьць СБП працягвалася паўтара году. Украінёны ў арганізацыю правакатар здабыў сьпісы ўдзельнікаў, пагатоў тыя былі зусім неспрактыкаваныя канспіратары. З улікам тагачаснага скасаваньня ў СССР сьмяротнага пакараньня Фурс атрымаў 25 гадоў зьняволеньня. Да такога ж тэрміну была прысуджаная Алеся Ўмпіровіч з пастаўскай філіі СБП, будучая жонка дзядзькі Антося.



Ён браў удзел у вядомым паўстаньні вязьняў Карлягу: «Мы патрабавалі сярод іншага, каб нам вярнулі імёны і прозьвішчы, бо замест іх да нас зьвярталіся па нумары...» Ім вярнулі імёны, але на радзіме былыя сябры СБП лічыліся «нядобранадзейнымі». Сапраўднае вяртаньне ў Беларусь адбылося толькі ў 1982 годзе. Пазьней Фурс напіша: «Мы ня мелі маладосьці — яна была расьпятая на лягерным дроце. Але мы засталіся людзьмі тады, калі большасьць сьпявала хвалу тырану».

Антось стаў сябрам Грамады і ТБМ, напісаў успаміны. Разам з Алесяй яны ўжо ў новыя часы, можна сказаць, выконвалі колішнюю праграму СБП. Не спыніліся і тады, калі маятнік найноўшай беларускай гісторыі кіўнуўся ў адваротны бок і ў краіне зноў пачалі зьяўляцца палітвязьні.

Ня толькі ў Беларусі добра вядомае імя сына Фурсаў — Юрыя, геніяльнага каваля, стваральніка адной з найлепшых беларускіх аграсядзібаў.

На дзясятым дзясятку Антось працягваў сачыць за навінамі, рыбаліць, сустракаць гасьцей. Дазваляў сабе чарачку свойскай «фурсоўкі». Казаў, што хоча перасягнуць Барыса Кіта, які пражыў 107 гадоў. Ня дзеля таго, каб пабіць рэкорд, а каб убачыць Беларусь сваёй мары.

Улетку 2019-га мне выпаў гонар уручыць Антосю Фурсу мэдаль «100 гадоў БНР».

**Антось Фурс**
30.4.1927, в. Язна, цяпер Мёрскі раён —
19.10.2021, Паставы.
Пахаваны ў Паставах.

Празь няпоўны год пасьля нараджэньня Юркі ягонага бацьку засудзілі паводле артыкулу 58 Крымінальнага кодэксу СССР, за «контрарэвалюцыйную дзейнасьць». Спадар Васіль у вайну зьбег зь нямецкага палону і на волі далучыўся да Беларускай незалежніцкай партыі.

Юры лічыў, што ягоныя характар і сьветаўспрыманьне склаліся менавіта пад «змрочную музыку» дзяцінства. Але ў ёй прабівалася і мэлёдыя, што спакваля прадвызначала лёс: у вёсцы, дзе хлопчык бавіў кожнае лета, размаўлялі выключна па-беларуску. Адсюль нарадзілася прыхільнасьць да беларускіх кніжак, а пазьней, калі прыйшло жаданьне пісаць самому, ваганьняў — на якой мове? — ня ўзьнікла.

# Юры Станкевіч



У няпоўныя пятнаццаць ён пайшоў працаваць: цесьляром, бляхаром і... наладчыкам піяніна, бо меў абсалютны слых. Пасьля нялёгкага дня кіраваўся на ўрокі ў вечаровую школу. Тады ж здолеў надрукаваць у раёнцы першае апавяданьне. Аднак на наступныя спробы прыходзілі стандартныя адказы-прысуды: «ачарненьне нашай рэчаіснасьці». (Згадваецца, як я выслухаў некалі ад рэдактара «Маладосьці» Анатоля Грачанікава тыраду пра тое, што засеў у паўпадвальным памяшканьні і разглядаю пляўкі і недакуркі на ходніку.)

На журфаку БДУ Юры вучыўся зь Ёсіфам Сярэдзічам. Будучы рэдактар «Народнай волі» запомніўся як старанны і занадта дысцыплінаваны студэнт. Станкевіч не асабліва вызначаўся такімі якасьцямі.

У выніку атрымаў накіраваньне не ў сталічную «Сельскую газэту», як Ёсіф, а ў барысаўскую «Камуністычную працу». Але літаратурны талент браў сваё, і Юры, пераехаўшы ў Менск, стаў супрацоўнікам «Маладосьці» на чале з новым рэдактарам Генрыхам Далідовічам, які не збаяўся апублікаваць «Споведзь» Ларысы Геніюш. Праўда, часы ўжо былі іншыя.

Потым мы зь Юрыем працавалі ў абноўленай «Крыніцы», дзе сапраўды панаваў вольны творчы дух. Побач былі Уладзімер Някляеў, Валянцін Акудовіч, Алесь Разанаў, Леанід Галубовіч, Алесь Асташонак... Для канфідэнцыйных размоваў, каб дзяліцца сваімі фобіямі і заўсёды, як у Васіля Быкава, пэсымістычнымі прагнозамі, Станкевіч чамусьці выбраў мяне, і мы нахадзілі зь ім вакол рэдакцыі не адзін дзясятак кілямэтраў. Ягонае бачаньне Беларусі ў будучыні ўсёй цывілізацыі пачало праз колькі гадоў урэчаісьнівацца, а затым сталіся яваю (улучна з чумой XXI стагодзьдзя, што і забрала жыцьцё пісьменьніка) і тыя Юравы відзежы, якія я для сябе называў апакаліптычнымі.

Ягоная проза часта шакавала ўжо назвамі («Апладненьне ёлупа», «П’яўкі») і нязьменна выклікала жорсткія дыскусіі, дзе гучалі як самыя ўзьнёслыя ацэнкі, так і абвінавачваньні ў разнастайных «ізмах». У адным з інтэрвію Станкевіч зазначыў, што праз такія «ўкусы» праходзілі і Люі Фэрдынанд Сэлін, і Мішэль Уэльбэк, і набэліст Джон Кутзээ, «што ж да мяне, то я прапаведую толькі нацыянальную ідэю».

Самым значным з створанага Юрыем я па-ранейшаму лічу бязьлітасны раман «Любіць ноч — права пацукоў». Вы чыталі яго?

**Юры Станкевіч**
**(ад нараджэньня Георгі Харытановіч).**
21.1.1945, Барысаў — 22.10.2021, Барысаў.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

Аляксандар меў талент: мог націснуць нейкую патаемную клявішу твайго вельмі асабістага кампутара, пасьля чаго ўзьнікаў глыбокі давер да суразмоўцы, і зь сьпіжарні памяці адгукаліся, здавалася б, незваротна задаўненыя і забытыя імёны й падзеі.

Аднаго разу Аляксандар пачаў размову з пытаньня пра маю першую прачытаную кніжку, пра першую кніжку па-беларуску, пра бібліятэку, куды я запісаўся, навучыўшыся чытаць. Заведзеная ім машына часу перанесла мяне ў драўляны дамок тагачаснай Полацкай раённай дзіцячай бібліятэкі, дзе я зноў адчуў непаўторны водар мноства кніг, наступіў на «музычную» масьнічыну каля паліцы з казкамі, дакрануўся да абцёрханага карэньчыка важкага тому братоў Грымаў. Ланцужок успамінаў раскручваўся далей, і я распавёў свайму ўважліваму слухачу, як марыў прачытаць «Рабінзона Круза», як аднойчы нарэшце ўбачыў кнігу на паліцы, расчаравана зьдзівіўся, што яна такая тонкая, і толькі дома агледзеўся, што ў хапошчах узяў хрушчоўскую агітацыйную брашурку «Рабінзон кукуруза».

# Аляксандар Коктыш

Тое інтэрвію мела неспадзяваны працяг. На абвешчаную там прэзэнтацыю маёй «Краіны Беларусі» прыйшла срэбравалосая жанчына, якая папрасіла слова і сказала, што гэта яна была «маёй» бібліятэкаркай і што памятае нумар майго чытацкага абанэмэнту. Яна пералічвала кнігі, якія туды запісвала, згадала ў дэталях і анэкдатычную гісторыю з «Рабінзонам», якога я здаў назад у той самы дзень, а яна назаўтра напавер выдала мне сапраўднага «Круза» з уласнай бібліятэкі.

Пасьля публікацыі бліскуча падрыхтаваных Коктышавых інтэрвію (іх ніколі ня трэба было і вычытваць) здараліся й іншыя прыгоды, зьяўляліся ня толькі сябры, але й ворагі, што таксама сьведчыла: журналіст зь літаратарам не забівалі цьвікі ў вату.



Калегі, якія працавалі з Коктышам у «Зьвязьдзе», а потым у «Свободных новостях», у газэце «Труд» у Беларусі», дзе ён быў намесьнікам галоўнага рэдактара, памятаюць, як часта Аляксандар паўтараў, наколькі важна ў журналістыцы не спакусіцца і не прадаць свайго імя.

Ён умеў бачыць сьвет ня чорна-белым, а ў самых розных адценьнях. У сваім нарысе «Дзяды» ён распавёў пра дзеда Бронюся — «кулака» і верніка-каталіка, і пра дзеда Аляксандра — перакананага камуніста, атэіста, першага ганаровага грамадзяніна Ляхавічаў. У першага на пачэсным месцы ў хаце стаяў Новы Запавет і віселі зробленыя «за польскім часам» здымкі, у другога кватэра была поўная «грамадзка-палітычнай» літаратуры, сшыткаў з цытатамі і здымкаў савецкіх артыстаў. Першы хваліў унука за беларускую мову, другі хацеў, каб Саша меў «чисто русское произношение». Але Коктыш зусім ня быў упэўнены, што дзед Аляксандар «гнуў бы лукавую генэральную лінію цяперашніх уладаў», а дзед Бронюсь знайшоў бы на гарышчы польскую кавалерыйскую дзіду і пайшоў бы ваяваць за справядлівасьць супроць мясцовых «беспредельщиков».

Да самога сябе ў Коктыша такіх пытаньняў ніколі не паўставала.

**Аляксандар Коктыш**
19.4.1967, Ляхавічы — 25.10.2021, Менск.
Пахаваны ў Ляхавічах.

Памятаю, як напрыканцы мінулага стагодзьдзя ў пятнічных нумарах газэт, дзе друкавалася тэлепраграма на тыдзень, я найперш шукаў адну і тую ж перадачу, час якой абавязкова абводзіў асадкаю. Упэўнены, што гэтак сама рабілі многія.

Сярод большасьці іншых, казённа-банальных назваў перадача называлася неспадзявана сьвежа: «Відзьмо-невідзьмо». Але, вядома, рэч была ня проста ў назьве. За ёю гледача штораз чакаў цэлы каскад навін і ўражаньняў зь сьвету кіно, музыкі і наогул сучаснага мастацтва, цікавы відэашэраг, выкшталцоная эрудыцыя і бліскучая, багатая, я сказаў бы, барвяністая беларуская мова вядоўцы.

## Сяргей Філімонаў



Вядоўцу і аўтара праграмы, выпускніка гістарычнага факультэту БДУ, звалі Сяргей Філімонаў. Заўсёды дасьведчаны, стылёвы, гарэзьліва-іранічны, а часам і хуліганісты, ён ня толькі стварыў зь «Відзьмо-невідзьмо» сапраўдны компас у сваёй улюбёнай сфэры. Ён фармаваў густ цэлага пакаленьня.

Сяргея пазнавалі на вуліцы і ў мэтро, яму дзякавалі, дасылалі заяўкі. Ягоная культавая праграма давала спадзеў на нараджэньне новага, якаснага і сапраўды нацыянальнага тэлебачаньня незалежнай эўрапейскай краіны.

Сытуацыя на Беларускім тэлебачаньні, як і ўва ўсёй краіне, склалася іначай. «Відзьмо-невідзьмо» з пасьпяховага, адзначанага ўзнагародамі праекту, не губляючы папулярнасьці ў публікі, хутка трапіла на падазрэньне начальству (прапагандуе «амэрыканшчыну», чужы нам лад жыцьця) і пачало адсоўвацца

ў тэлепраграмах на той час, калі перадачу маглі паглядзець перад выхадам на свае рызыкоўныя прагулянкі хіба што адны самнамбулы. Затым Філімонава зь ягоным «дзіцем» вымусілі вандраваць з каналу на канал. У перадачы не было палітыкі, але жыла, пульсавала свабодная думка свабоднай асобы. Каб трапіць у няміласьць, гэтага было цалкам дастаткова.

Але Сяргей, як і ягонае незабыўнае «Вітаю, шаноўнае спадарства!», усе гэтыя трыццаць гадоў заставаўся ранейшы. Як на экране, так і ў жыцьці. Быў непаўторным апавядальнікам пра псыхадэлічны рок і ўласныя прыгоды, захапляўся ёгай, ведаў вядзьмарскія рытуалы і чакры, мог пачаставаць смачнай вячэрай альбо затэлефанаваць знаёмаму: «Уключай тэлевізар! Гоняць клясны фільм. Дарэчы, пірацкая копія».

Вядомы журналіст, прадусар, рэдактар папулярнага парталу «Тузін гітоў» Сяргей Будкін згадвае, як аднойчы, школьнікам, у даінтэрнэтавую эпоху ён уключыў тэлевізар, і «прыемны чалавек зь мяккім голасам прадставіў «Love Is All Around» — душэўны твор гурта «Wet Wet Wet». Магчыма, з гэтага ўсё і пачалося. Ня толькі ў Будкіна.

У сьветапоглядзе Сяргея Філімонава чуме XXI стагодзьдзя месца проста не знаходзілася. Каронавірус адпомсьціў.

**Сяргей Філімонаў**
5.10.1959, Менск — 16.11.2021, Менск.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

Прачытаўшы калісьці даўно, яшчэ ў мінулым стагодзьдзі, эсэ «Мой радавод да пятага калена» і даведаўшыся, што сярод продкаў аўтара былі цыганы, Раман пры чарговай сустрэчы — з сваім хітраватым незабыўным прымружжам — папрасіў: «Называй мяне Ромам. Магчыма, і ў маіх бабуляў таксама здараліся прыгоды...»

Пасьля гэтага Ромам я называў яго безьліч разоў — то на кніжных прэзэнтацыях, то на дыпляматычных прыёмах, то на вулічных акцыях, дзе Якаўлеўскі абавязкова паблісквáў аднекуль сваімі вачымасьвярдзёлкамі.

## Раман Якаўлеўскі



Ён быў у Беларусі карэспандэнтам аднаго зь першых незалежных расейскіх інфармацыйных агенцтваў «PF. Постфактум». У 1991 годзе, у дні жнівеньскага путчу, дзякуючы Якаўлеўскаму зь Менску ішла самая апэратыўная інфармацыя.

«19 жніўня. Менск, Беларусь. У 10:00 распачалося паседжаньне парлямэнцкай апазыцыі, якая заклікала не падпарадкоўвацца ўказам ГКЧП і зьвярнулася да вайскоўцаў і супрацоўнікаў Міністэрства ўнутраных справаў і КДБ з заклікам захоўваць вернасьць Канстытуцыі.

Уначы кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту, Менскі гарсавет, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Аб’яднаная дэмакратычная партыя Беларусі, Менскі страйкам прынялі заяву, у якой назвалі падзеі ў Маскве «антыканстытуцыйным захопам улады хунтай і падтрымалі заклік Барыса Ельцына пачаць бестэрміновы страйк».

Гэта цытаты з Раманавых рэпартажаў, якія ў тым самым годзе ўвайшлі ў выпушчаную маскоўскім выдавецтвам «Прогресс» кнігу «Путч. Хроника тревожных дней».

А ў дзень майго нараджэньня, 25 жніўня, мы абдымаліся зь Якаўлеўскім на плошчы перад Домам ураду: Беларусь стала незалежнай, і цыганы, галёкаў Рома, мусяць гэта неадкладна адзначыць, тым больш, што нарадзіліся абодва пад знакам Дзевы і ў год сьмерці «правадыра народаў».

Раман Якаўлеўскі выступаў з камэнтарамі на Радыё Свабода, быў заўсёды запатрабаваным аглядальнікам беларускіх і замежных мэдыяў, сярод якіх «Белорусская деловая газета», «Белорусы и рынок», агенцтва Delfi. Ён спэцыялізаваўся ў міжнароднай палітыцы і дыпляматыі, валодаў морам інфармацыі, што, як ня раз сумна прызнаваўся, не давала падставаў для аптымізму. У такія хвіліны дапамагалі анэкдоты, якія Рома мог распавядаць, здаецца, сотнямі, але ня памятаю, каб хоць раз сарваўся ў пошласьць.

Падчас нашай апошняй сустрэчы Рома папрасіў: «Падаруй пераклад «Краіны Беларусь» нямецкаму амбасадару». Я падараваў. Тэлефон Якаўлеўскага ўжо маўчаў: ён быў на апараце штучнай вэнтыляцыі лёгкіх.

«Для мяне галоўнае ў ім — дабрыня. Надзвычай глыбокае слова, дзе — цэлы канцэпт годнага жыцьця. Добрасардэчнасьць. Добрасумленнасьць. Добрасуседзтва. У ім было ўсё, адсюль і такі боль, эмацыйны абвал душы. Бывай, чалавек Дабра», — сказаў на разьвітаньні з Ромам журналіст і сябар Аляксандар Уліцёнак.

**Раман Якаўлеўскі**
14.9.1953, Менск — 27.11.2021, Менск.
Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

Генадзь, якога праз бездакорную нямецкую мову часта прымалі за немца, у сваёй перакладчыцкай і журналісцкай біяграфіі сустракаўся з Ангелай Мэркель і сынхронна перакладаў яе для гасьцей зь Беларусі. Пасьля гэтага праляцела чутка, што знакамітая палітычная дзяячка і Кесьнер ледзьве не сваякі, бо маці канцлеркі мела такое самае прозьвішча. Генадзь не пагаджаўся: адной літараю прозьвішчы ўсё ж нібыта адрозьніваліся. У гэтым таксама выяўляўся характар.

## Генадзь Кесьнер



У 1990-м, калі па-над савецкай імпэрыяй дзьмуў вецер пераменаў, студэнт Менскага інстытуту замежных моваў Генадзь Кесьнер разам з студэнткай таго інстытуту Вольгай Калацкай, будучай вядомаю перакладчыцай, ачоліў моладзевую суполку, якая падтрымала выкладчыкаў у імкненьні зьмяніць рэктарку Ніну Краснову. Тая ня проста прымудрылася дваццаць гадоў займаць пасаду, не валодаючы ніводнай замежнай моваю, але насуперак новаму часу праводзіла палітыку «закручваньня гаек». Студэнты выправіліся ў Маскву, у рэдакцыю тыднёвіка «Собеседник», адкуль прывезьлі ў інстытут яшчэ маладога, але ўжо з гучным імем публіцыста Дзьмітрыя Быкава. Артыкул у маскоўскай прэсе зрабіў сваю справу, і на зьмену адпраўленай на пэнсію кіраўнічцы быў дэмакратычна, на альтэрнатыўнай аснове абраны новы рэктар Уладзімер Макараў.

Тым самым годам пазначаны прыход Генадзя на

працу ў дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобылю». У адной з замежных фондаўскіх паездак Кесьнер пазнаёміўся з тагачаснай галоўнай рэдактаркаю «Беларускай маладзёжнай» Жаннай Літвіной ды іншымі супрацоўнікамі радыёстанцыі, што перажывала тады зорны час. Генадзя запрасілі туды на міжнародныя навіны. Ён працаваў у кампаніі прафэсіяналаў, імёны якіх увайшлі ў гісторыю незалежнай айчыннай журналістыкі: Іна Студзінская, Тацяна Мельнічук, Алена Радкевіч, Вольга Бабак, Зьміцер Лукашук... Гукарэжысэрамі былі Зьміцер Новікаў, Уладзімер Сакульскі. Пасьля закрыцьця радыёстанцыі перад першымі прэзыдэнцкімі выбарамі частка той бліскучай каманды (Генадзь, памятаю, называў яе «нашым суквецьцем») стварыла незабыўнае для многіх «Радыё 101,2 FM». Да суквецьця далучыліся Вольга Караткевіч, Вальжына Гардзейчык, Юрась Бушлякоў.

Той нядоўгі час (бо праз год ужо новая ўлада закрыла і гэтую радыёстанцыю) Генадзь успамінаў з асаблівымі пачуцьцямі. Нават ня самыя прыемныя эпізоды — калі пад ім зламаўся фатэль і ён ляснуўся тварам аб стол, выдаўшы ў жывы эфір малацэнзурную тыраду, альбо калі ў навагоднюю ноч напярэдадні году Пацука перад уключаным Генадзевым мікрафонам бегаў па стале таемна прынесены сябрам-жартаўнікам рэальны ручны пацук, — ён распавядаў зь неверагоднай цеплынёю і павільгатнелымі вачыма.

Апошнім Генадзевым месцам працы была газэта «Новы час». У астатнім інтэрвію ён не задаваў пытаньняў, а пісьмова адказваў на іх рэдактарцы Аксане Колб. Адказваў на шпітальным ложку з кіслароднай трубкаю ў горле.

Інтэрвію засталося незавершанае.

**Генадзь Кесьнер**
11.5.1971, Менск — 2.12.2021, Менск.
Пахаваны на менскіх Заходніх могілках.

# Васіль Шаранговіч



Мы нярэдка сядзелі за агульным бяседным сталом: Шаранговічы сябравалі зь сям'ёю Чарняўскіх, а знакаміты археоляг Міхась Чарняўскі некалі назаўсёды ўвёў мяне, зусім юнага студэнта, у сваё дарослае беларускае кола. Шаранговіч зазвычай выконваў ролю маршалка, і калі ягоная велічная постаць уздымалася над стальніцаю, я згадваў аповеды спадара Васіля пра бацьку-каваля, сілаю, адвагай і спрытам якога ён ганарыўся.

Адзін з такіх аповедаў, а ўадначас і першы ўспамін з маленства быў пра тое, як чацьверты год малога Васіля ледзьве ня стаў апошнім. Яны з бацькам ішлі праз поле, і тут зьнізіўся і пачаў страляць па іх нямецкі самалёт. Бацька здолеў дабегчы з сыночкам да канавы і зьліцца зь зямлёю. Немец пакружляў і адляцеў, а малому было шкада, што дзівосная жалезная птушка зьнікла ў небе.

Я мог бы скласьці з аповедаў дзядзькі Васіля цэлую анталёгію. У школе Шаранговіч зьдзіўляў фэнамэнальнай памяцьцю: не зазіраючы на старонкі, цытаваў цэлыя кнігі, да прыкладу, усю коласаўскую «Новую зямлю». У юнацтве падзарабляў у Тэатры опэры і балету артыстам у масавых сцэнах: танчыў, біўся на шпагах, а калі аднойчы выцягваў са сцэны «забітага» героя — знакамітага тэнара, той ціха лаяўся матам, бо маладзён-магут так увайшоў у ролю, што мала не адарваў маэстру руку. Выдатна гуляў у шахматы і ў пэрспэктыве цягнуў на гросмайстра, але абраў мастацтва і аднаго разу пусьціў шах-

матную дошку па Сьвіслачы, даўшы зарок аніколі не дакранацца да шахматных фігураў.

І гэта невялікая частка гісторыяў толькі з гадоў студэнцтва. А вучыўся Васіль у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце, дзе пазьней быў рэктарам і адкуль мусіў сысьці, застаўшыся ў гісторыі навучальнай установы апошнім абраным, а не прызначаным кіраўніком. Потым болей за дзесяць гадоў ён узначальваў Музэй сучаснага выяўленчага мастацтва.

Але паклікаканьнем Васіля Шаранговіча была кніжная і станковая графіка. Ён уражваў разнаітасьцю тэхнік, дакладнасьцю малюнку, глыбінёю вобразаў, сымболікай і мэтафарычнасьцю, нязьменна зьвязанымі з нацыянальнай мастацкай традыцыяй. Шмат у каго зь беларускіх чытачоў праілюстраваныя Шаранговічам кнігі могуць заняць цэлую паліцу. Дый якія гэта будуць кнігі! Збор твораў Багдановіча, «Паэмы» і «Адвечная песьня» Купалы, «Старыя беларускія хронікі» Караткевіча, «Пан Тадэвуш» Міцкевіча...

Спадар Васіль прызнаваўся, што стварэньне ілюстрацыяў да клясыкі часам настолькі выснажвала, што патрэбны быў адмысловы адпачынак. Тады дапамагалі вандроўкі ва ўлюбёную Вільню.

Ён не хаваў, што ў свой час быў перакананым антысаветчыкам, але не падтрымліваў рэвалюцыйных мэтадаў змаганьня: маўляў, у беларускіх умовах рабіць стаўку трэба на эвалюцыю.

Побач заўсёды была жонка Галіна, якая пакінула добрую памяць у выдавецтве «Мастацкая літаратура», дзе доўгія гады працавала. Калі каронавірус забраў у Галіны жыцьцё, Васіль заставаўся на гэтым сьвеце ўсяго адзін дзень.

**Васіль Шаранговіч**
14.1.1939, в. Качаны, цяпер Мядзельскі раён —
31.12.2021, Менск.
Пахаваны на менскіх Усходніх могілках.

Спадар Адам — самае, на маю думку, яскравае ўвасабленьне энцыкляпэдыста-гуманітарыя ўва ўсёй беларускай гісторыі — быў нават не чалавекам-інстытутам, а чалавекам-акадэміяй. Тое, што яго так і не абралі акадэмікам, — нязмыўная ганьба Акадэміі навук, дзе гэтае званьне атрымлівалі асобы, чый даробак у гуманітарныя навукі ў параўнаньні з Мальдзісавым прыводзіў на памяць Гулівэра ў краіне ліліпутаў.

Адзін з асілкаў нашага Адраджэньня XX стагодзьдзя, стваральнік і кіраўнік Скарынаўскага навуковаасьветнага цэнтру, нацыянальнай камісіі «Вяртаньне»,

# Адам Мальдзіс



Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, прыйшоў на сьвет на беларуска-літоўскім памежжы і стаўся яшчэ адным увасабленьнем — нашага этнагенэзу, у якім непарыўна зьнітаваныя балцкая і славянская галіны (дзяды яшчэ гаварылі па-літоўску, бацькі ўжо па-беларуску).

Сэнсам ягонага жыцьця быў апантаны пошук, які даваў неверагодны плён. Каб назваць кнігі Адама Мальдзіса, мне ня трэба падыходзіць да паліцы: яны ўплывалі на сьветапогляд (хіба толькі мой!), падказвалі тэмы і герояў аповесьцяў і апавяданьняў, давалі прыклад нястомнасьці і веры ў сваю справу. «Таямніцы старажытных сховішчаў», якімі я зачытваўся студэнтам. Настольная ў свой час, цікавейшая за таленавіты дэтэктыў кніга «Шляхі вялі празь Беларусь», створаная ў суаўтарстве з Валянцінам Грыцкевічам. Сьпярэшчаны алоўкам том «Як жылі нашы продкі ў XVIII стагодзьдзі», які ў мяне (зусім не без карысьці

для прыгожага пісьменства) зачытаў адзін вядомы пісьменьнік. «Белорусские сокровища за рубежом» і «Соотечественники: очерки о белорусах и уроженцах Беларуси, обогативших мировую культуру»... Сьпіс можа расьцягнуцца ледзь не на старонку.

Асобнае месца ў гэтай бібліяграфіі займае «Жыцьцё і ўзьнясеньне Ўладзімера Караткевіча: партрэт пісьменьніка і чалавека». Наш клясык і апостал нацыі быў найбліжэйшым сябрам Мальдзіса. Некалі яны разам паехалі ў дарагую для кожнага зь іх Вільню, пазнаёміліся там з архівістам Генадзем Кісялёвым, публікацыямі якога пра Кастуся Каліноўскага захапляліся, і ўрэшце перацягнулі выпускніка славутага Маскоўскага гістарычна-архіўнага інстытуту ў Менск, што ўзбагаціла айчынную культуру проста дыямэнтавым россыпам знаходак і кніг.

Мальдзіс быў з тых, хто ствараў новую Беларусь, а таму меў шматлікіх ворагаў. Для іх само існаваньне нашай незалежнай краіны і яе эўрапейскай культуры выглядала казусам, які трэба як найхутчэй выправіць. Таму быў зьнішчаны Скарынаўскі цэнтар, які мог бы пры іншых умовах ператварыцца ў Беларускі інстытут зь філіямі ў розных краінах сьвету. Спадара Адама звольнілі з працы, потым яго жорстка і прафэсійна зьбілі на вуліцы людзі ў чорным.

Ужо змагаючыся зь цяжкай хваробаю, Мальдзіс марыў пра новыя навуковыя падарожжы па сьлядах Францішка Скарыны: у Данію, Польшчу, Італію. Хацеў наведаць Вэнэцыю і яе архівы, бо Падуя ў скарынаўскія часы ўваходзіла ў Вэнэцыянскую рэспубліку.

Усё ягонае жыцьцё мне ўяўляецца запаветам, як берагчы Беларусь.

**Адам Мальдзіс**
7.8.1932, в. Расолы, Астравецкі раён — 3.1.2022, Менск.
Пахаваны ў в. Задворнікі, Астравецкі раён.

## Эрнст Сабіла

Вязень пасьпеў па змайстраванай употай лесьвічцы пераадолець першы лягерны плот з калючкай і ўсутыч наблізіцца да другога, як па-над зонай разьлегся з вышкі крык вартавога: «Стой! Страляць буду!» Уцякач вокамгненна ўскараскаўся на другую перашкоду па дарозе на волю, але тут лесьвічка-ратавальніца зламалася, і ён, ранячы рукі, павіс на самым версе. На вышцы мітусіўся вертухай. Наструнены слых уцекача злавіў шчаўчок аўтаматнай асечкі, потым, ужо па той блок плоту, да вуха даляцеў яшчэ адзін такі самы выратавальны шчаўчок. Але тут азваўся вертухаеўскі карабін. Кулі лёталі зусім побач, аднак толькі ўздымалі пад нагамі пыл. І праз шмат гадоў Эрнст Сабіла згадваў: як куля недалёка, яна ляціць са сьвістам, а калі зусім блізка — увушшу нібыта раскат грому.

Праз некалькі дзён ён трапіў у аблаву, і канваір з сабакам зьдзіўлена распавёў закаванаму ў кайданы вязьню, што з вышкі пасылаў наўздагон яму кулі найлепшы стралок дывізіёну, які, лічылася, мог здалёк трапіць нават у муху. «Ты ведаеш, што такое Божая рука?» — запытаў у адказ падканвойны.

Гэтыя ўцёкі былі ў яго не адзіныя. Аднойчы пашчасьціла падыхаць вольным паветрам, прайшоўшы тайгою пад тысячу кілямэтраў. Ізноў быў схоплены, але адразу пачаў рыхтавацца да новай спробы здабыць свабоду.

У 1930-я «нядобранадзейную» сям’ю Сабілаў перасялілі з памежнага Менскага раёну пад Бабруйск. Калі Эрнст заканчваў сярэднюю школу, на яго завялі першую крымінальную справу — за спробу стварыць арганізацыю, якая змагалася б за нацыянальныя, рэлігійныя і сацыяльныя правы беларусаў. Улетку 1951 году замест вакацыяў студэнта Менскага мэдычнага інстытуту Сабілу напаткаў арышт за «актыўную антысавецкую агітацыю з выкарыстань-



нем нацыяналістычных і рэлігійных забабонаў». Падчас сьледзтва яму два месяцы не давалі ні на хвіліну заснуць: дзённыя допыты зьмяняліся начнымі, прычым хоць ненадоўга прысесьці зьняволенаму забаранялася.

Дзевятнаццацігадовага вязьня засудзілі на расстрэл, які быў заменены 25-гадовым тэрмінам. Рэабілітавалі і вызвалілі яго ў 1956-м, у тую нібыта «адлігу», але праз некалькі месяцаў — новы арышт і васьмігадовае пазбаўленьне волі. У мардоўскіх лягерах ён пабачыўся зь іншымі пакутнікамі-беларусамі, нікога зь якіх каты зламаць ня здолелі: Цімохам Вострыкавым, Браніславам Ржэўскім, пляменьнікамі Якуба Коласа — Міхасём і Лявонам Белымі. Агулам за свае перакананьні і непахісную веру ў Бога Эрнст Сабіла правёў за кратамі і калючым дротам трынаццаць гадоў.

У 1988 годзе ён стаў пастарам беларускамоўнай Эвангельскай царквы (далучыўся да вернікаў-пратэстантаў яшчэ падлеткам). Праз год асьвячаў Устаноўчы зьезд БНФ у Вільні. Да самага скону на 90-м годзе жыцьця будаваў царкву ў Асіповічах.

На ганаровым месцы ў доме захоўваў свой мэдаль «100 гадоў БНР». У апошнія хвіліны маліўся за Беларусь.

**Эрнст Сабіла**
18.3.1932, в. Дзегцяроўка, Менскі раён —
5.2.2022, Менск.
Пахаваны ў в. Дзегцяроўка.

Апошні раз мы нечакана спаткаліся ў знакамітых Сынковічах, а дакладней, у самой царкве Сьвятога Арханёла Міхаіла. Пэрліна нацыянальнай готыкі раскашавала ў вясновым сонцы, суладна сьпяваў хор, думалася пра тых, хто бываў у гэтых сьценах, пачынаючы зь вялікага князя Вітаўта і гетмана Канстанціна Астроскага.

Вядома, прыяжджала сюды зь недалёкай Зэльвы і Ларыса Геніюш.

Валянціна пацікавілася, куды я зь сябрамі кіруюся далей. Мы ехалі якраз у Зэльву — да дому паэткі й няскоранай грамадзянкі БНР, да помніку на царкоўным цьвінтары, да надмагільля, на якое некалі разам зьбіралі грошы. Высьветлілася, што мая суразмоўніца толькі што адтуль.

## Валянціна Лебедзева

Непазьбежна згадалі яшчэ адну грамадзянку Беларускай Народнай Рэспублікі, міністарку ў яе першым урадзе — Палуту Бадунову. Дасьледаваньнем яе жыцьцёвага шляху Валянціна займалася не адзін год. Плёнам сталіся шматлікія артыкулы і кніга «Пуцявінамі змаганьня і пакутаў», выпушчаная ў сьвет выдавецтвам «Тэхналёгія» ў сэрыі «Нашы славутыя землякі». Да 100-годзьдзя БНР Лебедзева выдала новую кнігу «Пакліканая свабодай: нарыс жыцьця і дзейнасьці Палуты Бадуновай», дзе зьмясьцілася мноства адшуканых фактаў і была адноўленая гісторыя пакутніцкай сьмерці гераіні.

Чатыры дзесяцігодзьдзі Валянціна Лебедзева (дарэчы, сябра рэдакцыі «Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі») аддала выкладаньню ў сваёй alma mater — Гомельскім унівэрсытэце імя Францішка Скарыны. Сфэраю яе навуковых зацікаўленьняў былі нацыянальны рух і культура Беларусі, гісторыя роднага Гомелю на памежжы дзяржаваў у 1917—1918 гадах.

Менавіта Лебедзева стала арганізатаркаю і ду-



шой шматгадовых Міжнародных Доўнараўскіх чытаньняў. Ужо напрыканцы жыцьця яна пасьпела патрымаць у руках сваю доўгачаканую буйную працу, прысьвечаную аднаму з заснавальнікаў нацыянальнай гістарыяграфіі, — зборнік «Мітрафан Доўнар-Запольскі (1868–1934 гг.). Асоба ў дакумэнтах і ўспамінах».

Яна, «чалавек з агністымі вачыма», як называлі яе калегі, была адметная і незьнішчальным пачуцьцём гумару. Гумар, сказала яна неяк у размове, выдатны спосаб абясшкодзіць рэчаіснасьць, калі яна хоча на нас абрынуцца. А яшчэ гумар здольны сьцьвердзіць перавагу асобы над тым, што зь ёю адбываецца.

Але рэчаіснасьці апошніх гадоў Валянціна Лебедзева процістаяла ня толькі гумарам, але і мужнымі выступамі ў абарону нацыянальнай сымболікі, супроць «ідэалягічнага» рэдагаваньня гістарычнай навукі, у падтрымку рэпрэсаваных калегаў.

Ужо на Божай пасьцелі яна пісала мне, што перадусім клапоціцца, каб яе ўнукам засталіся ў падарунак прыгожыя і таленавітыя беларускія кнігі, найперш па нацыянальнай гісторыі, бо гісторыя — гэта плоць самога часу.

**Валянціна Лебедзева**
10.3.1955, Гомель — 8.2.2022, Гомель.
Пахаваная ў в. Ларышчава, Добрускі раён.

Ён умеў рабіць неверагоднае.

Калега і паплечнік Паўла ў адраджэньні незалежнага беларускага друку Сяргей Дубавец згадваў, як увесну 1990-га зноў і зноў прыяжджаў з Жуком на ягоным «Запарожцы» ў прыморскае латыскае мястэчка Лімбажы. Іх сустракаў яшчэ недэмантаваны помнік Леніну, які, прадчуваючы ўласны лёс, асуджана глядзеў на нацыянальныя сьцягі над кожным навакольным домам. У тамтэйшай кавярні налівалі добрае піва і частавалі стравамі ўжо без прысмаку савецкага «общепиту». Але пачостка пасьля доўгай дарогі адкладалася напазьней. «Запарожац» спыняўся каля арандаванай на ноч невялічкай мясцовай друкарні. На досьвітку ад яе ўжо ад'яжджаў на Менск грузавік з 45-тысячным накладам газэты «Свабода».

## Павал Жук



У сакавіку таго самага году Павал разам зь Сяргеем Дубаўцом і Алесем Гурковым выдалі праваобраз «Свабоды» — прымеркаваны да ўгодкаў абвяшчэньня незалежнасьці БНР «Дзень Волі — 90». Якраз там упершыню пабачыла сьвет маё эсэ «Незалежнасьць — гэта...».

«Дзень Волі», як і першыя нумары «Свабоды», друкаваўся яшчэ на рызографе ў Інстытуце фізыкі Акадэміі навук Літвы. Там, сярод выдаўцоў з розных рэспублік пакуль што існага СССР, Жука высока цанілі ня толькі за дасьціпныя показкі, але найперш за імкненьне ўсяляк сьцьвярджаць гонар і годнасьць беларусаў і Беларусі — экскурсамі ў гісторыю, аповедамі пра ахвярную незалежніцкую моладзь, урэшце, проста прачытаным па-беларуску

вершам і пытаньнем: «А вы ведаеце, якое месца па мілагучнасьці займае нашая мова?»

Павал Жук меў зусім не гуманітарную адукацыю — скончыў фізычны факультэт БДУ, але ў сярэдзіне 1980-х ён падтрымаў Алеся Бяляцкага ды іншых заснавальнікаў Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Калі Алесь стаў дырэктарам Музэю Максіма Багдановіча, менавіта там газэта «Свабода» (наклад аднаго яе нумару дасягаў 100 тысяч асобнікаў) мела юрыдычны адрас.

Павал прычыніўся таксама да выданьня «Навінаў БНФ» і адраджэньня «Нашай Нівы» (першы нумар выйшаў у ягоных родных Баранавічах), прычым заўсёды прымудраўся знаходзіць друкарні, нават пры самых неспрыяльных абставінах. «Свабода» прыйшла да чытачоў і ў дні путчу 1991-га. Газэта выходзіла да 1997 году, а неўзабаве пасьля закрыцьця ўладамі адрадзілася пад назовам «Навіны». Выдаўцом заставаўся Павал Жук.

Ён любіў дарыць кнігі. Цяжка падлічыць, колькі аўтографаў я даў на просьбу Паўла на сваіх «Краіне Беларусі», «Вялікім Княстве Літоўскім», «Айчыне». Калі «Краіна» выйшла па-ангельску, Жук прыехаў да мяне зь некалькімі пакункамі кніг.

Ён умеў атрымліваць ад жыцьця маленькія і вялікія радасьці. Зь ім не бывала сумна ні ў вандроўцы, ні ў бяседзе. За месяц да сыходу Павал быў на паляваньні і захоплена апавядаў мне пра таямніцы зімовага лесу.

У нечым сапраўды трошкі падобны да жука — імпэтны, імклівы, лятучы, — ён казаў, што з тых жукоў, якіх ня зловіш. Да астатніх дзён не даваў сябе злавіць страшнай хуткацечнай хваробе. Цяпер будзе лётаць у нашай памяці.

**Павал Жук**

3.3.1956, Баранавічы — 15.2.2022, Менск.

Пахаваны ў в. Вуглата, Асіповіцкі раён.

Пры канцы 1980-х маскоўскае выдавецтва «Молодая гвардия» прапанавала мне выдаць кнігу прозы, парадаваўшы, што ўжо маюць добрага перакладчыка. Як дасканала той перакладчык валодаў беларускай моваю, ператвараючы «лёс» у «лес», «абраз» у «оскорбление», а «фіранкі» — чамусьці ў «простыни», я даведаўся крыху пазьней (усе «пераклады» давялося нанова перапісваць самому).

Але напачатку «маладагвардзейцы» папрасілі, каб я сам парупіўся аб прадмове да кнігі. Маўляў, адзін з мэтраў беларускай літаратуры, да якога яны зьвярнуліся, прадмову напісаў, але потым нечакана яе адклікаў. Я затэлефанаваў іншаму мэтру, потым другому і трэцяму, але першы быў вельмі заняты, другі казаў штосьці няпэўнае, а трэці таксама адмовіўся, але прыадкрыў карты: у цябе там нейкая справа з самвыдатам, і няхай яна спачатку «ўляжацца».

## Альбіна Сямёнава



Урэшце цёплае ўступнае слова напісала рэдактарка аддзелу крытыкі і бібліяграфіі часопісу «Нёман» Альбіна Сямёнава, якая ўжо адгукалася прыхільнымі рэцэнзіямі на мае першыя празаічныя зборнікі. Кніга «Пока горит свеча» (мы са спадарыняй Альбінай уволю пасьмяяліся зь бясконцых пэрлаў у дасланым на аўтарызацыю тэксьце) пасьпяхова выйшла, і я падпісаў асобнік ня толькі Сямёнавай, але, на яе параду, і аўтару адкліканай першай прадмовы.

Друкаваныя і вусныя, але нязьменна ўважлівыя, патрабавальныя і дасьціпныя водгукі Альбіны

Іванаўны ці не на кожную маю публікацыю грэлі душу праз усё шматгадовае знаёмства.

Менавіта Сямёнава зьвяла мяне зь Міхасём Стральцовым, які стаў грамадзкім рэдактарам маёй першай кнігі. Гэта дапамагло кнізе, няхай і празь некалькі гадоў, вярнуцца ў выдавецкі плян «Мастацкай літаратуры», адкуль яе выкрасьлілі пасьля майго выступу на пахаваньні Ларысы Геніюш.

Стральцову, зь якім спадарыня Альбіна мела раскошу доўгага сяброўства, яна прысьвяціла эсэ «Бэзавы попел» — на маю думку, найлепшае з усяго напісанага пра нашага клясыка.

Кнігі яе эсэ, «літаратурных вэрсіяў паводле рэальнага, ірэальнага, дамысьленнага» — «Сьвятло загадкі», «Таямніцы пакутны колер», «Перад геніем лёсу», «Імпрэсіі і адлюстраваньні», што выходзілі ў 1990-я і на пачатку XXI стагодзьдзя (часам за кошт аўтаркі) захаплялі рэдкай эрудыцыяй, глыбінёй і тонкасьцю адчуваньня прыгожага пісьменства і наогул прыгажосьці і, я сказаў бы, нязводнай сьветлынёй. Памятаю, як я, прачытаўшы эсэ пра яе родны Навагрудак (туды сям'я Альбіны вярнулася з Расеі пасьля Другой усясьветнай вайны), нанова адкрываў для сябе гэты горад «рыцараў і паэтаў», яе Sanctum Sanctorum.

Мы пісалі адно аднаму традыцыйныя лісты, якія знаходзілі ў паштовых скрынках. Спадарыня Альбіна мела дарагую для мяне, гісторыка, што некалькі сэмэстраў вывучаў лаціну, схільнасьць: аздабляць тэксты клясычнымі лацінскімі афарызмамі.

Адзін з апошніх лістоў сканчваўся словамі: «Sursum corda!» — «Вышэй сэрцы!».

**Альбіна (Ала) Сямёнава**
9.8.1938, с. Бальшарэцкае, Бальшарэцкі раён,
Камчацкая вобласьць, Расея — 18.2.2022, Менск.
Пахаваная на могілках у пас. Калодзішчы, Менскі раён.

# Аляксандар Тамковіч



У вандроўках па мясьцінах славутых бітваў і перамогаў нашых продкаў — ваяроў Вялікага Княства Літоўскага — я прыехаў у старажытны Хацін, што цяпер у Чарнавіцкай вобласьці Ўкраіны. Пад Хацінам у 1621 годзе вялікі гетман Ян Караль Хадкевіч з дапамогаю казакоў-запарожцаў перамог велізарнае войска турэцкага султана Асмана II, што намерваўся разграміць Рэч Паспалітую і выйсьці да Балтыкі.

Уяўляючы, як пад восеньскімі дажджамі тут паныла стаялі над Днястром схуднелыя і зьмерзлыя турэцкія сланы, як у стане янычараў высьпявала змова з мэтаю забіць Асмана, што неўзабаве пасьля паразы і было зроблена, думаючы пра лёсы заваёўнікаў-імпэрцаў розных часоў, я наблізіўся да брамы пагрозьлівага і сёньня Хацінскага замку. У наступную хвілю я напачатку ня даў веры вачам. Я чуў, што тут здымалі савецкіх «Д'Артаньяна і трох мушкетэраў», але, калі б з замкавай брамы насустрач мне выйшаў Міхаіл Баярскі, што выконваў у фільме галоўную ролю, я зьдзівіўся б, напэўна, меней. Да мяне з распасьцёртымі абдымкамі ішоў вядомы беларускі журналіст Аляксандар Тамковіч.

Я ведаў, што нядаўна ён цяжка хварэў, атрымаў другую групу інваліднасьці, але ня здаўся і, насуперак прагнозам некаторых мэдыкаў, пайшоў на папраўку і спрабуе вярнуцца да працы. Зрэдзьчас мы бачыліся на літаратурных імпрэзах, і ўсе заўважалі, як цяжка Аляксандру даецца кожны крок. Але сустрэча тут, амаль за тысячу кілямэтраў ад Менску, сьведчыла, што мой даўні знаёмец ужо пакінуў хваробу ў мінулым.

«Давай вып'ем за нашую перамогу!» Аляксандар

дастаў з запазухі вайсковую біклажку, а я ўсьцешана падумаў, што ён мае на ўвазе і сваю асабістую перамогу.

Былы марак, а потым выпускнік факультэту журналістыкі Львоўскай вайскова-палітычнай вучэльні, ён на ўсё жыцьцё захаваў афіцэрскія звычкі і правілы. Але гэты афіцэр служыў Беларусі і яе незалежнасьці.

Пасьля путчу 1991 году Тамковіч на знак пратэсту звольніўся з газэты Беларускай вайсковай акругі «Во славу Родины» і з самой службы ў савецкай арміі, выйшаў з КПСС і стаў намесьнікам галоўнага рэдактара незалежнага выданьня «Свободные новости». Пазьней ён стварыў і ачоліў газэту «День», якую праз тры гады ўлады закрылі.

У гісторыі найноўшай Беларусі Аляксандар Тамковіч застанецца перадусім як аўтар цэлай бібліятэкі кніг пра нашых сучасьнікаў. Адна зь іх так і называецца: «Найноўшая гісторыя ў асобах». У маёй бібліятэцы побач стаяць «Супраць плыні», «Судьбы», «Будзіцелі», «Преодоление», «Інтэрвію, якіх не было», «Арытмія, альбо Код супрацiву», «Жыцьцё пасьля кратаў»... Кароткія папулярныя кніжкі Аляксандар пісаў і для сэрыі «100 выдатных дзеячаў». Не пасьпеў пабачыць надрукаванай сваю кнігу пра народную артыстку Беларусі Зінаіду Бандарэнку.

У памяці працягваюць гучаць ягоныя словы: «Давай вып’ем за нашую перамогу!» Абавязкова вып’ем. На жаль, ужо безь цябе.

**Аляксандар Тамковіч**
9.11.1963, Ашмяны — 4.3.2022, Менск.
Пахаваны на ашмянскіх Новых могілках.

Ягоная родная вёска Грынявічы на Гарадзеншчыне — недалёка ад Сьвіслачы, дзе ў славутай тамтэйшай гімназіі вучыліся Кастусь Каліноўскі і яшчэ адзін кіраўнік паўстаньня 1863 году Рамуальд Траўгут, мастакі Напалеон Орда і Януар Сухадольскі, пісьменьнік Юзаф Крашэўскі... Аднойчы ў размове са мной Яўген выказаў шкадаваньне, што не нарадзіўся гадоў на сто зь лішнім раней. Тады, маўляў, мог бы таксама трапіць у сузор'е будучых знакамітасьцяў. Альбо, сур'ёзна дадаў ён, пайсьці ў паўстаньне. А неяк заўважыў, што ягоная вёска называецца гэтак сама, як і тая, дзе правёў дзіцячыя гады беларус-народаволец Ігнат Грынявіцкі, што выканаў сьмяротны прысуд імпэратару Аляксандру II.

## Яўген Бяласін

Мяркую, за гэтымі словамі была ня толькі абазнанасьць у гісторыі.

Яўгена я бачыў у залі ці не на кожным сваім выступе ў Берасьці. Зрэшты, з кожным годам сустрэчы з чытачамі ладзіліся з усё большымі праблемамі, і нярэдка адбываліся не ў бібліятэках ці ўнівэрсытэцкіх аўдыторыях, а на прыватных сядзібах. Але Яўген і туды нязьменна знаходзіў дарогу. Ягонае заўсёды крыху адлучанае аблічча ня раз наводзіла мяне на думку, што Бяласін практыкуе правілы дзэн-будызму.

Магчыма, тут я памыляюся. Але не памыляюся ў тым, што самае нечаканае і глыбокае пытаньне на сустрэчы пачую якраз ад Яўгена. Аднаго разу ў доме сваіх берасьцейскіх прыхільнікаў я прачытаў верш «Калі каго-небудзь баісься». Гэты вэрлібр з парадамі, як не баяцца бяздушнага прафэсара ці бязьлітаснага рэдактара, міліцыянта з дручком ці мэдсястру зь вялікім шпрыцам, а нават самога прэзыдэнта, выклікаў у дзясяткаў двух прысутных вясёлы рогат, у якім амаль патануў апошні радок: *Але што рабіць, калі баісься самога сябе?* І тут прагучаў голас Бяласіна:



«Дык што ж мусім тады рабіць? Вашыя парады?»

Пасьля Менскага інстытуту замежных моваў Яўген дваццаць гадоў выкладаў германістыку ў Берасьцейскім дзяржаўным унівэрсытэце. Аднак тое, што ён ачоліў гарадзкую Раду БНФ і кіраваў філіяй Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтру, непазьбежна прывяло да палітычна матываванага звальненьня.

Яўген ня зьнік з нацыянальнага далягляду. Ён супрацоўнічаў зь незалежнымі газэтамі, найперш з «Брестским курьером» і «Новым часам», друкаваў эсэ, публіцыстычныя і літаратурна-крытычныя артыкулы. Выдаў некалькі сваіх кніг вершаў і прозы. І — таленавіта перакладаў зь нямецкай, ангельскай і польскай моваў. Дзякуючы яму па-беларуску загаварылі «Олівэр Твіст» Дыкенса і «Дыскамфорт ад культуры» Фройда. Высокім густам, выкшталцонасьцю радка вылучаліся пераклады Шылера, Гайнэ ды іншых нямецкіх клясыкаў. У выходных зьвестках кніг з сэрыі «Паэты плянэты» імя Яўгена натуральна ўспрымаецца побач з імёнамі такіх мэтраў мастацкага перакладу, як Юрка Гаўрук і Васіль Сёмуха.

Бяласін стаўся ахвяраю каронавірусу. «Мэдыцыну нашу не прабіць», — напісаў ён у апошнім лісьце ў «Новы час». Колькіх такіх ахвяраў можна было б пазьбегнуць, каб улады сапраўды займаліся лёсамі беларусаў і Беларусі!

**Яўген Бяласін**
9.6.1954, в. Грынявічы, Сьвіслацкі раён —
10.3.2022, Берасьце.
Пахаваны на берасьцейскіх Паўночных могілках.

У сям'і было васьмёра дзяцей: тры сястры і пяць братоў. Сярод іх — Нінел, які потым стаў знакамітым Нілам Гілевічам.

Мікола Сымонавіч усё жыцьцё быў крыху ў цені братавай славы, але здолеў зьдзейсьніцца і як таленавіты літаратар, і як журналіст.

Скараціўшы прозьвішча, ён узяў сабе прыгожы «птушыны» псэўданім. Гілямі шмат дзе ў Беларусі называюць сьнегіроў.

Больш за трыццаць пяць гадоў ён аддаў працы ў газэце «Літаратура і мастацтва». Менавіта Мікола Гіль, які тады быў намесьнікам рэдактара, падпісаў у друк той нумар, дзе 3 чэрвеня 1988 году зьявіўся векапомны артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога сьмерці». Артыкул, як сьведчыць Пазьняк, трапіў у рэдакцыю ў сярэдзіне траўня, і два з паловаю тыдні ішло змаганьне газэты за публікацыю. Яна выйшла, калі тагачасны галоўны рэдактар Анатоль Вярцінскі быў у замежнай выправе. Магчыма, кіраўніцтва газэты выкарыстала якраз гэтую сытуацыю, вывеўшы рэдактара з-пад удару з боку пільных куратараў. Але ў такім разе агонь выклікаў на сябе Мікола Гіль.

## Мікола Гіль



«Курапаты...» выбухнулі, як бомба. Той нумар «ЛіМу» перадавалі з рук у рукі, рабілі копіі на яшчэ рэдкіх у нашых шыротах ксэраксах, проста перадрукоўвалі на машынках. Ня будзе перабольшаньнем сказаць, што беларускае грамадзтва, даведаўшыся пра вусьцішныя падзеі ва ўрочышчы пад Менскам і, асабліва, пра іх маштаб, па-сапраўднаму ўскалыхнулася, а дакладней — скаланулася. Пагатоў,

амаль адразу ў Курапатах пачаліся афіцыйныя раскопкі, і дзяржаўная камісія паведаміла пра 30 тысяч расстраляных катамі ў форме НКВД, хоць насамрэч ахвяраў магло быць, як сьцьвярджалі археолягі, амаль у дзесяць разоў болей.

У 1990-м Вярцінскі быў абраны ў Вярхоўны Савет, і «ЛіМ», наклад якога сягаў 20 тысяч асобнікаў, узначаліў Гіль. Ягоны намесьнік у тыя часы Барыс Пятровіч (Сачанка) на маю просьбу ахарактарызаваць свайго рэдактара найперш сказаў пра Гілёвы ўменьне і мужнасьць браць адказнасьць на сябе. Відаць, шмат хто памятае вострую і дасьціпную лімаўскую рубрыку «Кола дзён», якую вёў сам Пятровіч і за якую Мікола Гіль пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 1994 году зноў і зноў атрымліваў «узнагароды» ад гаспадароў высокіх уладных кабінэтаў. Урэшце ўсё скончылася звальненьнем рэдактара і сыходам ягонага намесьніка.

Памятаю Гіля як бліскучага апавядальніка, якога, мімаходзь завітаўшы ў рэдакцыю, можна было нястомна слухаць гадзінамі. Дарэчы, пакуль у пакоі галоўнага рэдактара гаспадарыў Мікола Сымонавіч, газэта друкавала ўсё, што я туды прынёс ці прыслаў, а таксама радавала рэцэнзіямі на кожную маю кнігу.

Ён быў здатным празаікам і перакладчыкам (у прыватнасьці, пераўвасабляў па-беларуску кнігі Сьвятланы Алексіевіч), зрабіў літаратурны запіс для кнігі ўспамінаў палітыка Генадзя Карпенкі.

Шкада — здаецца, не пакінуў сваіх успамінаў, зь якіх мы даведаліся б у дэталях і пра тое, як прыйшла да чытачоў праўда пра Курапаты.

**Мікола Гіль (ад нараджэньня Гілевіч)**
15.6.1936, в. Слабада, Лагойскі раён — 14.3.2022, Менск.
Пахаваны на могілках каля в. Слабада паблізу Гайны, Лагойскі раён.

# Уладзімер Крукоўскі



Шукаю і не магу знайсьці сярод сваіх сяброў, калегаў і знаёмых чалавека, які вылучаўся б такім нязьменна абвостраным, а часам, я сказаў бы, наструненым пачуцьцём справядлівасьці, як Уладзімер Крукоўскі. Ён заўсёды ведаў, як зрабіць хутчэй, якасьней, таньней — выдаць кнігу, правесьці выставу, аформіць Чарнобыльскі шлях. Хоць гэтая ўпэўненасьць почасту выклікала не бяскрыўдныя канфлікты.

Нарадзіўшыся ў сям'і вайсковага будаўніка на Магілеўшчыне, дзяцінства Ўладзімер правёў у знакамітым мястэчку Ружаны на Берасьцейшчыне. Рызыкну сьцьвярджаць, што каб лінія жыцьця пралегла праз іншыя мясьціны, мы маглі б ня мець Крукоўскага — выбітнага мастака-плякатыста, глыбока дасьведчанага і захопленага геральдыста, суаўтара (зь Яўгенам Кулікам) эталёну дзяржаўнага гербу Пагоня, які аздобіў фасад Дому ўраду ў 1991 годзе.

Старадаўнія Ружаны, якія канцлер Леў Сапега зрабіў адной з рэзыдэнцыяў свайго роду, велічныя руіны магнацкага палацу, подых гісторыі ад іншых шматлікіх тады помнікаў старасьвеччыны — усё гэта фармавала сьветапогляд хлапчука. Хваляваў і натхняў Уладзімера і герб Ружанаў, нададзены мястэчку разам з магдэбурскім правам — «у срэбным полі вянок чырвоных ружаў, у цэнтры — постаць сьвятога Казімера з крыжам і лілеяй у руках». Ад мясцовага краязнаўцы дапытлівы юнак даведаўся і тое, што ў XVII стагодзьдзі, у часы «крывавага патопу», у Ружанскім палацы перахоўваліся ад захопнікаў мош-

чы адлюстраванага на гербе сьвятога — нябеснага заступніка Вялікага Княства Літоўскага.

Не, не выпадкова, скончыўшы школу з залатым мэдалём, Крукоўскі паступіў на архітэктурна-будаўнічы факультэт Беларускага політэхнічнага інстытуту, а пазьней скончыў мастацка-графічны факультэт у Віцебскім пэдагагічным.

Залатой парою для Крукоўскага стала праца ў 1970—1990-я гады мастацкім рэдактарам часопісаў «Маладосьць», «Мастацтва Беларусі», «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», «Спадчына». Разам з густоўным, заснаваным на нацыянальнай мастацкай традыцыі афармленьнем гэтых выданьняў Уладзімер Якаўлевіч нязьменна ўплываў на іх рэдакцыйную палітыку.

У той час Крукоўскі ўжо быў прызнаным у Беларусі і за мяжою плякатыстам. Думаю, шмат у каго ня сьцьмелі ў памяці ягоныя востра публіцыстычныя плякаты «Што ж мы за людзі?», «Білінгвізм», трыптых «Дзень Х». Вялікую сэрыю зь некалькіх дзясяткаў плякатаў ён прысьвяціў выдатным дзеячам нацыянальнай гісторыі і культуры.

Мне ня часта даводзілася стаяць у чарзе па кнігі. Адзін з такіх выпадкаў — чарга па кнігу Ўладзімера Крукоўскага «Срэбная страла ў чырвоным полі: з гісторыі беларускіх прыватных гербаў» (2010). Сваіх чытачоў хутка знайшла і ягоная наступная праца на гэтую тэму: «Сьмеласьць. Годнасьць. Гонар» (2013).

Ён нарадзіўся ў 1937-м, і пачасту казаў, што павінен жыць і працаваць і за тых, чыё жыцьцё абарвала тады куля сталінскага ката.

**Уладзімер Крукоўскі**
6.3.1937, Асіповічы — 3.4.2022, Менск.
Пахаваны на могілках у мяст. Краснае,
Маладэчанскі раён.

Пасьля майго выступу на пахаваньні Ларысы Геніюш у Саюз пісьменьнікаў прыйшла «рэкамэндацыя» выкрасьліць маю першую кнігу з пляну «Мастацкай літаратуры». Аднак зь Менску неўзабаве даляцела вестка, што галоўны рэдактар выдавецтва, прызнаны літаратуразнаўца Серафім Андраюк недзе ў вузкім коле сказаў, што кнігу Арлова ўсё адно трэба выпускаць.

Урэшце так і сталася. Мой першы зборнік прозы «Добры дзень, мая Шыпшына» пабачыў сьвет у 1986 годзе з прадмоваю вядомага крытыка Яўгена Лецкі, а на адгорце тытульнай старонкі значылася: адрэдагаваў на грамадзкіх пачатках Міхась Стральцоў. За ўсім гэтым маячыла постаць галоўнага рэдактара Андраюка, які і падпісаў кнігу ў друк з зусім немалым на той час для дэбютнага выданьня накладам тры з паловаю тысячы асобнікаў.

## Серафім Андраюк



Цалкам лягічна, што, уступаючы ў наш творчы саюз, я папрасіў у яго рэкамэндацыю, і спадар Серафім, адрозна ад некаторых абачлівых майстроў слова, не адмовіўся. Але на ўрачыстую вячэру з нагоды майго далучэньня да кагорты прафэсійных літаратараў у рэстаран «Сьвіцязь» ён прадбачліва не зьявіўся.

Адзін з маіх рэкамэндантаў, асоба ня толькі творчая, але і схільная да заўзятага шанаваньня Бахуса, падчас застоліцы абвясьціў, што больш не жадае існаваць ва ўмовах унутранай эміграцыі, і зь неспадзяваным для ягонага стану спрытам кінуўся да расчыне-

нага на высачыні вакна. Творцу ў астатні момант удалося ўратаваць, але наляцела міліцыя, і ўрачыстасьць давялося дачасна згарнуць.

Праз два гады я ўжо сам працаваў у «Мастацкай літаратуры», куды галоўны рэдактар Серафім Андраюк і дырэктар Валеры Грышановіч узялі мяне бязь менскай прапіскі. Адразу ж пасьля майго выступу на Дзядах-88 у выдавецтве аб'явіўся міліцыянт, які склаў пратакол за незаконнае пражываньне ў Менску і паабяцаў пасьля трэцяй такой паперыны забраць мяне ў турму альбо дэпартаваць на адрас, пазначаны ў пашпарце. Андраюк быў сярод тых, хто мяне «адбіў».

Ён прыйшоў на пасаду галоўнага рэдактара, калі дырэктарам «Мастацкай» працаваў легендарны ўжо Міхал Дубянецкі. Разам зь ім Андраюк абараніў тады аповесьць Васіля Быкава «Мёртвым не баліць», гэтаксама як давёў да чытача і цэлую бібліятэку іншых «падазроных», на думку партыйных цэрбэраў, твораў Уладзімера Караткевіча, Вячаслава Адамчыка, Аляксея Карпюка, Алеся Разанава... У 1993—1996 гадах Серафім Андраюк стаў дырэктарам нашага выдавецтва, якое ў тыя, ужо неспакойныя пасьля першых прэзыдэнцкіх выбараў часы выдала раман Кастуся Акулы «Змагарныя дарогі», распачало сэрыі «Галасы беларускага замежжа», «Літаратурныя помнікі Беларусі», «Сьвятыя зямлі Беларускай». З сыходам Андраюка на ўсіх гэтых праектах новае кіраўніцтва паставіла крыж.

Спадар Серафім пражыў яшчэ чвэрць стагодзьдзя і выдаў некалькі кніг, кожную зь якіх даслаў мне з аўтографам. І кнігі, і аўтографы сьведчылі, што ён застаўся такі, як у далёкім 1986-м.

**Серафім Андраюк**
10.3.1933, в. Градзялі, цяпер Бельскі павет,
Падляскае ваяводзтва, Польшча —
4.4.2022, Менск.

Аднойчы дзесьці на пачатку 1990-х я сустрэўся з спадаром Лявонам у менскай кавярні «Вясна» на тагачасным праспэкце Скарыны. Найбольш у той застоліцы мяне ўразіла ня так цудоўная беларуская мова чалавека, які пражыў усё сьвядомае жыцьцё за мяжой, а тое, што госьць з Францыі раптам папрасіў афіцыянтку прынесьці пакаштаваць усе наяўныя ў кавярні беларускія сыры. Францыя, як вядома, славутая сырамі, таму я наструніўся, чакаючы разьвязкі, наўрад ці прыемнай для гэтага айчыннага прадукту.

Дзяўчына ў белым хвартушку, відавочна зьбянтэжаная такой замоваю, надоўга зьнікла: найверагодней, была пасланая ў краму, але ўрэшце на нашым стале зьявілася талерка з тонкімі скрылікамі чатырох сырных гатункаў. «Вось гэта, здаецца, галяндзкі, — няўпэўнена адгукнулася афіцыянтка на Шыманцову просьбу назваць гатункі, — тут, памойму, пашахонскі, гэта вэнджаны каўбасны, а вось расейскі». Замоўца паморшчыўся (хіба нельга было даць беларускіх назваў?) і пачаў дэгустацыю. Яе вынік зьдзівіў мяне болей за саму замову. Спадар Лявон абвясьціў, што беларусы вырабляюць выдатныя сыры, якія можна экспартаваць у Францыю. Я асьцярожна пацікавіўся, ці ён не жартуе, і пачуў пацьверджаньне ўхвальнага вэрдыкту: пагатоў, вэнджаных сыроў кшталту нашага сьціплага каўбаснага французы нібыта ніколі і ня клалі на зуб.

## Лявон Шыманец



Бывае і такі беларускі патрыятызм, падумаў я, але

потым даведаўся ад агульных знаёмых, што Лявон Шыманец — насамрэч вялікі мілосьнік і знаўца сыроў, і словы ягоныя трэба ўспрымаць паважна.

Праўда, прыехаў ён тады ў Менск ня дзеля кантрактаў на экспарт сыроў, а з мэтаю дапамагчы маладой незалежнай дзяржаве ўкараніць перадавыя тэхналёгіі ў галіне энэргетыкі. Адмыслоўцы кажуць, што эўразьвязаўскі офіс Шыманца на вуліцы Раманаўская Слабада працаваў вельмі пасьпяхова, пакуль у Беларусі не зьмянілася ўлада. Разам з Алесем Асташонкам спадар Лявон быў сярод заснавальнікаў таварыства «Беларусь — Францыя».

У 1950-я гады ён атрымаў у Парыжы дыплём тэхнічнай школы, працаваў у авіяпрамысловасьці, ганарыўся патэнтамі на вынаходніцтвы. Адначасова ачольваў згуртаваньне беларусаў Францыі «Хаўрус», быў сябрам Рады БНР. З гумарам спадар Лявон згадваў, як у 1960-м ён разам з бацькам Уладзімерам, мастаком і колішнім міністрам фінансаў БНР, трапіў у аблаву на палітэмігрантаў з рэспублік СССР і апынуўся ў высылцы на Корсыцы. Так францускія ўлады рыхтаваліся да візыту Мікіты Хрушчова.

Спадар Лявон — родны брат Івонкі Сурвілы, Старшыні Рады БНР, бацька Вірджыніі Шыманец, якая выдала ў Францыі колькі кніг пра Беларусь і стала ініцыятаркаю культурніцкіх беларуска-францускіх ініцыятываў. З удзячнасьцю згадваюць Шыманца шмат якія нашыя мастакі, якім ён дапамагаў наладзіць выставы і побыт у Францыі.

«Нарадзіўся і памёр беларусам», — сказана пра яго ў адным з нэкралёгаў.

**Лявон Шыманец**
8.5.1937, Стоўпцы — 14.4.2022, Пуасі, Францыя.
Пахаваны ў Сэнт-Альбо-Айроль, рэгіён Авэрнь-Рона-Альпы, Францыя.

Ці памятаеце вы ранішнія чэргі каля газэтных шапікаў пры канцы 1980-х — на самым пачатку 1990-х? У Менску ў такіх чэргах, бывала, зьбіралася пад сотню ахвотнікаў набыць улюбёнае выданьне. У суботы шмат хто чакаў сустрэчы зь «ЛіМам».

«ЛіМ» незалежна і востра пісаў пра стан беларускай культуры і мовы, пра беларускамоўнае школьніцтва, зь якім у гарадах было пакончана ў час кіраваньня Машэрава, пра ахову гістарычных помнікаў і дзейнасьць моладзевых патрыятычных суполак. Газэта з нумару ў нумар вяртала імёны закатаваных і расстраляных, забароненых у гады сталінскай тыраніі гісторыкаў, літаратараў, мастакоў. Менавіта там прагучала праўда пра Курапаты.

## Анатоль Вярцінскі



«ЛіМ» ішоў у авангардзе нацыянальнага адраджэньня, якое няўхільна вяло да вяртаньня незалежнасьці.Наклад газэты складаў блізу 20 тысяч асобнікаў. Галоўным рэдактарам быў Вярцінскі.

Але яго я шанаваў перадусім як паэта.

І цяпер, яшчэ ад школьных гадоў, добра памятаю «Песьню пра хлеб» — паэму, што дала назоў першай паэтычнай кнізе Вярцінскага. Там узьнёсла апавядалася, як маці, з усімі ўрачыстымі прыгатаваньнямі і рытуаламі, пякла ў вясковай печы хлеб. Для мяне паэма была неверагодна асацыятыўнай: я яшчэ не забыўся ні водару, ні смаку такога самага, урачыста пакладзенага на ручнікі і накрытага таксама вышыванымі ручнікамі бабулінага хлеба, асабліва сьпечанага адмыслова для мяне маленькага бохана — падскробка.

У студэнцтве я адкрыў для сябе іншага Вярцін-

скага — паэта, заглыбленага ў вечныя тэмы: сэнсу чалавечага існаваньня, супрацьстаяньня дабра і зла, асобы і ўлады. У сьвядомасьць нібыта ўдрукоўваліся ягоныя афарыстычныя радкі: *Нярэдка яшчэ, ілюзіям верачы, прымаем за веліч мы манію велічы.*

Хваля распачатых Міхаілам Гарбачовым пераменаў занесла Вярцінскага ў палітыку: ён стаў дэпутатам Вярхоўнага Савету Беларусі гістарычнага 12-га скліканьня, намесьнікам старшыні пастаяннай Камісіі ў пытаньнях галоснасьці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, сябрам парлямэнцкай Канстытуцыйнай камісіі.

Ня здрадзіў сваім незалежніцкім дэмакратычным перакананьням Анатоль Ільліч і тады, калі час у Беларусі быў спынены, а затым павернуты назад. Аднак для мяне ён заставаўся паэтам, і ў памяці не прамовы на імпрэзах і мітынгах, а — вершы.

*Я фільм глядзеў.*
*Там — Спартака расьпялі.*
*Расьпялі ноччу,*
*калі ў Рыме спалі...*

*...Спартак, Спартак!*
*Героі ўсіх эпох!*
*Ці не такі ваш лёс быў у фінале?*
*Як нехта моцна спаў,*
*вас расьпіналі,*
*вы ціха на крыжы сваім каналі,*
*і білася жанчына каля ног.*

**Анатоль Вярцінскі**
18.11.1931, в. Дзямешкава, Лепельскі раён —
21.4.2022, Менск.
Пахаваны на менскіх Заходніх могілках.

Аднойчы я трапіў разам зь ім у беларускую дэлегацыю ў швэдзкім Гётэборгу. Тады і пазнаёміліся зблізку: гулялі па набярэжнай, размаўлялі пра беларускую гісторыю, якую ён добра ведаў. Станіслаў Станіслававіч ня толькі чытаў мае кнігі, але, паводле ягоных словаў, дзясяткі асобнікаў ілюстраванай гісторыі «Краіна Беларусь» у перакладах на ангельскую, нямецкую і расейскую мовы падараваў сябрам і калегам ад Паўднёвай Карэі да Лацінскай Амэрыкі.

Неяк увечары ён доўга моўчкі ўзіраўся ў далеч, дзе мора зьлівалася зь небам у агульную таямнічую прастору, і раптам прамовіў перафразаваны радок вядомага паэта: *Як многа пройдзена дарог...* Працягу не прагучала, але я падумаў, што наступны радок вершу спадар Станіслаў пакінуў бы нязьмененым.

# Станіслаў Шушкевіч



Ён быў сынам паэта Станіслава Пятровіча Шушкевіча, «ворага народу», які за сталінскім часам перажыў зьняволеньне, а потым, ужо ў пасьляваенныя гады, паўторны арышт і высылку. Маці, Гелена Раманоўская, таксама была літаратаркай, але пасьля таго, як кінулі ў турму мужа, мусіла спыніць творчую працу, пагатоў яна пісала па-польску і ўваходзіла ў адпаведную сэкцыю Саюзу пісьменьнікаў. Гэтыя акалічнасьці, як і шляхецкае паходжаньне, неаспрэчна паўплывалі на сьветапогляд Шушкевіча-малодшага.

Праз тры гады пасьля таго, як Сталін сканаў і дыхаць у савецкай «турме народаў» зрабілася крыху лягчэй, Станіслаў Станіслававіч скончыў БДУ, а Станіслаў Пятровіч змог вярнуцца ў Беларусь.

Шушкевіч-малодшы быў пасьпяховым вучоным, доктарам фізычна-матэматычных навук, ляўрэатам прэміяў саюзнага Саўміну і Дзяржаўнай прэміі яшчэ савецкай Беларусі, пазьней стаў сябрам-карэспандэнтам Нацыянальнай Акадэміі навук, дваццаць гадоў загадваў катэдрай ядравай фізыкі БДУ. Але, калі падзьмуў вецер пераменаў, ён рушыў у палітыку. Быў народным дэпутатам СССР і перамог на выбарах у Вярхоўны Савет Беларусі 12-га скліканьня, які пасьля правалу путчу 1991 году ўзначаліў.

Мільёны беларусаў (а яны штодня бачылі Шушкевіча ў тэлетрансьляцыях парлямэнцкіх сэсіяў) захапляліся ягонай адукаванасьцю і прыроджанай інтэлігентнасьцю, блізкім да эўрапейскіх палітыкаў стылем паводзінаў, незалежніцкімі перакананьнямі і беларусацэнтрычнасьцю. Сотні тысяч беларусаў, маючы за прыклад *самога* Шушкевіча, аддавалі дзяцей у беларускія школы.

Але ён зусім ня быў адназначнай асобаю і бездакорным палітыкам. Пра гэта ўжо існуюць і яшчэ напішуцца сотні старонак у кнігах і падручніках.

У 1992 годзе Шушкевіч не падтрымаў ініцыятыву БНФ, які сабраў больш за 440 тысяч подпісаў за рэфэрэндум аб датэрміновых парлямэнцкіх выбарах. Новы парлямэнт меў у той час усе шанцы стаць насамрэч дэмакратычным, і лёс Беларусі склаўся б інакш.

Але Станіслаў Шушкевіч назаўсёды застанецца ў айчыннай і ўсясьветнай гісторыі. Як першы кіраўнік незалежнай Беларусі. Як палітык, што паставіў свой гістарычны подпіс пад Белавескімі пагадненьнямі, якія спынілі існаваньне савецкай імпэрыі. У будучай Беларусі яму паставяць помнікі і назавуць ягоным імем вуліцы.

**Станіслаў Шушкевіч**
15.12.1934, Менск — 3.5.2022, Менск.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

## Янка Запруднік



У сярэдзіне 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя мы ехалі з спадаром Янкам зь Нью-Ёрку ў Кліўлэнд на традыцыйную штодвухгадовую сустрэчу беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Запруднік ня проста цудоўна стырнаваў, але ўсю дарогу быў для мяне ўважлівым і неверагодна дасьведчаным гідам.

Наперадзе была рака Саскуэгэна, і я ўжо ведаў, што яна самая доўгая сярод паўночнаамэрыканскіх рэк, якія ўліваюцца ў Атлянтычны акіян, што яе назва паходзіць ад імя індзейскага племя, цалкам вынішчанага дзьвесьце пяцьдзясят гадоў таму, высачэзны ж мост, куды мы ўжо заехалі, рамантуюць індзейцы зь іншага племені, гісторыя якога склалася больш памысна, прычым племя гэтае мае ўнікальную асаблівасьць — абсалютную адсутнасьць боязі вышыні, а таму, зірні: працуюць хлопцы без усякае страхоўкі.

Я падумаў тады, што вышыні, толькі ў іншым, мэтафарычным разуменьні гэтага панятку, ніколі не баяўся і мой спадарожнік.

Пасьля легендарнай ужо суполкі беларускіх студэнтаў Лювэнскага ўнівэрсытэту «Дванаццаткі» (праз шмат гадоў Запруднік прысьвяціў ёй аднайменную кнігу) ён стаў адным зь першых супрацоўнікаў Радыё Вызваленьне (пазьней Радыё Свабода) і шмат гадоў узначальваў яго нью-ёрскае бюро.

Ён стаў доктарам гістарычных навук і выкладаў гісторыю і сучасную палітыку Беларусі ў Калюмбійскім унівэрсытэце. Напісаў і выдаў цэлую палічку кніг, дзе дасьледаваў розныя пэрыяды нацыянальнай гісторыі. Сярод іх асабліваe месца займае «Belarus: At a Crossroads in History» (1993), рэдактарам беларускай

вэрсіі якой — «Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях» (1996) — мне выпаў гонар быць.

Пятнаццаць гадоў спадар Янка рэдагаваў газэту нашых амэрыканскіх суайчыньнікаў «Беларус».

Яго ведалі і як паэта Сяргея Ясеня, што ўжо на дзясятым дзясятку выдаў кнігу выбраных вершаў.

Сябра Рады БНР і Рады Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», ён быў адным з самых яскравых лідэраў беларускай эміграцыі і пры гэтым чалавекам заўсёды адкрытым для кантактаў, гатовым даць параду, адгукнуцца на новую беларускую кнігу, падтрымаць як мэцэнат культурніцкі праект.

У сваё дзевяноста ён глыбока ўразіў многіх вітальнай сілаю і аптымізмам, зьдзейсьніўшы вялікае падарожжа па Беларусі і прэзэнтаваўшы ў Менску новую кнігу. Ягоную прамову на той сустрэчы журналісты расьцягнулі на цытаты. Адну зь іх мой сябар выпісаў і прымацаваў над кампутарам: «Часта абставіны складаюцца так, што няма іншага выйсьця, як толькі быць аптымістам. Таму што альтэрнатывы няма. Альтэрнатыва на аптымізм — пэсымізм. Пэсымізм забівае запас чалавечых сіл, а аптымізм дапамагае. Гэта як у той показцы пра жабу: не хацела ўтапіцца ў масьлянцы, лопала-лопала лапамі і ўрэшце села на грудок масла».

Будзьма браць прыклад.

**Янка Запруднік (ад нараджэньня Сяргей Вільчыцкі)**
9.8.1926, Мір, цяпер Карэліцкі раён —
26.5.2022, Сомэрсэт, штат Нью-Джэрзі, США.
Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку,
штат Нью-Джэрзі.

Мы з Лукашам рабілі аўдыё- і відэазапісы маёй кнігі «Айчына: маляўнічая гісторыя». Асабліва важная для мяне была праца над другой часткаю — «Ад Агінскага да Багушэвіча», якая яшчэ не зьявілася ў папяровым фармаце. Працаваць з Лукашам — выдатным прафэсіяналам, чалавекам надзіва далікатным, чуйным да беларускага слова і чулым да настрою аўтара, — было надзвычай камфортна. Такі настрой меў велізарнае значэньне, бо якраз тады ў дадатак да навінаў зь Беларусі пачалася вайна ва Ўкраіне. За каваю ці гарбатаю, у перапынках, мы чыталі самыя сьвежыя зьвесткі адтуль і тагачасныя, пераважна змрочныя прагнозы на будучыню, якія мой суразмоўца зь мяккай усьмешкаю нязьменна камэнтаваў словамі пра тое, што прадказаньні і прагнозы існуюць менавіта на тое, каб не зьдзяйсьняцца.

## Лукаш Стэпанюк



Лукаш — дарма што меў атлетычны целасклад і штодня праяжджаў шмат кілямэтраў на ровары — меў, на жаль, цэлы букет хранічных хваробаў, таму завяршэньне запісу ў сядзібе Беларускага гістарычнага таварыства ў Беластоку мы адзначылі вельмі сьціпла: замест звону келіхаў захоплена разглядалі геніяльныя ілюстрацыі Паўла Татарнікава, якія мусілі аздобіць нашую супольную працу, адрасаваную перадусім беларускім дзецям і падлеткам. Стэпанюк, альбо проста Стэп, як яго звалі сябры, быў цалкам згодны са мной у тым, што мова і гістарычная памяць могуць абараніць межы дзяржавы ня горш за армію.

Апрача ўсяго Лукаш выявіўся маім даўнім чытачом і ўразіў тонкім разуменьнем і нечаканымі трактоўкамі

тэкстаў з выдадзенай у Польшчы дзьвюхмоўнай кнігі баладаў «Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань», дзе маім «суаўтарам» стаў выдатны паэт і перакладчык Багдан Задура. На прэзэнтацыі гэтае кнігі ў Беластоку, дзе ў залі былі пераважна незнаёмыя твары, часам здавалася, што я чытаю балады найперш Лукашу.

Ён тым часам рабіў мантаж «Айчыны», і ў бліжэйшую пятніцу мы дамовіліся прагледзець разам тры першыя аповеды.

Замест гэтага ў пятніцу мне затэлефанавалі: беларускае сэрца Лукаша спынілася, не пасьпеўшы адлічыць яму і 45 гадоў.

Гэта сталася вялікай стратаю для ўсёй беларускай супольнасьці ў Польшчы. Выпускнік Бельскага ліцэю зь беларускай мовай навучаньня імя Браніслава Тарашкевіча, Стэпанюк быў у свой час старшынём Беларускага аб'яднаньня студэнтаў, суарганізатарам фэстывалю музыкі маладой Беларусі «Басовішча», сябрам управы Фонду «Камунікат», што стварыў самую вялікую ў сьвеце электронную беларускую бібліятэку. Кіраўнік «Камунікату» Яраслаў Іванюк распавядаў, як Лукаш, калі не хапала грашовых сродкаў, працаваў задарма, «бо для Беларусі». Так здарылася, да прыкладу, калі Зінаіда Бандарэнка начытвала ўспаміны Ларысы Геніюш «Птушкі бяз гнёздаў».

Лукаша ведалі і любілі супрацоўнікі і слухачы Беларускага Радыё Рацыя, дзе ён быў музычным рэдактарам і гукарэжысэрам, аўтарам перадачаў «Сусьветны гіт» і «Шчасьлівая трынаццатка».

Нумар Стэпа дагэтуль у памяці майго тэлефона...

**Лукаш Стэпанюк**
3.10.1977, Бельск-Падляскі, цяпер Падляскае ваяводзтва, Польшча — 3.6.2022, Беласток, Польшча.
Пахаваны на старых праваслаўных могілках у Бельску-Падляскім.

Калісьці на пачатку незабыўных дзевяностых гадоў мінулага стагодзьдзя, у часы, калі нам мроіліся зусім іншая Беларусь і новы «залаты век» беларускай культуры, а літаратурных імпрэзаў самага рознага кшталту было, як жалудоў на дубе, я апынуўся сярод удзельнікаў паэтычнага фэсту пад вынаходлівым назовам — «Лепельскія алітэрацыі». Зь Менску прыехаў ледзь ня цэлы аўтобус сталічных літаратараў, рэй сярод якіх вялі сябры «Бум-Бам-Літу», знакамітай і самай гучнай у той час літаратурнай суполкі авангардыстаў, якая стварала ў краіне новы літаратурны і культурны кантэкст.

# Серж Мінскевіч




Падрыхтаваліся да фэсту і мясцовыя аматары літаратуры, у тым ліку такая іх адмысловая частка, як рэкетыры. Перад паэтычнай вечарынаю гасьцям быў выстаўлены ўльтыматум: альбо яны плацяць даніну ў беларускіх рублях ці валютным эквіваленце, альбо — аніякіх алітэрацыяў. (Заўважу, што гэты факт таксама сьведчыў аб прызнаньні белліту несумнеўнай каштоўнасьцю ў самых розных слаях нацыянальнага соцыюму.)

Вырваўшыся з рук бандзюганаў, на сцэну выбег ускудлачаны і расчырванелы бумбамлітавец Серж Мінскевіч, які зьвярнуўся да публікі з палымяным заклікам абараніць паэзію і паэтаў. Заля ўскалыхнулася, і вечарына была ўратаваная.

Серж атрымаў дыплём беларускага аддзяленьня філялёгіі БДУ, і факультэт можа ганарыцца такім выпускніком.

Мінскевіч быў у кагорце арганізатараў «Бум-Бам-Літу», з асяродку якога выйшлі пэрформэр-групы «Тэатар псыхічнае неўраўнаважанасьці», «Спэцбрыгада афрыканскіх братоў», літаратурная суполка «Schmerzwerk». У 1998 годзе выхадам калектыўнага зборніка «Тазік беларускі» распачалося выданьне кніжнай сэрыі «Бібліятэка Бум-Бам-Літу». Серж сярод тых, хто грукаў у гэты «тазік» ня толькі найбольш гучна, але і найбольш таленавіта. Цяпер тая зьява нашага літаратурнага руху дасьледаваная адразу ў некалькіх дысэртацыях.

Кандыдат філялягічных навук Мінскевіч стаў адным з заснавальнікаў і ідэолягаў Таварыства вольных літаратараў.

Сержа будуць памятаць як здольнага барда, аўтара вершаваных і празаічных казак. Сталіся папулярнымі ў юных чытачоў ягоныя творы ў жанры фэнтэзі: «Сад замкнёных гор», «Чароўная крыніца, ці Як навучыць дракона чысьціць зубы», «Усьмешка жалобнай каралевы, альбо Таямніца магнітнага замку».

Для мяне ж самая каштоўная частка Сержавай спадчыны — таленавітыя пераклады з польскай: найперш паэма Адама Міцкевіча «Дзяды» і ягоныя «Крымскія санэты». Мінскевіч ня раз казаў, наколькі блізкае яму сьветаўспрыманьне нашага славутага суайчыньніка. Гэта адмыслова выявілася ў Сержавай кнізе «Менскія / Мінскія санэты».

Серж пісаў і электронную інструмэнтальную музыку. Яна гучала на разьвітаньні зь ім, адметным творцам, што, як сам аднойчы прызнаўся, «працаваў для дарослых беларусаў і малых беларусікаў».

**Серж Мінскевіч (ад нараджэньня Сяргей Мыцько)**
12.2.1969, Менск — 8.6.2022, Менск.
Пахаваны на менскіх Лясных могілках.

Мы, беларусы, — а мэнталітэт, адрозна ад хваробы, пігулкамі ня вылекуеш, — скупаватыя на пахвалу, на гатовасьць адгукнуцца на посьпех або радасьць іншага.

Аляўціна Сямёнаўна была з тых, хто адгукаўся неадкладна. Ледзьве пасьпявала зьявіцца інтэрвію, надрукавацца новае апавяданьне ці прыйсьці навіна пра выхад новае кнігі, як у тэлефоннай слухаўцы я ўжо чуў яе цёплы, з ноткамі амаль матчынага клопату голас: ня толькі віншаваньне, але і пытаньне пра здароўе, неадменнае пажаданьне моцы на наступную кнігу і абавязковае зычэньне — дажыць. Працяг я цудоўна ведаў.

## Аляўціна Вячорка

Яна нарадзілася ў тых мясьцінах расейскай глыбінкі, куды быў высланы ўдзельнік нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863 году дзісенскі шляхціч Стэфан Грынеўскі і дзе прыйшоў на сьвет ягоны сын, які стаў знакамітым Аляксандрам Грынам.

Але ў восем гадоў Аляўціна апынулася зь сям'ёю ў беларускім Пінску, што і стаўся яе малой радзімаю. Вялікаю ж і адзінай радзімаю стала Беларусь.

Пасьля Берасьцейскага пэдагагічнага інстытуту яна, з дыплёмам выкладчыцы беларускай і расейскай моваў і літаратураў, доўга працавала ў звычайных сярэдніх і вечаровых школах. Сын Вінцук памятае, як мама нярэдка брала яго, малога, з сабою на ўрокі ў «вячорку». У тыя часы Аляўціна блізка пазнаёмілася з каляжанкаю-філёлягіняй Марыяй Лукашук, таксама гераіняю гэтае кнігі. Сваё сяброўства яны захавалі на ўсё жыцьцё.

У Менску Аляўціна Вячорка здабыла аўтарытэт як высокаклясны літаратурны рэдактар. Сярод іншага яна рэдагавала папулярныя дзіцячыя кнігі, пераклады на беларускую мову твораў сусьветнай клясыкі, матэрыялы сэсіяў Вярхоўнага Савету. Да 2002 году



яна заставалася вядучай рэдактаркаю выдавецтва «Беларусь» і заўсёды гатовая была даць самую кваліфікаваную кансультацыю.

Добра ведалі Аляўціну Сямёнаўну ў Таварыстве беларускай мовы і ў Нацыянальнай бібліятэцы, у рэдакцыях незалежных газэт і часопісаў. Яна лічыла сваім абавязкам дапамагаць у падпісцы і распаўсюдзе сьвежых нумароў, самаахвярна цягала цяжкія пакеты з кнігамі ў бібліятэкі. І не адно ў бібліятэкі: напісаныя мною і аформленыя Зьмітром Герасімовічам і Паўлам Татарнікавым кнігі «Краіна Беларусь» і «Айчына» Вячорка падпісала ў аўтараў ці ня кожнаму сваяку.

Кнігі былі яе любоўю. Трэба было бачыць, як яна разгортвала старонкі, якія яшчэ пахлі друкарскаю фарбай.

Нягледзячы на паважны век, спадарыня Аляўціна заставалася заўзятай падарожніцай. Аднойчы мы доўга гаварылі пра князя Ўсяслава Чарадзея каля Сафійскага сабору ў Полацку і ў тое самае лета (думаю, зусім не выпадкова) сустрэліся ў віленскім касьцёле Сьвятога Міхала пры надмагільлі Льва Сапегі.

Я веру, што яе надмагільле таксама не зарасьце травой.

**Аляўціна Вячорка**
21.8.1936, в. Шубяны, цяпер Юр'янскі раён, Кіраўская вобл., Расея — 25.6.2022, Менск.
Пахаваная на менскіх Усходніх могілках.

## Алена Міхалюк

Пазнаёміцца з спадарыняй Лёляй — менавіта так называлі яе і сямейнікі, і сябры ды калегі, — мне выпала ў свой першы прыезд у Брытанію ў далёкім 1994-м. Удзень захоплена працаваў у лёнданскай Скарынаўскай бібліятэцы, а ўвечары выпраўляўся на гасьціны да суайчыньнікаў. Аднымі зь першых мяне запрасілі Міхалюкі.

Гаспадар тады старшыняваў у Згуртаваньні беларусаў Вялікай Брытаніі (ЗБВБ). За год перад тым мэдыкі мусілі адняць Янку абедзьве нагі і перасадзіць яго ў інвалідны вазок, што, зрэшты, не перашкодзіла Міхалюку прамаўляць на акадэміі ў гонар угодкаў БНР, наведваць царкву і заставацца дасьціпным суразмоўнікам. Падчас вячэры, перахапіўшы мой позірк, скіраваны на вытрыманы ў нацыянальным стылі інтэр’ер, ён запытаўся, ці не здаецца мне, што я ў родным Полацку.

Запомнілася з той сустрэчы і шчодрая на пачостку, прывабная, з прамяністымі вачыма гаспадыня. Пасьля Янкавай апэрацыі на Лёлю лёг вялізны цяжар, але яна несла яго ня толькі стаічна, але, я сказаў бы, і зь нейкім жыцьцесьцьвярджальным гумарам. Я ўжо ведаў, што Лёля пасьля Другой усясьветнай вайны трапіла ў лягер для перамешчаных асобаў у Ватэнштэце, вучылася там у беларускай гімназіі, была актыўнай скаўткай, а пераехаўшы ў Брытанію, нарадзіла сыноў Алеся, Віктара і Эдварда. Хлопцы вучыліся ў беларускай школе-інтэрнаце імя Сьвятога Кірылы Тураўскага, дзейнасьцю якой кіравала сама Лёля. Уадначас яна брала ўдзел у дзейнасьці Рады БНР і Ангельска-беларускага таварыства.

Другая сустрэча зь Міхалюкамі, праз год, была афарбаваная ў жалобныя барвы: я трапіў на пахаваньне спадара Янкі. Ён знайшоў вечны престанак на лёнданскіх могілках Сьвятога Панкрата, дзе ўжо спачывалі славутыя беларусы архімандрыт



Алена Міхалюк (крайняя справа) на сустрэчы з брытанскай прэм’ер-міністаркай Маргарэт Тэтчэр. 1984 г.

Леў Гарошка, айцец Язэп Германовіч (ён жа — паэт Вінцук Адважны) і грэка-каталіцкі біскуп Часлаў Сіповіч.

Спадарыня Лёля трымалася мужна і — я пашукаў і знайшоў патрэбнае слова — мудра. Яна яшчэ ня ведала, што празь некалькі гадоў яе абяруць на пасаду старшыні ЗБВБ, якую яна будзе бязьзьменна займаць больш за пятнаццаць гадоў.

Адзін зь лідэраў нашай дыяспары ў Брытаніі Васіль Еўдакімаў, што таксама пэўны час узначальваў ЗБВБ, згадваючы Лёлю Міхалюк пасьля яе сыходу ў іншасьвет, назваў яе «надзейным плячом», якое заўсёды адчувалі ўсе сябры беларускай супольнасьці. Нашыя суродзічы памятаюць і Лёлін прыродны востры розум, і яе цьвёрдасьць у прыняцьці няпростых рашэньняў, і гаспадарлівасьць у клопатах пра агульную беларускую маёмасьць. Прыяжджаючы ў Лёндан з Манчэстэру, дзе спадарыня Міхалюк жыла апошнія гады, яна часта брала ў рукі граблі ці іншыя прылады і да вечару завіхалася на зямлі «беларускай вёскі» ў раёне Фінчлі...

Ганаруся, што Лёля была маёй адданай чытачкаю.

**Алена (Лёля) Міхалюк (ад нараджэньня Марцінкевіч)**
15.5.1930, в. Лоскія, цяпер Шаркоўшчынскі раён — 16.10.2022, Манчэстэр, Вялікабрытанія.
Пахаваная на Паўднёвых могілках у Манчэстэры, Вялікабрытанія.

Ён быў маім блізкім суседам па вуліцы, якую — з маёй прапановы — таксама пагадзіўся называць імем ня клясыка марксізму, а — Маркеса.

На адным зь вечаровых шпацыраў спадар Міхась раптам запытаўся, ці ведаю я, што ён ня толькі беларус, але крыху і... якут. Я ня ведаў і палічыў гэта за дзіўнаваты жарт. Але дома, удакладніўшы для сябе зь Вікіпэдыяй жыцьцёвы шлях майго суразмоўцы, зразумеў, што мелася на ўвазе.

Бацькі ягоныя, Аляксандар і Кацярына, былі высланыя як кулакі ў Якутыю, дзе ў пасёлку з зусім не аўтэнтычнай назвай Ленінскі і прыйшоў на

# Міхась Тычына

сьвет Міхась. Калі яму было чатыры гады, сям'і пашчасьціла вярнуцца на бацькаву радзіму на Глушчыну. Каб ня гэта, беларускае літаратуразнаўства ня мела б сёньня аднаго з сваіх мэтраў зь бездакорнай рэпутацыяй.

Пасьля філялягічнага факультэту Берасьцейскага пэдагагічнага інстытуту, вядомага моцным беларусацэнтрычным выкладчыцкім складам, і настаўніцтва ў тых самых палескіх мясьцінах, дзе некалі ўпершыню пакаштаваў гэтага хлеба малады Якуб Колас, Міхась скончыў асьпірантуру пры Інстытуце літаратуры Акадэміі навук БССР і на некалькі дзесяцігодзьдзяў застаўся там навуковым супрацоўнікам. Інстытут ганарыўся такім набыткам: ужо праз няпоўныя тры гады ўчорашні асьпірант выдаў манаграфію «Кузьма Чорны: Эвалюцыя мастацкага мысьленьня», якая адразу зрабіла імя Тычыны вядомым у літаратурным сьвеце. Пагатоў малады дасьледнік і сам не бяз посьпеху спрабаваў сілы ў мастацкай творчасьці, што засьведчыла кніга прозы «Дажынкі» і хуткі прыём у Саюз пісьменьнікаў. Пазьней ён выдасьць адметную кнігу «Вяртаньне: Аповесьць пра Кузьму Чорнага».

Будучы стрыечным братам Алеся Адамовіча, Тычына шмат зрабіў для памнажэньня кола ягоных



чытачоў, пераклаўшы на беларускую мову цэлую бібліятэку літаратурных і літаратуразнаўчых працаў вядомага майстра, часам сьціпла нават не пазначаючы свайго ўдзелу ў публікацыі.

Выразная й цьвёрдая творчая і грамадзянская пазыцыя Міхася Тычыны (у Акадэіі навук ён меў рэпутацыю «эталёна сумленьня») зрабіла яго ў 1989 годзе адным зь сяброў-заснавальнікаў Беларускага ПЭН-цэнтру. Апрача ўсяго іншага наша арганізацыя ўдзячная спадару Міхасю за ягоныя шматлікія літаратуразнаўчыя экспэртызы, якія ў свой час выратавалі ад непрыемнасьцяў не аднаго літаратара, абвінавачанага ў прыдуманых грахах ці нават злачынствах.

Спадар Міхась быў сярод улюбёных выкладчыкаў у выхаванцаў Беларускага гуманітарнага ліцэю.

Па напісаных ім падручніках павінны вучыцца нашыя школьнікі і студэнты. У XXI стагодзьдзі будзе чытацца і перачытвацца ягоная кніга «Філязофія літаратуры. Беларускі варыянт».

**Міхась Тычына**
10.2.1943, пас. Ленінскі, Алданскі раён, Якутыя, Расея — 7.11.2022, Менск.
Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

Маё знаёмства зь Вітаўтам Кіпелем пачалося яшчэ ў 1970-я праз старую бацькаву радыёлу «Беларусь». Ён быў для мяне Вітаўтам Зубкоўскім, і рэальная сустрэча зь ім ды ягонымі калегамі, чые галасы прабіваліся праз глушылкі на хвалях Беларускай службы Радыё Свабода, уяўлялася мне гэткай самай верагоднай, як сустрэча з героямі фантастычных раманаў. Аднак, мы ўсе — па абодва бакі акіяну — недаацэньвалі дынамізму і зьменлівасьці сьвету, у якім жылі. Надышоў дзень, калі я ўбачыў волатаўскую постаць спадара Вітаўта, а вельмі хутка зразумеў, што і беларуская душа ў яго волатаўская.

# Вітаўт Кіпель



З пачатку 1990-х мы безьліч разоў бачыліся і ў Беларусі, і ў Амэрыцы. Рызыкну сказаць, што знаёмства перарасло ў сяброўства, калі яно магло існаваць паміж людзьмі з такой розьніцаю ў веку і жыцьцёвым досьведзе. Але ж мы зь ім і ягонай жонкаю Зорай, асобаю такога ж маштабу, аб’езьдзілі разам усю Беларусь.

Вітаўт умеў выдатна ўзбунтаваць у глыбінцы сонную пранафталіненую атмасфэру краязнаўчых музэяў. У Слуцку прачытаў супрацоўнікам натхнёную лекцыю, прысьвечаную Слуцкаму збройнаму чыну, пра які ў музэі не было ані згадкі. У Рэчыцы дасьціпна высьвятляў, ад каго ж бараніў іхні горад герой экспазыцыі Аляксандар Неўскі. У Мсьціславе патлумачыў, што на фрэсках у касьцёле кармэлітаў адлюстраванае ня штосьці «безотносительное», а вусьцішная разьня, учыненая там у 1654 годзе стральцамі маскоўскага ваяводы Трубяцкога.

І заўсёды ў яго замест абурэньня гучалі мяккая іронія і цёплы гумар, якія ніколі не дазвалялі такім сытуацыям ператварыцца ў канфлікт.

Асаблівая старонка маіх успамінаў пра спадара Вітаўта — выпускніка Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне, Лювэнскага ўнівэрсытэту ў Бэльгіі, старшыню Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку, сябра Прэзыдыюму Рады БНР — нашыя супольныя падарожжы ў Полацак. Ураджаньні ад наведваньняў гораду Ўсяслава Чарадзея, Эўфрасіньні і Скарыны ён падсумаваў у друку наступнымі словамі: «Полацак — пачатак нашай дзяржаўнасьці. Мы з Зорай — дзяржаўнікі, а значыць, мы і Палачане. Сьвята-Эўфрасіньнеўскі храм ёсьць нашым нацыянальным Араратам. Мы кленчылі перад нацыянальным алтаром. Была гэта свайго роду нацыянальная споведзь ды просьба мець энэргію на прышласьць». Гэтая энэргія жывіла Кіпеля цягам усяго доўгага і плённага зямнога шляху.

У дзень сыходу Кіпеля ў беларускую вечнасьць я перагортваў старонкі ягоных дарагіх мне як чытачу і патрэбных у працы як пісьменьніку кніг: манаграфіі «Беларусы ў ЗША» і мэмуарнага тому «Жыць і дзеіць».

Я ўяўляў, як ён у апошнія хвіліны жыцьця Зоры трымаў ейную ўжо бязважкую руку і сьпяваў каханай беларускія песьні.

Я згадваў зусім не аптымістычныя Вітаўтавы прадбачаньні што да лёсу Беларусі ў XXI стагодзьдзі. Але гэтыя развагі нязьменна скончваліся перакананымі словамі: «Што б ні здарылася, Беларусь — ужо незьнішчальная!»

**Вітаўт Кіпель**
30.5.1927, Менск — 3.12.2022, Пойнт Плэзант Біч, штат Нью-Джэрзі, ЗША.
Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку, штат Нью-Джэрзі.

Яна была добрай вядзьмаркай: вучыла мяне ня спаць, калі сядае сонца, і не любіцца зь дзеўкамі ў жыце і ў красках, бо колькі каласоў зломіш — столькі людзей ад голаду сканае, а колькі красак зьвяне — столькі дзетак на сьвет не народзіцца.

Яна таемна ахрысьціла нас зь сястрычкай Таняй, дзяцей пракурора і настаўніцы, у Копыскай царкве (той самай, дзе чамусьці не пахрысьцілі аднаго вядомага цяпер Сашу) і купіла нам крыжыкі, якія скрала, ад'яжджаючы па камсамольскай пуцёўцы на цаліну, нашая нянька.

## Аўгіньня Дзянісава

Бабуля казала, што няможна хлусіць, бо пачуе сьвяты Мікола з абразоў — і будзеш сікацца ўначы. А калі раённы начальнік, кватаруючы ў бабулінай хаце, загадаў гаспадыні зьняць «иконы», то пачуў рашучы, з намёкам адказ: «Яны ў цябе есьці ня просяць».

Бабуля Аўгіньня была мамінай мамай і ўдавой дзеда Максіма — «ворага народу», расстралянага ў 1933-м разам з братам Ціханам Дзянісавым у магілеўскіх кар'ерах за ўдзел у контрарэвалюцыйнай арганізацыі, хоць пра гэта я тады нічога ня ведаў. Яна, непісьменная, усё жыцьцё ставіла ў калгасных ведамасьцях крыжыкі, але мне здаецца, што я сустракаў на сваім шляху ня шмат людзей, адукаванейшых за яе.

Бабуля была маёй першай і найлепшаю настаўніцай беларускай мовы. і першай настаўніцай гісторыі.

Бабуля расказвала пра добрага пана з суседняе вёскі, у якога служыла ў маладосьці пакаёўкай і які меў вясёлае ці то прозьвішча, ці то мянушку — Брынка. І пра першых старшыняў тамтэйшага калгасу, якіх «па-вулічнаму» называлі Раўло і, перапрашаю, Галасрака. Яна апавядала пра партызанаў, што прыходзілі забіраць схаваную ў сене бабуліну і маміну зь сястрычкамі кароўку-карміцельку, але тая, усё разумеючы, стаіла дыханьне й ня выдала сябе.



Ад бабы Аўгіньні я атрымаў першы ўрок вальнадумства. Менавіта яна нарадзіла ў маёй душы здаровы скепсіс да таго, што ад відна да відна гучала тады з прыбітага на слупе каля яе хаты хрыпатага рэпрадуктара. «Дагонім, дагонім... — казала бабуля на бясконцае зьвяганьне пра неабходнасьць дагнаць і перагнаць Амэрыку. — Босым бегчы лягчэй. А як перагонім — голымі сракамі засьвецім».

Яна ўпершыню пазнаёміла мяне, сямігадовага, зь сьмерцю. Калі бабуліна сэрца спынілася, я пабег на поле па цётак. «Бабушка заснула? Бабушка заснула?» — перапытвалі яны, а я скрозь сьлёзы, але цьвёрда сказаў: «Не заснула, а памерла».

Таемную бабуліну сілу я адчуваю і цяпер. У любы момант магу выклікаць з памяці яе твар, голас, хаду, дотык сухой моцнай рукі, што выводзіла ўнука ў вялікі, дзівосны і страшны сьвет.

Безь яе не было б мяне — вандроўніка ў прасторы й часе. Безь яе не было б пісьменьніка Ўладзімера Арлова. А значыць — і гэтае кнігі.

**Аўгіньня Дзянісава**
1882, в. Капысіца, цяпер Шклоўскі раён —
1.6.1961, в. Капысіца.
Пахаваная ў в. Капысіца. Разам сымбалічна пахаваныя муж Максім і ягоны брат Ціхан.

# Паказьнік асобаў

**А**

**Б**

**В**

**Г**

**Д**

**Е**

**Ё**



**Ж**

**К**

**Л**

**Н**

**Р**

**Т**

**У**



**Ф**

**Ч**



**Ш**

**Я**

# Пра аўтара

Уладзімер Арлоў нарадзіўся ў Полацку ў год Зьмяі паводле ўсходняга календару й у год сьмерці Сталіна паводле календару савецкага. У дзяцінстве марыў стаць дзяўчынкай, потым — вадалазам, паталягаанатамам, журналістам, шпіёнам.



Фота Джона Кунстатэра

Вучыўся на гістарычным факультэце БДУ, якому ўдзячны не за атрыманыя веды зь беларускай мінуўшчыны, а за разуменьне таго, што якраз гэтых ведаў студэнтам там і не давалі.

Першыя творы надрукаваў у студэнцкіх самвыдавецкіх альманахах «Блакітны ліхтар» і «Мілавіца», пасьля чаго мусіў пазнаёміцца зь «літаратуразнаўцамі» ў цывільным.

Працаваў настаўнікам, журналістам, рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура», адкуль у 1997 годзе быў звольнены «за выпуск исторической и другой сомнительной литературы».

Дэбютны празаічны зборнік «Добры дзень, мая Шыпшына» выдаў у 1986-м, пасьля чаго выйшлі яшчэ больш за трыццаць кнігаў прозы, эсэістыкі й паэзіі, у тым ліку «Таямніцы полацкай гісторыі», «Адкуль наш род», «Ордэн Белай Мышы», «Час чумы», «Каханак яе вялікасьці», «Сланы Ганібала», «Адкусі галаву вароне», «Фаўна сноў», «Краіна Беларусь», «Айчына: маляўнічая гісторыя. Ад Рагнеды да Касьцюшкі», «Танцы над горадам», «Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань», «Паром празь Ля-Манш».

Ляўрэат некалькіх беларускіх і міжнародных прэміяў, сярод якіх «Эўрапейскі паэт свабоды» (Польшча, 2010), «Алека» (Балгарыя, 2016), імя Ежы Гедройца (Беларусь, 2018). Марыць, каб ягонае эсэ «Незалежнасьць — гэта...», напісанае ў 1990 годзе і перакладзенае на дваццаць пяць моваў, нарэшце страціла актуальнасьць.

## Summary

Names of Freedom — An anthology of 410 portraits of the heroes of Belarusian history, renowned as well as unheralded, from the leaders of 18th century uprisings against foreign domination to 21st century prisoners of conscience. This tome is a handy reference tool for historical novelists, film directors, city planners, doctoral candidates — and all those interested in regime change.

Uładzimier Arłoŭ is one of Belarus' most popular contemporary writers, whose oeuvre of some 30 volumes of prose and poetry has been translated into more than 25 languages. A teacher, journalist and editor, in 1997 Arłoŭ was fired as editor in the state-run "Mastackaja Litaratura" publishing house for "publishing works of historical and other dubious merit". He lives in Minsk.

"Liberty Library" is a repository of selected programs produced by Radio Liberty/Radio Free Europe's Belarus Service.